# ПРАДМОВА

У беларускай мове, як і ў іншых мовах, будаўнічым матэрыялам, «цаглінкамі» для сказаў служаць не толькі словы, але і фразеалагізмы — устойлівыя, узнаўляльныя, не менш як двухкампанентныя моўныя адзінкі, якія спалучаюцца са словамі свабоднага ўжывання і маюць цэласнае значэнне, не роўнае суме значэнняў фразеалагічных кампанентаў (калі іх разглядаць на ўзроўні слоў). Гэта, напрыклад, такія кароткія, але змястоўныя і трапныя выразы, як *ад яйка адліць, аршын з шапкаю, выйсці сухім з вады, гады ў рады, дзірка ад абаранка, за дзедам шведам, малоць не падсяваючы, сабакам сена касіць, следам за дзедам, смаловы дуб, як босаму разуцца.* Іх у нашай літаратурнай мове больш за шэсць тысяч.

Пісьменнікі, фалькларысты, лінгвісты слушна называюць фразеалагізмы самародкамі, самацветамі роднай мовы, залацінкамі народнай мудрасці. Каб залацінка гэта свяцілася ў пісьмовым тэксце, у вусным маўленні, яе трэба выкарыстоўваць умела і дарэчы.

Свядомае і асэнсаванае засваенне, а затым і ўжыванне шмат якіх фразеалагізмаў можа быць паспяховым толькі пры ўмове, калі носьбіт мовы ведае вытокі, гісторыю ўзнікнення гэтых выразаў, мае хоць бы элементарнае ўяўленне пра жыццё пэўных фразеалагізмаў у часе і прасторы. У досыць многіх з іх, як пісаў Б. А. Ларын, «усе словы вядомыя, а сэнс цэлага застаецца няясным»[1]. Так, частаўжывальны, асабліва ў апошняе дзесяцігоддзе, фразеалагізм *пятая калона* (калька з іспанскай мовы) абазначае ‘варожая агентура ўнутры краіны'. А каб зразумець, пры чым тут калона і чаму пятая, трэба ведаць этымалогію гэтага выразу. А бывае так, што сэнс фразеалагізма, напрыклад, *шуры-муры* (‘любоўныя справы, прыгоды’), прывычны, знаёмы, вядомы, а яго састаўныя часткі, неўжывальныя па-за фразеалагізмам, — незразумелыя, таямнічыя. А між тым гэты выраз склаўся ў выніку некаторага скажэння французскага свабоднага словазлучэння *cher amour* (чытаецца як «шэр амур»), дзе *cher* — ‘дарагі, мілы’, а *amour*— ‘любоў, каханне’ і ‘страсць, жарсць’.

Даволі многія фразеалагізмы могуць быць супрацьпастаўлены адпаведным свабодным, пераменным словазлучэнням, на аснове якіх яны ўзніклі і на фоне якіх ўспрымаюцца як разгорнутыя метафары. Супаставім, напрыклад: «Каровы стаяць сярод вуліцы, выцягнуўшы ўперад галовы, і сонна жуюць жвачку» (К. Цвірка) і «Ты мне жвачку не жуй, гавары канкрэтна» (А. Кудравец).

[1] Ларин Б. А. История русского языка и общее языкознание. М., 1977. С. 153.

Выдзелены ў папярэднім прыкладзе фразеалагізм абазначае ‘гаварыць нудна, аднастайна і бесталкова пра адно і тое ж’ і з’яўляецца выразам з жывой унутранай формай[2]. Матыў узнікнення гэтага фразеалагізма, як і многіх іншых, зразумелы і без этымалагічнага растлумачэння, хоць, па сутнасці, як слушна лічыць А. І. Малаткоў, «кожны фразеалагізм мае патрэбу ў гістарычна-этымалагічнай даведцы, у гістарычна-лінгвістычным вытлумачэнні свайго ўзнікнення і свайго мінулага»[3].

У дзвюх частках майго «Этымалагічнага слоўніка фразеалагізмаў» (Мн.: Нар. асвета, 1981; Ч.2, 1993) атрымалі гістарычна-этымалагічную даведку больш за 1300 фразеалагізмаў[4]. Пошукі этымалогій працягваліся. Цяпер у даведніку, што прапаноўваецца ўвазе чытача, аб’яднаны ранейшыя і новыя этымалогіі, раскрываецца паходжанне каля 1750 фразеалагізмаў сучаснай беларускай мовы. Вельмі многія слоўнікавыя артыкулы, асабліва ў выданні 1981 г., папраўлены, дапоўнены ці скарочаны.

Слоўнікавы артыкул гэтага даведніка ўключае: а) загаловачную частку; б) агульную характарыстыку фразеалагізма паводле паходжання; в) тлумачэнне сэнсу фразеалагізма; г) ілюстрацыйны матэрыял; д) этымалагічную даведку. У асобных, рэдкіх выпадках паслядоўнасць частак слоўнікавага артыкула не захоўваецца: гэтага вымагае спецыфіка этымалогіі фразеалагізма, паказ на сувязь паміж зыходным і сучасным яго значэннем, на развіццё фразеалагічнага значэння і г.д.

**Загаловачная частка.**

Фразеалагізм прыводзіцца ў сваім мінімальным саставе і найбольш тыповай форме. Калі фразеалагізм мае не свабодны, а фіксаваны парадак кампанентаў або найчасцей ужываецца не з прамым, а з адваротным парадкам кампанентаў, то гэта адлюстроўваецца ў загалоўку: *вадой не разальеш* каго, *жыўцом з’есці* каго, *на ваду брахаць.* Месца націску ў кампанентах загаловачнага фразеалагізма абазначаецца толькі ў асобных выпадках, калі неабходна папярэдзіць розначытанне: *а́рэдавы вякі, выкручваць сырыцу* з каго, *на грэчаскія кале́нды, на кругі свая, спусціўшы рукавы.* Фанетычныя, акцэнтна-фанетычныя, марфалагічныя, словаўтваральныя і лексічныя варыянты фразеалагізма ўключаюцца ў загаловак і даюцца ў круглых дужках:

**Іерыхонская (ерыхонская) труба.**

**Злавіць двух зайцаў (зайцоў).**

---

[2] Унутранай формай называюць вобраз, які ляжыць у аснове фразеалагізма, ці, паводле В. У. Вінаградава, вобразнае ўяўленне, якое спадарожнічае значэнню фразеалагічнай адзінкі.

[3] Молотков А. Н. Основы фразеологии русского языка. Л., 1977.

[4] Дарэчы, тыраж выданняў, нават па ранейшых мерках, даволі значны: 1-я частка — 37 000, 2-я — 15 000 экз.

**Каменьчык(-і) у агарод** *чый.*

**Танцаваць ад печы (ад печкі).**

**Вайна (бітва, змаганне) з ветракамі.**

У круглых дужках падаюцца і трывальныя формы дзеяслоўных фразеалагізмаў, а таксама тыя нешматлікія формы зменлівага кампанента, у якіх здольны ўжывацца пэўны выраз:

**Брацца (узяцца) у рожкі** *з кім.*

**Лавачка закрываецца (закрылася, закрыецца).**

**Як не свой (свая, сваё, свае).**

Калі дзеяслоўнаму фразеалагізму ўласціва лексічная варыянтнасць, а яго граматычна галоўны кампанент можа ўжывацца ў незакончаным і закончаным трыванні, то ў загалоўку адна група формаў і варыянтаў аддзяляецца ад другой групы кропкай з коскай:

**Выбываць (выбыць; выходзіць, выйсці) са строю.**

**Выводзіць (вывесці; спісваць, спісаць) у расход** *каго.*

Даволі многія фразеалагізмы не могуць ужывацца без абавязковага аб'ектнага акружэння («справа»). Іх значэнне рэалізуецца толькі ў строга акрэсленай канструкцыі. Гэта абавязковая лексіка-граматычная сувязь «справа» падаецца ў загалоўку слоўнікавага артыкула:

**Адальюцца слёзы** *каму чые.*

**Зуб за зуб зайшоў** *у каго, з кім.*

**Клюнуць на вудачку** *чыю, каго, чаго, якую.*

Некаторыя фразеалагізмы маюць валентна абмежаванае значэнне. Яно выяўляецца толькі ў спалучэнні фразеалагізма са строга акрэсленымі словамі. Напрыклад, выраз *куры не клююць* ('вельмі многа') уступае ў кантакт толькі са словам *грошай.* Пры такіх фразеалагізмах у загалоўку прыводзіцца іх абавязковае слоўнае акружэнне. Словы-суправаджальнікі, без якіх той ці іншы выраз не можа рэалізавацца ў маўленні, падаюцца ў адных выпадках перад фразеалагізмам, у другіх — пасля яго:

*Чакаць* **манны нябеснай**.

*Быць, заставацца і пад.* **за сямю пячаткамі.**

**Благім матам** *крычаць.*

**Да касцей** *прамокнуць, прамерзнуць.*

Сустракаюцца фразеалагізмы з падвойнай абавязковай спалучальнасцю — «злева» і «справа»:

*Станавіцца, стаць і пад.* **на роўную нагу** *з кім.*

*Як, што, чаго* **хоча (захоча) левая нага** *каго, чыя.*

Факультатыўная частка фразеалагізма бярэцца ў ломаныя дужкі:

**<Адны> скура ды косці засталіся** *на кім, у каго, ад каго.*

**Вушы вянуць** *<у каго, ад чаго>.*

Ва ўсіх неабходных выпадках выкарыстоўваюцца адсылкі да алфавітнага месца, дзе этымалагізуецца пэўны фразеалагізм, якому ўласцівы варыянтнасць або пачатковы факультатыўны кампанент і інш.:

**Бітва з ветракамі**. Гл. вайна (бітва, змаганне) з ветракамі.

**Агульная характарыстыка фразеалагізма паводле паходжання.**

Пасля фразеалагізма, вынесенага ў загаловак, ідзе яго кваліфікацыя паводле паходжання. Як вядома, фразеалагізмы ў гэтых адносінах падзяляюцца на чатыры групы: 1) спрадвечна беларускія, 2) запазычаныя, 3) калькі, 4) паўкалькі. Сярод выразаў першай групы ў сваю чаргу вылучаюцца агульнаславянскія фразеалагізмы (*біць у вочы, закрываць вочы каму, пераліваць з пустога ў парожняе*), усходнеславянскія (*ламаць коп 'і* з-за каго, за што, *легчы касцьмі*), уласна беларускія (*газеты чытаць, голаму за пазуху, з ветру вяроўкі віць*).

У слоўніку пры кваліфікацыі спрадвечна беларускіх фразеалагізмаў, апрача тэрмінаў «агульнаславянскі», «усходнеславянскі», «уласна беларускі», даволі часта сустракаюцца і такія, як «агульны для ўсходнеславянскіх моў» (*ад дошкі да дошкі, белыя мухі, выбіваць клін клінам*), «агульны для беларускай і рускай моў» *(абсевак у полі, вуха на вуха, на кудыкіну гару*), «агульны для беларускай і ўкраінскай моў» (*абы дзень да вечара, калі ласка, на ўсе застаўкі*), «агульны для беларускай і польскай моў» (*адправіцца да Абрама на піва, пры душы, як бабёр*), «агульны для беларускай, украінскай і польскай моў» (*грушы на вярбе, першы-лепшы, як свет светам*), «агульны для ўсходнеславянскіх і польскай моў» (*махнуць рукой на каго, на што, дах над галавой, кроў з малаком*), «агульны для ўсходнеславянскіх, польскай і чэшскай моў» (*мухі не пакрыўдзіць, сам не свой*). Зразумела, што гэта не зусім дакладная кваліфікацыя фразеалагізмаў: сярод іх могуць быць і ўласна беларускія, якія перайшлі ў іншыя мовы, і, наадварот, запазычаныя з рускай або ўкраінскай ці польскай моў. Дакладную характарыстыку ў генетычным плане гэтыя выразы, магчыма, атрымаюць толькі з шырокім вывучэннем славянскай фразеалогіі ў гістарычным плане, калі будуць складзены гістарычныя слоўнікі фразеалагізмаў славянскіх моў. На сённяшнім жа этапе развіцця гістарычнай фразеалогіі і фразеаграфіі выкарыстанне тэрмінаў тыпу «агульны для ўсходнеславянскіх моў» больш правамернае, чым неаргументаваная кваліфікацыя пэўнага выразу як «уласна беларускага» ці «ўласна рускага» і г. д. Паяснім гэта такім прыкладам.

У адной з этымалагічных прац фразеалагізм *даць дуба* вызначаны як «відаць, уласна рускі». Але, як засведчана ў слоўніках У. І. Даля і А. Г. Праабражэнскага, гэты выраз у XIX ст. быў вядомы толькі ў паўднёвых гаворках (тэрыторыя сучаснай Украіны). Адсюль больш верагодным было б лічыць яго не «ўласна рускім», а «агульным для ўсходнеславянскіх моў» ці «ўласна ўкраінскім». Або яшчэ прыклад. У той самай этымалагічнай працы выраз *очная ставка* (параўн.: бел. *вочная стаўка*, укр. *очна ставка,* балг. *очна ставка*) прызнаецца «ўласна рускім» як утварэнне ад старой юрыдычнай формулы «ставити с очей на очи»; у пацвярджэнне прыводзіцца адпаведны запіс 1606 г. — часоў цара Аляксея Міхайлавіча. Але аналагічны запіс, толькі зроблены на стагоддзе раней (1511 г.), можна знайсці ў грамаце вялікага князя літоўскага «баярам, мяшчанам і ўсёй зямлі Полацкай»: «поставити его очи на очи на явномъ суде хрестіянскомъ, и того, хто вадитъ, и того, на кого вадитъ».

Сярод запазычаных фразеалагізмаў ёсць запазычанні з царкоўнаславянскай (*вечная памяць каму, зуб за зуб, прытча ва языцах*), рускай (*баш на баш, без цара ў галаве, неба ў алмазах*), украінскай (*даць ляшча* каму, *збіваць з панталыку* каго, *як <дурань> з пісанай торбай*), польскай *(вастрыць зубы* на каго, на што, *відаць пана па халявах*).

Шмат якія выразы кваліфікуюцца ў слоўніку як фразеалагічныя калькі ці паўкалькі. Калькі — гэта своеасаблівыя копіі іншамоўных выразаў, у якіх кожны кампанент перакладзены на нашу мову сэнсавым адпаведнікам. Напрыклад, *як на іголках* — фразеалагічная калька з нямецкай мовы (*wie auf Nadeln*); яна ўзнікла ў выніку паслоўнага перакладу: *wie* — як, *auf* — на, *Nadeln* — іголках. Паўкалькамі называюць выразы, у якіх адны кампаненты перакладзеныя, а другія — запазычаныя. Так, фразеалагізм *рубікон перайсці* ўтварыўся з лацінскага *Rubiconer transeo*, у якім апошні кампанент перакладзены словам *перайсці*, а першы (у зыходным значэнні — назва ракі ў Старажытным Рыме) не патрабуе перакладу. Дарэчы, як паказваюць даследаванні апошніх дзесяцігоддзяў[5], у многіх літаратурных мовах на долю калек і паўкалек прыходзіцца да палавіны фразеалагічнага фонду.

Значная частка фразеалагізмаў, скалькаваных з адпаведных выразаў, якія пачалі сваё жыццё ў неславянскіх мовах, хутчэй за ўсё, трапіла да нас праз мову-пасрэдніцу — рускую ці польскую. Нярэдка яны лексічна супадаюць у рускай, польскай і беларускай мовах: руск. *ставить на карту,* польск. *stawić na kartę*, бел.

[5] Гл., напрыклад: Солодухо Э. М. Вопросы сопоставительного изучения заимствованной фразеологии. Изд-во Казанск. ун-та, 1977; Солодуб Ю. П. Русская фразеология как обьект сопоставительного структурнотипологического исследования. М., 1986.

*ставіць на карту*; руск. *почивать на лаврах*, польск. *spoczywać na laurach*, бел. *спачываць на лаўрах*. Гэтым ускладняецца вызначэнне, як прыйшоў у беларускую мову той ці іншы фразеалагізм. Таму пры сучасным стане вывучэння гістарычнай фразеалогіі можна вызначыць толькі далёкую[6], а не блізкую этымалогію скалькаваных фразеалагізмаў.

У беларускай фразеалогіі ёсць калькі з царкоўнаславянскай (*блуканне па пакутах, узнімаць сцяг* чаго, чый), з рускай (*абдымаць неабдымнае, як вавёрка ў коле*) моў. Пераважаюць, аднак, калькі з неславянскіх моў: французскай (*на вагу золата, называць рэчы сваімі імёнамі*), нямецкай (*іграць другую скрыпку, між молатам і кавадлам*), англійскай (*варыцца ў сваім саку, другое дыханне*), іспанскай (*браць быка за рогі, рыцар журботнага вобраза*), лацінскай (*за і супраць, ні жывы ні мёртвы*).

Паўкалькамі ў беларускай фразеалогіі з'яўляюцца многія выразы з рускай (*варона ў паўлінавых пёрах, дзям янава юшка, маг і чарадзей*) і французскай (*браць на абардаж* каго, што, *добры геній* чый, *цэнтр цяжару*) моў, а таксама асобныя фразеалагізмы з некаторых іншых моў: царкоўнаславянскай *(як зрэнку вока*), украінскай (*атрымліваць гарбуз*), польскай (*весці рэй*), нямецкай (*задаваць фефару* каму), англійскай (*апошні з магікан*), італьянскай (*ва ўнісон*), лацінскай (*уласнай персонай*).

**Тлумачэнне сэнсу фразеалагізма.**

Паколькі сучаснае значэнне амаль усіх фразеалагізмаў знаходзіцца ў пэўнай, цеснай ці аслабленай, сувязі з першапачатковым, этымалагічным, пры вытлумачэнні паходжання фразеалагізма ўзнікае неабходнасць падаваць у слоўнікавых артыкулах і яго сучасны сэнс, для якога адноўленая ўнутраная форма — зыходны пункт.

Фразеалагізм тлумачыцца шляхам разгорнутага апісання яго сэнсу. Пры гэтым формула тлумачэння залежыць ад катэгарыяльнага (найбольш абагульненага, часцінамоўнага) значэння фразеалагічнайадзінкі, ад яе прыналежнасці да пэўнага семантыка-граматычнага разраду — дзеяслоўнага, назоўнікавага, прыслоўнага і г. д. Так, дзеяслоўныя фразеалагізмы тлумачацца пры дапамозе дзеяслоўных словазлучэнняў, назоўнікавыя — пры дапамозе назоўнікавых словазлучэнняў і г. д. Калі дзеяслоўны фразеалагізм прыводзіцца ў загалоўку ў дзвюх трывальных формах граматычна галоўнага кампанента, то тлумачэнне даецца па першай форме (незакончанага трывання). Напрыклад, вынесены ў

[6] Карыстаемся тэрмінамі А. В. Калініна, які адносна гісторыі слова маляр піша, што яно ўвайшло ў рускую лексіку «з польскай мовы, але ў польскай мове яно з'явілася пад уплывам нямецкага Maler. Таму блізкая этымалогія гэтага слова — польская, далёкая — нямецкая» (Калинин А. В. Лексика русского языка. М., 1971. С. 79).

загаловак выраз браць (узяць) на буксір (каго) растлумачаны так: дапамагаць таму, хто адстае.

**Ілюстрацыйны матэрыял.**

Следам за тлумачальнай часткай слоўнікавага артыкула ідзе прыкладцытата з твораў беларускіх пісьменнікаў ці з перыёдыкі. Ілюстрацыйны матэрыял выступае дадатковым сродкам семантычнай інфармацыі аб фразеалагізме, садзейнічае асэнсаванню фразеалагічнага значэння, пацвярджае існаванне фразеалагізма ў літаратурнай мове. Калі фразеалагізм мае не адно, а два і больш значэнняў, то адпаведна павялічваецца колькасць ілюстрацый.

**Этымалагічная даведка.**

У ёй раскрываецца паходжанне фразеалагізма або выказваецца пэўнае меркаванне. Іншы раз супастаўляюцца розныя думкі пра паходжанне фразеалагізма.

Шляхі ўзнікнення фразеалагізмаў самыя разнастайныя. Можна вылучыць некалькі спосабаў фразеалагічнай дэрывацыі.

Асноўны з іх — фразеалагічна-сінтаксічны, г. зн. утварэнне фразеалагізмаў на базе сінтаксічных адзінак (свабодных словазлучэнняў і састаўных тэрмінаў) у выніку іх пераасэнсавання. Такім спосабам утварылася пераважная большасць фразеалагізмаў: *абразаць крылы* каму, у каго, *асінае гняздо, браць быка за рогі, гуляць у маўчанку, закасаўшы рукавы* і інш. Нямала фразеалагізмаў узнікла ў выніку метафарызацыі свабодных словазлучэнняў, звязаных з рознымі звычаямі, павер'ямі, легендамі, міфамі і г.д.: *адводзіць вочы* каму, *ад дошкі да дошкі, адстаўной казы барабаншчык, атрымліваць гарбуз, дарункі данайцаў, залаты дождж, калумбава яйцо, устаць з левай нагі* і інш. Метафарычнае пераасэнсаванне атрымалі шматлікія тэрміналагічныя словазлучэнні: *абсалютны нуль, выдаваць нагара, выходзіць на арбіту, заключны акорд, ставіць знак роўнасці, удзельная вага* і г.д. Фразеалагізмамі сталі многія крылатыя выразы: *выдраць лысаму валасы, кветкі з чужых палёў, свінтус грандыёзус, хварэць на пана* і інш. У выніку метафарызацыі склаліся многія фразеалагізмы, у аснове якіх нерэальны вобраз, напрыклад: *вароты пірагамі падпёрты* ў каго, *грушы на вярбе, з жабіны прыгаршчы, кату па пяту.*

Сустракаюцца выразы, якія з'явіліся вынікам метанімічнага пераносу, заснаванага на сумежнасці з'яў (гл., напрыклад, паходжанне фразеалагізмаў *вынесці ўперад нагамі* каго, *закрываць вочы* каму). Сюды ж адносіцца параўнальна немалая група фразеалагізмаў жэставага паходжання (унутраны стан чалавека называецца па знешнім выразніку гэтага стану): *і брывом не вядзе,*

*круціць носам, ламаць <сабе, свае> рукі, махнуць рукой* на каго, на што, *паціскаць плячамі, рабіць вялікія вочы, рваць на сабе валасы* і інш. Некаторыя фразеалагізмы ўзніклі шляхам сінекдахічнага пераносу (калі назва часткі ўжываецца ў значэнні цэлага): *да сівых валасоў, дах над галавой, з вуснаў у вусны, з руку рукі* і п д.

Другім, значна менш прадуктыўным з'яўляецца эліптычны спосаб, г. зн. утварэнне фразеалагізмаў у выніку скарачэння прыказак пераважна алегарычнага характару — устойлівых моўных адзінак са структурай сказа. У беларускай мове ёсць каля сотні фразеалагізмаў, якія паходзяць з прыказак, прычым узніклі неаднатыпна. Рознымі шляхамі ўтварыліся, напрыклад, выразы *адальюцца слёзы* каму чые, г*ром грымнуў, крывое кола, кусаць сабе локці, як нітка за іголкай* адпаведна з прыказак *Адальюцца воўку авечыя слёзы; Пакуль гром не грымне, мужык не перахрысціцца; Крывое кола на сябе гразь кідае; Блізка локаць, ды не ўкусіш; Куды іголка, туды і нітка.* Значэнне фразеалагізма, утворанага на аснове прыказкі, знаходзіцца ў семантычнай сувязі з агульным сэнсам прыказкі.

Трэці спосаб, таксама малапрадуктыўны, — фразеалагічна-лексічны. Сутнасць яго заключаецца ў тым, што фразеалагізм утвараецца на базе асобнага слова, у выніку «разгортвання слова ў фразеалагізм» (В. М. Макіенка). Так склаліся, напрыклад, такія выразы генетычна каламбурнага характару: *гад печаны, гарадзіць плот, дулю з макам, заводзіцца з паўабароту, малоць не падсяваючы, плесці лапці, цягнуць рызіну*. Гэтыя фразеалагізмы пры супастаўленні іх з адпаведнымі свабоднымі словазлучэннямі не ўспрымаюцца як метафарычныя ўтварэнні. Яны ўзніклі ў выніку аднгачасовай рэалізацыі двух значэнняў аднаго са слоў-кампанентаў і яго каламбурнага дапаўнення другім словам (гл. пра гэта больш падрабязна, напрыклад, у слоўнікавым артыкуле *варона загуменная*).

Сэнсаўтваральны кампанент маюць і такія фразеалагізмы, як *адзін канец, быць, трымацца, стаяць і пад. на роўнай назе* з кім, *чортава гібель* каго, чаго, *чорт лысы.*

Сярод выразаў, утвораных фразеалагічна-лексічным спосабам, можна асобна вылучыць невялікую групу фразеалагізмаў, у якіх «кожны кампанент паасобку семантычна суадносіцца (але не супадае!) з перыферыйнымі значэннямі аднайменных слоў свабоднага ўжывання»[7]. Гэта фразеалагізмы з аналітычным значэннем: *благім матам, браць верх, знаходзіць агульную мову* з кім, *падаць духам, падымаць голас, стаяць на сваім* і інш.

---

[7] Жуков В. П. Роль образности (метафоричности) в формировании целостного значения фразеологизма// Проблемы фразеологии и задачи ее изучения в высшей и средней школе. Вологда, 1967. С. 103.

Агульнае, што аб’ядноўвае фразеалагізмы, утвораныя любым з трох названых спосабаў,—гэта іх узнікненне на аснове адзінак іншых моўных узроўняў — словазлучэння, сказа, слова. Разам з тым у мове ёсць нямала выразаў, якія ўзніклі на базе ўнутраных фразеалагічных рэсурсаў, склаліся на аснове ўжо існуючых фразеалагічных адзінак. У такім разе можна і трэба асобна гаварыць пра ўнутрыфразеалагічную дэрывацьно і яе шматлікія разнастайныя працэсы ўтварэння новых фразеалагізмаў.

1. Мадэліраванне фразеалагізмаў, г. зн. стварэнне новых выразаў па гатовай мадэлі — на ўзор тых, якія ўжо ёсць у мове. Звычайна пры мадэліраванні выкарыстоўваецца структура фразеалагізма-папярэдніка і адзін яго кампанент, другі ж замяняецца іншым словам. Гл., напрыклад, пра ўзнікненне такім чынам наступных фразеалагізмаў: *ад а да я, біць у званы, звязваць канцы з канцамі, з другіх вуснаў, капціць свет, на ўсіх парах, ні а ні бэ, пад шафэ, пажынаць плады.*

2. Фразеалагічная кантамінацыя, або зліццё, аб’яднанне частак двух фразеалагізмаў. Так, кантамінаванае ўтварэнне куды вочы нясуць узнікла на аснове фразеалагізмаў-сінонімаў *куды вочы глядзяць* і *куды ногі нясуць.* Параўн. таксама: *браць у пераплёт* каго, *вісець паміж небам і зямлёй, залівацъ чарвяка, мераць на адзін капыл, сам-насам з сабой, цягнуць гізунты* з каго і інш.

3. Утварэнне назоўнікавых фразеалагізмаў на аснове дзеяслоўных як іх фрагментаў, што ўзнікаюць у выніку ўсячэння дзеяслоўнага кампанента. Дэрывацыйнай базай у такіх выпадках можа быць толькі не менш як трохкампанентны дзеяслоўны фразеалагізм. «Абломак» дзеяслоўнага выразу захоўвае «долю» семантыкі ўсяго фразеалагізма. Так, *пускаць чырвонага пеўня* мае значэнне ‘рабіць пажар, зламысна падпальваць што-н.’, а фрагмент гэтага выразу *чырвоны певень* абазначае ‘пажар’. Катэгарыяльнае значэнне прадметнасці і адпаведныя граматычныя ўласцівасці набылі шмат якія «абломкі» дзеяслоўных фразеалагізмаў: *агульная мова* ў каго з кім, *вострыя вуглы, камень за пазухай, каменьчыку агарод* чый, палкі ў кола, *пыл у вочы, ружовыя акуляры* і г.д.

4. Утварэнне ад выразаў дзеяслоўнага тыпу суадносных з імі назоўнікавых фразеалагізмаў. Новы выраз фарміруецца ў выніку ўтварэння аддзеяслоўнага кампанента-назоўніка ад граматычна галоўнага слова; пры неабходнасці замяняецца і склонавая форма залежнага слова-кампанента: *абіваць парогі — абіванне парогаў, перамываць костачкі — перамыванне костачак, сыходзіць са сцэны — сыход са сцэны.* Такія назоўнікавыя ўтварэнні адрозніваюцца ад суадносных дзеяслоўных выразаў семантыкай, катэгарыяльным значэннем, марфалагічнымі формамі,

сінтаксічнай роляй. Фразеалагічны фонд актыўна папаўняецца падобнымі назоўнікавымі выразамі: *ад'яда душы, вайна з ветракамі, выхад у свет* чаго, *гульня з агнём, закручванне гаек, таптанне на месцы* і інш.

5. Утварэнне на базе фразеалагізмаў дзеяслоўнага тыпу выразаў, структурна арганізаваных як двухсастаўны сказ. Так, на аснове *звязваць (звязаць) рукі* каму ‘пазбаўляць магчымасці свабодна дзейнічаць’ узнік фразеалагізм *рукі звязаны* ў каго ‘хто-н. пазбаўлены свабоды дзеянняў, магчымасці рабіць так, як хочацца’. Аналагічна ўтварыліся такія, напрыклад, выразы: *вочы вялікія зрабіліся* ў каго, *канцы з канцамі зводзяцца* ў каго, дзе, *мячы скрыжоўваюцца* дзе, *святло праліваецца* на што.

6. Утварэнне прыслоўных фразеалагізмаў на базе дзеяслоўных. Так, выразы *ні вока ні бока, пад сукном, з затоеным дыханнем, з разбітым сэрцам* сфарміраваліся на аснове дзеяслоўных фразеалагізмаў *не глядзець ні вока ні бока, ляжаць пад сукном, затаіць дыханне, разбіваць (разбіць) сэрца* каму, чыё.

Іншыя працэсы ўнутрыфразеалагічнай дэрывацыі непрадуктыўныя. Гл., напрыклад, як неаднатыпна ўтварыліся фразеалагізмы *без задняй думкі, без цара ў галаве, да белых мух, да глыбіні душы, лезці смалой у вочы* каму, да каго, *на вярбе грушы растуць* у каго, *язык дрэнна падвешаны* ў каго.

Калі фразеалагізм мае два значэнні, а то і больш, у слоўніку часта паказваецца, якое значэнне непасрэдна звязана з першаасновай і як складваліся іншыя значэнні.

У некаторых слоўнікавых артыкулах этымалагічная даведка адсутнічае, а этымалогія абмяжоўваецца паказчыкам, з якой мовы пэўны выраз скалькаваны.

Пры апісанні фразеалагізмаў выкарыстоўваюцца скарачэнні (гл. «Спіс скарачэнняў»).

Перш чым падаваць у алфавітным парадку слоўнікавыя артыкулы, ёсць неабходнасць асобна і больш падрабязна спыніцца на трох фразеалагізмах, этымалагізацыя якіх не ўкладваецца ў прынятую схему слоўнікавага артыкула.

1. Многія сучаснікі не ведаюць, што акадэмічны «Руска-беларускі слоўнік» (1953) укладаўся ў цяжкіх умовах ваеннага часу і ў першыя пасляваенныя гады і што ў яго складальнікаў і рэдактараў не было пад рукамі ні картатэкі, ні даведачнай літаратуры. А без шматтысячнай картатэкі з ілюстрацыйным матэрыялам як асновы любога слоўніка, перакладнога і тлумачальнага, цяжка пазбегнуць памылак. Напрыклад, рускі назоўнік *кожимит* (утварэнне ад «имитация кожи») пераклалі з парушэннем яго этымалагічнай матывацыі: *скураміт.* Фразеалагізму *в порядке вещей* у якасці адпаведніка даецца

свабоднае словазлучэнне «звычайная рэч». Згаданы слоўнік пасля перавыдаваўся шмат разоў, але ва ўсіх выданнях так і захавалася: «в порядке вещей — звычайная рэч».

А між тым *в порядке вещей* — гэта паводле свайго ўзнікнення не ўласна рускі фразеалагізм, а калька з французскай мовы: *c'est dans J'odre des choses* (літаральна «гэта ў парадку рэчаў»). Таму ў форме *ў парадку рэчаў* ён мае ўсе падставы на функцыянаванне і ў беларускай літаратурнай мове. Сведчаннем яго нарматыўнасці з'яўляецца маўленчая практыка аўтарытэтных аўтараў. Ён шырока выкарыстоўваецца ў нашым друку. Вось толькі тры прыклады з вялікага мноства: «Цяжар таго, што застаецца толькі тваім, да болю ясны позірк на самога сябе збоку, незадавальненне сабой наогул і апошняй работай у прыватнасці. Няўжо гэта — у парадку рэчаў, нармальна?» (Я. Брыль); «Жонка бегала па магазінах, варыла, мыла бялізну, нават машыну вадзіла. Ён [муж] лічыў, што гэта ў парадку рэчаў» (І. Навуменка); «Тут усё ў парадку рэчаў А зямля так пахне зямлёй!» (А. Вярцінскі).

Як бачым, і ў нашай мове, гэтак жа, як у французскай, рускай і некаторых іншых, фразеалагізм ужываецца як выказнік, часцей пры дзейніку-займенніку гэта, і абазначае 'звычайна, нармальна, натуральна'. Можна спадзявацца, што беларускія акадэмічныя слоўнікі ўключаць гэты выраз у фразеалагічны фонд мовы як неаспрэчны моўны факт.

2. У беларускай літаратурнай мове ёсць каля 300 фразеалагізмаў з нерэальным вобразам у іх аснове. Іх узнікненне — плён народнай фантазіі. Асобныя з іх склаліся і пад пяром пісьменнікаў. Напрыклад, К. Крапіва стварыў выраз *выдраць лысаму валоссе*, З. Бядуля — *рыцар ночы*, К. Чорны — *адмыкаць адамкнёныя дзверы.*

У аснову гэтых і падобных фразеалагізмаў пакладзены прыдуманыя, нерэальныя вобразы, вельмі многія з іх сэнсава алагічныя: *ваду ў ступе таўчы, грушы на вярбе, дзірка ад абаранка, сёрбаць лапцем боршч, голаму за пазуху, як босаму разуцца, сабакам сена касіць, сем пятніц на тыдні, ад яйца адліць, вароты пірагамі падпёрты* (у каго), *выходзіць сухім з вады, абуць сэрца ў лапці, смаловы дуб, бярозавая каша, цырк на дроце* і шэраг іншых залацінак народнай мудрасці.

Сюды можна было б аднесці і фразеалагізм *птушынае малако,* але гэта патрабуе некалькіх агаворак.

Па-першае, у адрозненне ад папярэдніх, ён інтэрнацыянальны, яго ўжываюць (з такой самай вобразнасцю, значэннем, стылістычнай афарбоўкай і аднолькавай ці пашыранай граматычнай структурай) не толькі славяне, але і грэкі, італьянцы, іспанцы, французы, літоўцы, татары, венгры, албанцы і шмат якія

іншыя народы. Выраз з’яўляецца калькай з грэчаскай мовы: *gala ornithon* (літаральна «малако птушынае»). Ён неаднаразова сустракаецца ў творах старажытных грэчаскіх паэтаў, якія, апяваючы прыродныя багацці вострава Самаса, пісалі, што там ёсць нават птушынае малако.

Па-другое, у беларускіх, рускіх, украінскіх і польскіх тлумачальных і фразеалагічных слоўніках выраз падаецца не як двухкампанентны, а ў пашыранай граматычнай структуры — *толькі (аднаго) птушынага малака няма (не хапае, бракуе)* у каго — і абазначае ‘усяго ўволю, удосталь’. Напрыклад: «Пра Казіміра Ляшчынскага гаварылі, што ў таго не хапае толькі птушынага малака» (М. Парахневіч). Праўда, як будзе далей паказана, на самай справе ў нашай мове выраз існуе і як назоўнікавы — у форме *птушынае малако.*

Па-трэцяе, можна меркаваць, што на ўзнікненне гэтага фразеалагізма паўплывалі не прыдуманыя, а рэальныя з’явы з жывёльнага і расліннага свету. Як вядома, шмат якія птушкі, напрыклад галубы ці пінгвіны, кормяць сваіх птушанят падобнай на малако тварожыстай масай, што выпрацоўваецца ў валляку бацькоў-птушак. Біёлагі называюць такую ежу птушыным малаком. І яшчэ: ва ўсіх батанічных даведніках адна з раслін мае назву птушкамлечнік (*ornithodalum*), вядомую ўжо старажытным рымлянам. Гэта — цыбулевая расліна з бязлістым сцяблом (кветкавай стрэлкай) і прыкаранёвым лісцем. Сокам гэтай расліны, якую ў народзе называюць птушыным малаком, ласуюцца птушкі. Такім чынам, птушкамлечнік можна лічыць першым значэннем фразеалагізма *птушынае малако.* Прыклад з рамана З. Бядулі «Язэп Крушынскі»: «— Не бойся, маленькая, — супакойвае Настачка. — На табе *птушынае малако*! — Настачка нагінаецца, адрывае траўку пад назваю „*птушынае малако*“. З сцяблінак мяккай расліны паказваецца густы, як малако, сок».

Найбольш вядомае ж і ўсім знаёмае значэнне гэтага фразеалагізма — ‘нешта неверагоднае, казачнае, яўна немагчымае (часцей пра яду)’: «У нас, бывае, разбэшчваюць спартсменаў з самых юных гадоў Ты толькі выступі добра, а мы табе і *птушынага малака* не пашкадуем. Рэкорды спартсменаў адыходзяць, а звычка да *птушынага малака* застаецца» (М. Замскі); «У рэстаранах гэтых, казалі, хіба толькі *птушынага малака* не падавалі» (І. Шамякін); «Сакратар [паслаў мяне] да вас. У нёго, кажэ, все е, і картопля, і, калі захочаце, *птушынае малако*»(А. Макаёнак); «Лідачка старалася ўсяк дагадзіць яму. Каб захацеў ён *птушынага малака,* то, здаецца дастала б» (Г. Далідовіч); «Чаго ж у нас бракаваць будзе? *Птушынага малака* хіба?» (І. Козел). Дарэчы, у англійскай мове прыметнікавы

кампанент фразеалагізма з гэтым значэннем іншы, канкрэтызаваны: *pideon's milk* (літаральна «галубінае малако»).

Птушыным малаком называюць яшчэ і вельмі смачны торт, а таксама цукеркі асобнага гатунку: «Няёмка спрачацца з прадстаўнікамі радыяцыйнай службы, бо няма ніякіх сумненняў, што яны добра ўяўляюць абстаноўку ў пацярпелых раёнах, калі іх не заманіш у забруджаныя мясціны нават *птушыным малаком* — дэфіцытам, які сапраўды вырабляецца з мясцовых прадуктаў у брагінскай кулінарыі» (А. Крыга); «Люда знайшла на вышках у саломе скрынку з-пад *„птушынага малака“*» (В. Бабкова).

3. Апошнім часам сталі даволі моднымі асобныя выразы і словы. Сустракаючы іх у друкаваных тэкстах ці чуючы ў вусным маўленні, не заўсёды лёгка дакапацца да іх сэнсу. Ды і многія з тых, хто іх ужывае, наўрад ці адкажуць, што абазначае той ці іншы выраз або слова. У свой час Леў Талстой, можа, і занадта сурова ставіўся да такіх выпадкаў: «Калі б я быў цар, то выдаў бы закон, што пісьменнік, які ўжыў слова, значэнне якога ён не можа растлумачыць, пазбаўляецца права пісаць і атрымлівае сто ўдараў розгаў».

Часцей парушаюць дакладнасць маўлення якраз не пісьменнікі, а людзі іншых прафесій. За апошнія два гады я выпісаў з газет, часопісаў, кніг больш як 30 прыкладаў з ужываннем фразеалагізма *па вялікім рахунку*. Немагчыма зразумець, што значыць гэты выраз, напрыклад, у такіх сказах: «Уся мая хітрасць, *па вялікім рахунку,* — у прастаце, у адмаўленні ад „цяжкавагавых“ тэхналогій навучання замежнай мове»; «Калі настаўнік сам для сабе не вызначыць цвёрдай грамадзянскай пазіцыі, мала верагодна, што выхаванцы яго стануць сапраўднымі патрыётамі Беларусі, ды і ўвогуле *па вялікім рахунку* людзьмі».

У беларускую мову гэты фразеалагізм прыйшоў як паўкалька з рускай мовы (по большому счету), дзе ён упершыню быў ужыты ў рамане В. Каверына «Здзяйсненне жаданняў» (1935), але стаў шырока выкарыстоўвацца ў газетных жанрах толькі ў 1960-х гадах — пасля 3-га выдання згаданага рамана масавым тыражом у 1959 г. У В. Каверына гэты выраз склаўся на базе іншага — *гамбургскі рахунак,* — папулярнага ў літаратараў 1920–1930-х гадоў, асабліва пасля таго, як у 1928 г. пад такой жа назвай выйшаў у свет зборнік крытычных артыкулаў літаратуразнаўца В. Шклоўскага. Сэнс гэтай назвы сам аўтар тлумачыць так: «Гамбургскі рахунак — надзвычай важкае паняцце. Усе барцы, калі боруцца, жульнічаюць і кладуцца на лапаткі па загадзе антрэпрэнёра. Раз у год у гамбургскім тракціры збіраюцца барцы. Яны боруцца пры зачыненых дзвярах і завешаных вокнах... Тут устанаўліваюцца сапраўдныя класы барцоў, — каб не

схалтурыцца». Зрэдку гэты выраз можна напаткаць і ў сённяшнім друку: «Сяброўства, знаёмствы, агульныя справы не мелі тады той улады, як сёння. *Рахунак* быў *гамбургскі* — мяркуйце самі...» (Г. Кісліцына). Сустрэўся і такі маўленчы гібрыд, як *па вялікім гамбургскім рахунку*: «У сэнсе патэнцыяльнай недапраяўленасці *па вялікім гамбургскім рахунку* — Барыс Пятровіч адзін з вельмі і вельмі нямногіх сярод трывала сфармаваных літаратараў» (В. Акудовіч).

Выраз *па вялікім рахунку*, як і яго папярэднік, напачатку меў адзінае акалічнасна-прыслоўнае значэнне ацэнкі чаго-небудзь з найбольшай патрабавальнасцю. Прыкладна такі ж сэнс гэтага фразеалагізма, а менавіта ‘сур’ёзна, прынцыпова, без скідак і ўступак’, захаваўся і сёння, не парываючы, такім чынам, першапачатковай, хоць і забытай ужо, этымалагічнай сувязі з першакрыніцай. Вось толькі некалькі прыкладаў: «Я абураны тым, што рэпрэсіўныя метады прымяняюцца супраць такога таленавітага вучонага... Аднойчы камусьці за гэта прыйдзецца адказваць *па вялікім рахунку*» (Н. Гілевіч); «Апошнімі гадамі часцяком успамінала цябе, асабліва калі хацела папракнуць мяне у нечым. І не па дробязях, а, як кажуць, *па вялікім рахунку*» (А. Петрашкевіч); «Хочацца большага? Але чаго? Паразумення? Поўнага? Відаць, так. Знешне яно нібыта і ёсць. А вось калі *па вялікім рахунку*, шмат чаго не хапае для ўзаемнага шчасця» (А. Крэйдзіч); «Уважліва прыгледзьцеся да сённяшняга мужыка: хто ён зараз, калі браць *па вялікім рахунку*?» (В. Гроднікаў).

Маюць пэўную сувязь з зыходным вобразам *гамбургскага рахунку* і два другія значэнні, якія развіліся ў фразеалагізме *па вялікім рахунку*. Адно з іх — ‘па-сапраўднаму, належным чынам, як і павінна быць’: «*Па вялікім рахунку* менавіта творчае парыванне, літаратурная дзейнасць мацуе духоўную і грамадскую актыўнасць» («Настаўн. газ.»); «Падзеі, што адбываюцца ў межах дзяржавы, *па вялікім рахунку* ёсць справа суверэннай дзяржавы» (С. Дзедзіч); «Ад кожнага з нас, дзе б хто ні працаваў, залежыць многае. А *па вялікім рахунку* — быць ці не быць Беларусі незалежнай, цывілізаванай, духоўна і матэрыяльна багатай дзяржавай» (С. Законнікаў); «А калі гаварыць *па вялікім рахунку*, Леанід Ігнацьевіч, ніякіх асабіста вашых комплексаў тут няма: вы ствараеце праекты, а мы іх ажыццяўляем» (Я. Кантылёў).

Яшчэ адно значэнне (трэцяе), якое можна выявіць на аснове маўленчай практыкі, — ‘фактычна, у адпаведнасці з рэальнасцю’: «Прайшло больш за сорак гадоў, а сітуацыя *па вялікім рахунку* тая ж. Хіба што сучасны чытач яшчэ больш зменшыўся і стаў зусім кароткім...» (Л. Галубовіч); «*Па вялікім рахунку* вышэйшай установе ўсё роўна, як ацэньваюцца веды вучняў у школе. Галоўнае, каб

гэтыя веды былі не ніжэй, чым на ўзроўні прымянення ў стандартнай сітуацыі» («Настаўн. газ.»); «Цяжка сёння з упэўненасцю казаць, што з гістарычных дакументаў магло быць вядома Купалу, а *па вялікім рахунку* інфармацыя тады была больш даступнай, чым нават сёння» (І. Жук); «Дарэмна аўтар манаграфіі канстатуе ў ранняга Я. Чыквіна „дакладны памер“, „выразнасць рытмічнага малюнка, рыфмоўкі“. Гэтага *па вялікім рахунку* проста няма ў першым зборніку, хоць крытыку вельмі хочацца згаданыя здабыткі знайсці» (А. Пяткевіч).

Пераважаюць, аднак, выпадкі, калі выраз *па вялікім рахунку* ўжываюць недарэчна, без пэўнай сэнсавай нагрузкі, ператвараюць яго ў штамп (накшталт славутага Зноскавага «межджу протчым» з «Тутэйшых» Янкі Купалы), робяць яго нейкім пабочным словазлучэннем і выдзяляюць ці аддзяляюць коскамі: «А што робіць аўтар са сваімі героямі? Ён проста іх забівае. Бо, *па вялікім рахунку*, не ведае, што з імі рабіць»; «*Па вялікім рахунку,* дзякуючы ім [педагогам], мы на пытанне: „Ці хочаце вярнуцца ў школу?“ — адказваем: „А я там сёння ўжо быў“»; «Інвестыцый — кот наплакаў. А без іх і ні туды і ні сюды. Іх, *па вялікім рахунку*, і не будзе пры цяперашняй уладзе»; «Наша акадэмічная падрыхтоўка становіцца бездапаможнай на амерыканскіх вуліцах, у інтэрнатах і кавярнях, дзе ёсць свае правілы зносінаў, свае словы, свая *па вялікім рахунку* мова».

Зразумела, што такія недакладнасці — не на карысць культуры маўлення пэўных аўтараў і самой беларускай мове ў цэлым.

## СПІС СКАРАЧЭННЯЎ

*агульнаслав.* — агульнаславянскі
*адз.* — адзіночны *англ.* — англійскі
*балг.* — балгарскі
*бел.* — беларускі
*він.* — вінавальны *гл.* — глядзі
*грэч.* — грэчаскі
*дыял.* — дыялектны *ж.* — жаночы *запазыч.* — запазычаны
*і пад.* — і падобнае
*іспан.* — іспанскі
*італ.* — італьянскі
л. — лік *лац.* — лацінскі
*м.* — мова *мн.* — множны *мужч.* — мужчынскі
*н.* — ніякі
— *н.* — небудзь *ням.* — нямецкі
*параун.* — параўнай *польск.* — польскі
*р.* — род *род.* — родны *руск.* — рускі
*серб. — харв.* — сербскахарвацкі
*скл.* — склон *ужыв.* — ужываецца *укр.* — украінскі
*устар.* — устарэлы *усходнесл.* — усходнеславянскі
*франц.* — французскі
*царк. — слав.* — царкоўнаславянскі
*чэшск.* — чэшскі

# А

**Абарваць тэлефон.** *Відаць, запазыч. з руск. м.* Часта, доўга званіць і размаўляць па тэлефоне. *На стале ляжала запіска: «Ты, канечне, забыў, што ў Васіля дзень нараджэння. Ён абарваў тэлефон...»* (М. Кацюшэнка. Урок маўчання).

Сэнсавым цэнтрам гэтага фразеалагізма з’яўляецца назоўнікавы кампанент, які выконвае сэнсаўтваральную функцыю і суадносіцца, але не супадае з адпаведным словам свабоднага ўжывання.

**Абводзіць (абкручваць) вакол (кругом) пальца** *каго. Агульны для ўсходнесл. і польск. м.* (*руск.* обводить вокруг пальца, *укр.* обводити (обкручивати, обертати) круг (кругом, навколо) пальця, *польск.* okręcić, owinąć wokoł palca). Спрытна, хітра ашукваць, падманваць каго-н. *Пакуль я падумаю, як абдурыць яе, дык яна мяне незлічона разоў вакол пальца абвядзе* (Г. Пашкоў. Палескія вандроўнікі). *Таго Міканора каморнік сорак разоў абкруціць вакол пальца!* (І. Мележ. Людзі на балоце).

Ёсць некалькі версій пра ўзнікненне гэтага выразу. Паводле адной з іх, ён паходзіць ад жульніцтва базарных ілюзіяністаў. Фокуснік браў у гледачоў які-небудзь прадмет і абводзіў ім вакол пальца, адцягваючы іхнюю ўвагу, а ў гэты час фокуснікавы хаўруснікі ачышчалі кішэні гледачоў.

**Абдымаць (абняць) неабдымнае**. *Калька з руск. м.* (объять необъятное). Ставіць нерэальную задачу вельмі шырокага ахопу чаго-н. — *Лепш, па-мойму, не абдымаць неабдымнае. Нам будзе дарага ўсё, напісанае табой, але каб нешта выйшла на людзі... — Галя паківала галавой* (Э. Ярашэвіч. Белыя Лугі).

З афарызмаў К. Пруткова, змешчаных у «Плёне роздуму» (1854, 1860): «Ніхто не абдыме неабдымнага», «Ці ёсць на свеце чалавек, які мог бы абняць неабдымнае?».

**Абедзвюма рукамі.** *Уласна бел.* Ужыв. са значэннямі ‘з вялікай ахвотай, жаданнем, радасцю (падтрымліваць каго-н.)’ і ‘вельмі моцна, з вялікай зацікаўленасцю (брацца за што-н.)’. *[Праменны: ] Будзе і ўмяне жонка... Цудоўная, чулая жанчына... Падтрымліваеш? [Язва]: Абедзвюма рукамі* (К. Крапіва. Мілы чалавек). *Усё тут на сярэднім узроўні, і таму не адразу здагадаешся, за што трэба ўзяцца абедзвюма рукамі, каб падняць калгас у гору* (У. Шахавец. Месца ў жыцці).

Узнік на аснове фразеалагізма *хапацца абедзвюма рукамі* за што (гл.) у выніку ўсячэння дзеяслоўнага кампанента.

Ужываючыся пры іншых дзеясловах-суправаджальніках, рэалізуе прыслоўнае значэнне.

**Муж аб'еўся груш**. *Уласна бел.* Незаконны, не афармлены юрыдычна або які знік, прапаў. *— Яна што? Замуж выйшла? — Якое там замуж... Муж аб 'еўся груш* (Л. Арабей. Іскры ў папялішчы).

Ужываецца толькі пры слове *муж* як іранічна-ацэначны, камічны, смехатлівы дадатак да гэтага назоўніка, з якім звязаны рыфмай як сродкам спайкі і зліцця абедзвюх частак у непадзельны і марфалагічна нязменны комплекс. Выкарыстоўваецца і з нарашчэннем і лопнуў: *«— У мяне муж ёсць... — Быў у цябе муж, ды аб'еўся груш і лопнуў, — зласліва пажартавала Агата»* (Р. Сабаленка).

**Абіванне парогаў**. *Агульны для ўсходнесл. м.* Настойлівы зварот з просьбамі да каго-н. *Відаць, снoўданне ды абіванне парогаў у пошуках лёгкага хлеба збіла яму [Івану] рогі* (А. Васілевіч. Шляхі-дарогі).

Назоўнікавы фразеалагізм, утвораны на аснове суадноснага дзеяслоўнага *абіваць парогі* чые, каму, каго, чаго (гл.).

**Абіваць (паабіваць) парогі** *чые, каму, каго, чаго. Агульны для ўсходнесл. м.* Настойліва хадзіць куды-н., просячы, дамагаючыся чаго-н. *Месяцамі калясіў Мікалай у пошуках заробку па пыльных дарогах чужога краю, абіваў парогі розных кантор* (В. Праскураў. Аповесць пра шчасце).

Утвораны шляхам пераасэнсавання свабоднага словазлучэння, якое абазначае 'частай хадой стоптваць парогі, шкодзіць іх паверхню'.

**Абкласці чырвонымі сцяжкамі** *каго.* Уласна бел. Стварыць крайне неспрыяльныя ўмовы для чыёй-н. жыццядзейнасці. *Атрымліваецца, што рэдактара газеты абклалі чырвонымі сцяжкамі* (Нар. воля. 7.05.2002).

Склаўся ў выніку пераасэнсавання свабоднага словазлучэння, звязанага з аблавай на ваўкоў. Параўн. у апавяданні В. Карамазава «Час ваўкоў»: «Ваўкі ішлі ўздоўж чырвоных, нібы плямы крыві на белым снезе, сцяжкоў, а мы з Петраком стаялі ў крузе, у загоне, і добра бачылі, як прыгожа яны ішлі. Нас шэрыя пачулі даўно, можа, як толькі мы тут з'явіліся, чулі, як абносілі іх лес сцяжкамі».

**Абкручваць вакол пальца** *каго. Гл.* абводзіць (абкручваць) вакол пальца *каго.*

**Абліванне граззю <*каго*>.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Несправядлівае абвінавачванне, незаслужанае зневажэнне. *Масей Сяднёў як мага старайся быць нейтральным да бакоў што*

*змагаліся між сабой, не займаўся паклёпніцтвам і абліваннем граззю свайго непрыяцеля* (ЛіМ. 3.09.1999).

Сфармаваўся ўнутрыфразеалагічным спосабам на базе суадноснага дзеяслоўнага выразу *абліваць граззю* (каго, што) і адрозніваецца ад яго семантыкай, катэгарыяльным значэннем прадметнасці, марфалагічнымі формамі і сінтаксічнай роляй.

**Аблудная авечка.** *Гл.* заблудная (блудная, аблудная) авечка.

**Абмазаць дзёгцем** *каго, што. Гл.* мазаць (абмазаць, вымазаць) дзёгцем *каго, што.*

**Абняць неабдымнае.** *Гл.* абдымаць (абняць) неабдымнае.

**Абое рабое.** *Агульны для бел. і ўкр.* (обое рябое) м. Адны не лепшыя за другіх, адзін не лепшы за другога. *Раздушыце інквізітараў — усё адно, папоў ці ксяндзоў. Абое рабое* (УКараткевіч. Каласы пад сярпом тваім).

Выраз з'яўляецца фрагментам рыфмаванага выслоўя *Абое рабое, паеў воўк абое,* у якім першапачаткова меліся на ўвазе, відаць, маладыя істоты. Форма *абое рабое* замест чаканага *абое рабыя* выклікана патрабаваннем рыфмы. Існаванне фразеалагізма ў сучасных бел. і ўкр. м. падтрымліваецца тым, што ў абедзвюх мовах паралельна з *абодва* (мужч. і н. р.) і *абедзве* (ж. р.) ёсць зборны лічэбнік *абое*, які звычайна ўжываецца, калі гаворыцца адначасова пра асоб і мужчынскага, і жаночага полу. Параўн. у руск. м.: *оба, обе.* У старабеларускай мове лічэбнік *абое* меў родавыя адрозненні: *обои* — мужч., *обоя* — ж., *обое* — н. роду.

**Абразаць (абрэзаць) крылы (крылле)** *каму, у каго. Калька з франц. м.* (couper les ailes á qn). Пазбаўляць магчымасцей дзейнічаць, ажыццяўляць што-н. *Ну, вядома, шляхта, у якой абразаюць крылы, не з намі, ды яна нам і не патрэбна* (Я. Нёманскі. Маці).

Склаўся шляхам пераасэнсавання свабоднага словазлучэння, якое ўжываецца ў дачыненні да птушак.

**Абрастаць (абрасці) мохам**. *Агульны для ўсходнесл.* (*руск.* обрасти мохом, *укр.* порости мохом) і *польск.* (mohem porosnąc) м. Ужыв. са значэннямі 'станавіцца багацейшым, разжывацца' і 'адставаць ад жыцця, духоўна апускацца'. *—Дык ты, напэўна, ужо даўно тут жывеш? — Не так даўно, а мохам крыху аброс* (І. Аношкін. Сустрэча). *Без таварыша… без блізкага чалавека цяжка робіцца жыць… Прыязджай, каб не абрасці мохам* (Ц. Гартны. Сокі цаліны).

Паходзіць з прыказкі *На адным месцы і камень мохам абрастае* і сваім першым значэннем знаходзіцца ў семантычнай сувязі з яе сэнсам 'жывучы на адным месцы, чалавек разжываецца, становіцца багацейшым'.

**Абрэзаць крылы** *каму, у каго. Гл.* абразаць (абрэзаць) крылы (крылле) *каму, у каго.*

**Абсалютны нуль.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Нікчэмны чалавек, зусім бескарысны ў якой-н. справе. *Хоць ён («дзеяч») асабіста для ўсіх нас уяўляў сабою абсалютны нуль, але ж з займаемага крэсла яму прагнулася даваць «каштоўныя ўказанні», і, хочаш не хочаш, кожны, калі ён выклікаў, павінен быў выслухоўваць яго саматужныя прамудрасці* (К. Кірэенка. Размова з Андрэем Макаёнкам).

Узнік у выніку пераасэнсавання адпаведнага састаўнога тэрміна. Ім абазначаецца самая нізкая магчымая тэмпература (-273,16 °С), пры якой спыняецца хаатычны цеплавы рух малекул у целе.

**Абсевак у полі.** *Агульны для бел. і руск. м.* Няварты чалавек, не такі, як усе, горшы за іншых. *Абсеўкам у полі жыла Агата ў сям 'і Сымона Карпача* (Я. Нёманскі. Тодар Базылёнак).

Склаўся на аснове адпаведнага свабоднага словазлучэння. *Абсевак* — незасеяная лапіна на ніве, прапушчанае пры сяўбе месца.

**Абтрэсці прах з ног** *чый, каго, чаго. Запазыч. з царк. — слав. м.* Канчаткова парваць з кім- ці чым-н. *Калі рваць, дык рваць рашуча... Абтрасём яго прах з нашых ног!* (П. Місько. Шчасця ключы).

У евангельскім тэксце (Лука, 9, 5) даецца парада: «Калі хто не прыме вас і не паслухае слоў вашых, то, выходзячы з дома ці горада таго, абтрасіце прах ад ног вашых». Тут словазлучэнне *абтрэсці прах ад ног* (са стараславянізмам *прах* у значэнні ‘пыл’) адначасова мае і прамы сэнс, бо звязваецца з былым, тагачасным звычаем: назаўсёды парываючы сувязь з кім-небудзь, сімвалічна абівалі пыл са сваіх ног, тупнуўшы некалькі разоў ля парога.

**Абуць у лапці** *каго. Гл.* у лапці абуць *каго.*

**Абы дзень да вечара.** *Агульны для бел. і ўкр.* (аби день до вечора) м. Ужыв. са значэннямі ‘як папала, нядбала, без ахвоты і старання (рабіць, працаваць і пад.)’ і ‘каму-н. абсалютна аднолькава, без розніцы, не мае значэння для каго-н.’. *Нядаўна і яна [Крышталевіч] пабывала ў гэтым калгасе і бачыла, як нехаця там калгаснікі працавалі — абы дзень да вечара (В. Якавенка. Сэрца — не камень). Гэта яму, Хамянку, абы дзень да вечара, яму і заробак ні ішоў ні ехаў, і так грошай у бацькі з маткаю хоць сцены ў хаце абклейвай* (М. Кусянкоў. Прыгода ля зімоўя).

Відаць, паходзіць са сказа *Абы дзень да вечара прайшоў*, дзеяслоўны кампанент якога адпаў. Параўн.: «Не шчыруе, не стараецца і цяпер асабліва ён на калгаснай ніве. Так, целюхаецца абы з ранку да вечара дзень прайшоў» (Б. Сачанка). Ф. М. Янкоўскі

мяркуе, што фразеалагізм утварыўся з прыказкі *Абы дзень да вечара, а там печ увечары*, якая бытуе ў гаворцы «на поўдні ад Глуска».

**Абы з рук.** *Уласна бел.* Вельмі нядбала, без ахвоты і старання (працаваць, рабіць і пад.). *Клаліся Дзюдзюновы стажкі і вазы не проста так сабе, не абы з рук* (Ф. Янкоўскі. Дзюдзюн).

Паводле паходжання гэта «абломак» фразеалагізма *абы з рук збыць*, які абазначае ‘каб толькі адкараскацца ад чаго-н.’; параўн.: «Кляновіч насупіўся і падумаў: „Яму абы з рук збыць. За зямлю, за яе ўрадлівасць ён не турбуецца“» (П. Пестрак).

**Абяцаная зямля.** *Пайкалька з царк. — слав. м.* (земля обетованная). Месца, куды хто-н. моцна імкнецца трапіць. *Славутая Запарожская Сеч... як абяцаная зямля вабіла да сябе непакорных людзей* (Я. Колас. Шаўчэнка і беларуская паэзія).

Выраз сустракаецца ў Бібліі (Пасланне апостала Паўла да яўрэяў, 11, 9), ім называецца Палесціна — «зямля добрая і прасторная, дзе цячэ малако і мёд», куды Бог, як і абяцаў Майсею, прывёў яўрэяў з Егіпта, дзе яны доўга пакутавалі ў палоне.

**Абяцанка-цацанка.** *Агульны для бел. і польск.* (obiecanka cacanka) м. Ненадзейнае ці нездзяйсняльнае абяцанне. — *А пра зямлю, пра дзяленне — нічога? Дзяліць калі? — Перадзялілі ўжо! — Гаварылі, дурылі!.. Абяцанка-цацанка!..* (І. Мележ. Людзі на балоце).

Паходзіць з прыказкі *Абяцанка-цацанка, а дурню радасць.* Скарачэнне прыказкі адлюстроўвае адзін з жывых працэсаў і часткова вытлумачваецца стылістычным недагаворваннем, тактычным замоўчваннем. Параўн.: «— Я ж пісаў табе... і ў апошнім пісьме таксама. — Ці мала каму хто і пра што піша... Абяцанкі-цацанкі, а... — але яна не сказала „дурню“, падабрала замест гэтага слова непгга іншае, як ёй здавалася, бяскрыўднае, — а некаму радасць» (І. Чыгрынаў). Слова *цацанка*, неўжывальнае па-за прыказкай і фразеалагізмам, — суфіксальнае ўтварэнне ад назоўніка *цаца*, выкліканае патрабаваннем рыфмы з першым кампанентам.

**Аддзяляць, адлучаць авец ад козлішч.** *Запазыч. з царк. — слав. м.* Добрае ад дрэннага, карыснае ад шкоднага. *[Змітрук: ]Дараваць неўміручасць бюракрату, дармаеду, злодзею, бандыту — хіба вы дзеля іх здзяйснялі свой подзвіг? [Дабрыян: ] А хто будзе аддзяляць авец ад козлішч? [Змітрук: ] Няхай самі людзі назавуць вартых неўміручасці* (К. Крапіва. Брама неўміручасці).

Паходзіць з Евангелля (Матфей, 25, 31–33): «І збяруцца перад ім усе народы: і аддзеліць адных ад другіх, як пастыр аддзяляе авец ад козлішч».

**Авохці мне!** *Уласна бел.* Ужыв. як выказванне здзіўлення, задавальнення, спачування і інш. *Авохці мне! Што ж гэта будзе? Што ён да старога мае?* (Б. Вольскі. Цудоўная дудка). Уведзены ў літаратурную мову з беларускіх паўночна-ўсходніх гаворак аўтарам паэмы «Тарас на Парнасе»: «Авохці мне! Як там прыгожа!» У драматычных творах XVIII ст. (інтэрмедыях) выкарыстоўваліся варыянты выразу — *охці ме, ахці мне, ахці мне ж.* Параўн. у некаторых творах савецкага часу: «Вохці мне!.. Я ўжо і з ліку збіўся» (В. Каваль).

Сэнсаўтваральным цэнтрам фразеалагізма з'яўляецца першы кампанент, дакладней, яго частка — выклічнік *вох.* Другі слоўны элемент — займеннікавая форма *мне* — выступае як семантычна пусты кампанент у функцыі ўзмацняльнай часціцы (што нярэдка назіраецца ў гутарковым стылі, дзе *мне* можа ўжывацца для выражэння прыкрасці, злосці, пагрозы, асабістай зацікаўленасці; напрыклад, у паэме Я. Коласа «Новая зямля»: «Спыняе бацька грозна сына: — Але вучыцца мне без дуру, а не — як з гада спушчу скуру!»). Першы кампанент узнік лексіка-сінтаксічным спосабаму выніку аглюцінацыі, зрашчэння трох слоў у адно: узмацняльнай часціцы а, выклічніка вох і былога асабовага займенніка ў форме давальнага скл. адз. л. — *ці,* які, ужываючыся без націску, мог прымыкаць да папярэдняга слова (параўн. у руск. мове: *не ахти* — з *ах+ти*).

**Агарод (гарод) гарадзіць.** *Агульны для ўсходнесл.* (*руск.* огород городить, *укр.* город городити) *м.* Задумваць, распачынаць справу, з якой многа клопату. *Цяпер, калі за справу ўзяўся Рыгор і камсамольская ячэйка, не бачыць Грамабою гэтай зямлі. А калі так, дзеля чаго і агарод гарадзіць?* (К. Крапіва. Мядзведзічы).

Вобразна-пераноснае, іншасказальнае значэнне ў фразеалагізме ўзнікла, як мяркуе М. М. Шанскі, на аснове свабоднага словазлучэння *агарод гарадзіць,* дзе першае слова абазначала 'агароджа', другое — 'будаваць' і абодва паходзяць ад слова *горад.* Даўнейшае значэнне словазлучэння *агарод гарадзіць* — 'рабіць абароннае збудаванне з зямлі і бярвення'.

**Агнём і мячом.** *Калька з грэч. м.* З бязлітаснай лютасцю, гвалтоўна. *Агнём і мячом хочуць вынішчыць яны [фашысцкія захопнікі] усіх непакорных, устанавіць уладу палкі і штыка* (У. Дамашэвіч. Партызанская слава).

Першапачаткова ў старажытных грэчаскіх медыкаў выраз асацыіраваўся са сродкам залечвання, «знішчэння» ран выразаннем іх і прыпяканнем у адпаведнасці з формулай славутага Гіпакрата: «Чаго не можа вылечыць жалеза (меч, нож), тое вылечваецца агнём». Выраз пераасэнсаваўся і стаў абазначаць

‘бязлітасна, жорстка’, калі гаварылася пра знішчэнне ўжо не ран, а ўсяго жывога і нежывога на тэрыторыі праціўніка.

**Агульнае месца.** *Калька з франц. м.* (lieu cotmun). Збіты выраз, агульнавядомая, неарыгінальная думка. *Пералік «музычных» назваў, якія давалі сваім творам беларускія паэты (Багушэвіч, Цётка, Купала), стаў ужо агульным месцам нашага літаратуразнаўства* (Р. Бярозкін. Свет Купалы).

Склаўся ў франц. м. на аснове лац. састаўнога тэрміна *losi cotmunes* ‘агульныя мясціны’, якім абазначалі агульныя прынцыпы, палажэнні ў кнізе, дакуменце.

**Агульная мова <у каго, з кім>.** *Агульны для ўсходнесл. м.* (*руск.* общий язык, *укр.* спільна мова). Поўнае ўзаемаразуменне, поўная дамоўленасць у чым-н. *Аднаго разу Віталь цяжка абразіў сына, пры сябрах. Ведаеце, да гэтага часу памятае хлопец і не можа даравацъ. Няма ў іх агульнай мовы, яку сыноў з бацькамі* (Звязда. 12.03.1986).

Узнік на аснове фразеалагізма *знаходзіць агульную мову* з кім (гл.) у выніку ўсячэння дзеяслоўнага кампанента і набыцця катэгарыяльнага значэння прадметнасці.

**Ад Адама.** *Агульны дляўсходнесл. м.* Ужыв. са значэннямі ‘з даўніх часоў, здаўна’ і ‘здалёк’. *Бежанцы і голад на зямлі, ад Адама свет цяжэе страхамі* (Р. Барадулін. Хто?). *Пачаў ён здалёк, як кажуць, ад Адама, гаварыў вельмі агульнымі фразамі, устаўляючы шмат незразумелых слоў, глытаючы іх канцы* (К. Крапіва. Мядзведзічы).

Узнік на аснове біблейскага аповеду, паводле якога першым чалавекам на зямлі быў Адам.

**Ад а да я.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Ад пачатку да канца; цалкам. *Сяргей зла ваў на сябе, на начальства, нават на сваю работу, якую, здавалася яму, ён ведаў ад а да я* (А. Кажадуб. Высока сонейка, высока).

Утвораны па мадэлі з ужо існуючым, сэнсава тоесным выразам *ад альфы да амегі* (гл.) з запаўненнем структурнай схемы назвамі першай і апошняй літар беларускага і рускага алфавітаў (ва ўкр. алфавіце апошняя літара — ь).

**Ад альфы да амегі.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Ад пачатку да канца; цалкам. *Аднойчы, усумніўшыся ў нейкай дробнай ісціне, я пачаў правяраць, і аказалася: усё — ад альфы да амегі — трэба мне вырашаць нанава* (М. Танк. Шчаслівы дзень).

Склаўся на аснове фразеалагізма *альфа і амега* — запазыч. з царк. — слав. м., які ўзнік як спалучэнне назваў першай і апошняй літар грэч. алфавіта.

**Адальюцца слёзы** *каму, чые. Агульны для ўсходнесл. м.* Хто-н. паплаціцца за прычыненае каму-н. зло, крыўду. *Я знясла ўлю*

*цябе, рукі на сябе налажу. Паспрабуй тады пажыві… Адальюцца табе мае слёзы…* (У. Карпаў. За годам год).

Паходзіць з прыказкі *Адальюцца воўку авечыя слёзы.* Захоўвае адваротны парадак кампанентаў і тыя ж сінтаксічныя сувязі (кіраванне і дапасаванне), якія ўласцівы адпаведным словам у прыказцы.

**Адамаў яблык.** *Калька з ням. м.* (Adamsapfel). Другая назва кадыка ў мужчын. *Жандар… задраў галаву. Пазіраў на сцяг — шыя была доўгая. Не ў меру выпучан… яго «адамаў яблык»* (С. Баранавых. Калі ўзыходзіла сонца).

Паходжанне выразу звязваецца з павер'ем: калі біблейскі Адам стаў есці яблык, што дала яму Ева, сарваўшы, насуперак Богавай забароне, з дрэва пазнання дабра і зла, то кавалачак засеў у горле і назаўсёды ператварыўся ў выступ, які як кляймо грэху перадаецца ўсім мужчынам. Мяркуюць, што само павер'е з'явілася як домысел сярэдневяковых вучоных-медыкаў, якія памыліліся пры перакладзе выразу тапуах та адам з яўрэйскай мовы, дзе кадык, пры дакладным калькаванні, не адамаў яблык, а мужчынская шышка (адам у перакладзе з яўрэйскай абазначае 'мужчына', а тагтуах—'шышка, плод').

**Адбівацца (адбіцца) рукамі і нагамі** *ад чаго. Агульны для ўсходнесл. м.* Рашуча адмаўляцца ад чаго-н., усімі сіламі супраціўляцца чаму-н. *Здагадваюся, што Аляксандр Кандратавіч рукамі і нагамі адбіваецца ад паездкі са студэнтамі ў падшэфны калгас* (Я. Радкевіч. Сутокі дзён).

У аснове фразеалагізма — гіпербалізаваны вобраз.

**Адбіцца рукамі і нагамі** *ад чаго. Гл.* адбівацца (адбіцца) рукамі і нагамі *ад чаго.*

**Адбіць хлеб** *у каго. Гл.* хлеб адбіць *у каго.*

**Адваротны (другі) бок медаля.** *Паўкалька з франц. м.* (le revers de medaille). Супрацьлеглы, ценявы, непажаданы бок якой-н. справы. *Цяжкасці цяжкасцямі. Але ёсць другі бокмедаля… Засеяць травамі семсот гектараў… значыць, нейкім культурам месца не даць* (Э. Ярашэвіч. Белыя Лугі).

Узнік у выніку пераасэнсавання свабоднага словазлучэння. Маецца на ўвазе тое, што адваротны бок медаля звычайна апрацоўваецца чаканшчыкамі горш, чым знешні, вонкавы.

**Ад варот паварот.** *Агульны для бел. і руск. м.* Катэгарычная адмова. *І чаму рабіць толькі адзін хор і аркестр? А калі хто не можа спяваць ці іграць, тады што — ад варот паварот?* (П. Місько. Дзе Нёмана быстрыя воды…).

Першапачаткова гэты рыфмаваны выраз меў больш канкрэтны сэнс: выкарыстоўваўся толькі тады, калі гаворка ішла пра вынікі сватання і ў спалучэнні, напрыклад, з дзеясловам *даць*

абазначаў ‘адмовіць таму, хто сватаецца’. З такім значэннем ён зрэдку ўжываецца і цяпер: «Глядзелі-глядзелі бацькі нявесты на жаніха, дый далі сватам ад варот паварот» (Б. Сачанка).

**Адвейваць зерне ад паловы.** *Уласна бел.* Аддзяляць добрае ад дрэннага, карыснае ад шкоднага, непатрэбнага. *Калі яны [копіі лістоў] для Вас акажуцца непатрэбнымі, я тады, будучы ў Мінску, забяру назад. Але мне чамусьці здаецца, што Вы здолееце адвеяць зерне ад паловы* (У. Дубоўка. Ліст да Дз. Бугаёва).

Мадэліраваны выраз, створаны на ўзор рускага *отделять пшеницу от плевел* з захаваннем структуры і заменай кампанентаў іншымі словамі. У бел. літаратурнай м. выраз ужываецца ў абедзвюх трывальных формах дзеяслоўнага кампанента і ў такіх варыянтах: *адвейваць (веяць, адсейваць) зерне ад паловы (мякіны); адвеяць (адсеяць) зерне ад паловы (мякіны).* Выток фразеалагізма *отделять пшешіцу от плевел* — евангельская прытча (Матфей, 13, 24–30). У ёй расказваецца, як да чалавека, які пасеяў пшаніцу, ноччу прыйшоў вораг і паміж пшаніцаю пасеяў плевелы (пустазелле). Калі ўзышла пшаніца з пустазеллем, рабы прапанавалі гаспадару павырываць зелле, але ён загадаў пакінуць усё, як ёсць, а ў часе жніва спачатку вырваць зелле і спаліць яго, а пасля сабраць пшаніцу. Зрэдку ў бел. творах можна напаткаць і выраз, тоесны з рус.: «Будзе зручная часіна, перагледзім іх [пракламацыі] і тады аддзелім плевелы ад пшаніцы» (Я. Колас).

**Адвесці вочы** *каму. Гл.* адводзіць (адвесці) вочы *каму.*

**Адвод вачэй.** *Агульны для бел. і руск.* (отвод глаз) *м.* Маскіроўка, падман, наўмыснае адцягванне ўвагі ад чаго-н. *Прыпомніла [Стэпа], як пры спатканні з Рыгорам у яе хаце Пятрусь пільна распытваў пра Рыгу, пра жыццёў ёй. А мо яшчэ тады згаварыўся з Рыгорам над ’ехаць да яго [у Рыгу]. Пецярбург — проста адвод вачэй* (Ц. Гартны. Сокі цаліны).

Утвораны на аснове прыслоўнага фразеалагізма *для адводу вачэй* (гл.), набыў прадметнае значэнне і граматычныя ўласцівасці назоўнікавых выразаў.

**Адводзіць (адвесці) вочы** *каму. Агульны для ўсходнесл. м.* (*руск.* отводить глаза, *укр.* відводити очі). Хітруючы, адцягваць увагу ад чаго-н. *Вунь! З пятага вагона ідзе. І яшчэ адна... Іх сустракае нейкі хлопец... Незнаёмы... Бач... Каб вочы адвесці* (П. Галавач. Вінаваты).

Склаўся на аснове былога павер’я ў магічную сілу слова або пэўных дзеянняў, даступных ведзьмакам, знахарам, нібыта здольным знарок пераключыць чыю-небудзь увагу на што-небудзь іншае.

**Адгароджвацца (адгарадзіцца) кітайскай сцяной** *ад каго, ад чаго. Агульны для ўсходнесл. м.* Вельмі моцна, наглуха адасабляцца, адмяжоўвацца ад каго- ці чаго-н. *Мы сабе добра жывём вялікай сям'ёй і адгарадзіліся кітайскай сцяной ад усіх. Як у манастыры жывём* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі).

Гэты дзеяслоўны фразеалагізм склаўся на аснове назоўнікавага *кітайская сцяна* (гл.), які мае значэнне ‘неадольная перашкода і поўная ізаляванасць’ і ўзнік на базе тэрміналагічнага словазлучэння. Вялікая кітайская сцяна была не толькі сур'ёзнай перашкодай для ворагаў-вандроўнікаў з поўначы, але і сімвалізавала поўную ізаляванасць, адсутнасць зносін з суседзямі.

**Ад гаршка паўвяршка.** *Уласна бел.* Вельмі нізкі, малы ростам. *Не паспеу дагаварыць Якім, як Рыгорка ашчэрыўся, зафыркаў, вы зверыўшыся на Якіма. — Бач ты, ад гаршка паўвяршка, а ўжо вучыць... Вучоны!* (І. Дуброўскі. Скасаваны агрэх).

Утвораны на аснове руск. рыфмаванага фразеалагізма *от горшка два вершка* (параўн. ва ўкр. м.: *від горшка два вершка*). Вобразнасць фразеалагізма засноўваецца на літоце (знарочыстым прымяншэнні). *Вяршок* — даўнейшая мера даўжыні, роўная 4,4 см, якой карысталіся да ўвядзення метрычнай сістэмы.

**Аддаваць (аддаць) сэрца** *каму. Калька з франц. м.* (dоппег son coeur). Кахаць каго-н. *Канечне, на ліха табе хто, на ліха я! Лепшую знайшоў. Маладзейшая прываражыла. Ёй аддаў сэрца!* (Л. Калодзежны. Ішоў чалавек).

Сэнсаўтваральны кампанент сэрца тут выступае як сімвал любоўных пачуццяў.

**Адданне чэсці.** *Агульны для ўсходнесл. м.* (*руск.* отдание чести, *укр.* віддання честі). Вітанне каго-н. па-ваеннаму, з прыкладаннем рукі да галаўнога ўбору. *І заўважаецца адразу тут іншы край... парадак, дысцыпліна, лад, адданне чэсці...* (Я. Колас. На шляхах волі).

Назоўнікавы фразеалагізм, утвораны на аснове суадноснага дзеяслоўнага *аддаць чэсць* (каму).

**Аддаць богу душу.** Гл. богу душу аддаць.

**Аддаць канцы.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Ужыв. са значэннямі: 1) адвязаць канаты, трос або ланцуг, калі судна адыходзіць ад прычала ў плаванне, 2) уцячы, 3) памерці. — *Клыпу ўгору! — кажа боцман, свідрує пальцаму столь, а тады перакладае. — Падняць якар. Шпурняй вяроўкі! Аддаць канцы!* (Г. Пашкоў. Палескія вандроўнікі). *Будзьце здаровы, цётка Зося, я аддаю канцы* (М. Ваданосаў. Пераломнае лета). *Прымі сына. Канае мой Васька. Калі не выхадзіш — канцы аддасць* (В. Карамазаў. Пушча).

Выраз сваім першым значэннем прыйшоў у літаратурны ўжытак з прафесійнага маўлення маракоў, дзе замест афіцыйнага *аддаць швартовы* кажуць і *аддаць канцы* (*швартовы і канцы* — ‘канаты’). Другое значэнне (‘уцячы’) развілося на аснове першага (*адчаліць — пайсці — з’ехаць…*); параўн.: «Зрэшты, была і яшчэ важная прычына аддаць канцы, кажучы марской тэрміналогіяй, — нясцерпны сум па Каці» (А. Асіпенка). Трэцяе значэнне склалася не на аснове сэнсавай сувязі з марскім тэрмінам (яе няма), а ў выніку каламбурнага выкарыстання двух значэнняў слова *канцы,* падмены значэння ‘канаты’ значэннем ‘смерць’ (параўн., напрыклад, у Р. Мурашкі: От толькі не пусці, дык канцы табе будуць!). У гэтым пераасэнсаванні, відаць, адбілася традыцыйная ацэнка мора як пастаяннай небяспекі для жыцця: *Хто па моры не плаваў, той бяды не ведаў; Чакай гора з мора, бяды ад вады; Хараша мора — з берага.*

**Аддаць сэрца каму.** Гл. аддаваць (аддаць) сэрца *каму.*

**Ад дошкі да дошкі.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Ад пачатку да канца, нічога не прапускаючы (чытаць, прачытаць і пад.). *Жураўскі праглядаў толькі апошнія старонкі: спорт, фельетоны, здарэнні… Валовік і Сініцын чыталі ўсё, як кажуць, ад дошкі да дошкі* (М. Герчык. Вяртанне да сябе).

Утвораны метанімічным шляхам ад свабоднага словазлучэння, звязанага з даўнейшым спосабам пераплятання кніг: іх вокладкі рабіліся з дошак, абцягнутых скурай або тканінай. У «Зборніку беларускіх прыказак» І. І. Насовіча выраз фіксуецца ў форме *ад дошкі да дошкі, а ў сярэдзіне ні крошкі* і тлумачыцца як ‘насмешка з хлопчыкаў, якія хваляцца ўменнем чытаць’.

**Адзін бок медаля.** *Уласна бел.* Знешняя, відавочная частка якой-н. справы. *Прэміі, званні, ордэны, кнігі, слава! Гэта адзін бок, як кажуць, медаля. На другім жа — праца, барацьба* (Б. Сачанка. Не на той вуліцы).

Антанімічнае ўтварэнне на аснове фразеалагізма *адваротны (другі) бок мёдаля* (гл.).

**Адзін канец.** *Агульны для бел. і руск. м.* Ужыв. як выказванне роспачнай рашучасці са значэннем ‘няма выбару, кепскі зыход непазбежны’. *Там [у Картуз-Бярозе] ужо ўсё роўна не было чаго губляць чалавеку, хоць зракайся, хоць прызнавайся — усё роўна адзін канец* (М. Машара. І прыйдзе час…).

Сэнсаўтваральным тут выступае кампанент *канец,* які асацыіруецца са словамі пагібель, смерць.

**Ад зямлі не адрос.** *Уласна бел.* (параўн.: *руск.* от земли не видать, *укр.* від землі не видно, *чэшск.* u země ani vidět, *польск.* ledwie odrosl od ziemi). Вельмі нізкага росту, малы. — *А што, паночку, бачылі? — кінуў услед Даніку Палуян. — І шапкі скінуць*

*не хоча! Ад зямлі яшчэ не адрос, а ўжо, глядзіце, бальшавік!..* (Я. Брыль. Сірочы хлеб).

Узнік праз супастаўленне з раслінай, засноўваецца на літоце (знарочыстым прымяншэнні).

**Ад коркі да коркі.** *Запазыч. з руск. м.* Цалкам, поўнасцю, нічога не прапускаючы (чытаць, прачытаць, вывучыць і пад.). *Прачытаў ад коркі да коркі і зараз шкадую: чаму паспяшаўся* (М. Лужанін. Руплівай душы камуніст).

Узнікненне фразеалагізма звязана з даўнейшым спосабам пераплятання кніг: іх вокладкі рабіліся з дошак, абцягнутых скурай або тканінай. Таму першапачаткова прачытаць ад коркі да коркі абазначала ‘прачытаць ад вокладкі да вокладкі’.

**Адкрываць (адкрыць) Амерыку.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Ужыв. са значэннямі ‘знаходзіць, выяўляць што-н. зусім новае, невядомае’ і ‘гаварыць, аб’яўляць пра даўно ўсім вядомае’. *Не адкрыю Амерыку, калі скажу, што для нармальнага, гарманічнага развіцця школьніка патрабуецца мінімум пяць гадзін заняткаў фізічнай культурай у тыдзень* (Настаўн. Газ. 6.01.1988). *—Каб жа ты ведаў, колькі там нашага брата, працоўнага бедняка! — Безумоўна, больш і значна больш, як розных паноў і падпанкаў. Амерыку адкрыў. Думаеш, я не ведаю?* (М. Машара. Ішоў дваццаты год).

Утварыўся ў выніку метафарызацыі адпаведнага свабоднага словазлучэння, звязанага з адкрыццём Амерыкі (1492), што здзейсніў Хрыстафор Калумб, які, адправіўшыся ў пошуках прамога марскога шляху ў Індыю, прычаліў да берагоў невядомай тады Амерыкі. Другое, супрацьлеглае значэнне развілося ў фразеалагізме ў выніку іранічнага асэнсавання той жа з’явы (з падтэкстам «ужо даўно адкрытую»).

**Дзень (дні) адкрытых дзвярэй.** *Агульны для ўсходнесл. і польск.* (dzień otwartych drzwie) *м.* (Дзень, дні) вольнага доступу ў навучальную ўстанову ці на прадпрыемства (каб азнаёміцца з іх профілем). *Сталі традыцыйнымі дні адкрытых дзвярэй, калі бацькам паказваюць усё, пачынаючы з кухні і канчаючы пакоямі* (Настаўн. газ. 30.11.1984).

Утвораны на аснове фразеалагізмаў *адкрываць (адчыняць) дзверы* (каму, чаму куды) і *дзверы адкрыты (адчынены)* (каму, для каго, перад кім).

**Адкрыццё Амерыкі.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Вынаходніцтва, выяўленне чаго-н. новага. *А што тычыцца імперскай мовы, то і гэтае сцвярджэнне не адкрыццё Амерыкі Нобелеўскі лаўрэат І. Бродскі пісаў, што «мова — рэч імперская»* (А. Вальфсон. Нецярпімасць па-ялугінску).

Назоўнікавае ўтварэнне ад суадноснага дзеяслоўнага фразеалагізма *адкрыць Амерыку* (гл.), адно са значэнняў якога — ‘знаходзіць, выяўляць што-н. зусім новае’.

**Адкрыць Амерыку.** Гл. адкрываць (адкрыць) Амерыку.

**Адкрыць карты** *каму.* Гл. раскрыць (адкрыць) карты *каму.*

**Ад мала да вяліка.** *Паўкалька з царк. — слав. м.* (отъ мала до велика). Абсалютна (усе), без выключэння, незалежна ад узросту. *Усе ад мала да вяліка падзей чакалі ў Петрушах* (Я. Колас. Рыбакова хата).

З такім жа значэннем упершыню ўжыта ў Бібліі (Кніга прарока Іерэміі). *Мала, вяліка* — форма род. скл. адз. л. кароткага прыметніка.

**Ад малога да вялікага.** *Агульны для бел. і ўкр.* (від малого до великого) *м.* Абсалютна (усе), без выключэння, незалежна ад узросту. *Поп прыехаў у позняе снеданне, калі вёска ўся ад малога да вялікага сабралася да клуба* (Б. Сачанка. Вялікі Лес).

Утвораны на аснове фразеалагізма *ад мала да вяліка* (гл.) — паўкалькі з царк. — слав. м.

**Адмыкаць адамкнёныя (адчыненыя) дзверы.** *Уласна бел.* Настойліва даказваць, сцвярджаць тое, што даўно ўсім вядома і не выклікае пярэчанняў. *Не варта ламаць коп'і, адмыкаць адчыненыя дзверы ні абаронцам роднай мовы, ні яе праціўнікам — трэба і тым і другім часцей і ўважлівей чытаць класікаў…* (Б. Сачанка. Край, дзе жывём).

Выраз з рамана К. Чорнага «Сястра» (1927), утвораны, відаць, на ўзор сэнсава тоеснага фразеалагізма ламаццаў адчыненыя дзверы — калькі з франц. м. (ш.) — і ўжыты ў такім урыўку: «— А ты сам падумай, што гэта значыць. — Нашто думаць. Тут няма чаго і думаць — нашто адмыкаць адамкнёныя дзверы…».

**<Адна> скура ды косці.** *Калька з лац. м.* (pellis totus est). Вельмі худы, змарнелы. *«Андрэй здорава падупаў, адна скура ды косці, — адзначыў сабе Лукаш. — Цяжка яму на гэтай нішчымніцы. Голас ледзь адцягвае» (М. Лобан. Шэметы).*

Фразеалагізм з аналагічнай вобразнасцю, значэннем і граматычнай структурай ёсць у вельмі многіх мовах (славянскіх, франц., англ., ням., італ., румынскай, малдоўскай, нарвежскай, венгерскай і інш.). Відаць, ён пранік у гэтыя мовы як калька з камедыі «Гаршчок» рымскага камедыёграфа Плаўта (III–II ст. да н. э.).

**<Адна> шайка-лейка.** *Запазыч. з руск. м.* Група людзей, аб'яднаных агульнымі інтарэсамі ці паводзінамі, учынкамі. — *Ты скажы, дзе хаваецца твой Рыгор?.. — Я за Рыгорам не хаджу: дзе ён — я не ведаю. — Брэшаш! Вы адна шайка-лейка, — і бандыт перацягнуў Таццяну тоўстым гарапнікам* (Я. Нёманскі. Маці).

Кампанент *шайка* тут сэнсаўтваральны, ён суадносіцца з абодвума значэннямі слова *шайка* — ‘банда’ і ‘хеўра’, дарэчы, запазычанага з латышскай м.: *saika* — ‘шмат народу’. У руск. м. ёсць два амонімы: *шайка*[1] — ‘банда’, *шайка*[2] —‘ражка, пасудзіна для вады’ Фразеалагізм утвораны каламбурным шляхам, аб’яднаннем слова *шайка*[1] (‘банда, хеўра’) са словам *лейка* (‘чарпак для вады’), якое належыць да той жа семантычнай групы, што і слова *шайка*[2] (‘пасудзіна для вады’).

**Адным махам семярых забіяхам.** *Пайкалька з руск. м.* (одним (единым) махом семерых убивахом). Меркаваць пра каго- ці што-н. зусім аднолькава, не ўлічваючы індывідуальных асаблівасцей. *Нельга на адзін аршын мераць — «адным махам семярых забіяхам», — і ўсіх рэдактараў, якіяў большасці таксама пісьменнікі, ды і ўсіх пісьменнікаў…* (Б. Сачанка. Ведаць мінулае, заглядваць у будучыню).

Лічаць, што выраз склаўся пад уплывам спалучэння адным ударам семярых з казкі братоў Грым «Храбры кравец» (1814), дзе кравец адным махам забівае сем мух. Магчыма, выраз узнік у асяроддзі семінарыстаў, якія для рыфмоўкі скарысталі старажытную форму 1-й асобы мн. л. *забіяхам* (мы забіваем). Выраз фіксуецца ў беларускіх крыніцах, праўда, у крыху іншай форме: *адным махам сем сот душ забіяхам* (І. Насовіч); *адным махам сто забівахам* (М. Федароўскі); *адным махам сем мух забіяхам* (Ф. Янкоўскі).

**Адным мірам мазаны.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Вельмі падобныя адзін на аднаго ў якіх-н. адносінах, з аднолькавымі недахопамі. — *Адным мірам мазаны, — нібы ўгадаўшы Петрусёвы думкі, заўважыла бабка Саклюта, — што гультай, што лодар, тое самае і прагульшчык* (А. Кулакоўскі. Першы малюнак).

У складзе фразеалагізма ёсць цяпер ужо забытае царкоўнае слова *міра*, якое абазначала духмяны алей для хрысціянскага абраду памазання. У час хрышчэння, перад смерцю, пры каранацыі цароў і ў некаторых іншых выпадках рабілі крыжападобнае мазанне мірам.

**<Адны> скура ды косці засталіся** *на кім, у каго, ад каго. Агульны для ўсходнесл. м.* Хто-н. вельмі схуднеў. *Ніхто не пазнаваў яго — скура ды косці засталіся на хлопцы* (В. Праскураў. Зялёная рапсодыя).

Склаўся ў выніку пашырэння кампанентнага складу фразеалагізма *<адна> скура ды косці* (*Гл.*), атрымаўшы структуру двухсастаўнага сказа, іншую спалучальнасць са словамі кантэксту і адпаведна іншы сэнс.

**Ад печы (ад печкі).** *Агульны для ўсходнесл. м.* З самага простага, з самага пачатку (пачынаць рабіць што-н.). *[Навіцкі:]*

*Дзяніс Іванавіч, давайце не будзем забягаць наперад, а пачнём, як кажуць, ад печы. [Размысловіч: ] Разумею, Георгій Максімавіч… Можна і ад печы, так сказаць* (А. Петрашкевіч. Трывога).

Утвораны на аснове фразеалагізма *танцаваць ад печы (ад печкі)* (*Гл.*) у выніку ўсячэння дзеяслоўнага кампанента. Адарваўшыся ад кампанента танцавацьу выраз стаў спалучацца з іншымі дзеясловамі поўнага лексічнага значэння (найчасцей з дзеясловам пачынаць).

**Адплаціць той жа манетай** *каму. Гл.* плаціць (адплаціць) той жа манетай *каму.*

**Адправіцца (пайсці, паехаць) да Абрама на піва**. *Агульны для бел. і польск.* (pojechać do Abrahata na piwo) *м.* Памерці. — *Лёгка, Сцяпанавіч, выдумляць, калі я цудам не адправіўся да Абрама на піва. — Шчыгол пахмурна звёў бровы* (А. Масарэнка. Баргузікскае лета).

Узнік па мадэлі з ужо існуючым, сэнсава тоесным фразеалагізмам адправіцца на той свет. Абрам — біблейскі персанаж, якога пасля яго смерці Бог за пакорлівасць і адданасць узяў у нябеснае царства. Адправіцца да Абрама — першапачаткова ‘адправіцца на той свет, туды, дзе знаходзіцца Абрам’. А на піва — дасціпны жартоўны дадатак, які (паводле М. А. Даніловіча) каламбурна накладвае на імя біблейскага персанажа іншае, тоеснае, пашыранае ў мінулыя стагоддзі сярод яурэйскага насельніцтва Польшчы і Беларусі імя Абрам (як гаспадар карчмы, куды заходзілі і «на піва»).

**Адпраўляць (адправіць) у Магілёўскую губерню** *каго. Агульны для бел. і руск м.* Забіваць, знішчаць. Невядома, што чакае наперадзе. *Можа, шампалоў усыплюць, а могуць і расстраляць. Завядуць у цёмны двор, паставяць да сцяны і адправяць у Магілёўскую губерню* (Л. Дайнека. Запомні сябе маладым).

Утварыўся пад уплывам і на ўзор фразеалагізма *адправіць на той свет* (каго). Спалучэнне ў Магілёўскую губерню — каламбурнага характару: тут прыметнікавы кампанент выклікае асацыяцыю са словам *магіла (‘смерць, пагібель’).* Выраз мог узнікнуць пасля 1772 г., калі паводле ўказа Кацярыны II на ўсходнебеларускіх землях, далучаных да Расіі, была ўтворана Магілёўская губерня.

**Адпраўляць (адправіць) у штаб Духоніна каго.** *Устар. Запазыч. з руск. м.* Расстрэльваць. *[Следчы: ] Раскажыце, хто вас зацягнуў у гэтае балота? За гэта сурова караць вас не будуць, дадуць гады тры, і ўсё. А інакш вас могуць у штаб Духоніна адправіць. Зразумелі?* (П. Пруднікаў. Яжовыя рукавіцы).

Генерал Духонін узначальваў у 1917 г. Вярхоўнае Галоўнакамандаванне рускай арміі і 20 лістапада 1917 г. на магілёўскім вакзале стаў адной з першых ахвяраў бальшавіцкага тэрору. Выраз склаўся ў сувязі з гэтай падзеяй і быў асабліва ходавым у гады грамадзянскай вайны і пасля. Жахлівае забойства Духоніна паказана ў рамане М. Зарэцкага «Сцежкі-дарожкі».

**Адпускаць (адпусціць) гайкі**. *Уласна бел.* Паслабляць патрабаванні, рабіць іх менш строгімі. — *Горай, думаеш, не будзе? — Горай быць не можа, — сказаў граф. — Хаця б таму, што кожнае новае цараванне спачатку на некалькі год адпускае гайкі, зарабляе сабе добрае імя* (У. Караткевіч. Каласы пад сярпом тваім).

Антанімічнае ўтварэнне на аснове фразеалагізма *закручваць гайкі* каму (*Гл.*).

**Адпусціць лейцы.** *Гл.* папускаць (папусціць; адпускаць, адпусціць) лейцы.

**Адрабляць шарварку.** *Гл.* шарварку адрабляць.

**Ад рукі пісаць, маляваць і пад.** *Агульны для ўсходнесл. і польск.* (od ręki) *м.* Ручным спосабам. *Перад адыходам напісалі ад рукі ўсім салдатам ліст, у якім тлумачылі, чаму пакідаюць фронт, і звалі другіх зрабіць гэтаксама* (П. Галавач. Дзве сцежкі).

Лічаць, што выраз стаў ужывацца пасля таго, як быў вынайдзены друкарскі станок і пачалося кнігадрукаванне. Перш чым што-небудзь надрукаваць, пісалася ад рукі.

**Адрэзаная луста (скібка, кавалак).** *Агульны для ўсходнесл. м.* (*руск.* отрезанный ломоть, *укр.* відрізана скиба). Абазначае ‘чалавек, аддзелены ад сям’і’ і ‘чалавек, які парваў сувязь з чымсьці прывычным’. *У Кліма Пятручыка шасцёра дзяцей. Трое старэйшых — Іван, Алена і Каця — ад першае жонкі. Гэта ўжо адрэзаныя скібкі: у кожнага свая сям'я, свой клопат, па іх галава не баліць* (П. Місько. Ціхае лета). *Для яе не дачка — сыны аказаліся адрэзанымі кавалкамі* (І. Шамякін. Гандлярка і паэт).

Выток фразеалагізма — прыказка *Адрэзанае лусты не прылепіш,* якая першапачаткова ўжывалася, калі гаворка ішла пра аддадзеную замуж дачку.

**Адстаўной казы барабаншчык.** *Запазыч. з руск. м.* Чалавек, з якім не лічацца, які займае невысокае становішча. Што і казаць, сын — маладзец, а сам ён, Паўлюк Лапатка? Хто ён такі? Аніхто. Прышый кабыле хвост. Адстаўной казы барабаншчык… Саўгасны пенсіянер (М. Гіль. Пяць нарзанных ваннаў).

У аснове фразеалагізма ляжыць даўнейшы звычай. У кірмашовыя дні выводзілі напаказ «вучонага» мядзведзя, а таксама прыбранага «пад казу» хлопчыка-танцора. Іх суправаджаў барабаншчык, звычайна адстаўны салдат, які барабанным боем заклікаў гледачоў і прыцягваў іх увагу да асноўных «акцёраў»:

мядзведзя і «казы». Роля барабаншчыка ў гэтай працэсіі была самая сціплая і незайздросная. У руск. м. выраз склаўся на ўзор спалучэнняў тыпу *отставной гвардии поручик*, таму першы кампанент фразеалагізма дапасуецца не да другога, а да трэцяга (*отставной барабанщик*). У беларускую ж мову выраз перайшоў механічна і стаў ужывацца без уліку яго сапраўднага этымалагічнага вобраза (*адстаўной казы барабаншчык* замест *адстаўны казы барабаншчык*).

**Ад усяго сэрца.** *Калька з ням. м.* (von ganzem Herzen; параўн. у французаў: de tout mon coeur — «ад майго сэрца»; у палякаў: z całedo serca — «з усяго сэрца»). *З усёй шчырасцю. Хоць быў я яшчэ малы, але спачуваў рэвалюцыйным выступленням ад усяго сэрца* (М. Гарэцкі. Віленскія камунары).

Сэнсаўтваральным кампанентам фразеалагізма з'яўляецца слова *сэрца* як 'сімвал пачуццяў, чуласці, настрою чалавека'. У бел. м. займеннікавы кампанент *усяго* часта выступае як факультатыўны элемент «Ты мне, як сын бацьку, скажы, ад сэрца скажы, як рабіць» (П. Галавач).

**Адчуванне локця.** *Гл.* пачуццё (адчуванне) локця.

**Ад шчырага сэрца.** *Агульны для бел., укр.* (від щирого серця) *і польск.* (ze szczerego serca) *м. Вельмі шчыра, чыстасардэчна, адкрыта Я табе зычу гэтага ад шчырага сэрца...* (М. Зарэцкі. Вязьмо).

Утвораны на мадэлі *ад усяго сэрца, ад чыстага сэрца* з выкарыстаннем граматычнай структуры і двух кампанентаў (ад, сэрца).

**Ад'яда душы (сэрца).** *Уласна бел.* Назойлівы, надакучлівы чалавек. *Сціхні ты, ад'яда сэрца! І без цябе млосна* (В. Каваленка. Падвышанае неба).

Утвораны на аснове суадноснага дзеяслоўнага фразеалагізма *ад'ядаць душу (сэрца)* каму.

**Ад яйка (ад яйца) адліць.** *Уласна бел.* Неверагодна лоўка ўкрасці, прысвоіць нават тады, калі гэта здаецца немагчымым. *Ніхто ў сям'і не разумее, чаму спалохаўся Варывончык. Той Варывончык, пра якога гаварылі, што ад яйка адалье...* (М. Ермакоў. Жыўцы).

У аснове фразеалагізма — нерэальны вобраз.

**Пачынаць (пачаць) ад яйца.** *Калька з лац. м.* (ab ovo). З самага пачатку. *Я раскажу табе якую-небудзь займальную гісторыю... Напрыклад?.. Напрыклад, калі пачынаць ад яйца, паслухай, кім я марыў стаць у дзяцінстве* (У. Арлоў. Я марыў стаць шпіёнам).

*Ab ovo* — частка рымскай ідыёмы *ab ovo usque ad mala* са значэннем 'ад пачатку да канца'. Літаральны ж пераклад ідыёмы

— «ад яйца да фруктаў» (у Старажытным Рыме абед пачынаўся з яец і канчаўся фруктамі). Упершыню выраз *ab ovo* ў пераносным сэнсе выкарыстаў Гарацый (68 — 8 гг. да н. э.) у сваім славутым творы «Навука паэзіі» (Ars poetica).

**<Аж> у роце чорна ў каго.** *Агульны для бел. і ўкр.* (аж у роті чорно) *м.* Хто-н. вельмі злы, люты (пра чалавека). *—А сама ж яна [Алена Секачыха] — малатарня! — Злосная ўрэдзіна, аж у роце чорна, — удакладняе Цімох* (Я. Брыль. Ніжнія Байдуны).

Выток фразеалагізма — народная прымета: калі ў шчаняці паднябенне і верхняя частка языка чорныя, то будзе, як падрасце, злы сабака. Параўн. у апавяданні Л. Калюгі «Тахвілін швагер»: «Юстап… яшчэ ўзяў шчанюка на рукі, к лямпе паднёс, расшчапіў яму шчэлепні і прызнаў: — Чорна ў роце — ліхі будзе».

**Акунёў вудзіць (лавіць).** *Агульны для бел. і ўкр.* (окунів ловити) *м.* Драмаць седзячы. *—Як гэта? — падняўся з месца пасівелы старшыня прафкома, які да гэтага часу непрыкметна акунёў вудзіў. Нават цяпер ён пазяхаўу далонь* (В. Зайцаў. Персанальная справа).

Гэты фразеалагізм пры супастаўленні яго з адпаведным свабодным словазлучэннем не ўспрымаецца як жывая разгорнутая метафара, не выклікае суадносных уяўленняў аб рыбнай лоўлі. Таму, відаць, можна згадзіцца з меркаваннем В. М. Макіенкі, які лічыць, што этымалагічнай асновай фразеалагізма стаў дзеяслоў, блізкі гучаннем да слова *акунь*: укр. *куняти* (‘драмаць’) і з тым жа значэннем серб. — харв. *Куньати,* руск. дыял. *кунять.* Выраз сфарміраваўся шляхам каламбурнага расшчаплення гэтага дзеяслова і яго перараскладання ў фразеалагізм.

**Акунуцца з галавой** *у што. Агульны для ўсходнесл. м.* (*руск.* окунуться с головой, *укр.* заглибитися з головою). Поўнасцю прысвяціць сябе, аддацца чаму-н. Работа ў сельсавеце была цікавай. Я з галавой акунуўся ў новае для мяне, дарослае жыццё (У. Шахавец. Па сцежках памяці).

Утвораны шляхам метафарызацыі адпаведнага словазлучэння, якое абазначае ‘усім целам, з галавой апусціцца ў ваду’.

**Акцыі падаюць** *чые, каго. Паўкалька з франц. м.* (ses actions baissent). Чые-н. шансы на поспехі ці значэнне, уплыў каго-н. зніжаюцца. *Дайно не было сакрэту: калі Барушка ветлівы, фінціць, чакай добрага. Размінуўся, не заўважыў — значыць, акцыі твае падаюць* (У. Карпаў. Сотая маладосць).

Узнік у выніку метафарызацыі састаўнога тэрміна, звязанага з камерцыяй. Акцыя — цэнная папера, якая сведчыць аб удзеле яе ўладальніка ў акцыянерным таварыстве. Курс (цана) акцый падае, калі зніжаецца прыбытак прадпрыемства.

**Акцыі паднімаюцца (павышаюцца)** *чые, каго. Паўкалька з франц. м.* (ses actions montent). Чые-н. шансы на поспехі ці значэнне, уплыў каго-н. Узрастаюць. *—Ніколі нічыйго хлеба мы не елі, —закапыліў нос Ластоўскі. Яго акцыі паднімаліся* (І. Гурскі. Вецер веку).

Утвораны ў выніку метафарызацыі састаўнога тэрміна, звязанага з камерцыяй. Калі акцыянернае таварыства мае значныя поспехі, то курс (цана) яго акцый паднімаецца, павялічваецца попыт на гэтыя цэнныя паперы.

**Алах ведае.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Абазначае 'невядома', можа Ужывацца з кампанентам адзін. *Як ён там, небарака, выкручваецца — адзін алах ведае* (К. Губарэвіч. Брэсцкі мір).

Утварыўся на базе сінанімічнага яму выразу бог ведае. Алах — Імя Бога ў мусульман.

**Альма-матэр.** *Запазыч. з лац. м.* (alma mater, літаральна «карміцелька-маці»). Вышэйшая навучальная ўстанова (асабліва універсітэт). *Калі ж універсітэт зноў пачаў навучанне, сенат звярнуўся да студэнтаў палякаў з заклікам бараніць сваю альма матэр...* (ЛіМ. 16.07.1976).

Узнік у студэнцкім асяроддзі часоў сярэднявечча як вобразная назва універсітэта. Фразеалагізм ужыв. і з захаваннем лац. напісання: «У Кракаве памятаюць бурныя дыскусіі ў залах старой ягелонаўскай alma mater на пачатку трыццатых гадоў...» (Я. Брыль).

**Альфа і амега** *чаго. Запазыч. з царк. — слав. м.* Самае галоўнае, сутнасць чагосьці. *Уся сіла каўпакоўцаў, можна сказаць, альфа і амега іх стратэгіі і тактыкі, заключалася ў няспынным руху — усё наперад і наперад!* (У. Краўчанка. Апавяданне пра смелае сэрца).

Фразеалагізм неаднаразова сустракаецца ў біблейскіх тэкстах, напрыклад (Апакаліпсіс, 1.8): «Я есмь альфа і амега...». Узнік як спалучэнне назваў першай і апошняй літар грэч. алфавіта.

**Антонаў агонь.** *Недакладная кальказ франц. м.* (feu Saint-Antoine, літаральна «агонь святога Антона»). Гангрэна, заражэнне крыві. *Пакуль давезлі — быў у цябе ўжо антонаў агонь. Скура вакол раны стала плямамі* (У. Караткевіч. Каласы пад сярпом тваім).

У сярэдневяковай Заходняй Еўропе існавала павер'е, што вылечыць гэту хваробу можна мошчамі «святога Антонія» — хрысціянскага аскета Антонія Фіўскага (III–IV стст.), які, раздаўшы сваё багацце жабракам, пайшоў у Егіпецкую пустыню і жывіўся там травамі і карэннем. Знахары, спрабуючы «зняць антонаў агонь» з хворага, звычайна мелі пры сабе ікону Антонія.

**Апалосквáць (апаласкáць; паласкáць, папаласкáць) косці (костачкі)** *чые, каго. Уласна бел.* Ужыв. са значэннямі ‘займацца плёткамі, абгаворваць каго-н.’ і ‘асуджаць чые-н. недахопы’. *Людзі добрыя! Апалосквае чужыя косці ды яшчэ чаго вяжашся!* (К. Чорны. Зямля). *[У Рыгора] іншых думак поўна. Бадай што і цяпер вось, калі тутака паломчам яго костачкі, ён там дэманструе з бастуючымі рабочымі* (Ц. Гартны. Сокі цаліны).

Склаўся на аснове ўсходнесл. фразеалагізма *перамываць костачкі* (чые, каго, каму) (гл.), узнікненне якога звязана з абрадам паўторнага пахавання. Перамываючы костачкі нябожчыка, трэба было, як даўней лічылі, вызваліць грэшніка ад закляцця, калі ён не паспеў перад смерцю раскаяцца, бо такі грэшнік-нябожчык нібыта выходзіў у выглядзе вампіра ці пярэваратня з магілы і смактаў кроў з жывых.

**Апошні акт.** *Гл.* пяты (апошні) акт.

**Апошні з магікан.** *Пайкалька з англ. м.* (the last of the Mohicans). Прадстаўнік якога-н. тыпу, што знікае. *Мы тут — «апошнія з магікан»: усё яшчэ самі пячом хлеб. На лісці. Дубовым і кляновым* (І. Шамякін. Непрыгожая).

Выраз з аднайменнага рамана (1826) Ф. Купера. Магікане — вымерлае племя паўночнаамерыканскіх індзейцаў. У рамане расказваецца пра цяжкую долю апошняга прадстаўніка гэтага племя, вынішчанага еўрапейскімі каланізатарамі.

**Апошняя ў папа жонка.** *Уласна бел.* (у слоўніках іншых моў не фіксуецца). Ужыв. як рэакцыя суразмоўніка ка слова апошні. Не, не апошні. *—Занясі маю сукенку ў камісійны. Чорт яе бяры, нажывём пасля. — Тады ўжо лепш свой касцюм занясу… — Апошні свой? — Апошняя ў папа жонка. А чым благі на мне?* (В. Мыслівец. Задняпроўцы).

Досціп фразеалагізма ў тым, што ў папа сапраўды жонка заўсёды першая і апошняя: папу забаронена жаніцца другі раз. У зборніках І. Насовіча і Е. Раманава падаецца з некалькі звужаным тлумачэннем: ‘кажуць жартаўліва, калі хто гаворыць, што ў яго патрабуюць апошняй рэчы’, ‘суцяшэнне пры страце’.

**Апускаць галаву.** *Гл.* вешаць (апускаць) галаву.

**Араць дарогі(-у).** *Уласна бел.* Гаварыць ці рабіць якое-н. глупства. — *Тукі, тукі, гаспада, — асіпла перабівала яе такая ж нізенькая і кучаравая, што авечка, гандлярка. Ганчар перавёў здзіўлены позірк з адной на другую. — Іч, падлы, дарогу аруць!* (В. Коўтун. Крыж міласэрнасці).

Відаць, з прыказкі Каб свінні рогі, арала б дарогі.

**Архіпелаг ГУЛАГ.** *Запазыч. з руск. м.* Канцэнтрацыйныя лагеры ў перыяд сталінскага таталітарызму. Малады паэт атрымаў дзесяць гадоў зняволення, быў адпраўлены ў найжорсткую пашчу

архіпелага ГУЛАГа, адкуль змог выбавіцца толькі ў пяцідзесятых гадах, у час «хрушчоўскай адлігі» (А. Лойка. 3 лагерных вершаў).

Паходзіць ад назвы трохтомнай кнігі (1958–1979) А. Салжаніцына. У кнізе (яна мае падзагаловак «Спроба мастацкага даследавания») расказваецца пра турэмную і лагерную сістэму ў Савецкім Саюзе з 1918 па 1956 г., пра следства, суды, этапы, ссылку і «душэўныя змяненні за арыштанцкія гады». Аўтар размяжоўвае ў кнізе напісанні: «ГУЛАГ для абазначэння лагернай краіны, Архіпелага; ГУЛаг — для абазначэння Галоўнага ўпраўлення лагераў і яго апарата».

**Аршын з шапкай.** *Агульны для бел. і руск. м.* Вельмі малы, невысокі нізкарослы. *Ды які ж з яго мужчына?.. Аршын з шапкаю. Такога і варона панясла б, каб схапіла за каршэнь* (В. Адамчык. І скажа той, хто народзіцца).

Аршын даўнейшая мера даўжыні, роўная 71,12 см, якой карысталіся на Беларусі, у Расіі да ўвядзення метрычнай сістэмы. Кампанент *аршын* выступае як сэнсаўтваральны. Іншыя кампаненты *(з шапкай)* этымалагічна маюць дачыненне не да аршына, а да нізкарослага чалавека, які разам са сваёй шапкай прыраўноўваецца да аршына.

**Арыядніна ніць.** Крылаты выраз з грэч. міфалогіі. Сродак выйсці з цяжкага становішча. *Ада, Арыяда, Арыядна! Мне б цябе і любіць і сніць, толькі дзе, скажы, Арыядна, Арыядніна твая ніць?* (А. Вярцінскі. Арыядніна ніць).

Паходзіць з міфа пра афінскага героя Тэзея. Найважнейшым подзвігам Тэзея было знішчэнне Мінатаўра — пачвары з чалавечым тулавам і бычынай галавой. Гэтаму страшыдлу, які жыў у лабірынце, адкуль ніхто не мог знайсці выхаду, афіняне, паводле загаду крыцкага цара Мінаса, кожны год (другі варыянт: адзін раз у тры гады) ахвяравалі сем юнакоў і столькі ж дзяўчат. Дайшла чарга і да Тэзея. Але яму дапамагла Арыядна — дачка цара Мінаса, якая пакахала юнака і дала яму востры меч і клубок нітак. Прывязаўшы нітку ля ўваходу і размотваючы клубок, Тэзей дабраўся да Мінатаўра і, забіўшы яго, па нітцы знайшоў выйсце з заблытаных хадоў лабірынта, а таксама вывеў іншых асуджаных на з'ядзенне.

**Арэдавы вякі.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Вельмі доўга (жыць, пражыць). *Гэта во мая Мар'я Васільеўна. Пражылі мы з ёю арэдавы вякі, а дзяцей не займелі* (М. Лобан. Шэметы).

Паходзіць з біблейскага аповеду (Быццё, 5, 15) пра патрыярха Іарэда, які пражыў нібыта 962 гады.

**Асадзі назад!** *Уласна бел.* Прэч (як патрабаванне пазбавіцца ад каго- ці чаго-н.). *Цемра, мукі, гора, — асадзі назад!* (Н. Гілевіч. Асадзі назад).

Крылаты выраз з аднайменнага верша Я. Коласа. Выраз як рэфрэн паўтараецца ў вершы амаль ва ўсіх строфах:

Дрэнна маё жыццё,
Усё ідзе не ў лад.
І крычаць мне ўсюды:
«Асадзі назад!»

**Асёл маляваны.** *Уласна бел.* Тупы, неразумны чалавек. *Дурні! Аслы маляваныя! Пасядзець бы паболей з дзядзькам Піліпам, навучыцца б плесці з лазы «фірмовыя» кошыкі…* (Я. Рагін. Пра асла маляванага, босую яечню і неўтаймаваныя жаданні).

Паводле Ф. Янкоўскага, гэты фразеалагізм «ідзе ад вандроўных цыркаў, калі такога „ўдзельніка“ спектакля, як асёл, размалёўвалі, але гэта не змяняла характару, упартасці „цыркача“, асёл заставаўся аслом». Пры ўзнікненні гэтага выразу адбылася адначасовая каламбурная рэалізацыя двух слоўнікавых значэнняў назоўніка асёл: ‘жывёліна’ і ‘тупы, неразумны чалавек’.

**Асінае гняздо.** *Відаць, калька з англ.* (a wasps`nest) *ці ням.* (Wespennest) *м.* Прыстанішча, зборышча небяспечных, шкодных людзей. *Ліха ведае, што там, у Вялікім Лесе, робіцца… Складваецца ўражанне, што там нейкае асінае гняздо, цэлая банда…* (Б. Сачанка. Вялікі Лес).

Вобразнасць фразеалагізма звязана з такой прыметай, як агрэсіўнасць патрывожаных у гняздзе восаў. Параўн.: «Яны цяпер злыя, як гады, як восы тыя, калі іх кіем зачэпіш, разварушыш гняздоўе іхняе, асінае…» (М. Лынькоў).

**Асіна плача па кім.** *Уласна бел.* Хто-н. заслугоўвае павешання. — *Судзіць гадаў! — Які там суд? Асіна па іх даўно плача, — закрычаў Цярэшка* (С. Грахоўскі. Рудабельская рэспубліка). Ужыв. і з эпітэтам да назоўнікавага кампанента: Па табе і твайму сынку даўно сухая асіна плача (М. Лобан. На парозе будучыні).

Узнік па мадэлі фразеалагізмаў *вяроўка плача, пятля плача* (выкарыстана граматычная структура і дзеяслоўны кампанент). Асіна, а не яшчэ якое-небудзь дрэва выбрана, відаць, з той прычыны, што яна раней не ішла на апал, амаль не скарыстоўвалася як будаўнічы матэрыял і прыдатная была, на думку людзей, хіба толькі на шыбеніцы. Тым больш што яе ўжо калісьці апаганіў евангельскі здраднік Юда (гл. *трыццаць срэбранікаў*), які нібыта пасля раскаяння сам павесіўся на асінавым суку.

**Асядлаць Пегаса.** *Відаць, паўкалька з ням. м.* (den Pegasus satteln). Заняцца паэзіяй, стаць паэтам, пачаць пісаць вершы. *Асядлаў Пегаса з адзіным імкненнем — хутчэй перасесці на ўласны аўтамабіль* (ЛіМ. 23.05.1975).

Выток фразеалагізма — грэч. міфалогія. Пегасам у старажытных грэкаў называлі чарадзейнага крылатага каня, які сімвалізаваў паэтычную творчасць. Паводле міфа, музы так цудоўна спявалі аднойчы, што гара Гелікон, на якой яны жылі, пачала ад вялікага захаплення расці і паднялася была ўжо да неба. Тады Пегас ударыў капытом, вярнуў гару на ранейшае месца і высек цудадзейную крыніцу, якая стала крыніцай паэтычнага натхнення.

**Атрасаць рукі** *ад каго, ад чаго. Гл. атрэпваць (атрапаць; атрасаць, атрэсці) рукі* ад каго, ад чаго.

**Атрымліваць (атрымаць) гарбуз(-а).** *Пайкалька з укр. м.* (одержувати гарбуза). Абнеслаўляцца пры сватаўстве, не дабіўшыся згоды на шлюб. *Ну, а скажыце, ці не было ў вас ніякіх падазрэнняў наконт Вароны? Скажам так. Варона сватаецца да Яноўскай, атрымлівае гарбуза і пасля, каб адпомсціць, пачынае выкідваць жарцікі з дзікім паляваннем* (У. Караткевіч. Дзікае паляванне караля Стаха).

Узнік у выніку пераасэнсавання свабоднага словазлучэння. На Украіне быў звычай даваць маладому або свату гарбуз як знак нязгоды, калі дзяўчына ці яе бацькі непрыхільна ставіліся да сватання. Такі звычай быў і ў некаторых паўднёвых раёнах Беларусі. Гэта апісана ў аповесці А. Кажадуба «Высока сонейка, высока». Параўн. таксама ўрывак з апавядання У. Мяжэвіча «Жаніх з Чыкага» (дзеянне адбываецца «за Рэчыцай, на мяжы з Украінай»): «Пасля маёй гаворкі Ксеня пабегла на гарод, вынесла адтуль самы вялікі гарбуз і, як толькі паказаўся Бэйбл, — падкаціла, як футбольны мяч, да яго ног, а сама ўцякла. — Што гэта такое? — запытаў Бэйбл. — Па мясцоваму звычаю, — сказаў я Друйзу, — гэта канчатковая адмова жаніху… Цяпер ужо ніякай надзеі».

**Атрэпваць (атрапаць; атрасаць, атрэсці) рукі** *ад каго, ад чаго. Уласна бел.* Ужыв. са значэннямі ‘рашуча пазбаўляцца ад каго-, чаго-н.’ і ‘катэгарычна адмаўляцца ад каго-, чаго-н.’. *Зыдор Пніцкі, атрапаўшы рукі адусяго хатняга дробнага капеечнага клопату, зрабіўся нязменным спадарожнікам Адама Бародзіча і Курца* (К. Чорны. Ідзі, ідзі). *[.Гаспадыня: ] Ну што, возьмем падпаска? [Гаспадар: ] Ты сабе бяры, а я атрасаю рукі. Хутка самому ў пастухі наймацца прыйдзецца* (У. Галубок. Бязвінная кроў).

Утвораны ў выніку пераасэнсавання свабоднага словазлучэння, якое ўжываецца ў сувязі са звычкай атрасаць рукі па заканчэнні якой-н. пыльнай работы.

**Аўгіевы канюшні (стайні).** *Калька з грэч. м.* Абазначае ‘вельмі забруджанае памяшканне’ і ‘поўнае бязладдзе,

надзвычайная запушчанасць спраў у якой-н. арганізацыі’. *Калі чысціць аўгіевы стайні, дык чысціць пад мяцёлку!* (У. Гурскі. Вецер веку). *На фронце адбываецца рэвалюцыя. На фронце салдаты праводзяць карэнную чыстку вашых [эсэраўскіх] аўгіевых канюшняў* (Полымя. 1956. № 5).

Паводле міфа, у элідскага цара Аўгія былі вялізныя канюшні, якіх ніхто не прыбіраў трыццаць гадоў. Каб ачысціць іх, спатрэбілася сіла і розум міфічнага героя Геракла (Геркулеса). Ён зрабіў гэта за адзін дзень, перагарадзіўшы плацінай раку Алфей і пусціўшы ваду ў канюшні.

**А ўсё ж такі яна рухаецца!** *Калька з італ. м.* (Eppur si muove). Выклічнікавы выраз як вокліч цвёрдай упэўненасці ў слушнасці свайго выказвання. *Не будзе нам страшны гэты паганы над намі торг нашых нязваных і насланых апекуноў. Ужо цяпер мы можам смела сказаць ім: «А ўсё ж такі яна рухаецца!», г. зн. усё ж такі мы жывём і будзем жыць!* (Я. Купала. А ўсё ж такі мы жывём!..).

Выраз прыпісваецца італьянскаму вучонаму Г. Галілею (1564–1642), які на судзе інквізіцыі хоць і мусіў быў адрачыся ад вучэння Каперніка пра рух Зямлі, але нібыта, тупнуўшы нагою, усклікнуў, што ўсё ж яна рухаецца.

**Ахілесава пята.** *Калька з грэч. м.* Найбольш слабае, паражальнае месца. — *Семдзесят працэнтаў прамысловасці ў вобласці — на маіх плячах. Умей цаніць гэта! — папракнуў ён Сасноўскага, хоць той аб кіраўніцтве прамысловасцю сёння слова не сказаў. Але Ігнатовіч ведаў «ахілесаву пяту» сакратара абкома і бязлітасна стрэліў туды. Вось табе! За твой намёк пра маю няшчырасцьу сяброўстве* (І. Шамякін. Атланты і карыятыды).

Паводле міфа, марская багіня Фетыда, каб зрабіць свайго сына Ахілеса несмяротным, акунула малога ў свяшчэнную ваду падземнай ракі Стыкс. Цела Ахілеса стала пасля гэтага непаражальнае. Толькі пятка, за якую, апускаючы ў ваду, трымала маці сына, засталася адзіным неабароненым месцам. У час Траянскай вайны Ахілес праславіўся подзвігамі, апетымі ў паэме Гамера «Іліяда», але быў забіты царэвічам-траянцам Парысам, стралу якога нібыта бог Апалон накіраваў у пяту героя.

# Б

**Бабіна лета.** Агульнаслав. (толькі ў балг. м. існуе іншы адпаведнік: *сиромашко лято,* літаральна ‘беднае, няшчаснае лета’). У бел. м. ужыв. са значэннямі: 1) ранняя восень з яснымі цёплымі днямі, 2) серабрыстае павуцінне, якое плыве над зямлёй у дні бабінага лета, 3) астра новабельгійская, 4) час прыліву новых сіл, творчай энергіі або ўзнікненне кахання ў пажылыя гады. *Для Івана Майсеевіча восень, асабліва бабіна лета, — чаканы і радасны час, пара вялікай і мудрай раўнавагі* (Г. Пашкоў. За восеньскай Лошыцай). *«Бабіна лета» плыло даўжэзнымі пасмамі ў паветры, асядала на траву, чаплялася за дрэвы ды плыты* (Р. Мурашка. Сын). *Да самых маразоў пад вокнамі цвіце бабіна лета* (К. Чорны. Скіп’ёўскі лес). *У жыцці маім — бабіна лета, на душы маёй квецень вясны! Мабыць, сэрца такое паэта? Можа, гэта чароўныя сны?* (П. Пруднікаў. У жыцці маім — бабіна лета…).

Серабрыстае павуцінне, што бабіным летам плыве і плыве над зямлёй, падобнае на доўгія сівыя валасы старой жанчыны. Мяркуюць, што гэта падабенства і было падставай, каб назваць цёплыя (нібы зноў лета вярнулася!) асеннія дні бабіным летам. Ёсць і шэраг іншых версій пра ўзнікненне гэтага выразу ў яго першым значэнні. Другое значэнне развілося на аснове першага ў выніку метанімічнага пераносу. Вынікам метафарычнага пераносу, з актуалізацыяй патэнцыяльных сем (‘працяг ці вяртанне лета’), сталі трэцяе і чацвёртае значэнні: ‘астра новабельгійская’ (расліна, якая цвіце да глыбокай восені) і ‘час прыліву новых сіл, творчай энергіі’.

**Бабка надвое варажыла (гадала).** Усходнесл. Ужыв. са значэннямі ‘невядома, ці ўдасца ажыццявіць жаданае’ і ‘невядома, ці адпавядае сапраўднасці тое, пра што гавораць’. *Дык от: дабярэцеся вы [праз лінію фронту] ці не — бабка надвое гадала. А біць немца і тут можна* (П. Місько. Мора Герадота). *Тут, бачыш, на каго нарвешся… Ёсць сярод іх і разявы. Ёсць і ласыя да грошай. Ёсць і такія, што спачуваюць нам. У такіх выпадках кажуць: бабка надвое варажыла…* (Р. Няхай. Туман над стэпам).

Узнік як выказванне недаверлівых, іранічных адносін да варажбітак (бабак), якія спрабавалі ўгадаць чый-небудзь лёс, прадказаць надвор’е, ураджай і інш. Сустракаецца ў помніках старажытнай беларускай пісьменнасці — «Лістах Філона С. Кміты-Чарнабыльскага» (XVI ст.): «А теж і тогды тая бабка на двое ворожила. Был бы паном, был а не был. Ино от него Бог збавил».

**Байды біць.** *Агульны для бел. і ўкр.* (байди бити, байдики бити) *м.* Гультаяваць, марнаваць час, займацца нявартымі справамі. *Як снег сойдзе, то нам у полі араць трэба, няма дурных байды біць па тваіх курганах ды скарбы шукаць* (І. Чыгрынаў. Залатая рука).

І. І. Насовіч звязвае паходжанне фразеалагізма з адпаведным свабодным словазлучэннем, у якім слова *байды* — 'палі'. Аднак такая цяжкая праца, як забіванне паляў у зямлю, наўрад ці магла выклікаць у каго-небудзь асацыяцыю з гультайствам, марнатраўствам. Можна меркаваць, што выраз узнік на ўзор іншых: *біць брынды, біць тылылы* (ва ўкр. м.: *бити гандри, бити бурла*), у якіх дзеяслоўны кампанент семантычна пусты, дапаможны, а назоўнікавы выконвае сэнсаўтваральную ролю (дарэчы, ва ўкр. *м.* сінонімам фразеалагізма *байдики бити* выступае ўтвораны на аснове назоўнікавага кампанента дзеяслоў *байдикувати*). *Байда* — устарэлае слова са значэннем 'барка', роднаснае са словамі *байдак, байдара, байдарка.* Словам *байда* называлі рачныя судны на Дняпры і яго прытоках. Праца людзей на байдзе, нанятых на перыяд навігацыі, здавалася лёгкім заняткам, нявартай справай (асабліва так глядзелі на яе тыя, хто на гэты час заставаўся адзін на гаспадарцы).

**Баль у часе чумы.** *Паўкалька з руск. м.* (пир во время чумы). Вясёлае бестурботнае існаванне каго-н. у бядотную для іншых часіну. *Сыдуць прэч быццё быдлячае, дзікі бальу час чумы… І прачнуцца душы спячыя: «Божа, глянь! А гэта ж — мы!»* (С. Законнікаў. Так будзе).

Паходзіць ад назвы драматычных сцэн (1830) А. С. Пушкіна, сюжэтнай асновай для якіх паслужыла сцэна з паэмы англійскага паэта Дж. Вільсана «Чумны горад» (1816), дзе апісваецца лонданская чума 1665 г.

**Баранчык божы.** *Уласна бел.* Вобразна-метафарычная назва бакаса — балотнай птушкі з голасам, падобным да бляяння. *Алесь! ты чуеш, як рагоча ў беразняку баранчык божы?* (Я. Колас. Новая зямля).

Божым гэты баранчык названы таму, што ён падымаецца вельмі высока ў неба, залятае, жартам кажучы, ледзь не да самога Бога: «Баранчык божы ў паднябессі бляе маркотна над балотам» (Я. Колас).

**Бачыць наскрозь.** *Агульны для ўсходнесл. м.* (*руск.* видеть насквозь, *укр.* бачити наскрізь). Ужыв. са значэннямі: 1) каго; 'вельмі добра ведаць чые-н. думкі, намеры і пад.'; 2) што; 'глыбока разумець, ведаць што-н., пранікаць у сутнасць чаго-н.' *А ты перадамной не вылузвайся. Я цябе наскрозь бачу* (І. Чыгрынаў.

Плач перапёлкі). *Чужых цялят бярэш на пашу? Наскрозь я бачу службу вашу!* (Я. Колас. Новая зямля).

Выраз з агульным аналітычным значэннем. Абодва кампаненты сэнсава суадносяцца з вытворнымі значэннямі адпаведных слоў: кампанент *бачыць* — са значэннем ‘усведамляць, разумець, адчуваць’, кампанент *наскрозь* — са значэннем ‘поўнасцю, цалкам, зусім’.

**Бачыць на тры сажні (метры) пад зямлёй (у зямлю).** Відаць, *недакладная паўкалька з руск. м.* (видеть на три аршина в землю (под землей) ці з *польск.,* дзе з паметай «устарэлы» сустракаеццаў некаторых слоўніках (widzie na trzy sażnie pod ziemią). Вызначацца вялікай нраніклівасцю, празорлівасцю. Дзедка быў няпросты — на тры метры ў зямлю ўсё бачыў (В. Казько. Сад, альбо Заблытаны след рамана).

Вобраз, пакладзены ў аснову фразеалагізма, засноўваецца на гіпербале.

**Баш на баш.** *Запазыч. з руск. м.* Рэч за рэч, без даплаты (мяняць, абменьваць і пад.). *— Усё на дармаўшчыну хочаш, — дабрадушна ўсміхнуўся Павел Арцёмавіч. — Давай лепш баш на баш* (Я. Васілёнак. Першы сустрэчны).

Паходзіць з жаргону гандляроў жывёлай. *Баш* — з цюркскіх м.: bas ‘галава’. Літаральна: ‘галава за галаву’.

**Баявое хрышчэнне.** *Запазыч. з руск. м.* (боевое крещение). Ужыв. са значэннямі: 1) першы ўдзел у баі, 2) першае сур’ёзнае выпрабаванне ў якой-н. справе. *Знішчэнне генерала было баявым хрышчэннем юнага мсціўца* (І. Гурскі. Над Нёмнам). *Механізаваныя групы абодвух атрадаў земляробчага цэха выйшлі на сваё баявое хрышчэнне* (І. Дуброўскі. На новыя кругі).

Абодва кампаненты фразеалагізма ў яго 1-м значэнні — сэнсаўтваральныя: *баявое* суадносіцца са значэннем ‘звязанае з вядзеннем бою’, а *хрышчэнне* — са значэннем ‘першае выпрабаванне ў чым-н.’. 2-е значэнне развілося на аснове 1-га ў сувязі з пашырэннем яго прымянення на з’явы, не звязаныя з удзелам у баях.

**Баяцца свайго (уласнага) ценю.** *Калька з франц. м.* (avoir peur de son ombre). Трымацца занадта асцярожна, вельмі палахліва. *— Казлоўскі, пэўна, не пагадзіцца ехаць з незнаёмым чалавекам, — засумняваўся Дзіма. — Я ж кажу, што ён зараз свайго ценю баіцца* (І. Новікаў. Дарогі скрыжаваліся ў Мінску).

У аснове фразеалагізма — гіпербалізаваны вобраз. У франц. м. фразеалагізм трапіў як калька з твораў старажытнагрэчаскіх ці рымскіх аўтараў (Арыстафана, Платона, Цыцэрона).

**Без гальштукаў.** *Калька з англ. м.* (meeting without the ties). Ужыв. са значэннямі ‘нефармальная, у неафіцыйных абставінах

(сустрэча)’ і ‘у неафіцыйных абставінах (сустракацца)’. *Рашэнне аб правядзенні першай у гісторыі СНД так званай «сустрэчы без гальштукаў» было прынята ў Маскве 21 чэрвеня падчас пасяджэння Савета кіраўнікоў дзяржаў Садружнасці* (Нар. воля. 21.07.2000). *Чаму прэзідэнты іншых краін не асабліва любяць хакей? Выдатная была б для іх магчымасць сустрэцца са сваім калегам. Без гальштукаў, але пры гледачах. Пражыццё пагаварыць, справы абмазгаваць* (У. Даўжэнка. Спадзяванні).

Тут кампанент гальштук выступае з няслоўнікавым значэннем як атрыбут афіцыйнасці пры сустрэчах на высокім узроўні.

**Без году тыдзень.** *Паўкалька з руск. м.* (без году неделя). Ужыв. са значэннямі: 1) зусім нядаўна, на працягу кароткага тэрміну (быць, працаваць і пад.), 2) з невялікім стажам, з вельмі малым вопытам работы. *Зіна Міронаўна ў нас, як кажуць, без году тыдзень* (А. Пальчэўскі. Жыццёвы прынцып). *Люба... пакідае лепшае ўражанне, чымся ўсе гэтыя без году тыдзень правадыры шматмільённага сялянства* (Р. Мурашка. Сын).

Узнік у выніку каламбурнай пераробкі словазлучэння без недели год.

**Без духу.** *Уласна бел.* Ужыв. са значэннямі: (прыметнікавым) ‘мёртвы’ і (прыслоўным) ‘у знямозе ад хуткага бегу’. *Пакуль той прывёў шаптуху, дык Улюта ўжо без духу* (К. Крапіва. Цёткам навука). *Бег бядак, не помніў куды, азірнуўся толькі тады, як без духу прыпёрся ўжо к нейкай пярэплаці* (У. Галубок. Горкі агрэст).

У «Зборніку беларускіх прыказак» І. Насовіча падаецца выраз *з духам* — ‘жывы’. У ім, як і ў *без духу*, кампанент *дух* выкарыстаны са значэннем ‘душа’ (у рэлігійным разуменні гэтага слова; гл. *богу душу аддаць*). Параўн. сінанімічны фразеалагізм *без душы* ‘мёртвы’: «Я ўдарыў яго так, што ён больш не ўстаў. Ён без душы застаўся ляжаць у пыле» (Э. Самуйлёнак).

**Без духу** *бегчы, уцякаць і пад. Уласна бел.* Вельмі хутка, як мага. *Гарачка дзядзьку так і носіць, бяжыць, тхара ён даганяе, напагатове кол трымае. За дзядзькам Костусь прэ без духу* (Я. Колас. Новая зямля).

Першапачатковае значэнне кампанента *дух* у фразеалагізме *без духу* — ‘дыханне, дых’, а ўсяго выразу — ‘задыхаўшыся, у задышцы ад хуткага бегу’. Параўн. кантэкст, дзе супрацьстаўленнем двух фразеалагізмаў *без духу* ствараецца каламбур: «Толькі фрыцам яец тых не есці і не палохаць больш маладуху: два з іх без духу ляжаць на месцы, а два ўцякаюць без духу» (К. Крапіва).

**Без задняй думкі.** *Калька з франц. м.* (sans arriére-pensée). Шчыра, без скрытых намераў (казаць, рабіць што-н.). Парадкам не

быў Драбоку Івана і наважыўся адведаць не без задняй думкі —у сяле саўгас тры гады, хацелася пабачыць на свае вочы, як яно ідзе, ладзіцца (І. Навуменка. Пад пошум дубоў).

Прыслоўна-акалічнасны выраз, утвораны на аснове назоўнікавага *задняя думка* (*гл.*).

**Без пальцаў піць.** *Уласна бел.* З ахвотай і шмат, не адмаўляючыся (піць спіртное). *Старшыня сельсавета, як і належала на такой пасадзе, піў без пальцаў* (Р. Барадулін. Тады й надзенеш).

Фразеалагізм «цялячага паходжання». Як піша Р. Барадулін, «звычайна, калі цяля адсаджваюць ад каровы, на першых часінах у пойла кладуць пальцы, і паёнак прывыкае піць». А пасля п’е ўжо без пальцаў.

**Без пяці мінут.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Амаль што (стаў кім-н. па прафесіі, становішчы і г. д.). *І ногі ўжо кладзе на стол, — ну, без пяці мінут амерыканец* (У. Корбан. Яшка).

Выраз каламбурнага характару, узнік у выніку перанясення часавага вымярэння на іншыя аб’екты. Параўн. ужыванне спалучэння *без пяці мінут,* калі гаворыцца пра гадзіны сутак: без пяці мінут дванаццаць (што значыць ‘амаль дванаццаць’).

**Без роду і <без> племені.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Зусім адзінокі. *У Чаплюка не было свайго двара. Ён быў, як кажуць, чалавек без роду і племені* (М. Зарэцкі. Чаплюк).

Першапачаткова ў славян слова род абазначала бліжэйшых, а племя — аддаленых родзічаў.

**Без руля (стырна) і <без> ветразяў.** *Паўкалька з руск. м.* (без руля и без ветрил). Ужыв. са значэннямі ‘без акрэсленага накірунку (жыць, рухацца і пад.)’ і ‘без яснай, дакладнай жыццёвай мэты’. *З таго часу, як у школе выявілі ў сына здольнасці дэкламатара, а ў Ірачкі харэаграфічныя задаткі, дык, ты, напэўна, не паверыш, я зусім страціў руль кіравання. Разумееш? Сямейны карабель паплыў, як кажуць, без руля і без ветразяў* (М. Чавускі. Канфліктная сітуацыя). *А бэсэсэраўская рускамоўная «Звезда» таго часу пераконвала ў іншым: «…віленскія беларускія нацыяналісты, гэтыя балбатуны і пустамолы, гэтыя людзі без стырна і без ветразяў… пабрыдуць за панам Алексюком»* (А. Пашкевіч. Пляц Волі).

Паходзіць з паэмы М. Ю. Лермантава «Демон» (1834), дзе спалучэнне *без руля и без ветрил* не было яшчэ фразеалагізмам з яго сучаснымі значэннямі: «На воздушном океане без руля и без ветрил тихо плавают в тумане хоры стройные светил». Лічаць, што першым, хто выкарыстаў гэта лермантаўскае спалучэнне ўжо з фразеалагічным зместам, быў М. В. Гогаль.

**Без сучка і <без> задзірынкі.** *Паўкалька з рус. м.* (без сучка без задоринки). Ужыв. са значэннямі ‘вельмі лёгка, добра, без перашкод і ўскладненняў (ісці, выходзіць і пад.)’ і ‘вельмі добры, без заган і недахопаў’. *Дзяжурства на лодачнай станцыі прайшло без сучка і задзірынкі…* (І. Аношкін. Бублікаў затрымлівае хулігана). *Я разумею Русаковіча: ён хоча, каб машына была без сучка без задзірынкі* (К. Крапіва. Зацікаўленая асоба).

Паходзіць з прафесійнай мовы сталяроў, дзе ён ужываўся, калі гаварылася пра драўляныя вырабы высокай якасці.

**Без цара ў галаве.** *Запазыч. з рус. м.* Недалёкі, абмежаванага розуму. *Гэта ў нашым пад’ездзе такая суседка жыве — забываецца вечна. Зусім без цара ў галаве* (Н. Гілевіч. Пісьмо рэдактару адной газеты).

Узнік на аснове фразеалагізма *з царом у галаве* (гл.) як яго сэнсавая супрацьлегласць.

**Белая варона.** *Калька з лац.* (alba owis) *або англ.* (withe crow) *м.* Чалавек, рэзка непадобны на іншых людзей сваімі паводзінамі ці знешнім выглядам, не такі, як усе. *Апынуўшыся ў войску, ён адчуваў сябе белай варонай, няўмекам, самым няўдалым з усіх…* (В. Быкаў. Жураўліны крык).

Словазлучэнне *белая варона* толькі на першы погляд здаецца нелагічным спалучэннем двух неспалучальных паняццяў: у прыродзе сустракаюцца, хоць і рэдка, белыя вароны. Такая незвычайная афарбоўка выклікаецца адсутнасцю ў арганізме нармальнай пігментацыі. Упершыню словазлучэнне было выкарыстана з метафарычным значэннем у сатыры рымскага паэта I–II стст. Ювенала. Адтуль як калька з лац. м. яно перайшло не толькі ва ўсходнеславянскія, але і ў многія іншыя еўрапейскія мовы.

**Белая пляма.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Мае значэнні ‘недаследаваная тэрыторыя’ і ‘нераспрацаваная частка чаго-н. (пытання, праблемы і г. д.)’. *Пазнаёмцеся. Генадзь Залужны… адкрывальнік белых плям на крутых адгор’ях Гіндукуша* (Я. Радкевіч. Буяла лета). *Мы, пісьменнікі, не асвятлілі гісторыі мастацкай літаратуры. Гэта белая пляма* (ЛіМ. 21.05.1976).

Выраз узнік са свабоднага словазлучэння, звязанага з геаграфічнымі картамі. Калі той ці іншы раён або край яшчэ не быў даследаваны, то на картах, на фоне рознакаляровага адлюстравання зямной паверхні, ён выглядаў белай плямай. Першае значэнне (‘недаследаваная тэрыторыя’) развілося ў фразеалагізме метанімічным спосабам — на аснове прасторавай сумежнасці, другое (‘нераспрацаваная частка чаго-н.’) узнікла на базе першага метафарычным спосабам (на аснове падабенства з’яў).

**Белыя мухі.** *Агульны для ўсходнесл. м.* (*руск.* белые мухи, *укр.* білі мухи). Снег, сняжынкі. Пра снег, што падае. *Падобна, што на мароз бярэцца. Дый не дзіва: сёння ранкам лёталі ўжо белыя мухі!..* (А. Савіцкі. Зямля не раскажа).

У аснове фразеалагізма — нерэальны вобраз, пабудаваны на супастаўленні падаючых сняжынак з лятучымі мухамі. Параўн. ужыванне гэтага ж вобраза ў якасці параўнальнага звароту: «А вакол было цёмна, і ў гэтай цемені, як белыя мухі, круціліся, скакалі сняжынкі» (Л. Арабей).

**Бібікі біць.** *Уласна бел.* Марнаваць час, гультаяваць. *Адразу відаць, што тры гады хлопец бібікі біў, таму і разважаць па-чалавечы не навучыўся* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Асновай для ўтварэння фразеалагізма паслужыла мадэль: *біць* + этымалагічна «цёмны» назоўнік у мн. л. Гэта даволі прадуктыўная мадэль: б*іць лынды, біць брынды, біць байды, біць тылылы*; параўн. ва ўкр. м.: *бити байдики, бити баглаї, бити гандри, бити бурла*; у рускай мове: *бить баклуши.* Усе яны, у тым ліку *бібікі біць,* — фразеалагізмы-сінонімы са значэннем ‘бадзяцца, займацца няважнымі справамі’. Назоўнікавы кампанент бібікі ўтварыўся паўтарэннем дзеяслоўнай асновы біць.

**Бітая гадзіна.** *Паўкалька з руск. м.* (битый час). Вельмі доўга. — А вы лічыце, што шафёр не павінен абедаць? — Хай наздароўе абедае, але мы чым вінаватыя? Стаім бітую гадзіну… (І. Аношкін. Прэмія).

Узнікненне выразу звязана з боем гадзінніка. Бітая — літаральна ‘поўная, цэлая’; «намёк на гадзіну, якая „прабіла“ пасля пачатку яе» (М. І. Міхельсон). У «Зборніку беларускіх прыказак» І. І. Насовіча фіксуецца ў форме біты час.

**Бітва з ветракамі.** *Гл. вайна (бітва, змаганне) з ветракамі.*

**Біцца як рыба аб лёд.** *Агульны для ўсходнесл. м.*; фразеалагізм з блізкай вобразнасцю ёсць і ў некаторых іншых мовах, напрыклад (у пакампанентным перакладзе): *біцца як рыба на сушы* (балг.), *біцца як рыба на пяску* (польск.), *біцца як карп на сушы* (чэшск.). Без выніку і плёну намагацца, старацца, дабівацца чаго-н. *Думаеш, каб было лепей і табе, і тваім бліжнім, б’ешся як рыба аб лёд, а ўсё не так атрымліваецца…* (Я. Радкевіч. Сутокі дзён).

У аснове фразеалагізма — параўнанне з рыбамі, толькі што злоўленымі і кінутымі на лёд.

**Біццё бібікаў.** *Уласна бел.* Гультайства, бяздзейнасць. *Алесь Лявонавіч, відаць, з цікавасцю да магчымага сюжэту, а я проста ад працяглага біцця бібікаў выказалі пажаданне азнаёміцца з статутам і мэтамі казацкае вольніцы* (М. Скобла. Дзярэчынскі дыярыуш).

Утвораны на аснове суадноснага дзеяслоўнага фразеалагізма біць бібікі, які абазначае 'гультаяваць, займацца пустымі справамі' (гл.).

**Біць адбой.** *Агульны для ўсходнесл.* (*руск.* бить отбой, *укр.* бити відбій) і балг. (бия отбой) *м.* Адступаць, адмаўляцца ад ранейшага намеру, рашэння, погляду. *Няўжо і ты спалохаўся? Ох, як мы баімося, каб не выцягнулі з-пад нас крэсла! Нехта там пазваніў, не разабраўшыся, і ты гатовы біць адбой, таксама не ўнікнуўшы ў сутнасць* (І. Шамякін. Снежныя зімы).

Паходзіць з ваеннай тэрміналогіі, дзе *адбой* першапачаткова абазначаў 'барабанны бой ці іншы гукавы сігнал пра адступленне войска', а *біць адбой* — 'падаваць знак адступлення'.

**Біць байды.** *Гл. байды біць.*

**Біць бібікі.** *Гл. бібікі біць.*

**Біць лынды.** *Гл. лынды біць.*

**Біць пад дых** *каго. Уласна бел.* Раптоўна ашаламляць якім-н. паведамленнем, дзеяннем, учынкам. *—А вось кніга Бугаёва «Чалавечнасць». У ёй не знойдзеш класавага падыходу да аналізу літаратурнага жыцця, — б'е нас пад дых Зяньковіч. — Так і ў іншых выданнях* (М. Дубянецкі. «Трэба рызыкаваць...»).

Склаўся ў выніку пераасэнсавання адпаведнага словазлучэння, якое ўжываецца ў маўленні баксёраў.

**Біць паклоны** *каму. Агульны для ўсходнесл. і польск. м.* Ужыв. са значэннямі 'кланяцца, аддаваць пашану, вітанне' і 'пачціва прасіць каго-н.'. *Як ганяў скаціну ў лес, кожны чуць не з фігай лез, а як стаў багат сягоння, б'юць паклон мне на паклоне* (В. Дунін-Марцінкевіч. Залёты). *Не павядзе Каця [дачку да мачыхі], не хочацца ёй паклоны біць* (П. Місько. Ціхае лета).

Паходзіць са свабоднага словазлучэння, звязанага з даўнейшым звычаем: у часе малітвы ўсе стаялі на каленях і білі паклоны, нахіляючыся галавой да самай падлогі.

**Біць сябе ў грудзі.** *Напэўна, запазыч. з царк. — слав. м.* Вельмі настойліва даводзіць што-н., запэўніваць у чым-н. — *Як я не даў яму ўбачыцца з бацькам!? Як я мог так зрабіць?.. — Чаго цяпер біць сябеў грудзі... — сказаў нехта* (К. Кірэенка. Віна).

Ад старажытнага звычаю самакатавання з прычыны смерці блізкіх і ў некаторых іншых выпадках. Выраз сустракаецца ў біблейскім тэксце: «И весь народ... видя происходившее, возвращался, бия себя в грудь» (Лука, 23, 48).

**Біць тылылы.** *Уласна бел.* Гультаяваць, займацца пустымі справамі. *Дык яму ж толькі каб тылылы біць. Яму каб гатовенькае. Вучыліся, то спісвай задачкі, а на полі ж не будзеш на спісванні* (Ф. Янкоўскі. Давай насыплю).

Узнік па мадэлі з ужо існуючымі, сэнсава тоеснымі фразеалагізмамі тыпу *біць лынды.* Структурная схема запоўнена словам *тылылы,* звязаным з ігрой «на язык ты-лы-лы; у некаторых беларускіх гаворках ёсць „тылілікаць“, „ты-лі-лі“» (Ф. М. Янкоўскі).

**Біць у вочы.** *Агульнаслав.* (*руск.* бить в глаза, *укр.* бити в очі, *польск.* bić w oczy, *балг.* бия в очи і інш.). Рэзка выдзяляцца, прыцягваць увагу. *Уся гэта стракатасць грамады біла ў вочы* (Я. Колас. У горадзе).

У фразеалагізме праз дзеяслоўны кампанент перадаецца не толькі зрокавае адчуванне, але і як бы пачуццё непасрэднага дакранання да вачэй.

**Біць у званы.** *Уласна бел.* Настойліва звяртаць усеагульную ўвагу на што-н., што выклікае трывогу, заклікаць да барацьбы з якой-н. небяспекай. *[Крывіцкі:] Яны... выцягваюць на вачах у людзей з дзяржаўнай кішэні дзесяткі тысяч рублёў. А вы хочаце, каб мы маўчалі... У званы трэба біць* (Я. Шабан. Сіні снег).

Відаць, утвораны па мадэлі з семантычна тоесным фразеалагізмам *біць у набат* (*гл.*), назоўнікавы кампанент якога быў заменены словам званы.

**Біць у літаўры.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Празмерна хваліцца чым-н. — *Нічога за год мы не зрабілі, — гледзячы на Віктара разумнымі шэрымі вачыма, гаварыў інжынер. — І, як кажуць, няма чаго біць у літаўры, выхваляцца* (М. Даніленка. Урокі жыцця).

Узнік у выніку пераасэнсавання свабоднага словазлучэння. Літаўрамі называюць ударны музычны інструмент, які складаецца з некалькіх паўшар'яў, абцягнутых скурай.

**Біць у набат.** *Запазыч. з руск. м.* Настойліва звяртаць усеагульную ўвагу на што-н. небяспечнае, заклікаць на барацьбу з ім. *Нам давядзецца аб'ездзіць разам усю Беларусь, адшукаць тое, што забыта, вывучаць, біць у набат, калі штосьці занядбалі або бураць* (У. Караткевіч. Нельга забыць).

Утвораны ў выніку метафарызацыі свабоднага словазлучэння. Даўней на Русі, каб паведаміць пра ваенную небяспеку, білі ў вялікі звон — *набат.*

**Біць у хамут.** *Уласна бел.* Упарціцца, рэзка рэагаваць. *Гэтыя трое, як сталі падрастаць, як пакруціліся ўсё роўна. Яно-то і спрадвеку было, што маладым заўсёды хацелася сваё права правіць. Але каб так настырна біць у хамут?* (П. Місько. Ціхае лета).

Узнік у выніку пераасэнсавання адпаведнага свабоднага словазлучэння: запрэжаны наравісты конь, бывае, не вязе воза, на месцы пераступае з нагі на нагу, а потым, калі яго настойліва падганяюць, рэзка кідаецца наперад і б'е плячамі ў хамут.

**Біць чалом.** *Гл.* чалом біць.

**Благім матам крычаць.** *Агульны для бел. і руск. м.* Вельмі гучна, ашалела. А *як надарыцца часамі яму [Яську] спаткацца там з казамі, тады крычаў ён благім матам, тады рабіўся ён вар'ятам...* (Я. Колас. Новая зямля).

Літаральнае значэнне — 'дурным, немым голасам'. Фразеалагізм занатаваны ў «Слоўніку беларускай мовы» І. І. Насовіча, як і асобныя словы з іх ранейшым значэннем: благі 'дурны', мат 'голас'.

**Блакітная кроў.** *Відаць, калька з іспан. м.* (sangre azul); *параўн. аналагічныя выразы: франц.* sang bleu, *ням.* blaues Blut, *англ.* blue blood. Чалавек дваранскага паходжання. *Па мордзе відаць, што блакітнай крыві. Якая-небудзь Ляхвіцкая ці Ляхавіцкая* (М. Лобан. Гарадок Устронь).

Упершыню пачаў ужывацца ў іспанскай правінцыі Кастыліі, дзе гэтым выразам называлі сябе людзі знатнага паходжання. Яны ганарыліся тым, што ніхто з іх продкаў ніколі не браў шлюб з маўрамі ці іншымі цемнаскурымі людзьмі і што іх вены (як і ва ўсіх светласкурых людзей) маюць блакітнаваты колер.

**Блёкату наеўся.** *Агульны для ўсходнесл.* (*руск.* белены объелся, *укр.* блекоти наївся) і *польск.* (jakby się blekotu objadł) *м.* Ім характарызуюць стан ці ўчынкі чалавека, калі ён робіць якое-н. глупства, дзівацтва. — Стой!.. — Што вы, хлопцы, блёкату наеліся? (У. Карпаў. Нямігі крывавыя берагі).

Асновай для развіцця пераноснага сэнсу стала падабенства з'яў: блёкат — ядавітае пустазелле, і той, хто з'есць лісце блёкату або яго насенне, вельмі падобнае на макавае, праз якой паўгадзіны атручваецца; ён бегае, крычыць, смяецца, трызніць. «Прамежкавым звяном» паміж свабодным словазлучэннем і фразеалагізмам быў параўнальны зварот як (нібы) блёкату наеўся: «Штось ён вельмі цяпер у кулак затрубіў; а лятае! а бегае! як бы блёкату наеўся» (В. Дунін-Марцінкевіч). З гэтай прычыны, а таксама таму, што выраз з'яўляецца ацэначнай характарыстыкай дзеянняў, якія адбыліся (закончанае трыванне), яму ўласціва марфалагічная недастатковасць: стрыжнёвае слова наеўся ўжываецца толькі ў формах прошлага часу (наеўся, наелася, наеліся).

**Блудзіць (заблудзіць) у трох соснах.** *Запазыч. з руск. м.* Блытацца ў самых простых пытаннях. *І зноў наша сяброўства з Паўлюком пайшло на лад. Ён расказваў мне пра Ключэўскага: дзе вучоны блудзіў у трох соснах, а дзе і на роўную дарогу выбіваўся* (М. Гроднеў. Радня).

Узнік у выніку пераасэнсавання свабоднага словазлучэння, звязанага з даўнейшымі народнымі анекдотамі пра жыхароў

Пашахоння, якія пайшлі аднойчы шукаць шчасця, але заблудзілі ў трох соснах.

**Блудная авечка.** *Гл. заблудная (блудная, аблудная) авечка.*

**Блудны сын.** *Запазыч. з царк. — слав. м.* Легкадумны, свавольны, распусны чалавек, які раскаяўся ў сваіх памылках. *У маёй парафіі чалавек пяць ёсць такіх... Кожны з іх для мяне — гэта блудны сын, які памёр і аджыў, прапаў і знайшоўся, — як жа мне не радавацца і не весяліцца?* (К. Крапіва. Мядзведзічы).

Паходзіць з евангельскай прытчы (Лука, 15,11–32) пра блуднага сына, які, пакінуўшы бацькоўскі дом, распусна жыў на чужыне, пакуль не растраціў усё, што меў, а пасля, галодны і ўбогі, з раскаяннем вярнуўся дамоў. У пададзеным вышэй прыкладзе з рамана К. Крапівы поп амаль даслоўна паўтарае тое, што, як сведчыць Евангелле, сказаў бацька блуднаму сыну: «Станем есці і весяліцца! Бо гэты сын мой быў мёртвы і аджыў, прападаў і знайшоўся».

**Блука́нне па пакутах.** *Калька з царкслав. м.* Цяжкія жыццёвыя выпрабаванні, што выпалі на чыю-н. долю. *Пра нашы ўцёкі цяпер ужо ведаюць усе навакольныя пастарункі... Вось, браце, якія нашы блуканні па пакутах* (М. Машара. «Крэсы» змагаюцца).

Узнік на аснове старажытнага веравання ў блуканне душ грэшнікаў па пакутах на працягу сарака дзён пасля смерці чалавека. У старажытнай Русі з XII ст. карысталася папулярнасцю перакладзенае з грэч. м. сказанне «Блуканне Багародзіцы па пакутах», у якім апісваліся незвычайныя мукі грэшнікаў у пекле. Шырокае ўжыванне выраз атрымаў ва ўсходнесл. м. (*руск.* хождение по мукам, *укр.* ходіння по муках) пасля трылогіі А. М. Талстога «Блуканне па пакутах» (1920–1941).

**Блукаць па пакутах.** *Агульны для ўсходнесл. м.* (*руск.* ходить по мукам, *укр.* ходити по муках). Пераносіць цяжкія жыццёвыя выпрабаванні. *Рух характараў у дылогіі Л. Дайнекі адчуваецца да таго часу, пакуль героі блукаюць па пакутах* (Т. Грамадчанка. Намеры — намерамі...).

Утварыўся ў выніку ўнутрыфразеалагічнай дэрывацыі на аснове ўжо існуючага назоўнікавага выразу блуканне па пакутах (*гл.*), набыўшы працэсуальнае значэнне і граматычныя ўласцівасці дзеяслоўнага фразеалагізма.

**Блытацца пад нагамі** *ў каго. Агульны для ўсходнесл. м.* (*руск.* вертеться под ногами, *укр.* плутатися під ногами). Замінаць, перашкаджаць таму, з кім знаходзішся побач. *[Цярэшка: ] І ведаеце, не блытайцеся пад нагамі ў нас. Мы сур ’ёзнай справай заняты* (А. Макаёнак. Каб людзі не журыліся).

Першапачаткова ўжываўся, відаць, у дачыненні да дзяцей.

**Блытаць (зблытаць, праблытаць) <усе> карты** *каму, чые, каго. Паўкалька з франц. м.* (brouiller les cartes). Разладжваць, разбураць чые-н. планы, намеры, разлікі. *Ля маста такая варта — не падступішся ніяк. Партызанам блытаў карты гэты мост, даваўся ў знак* (А. Астрэйка. Прыгоды дзеда Міхеда).

Узнік у выніку метафарычнага пераасэнсавання свабоднага словазлучэння з маўлення карцёжнікаў.

**Богу душу аддаць.** *Агульны для ўсходнесл. і польск. м.* Памерці. *То не дуб у бары заскрыпеў; застагнаў — гэтая без пары богу душу аддаў* (Я. Купала. Мужык).

Душу, паводле рэлігійных уяўленняў, як бессмяротны нематэрыяльны пачатак мае толькі чалавек, які, паміраючы, нібыта аддае яе Богу. Параўн. у апавяданнях-успамінах У. Дубоўкі «Пялёсткі»: «Як яго прасілі, як яго малілі — кленчылі перад ім, не ўзяў ні кроплі вады, ні крошачкі хлеба. На шостыя суткі стары Якуб аддаў богу сваю душу. Але, як растлумачыў манькаўскі поп: „Бог душу старога Якуба не прыняў ні ў рай, ні ў пекла не накіраваў, бо, паводле царкоўнага закону, ён — самагубца“».

**Божай міласцю.** *Калька з лац.* м. (Dei gratia). Прыроджаны, сапраўдны, таленавіты, з выключнымі здольнасцямі. *Прыроду знатнасць не цікавіць. І божай міласцю паэт араў дзірван, касіў траву ды з лебяды варыў абед* (Г. Каржанеўская. Якія розумы гібелі?).

Паходзіць з біблейскага тэксту (1-е пасланне апостала Паўла да карынфянаў, 3, 10). Доўгі час ужываўся ў тытулах найвышэйшых духоўных і свецкіх асоб як сцвярджэнне, што іх улада дадзена Богам. У далейшым за фразеалагізмам замацавалася сучаснае значэнне.

**Божая кароўка.** *Відаць, калька з франц. м.* (bête a bon Dieu). Ужыв. са значэннямі ‘жучок чырвонай, жоўтай або белай афарбоўкі з плямкамі’ і ‘ціхі, бяскрыўдны чалавек, які не ўмее пастаяць за сябе’. *Прыгрэтая на падаконніку божая кароўка раптам заварушылася, пацёпала сваімі чырвонымі падкрылкамі і, важна ўзняўшыся, паляцела насустрач сонцу* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *[Стась: ] Сінічкін — шпіён, даю галаву на адсячэнне. [Бронюс: ] Божая кароўка — шпіён? Не-е… Гэты занятак не для яго* (В. Зуб. Юнацтва рыцара).

Падабенства гэтага жучка з кароўкай засноўваецца на тым, што калі яго перавярнуць і пакратаць брушка, то на нагах у насякомага выступаюць ярка-ружовыя кроплі («малачко»). Жучок зусім бяскрыўдны і безабаронны, што і стала падставай для развіцця ў фразеалагізме яшчэ аднаго значэння.

**Бой у літаўры.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Хвальба, выхвалянне. [Перадавікі] не вядуць доўгіх размоў пра

неабходнасць перабудовы — яны робяць. *Без шуміхі, параднасці, без бою ў літаўры з нагоды любога поспеху ці нават самай нязначнай прыкметы яго* (Звязда. 30.01.1986).

Назоўнікавы фразеалагізм, утвораны ад суадноснага дзеяслоўнага *біць у літаўры* (*гл.*).

**Бочку арыштантаў** *нагаварыць, навыдумляць і пад. Уласна бел.* Занадта многа і абы-чаго, без разбору. *Павесіць пінжак на сцяну і глядзіць адным вокам з-пад коўдры, як Алеся, нагаварыўшы бочку арыштантаў, шарыць па кішэнях, выграбае ўсё да капейкі* (В. Мыслівец. Нямтур).

Генетычна гэта, відаць, сэнсава алагічнае спалучэнне каламбурнага характару, якіх нямала: (вярзці) *грушу на вярбе, не коз воз, выдраць лысаму валоссе, сам не свой*; параўн. ва ўкр. м.: *(наговорити) сім мішків гречаної вовни і всі неповні.* Выраз, як сведчыць В. М. Макіенка, сустракаецца і ў некаторых рускіх (архангельскіх і карэльскіх) гаворках і, магчыма, паходзіць з мовы рыбакоў, дзе *арестант* — ‘дробная сушаная рыба’; *наговорить бочку арестантов* «першапачаткова ‘нагаварыць усякіх выдумак пра нібыта багаты ўлоў’» (В. М. Макіенка).

**Брат-сястрыца (брат-сястра).** *Агульны для бел. і ўкр.* (брат-і-сестра) м. Травяністая трохколерная расліна сямейства фіялкавых. *Быццам спіць мятлюга, нявідна дрыжыць канапелька, дзятліна белая сядзіць, званочкі калышуцца, здалёку, з лесу брат-сястра бялее, сінее мясцінамі* (М. Гарэцкі. Антон).

Паводле народнага падання, адлюстраванага ў вершаваным апавяданні В. Дуніна-Марцінкевіча «Травіца брат-сястрыца» і ў народнай песні, удавец «з жонкаю дзетак меў, а з другою ўзрасціў, а з трэцяю распусціў». Прайшоў час, і, сустрэўшыся, маладая пара ўзяла шлюб. Калі ж высветлілася, што гэта брат і сястра, то яны налажылі на сябе рукі і былі пахаваны ў адной магіле. «На той магіле вырасла травіца, і людзі назвалі яе „брат-сястрыца“».

**Браты нашы меншыя.** *Пайкалька з руск. м.* Звяры (свойскія ці прыручаныя чалавекам). *Мы наведалі заапарк... паназіралі за жыццём «братоў нашых меншых»* (Настаўн. газ. 8.08.1998).

Паходзіць з верша С. Ясеніна «Мы теперь уходим понемногу...» (1924), дзе ёсць радкі: «И зверьё, как братьев наших меньших, никогда не бил по голове».

**Брацца (узяцца) у рожкі** *з кім. Уласна бел.* Выяўляючы сваю незалежнасць, задзірацца, спрачацца, сутыкацца. Усе ведалі, што Гальяшыха часам бралася ў рожкі з мужам (І. Гурскі. Лясныя салдаты).

Паходзіць са свабоднага словазлучэння, якое ўжываецца ў дачыненні да рагатых жывёлін, калі яны бадаюць адна адну,

колюць рагамі. Параўн.: «Рабы толькі страшыць [другога быка], а брацца ў рожкі баіцца. Той бы даў так, што зараве!» (Ф. Янкоўскі).

**Браць за жывое каго.** *Гл. закрануць за жывое* каго.

**Браць на цугундар каго.** *Гл. на цугундар браць* каго.

**Браць (узяць) быка за рогі.** *Калька з іспан.* (coder al toro por los cuernos) ці *франц.* (prendre le taureau par les cornes) *м.* Смела, энергічна пачынаць з самага галоўнага. *Белавусаў гучна павітаўся і без лішніх слоў вырашыў адразу браць быка за рогі: — Ну што, Махавікоў, вядзі паказвай, дзе хаваеш зброю* (Л. Левановіч. Шчыглы).

Узнікненне фразеалагізма звязана з такім масавым відовішчам у Іспаніі, Партугаліі, як карыда — бой тарэадора з быком.

**Браць (узяць) верх.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Ужыв. са значэннямі ‘падпарадкоўваць каго-н. сваёй волі’ і ‘аказвацца больш значным, мацнейшым, чым што-н.’. *Віленскія рабочыя ў масе сваёй, пэўна ж, вельмі радаваліся і цешыліся, калі чулі, што рабочыя ў Расіі бяруць верх* (М. Гарэцкі. Віленскія камунары). *[Сымон: ] Я чакаю закону: суд ідзе, і праўда верх возьме* (Я. Купала. Раскіданае гняздо).

Выраз з агульным аналітычным значэннем. Кампаненты сэнсава суадносяцца з асобнымі значэннямі аднайменных слоў свабоднага ўжывання: кампанент *браць* — са значэннем ‘захопліваць, дамагацца ў барацьбе’, кампанент *верх* — са значэннем ‘вышэйшае дасягненне’.

**Браць (узяць) за горла** *каго. Калька з франц. м.* (prendre qn á la gorge). Сілай прымушаць да чаго-н. *[Дабрыян: ] Ёсць такія, што за горла бяруць: давай неўміручасць, душа з цябе вон* (К. Крапіва. Брама неўміручасці).

Фразеалагізм усведамляецца як матываваны, з жывой унутранай формай.

**Браць (узяць) за жабры** *каго. Агульны для ўсходнесл. м.* (*руск.* брать за жабры, *укр.* брати за зябра). Прымушаць паступаць належным чынам. *На тваім бы месцы я тваіх работнікаў так узяла б за жабры, так бы іх прымусіла круціцца, што…* (А. Макаёнак. Выбачайце, калі ласка).

Паходзіць са свабоднага словазлучэння, якое дастасоўваюць да лоўлі рыб. Злоўленую рыбіну, а яна вельмі слізкая, нялёгка ўтрымаць у руках, не ўзяўшы яе за жабры. Параўн. урывак з аповесці М. Лынькова «Міколка-паравоз»: Міколка з бацькам «узяліся рукамі плотак лавіць паміж карчоў. І намацаў тут бацька няйначай, як ментуза. Вядома, мянтуз слізкі, цяжка яго рукамі ўзяць». А дзед Астап з берага ракі падае парады: «За зябры яго, за зябры, гада!» Або: «Тое ж маўчанне, калі тапаром мы дрэва зялёнае

нішчым, калі мы за жабры рыбу бяром і б'ём галавой аб днішча» (А. Вярцінскі). Параўн. таксама каламбурнае выкарыстанне фразеалагізма ўзяць за жабры і слова жабры з яго намінатыўным сэнсам у камедыі К. Крапівы «Хто смяецца апошнім». «[Левановіч: ] Жывёліна гэта хоць і рэдкая ў нас, але надзвычай шкодная. Калі яе не ўзяць за жабры — добра, што якраз жабры ёсць у яе, — калі не ўзяць за гэтыя жабры, дык такі свінтус грандыёзус можа шмат шкоды нарабіць». Адзначым, дарэчы, памылковае аб'яднанне ў ТСБМ (т. 1, с. 405) фразеалагізмаў *браць за горла* і *браць за жабры* ў адзін з нібыта ўласцівай яму варыянтнасцю назоўнікавага кампанента: *браць за горла (жабры).* Гэта два самастойныя фразеалагізмы, кожнаму з якіх уласціва свая непаўторная ўнутраная форма. Да таго ж *браць за горла* (*гл.*) — калька з франц. м.

**Браць (узяць) за шчэлепы** *каго. Уласна бел.* Прымушаць паступаць пэўным чынам. *Пасля першай [чаркі] усе філасофствуюць, пасля другой звычайна пытаюцца: «Ты мяне паважаеш?», пасля трэцяй лезуць цалавацца. Вось пасля трэцяй ты яго і бяры за шчэлепы цёпленькага* (А. Петрашкевіч. Укралі кодэкс).

Узнік у выніку метафарызацыі свабоднага словазлучэння, якое дастасоўваюць да жывёл, і рыб у тым ліку, а таксама і да чалавека. *Шчэлепы* ў бел. м., як і ва ўкр., — тое самае, што і сківіцы. Параўн., напрыклад: «Твар Улада, абцягнуты блеклай скурай, крывіўся ад працы шчэлепаў, якія пераціралі гумку» (Крыніцы. 1995. № 7). Як засведчана ў тэматычным слоўніку «Жывёльны свет» (Мн., 1999, с. 125), для абазначэння костак у роце, у якія ўмацаваны зубы, выкарыстоўваюць словы: *сківіцы, санкі, шчэлепы, пашчэнкі* і інш. Тое самае і ў «Лексічным атласе беларускіх народных гаворак» (т. 1, 1993, карта № 13). Тут *сківіцы* са 142 абследаваных пунктаў ужываюцца ў 21 пункце, *санкі* — у 45, *шчэлепы* — у 38. У ТСБМ жа (т. 5, кн. 2, с. 425) шчэлепы памылкова тлумачацца як 'жабры', але адзіная пададзеная тут цытата не пацвярджае дэфініцыю, а аспрэчвае яе: «Шчэлепамі разбітымі пакутліва кратае камбала бездапаможна пляскатая» (Р. Барадулін). У «Беларуска-польскім фразеалагічным слоўніку» (Warszawa, 2000, с. 70) А. Аксамітава і М. Чурак *браць за горла (жабры, шчэлепы)* пададзены як адзін фразеалагізм з лексічнай варыянтнасцю назоўнікавага кампанента, але гэта няправільна, бо тут кожны з трох сінанімічных фразеалагізмаў адрозніваецца сваёй унутранай формай і геаграфіяй бытавання: *браць за горла* — калька з франц. м., *браць за жабры* — агульны для ўсходнесл. м., а *браць за шчэлепы* — уласна бел.

**Браць (узяць) лейцы ў <свае> рукі.** *Уласна бел.* Прымаць на сябе кіраванне чым-н. *А я стары. Зусім стары. І хворы. І нядужы. У рукі лейцы ты бяры. Кіруй разумна, дружа* (А. Бялевіч. Васіль Вашчыла).

Узнік у выніку метафарызацыі свабоднага словазлучэння. *Лейцы* бяруць у рукі (у прамым значэнні гэтых слоў) для таго, каб кіраваць канём, запрэжаным у воз ці сані. Параўн. ужыванне фразеалагізма з актуалізацыяй яго ўнутранай формы праз выкарыстанне побач з ім выдзеленых тут слоў: «Эге ж, хлопча, у тым справа, што не роўны людзі ў свеце; слабы, цёмны жыве ў смецці, а дужэйшы правіць права, ездзіць, лейцы ўзяўшы ў рукі… Эге ж: сіла ў гэтай штуччы. Але, хлопча, лейцы рвуцца, а без іх няма панукі» (Я. Колас). Першым выкарыстаў гэты выраз (а можа, і стварыў яго) К. Крапіва ў сатырычнай паэме «Хвядос — Чырвоны нос» (1930), каламбурна спалучыўшы з прозвішчам Кучар, што выклікае асацыяцыю са словам кучар (руск. *кучер* — бел. *фурман, рамізнік, вазніца*): «Ад мастацтва тады Кучар браць вучыўся ў рукі лейцы… Камандзіраў было — куча, болей як культурармейцаў».

**Браць (узяць) на абардаж** *каго, што. Паўкалька з франц. м.* (prendre á l’abordade). Рашуча дзейнічаць у адносінах да каго-, чаго-н. *Прыкідваю, быццам ніштаватая машына. Матор паслухаў, хадавую агледзеў, кузаў. Бяру яго [гаспадара] на абардаж. Купляю, бацька: восемсот цяпер, астатнія ў растэрміноўку* (А. Дзятлаў. Грышкаў «Масквіч»).

Утварыўся ў выніку метафарызацыі свабоднага словазлучэння, у якім *абардаж* абазначае ‘счэпліванне свайго судна з варожым дпя рукапашнай схваткі’. Першапачатковае значэнне — ‘атакаваць сваім караблём варожы карабель, падышоўшы да яго ўшчыльную для вядзення рукапашнага марскога бою’.

**Браць (узяць) на арапа** *каго. Агульны для ўсходнесл. м.* Дабівацца чаго-н. ашуканствам, хітрыкамі. *У акне, здалося, сядзеў той самы ўпаўнаважаны з раёна, культурнік, што «браў на арапа», думаў выпудзіць іх з Паплавоў* (П. Місько. Градабой).

Выток фразеалагізма — маўлснне карцёжнікаў, дзе слова арап атаясамліваецца з ашуканствам. *Гл.* запраўляць арапа.

**Браць (узяць) на буксір** *каго. Калька з франц. м.* (prendre á la remorque). Дапамагаць таму, хто адстае. *Шчыра радавалася [Наталля Макараўна], калі ў яе класе лепшыя вучні па сваёй ініцыятыве ўзялі на буксір слабейшых* (Настаўн. газ. 13.05.1981).

Паходзіць са свабоднага словазлучэння, якое ўжывалася і ўжываецца ў маўленні маракоў, дзе буксірам называюць канат ці стальны трос, пры дапамозе якога адно судна можа цягнуць за сабой другое.

**Браць (узяць) на зыхер** *каго. Уласна бел.* Дзейнічаючы з апломбам, правакаваць каго-н., выклікаць разгубленасць з мэтай дабіцца чаго-н. — *Трэба запытацца так, каб сказала... — Напалохаць трэба. На «зыхер» узяць* (Я. Колас. На «святой зямлі»).

Паходзіць з жаргону арыштантаў, дзе зыхер, відаць, запазыч. з ням. м. Адно са значэнняў слова *sicher* (у такім разе з клічнікам на канцы) абазначае ‘абавязкова, безумоўна’. Параўн.: «Саўка папаў у акрутнае становішча. Але ён быў упэўнены, што яго бяруць на „зыхер“, як называецца на мове арыштантаў. Ён зацяўся і ўпарта адмаўляў, што бачыўся з паўстанцамі» (Я. Колас).

**Браць (узяць) на мушку** *каго, што. Агульны для ўсходнесл. м.* Засяроджваць увагу на кім-, чым-н., сачыць за кім-, чым-н. *Кірэй, Кірэй, ці даўно тое было, што глядзеў смерці ў вочы і смяяўся? А цяпер... Нарэшце злы лёс узяў цябе на мушку* (У. Дамашэвіч. Заклінаю ад кулі).

Выток фразеалагізма — маўленне ваенных. Параўн.: «Мацвею падумалася, што гэты, што падыходзіць, — самы галоўны, узяў яго на мушку. Пад пахвіну мецішца» (М. Лобан).

Браць (узяць) на понт каго. Агульны дляўсходнесл. *м.* Дзейнічаючы з апломбам, правакаваць каго-н., выклікаць разгубленасць з мэтай дабіцца чаго-н. Прытвараешся, на понт хочаш мяне ўзяць. Што, надакучыў? Ён лепшы? (Э. Ярашэвіч. Гэта было нядаўна).

Паходзіць з жаргону карцёжнікаў, дзе понт атаясамліваецца з хітрыкамі, ашуканствам і, відаць, з’яўляецца запазычаннем з франц. м., у якой *ponte* (чытаецца: понт) абазначае ‘панцёр’ і ‘уплывовая асоба’. У франц. м. ёсць і фразеалагізм couper dans le pont які мае два значэнні: 1) скарыстоўваць шулерскі прыём у картах; 2) недарэчна папасціся, уліпнуць.

**Браць (узяць) на пушку каго.** *Запазыч. з руск. м.* Дзейнічаючы хітрасцю, падманам, дабівацца чаго-н. ад каго-н. *Як, на чым прыхапіў Цагельскага бандыцкі важак, я, вядома, не ведаў, тут я браў Цагельскага на пушку* (У. Шыцік. Вяртанне ў мінулае).

Выраз са зладзейскага жаргону, дзе *пушкай* называюць рэвальвер.

**Браць (узяць) на ўзбраенне** *што. Агульны для ўсходнесл. м.* (*руск.* брать на вооружение, *укр.* брати на озброення). *Дзейсна выкарыстоўваць, прымяняць у сваёй практыцы, дзейнасці. Фальклор можна і трэба — абавязкова трэба! — браць наўзбраенне, каб ажывіць ім сучаснае нацыянальнае мастацтва, сучасную духоўную культуру* (Н. Гілевіч. Плён — будзе, ды яшчэ які плён!).

Узнік у выніку пераасэнсавання тэрміналагічнага словазлучэння, якое ў маўленні ваенных ужываецца ў сваім прамым значэнні.

**<Браць (узяць)> ногі на плечы і (ды)...** *Агульны для бел. і ўкр. м.* Ужыв. перад выказнікам са значэннем хуткага руху і мае сэнс 'як можна хутчэй (бегчы, уцякаць і пад.)'. — *Праўду сказаў — ваўкі ў логаве... — Чаму ж ты тады ногі на плечы ды наўцёкі? Ваўкоў спужаўся?* (І. Капыловіч. Аблава).

У аснове фразеалагізма — нерэальны вобраз. Можна таксама згадзіцца з існуючым меркаваннем, што выраз склаўся як перафразаванне словазлучэння *браць боты на плечы* (у сэнсе «разуцца, каб можна было лягчэй і хутчэй бегчы»).

**<Браць (узяць)> ногі ў рукі і (ды)...** *Агульны для бел. і ўкр.* м. Ужыв. перад выказнікам са значэннем хуткага руху і мае сэнс 'як можна хутчэй (бегчы, уцякаць і пад.)' А ў канцы канцоў вось што: надзявайце пінжак, бярыце ногі ў рукі і бяжыце на пошту (У. Корбан. Гінка).

Этымалагічная аснова фразеалагізма, відаць, такая ж, як і ў выразе *<браць> ногі на плечы і (ды)...* (*гл.*).

**Браць (узяць) прыклад** *з каго. Калька з франц. м.* (prendre exetrple sur qn). Пераймаць у каго-н. што-н., рабіць так, як хто-н. *Будзьце мужчынам... Бярыце прыклад з бацькі...* (У. Карпаў. Сотая маладосць).

**Браць (узяць) слова** *з каго. Калька з франц.* м. (prendre parole de qn). Дамагацца ад каго-н. абяцання выканаць што-н. [Маці] узяла з мяне слова, што я не буду ўваходзіць надта ў палітыку... (Р. Мурашка. Сын).

**Браць (узяць) сябе ў рукі.** *Калька з ням.* (sich in der Hand haben) ці *франц.* (no reprendio en mains) м. Ужыв. са значэннямі 'супакойваючыся, дабівацца поўнага самавалодання' і 'станавіцца больш сабраным, валявым, дзейным'. «Спакойна, толькі без панікі!» — цвярдзіў я, беручы сябе ў рукі, і заставаўся сядзець спінай да дзвярэй (А. Карпюк. Данута). [Карнейчык: ] Нічога, возьмеш сябе ў рукі, сядзеш зноў на свайго ўлюбёнага канька, на землеўпарадкаванне (К. Крапіва. Канец дружбы).

У аснове фразеалагізма — нерэальны вобраз.

**Браць (узяць) у пераплёт** *каго. Запазыч. з руск. м.* Рашуча ўздзейнічаць на каго-н., прымушаючы паступаць пэўным чынам. *Няхай Комлік — майстар сваёй справы, але няма незаменных! І калі ўзяць яго ў пераплёт, з трэскам выгнаць з цэха, астатнія будуць шаўковыя — вунь з кім не палічыліся, з Комлікам!* (У. Карпаў. Вясеннія ліўні).

Утварыўся, на думку В. М. Макіенкі, у выніку кантамінацыі, аб’яднання частак двух фразеалагізмаў: *трапляць у пераплёт* (*гл.*) + *браць у абарот.*

**Браць (узяць) у <свае> рукі.** *Калька з франц.* м. (prendre en mains; літаральна «браць у рукі»). Ужыв. са значэннямі: ‘падпарадкоўваць сваёй волі каго-н.’, ‘прымаць на сябе кіраўніцтва чым-н.’ і ‘сілай авалодваць чым-н. (часцей пра ўладу)’. *Я прыйшла менавіта да вас, Іван Мікалаевіч. І як да старшыні сельсавета, і як да старэйшага Косцікавага брата. Вазьміце ў рукі Косціка, інакш…* (Б. Сачанка. Вялікі Лес). *Старшыня сельсавета намогся ўзяцьу свае рукі кіраванне сходам на гэты час* (Р. Мурашка. Салаўі святога Палікара). *Рабочых грамады ў свае возьмуць рукі заводы і фабрыкі, шахты і домны…* (Я. Купала. Настане такая часіна).

Фразеалагізм з жывой унутранай формай.

**Браць (узяць) уцям** *што. Уласна бел.* Разумець, усведамляць што-н. *Я вось сяджу, думаю — і ніяк не магу ўзяць уцям, што вы з ім не падзялілі?* (Маладосць. 1980. № 4).

Выраз аднолькавай сінтаксічнай і дэрывацыйнай структуры з *узяць <сабе> у толк* (што). У «Слоўніку беларускай мовы» (1870) І. І. Насовіча пададзена ўцям як прыслоўе са значэннем ‘прыкметна, зразумела’. Ёсць у сучаснай бел. м. аднакаранёвыя словы: *няўцям, няўцямны, няўцямна, няўцямнасць, цямлівы, цямлівасць, цяміць, уцяміць.* Параўн. ва ўкр. м.: назоўнік *тяма* ‘кемлівасць, цямлівасць’, фразеалагізмы *брати (узяти) втямки (втямку), брати (взяти) до тями, без тями (тямки) в голові.*

**Браць (узяць) у шоры** *каго. Агульны для ўсходнесл. м.* Рашуча ўздзейнічаць на каго-н., прымушаючы паступаць пэўным чынам. *Старэйшы хлопец ужо ў армію пайшоў… Там яго добра возьмуць у шоры. Зробяць з хлопца чалавека…* (А. Васілевіч. Сястра мая, Антаніна).

Узнік у выніку пераасэнсавання свабоднага словазлучэння. *Шоры* — бакавыя шчыткі, прымацаваныя да вуздэчкі, каб конь не мог глядзець убок і палохацца чаго-н.

**Будаваць на пяску.** *Агульны для амаль усіх славянскіх, а таксама франц. і ням. м.* Засноўваць на ненадзейных звестках, паказчыках. *Старыя пазіцыі светаразумення аказаліся хісткімі, пабудаванымі на пяску* (Я. Колас. На ростанях).

Склаўся на базе евангельскай прытчы (Матфей, 7, 26–27): «Усякі, хто слухае гэтыя словы мае і не выконвае іх, стане падобны на чалавека безразважнага, які пабудаваў дом свой на пяску. І пайшоў дождж, і разліліся рэкі, і падзьмулі вятры і налеглі на дом той, і ён паваліўся».

**Будаваць паветраныя замкі.** *Гл.* паветраныя замкі будаваць.

**Будоўля паветраных замкаў (палацаў).** *Агульны для ўсходнесл. м.* (*руск.* строительство воздушных замков, *укр.* будівництво надхмарніх замків). Прыдумванне нерэальных, фантастычных планаў. *[Каліноўскі:] Я чуў усё, але не хацеў да часу перапыняць будоўлі паветраных палацаў Серакоўскага* (Е. Міровіч. Касіусь Каліноўскі).

Паходзіць з дзеяслоўнага фразеалагізма *будаваць паветраныя замкі* (*гл.*) ‘планаваць нерэальнае, нездзяйсняльнае’, мае прадметнае значэнне і іншыя ўласцівасці назоўнікавых фразеалагізмаў.

**Бура ў шклянцы вады.** *Калька з франц.* м. (une tetrpête dans un verre d’eau). Шум, спрэчка за нявартую ўвагі дробязь. *Але ж у тым самым абзацы, услед за нібыта пахвалою, ідзе нявінная на першы погляд агаворачка: маўляў, некаторыя з пералічаных твораў грэшаць схематычнасцю, жывыя пачуцціў іх падменены папяровымі, а размах падзей не вышэй за буру ў шклянцы вады* (М. Лужанін. Роздум перад маладымі).

Гэты крылаты выраз, як сведчыць Бальзак, належыць французскаму палітычнаму дзеячу і філосафу XVIII ст. Мантэск’ё; гэтымі словамі ён вобразна ахарактарызаваў палітычнае бязладдзе, якое ў той час мела месца ў Сан-Марына — карлікавай рэспубліцы на Апенінскім паўвостраве.

**Бурыданаў асёл.** *Паўкалька з франц. м.* (l’ane de Buridan). Крайне нерашучы чалавек, які вагаецца ў выбары паміж двума раўнацэннымі рашэннямі ці раўназначнымі жаданнямі. *[Кардонскі:] Я зусім у органы не збіраўся, мяне накіраваў райкам камсамола. Бо сам як бурыданаў асёл… Стаяў на раздарожжы, не ведаючы, што выбраць: ці дарагую мне гісторыю, ці такую ж літаратуру, ці журналістыку* (С. Дубавец. Мой народ).

Узнікненне фразеалагізма звязваецца з імем французскага філосафа Ж. Бурыдана (XIV ст.), які даказваў, што ўчынкі жывых істот залежаць не ад іх волі, а выключна ад знешніх прычын. У пацвярджэнне сваёй думкі ён узяў для прыкладу асла, які, знаходзячыся на роўнай адлегласці ад двух аднолькавых ахапкаў сена, абавязкова павінен загінуць ад голаду, бо пры абсалютнай свабодзе волі ён не зможа аддаць перавагу якомунебудзь аднаму ахапку сена. Параўн. ужыванне фразеалагізма з намёкам на яго першапачатковую вобразнасць: «— Пагубяць цябе гэтыя ягады, як бурыданавага асла сена, — смяецца з Машы Аркадзь» (В. Гігевіч).

**Быллём парасло (зарасло).** *Агульны для ўсходнесл. м.* (*руск.* быльем поросло, *укр.* биллям поросло). *Даўно забыта. Мілая!.. Усё быллём парасло, а пры ўсіх тут скажу… І я твайго Паўла кахала* (М. Ракітны. На свята).

Узнік з прыказкі (падаецца ў зборніках І. Насовіча, М. Федароўскага) *Калісьці было, ды быллём зарасло.* Адарваўшыся ад прыказкі, у якой было і зарасло звязаны рыфмай, фразеалагізм набыў здольнасць рэалізаваць родавыя і лікавыя формы дзеяслоўнага кампанента: «Не быў я ў свеце бабылём, і ты не будзеш, братка, пакуль не зарасла быллём салодкая загадка…» (В. Вітка). Зрэдку замест быллём выкарыстоўваецца быльнягом: «Ну што ты! Нашто ты? Калі што некалі і было, дык быльнягом зарасло…» (М. Лужанін).

**Бы на карове сядло.** *Гл.* як (нібы, бы) на карове сядло.

**Быццам аршын праглынуўшы**. *Гл.* як (быццам, нібы) аршын праглынуўшы.

**Бярозавая каша.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Розгі або дубец, рэмень і пад. *Проста і ў думках не было, каб гэты клоп, як ён заўсёды называў сваю пляменніцу, ды раптам надумалася выходзіць замуж. А бярозавай кашы яна не хоча часам?..* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Як мяркуюць, выраз узнік у школьным асяроддзі. Раней у школах, дзе вучылі дзяцей грамаце, пераход да чытання новай кнігі і іншыя поспехі ў вучобе адзначаліся кашай: бацькі ў такіх выпадках прыносілі гаршчок кашы, якую ўсе вучні елі разам. Калі вучань правінавачваўся, яго каралі розгамі, як правіла, бярозавымі. Такое пакаранне сталі называць бярозавай кашай. Фразеалагізм утварыўся па мадэлі словазлучэння тыпу прасяная каша.

**Ва векі вякоў.** *Калька з лац.* м. (in saecula saeculorum). Назаўсёды, навечна. *[Маці:] Ой, лясы, вы не шуміце, майго мужа не будзіце, бо ён спіць вечным сном ва векі вякоў* (А. Кудравец. Раданіца).

З формулы праслаўлення Бога ў часе хрысціянскага царкоўнага набажэнства (абедні).

# В

**Вавілонскае стоўпатварэнне.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Поўная неразбярыха, беспарадак, гармідар. *[Генка: ] Мама мая, што робіцца!.. Стоўпатварэнне вавілонскае. Свае сваіх не пазнаюць* (К. Крапіва. Брама неўміручасці).

Узнік на аснове біблейскага сюжэта (Быццё, 11, 1–9), як жыхары старажытнага горада Вавілона (на тэрыторыі сучаснага Ірака) задумалі зрабіць вялізную вежу — аж да самага неба. Будаўніцтва вежы было спынена ўгневаным Богам: ён «змяшаў» языкі будаўнікоў, і яны загаварылі на розных мовах, не разумеючы адзін аднаго. Людзям стала не да вежы, бо падняўся страшэнны гвалт, вэрхал — тое, што мы цяпер называем вавілонскім стоўпатварэннем. Назоўнікавы кампанент фразеалагізма ўтварыўся сінтаксічным спосабам, зрашчэннем двух слоў (столпа + твореные) у адно.

**Вагавая катэгорыя.** *Агульны для ўсходнесл. м.* (*руск.* весовая категория, *укр.* весова категорія). Уплывова-ацэначная вартасць, велічыня каго- ці чаго-н. Выбачайце, Броўка і Пісарык, пры ўсім скептыцызме ў адносінах да першага, усё-такі розныя вагавыя катэгорыі (Л. Рублеўская. «Ці можна рукапіс прадаць?»).

Узнік у выніку пераасэнсавання тэрміналагічнага словазлучэння, якое выкарыстоўваецца пры класіфікацыі барцоў — спартсменаў класічнай або вольнай барацьбы. Параўн.: «У цяжкай вагавой катэгорыі, у якой перамог наш малады атлет, тады мелася сапраўднае сузор'е атлетаў... А чаму б Мядзведзю не скінуць дзесятак кілаграмаў і не перайсці ў паўцяжкую катэгорыю?» (А. Мяснікоў).

**Вадзіць за нос** *каго. Магчыма, калька з франц.* (mener par le nez) ці *ням.* (an der Nase herumfüren) м. Уводзіць у зман, абяцаць што-н. і не выконваць. *Рытвінскага вельмі злавала думка, што нейкі хлапчук колькі часу вадзіў яго за нос* (С. Баранавых. Калі ўзыходзіла сонца).

Мяркуюць, што крыніца мастацкага вобраза, пакладзенага ў аснову фразеалагізма, тая самая, з якой выйшла і прыказка *Мядзведзь скача, а цыган грошы бярэ.* Даўней у многіх краінах Еўропы мядзведнікі вадзілі напаказ у людныя месцы мядзведзяў за кольца ланцуга, прасунутае ў нос. Мядзведзь, спадзсючыся на падачкі і не заўсёды атрымліваючы іх ды скоса пазіраючы на палку ў руках гаспадара, мусіў выраблянць розныя фокусы.

**Вадзіць казу.** *Агульны для бел. і ўкр.* м. Ужыв. са значэннямі: 1) хадзіць гуртам у стане ап’янення, 2) п’янстваваць, напівацца. *[Грачоў гаворыць тром п’яным калгаснікам, якія ідуць абняўшыся: ] Што вы сабе думаеце, хлопцы! Пасяўная не за гарамі, а вы ў рабочы дзень казу водзіце па сяле* (А. Макаёнак. Каб людзі не журыліся). *«Вадзілі казу» беларускія творцы і да вайны, натхніцелямі былі такія «геніі», як Алесь Кучар, і ён жа даносіў на п 'яную «свабодалюбівую» балбатню сваіх калег, і некаторыя з іх патаціліся за гэта жыццямі ці доўгай катаргай* (І. Шамякін. Слаўся, Марыя!).

Паходзіць са свабоднага словазлучэння, звязанага з ранейшым звычаем, які бытаваў на Украіне і ў многіх раёнах Беларусі, асабліва на Усходнім Палессі. Як сведчаць фалькларысты і этнографы, звычай захоўваўся яшчэ і на пачатку XX ст. У святочныя дні, пераважна перад Новым годам, гурт хлопцаў хадзіў па хатах калядаваць. Адзін з хлопцаў быў адзеты пад казу — з драўлянай казінай галавой і саламяным хвастом. Хлопцы віншавалі гаспадароў, спявалі калядныя песні, «каза» танцавала пад музыку. Калядьнікаў частавалі гарэлкай, давалі падарункі. Усё гэта называлася «вадзіць казу». Абрад «ваджэння казы» падрабязна апісаны ў энцыклапедыі «Этнаграфія Беларусі» (Мн., 1989, с. 230–231). У некаторых сучасных працах па ўкраінскай фразеалогіі выраз вадзіць казу згадваецца як устарэлы. Але яшчэ ў «Слоўніку ўкраінскай мовы» пад рэдакцыяй В. Д. Грынчанкі (1958–1959) ён падаецца без паметы аб устарэласці як «п’янстваваць доўгі час, некалькі дзён».

**Вадой не разальеш** *каго. Агульны для ўсходнесл. м.* Вельмі дружныя, неразлучныя, заўсёды разам. *На першых лекцыях мы толькі прыглядаемся адна да аднае. Пад канец заняткаў нас ужо не разальеш вадою* (А. Васілевіч. Пачакай, затрымайся…).

У аснове фразеалагізма — вобраз, звязаны са спробай, разліваючы вадой, разняць, разагнаць жывёл, калі яны б’юцца. Параўн. ужыванне фразеалагізма з ажыўленнем яго ўнутранай формы шляхам далучэння да яго ў якасці аднароднага члена структурна-аднатыпнага свабоднага словазлучэння: «Не, гэта старыя прыяцелі, спрадвечныя дружбакі, якіх не разальеш вадой, не разгоніш парай» (М. Лынькоў).

**Ваду ў ступе таўчы.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Ужываецца са значэннямі ‘марнаваць час, займацца бескарыснай справай’ і ‘весці пустыя размовы, пустасловіць’. *На чорта мне такая работа, што не дае карысці ні мне, ні людзям? Не хачу таўчы ваду ў ступе* (А. Макаёнак. Твой хлеб). *А што ты там бачыў, на сходах гэтых самых? Ваду ў ступе таўкуць? Таўкуць* (МЛынькоў. Апошні зверыядавец).

Паводле паходжання гэта першая частка прыказкі *Ваду ў ступе таўчы — вада і будзе.* Выраз мае той жа сэнс, што і ў прыказцы; у кантэкст уключаецца без граматычных абмежаванняў, рэалізуючы ўсе формы асобы і ліку дзеяслоўнага кампанента (*таўку, таўчэш і г. д.*).

**Вады не замуціць** *каму. Вiдаць, калька з ням. м.* (kann kein Wässerchen trüben). Не зрабіць ніякай шкоды, кічога кепскага каму. *Бяры кажу, сынок, мая ягадка, хоць і Агатку — па мне што? Не я, а ты, Сымонка-дзіцятка, будзеш з ёй жыць: я ўжо старая, нядужая, і вады вам не замучу (Ядвігін Ш. Важная фіга).*

Першааснова фразеалагізма — свабоднае словазлучэнне, звязанае з разнастайнымі жыццёвымі выпадкамі на берагах рэк, дзе мылі бялізну, паілі коней, бралі ваду. Добры чалавек не забываўся пра суседа, стараючыся не замуціць яму вады, калі той знаходзіўся ніжэй па цячэнні вады.

*Шмат (многа, нямала, колькі, столькі)* **вады сплыло (сплыве).** *Калька з франц.* м. (il passera bien de 1'eau sous les ponts — літаральна «сплыве многа вады да той пары»), (Шмат) адбылося змен, прайшло часу. *І хоць з той пары, як кажуць, шмат вады сплыло, — гэтулькі ж гадоў прайшло! — успомнілася мне з усімі драбніцамі гісторыя яго «хваробы»* (М. Чавускі. Рэжым дык рэжым). *Як даўно тое было... Колькі вады сплыло з таго часу* (У. Кузьмянкоў. Два білеты ў цырк).

Паходжанне фразеалагізма тлумачаць такой з'явай: у старажытнасці час вызначалі вадзяным гадзіннікам — па ўзроўні вады, якая сцякала кроплямі. Можна таксама меркаваць, што фразеалагізм — скарочаны варыянт ранейшай, больш поўнай формы *шмат вады сплыло ў раку* (параўн. у зборніку М. Федароўскага: *яшчэ многа вады у мора ўпадзе;* у сучаснай англійскай мове (у перакладзе): *шмат вады працякло пад мостам,* у нямецкай: *шмат вады працякло ў мора (Эльбу, Рэйн* і г.д.).

**Вазіць ваду** *на кім. Агульны для ўсходнесл. м.* Абцяжарваць каго-н. непасільнай, зневажальнай работай. *Будуць на табе ваду вазіць, во пабачыш... У каго ты такі недарэка?* (А. Дудараў. Кола).

Паходзіць з прыказкі На сярдзітых ваду возяць.

**Вайна (бітва, змаганне) з ветракамі.** *Агульны для ўсходнесл. м.* (*руск.* сражение с ветряными мельницами, *укр.* війна з вітряками). Дарэмная трата сіл, здольнасцей у барацьбе з уяўнай небяспекай ці несапраўднымі цяжкасцямі. *Платон Восіпавіч... са злой іроніяй адрэзаў: — Прынцьтовасць у дадзеным выпадку — бітва з ветракамі* (А. Асіпснка. Непрыкаяны маладзік).

Паходзіць з дзеяслоўнага фразеалагізма *ваяваць (змагацца) з ветракамі* (гл.).

**Валаамава асліца (валаамаў асёл).** *Відаць, паўкалька з англ.* (Balaat's ass) ці *франц.* (anesse de Balaат) *м.* Пакорны, маўклівы чалавек, які раптам выказаў сваю думку або нязгоду, пратэст. *[Антох: ] І лепей бы я з бесам піў, чым з папом, які з Бесавічаў. [Поп: ] Ой, заклею я твой вобраз. [Антох: ] Паспрабуй, асёл валаамаў* (У. Караткевіч. Маці ўрагану).

Утвораны на аснове біблейскай легенды (Лічбы, 22, 27–28) пра чараўніка Валаама і яго асліцу, якая, калі гаспадар пачаў біць яе, запратэставала чалавечай мовай, стала ўгаворваць гаспадара, каб ён не ішоў супраць Божай волі і адмовіўся ад намеру выконваць загад маавітанскага цара Валака.

**Валасы сталі дыбам** *у каго. Фразеалагізм, з нязначнымі варыяцыямі, ёсць амаль ва ўсіх славянскіх і іншых еўрапейскіх мовах (напрыклад, у немцаў:* das Haar steht zu Berge — валасы сталі ўгору; *у французаў:* cela fait dresser les cheveux — ад гэтага валасы становяцца дыбам). *Выраз, хутчэй за ўсё, трапіў да нас як фразеалагічная калька з лац. м.* (steteruntgue comae).

Узнік як гіпербала для выражэння пачуцця неспадзяванага страху, калі здаецца, што на галаве нібы падымаюцца валасы. Ужыв. са значэннем 'каго-н. ахоплівае жах': *Я крычаць, я тукаць на іх, валасы ў мяне дыбам* (М. Ракітны. Жоўты). Замест *дыбам* выкарыстоўваюцца яго варыянты: *валасы стануць дубка* (К. Крапіва), *валасы дуба становяцца* (З. Бядуля), *валасы ў дыбкі сталі* (В. Каваль). Генетычна фразеалагізм можна кваліфікаваць і як «метафару, узятую з жывёльнага свету» (В. У. Вінаградаў): у жывёл пры небяспецы валасы становяцца дыбам.

**Валіць цераз пень калоду.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Рабіць няўмела, абы-як. *Пасля ў закусачнай на памяць хлапец асмеліўся на верш… Яшчэ валіў праз пень калоду; але рабіў мяне раднёй свае радні, свайго завода, тае касыначкі рабой* (М. Лужанін. Як нараджаўся новы свет).

Раней фразеалагізм меў больш поўную форму, у зборніку І. Насовіча ён падаецццатак: *цераз пень, цераз калоду валіць без уходу. Гл. цераз пень калоду.*

**Валоданне пяром.** *Агульны для ўсходнесл. м.* (*рус.* владение пером, *укр.* володіння пером). Уменне свабодна і выразна выказваць свае думкі на паперы. *Гэта вельмі непрыемна і прымушае яшчэ раз напамінаць аб неабходнасці дасканалага валодання пяром* (Я. Колас. Аб літаратурнай працы).

Назоўнікавы фразеалагізм, утвораны ад суадноснага дзеяслоўнага валодаць пяром.

**Валоданне словам.** *Агульны для ўсходнесл. м.* (*рус.* владение словом, *укр.* володіння словом). Здольнасць выразна, красамоўна гаварыць, пісаць. *Творчую адоранасць Мікола*

*Раманоўскі выявіў у Цімкавіцкім двухкласным вучылішчы, а пазней і ў гады вучобы ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі. Яго хвалілі за добрае валоданне словам* (А. Бельскі. Сын зямлі і зорнага неба).

Паходзіць з суадноснага дзеяслоўнага фразеалагізма *валодаць словам,* мае прадметнае значэнне і іншыя ўласцівасці назоўнікавых выразаў.

**Валтасараў баль.** *Пайкалька з царк. — слав. м.* Вясёлае, легкадумнае існаванне каго-н. у бядотную для іншых часіну. *Робіцца гэта ўсё ў дагоду і па камандзе тых сіл, якія сёння ладзяць валтасараў баль на Беларусі* (М. Скобла. Палімпсесты Ларысы Геніюш).

Паходзіць з Бібліі. У кнізе Даніілы (5) расказваецца пра баль у халдзейскага цара Валтасара. Падчас балю таямнічая рука напісала на сцяне чатыры прарочыя словы пра непазбежную пагібель цара, той жа ноччу цар быў забіты, а яго царства дасталося Дарыю.

**Ва (на) усе лапаткі.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Абазначае ‘вельмі хутка (бегчы, імчацца і пад.)’ і ‘з вялікім напружаннем (рабіць што-н.)’. *Абрыцкі прэ ва ўсе лапаткі, бяжыць, як можа, без аглядкі, але Пшавара даганяе, у ход дугу сваю пускае* (Я. Колас. Новая зямля). *Работы на ўсё лета во так во… І то трэба на ўсе лапаткі завіхацца, каб управіцца* (І. Дуброўскі. Навіны Старога Сверҗаня).

Выраз у сваім 1-м значэнні сэнсава і граматычна спалучаецца толькі з дзеясловам бегчы ці яго сінонімамі, яго значэнне развілося ў выніку метафарызацыі: у каня, калі ён бяжыць вельмі хутка, рухаюцца і лапаткі. 2-е значэнне сфарміравалася ў фразеалагізме пры яго спалучэнні і іншымі дзеясловамі-суправаджальнікамі.

**Варона загуменная.** *Уласна бел.* Разявака, нерастаропны, нехлямяжны чалавек. *Ш-ша! Замрыце, вароны загуменныя! — павысіў гаспадар голас* (Л. Калодзежны. Дубовы крыж).

Выраз пры супастаўленні з адпаведным свабодным словазлучэннем не ўспрымаецца як метафарычны. Ён, хутчэй за ўсё, узнік у выніку адначасовай рэалізацыі прамога і пераноснага значэнняў слова *варона* (‘птушка’ і 'разявака’) і яго каламбурнага дапаўнення прыметнікам. Параўн. цікавы ў гэтых адносінах прыклад: «— Вароны мы, вароны загумснныя! — лаяў самога сябе і сваіх таварышаў адзін з трох» (Р. Хацксвіч).

**Варона ў паўлінавых пёрах.** *Пайкалька з руск. м.* (ворона в павлиных перьях). Чалавек, які марна імкнецца паказаць сябе лепшым, больш значным, чым ён ёсць на самай справе. — *Аднак з эсэрам Керанскім лічыцца ўвесь цывілізаваны свет… — Не вельмі.*

*Керанскі — гэта варона ў паўлінавых пёрах, — наступаў Сяргей* (І. Гурскі. Вецер веку).

Склаўся на аснове байкі І. А. Крылова «Варона» (1825). Уставіўшы сабе ў хвост паўлінавыя пёры, варона фанабэрыста пайшла гуляць з павамі, мяркуючы, што цяпер усе будуць глядзець на яе, як на дзіва. Атрымаўся, аднак, непрадбачаны канфуз (*гл. ні пава ні варона*).

**Вароты пірагамі падпёрты** *ў каго. Уласна бел.* Усяго ўволю, колькі хочаш (пра багатае жыццё). *У Кунцэвічаў для Лазовіка заўсёды вароты пірагамі падпёрты. Алена Пятроўна, убачыўшы яго, замітусілася: —Ах, прагаладаліся, нябось…* (В. Блакіт. Шануй імя сваё).

У аснове фразеалагізма — нерэальны вобраз, узяты з народных казак.

**Варочаць (звярнуць, зрушыць, перавярнуць) горы** *<з кім, з чым>. Відаць, калька з ням. м.* (versetzen Berge). Выконваць празмерна вялікую работу, справу. *У прасторным клубе сядзелі адны мужчыны, здаравякі, як на падбор. З такімі людзьмі можна было варочаць горы* (А. Асіпенка. Жыта).

У аснове фразеалагізма — нерэальны, гіпербалізаваны вобраз.

**Варфаламееўская ноч.** *Відаць, паўкалька з ням. м.* (Bartholomäusnacht). Масавае, нечаканае знішчэнне каго-н. *Ляцяць! Нашы ляцяць! Родныя мае! Хутчэй! Хутчэй! Пачакай. Пачакай хвілiначку. Зараз будзе варфаламееўская ноч фашыстам. Ляцяць!* (І. Шамякін. Шшобная ноч).

Паходзіць ад гістарычнай падзеі — масавага знішчэння гугенотаў-пратэстантаў каталікамі ў Парыжы ўначы на 24 жніўня 1572 г. перад днём святога Варфаламея. Арганізаваная царквой разня перакінулася на іншыя гарады Францыі і працягвалася некалькі дзён.

**Варыцца ў сваім (ва ўласным) саку.** *Калька з англ. м.* (to stew in one's own juice). Жыць ці працаваць без зносін з іншымі, не выкарыстоўваючы чужога вопыту. *Мастакам трэба асяроддзе. Таму і ёсць правінцыялы, і проста самадзейнікі, таму што няма ў іх асяроддзя, у сваім саку варацца, падняцца не могуць* (А. Жук. Белым снегам).

Выраз з жывой унутранай формай.

**Вастрыць (навастрыць) вушы.** *Агульны для ўсходнесл. м.* (*руск.* вострить уши, *укр.* гострити уші). Напружана, уважліва прыслухоўвацца, насцярожвацца. *Віктару не спадабалася, што такая размова вядзецца пры малых. Нават Кацька і тая «навастрыла вушы»* (І. Шамякін. Атланты і карыятыды).

Паводле паходжання гэта метафара, узятая з жывёльнага свету, вынік пераносу на чалавека дзеянняў і ўласцівасцей, напрыклад, сабакі ці каня, якія, адчуўшы небяспеку, настаўляюць вушы, пільна прыслухоўваюцца.

**Вастрыць (тачыць) зубы** *на каго, на што. Відаць, запазыч. з польск. м.* (ostrzyć zęby); параўн. таксама: *руск.* вострить (точить) зубы, *укр.* гострити (точити) зуби. Ужыв. са значэннямі ‘ненавідзячы каго-н., рыхтаваць яму якую-н. непрыемнасць’ і ‘старацца завалодаць чым-н. ці трапіць куды-н.’. *Калі яшчэ калгасаў не было, ён [Філютчык] ужо тачыў на мяне зубы. У кулакі мяне за маю працу дабіваўся ўпісаць (М. Лобан. Гарадок Устронь). Яшчэ за месяц усё панства мястэчка В. знала, што пісар першага верасня імяніннік, і кожны местачковы пан ужо вастрыў зубы на гэтыя імяніны* (Я. Колас. Пісаравы імяніны).

Паводле І. Снегірова, узнікненне фразеалагізма звязана з перыядам дзейнасці польскага караля Стафана Баторыя (1574–1586), у гербе якога было тры зубы. Калі ён гневаўся на каго-небудзь, то гаварылі, што вострыць зубы на яго.

**Ва ўвесь дух.** *Гл.* на (ва) увесь дух.

**Ва ўнісон.** *Паўкалька з італ. м.* (all’ unisono). Ужыв. са значэннямі ‘сугучна з чым-н. (спяваць, гучаць і пад.)’, ‘узгоднена, зладжана з кім-, чым-н. (рабіць што-н., дзейнічаць)’ і ‘згодна (адказваць, рэагаваць на што-н.)’. *Пасля [матор] загуў роўна і сцішана, ва ўнісон вячэрняй цішыні* (У. Ліпскі. Вогненны рэйс). *Напэўна ж, не адзін уладальнік «Праменя» пазірае на мінскі гадзіннік, чакаючы, пакуль ва ўнісон з Крамлёўскімі курантамі дакладна супадуць стрэлкі, каб адзначыць надыход Новага года* (Вожык. 1983. № 1). *—Акурат так яно і бывае, — ва ўнісон пагадзіліся [суразмоўнікі]* (М. Замскі. У пошуках нажніц).

Першапачаткова слова ўнісон ужывалася як музычны тэрмін для абазначэння сугучча, што ўзнікае пры адначасовай перадачы гуку некалькімі галасамі ці інструментамі.

**Ва ўсякім (у кожным) выпадку.** *Калька з франц.* м. (entout cas). Ужыв. з прыслоўным значэннем ‘пры любых абставінах, безумоўна’ і ў ролі пабочнага словазлучэння са значэннем ‘прынамсі’. *Можна было не хвалявацца — Верамеек у кожным выпадку не прамінеш нават з завязанымі вачамі, абы ішоў пайз раку* (І. Чыгрынаў. Плач перапёлкі). *Данілка думаў, што на гэтым уся цырымонія і скончыцца, ва ўсякім выпадку, для яго* (П. Пестрак. Вярнуўся).

**Ва ўсякім (у кожным) разе.** *Агульны для бел. і ўкр.* (у всякому разі) *м.* Ужыв. са значэннямі ‘пры любых абставінах, безумоўна’, ‘прынамсі’ і ‘усё-такі’ *Усё спрачаліся, хоць пастанову прынялі вядома ўжо якую: бараніцца ў кожным разе!* (М. Гарэцкі.

Віленскія камунары). *Сяргей Карага пачуў, што канвойнікі будуць трымаць яго руку і што яны, ва ўсякім разе, не ворагі яму* (Я. Колас. Сяргей Карага). *Магчыма, і тут яго [Стася] не лічылі за чалавека, але ва ўсякім разе гэтага не сказалі* (А. Чарнышэвіч. На сажалках).

Утвораны па мадэлі з сэнсава тоесным выразам *ва ўсякім (у кожным) выпадку* (*гл.*) — калькай з франц. м.

**Ваяваць (змагацца) з ветракамі.** *Калька з ням. м.* (mit Windmühlen kämpfen). Дарэмна траціць сілы ў барацьбе з уяўнай небяспекай ці несапраўднымі цяжкасцямі. *Самі [бацька і Лёдзя] ускладняюць сабе жыццё… Ваююць з ветракамі, выдумляюць грозных, каверзных праціўнікаў* (У. Карпаў. Сотая маладосць).

Склаўся на аснове аднаго з эпізодаў рамана Сервантэса «Дон Кіхот» (1615), дзе галоўны герой змагаецца з ветракамі, палічыўшы іх за злых веліканаў.

**Вежа са слановай косці.** *Калька з франц.* м. (tour d'ivoire). Абазначае 'індывідуалістычны свет'. *А ўсякія спробы ўцячы ў вежу са слановай косці ад грамадства і тым самым ад сябе як асновы ва ўзаемаадносінах з часамканчаліся марна…* (М. Лужанін. Роздум перад маладымі).

Крылаты выраз належыць франц. паэту і крытыку Сент-Бёву, які ўжыў яго ў вершаваным пасланні «A. M. Villetain» (1837), характарызуючы паэтычную творчасць А. дэ Віньі.

**Векі вечныя (век вечны).** *Агульны для ўсходнесл. м.* Заўсёды, вечна. *Ды не будзе ж так векі вечныя, а прыйдуць нік часы лепшыя* (А. Гурыновіч. Бор).

Вытворны ад фразеалагізма *ва векі вякоў* (*гл.*).

**Весці (павесці) рэй.** Паўкалька з польск. м. (wodzić rej). Быць завадатарам, верхаводзіць, аказваць уплыў на ход чаго-н. *Весці рэй даручылі Дзіміну, і бяседа зашумела, як шуміць яна, калі ёсць юбіляры, аматары тостаў і людзі, якія паважаюць гаспадароў і сябе* (У. Карпаў. Вясеннія ліўні).

Слова *рэй* у польск. м. па-за фразеалагізмам не ўжываецца, але з'яўляецца часткай складанага слова wodzirej 'распарадчык (танцаў)', якое ўзнікла на аснове нямецкага Reigen 'танец, хор, карагод'. Першапачаткова фразеалагізм *wodzić rej* у польск. м. ужываўся ў дачыненні толькі да танцаў — са значэннем 'быць распарадчыкам танцаў'. З блізкім да гэтага значэннем ён выкарыстаны ў паэме Я. Купалы «Бандароўна»: «У гульні сама рэй водзіць, весела міргае, задзіўляе ўсіх чыста, як зара якая».

**Вечная памяць каму.** *Запазыч. з царк. — слав. м.* Ужыв. як пажаданне заўсёды помніць нябожчыка, звычайна за яго справы, учынкі і пад. *Паны лёгка сваіх правоў не аддаюць. Так гаварыў твой бацька, вечная яму памяць* (Л. Ялоўчык. Дачка служанкі).

Паходзіць з заключнай часткі песнапення памінальнай службы.

**Вешаць (апускаць) галаву.** *Калька з франц.* (baisser la tete) або ням. (den Kopf hängen lassen) м. Даходзіць да моцнага адчаю, маркоціцца, адчуваць душэўнае хваляванне. *Мы з твайго пакалення, з кагорты байцоў, ні на хвілю не можам мы вешаць галоў* (А. Куляшоў. Толькі наперад).

Выраз жэставага паходжання: унутраны, псіхічны стан чалавека называецца па знешнім выразніку гэтага стану — апусканні, нахіле галавы.

**Вешаць нос на квінту.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Даходзіць да адчаю, тужыць, маркоціцца. — *Але следу гэтае рэвалюцыі ніхто не затрэ ў гісторыі. — О, не! І вешаць нос на квінту няма чаго!* (Я. Колас. На ростанях).

*Вешаць нос і вешаць нос на квінту* — два фразеалагізмы-сінонімы. Яны адрозніваюцца вобразнасцю і паходжаннем. Першы не патрабуе этымалагічнага аналізу, бо ўсведамляецца як пераносны выраз (калі хтосьці сумуе, то ён звычайна апускае, вешае галаву). Другі фразеалагізм узнік значна пазней, чым першы, але на яго аснове і ў асяроддзі музыкантаў. Вобраз, пакладзены ў аснову фразеалагізма, становіцца зразумелым, калі мець на ўвазе, што музычны тэрмін квінта абазначае найвышэйшую па тону скрыпічную струну, да якой, як да найбліжэйшай, скрыпач амаль што датыкаецца носам, іграючы на інструменце і падтрымліваючы яго падбародкам.

**Вешаць сабак *на каго,*** *каму. Гл. сабак вешаць* на каго, каму.

Віламі па вадзе пісана. *Агульны для ўсходнесл. м.* Невядома, ці ажыццявіцца што-н. А скуль ты знаеш, што яны канешне прыйдуць? Га? То яшчэ віламі па вадзе пісана? (І. Мележ. Мінскі напрамак).

Як правіла, ва ўсіх тлумачальных лексічных слоўніках гэты фразеалагізм змяшчаюць пад словам вілы, хоць на самай справе ён семантычна зусім не звязваецца са значэннем ‘сельскагаспадарчая прылада’. Тут вілы — даўно зніклае слова, што абазначала ‘кругі’. З дзвюх варыянтных форм, у якіх ужываецца выраз (…па вадзе… і…на вадзе…), зыходнай трэба лічыць форму з прыназоўнікам на, што найбольш адпавядае першапачатковай вобразнасці фразеалагізма: віламі (г. зн. кругамі — на чым) на вадзе пісана. Форма па вадзе ўзнікла, відаць, у сувязі з успрыманнем слова вілы як ‘сельскагаспадарчая прылада’.

**Віляць хвастом.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Ужыв. са значэннямі ‘ліслівасцю дамагацца чыёй-н. прыхільнасці’ і ‘хітраваць, крывадушнічаць, ашукваць’. *Змяніўся і выгляд іх*

*[эмігрантаў] хлёсткі, слухмяна віляюць хвастом, японскай чакаючы косткі пад бедным маньчжурскім сталом* (А. Куляшоў. Баранаў Васіль). *А ты, стары, не віляў бы хвастом, а адразу сказаў бы, калі не хочаш, калі табе не даспадобы ў нас…* (Я. Брыль. Мышалоўкі).

Узнік у выніку пераасэнсавання свабоднага словазлучэння, пераносу на чалавека дзеянняў і ўласцівасцей жывёлы, звычайна сабакі.

**Вісець (віснуць, павісаць) у паветры.** *Калька з ням. м.* (schwebt in der Luft). Ужыв. са значэннямі ‘знаходзіцца ў хісткім, няпэўным становішчы’ і ‘не атрымліваць спачувальнага водгуку, падтрымкі іншых людзей’. *Паставіць [гараж] у сваім двары нельга, аў чужы хто пусціць? Так што пытанне з гаражом пакуль што вісела ў паветры* (У. Шахавец. Блакітная мара). *Пагражае [выкладчык] усімі карамі тым, хто ўцякае з лекцый і семінараў. Пагрозы віснуць у паветры* (І. Навуменка. Бульба).

У аснове фразеалагізма — нерэальны вобраз. Параўн.: франц. *être en l’air,* англ. *be in the air* (у абодвух выпадках літаральна «быць у паветры»).

**Вісець на валаску.** *Калька з лац.* м. (de pilo pendet). Аказвацца ў вельмі ненадзейным, небяспечным становішчы. — *Што чуваць, бацюшка? Што піша газетка? — Усё вісіць на валаску, — адказвае бацьку поп. — Захісталіся кардоны* (А. Бялевіч. Малюнкі маленства).

Узнікненне фразеалагізма, відаць, мае сувязь са старажытнагрэчаскім паданнем пра цара Дыянісія Старэйшага і яго прыбліжанага Дамокла, які зайздросціў свайму ўладару, называючы яго самым шчаслівым з людзей. І вось зайздросніка запрасілі ў царскі палац і пасадзілі на трон. Радасць была нядоўгай і перайшла ў страх, бо Дамокл убачыў, што ў яго над галавой вісіць на конскім валаску востры меч. Як растлумачыў Дыянісій, гэты меч — сімвал небяспекі, якая ўвесь час падпільноўвае цара, знак нетрываласці яго шчасця.

**Вісець на тэлефоне.** *Агульны для ўсходнесл. і польск.* (wisieć przy telefonie) *м.* Часта званіць і доўга гаварыць па тэлефоне. — *Мала рухаецеся, — гаворыць урач пацыенту. — Відаць, работа ў вас сядзячая… — Вісячая… Цэлымі днямі вішу на тэлефоне* (Вожык. 1975. № 20).

Сэнсаўтваральным тут выступае назоўнікавы кампанент. *Гл.* таксама *абарваць тэлефон.*

**Вісець (павіснуць) паміж (між) небам і зямлёй.** *Уласна бел.* Знаходзіцца ў хісткім, няпэўным становішчы. *Не, калі ўжо вырашана, ехаць на Узлессе трэба неадкладна. Няма чаго вісець*

*паміж небам і зямлёй. Хутчэй здаваць справы і — на новае месца* (У. Шахавец. Месца ў жыцці).

Узнік, відаць, у выніку аб'яднання двух фразеалагізмаў: *вісець у паветры* 'знаходзіцца ў хісткім, няпэўным становішчы' + *паміж небам і зямлёй* 'у стане няпэўнасці, неўладкаванасці (быць, знаходзіцца, заставацца і пад.)'. Кантамінаваны выраз захаваў значэнне фразеалагізма вісецьу паветры.

**Воз і цяпер там.** *Паўкалька з руск. м.* (воз и ныне там). Ужыв. у ролі другой часткі складаназлучанага сказа з супраціўнымі адносінамі і абазначае 'справа ніколькі не рухаецца ўперад'. *Пытанне разглядалася на розных узроўнях, усе, здаецца, былі згодны, але воз і цяпер там* (А. Мальдзіс. Як імя тваё, мінская вуліца?).

Выраз з байкі І. А. Крылова «Лебедзь, Шчупак і Рак» (1814). У ёй расказваецца, як Лебедзь, Рак і Шчупак разам узяліся везці воз, але Лебедзь цягнуў яго ў неба, Шчупак — у раку, а Рак адыходзіў назад. Як ні стараліся яны, «ды толькі воз і цяпер там».

**Вока за вока <зуб за зуб>.** *Запазыч. з царк. — слав. м.* Адплата злом за прычыненае зло. *А пасля замок на дзверы і запалку пад страху. На вяселлі афіцэры хай пагрэюцца крыху. — Зуб за зуб, за вока вока!* (А. Астрэйка. Прыгоды дзеда Міхеда).

Частка біблейскай формулы закону адплаты (Левіт, 24, 20): «Пералом за пералом, вока за вока, зуб за зуб: як ён зрабіў пашкоджанне на целе чалавека, так і яму трэба зрабіць».

**Вока набіта(-е)** *у каго, чыё, на чым. Агульны для ўсходнесл. м.* (*руск.* глаз набит, *укр.* око набите). Хто-н. вельмі вопытны, каб беспамылкова вызначыць, ацаніць што-н. *[Язэп: ] Неяк таўкуся я па базары, бачу дзяўчына пад вясковую апранутая. Споўдаецца, анічога не прадае... Ага. У мяне вока набітае...* (Х. Жычка. Дзе растуць бяссмертнікі).

Структурна арганізаваны як двухсастаўны сказ, фразеалагізм утварыўся на аснове суадноснага з ім дзеяслоўнага *набіць вока* (на чым), сэнс якога — 'набыць вопыт, уменне хутка вызначаць што-н., ацэньваць'.

**Волас з галавы не ўпадзе** *ў каго, з чыёй. Калька з царк. — слав. м. Ніхто не кране каго-н., ніякай шкоды не зробіць каму-н. Гаварылі, што ў яго і волас з галавы не ўпадзе* (ЛіМ. 6.10.1972).

Выраз сустракаецца ў евангельскім тэксце; Ісус гаворыць сваім вучням: «И власъ главы вашея не погибнетъ» (і волас з галавы вашай не прападзе).

**Воленс-ноленс.** *Транслітэрацыя лац. выразу* volens nolens. Незалежна ад жадання ці нежадання. *Уладзімір Паўлавіч сказаў шмат такога, што воленс-ноленс прымушае задумацца* (І. Дуброўскі. Незамкнуты круг).

Выраз антытэзнай пабудовы, спалучэнне супрацьлеглых слоў. У бел. і *руск. м.* ужываецца і як калька — *воляй-няволяй* (гл.). На аснове лац. выразу ўтвораны яшчэ два фразеалагізмы: *рад не рад* (гл.), *хочаш не хочаш* (гл.).

**Вольнаму воля.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Перадае значэнне ‘як сабе хочаш’, калі гавораць пра таго ці таму, хто не прымае чыіхсьці парад. *Што ж, Васіль, вольнаму воля, а я табе раю ўсё ж такі добра падумаць* (Я. Брыль. У Забалоцці днее).

Узнік з прыказкі *Вольнаму воля, шалёнаму поле* і існуе як яе скарочаны варыянт з тым жа значэннем. Эліпсаваны адпаведнік прыказкі — актыўная моўная адзінка, тады як сама прыказка цяпер ужо ўжываецца радзей: «— Як загадае ўлада пайсці ў калгас, дык і пойдуць усе... — А як не загадае?.. Як тады?.. — Як хто захоча... Вольнаму воля... — А шалёнаму поле?..» (М. Зарэцкі). Прамы сэнс першай прыказкавай часткі звязваецца з правам вольнага, непрыгоннага чалавека мець свабоду дзеяння, пераходзіць, пераязджаць з месца на месца.

**Вольная птушка.** *Відаць, сэнсава змененая калька з ням. м.* (vodelfrei, літаральна «вольная птушка»). Свабодны, ні ад каго не залежны чалавек (пра мужчыну ці жанчыну). *— Ты ж у Шмерлінга ў канторы працуеш? — Шмерлінга я ўжо кінуў. Занудлівы вельмі. Над кожнай капейкай калоціцца. Я цяпер вольная птушка* (Л. Дайнека. Людзі і маланкі).

У ням. м. *vodelfrei* мае значэнне ‘выгнаннік; той, хто не знаходзіцца пад аховай законаў’.

**Вольны казак.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Свабодны, ні ад каго не залежны чалавек. *Я сваіх стрыжаных праз два тыдні распускаю — і да самага верасня вольны казак. Любата. Што хочаш рабі* (І. Навуменка. Сасна пры дарозе).

Словазлучэнне *вольны казак,* на аснове якога ўтварыўся фразеалагізм, сэнсава таўталагічнае, калі мець на ўвазе першапачатковае значэнне другога кампанента: слова *казак* — запазычанне з цюркскіх моў, дзе яно абазначае ‘вольны чалавек’. Вольнымі казакамі ў XV–XVIII стст. называлі сялян і пасадскіх людзей, якія ўцяклі ад феадальнага прыгнёту і пасяліліся на ўскраінах Рускай дзяржавы, Вялікага княства Літоўскага. У казацкіх таварыствах не было прыгонніцтва, кожны меў фармальна роўнае права карыстацца зямлёй, органы ўлады выбіраліся на сходах. Сярод вольных казакоў, асабліва ў Запарожскай Сечы, было нямала выхадцаў з Беларусі.

**Вольны птах.** *Агульны для бел. і ўкр.* (вільний птах) *м.* Свабодны, ні ад каго не залежны чалавек (пра мужчыну). *Ты адзін, Пабла. Малады, дужы. Вольны птах. А ў мяне сям ’я* (ЛЛевановіч. Валанцёр свабоды).

Утвораны на аснове фразеалагізма *вольная птушка* (гл.) — відаць, *калькі з ням. м.*

**Воля ваша (твая).** *Запазыч. з царк. — слав. м.* Ужыв. як ветлівая форма выказвання згоды ці нязгоды з кім-н., абазначаючы ‘як хочаце, як лічыце патрэбным’. — *Я вас арыштую. — Воля ваша, але я не вінаваты* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне).

З евангельскага тэксту: *да будет воля твоя.* Першапачаткова ўжываўся ў дачыненні да Бога, пасля пераасэнсаваўся, стаў дастасоўвацца да любога суразмоўніка.

**Воляй-няволяй.** *Калька з лац.* м. (volens nolens). *Незалежна ад жадання ці нежадання. Унутрана ён адчувае: Швальбе спасавай, таму воляй-няволяй схіліўся перад ім* (І. Навуменка. Сасна пры дарозе).

Выраз антытэзнай пабудовы, спалучэнне супрацьлеглых слоў.

**Вомегам вылазіць** *каму. Уласна бел.* Ужыв. са значэннем ‘адпомсціцца, не праходзіць бясследна’, калі кажуць пра расплату за які-н. кепскі ўчынак. *Яна ж яму сёння хацела сказаць, што балаўство яго вомегам вылазіць* (М. Лобан. На парозе будучыні).

Паходжанне гэтага фразеалагізма становіцца зразумелым, калі высветліць сэнс яго першага кампанента. *Вомег* — гэта другая назва балігалову, двухгадовай расліны з сям’і парасонавых. Пра страшэннай сілы яд, выціснуты з вомегу, ведалі яшчэ ў Старажытнай Грэцыі і карысталіся ім для знішчэння палітычных сапернікаў. Вядома, напрыклад, што славуты філосаф Сакрат быў атручаны вомегам. Лісты вомегу, падобныя на лісты пятрушкі або хрэну, а таксама плады, падобныя да анісавых, калі яны трапяць у ежу, выклікаюць хуткае атручэнне, знешнімі паказчыкамі якога з’яўляюцца ваніты, нястраўнасць жывата і інш. З такім станам хворага і звязана ўзнікненне спачатку свабоднага словазлучэння вомег вылазіць, а потым пераасэнсаванага, якое набыло пад уплывам фразеалагізма бокам вылазіць змененую форму першага кампанента. Выраз на пачатку свайго жыцця ўжываўся, відаць, толькі ў кленічах і быў зламоўным пажаданнем цяжкай хваробы і смерці ад атручэння вомегам.

**Вострый на язык.** *Запазыч. з руск. м.* Знаходлівы ў размове, дасціпны. *[Тадора] пасынка самога баіцца трохі чапаць Злосны і на язык востры — адсячэ зразу, аж абліжашся* (К. Крапіва. Мядзведзічы).

Выраз з агульным аналітычным значэннем. Абодва кампаненты — сэнсаўтваральныя: *востры* суадносіцца са значэннем ‘дасціпны, з’едлівы’, а *язык* — са значэннямі як ‘орган маўлення’, так і ‘здольнасць выказваць свае думкі словамі’. Параўн. прыклады са словам востры ў згаданым значэнні: «востры на слова

чалавек» (Г. Далідовіч), «вострая на слова Марылька» (Т. Хадкевіч). Фразеалагізм, хутчэй за ўсё, склаўся пад уплывам іншага — *востры язык* у каго (гл.) — калькі з франц. м.

**Вострыя вуглы.** *Агульны для ўсходнесл. м.* (*руск.* острые углы, *укр.* гострі кути). Рэзкія бакі чаго-н.; тое, што выклікае рознагалоссі і супярэчнасці. *Прымаецца на выканкоме рашэнне, і трэба пракантраляваць, як яно выконваецца, Голуба там рэдка ўбачыш. Вострыя вуглы не па ім, абыходзіў ён вострыя вуглы* (Э. Ярашэвіч. Святло імя твайго).

Узнік на аснове дзеяслоўнага фразеалагізма *згладжваць вострыя вуглы,* што значыць ‘змякчаць рэзкія бакі чаго-н., вастрыню рознагалосся і супярэчнасцей’. Адарваўшыся ад дзеяслоўнага выразу, гэты фрагмент атрымаў прадметнае значэнне, захаваўшы «долю» семантыкі ўсяго фразеалагізма.

**Востры язык** *у каго. Калька з франц.* м. (lanque effilée). Хто-н. дасціпны, з’едлівы ў размове. *—Хацелася б, каб іх [адмоўных якасцей] у вас было як найменей. — І мне таксама хацелася б гэтага. — У вас востры язык, — стрэліла ў мяне пранізлівым позіркам Мальвіна Ягораўна* (Я. Васілёнак. Бліскавіца).

**Восьмы цуд свету.** *Калька з англ. м.* (eighth wonder of the world). Штосьці дзіўнае, велічнае, незвычайнае. *Я шмат чытаў для свайго ўзросту, гэта былі радкі накшталт радкоў нямецкага паэта Мюлера... І раптам: «Ці завылі ваўкі, ці заенчыў віхор, ці запеў салавей, ці загагала гусь, — я тут бачу свой край, поле, рэчкі і бор, сваю матку — зямлю — Беларусь». Гэта было дзіва. Восьмы — а для мяне першы — цуд свету. А потым былі «Магіла льва», «Бандароўна», — і змяніўся свет. Назаўжды* (У. Караткевіч. Пакуль гэта сэрца б’ецца).

У старажытнасці лічылася, што на зямлі ёсць сем цудаў свету — грандыёзных, надзвычайных збудаванняў: егіпецкія піраміды, вісячыя сады Семіраміды, храм Артэміды ў Эфесе, грабніца Маўсола ў Галікарнасе, Калос радоскі (медная статуя на востраве Родас), маяк на востраве Фарос, статуя Зеўса ў Алімпіі. У наш час выкарыстоўваюць выраз восьмы цуд свету для абазначэння чагосьці новага, нечаканага, надзвычайнага, як бы адштурхоўваючыся ад згаданых даўнейшых сямі цудаў (дарэчы, з магічным лікам сем, які называюць лікам гармоніі і нябеснай дасканаласці; параўн.: сем пірамід, сем мудрацоў, сем дзён у тыдні, сем колераў вясёлкі, сем нот, сем адтулін галавы, сем шыйных пазванкоў…).

**Вось табе <бабка> і Юр’еў дзень!** *Паўкалька з руск. м.* (вот тебе, бабушка, и Юрьев день!). Вокліч здзіўлення, расчаравання ў сувязі з нездзяйсненнем якой-н. надзеі. *Ведаў Канстанцін Міхайлавіч і пра тое, што ў Мінску ўжо гаспадараць немцы. Вось*

*табе і на! А яны з Марыяй Дзмітраўнай збіраліся ў маі ці чэрвені рушыць дахаты... Вось табе і Юр 'еў дзень!* (С. Александровіч. Крыжовыя дарогі).

Да сярэдзіны XV ст. сяляне мелі права пераходзіць ад аднаго гаспадара да другога пасля заканчэння ўсіх палявых работ, перад пачаткам зімы. Затым гэта права было абмежавана строга акрэсленым тэрмінам — за тыдзень да Юр'евага дня (26 лістапада па старым стылі) ці тыдзень пасля яго. А ў канцы XVI ст. быў забаронены пераход сялян і ў Юр'еў дзень, яны былі канчаткова замацаваны за феадаламі. У гэтай сувязі і ўзнік названы выраз, які пасля як вокліч расчаравання стаў прымяняцца і ў іншых маўленчых сітуацыях.

**Воўк дарогу перабег** *каму. Уласна бел.* Вельмі шанцуе каму-н. — Яму, — Ігнат кіўнуў на Адася, — няйначай, сёння воўк дарогу перабег. Я быў упэўнены, што ён прайграе, ажно не... (А. Кудравец. Сачыненне на вольную тэму).

Узнік на аснове павер'я, што воўк, які перабег дарогу каму-небудзь, «прадракае шчасце, а заяц або лісіца — няшчасце» (І. І. Насовіч).

**Воўк у авечай скуры.** *Агульны для ўсходнесл. і польск.* (wilk w owczej skorze) *м.* Чалавек, які маскіруе свае нядобрыя намеры ці дзеянні; крывадушнік. *Вось, паглядзіце на яго. Здаецца — цяля, ягнё. А і ў душы ён — воўк, воўк у авечай скуры. Як можна на яго спадзявацца?!* (А. Макаёнак. Выбачайце, калі ласка).

Склаўся на базе выказвання з Евангелля (Матфей, 7,15): «Сцеражыцеся хлуслівых пракаў, якія прыходзяць да вас у авечым адзенні, а ўнутры ёсць ваўкі драпежныя». Фразеалагізм з аналагічнай вобразнасцю ёсць у ням. (*Wolf im Schafpelz* — воўк у барановым кажусе), чэшск. (*vilk v rouchu beranĉim* — воўк у адзенні барановым) мовах.

**Вочная стаўка.** *Агульны для ўсходнесл.* (*руск.* очная ставка, *укр.* очна ставка) і *балг.* (очна ставка) *м.* Адначасовы і перакрыжаваны допыт абвінавачанага і сведак. *Капітан прынёс пратакол вочнай стаўкі. Саламея, слепячыся, чытала яго* (Р. Сабаленка. Вочная стаўка).

Узнік на аснове словазлучэння *ставіць вочы на вочы,* вядомага ў юрыдычнай справе з даўнейшых часоў. Так, у грамаце вялікага князя літоўскага (1511) «баярам, мяшчанам і ўсёй зямлі Полацкай» чытаем: «...паставити его очи на очи на явном суде хрестіянскомъ, и того, хто вадить, и того, на кого вадить».

**Вочы адкрываюцца (раскрываюцца, адчыняюцца)** *у каго, каму, на што. Агульны для ўсходнесл. м.* (*руск.* глаза открываются, *укр.* очі відкриваються). Хто-н., вызваляючыся ад памылковых поглядаў, пазнае сапраўдны сэнс чаго-н. *[Мотэль] зайшоў у*

*майстэрню і аслупянеў: бывае так, што ў чалавека раптам адкрываюцца вочы на што-небудзь* (А. Чарнышэвіч. Світанне).

Утварыўся на аснове суадноснага дзеяслоўнага фразеалагізма *адкрываць (раскрываць, адчыняць) вочы* (каму на каго, на што), сэнс якога—‘дапамагаць зразумець становішча, рабіць відавочнай праўду аб чым-, кім-н.’.

**Вочы вялікія зрабіліся** *ў каго. Уласна бел.* Хто-н. быў вельмі здзіўлены, збянтэжаны, разгублены. *Толькі цяпер неяк усе звярнулі ўвагу, што каля агню з Дубалекавага атрада не было ні душы. Як вадою змыла. Калі і што? Ва ўсіх вочы вялікія зрабіліся. А Журавінку аж у пот кінула* (М. Лобан. Шэметы).

Структурна арганізаваны як двухсастаўны сказ, выраз утварыўся на аснове суадноснага з ім дзеяслоўнага фразеалагізма *рабіць (зрабіць) вялікія вочы* (гл.).

**Вочы на мокрым месцы** *ў каго. Агульны для ўсходнесл. м.* (*руск.* глаза на мокром месте, *укр.* очі на мокрому місці). Хто-н. часта плача ці гатовы заплакаць. — *Чаго ты растакалася, мамка?.. — Вочы ў мяне на мокрым месцы, Дзінка, — усміхнулася скрозь слезы Аўдоля* (Л. Дайнека. Запомнім сябе маладымі).

Узнік, на думку М. М. Шанскага, у выніку скарачэння выразу ў яго больш поўнай форме *вочы на мокрым месцы ўстаўлены.*

**Вуха на вуха.** *Агульны для бел. і руск. м.* Адно на другое, паслуга за паслугу, рэч за рэч, без даплаты (мяняць, абменьваць і пад.). *Мірошнікаў.. ад Грышкі хоча аднаго — каб ён... дабром прывеціў гасцей, і ўжо толькі за гэта ён, Мірошнікаў, будзе яму вельмі «благадарны» і не паскупіцца на бочкі: як кажуць, вуха на вуха* (У. Рубанаў. Грыбавар).

Паходзіць з жаргону гандляроў жывёлай.

**Вушы вянуць** *<у каго, ад чаго>. Агульны для ўсходнесл. м.* Прыкра, непрыемна слухаць што-н. (недарэчнае, непрыстойнае і пад.). — *Што яны самі расказваюць, гэтыя малалеткі! Ідзіце вунь на калідор ці ў хол, дзе яны кураць, паслухайце. Вушы вянуць, — азваўся Валодзя* (Я. Радкевіч. Між радасцей жыцця).

У аснове фразеалагізма — нерэальны вобраз, заснаваны на прыпадабненні вушэй да лісця дрэва, пялёсткаў расліны, здольных сохнуць, рабіцца вялымі.

**Выбівацца (выбіцца) з каляіны.** *Агульны для ўсходнесл. м.* (*руск.* выбиваться из колеи, *укр.* вибиватися з колії). Ужыв. са значэннямі ‘пераставаць весці прывычны спосаб жыцця’ і ‘выходзіць са стану раўнавагі’. *Раптам Андрэю захацелася паздзекавацца з гэтага чалавека, што выбіўся з каляіны* (М. Лобан. Гарадок Устронь). *Я ўжо да канца дня выбіты з каляіны* (М. Матукоўскі. Амністыя).

Утварыўся ў выніку метафарычнага пераасэнсавання адпаведнага свабоднага словазлучэння, у якім *каляіна* — ‘паглыбленне, след на дарозе ад колаў або ад санных палазоў’. Параўн.: «Фурманка выехала ў поле, колы ціха і мякка шоргалі па пыльных каляінах» (І. Мележ). Гл. сэнсава антанімічны фразеалагізм *уваходзіць у <сваю> каляіну.*

**Выбіваць (выбіць) з каляіны** *каго. Агульны для ўсходнесл. м.* (*руск.* выбивать из колеи, *укр.* вибивати з колії). Прымушаць змяніць прывычны рытм жыцця, звычайны ход спраў. *Мяне смерць Тамаша страсянула ўсяго. Ніколі не думаў, што гэтак выб’е мяне з каляіны* (К. Чорны. Зямля).

Утвораны са свабоднага словазлучэння, як і папярэдні — *выбівацца з каляіны* (гл.).

**Выбіваць (выбіць) з сядла** *каго. Відаць, калька з ням. м.* (aus dem Sattel heden). Пазбаўляць каго-н. цвёрдай упэўненасці ў сабе, выводзіць са стану раўнавагі. *Непаладкі ў калгасе, хвароба жонкі і яе спроба атруціцца маглі выбіць з сядла любога чалавека, толькі не Васько* (А. Асіпенка. Непрыкаяны маладзік).

Паходзіць са свабоднага словазлучэння ў выніку яго пераасэнсавання. У час конных спаборніцтваў патрабуецца выбіць саперніка з сядла.

**Выбіваць (выбіць) клін клінам.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Супрацьдзейнічаць тым жа спосабам, якім выкліканы пэўны стан ці дзеянне. *Не знаходзячы месца ад рэўнасці, падазрэнняў, ён [Андрэй] не мог зрабіць, як робяць у такіх еыпадках некаторыя мужчыны: завесці на старане каханку, выбіваць, як гавораць, клін клінам* (І. Навуменка. Старавіленскі тракт).

Узнік з прыказкі Клін клінам выбіваюць: на аснове канструкцыі, структурна арганізаванай як абагульнена-асабовы сказ, утварылася дзеяслоўнае словазлучэнне параўнальна шырокага дыяпазону спалучальнасці (*выбіваю, выбіваеш* і г. д.). У сваю чаргу ад дзеяслоўнага фразеалагізма ўзнікла суадноснае назоўнікавае ўтварэнне *выбіванне клінам кліна*: Мікалай за прыём браў залатымі рублямі і сваю методу лячэння называў «выбіваннем клінам кліна» (А. Карпюк. Вершалінскі рай).

**Выбываць (выбыць; выходзіць, выйсці) са строю.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Ужыв. са значэннямі ‘траціць працаздольнасць ці баяздольнасць’ і ‘пераставаць дзейнічаць, станавіцца непрыгодным, ламацца, псавацца’. *[Дзед] сяктак ад хваробы выкачаўся. Толькі надоўга выбыў са строю, і Міколкавы прыгоды надалей доўга абыходзіліся без удзелу дзеда Астапа* (М. Лынькоў. Міколка-паравоз). *[Целеш: ] Аварыя ў цэху шасі, Павел Міхайлавіч. Адзін электраматор выйшаў са строю, а ў рэзерве няма* (К. Крапіва. Зацікаўленая асоба).

Утвораны на аснове адпаведнага састаўнога тэрміна, які ўжываецца ў маўленні ваенных, дзе слова строй абазначае ‘воіны, пастроеныя радамі’ і ‘састаў дзеючай арміі’.

**Выбыццё са строю** *чыё, каго. Уласна бел.* Страта магчымасці працаваць, дзейнічаць. *[Нявідны] думае аб тым, у якой ступені выбыццё яго з строю работы адаб’ецца на самой рабоце* (Я. Колас. Дрыгва).

Паходзіць з суадноснага дзеяслоўнага фразеалагізма *выбыць са строю*, адно са значэнняў якога — ‘страціць працаздольнасць ці баяздольнасць’ (гл.).

**Вывесці на арбіту** *каго. Гл.* выводзіць (вывесці) на арбіту *каго.*

**Вывесці на чыстую ваду** *каго. Агульны для ўсходнесл. м.* Выкрыць чые-н. цёмныя справы, нядобрыя ўчынкі. — *Пакажу, зараз пакажу. Выведу я гэту кулацкую каросту на чыстую ваду! А гэта што?! — У руках у Гаварушкі такі было каліва жыта* (М. Лобан. Гарадок Устронь).

Мяркуюць, што фразеалагізм паходзіць з мовы рыбакоў — са словазлучэння *вывесці на чыстую ваду рыбу* (калі яна, клюнуўшы, трапіла на вудачку). Узнікненне выразу звязваюць таксама са старажытным жорсткім звычаем выпрабавання «ведзьмакоў» вадой: падазронага кідалі ў раку, і калі ён усплываў, то лічыўся вінаватым, а калі тануў — несправядліва абвінавачаным. У «Песні пра зубра» М. Гусоўскага чытаем: «Хопіць таго, каб пайшлі пагалоскі ў народзе: „Ён, бач, вядзьмар, і ціхцом ён з нячыстым вядзецца!“ Схопяць у міг бедалагу, павяжуць і рукі, і ногі і кінуць з высокага берага ў вір галавою; бачаць, што топіцца, — што ж, вінавайца, а як не топіцца, лічаць, што вінны напэўна!»

**Вывесці ў поле** *каго.* Устар. *Запазыч. з польск м.* (wyweść w pole). Спрытна, хітра ашукаць, падмануць каго-н. *Дык ты мяне думаеш вывесці ў поле?* (В. Дунін-Марцінкевіч. Пінская шляхта).

Узнік, хутчэй за ўсё, у маўленні паляўнічых. Ім лягчэй (з дапамогай сабак) упаляваць зайца, скіраваўшы яго з лесу ў адкрытае поле. Супастаўім ужыванне фразеалагізма з агаленнем яго ўнутранай формы праз параўнальны зварот, у выніку чаго вобраз, прыхаваны ў фразеалагізме, становіцца этымалагічна празрыстым: «Я чалавек бывалы, маю розум і патраплю яго вывесці ў поле, як зайчыка пад хартоў» (В. Дунін-Марцінкевіч). Ёсць і іншая этымалагічная гіпотэза. Б. А. Ларын у кнізе «История русского языка и общее языкознание» (М., 1977, с. 157) цытуе прыклад з украінскай народнай казкі: «Ты мене вывів у поле» (у значэнні «ты абдурыў мяне»). І далей: «А крыніцай гэтага фразеалагізма быў вельмі старадаўні выраз феадальнай эпохі, які абазначаў „ты выклікаў мяне на судовы паядынак (на суд Божы)“».

**Вывесці ў расход** *каго. Гл.* выводзіць (вывесці; спісваць, спісаць) у расход *каго.*

**Выводзіцца на арбіту.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Станавіцца вядомым. *Мы тут гаворым пра больш сур'ёзнае: пра той агульны арыенцір у сучаснай літаратуры, па якім выводзяцца на арбіту ўсё новыя эпапеі аб Вялікай Айчыннай вайне* (А. Адамовіч. На бестэрміновай перадавой).

Паходзіць з тэрміналагічнага словазлучэння, якое ўжываецца ў галіне касманаўтыкі.

**Выводзіць (вывесці) на арбіту** *каго. Агульны для ўсходнесл. м.* Дапамагаць стаць вядомым, з трывалым месцам у жыцці. *Каб на мяне, дык я б паддаў каленцам не толькі Таўкачу, а й тым жа акружэнцам, якія застаюцца не пабіты, а Таўкачоў выводзяць на арбіту* (М. Скрыпка. Таўкач і акружэнцы).

Узнік у выніку пераасэнсавання тэрміналагічнага словазлучэння, якое ўжываецца ў галіне касманаўтыкі.

**Выводзіць (вывесці; спісваць, спісаць) у расход** *каго. Агульны для ўсходнесл. м.* Знішчаць, расстрэльваць. *Войта Васіля Бусыгу ў расход вывелі як зацятага контррэвалюцыянера* (Я. Колас. Дрыгва).

Склаўся шляхам пераасэнсавання састаўнога тэрміна, якім у рахункаводстве карыстаюцца для абазначэння ўліку выдаткаў.

**Выдаваць (выдаць) нагара** *што. Агульны для ўсходнесл. м.* Ужыв. са значэннямі 'рабіць што-н., займацца чым-н.', 'даваць жыццё чаму-н., спараджаць што-н.' і 'ствараць у працэсе творчай дзейнасці'. *Як ні дзіўна, але да гэтага часу найменш выдалі нагара нашы кансультанты* (М. Танк. Час і літаратура). *Цяпер галоўная функцыя дырэктара заключалася ў тым, што ён выдаваў нагара новыя ідэі* (І. Шамякін. Вазьму твой боль). *Гэта тваё самае лепшае апавяданне, якое ты калі-небудзь выдаваў нагара. Ты проста малайчына!* (В. Зуб. Дзве галавы лепш).

Утвораны на аснове горнага тэрміналагічнага словазлучэння, у якім *нагара* абазначае 'наверх, на паверхню зямлі'. Параўн. ужыванне ў тэрміналагічным значэнні: «Брыгада Уладзіміра Шульгі выдала нагара за суткі тысячу тон руды» (М. Шыманскі).

**Выдаць з галавой *каго.*** *Усходнесл.* Аддаць на расправу. *Жыгун жа «дружка» не пакрые: ён выдаў яго з галавою* (Я. Колас. Адплата).

Першапачатковая форма фразеалагізма — *выдаць галавой* (у такой форме ён нярэдка выкарыстоўваецца і цяпер), а першапачатковая сфера яго ўжывання — суды Кіеўскай Русі. «Выдача галавой» абазначала, што вінаватага аддавалі ў рукі істца, у поўнае яго распараджэнне. Так, «выданы галавой» даўжнік станавіўся рабом таго, у каго пазычаў, і працаваў у яго, пакуль не

адрабляў усяго доўгу. З «выданым галавой» абыходзіліся як з рабом, здзекаваліся, а то і забівалі.

**Выдаць сябе з галавой.** *Гл.* з галавой выдаць сябе.

**Выдраць лысаму валасы (валоссе).** *Уласна бел.* Зрабіць ці, выхваляючыся, мець намер зрабіць што-н. недарэчнае. — *Ну што, выдраў лысаму валасы, вызначыўся? — Зраблю вывады, Сцяпанавіч…* (А. Масарэнка. Баргузінскае лета).

Выраз з паэмы К. Крапівы «Хвядос — Чырвоны нос» (1930). Ужыты ў такім кантэксце: «— Дык і я магу пад кіпець Там якога Чэмберлена. Перад гэтым толькі выпіць Дзеля смеласці нядрэнна… — Так, нішто з цябе ваяка — Выдраць лысаму валоссе, Ды, шкада, вайны ніякай Для цябе не засталося».

**Выйсці на арбіту.** *Гл.* выходзіць (выйсці) на арбіту.

**Выйсці са строю.** *Гл.* выбываць (выбыць; выходзіць, выйсці) са строю.

**Выйсці ў тыраж.** *Гл.* выходзіць (выйсці) у тыраж.

**Выкідванне за вароты** *каго. Агульны для ўсходнесл. м.* Звальненне з работы, пазбаўленне сродкаў існавання. *Выкарыстоўваючы слова «вызваленне», трэба мець на ўвазе, што гэта не выкідванне людзей за вароты прадпрыемстваў і ўстаноў, а перагрупоўка іх з улікам інтарэсаў грамадстваў цэлым* (Звязда. 4.12.1986).

Назоўнікавы фразеалагізм, утвораны на базе суадноснага дзеяслоўнага *выкідваць за вароты* каго ‘звальняць з работы, пазбаўляць сродкаў існавання’.

**Выкідвацца за борт.** *Агульны для ўсходнесл. м.* (*руск.* выбрасываться за борт, *укр.* викидатися за борт). Адхіляцца як непатрэбнае, непрыдатнае. *Цяпер жа, калі адроджаная беларуская гісторыя выкідваецца за борт, калі ўсё вяртаецца на кругі свае, ход развіцця шмат якіх падзей зноў падаецца неаб’ектыўна і тэндэнцыйна, у духу бальшавіцкіх ідэй…* (Г. Лагуновіч. Калі двойчы два — пяць).

Утвораны ад фразеалагізма *выкідваць за борт* каго, што — паўкалькі з франц. м. (гл.).

**Выкідваць (выкінуць) за борт** *каго, што. Паўкалька з франц. м.* (jeter pardessus bord). Адхіляць што-н. ці выракацца каго-н. як непатрэбнага. *Вы зразумейце, Пётр Аляксеевіч, мы жадаем вам толькі лепшага. Мы не хочам, каб само жыццё выкінула вас за борт…* (Л. Гаўрылкін. Не магу без цябе).

Узнік у выніку пераасэнсавання свабоднага словазлучэння, у якім борт абазначае ‘верхні край бакавой сценкі марскога або рачнога судна’.

**Выкідваць (выкінуць) на вуліцу** *каго. Калька з франц.* м. (jeter sur le pave). Ужыв. са значэннямі ‘пазбаўляць жылля’ і

‘звальняць з работы, пазбаўляць сродкаў існавання’. *У практыцы нярэдка здараліся выпадкі, калі сваякі забіралі састарэлых [з дома-інтэрната] і выкідвалі іх потым на вуліцу, выцягнуўшы ўсе зберажэнні* (Звязда. 11.10.1987). *Дзесяткі тысяч рабочых былі выкінуты на вуліцу* (С. Анісаў. Крутымі шляхамі).

Фразеалагізм з жывой унутранай формай.

**Выклікаць агонь на сябе.** *Агульны для ўсходнесл. м.* (*руск.* вызывать огонь на себя, *укр.* викликати вогонь на себе). Ужыв. са значэннямі: 1) знарок адцягваць увагу ворага на сябе замест іншых, 2) прымаць на сябе самае цяжкае, першаму трапляць у небяспеку. *Нашы гарады — гэта мужныя байцы, Валя. І тыя, якія трапляюць у рукі ворага, выклікаюць агонь на сябе* (У. Карпаў. Без нейтральнай паласы). *Парушалі ж дысцыпліну і парадак, як выявілася, найперш і найбольш «пазваночнікі» — дзеці і ўнукі розных начальнікаў. Прымаць супраць іх нейкія меры пакарання — гэта выклікаць агонь на сябе* (Б. Сачанка. Родны кут).

Паходзіць з маўлення вайскоўцаў. У часе баявых дзеянняў іншы раз, каб ратаваць астатніх, даводзіцца знарок адцягваць увагу праціўніка на адзін аб’ект. Параўн.: «— Агонь па НП! — паспеў скамандаваць Алесь і нырнуў у ровік… Рашэнне выклікаць агонь на сябе прыйшло само сабой — другога выхаду не заставалася» (І. Новікаў).

**Выкручванне рук.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Грубы націск на каго-н., каб дабіцца якіх-н. выгад для сябе. *Кіраўнікі адміністрацыі асабіста займаліся выкручваннем рук кангрэсменам, не грэбуючы макарцісцкімі прыёмамі* (Звязда. 22.03.1986).

Утвораны на аснове суадноснага дзеяслоўнага фразеалагізма выкручваць рукі (каму), які абазначае ‘груба націскаць на каго-н., каб дабіцца выгаднага для сябе рашэння якога-н. пытання’.

**Выкручваць (выкруціць) сырыцу** *з каго.* Уласна бел. Поўнасцю падпарадкоўваць сваёй волі, свайму жаданню; муштраваць каго-н. *[Вярэніч: ] Самі сабою толькі хвоі растуць. А ты, Вулляна, з свайго [сына] сырыцы не выкруціла* (А. Петрашкевіч. Трывога).

Узнік у выніку пераасэнсавання свабоднага словазлучэння. Сырыца — саматужна вырабленая скура, якую ў працэсе апрацоўкі пасля вымочвання мнуць і выкручваюць.

**Вылятаць (вылецець) з галавы (памяці) <у каго>**. *Агульны для ўсходнесл. м. Зусім забыцца. [Чарнавус: ] Скажыце, Аляксандр Пятровіч, да якога перыяду адносіце вы сваю знаходку? [Гарлахвацкі:] Да гэтага… як яго… вылецела з галавы…* (К. Крапіва. Хто смяецца апошнім).

Усе кампаненты выступаюць як сэнсаўтваральныя, суадносныя з адпаведнымі словамі свабоднага ўжывання, але

«кожны кампакент паасобку не перадае таго, што яны выражаюць сумесна» (У. П. Жукаў), і не валодае асобным лексічным значэннем як часткай агульнага фразеалагічнага значэння.

**Вымазаць дзёгцем** *каго, што. Гл.* мазаць (абмазаць, вымазаць) дзёгцем *каго, што.*

**Вымушае жадаць лепшага.** *Гл.* пакідае (вымушае) жадаць лепшага.

**Вынас смецця з хаты.** *Агульны для ўсходнесл. м.* (*руск.* вынос сора из избы, *укр.* винос сміття з хати). Выдаванне таго, што не павінны ведаць іншыя, што няславіць каго-, што-н. (сям'ю, калектыў і пад.). *За вынас смецця з хаты па галоўцы не пагладзілі, але Міхаіл Васільевіч не раскайваўся* (Звязда. 29.05.1986).

Вытворны ад суадноснага дзеяслоўнага фразеалагізма выносіць смецце з хаты (*гл.*).

**Вынаходніцтва веласіпеда.** *Агульны для ўсходнесл. м.* (*руск.* изобретение велосипеда, *укр.* винахідництво велосипеда). Абвяшчэнне чаго-н. даўно вядомага ўсім у якасці нібыта новага. *Пра галоўны крытэрый, вынаходніцтва веласіпеда і кодэкс гонару настаўніка* (Настаўн. газ. 22.03.2001).

Паходзіць з суадноснага дзеяслоўнага фразеалагізма вынаходзіць веласіпед 'гаварыць, аб'яўляць пра даўно ўсім вядомае', мае прадметнае значэнне і іншыя ўласцівасці назоўнікавых фразеалагізмаў.

**Вынесці смецце з хаты.** *Гл.* выносіць (вынесці) смецце з хаты.

**Вынесці ўперад нагамі** *каго. Агульны для ўсходнесл. м.* Пахаваць (нябожчыка). *Ніхто не ўбачыць апошняй дзеі апошняй драме пра забойцу планеты — апошняга Каіна: некаму будзе з руін і разваліn вынесці ўсіх уперад нагамі* (В. Вітка. Паэма-араторыя).

Узнік у выніку метанімічнага пераносу. Пэўнае дзеянне атрымала назву па характэрнай дэталі старадаўняга звычаю: нябожчыка выносяць з хаты нагамі ўперад.

**Выносіць (вынесці) смецце з хаты.** *Агульны для ўсходнесл. м.* (*руск.* выносить сор из избы, *укр.* виносити сміття з хати); параўн. у польск. м.: *wynosić smieci za próg*. Выдаваць тое, чаго не павінны ведаць іншыя, што няславіць каго-, што-н. (сям'ю, калектыў і пад.). *[Гудзееў:] І вы правільна зрабілі, што прадралі яго [Самасеева] з пясочкам. Але да райкомая б вам не раіў даводзіць. Навошта смецце выносіць з хаты?* (А. Макаёнак. Каб людзі не журыліся).

Існуюць розныя меркаванні аб паходжанні гэтага фразеалагізма. Лічаць, напрыклад, што ў яго аснове — даўнейшае павер'е: у хатнім смецці бываюць і часцінкі чалавека (валасы,

ногці), па якіх, калі іх выкінуць за парог, нядобразычлівец, злы дух нагоніць на хату насланнё, таму, каб не мець бяды, непрыемнасці, смецце не выкідвалі з хаты, а спальвалі ў печы.

**Выпіць <горкую> чашу да дна.** *Гл.* піць (выпіць) <горкую> чашу да дна.

**Выпрастаць ногі.** *Гл.* ногі выцягнуць.

**Выпусканне пары.** *Уласна бел.* Нядоўгае, узбуджанае, але супакойлівае рэагаванне на што-н. *Неяк у «Народнай газеце» з мэтай выпускання пары былі дадзены ацярушкі з партыйнага архіва* (Р. Барадулін. Апостал нацыі).

Утвораны на базе суадноснага дзеяслоўнага фразеалагізма *выпускаць пару* (гл.).

**Выпускаць (выпусціць) лейцы з <сваіх> рук.** *Агульны для бел. і ўкр.* (випускати віжкі з своіх рук) м. Аслабляць кіраўніцтва чым-н., сілу ўлады над кім-н. *Круты і скупы чалавек дзед Грысь. Хоць сам і не гож ужо гаспадарыць, аднак лейцы з рук не выпускае. З печы камандуе ўдавой-нявесткай і ўнукамі* (А. Васілевіч. Расці, Ганька).

Выраз мог узнікнуць дваякім спосабам. Першы — шляхам метафарызацыі адпаведнага свабоднага словазлучэння, звязанага з кіраваннем канём, запрэжаным у воз ці сані. Другі — як антанімічнае па форме і змесце ўтварэнне ад фразеалагізма *браць лейцы ў <свае> рукі* (гл.). Параўн. ужыванне фразеалагізма з разгортваннем на яго аснове метафарычнага кантэксту і паўтарэннем замененага займеннікам кампанента лейцы: «Мы павінны нешта рабіць, а не выпускаць лейцы з сваіх рук, каб іх падабраў нехта іншы» (К. Крапіва).

**Выпускаць (выпусціць) пару.** *Уласна бел.* (у слоўніках іншых моў не фіксуецца). Узбуджана, як выбух раздражнення, рэагаваць на што-н. і пасля супакойвацца. *Простаў гэтую хвіліну Ядзі патрэбна было выпусціць пару і хоць за вочы аблаіць, прынізіць Калесніка* (Маладосць. 1999. № 4).

Відаць, выраз «паравознага паходжання». З дапамогай пары паравоз гудзеннем падае розныя сігналы.

**Выпусціць джына з бутлі.** *Ужыв. ва ўсходнесл. м.* са значэннем ‘выклікаць нейкі непрыемны неабарачальны працэс, зрабіць штосьці неспадзяванае’. *[Генка: ] Заварыў БарысПятровіч кашу, цяпер, відаць, і сам не рад. [Антаніна Васільеўна: ] Чаму ж не рад? Найвялікшае адкрыццё ўсіх вякоў —як жа тут не радавацца? [Генка: ] Адкрыццё-то адкрыццё, але што з ім рабіць далей?.. Выпусціў джына з бутлі, з якім ніхто справіцца не можа* (К. Крапіва. Брама неўміручасці).

Выраз узнік на аснове персідскай і арабскай міфалогіі, дзе *джын* — добры або злы дух. У «Казцы пра рыбака» («Тысяча і адна

ноч») гаворыцца пра незвычайнае здарэнне з рыбаком. Выцягнуўшы сетку з мора, ён знайшоў у ёй закаркаваны свінцом збанок. Калі свінец быў сарваны, са збанка доўга выходзіў дым, падымаючыся пад неба, а пасля сціснуўся, затрапятаўся і зрабіўся джыкам «з галавой у хмарах і нагамі на зямлі». Злы дух пагражае «забіць рыбака найзлейшай смерцю». Аднак вынаходлівы рыбак знайшоў выйсце, і казка мае шчаслівы канец.

**Высалапіўшы язык.** *Агульны для ўсходнесл. м.* (*руск.* высунув язык, *укр.* висолопивши язик). Ужыв. са значэннямі ‘вельмі хутка, спяшаючыся (бегчы, імчацца і пад.)’, ‘да знямогі, у бясконцых клопатах (бегаць)’ і ‘не шкадуючы сіл, стараючыся (рабіць што-н.)’ *[Алёшу] тады брала злосць на Насту: не можа нічым памагчы. Бегай толькі па яе босы гародамі язык высалапіўшы…* (І. Пташнікаў. Тартак). *Гэтак за пятнаццаць дзён лёгка зараблю на вучобу; замест таго каб цэлы месяц высалапіўшы язык бегаць па Вільні пасыльным* (А. Карпюк. Данута). *[Лушка: ] Ды яшчэ і сваёй карове пасцілку травы з поля цягні язык высалапіўшы!* (А. Макаёнак. Лявоніха на арбіце).

Склаўся на аснове свабоднага словазлучэння, звязанага з паводзінамі сабакі, які пры гарачыні ці стамляльным бегу высалоплівае язык.

**Высмоктваць (высмактаць) з пальца** *што. Відаць, калька з ням. м.* (sich aus den Fingern saugen). Гаварыць, сцвярджаць што-н. без належных падстаў; выдумваць. *[Моцкін: ] А што вы думаеце? Гэту лічбу я з пальца высмактаў? У мяне ёсць квітанцыі* (А. Макаёнак. Выбачайце, калі ласка).

У аснове фразеалагізма — нерэальны вобраз.

**Высокай пробы.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Ужываецца са значэннем ‘выключнай вартасці, якасці, дасканаласці’, калі характарызуюць асобу ці прадмет. *Драма «Партызаны» — дасканалая па мастацкай форме. Мастацтва, майстэрства тут такой высокай пробы, што яго як быццам не заўважаеш* (І. Навуменка. З прастораў жыцця).

Узнік у выніку пераасэнсавання свабоднага словазлучэння, якое бытуе ў асяроддзі ювеліраў; у іх золата ці серабро як матэрыял для вырабу розных рэчаў можа быць самай высокай, высокай або нізкай пробы, што залежыць ад долі высакароднага металу ў сплаве. На колькасць частак гэтага металу ў сплаве паказвае кляймо, якое ставіцца на залатых, сярэбраных і плацінавых вырабах і таксама называецца пробай.

**Выстаўляць дулю (фігу, кукіш)** *каму. Гл.* паказваць (выстаўляць) дулю (фігу, кукіш).

**Высцебаць самога сябе.** *Паўкалька з руск. м.* (высечь самого себя). Выявіць свае дзеянні, слабасці, недахопы і тым

самым нашкодзіць сабе. *[Наталля: ] Што гэта? Выклік? Я і прыняць магу. [Лютынскі:] Прымі, калі ласка! Высцебай сама сябе. Адной унтэр-афіцэрскай удавой больш будзе* (К. Крапіва. Канец дружбы).

Пераасэнсаваны крылаты выраз з камедыі М. В. Гогаля «Рэвізор», дзе гараднічы гаворыць Хлестакову, прыняўшы яго за рэвізора: «Унтэр-афіцэрша нахлусіла вам, быццам бы я яе высцебаў; яна лжэ, дальбог, ілжэ. Яна сама сябе высцебала».

**Выхад з-пад пяра.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Напісанне, стварэнне кім-н. (літаратурнага твора). *Масаваму чытачу, мабыць, і не сніўся такі дарунак... Амаль праз трыццаць гадоў пасля выхаду з-пад пяра твор [ «Сказ пра Лысую гару»] выйшаў у свет* (В. Жуковіч. «Быў час, быў век, была эпоха...»).

Утвораны ад суадноснага дзеяслоўнага фразеалагізма *выходзіць з-пад пяра* каго, чыйго, які абазначае ‘быць напісаным кім-н.’.

**Выхад са строю** *чаго. Агульны для ўсходнесл. м.* Псаванне, паломка чаго-н. *Мы ведалі, што пры любой аварыі ці ў выпадку выхаду са строю якой-небудзь адной машыны калона доўга не затрымлівалася б* (М. Лынькоў. За акіянам).

Вытворны ад суадноснага дзеяслоўнага фразеалагізма *выбываць (выходзіць) са строю* (гл.), адно са значэнняў якога — ‘пераставаць дзейнічаць, станавіцца непрыгодным, ламацца, псавацца’.

**Выхад у свет** *чаго. Агульны для ўсходнесл. м.* Друкаванне, апублікаванне (кнігі, брашуры і пад.). *Ніна заказала Карбюзье задоўга да выхаду кнігі ў свет* (І. Шамякін. Атланты і карыятыды).

Вытворны ад суадноснага дзеяслоўнага фразеалагізма выходзіць у свет, які абазначае ‘быць апублікаваным (пра кнігу, брашуру і пад.)’.

**Выходзіць (выйсці) на арбіту.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Станавіцца прыметным, вядомым, дабівацца больш высокага становішча ў жыцці. *Мікалай Васільевіч сказаў яму пра цябе, што ты ініцыятыўны і з галавой таварыш... Так што ты, браце, выходзіш на арбіту...* (Л. Гаўрылкін. Каця).

Паходзіць з тэрміналагічнага словазлучэння, якое з прамым значэннем выкарыстоўваецца ў галіне касманаўтыкі.

**Выходзіць (выйсці) у тыраж.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Ужыв. са значэннямі ‘становячыся непрыгодным да чаго-н., канчаць ранейшую дзейнасць’ і ‘старэць, станавіцца непрыгодным для выкарыстання’. *[Ульяна Феакцістаўна] бачылаў Іване Сцяпанавічу як не ідэал партыйнага кіраўніка... І вось ён, яе кумір, раптам выйшаў у тыраж* (В. Якавенка. Акно на плошчу). *Змены правапісу звязаны са значнай затратай дзяржаўных сродкаў: у*

*тыраж выходзіць вялікая колькасць кніжнай прадукцыі (у першую чаргу школьныя падручнікі), і гэту прадукцыю трэба друкаваць нанава* (К. Крапіва. Пытанні беларускага правапісу).

Склаўся ў выніку пераасэнсавання аднайменнага састаўнога тэрміна, які ўжываецца ў галіне фінансаў, дзе тыраж абазначае ‘пагашэнне аблігацый і іншых каштоўных папер установай, якая іх выпусціла’.

**Выходзіць са строю.** *Гл.* выбываць (выбыць; выходзіць, выйсці) са строю.

**Выцягнуць гізунты** *з каго. Гл.* цягнуць (выцягнуць) гізунты *з каго.*

**Выцягнуць жылы** *з каго. Гл.* цягнуць (выцягнуць) жылы *з каго.*

**Выцягнуць ногі.** *Гл.* ногі выцягнуць.

**Выяда душы.** *Уласна бел.* Назойлівы, надакучлівы чалавек. *І зноў, як там, у кабінеце, Зімаўцу захацелася турнуць ад сябе выяду душы* (В. Карамазаў. Пушча).

Вытворны ад суадноснага дзеяслоўнага фразеалагізма *выядаць душу* каму ‘моцна хваляваць каго-н., дакучаючы чым-н. непрыемным’.

**Вяртацца (вярнуцца) у строй.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Набываць працаздольнасць ці баяздольнасць. *Далей [Алесь] павінен сам паклапаціцца пра сябе. Уласна кажучы, клопат у яго адзін — хутчэй вярнуцца ў строй, знайсці сваё месца ў вайне з фашызмам* (І. Шамякін. Гандлярка і паэт).

Узнік у выніку пераасэнсавання тэрміналагічнага словазлучэння, якое ўжываецца ў маўленні ваенных, дзе слова *строй* абазначае ‘воіны, пастроеныя радамі’ і ‘састаў дзеючай арміі’.

**Вясельны генерал.** *Пайкалька з рускі. м.* (свадебный генерал). Вядомая, важная асоба, запрошаная на якую-н. імпрэзу з мэтай надаць значнасць гэтай падзеі. *Пытанне пра падбор гасцей таксама адпадае: Любан — дырыжор, Вольфсан і Ляўкой — на ролях вясельных генералаў* (Г. Колас. «Жыву пад аховай…»).

Склаўся на аснове апавядання А. П. Чэхава «Вяселле з генералам» (1884), дзе апісваецца пашыраны ў асяроддзі купецтва і мяшчанства звычай запрашаць, наймаць генерала на вяселле, ды яшчэ абавязкова ардэнаносца: «Страшэнна ім хочацца, каб на вяселлі генерал! Тысячу рублёў не трэба, а толькі пасадзі за іх стол генерала!»

**Вясёлая міна пры дрэннай гульні.** *Гл.* добрая (вясёлая) міна пры дрэннай гульні.

# Г

**Гавары з чортам пацеры!** *Уласна бел.* Выказванне абурэння, незадавальнення тым, з кім немагчыма весці размову, ніяк нельга дамовіцца. *— Ніхто вам зайздросціць не стане. — Вось і гавары з чортам пацеры! Відаць, не ўсім вялікім пад святымі сядзець* (А. Махнач. На паляванні).

*Пацеры* — малітва, тэкст, які гавораць вернікі, калі звяртаюцца да Бога. У вобразнай аснове фразеалагізма як бы супрацьпастаўляюцца Бог (праз пацеры) і чорт; з гэтага вынікае зыходны сэнс: немагчыма гаварыць з чортам тое, што яму процiпаказана.

**Гаворыць сам(-а, — о, — і) за сябе.** *Калька з лац. м.* (res ipsa per se vociferatur; літаральна «справа гаворыць сама за сябе»). Выразна сведчыць пра што-н., не патрабуючы іншых пацвярджэнняў. *Ужо адзін факт, што Саід мае тры аўтамашыны, гаворыць сам за сябе* (А. Мяснікоў. Рэаліі Арабскіх Эміратаў).

Тут дзеяслоўны кампанент — сэнсаўтваральны, суадносны са значэннем ’сведчыць аб чым-н., паказваць на што-н.’.

**Гадаваць змяю на сваіх грудзях.** *Гл. змяю гадаваць на сваіх грудзях.*

**Гадзіна (змяя) падкалодная.** *Агульны для бел. і руск.* (змея подколодная) *м.* Агідны, шкодны, каварны чалавек, які дзейнічае спадцішка. *Адцураўся сын, выракся... Гэта Альжбета так яго навучыла, змяя падкалодная... Гэта ж трэба — прыедзе, а да бацькі і воч не пакажа...* (М. Гіль. На заходзе сонца).

Узнік у выніку супастаўлення каварнага чалавека з гадзінай (змяёй), што хаваецца пад калодай і джаліць спадцішка.

**Гадзіны(-а) пік.** *Калька з франц.* (heures de pointe) ці *паўкалька з англ.* (peak hours) *м.* Час найвышэйшага напружання ў рабоце транспарту, прадпрыемства і пад. *У магазіне было цесна і душна, як у тралейбусе ў гадзіну пік* (А. Крыга. Паўночны фарватэр).

**Гад печаны.** *Уласна бел.* Агідны, шкодны чалавек. *Гэтак жа нацярпеліся ад таго гада печанага, дык ва ўсіх языкі паразвязаліся: усё яму прыгадалі, за ўсё аддзячылі* (Р. Сабаленка. Іду ў жыццё).

Узнік у выніку «разгортвання слова ў фразеалагізм» (В. М. Макіенка). Выраз абазначае тое самае, што і слова *гад* у сваім другім, пераносным сэнсе (‘вылюдак’), але адрозніваецца павышанай экспрэсіўнасцю, бо «нарошчаны» кампанент-

прыметнік лагічна можа спалучацца са словам гад толькі ў яго зыходным значэнні ‘змяя, гадзюка’. Пры ўзнікненні фразеалагізма адбылася аднячасовая каламбурная рэалізацыя двух значэнняў, накладанне на прамое значэнне ‘змяя’ пераноснага з далейшым далучэннем экспрэсіўнага дадатку. Параўн. ужыванне слова *гад* і фразеалагізма *гад печаны* ў наступным урыўку: «Я гэтага гада ведаю… Ён строіў з сябе такога пільнага, адданага, што другога такога, як ён, пашукаць трэба было… А сам, гад печаны, вунь куды меціў. У фюрэры» (Р. Сабаленка). Або: «Ох, гад жа я, гад печаны. Як толькі хапала ў мяне дзёрзкасці сказаць табе кепскае слова і падняць на цябе руку!» (Я. Колас).

**Гады ў рады.** *Уласна бел.* Занадта рэдка, з вялікімі, працяглымі прамежкамі (бываць дзе-н., бачыцца, сустракацца з кім-н., зайсці куды-н. і пад.). *Жэня паехала, як многія тады, у Пецярбург, працавала там на панчошнай фабрыцы, гады ў рады наведваючыся ў Аўсяніке* (Я. Брыль. Золак, убачаны здалёк). Зрэдку фразеалагізм ужыв. і з перастаноўкай кампанентаў (у форме рады ў гады). *А кніжка ж не з тых, якія чытач бярэ і будзе браць у рукі толькі «рады ў гады»* (Ф. Янкоўскі. Навукова, грунтоўна).

Знешняя нелагічнасць унутранай формы гэтага фразеалагізма вытлумачваецца тым, што тут спайка кампанентаў рэгулюецца рыфмай. У падобных рыфмаваных выразах фармальнае нярэдка пераважае над лагічным, семантычным. Магчыма, у аснове фразеалагізма — вобраз гадоў, выстраеных у рады. Абумоўлены рыфмай кампанент рады першапачаткова мог асацыіравацца з радзей, чым трэба, чым хацелася б. Параўн. у «Слоўніку беларускай мовы» І. І. Насовіча: рэдзь у рэдзь ‘вельмі рэдка’.

**Газеты чытаць.** *Уласна бел.* Галадаць (звычайна пра каня). *[Ладымер: ] Мы старыя гаспадарскія хлявы паразбіралі, а новага не паробім, от на зіму і паставім коні на скавышы газеты чытаць* (К. Чорны. Лета).

Склаўся, відаць, на аснове даўнейшага, зафіксаванага І. І. Насовічам выразу *глагалы чытаць* ‘іржаць, будучы без корму’, першапачатковае значэнне якога ‘гучна чытаць малітвы на пачатку ютрані — ранішняй царкоўнай службы’ Устарэлае і незразумелае глагалы было заменена словам газеты.

**Галава варыць** *у каго. Агульны для ўсходнесл. м.* Хто-н. разумны, кемлівы, знаходлівы. Васька — маладзец: галава варыць у яго (І. Козел. Над хвалямі Серабранкі).

Можна лічыць, што кампанент *галава* тут удзельнічае ў стварэнні агульнага фразеалагічнага сэнсу сваім зыходным, першасным значэннем ‘верхняя частка чалавечага цела, якая заключае ў сабе мозг’ — з патэнцыяльнымі семамі, якія ў

слоўнікавых дэфініцыях не паказваюцца: 'умяшчальня разумовых здольнасцей'. Параўн., напрыклад: «Галава ў яго не дурная...» (Ц. Гартны). Або: «Сэрца ў цябе залатое. А галава, дык я ўжо і не ведаю, як сказаць... міністэрская, не іначай» (К. Крапіва). Дзеяслоўны ж кампанент *варыць* выконвае фразеўтваральную функцыю. Параўн. паралелі ў некаторых іншых мовах: польск. *główka pracuje* (літаральна «галоўка працуе»), балг. *сече главата* (літаральна «працуе галава»), іспан. *cabeza carbura* (літаральна «галава карбюрыруе»), турэц. *kufasi ialetek* (літаральна «галава робіць»).

**Галава тлуміцца** *чыя, каго чым, кім. Уласна бел.* Хто-н. уводзіцца ў зман, заблытваецца кім- ці чым-н. *У маналозе даецца ясны адказ на ўсе гэтыя «быць альбо не быць», якімі ўжо каторае дзесяцігоддзе тлумяцца галовы неразумных людзей* (В. Гігевіч. І сказана было...).

Структурна арганізаваны як двухсастаўны сказ, фразеалагізм утварыўся на базе суадноснага дзеяслоўнага тлуміць (дурыць) галаву (каму), першае значэнне якога — 'знарок падманваць каго-н.'.

**Галаву мыліць (намыліць)** *каму.* Абазначае 'моцна прабіраць каго-н., выгаворваць з дакорам'. *Бывала, у нас, на Кубані, калі жніво, камбайн пастаіць у стэпе гадзіну, то таму камбайнеру галаву адразу намыляць. А тут!..* (І. Мележ. Мінскі напрамак).

Ужыв. толькі ва ўсходнесл. м., і гэта дало падставу некаторым даследчыкам звязваць узнікненне фразеалагізма з даўнейшай бестэрміновай салдацкай службай у Расіі, са звычаем брыць навабранцам ілбы, а значыць, і намыльваць галаву. На самай справе выраз *намыліць (мыліць) галаву* склаўся ў ХІХ ст. на аснове фразеалагічнай калькі з ням. м. (*den Kopf waschen* — «галаву мыць»; параўн. у сучаснай польск. м.: *zmyć* — таксама калька з ням. м.). Ва ўсходнесл. м. атрымалася замена дзеяслоўнага кампанента словам той жа семантычнай групы *(мыць — мыліць).*

**Галаву прыхінуць (прыхіліць, прытуліць)** *дзе, да каго. Калька з царк. — слав. м.* (приклонить главу). Знайсці прыстанішча, жыць, знаходзіцца дзе-н. ці ў каго-н. А каму цяпер лёгка? Да самага Падмаскоўя ўсё спалена, зруйнавана, адны коміны стаяць, галавы няма куды прыхінуць (С. Грахоўскі. Ранні снег). Я прашу вас... мне каб толькі... галаву прыхіліць... дачакаць дню... (Э. Самуйлёнак. Будучыня).

Крыніцай выразу паслужыў евангельскі тэкст (Лука, 9, 58). Ісус сказаў пра сябе беспрытульнаму бедняку: «Лісіцы маюць норы і птушкі свае гнёзды, а сын чалавечы не мае дзе прыхінуць галаву».

**Галасаваць (прагаласаваць) абедзвюма рукамі** *за кого, за што. Агульны для ўсходнесл. м.* (*руск.* голосовать обеими руками, *укр.* голосувати обома руками). З вялікай ахвотай і поўнасцю падтрымліваць каго-, што-н. — *Палешукі абедзвюма рукамі галасуюць за Саветы, — адказаў Галавін, — аднак баяцца, што адна Беларусь не выстаіць супраць белапольскіх легіянераў* (І. Гурскі. Вецер веку).

Утвораны па аналогіі з ужо існуючым фразеалагізмам хапацца абедзвюма рукамі за што (*гл.*). У аснове фразеалагізма — гіпербалізаваны вобраз.

**Галопам па еўропах.** *Запазыч. з руск. м.* (галопом по европам). Павярхоўна, не сур'ёзна, не ўдаючыся ў дэталі (рабіць што-н.). *Аўтар нават не перагарнуў падручнікі, не кажучы ўжо пра тое, каб прайсціся па іх хоць бы ў сваёй манеры «галопам па еўропах»* (Р. Шкраба. Супраць нігілізму і дылетанцтва ў літаратуразнаўстве).

Паходзіць ад назвы апублікаванага ў 1928 г. артыкула рускага паэта А. А. Жарава. У артыкуле апісваецца кароткая паездка аўтара па краінах Еўропы.

**Ганяць гусей.** *Уласна бел.* Ужыв. у дачыненні да п'янага са значэннем 'ісці хістаючыся'. *Лядзяш, ацяжэлы, лічы, віснуў на Алесевым плячы і, як кажуць, ганяў гусей — хістаўся ўбакі, гроб нагамі зямлю, падаў* (Г. Далідовіч. Гаспадар-камень).

Склаўся на аснове аднайменнага свабоднага словазлучэння ў выніку яго метафарызацыі. Пастух, гонячы чараду гусей, мусіць ісці ўслед за імі не па прамой, а па ламанай лініі.

**Гарадзіць плот.** *Уласна бел.* Выкручваючыся ў размове, гаварыць глупства, выдумляць што-н. *Янка, Янка! Што віляеш? Каго за нос водзіш? Ці мяне за дурня маеш? Што ты плот гародзіш?* (Я. Колас. Як Янка забагацеў).

Выраз генетычна каламбурнага характару. Склаўся ў выніку адначасовай рэалізацыі прамога і пераноснага значэнняў дзеяслова гарадзіць ('ставіць што-н.: паркан, плот і пад.' і 'гаварыць бяссэнсіцу, выдумляць') з далейшым дапаўненнем каламбурна выкарыстанага дзеяслова экспрэсіўным дадаткам плот.

**Гарачая галава.** *Калька з франц.* (têle chaude) ці ням. (ein hitziger Kopf) *м.* Нястрыманы, неразважлівы чалавек, які захапляецца, дзейнічае паспешліва. *Хто пра іх паклапоціцца, абароніць ад такіх гарачых галоў, як ротмістр Ягашын?* (І. Шамякін. Першы генерал).

Абодва кампаненты сэнсава суадносяцца з такімі ж словамі свабоднага ўжывання ў пэўных іх перыферыйных значэннях ці адценнях: *гарачы* — са значэннем 'запальчывы, нястрыманы':

«Юра гарачы, упарты» (Я. Бяганская); *галава* — з адценнем ‘чалавек як носьбіт якіх-н. уласцівасцей, якасцей’: «Букрэй быў вядомы ў батальёне як адважная, смелая, камбінатарская галава» (Я. Колас). Дарэчы, у ням. м. прыметнік *hitzig* абазначае ‘гарачы, запальчывы’, а складаны назоўнік *Hitzkopf* — ‘запальчывы чалавек’.

**Гарматнае мяса.** *Калька з франц. м.* (chair a canon). Салдацкая маса, асуджаная на знішчэнне, на пагібель. *Гарматнае мяса скуплялі вярбоўшчыкі ўсюды ў цёмных прытонах зямлі* (П. Панчанка. Да ганебнага слупа!).

Крылаты выраз належыць франц. пісьменніку Ф. Шатабрыяну, які ў памфлеце «Пра Банапарта і Бурбонаў» (1814) пісаў, што пры Напалеоне пагарджалі чалавечым жыццём і Францыяй, а «навабранцаў называлі сыравінай і гарматным мясам».

**Геркулесавы слупы** *чаго.* Ужыв. ва ўсходнесл., польск. і некаторых іншых мовах са значэннем ‘вышэйшая, крайняя ступень, мяжа чаго-н.’. *Тры арыфметычныя дзеянні — складанне, адыманне і множанне — з’яўляліся геркулесавымі слупамі яго [Дамініка Ануфрыевіча] пісьменнасці* (В. Івашын. Янка Купала).

Выток фразеалагізма — грэч. міфалогія, міфы пра подзвігі Геркулеса. Першапачаткова геркулесавымі слупамі называлі дзве скалы на супрацьлеглых берагах Гібралтарскага праліва — «край свету», паводле ўяўлення старажытных грэкаў. Паставіў гэтыя слупы нібыта Геркулес, які прайшоў усю Афрыку і дасягнуў «канца зямлі».

**Гісторыя з геаграфіяй.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Нечаканы ход падзей, непрадбачаныя абставіны. — *Слухай, Свіст, а завошта ты ў лагер трапіў? — Ах, гэта доўгая гісторыя. Гісторыя з геаграфіяй. Была справа, ага* (В. Быкаў. Жураўліны крык).

Даўней у школах царскай Расіі выкладаўся прадмет «гісторыя з геаграфіяй». Ад гэтай назвы і ўзнік фразеалагізм, які будуецца на каламбурным сутыкненні і адначасовым выкарыстанні двух значэнняў слова *гісторыя*: ‘вучэбная дысцыпліна’ і ‘здарэнне, выпадак’.

**Глухая цяцера.** *Агульны для ўсходнесл. м.* (*руск.* глухая тетеря, *укр.* глуха тетеря). Ужыв. у дачыненні як да жанчыны, так і да мужчыны і абазначае ‘чалавек, які кепска чуе’. *І так, відаць, Хвядосу было прыемна валтузіцца з возам, што ён не пачуў, калі падышла Насця. Яна пабаялася, каб хоць не злякаць гэтую глухую цяцеру, і яшчэ за колькі метраў моцна кашлянула: — Кхе-кхе!* (В. Гардзей. Жыта ганьбу не заслоніць).

Утварыўся на аснове фразеалагізма глухі цецярук (*гл.*).

**Глухі цецярук.** *Агульны для ўсходнесл. м.* (*руск.* глухой тетерев, *укр.* глухий тетерук). Мужчына, які кепска чуе. *[Макрына:*

*] Тады сядзі на печы і не швэндайся па хатах!.. [Мікола: ] Але ў латах! Увесь у латах... ведама, бедны!.. [Макрына: ] Ото, глухі цецярук!..* (У. Галубок. Краб).

Склаўся на аснове назіранняў за паводзінамі цецерука ў часе такавання. Будучы вельмі асцярожнай і чуткай птушкай, цецярук на такавішчы, распусціўшы крылле, «песняю выклікае, падзывае сваю сяброўку» (А. Бялевіч) і тады нічога не чуе і не бачыць. У гэты час да яго можна лёгка падысці паляўнічаму.

**Глядзець (глянуць) праз (скрозь) пальцы** *на каго, на што. Калька з ням. м.* (durch die Finger sehen). Свядома не заўважаць што-н., знарок не звяртаць увагу на што-н. (часцей адмоўнае). *Нават камісар брыгады Павел Адамавіч, вельмі строгі дайсялякіх «анархічных выбрыкаў», як ён казаў, на гулянку разведчыкаў глядзеў скрозь пальцы* (І. Шамякін. Шлюбная ноч).

У аснове фразеалагізма — нерэальны вобраз.

**Глядзець праз ружовыя акуляры** *на каго, на што. Калька з ням. м.* (durch rosige Brille sehen). Не заўважаючы недахопаў у кім-, чым-н., ідэалізаваць каго-, што-н. *[Касцюшка] проста начытаўся кніг і глядзеў на жыццё, на свет праз ружовыя акуляры* (І. Навуменка. Летуценнік).

Фразеалагізм успрымаецца як матываваны.

**Глядзець праз (цераз) чорныя акуляры** *на каго, на што. Агульны для ўсходнесл. м.* (*руск.* смотреть сквозь черные очки, *укр.* дивитися крізь чорні окуляри). Не заўважаючы нічога добрага ў кім-, чым-н., чарніць, ганьбаваць каго-, што-н. *Адкульу цябе гэтая хвароба? На ўсё глядзіш цераз чорныя акуляры. Лазавенка цябе падседжвае, «топіць»... Ладынін яму дапамагае...* (І. Шамякін. У добры час).

Узнік як антанімічнае ўтварэнне на аснове фразеалагізма *глядзець праз ружовыя акуляры* на каго, на што (*гл.*).

***Глядзець у корань.*** *Паўкалька з руск. м. (смотреть в корень). Унікаць у сутнасць, звяртаць увагу на самае істотнае, галоўнае ў якойсьці справе. Трэба глядзець... у корань! Дарогі назад няма, так і скажыце ўсім (І. Мележ. Подых навальніцы).*

Крылаты выраз, аўтар якога К. Пруткоў. У яго «Думках і афарызмах» (1854) пад нумарам 6 ідзе: «Смотри в корень!»

**Глядзець у лес.** *Гл.* у лес глядзець.

**Глянуць праз пальцы** *на каго, на што. Гл.* глядзець (глянуць) праз (скрозь) пальцы *на каго, на што.*

**Гнацца (пагнацца) за двума зайцамі.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Брацца адразу за некалькі спраў. *Касцюшка ідзе да рэдактара з заявай аб звальненні. Нельга гнацца за двума зайцамі. Трэба выбіраць адно: работу ў газеце ці заняткіў аспірантуры* (І. Навуменка. Летуценнік).

Паходзіць з прыказкі *За двума зайцамі пагонішся, ніводнага не зловіш* і знаходзіцца ў семантычнай сувязі з яе сэнсам ‘калі возьмешся адразу за некалькі спраў, не даб’ешся вынікаў ні ў адной’. Дзеяслоўны кампанент фразеалагізма набыў здольнасць рэалізаваць розныя формы: *ганюся, гонішся, пагналіся* і інш.

**Гнуць <сваю> спіну (горб).** *Калька з франц. м.* (courber le dos). Ужыв. са значэннямі ‘мардаваць сябе працай’ і ‘працаваць на каго-н.’ *Цяпер рабочыя пакажуць, як з імі трэба абыходзіцца. Годзе гнулі свае спіны* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Парадак, пры якім адны пануюць, другія — гнуць на іх спіну, Рагамед лічыў асуджаным на пагібель* (І. Навуменка. Смутак белых начэй).

Фразеалагізм з жывой унутранай формай.

**Гог і магог.** *Відаць, паўкалька з англ. м.* (Gog and Мадод). Люты чалавек, які выклікае страх. *Пяшчотны голас шаптаў над вухам Антося: — Вось яго прывялі... На пытанні аб прозвішчы адказаў. Абазваў нас гогам і магогам і яшчэ казалупамі...* (У. Караткевіч. Госць прыходзіць на золкім світанні).

Выток фразеалагізма — Біблія. У ёй (Апакаліпсіс, 20; Іезікііл, 38, 39) згадваецца Гог як люты цар і яго царства Магог, дзе жыў дзікі, бязлітасны народ. У п’есе Ю. Станкевіча «Армагедон — 1895» у ліку дзейных асоб выступаюць Гога, Магога, Даджам. Ёсць і аўтарскае «неабходнае тлумачэнне»: «У старажытнай хрысціянскай міфалогіі ў тэкстах, характэрных для ўсіх рэлігій, згадваюцца Гога і Магога — дзве асобы (ці два дзікія народы), прышэсце якіх павінна было папярэднічаць Страшнаму суду. У Каране Гог і Магог таксама ўспамінаюцца як дзве асобы, якія жывуць у „скрайніх межах Зямлі“, Даджам (Шайтан) трымае іх у сваім падпарадкаванні».

**Голаму за пазуху.** *Уласна бел.* Зусім кяма (чаго-н.). *Работа Івану Красоўскаму ўсё не траплялася, прыпасаў — голаму за пазуху, а голад — не цётка, кішкі марша гралі* (І. Новікаў. Да світання блізка).

У аснове фразеалагізма — нерэальны вобраз, пабудаваны на алагізме.

**Голас у пустыні.** *Гл.* <марны> лямант (голас) у пустыні.

**Голы кароль.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Пасрэдны чалавек з прэтэнзіяй на аўтарытэт ці з перабольшаным аўтарытэтам. *Уяўляеце вы сабе сімпатычнага брандахлыста, фантазёра, які проста голы кароль?* (У. Караткевіч. Да новых, яшчэ шырэйшых далягядаў).

Паходзіць як абазначэнне пэўнага паняцця з прыказкі *Кароль <жа> голы*, якая выражае суджэнне, выступае не як намінатыўная, а як камунікатыўная адзінка з сэнсавай і інтанацыйнай завершанасцю. Яе сэнсавы змест — ‘якая-н. палітыка або чый-н. аўтарытэт на самай справе беспадстаўныя,

фальшывыя, уяўныя’: «У грамадстве культывавалася „палітыка згоды“ (модная не толькі зараз), калі ніхто не адважваўся сказаць, што кароль жа голы» (Звязда. 1.01.1993). Гэта прыказка паводле паходжання — калька з дацкай м., а па сферы першапачатковага ўжывання — крылаты выраз з казкі Х. К. Андэрсена «Новае ўбранне караля» (1837). У ёй расказваецца, як два ашуканцы ўзяліся выткаць для караля найтанчэйшую тканіну і сшыць яму адзенне, якое не маглі бачыць толькі дурні ды тыя, хто не адпавядае сваёй пасадзе, прызначэнню. Падмануты кароль у гэтым «адзенні», а фактычна галышом ішоў па вуліцы. Усе, баючыся апынуцца ў дурнях, захапляліся хараством каралеўскага «адзення». І толькі адзін хлопчык закрычаў: «А кароль жа голы!» Усім стала зразумела, што яны абдураныя.

**Гол як сакол.** *Агульны для бел. і руск. м.* Вельмі бедны. *Уваходзіў у хату ён гол як сакол… доўга думаў над доляй сваёй* (А. Куляшоў. Млынар).

Аналагічная вобразнасць і той жа каламбурны прыём утварэння назіраюцца ў сінанімічным балг. фразеалагізме *гол като пушка.* І *пушка* (‘стрэльба’), і *сакол* — словы ваеннай лексікі, толькі другое — гістарызм, якім даўней называлі вялікі чыгунны таран для разбурэння крапасных сцен. Яго падвешвалі на ланцугах, разгойдвалі і канцом білі ў сцяну ці вароты. Сакол быў гладкі, «голы». У аснове фразеалагізма — адначасовае выкарыстанне двух значэнняў прыметніка *голы*: ‘бедны’ і ‘неапранены’; на першае значэнне накладзена другое, якое выклікала адпаведнае параўнанне *(як сакол).* Рыфмічнае сугучча — дадатковы сродак «спайкі» фразеалагізма.

**Гордзіеў вузел.** *Крылаты выраз з грэч. міфалогіі.* Заблытаная справа, складанасць, цяжкасць. *На жыццёвым шляху кожнага чалавека трапляюцца свае гордзіевы вузлы* (А. Карпюк. Пушчанская адысея).

Паводле міфа, Гордзій, да таго як стаў царом Фрыгіі, быў простым земляробам. Калі ён араў на валах, арол сеў на ярмо. Гэта прадказвала Гордзію, як растлумачыла прарочыца, царскую ўладу. Якраз у фрыгійцаў у хуткім часе не стала цара, і яны, выконваючы волю аракула, выбралі таго, хто першы на калёсах ехаў па дарозе да храма Зеўса. Гэта быў Гордзій. Стаўшы царом, Гордзій паставіў калёсы ў храм, а ярмо прымацаваў да дышля такім заблытаным вузлом, што ніхто не мог яго развязаць (гл. *секчы гордзіеў вузел).*

**Гром грымнуў.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* гром грянул, *укр.* грім вдарив). Узнікла небяспека, пагроза; здарылася бяда. *Калі карэктура нумара з тваёй камедыяй «Таблетку пад язык» і паэмай «Варшаўскі шлях» была падпісана ў друк, грымнуў гром* (К. Кірэенка. Размова з Андрэем Макаёнкам).

Паходзіць з прыказкі *Пакуль гром не грымне (не загрыміць), мужык не перахрысціцца*, сэнс якой — ‘пакуль не здарыцца непрыемнасць, бяда, бестурботны чалавек не думае пра гэта’.

Грош цана <у базарны дзень> *каму, чаму. Агульны для ўсходнесл. м.* Хто-, што-н. не мае ніякай каштоўнасці, нічога не варты (не варта). *Калі немец будзе адчуваць сябе гаспадаром у нашым родным кутку — грош нам цана* (К. Чорны. Герой Савецкага Саюза Ціхон Піменавіч Бумажкоў). *Паказанню таму грош цана ў базарны дзень* (М. Машара. «Крэсы» змагаюцца).

Першапачаткова ўжываўся ў форме *грош цана*, яго літаральнае значэнне — ‘самая мізэрная цана’. Узнік, відаць, пасля таго як у выніку грашовай рэформы 1838 г. у Расіі грош стаў самай дробнай разменнай манетай — паўкапеечнай. Пашырэнне кампанентнага складу фразеалагізма экспрэсіўным дадаткам у *базарны дзень* — з’ява пазнейшага часу.

**Грушы (грушкі) на вярбе.** *Агульны для бел., укр.* (на вербі груші) і *польск.* (guszki na wierzbie) *м.* Недарэчнасць, несусвеціца. *Фантазія неадлучная ад логікі, свайго фундамента. Іначай гэта — грушы на вярбе* (У. Караткевіч. Самая цікавая навука — жыццё).

У аснове фразеалагізма — нерэальны вобраз, плён народнай фантазіі.

Грэбці (грабці, заграбаць) лапатай *грошы. Агульны для ўсходнесл. м.* Многа зарабляць, атрымліваць, нажываць (грошай). *Людзі, далёкія ад маёй прафесіі, думаюць, што архітэктары грабуць грошы лапатай* (І. Шамякін. Атланты і карыятыды).

Засноўваецца на гіпербале. Відаць, напачатку меліся на ўвазе не папяровыя, а металічныя грошы, якія можна «грэбці лапатай». *Лапата тут* прылада не металічная, якой капаюць зямлю, а драўляная, з шырокім ніжнім канцом для перамяшчэння, перамешвання зерня на таку.

**Грэць (пагрэць) рукі** *на чым, каля чаго, аб што, дзе. Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* греть руки, *укр.* гріти руки). Нажывацца несумленным спосабам. *Усе — хто менш, хто больш — грэлі рукі на панскім дабры* (С. Александровіч. Крыжовыя дарогі).

Мяркуюць, што ў літаратурную мову гэты выраз прыйшоў як унутранае запазычанне — са зладзейскага жаргону.

**Губа не дура** *ў каго. Агульны для бел. і руск. м.* Хто-н. мае добры густ, умее выбраць найлепшае. — *Што, ужо ўлюбіўся?.. — Мог бы, а што ты думаеш. — Хм. Губа не дура. Самая прыгожая дзяўчына ў тэхнікуме* (М. Лобан. Гарадок Устронь).

Паходзіць з прыказкі *Губа не дура: знае, што прымае.* У XIX ст. яна мела, як сведчыць І. І. Насовіч, вузкае значэнне: выкарыстоўвалася, з жартаўлівым адценнем, толькі пры

пачастунку. «Абломак» былой прыказкі набыў у сучаснай мове куды шырэйшы сэнс.

**Губляць (згубіць; траціць, страчваць, страціць) галаву.** *Калька з франц. м.* (perdre la tête). Ужыв. са значэннямі ‘бянтэжыцца, пазбаўляцца развагі, не ведаць ад хвалявання, як паступіць, што рабіць’ і ‘безразважна, моцна ўлюбляцца ў каго-н.’ *Ва ўсякія пераплёты трапляў Дубок у першыя дні вайны і за час свайго партызанства і ніколі не губляў галавы* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Валя баялася, каб ён* [Лукашык] *па вачах не зразумеў яе патаемных думак і страхаў, каб не падумаў, што яна страціла ад яго галаву* (У. Дамашэвіч. Між двух агнёў).

У аснове фразеалагізма — нерэальны вобраз. Можна таксама лічыць, што тут назоўнікавы кампанент — сэнсаўтваральны, суадносны з адным са значэнняў слова *галава* (‘розум, свядомасць, развага’).

**Гула асмаленая.** *Уласна бел.* Зусім нічога не (атрымаць, зрабіць, дастанецца і пад.). *Грошы кладуць у кішэню Ліскоўскія, вы нават не ведаеце колькі. Вам жа з рэдактарам — падстаўным, трэба сказаць, — гула асмаленая* (Я. Колас. На ростанях).

Узнік у выніку пераасэнсавання свабоднага словазлучэння, дзе *гула* — «вытачаная ці выразаная з дрэва моцная кулька-шарык, якую ў гульні ганялі ўдарамі палкі»; «гулу звычайна абсмальвалі над агнём» (Ф. Янкоўскі).

**Гульня з агнём.** *Агульны для ўсходнесл. м.* (*руск.* игра с огнем, *укр.* гра з вогнем). Неасцярожныя, рызыкоўныя дзеянні без уліку магчымай небяспекі. — *А гульня ў вас была з агнём,* — *гаварыў нараспеў Высоцкі, пасміхваючыся сваімі чорнымі, як вугаль, вачыма* (І. Гурскі. У агні).

Утвораны на аснове суадноснага дзеяслоўнага фразеалагізма *гуляць з агнём,* які абазначае ‘дзейнічаць неасцярожна, не лічачыся з небяспекай’.

**Гульня слоў.** *Калька з франц. м.* (jeu de mots). Дасціпны, каламбурны выраз. [Вера] *хацела, каб гэта гучала як жарт, як своеасаблівая гульня слоў, ды не выйшла так, як хацела* (А. Кулакоўскі. Расстаёмся ненадоўга).

**Гульня ў адны вароты.** *Агульны для ўсходнесл. м.* (*руск.* игра в одни ворота, *укр.* гра в одне ворота). Аднабаковая дзейнасць з непрыманнем чужых поглядаў, інтарэсаў і пад. *Размова за круглым сталом усё нагадвала напачатку гульню ў адны вароты. Кожны даказваў перавагі прапарцыянальнай сістэмы выбараў* (Нар. газета. 16.11.1994).

Назоўнікавае ўтварэнне ад суадноснага дзеяслоўнага фразеалагізма *гуляць у адны вароты* (гл.).

**Гульня ў бірулькі.** *Агульны для бел. і руск.* (игра в бирюльки) *м.* Марная трата часу, бескарысны занятак. *Ананімшчына — гэта была не проста гульня ў бірулькі. Гэта была тактыка мярзотнікаў распраўляцца з тымі, хто перашкаджае жываглотам, хто паўстае ў іх на шляху ў дасягненні сваіх мэт* (А. Петрашкевіч. І разгляду не падлягае).

Назоўнікавае ўтварэнне на базе суадноснага дзеяслоўнага фразеалагізма *гуляць у бірулькі* (гл.), мае катэгарыяльнае значэнне прадметнасці і іншыя ўласцівасці назоўнікавых фразеалагізмаў.

**Гульня ў жмуркі.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* игра в жмурки, *укр.* гра у жмурки). Скрытыя дзеянні, утойванне чаго-н. [Планы] *вызначаліся без грунтоўнага разліку, нават без клопату, якую выгаду дасць выкананне іх дзяржаве і тым, хто націраў мазалі. Недарма Варанецкі называў такія планы гульнёйу жмуркі* (І. Дуброўскі. Зямныя вузлы).

Вытворны ад суадноснага дзеяслоўнага фразеалагізма *гуляць у жмуркі* (гл.).

**Гульня ў кошкі-мышкі (у ката і мышку).** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* игра в кошки-мышки, *укр.* грати в кота й мишки). Хітрасць, імкненне падмануць, правесці каго-н. *Машыністу; напэўна, надакучыла ўся гэта гульня ў кошкі-мышкі, і ён даў сеісток* (У. Нядзведскі. Хлопцы з другога корпуса). *Лазавенка засмяяўся: — Глядзіце, Байкоў і Раднік памірыліся. Скончылася гульня ў ката і мышку* (І. Шамякін. У добры час).

Паходзіць з суадноснага дзеяслоўнага фразеалагізма *гуляць у кошкі-мышкі (у ката і мышку)* (гл.).

**Гульня ў маўчанку.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* играть в молчанку, *укр.* гра в мовчанку). Адмоўчванне, ухіленне ад размовы. *Ні ён, ні яна не паступіліся сваім гонарам і ўвечары — гульня ў маўчанку зацягнулася на ўсе апошнія дні* (Б. Стральцоў. Між крутых берагоў).

Утварыўся на базе суадноснага дзеяслоўнага фразеалагізма *гуляць у маўчанку* (гл.).

**Гульня ў паддаўкі.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* играть в поддавки, *укр.* гра в піддавки). Хітраватая згода, наўмысныя ўступкі. *Дабрэню пачынала надакучваць гэтая гульняў паддаўкі; што б ён ні сказаў, Лёнька адразу ж пагаджаўся* (А. Асіпенка. Канец бабінага лета).

Утвораны на аснове суадноснага дзеяслоўнага фразеалагізма *гуляць у паддаўкі* (гл.).

**Гульня ў хованкі.** *Агульны дляўсходнесл. м. (руск.* играть в прятки, *укр.* гра в хованки). Скрытыя дзеянні, утойванне чаго-н. ад каго-н. *Андрэй нічога не разумеў. Навошта Тарашчуку нейкія*

*блокі? Навошта трэба прадаўжаць гульню ў хованкП* (А. Асіпенка. Новы сакратар).

Назоўнікавае ўтварэнне на аснове суадноснага дзеяслоўнага фразеалагізма *гуляць у хованкі* (гл.).

**Гуляць (згуляць) у паддаўкі.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* играть в поддавки, *укр.* грати в піддавки).Ісці на ўступкі, хітравата згаджаючыся з кім-н. *Сотнікаў.. не ведаў, як лепш: гуляцьу паддаўкі ці адразу адмовіцца ад паказанняў, каб не блытацца ў хлусні* (В. Быкаў. Сотнікаў).

Узнік у выніку пераасэнсавання свабоднага словазлучэння, звязанага з гульнёй у шашкі, у якой выйграе той, хто хутчэй аддасць усе свае шашкі праціўніку.

**Гуляць (пагуляць) у кошкі-мышкі (у ката і мышку).** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* играть в кошки-мышки, *укр.* грати в кота й мишки). Хітраваць, стараючыся падмануць, правесці каго-н. *Я прыехаў да Антаніны без дасягненняў, якія б мелі вартасць у яе вачах. У гэтым прычына таго, што мы бясконца гуляем у кошкі-мышкі...* (І. Навуменка. Развітанне ў Кавальцах).

Утвораны ў выніку пераасэнсавання свабоднага словазлучэння, звязанага з дзіцячай гульнёй. Яна заснавана на падабенстве з тым, як кот ці кошка, перш чым з’есці мышку, гуляюць са сваёй ахвярай. Гл. пра гэта ў прыпавесці В. Быкава «Кошка і мышка».

**Гуляць у адны вароты.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* играть в одни ворота, *укр.* грати в одне ворота). Дзейнічаць аднабакова з непрыманнем чужых поглядаў, інтарэсаў і пад. *Рэдакцыя таксама прызвычаілася гуляць у адны вароты, заціскае рот апанентам...* (У. Агіевіч. Рэха з бочкі).

Узнік у выніку метафарызацыі свабоднага словазлучэння з галіны спорту, дзе яго дастасоўваюць да мацнейшай каманды, якая перамагае сапернікаў.

**Гуляць у бірулькі.** *Пайкалька з руск. м.* (играть в бирюльки). Займацца пустымі справамі, дарма траціць час. *Гуляцьу бірулькі, Лізура, не будзем. Лёс нас звёў мусіць, надоўга і моцна. Ты ія будзем рабіць адну справу* (Я. Ермаловіч. Малады старшыня).

Паходзіць са свабоднага словазлучэння, звязанага з даўнейшай дзіцячай гульнёй. На стол насыпалі кучку бірулек — маленькіх драўляных фігурак (малаточкаў, лапатачак, сякерак і г. д.). Трэба было спецыяльным кручком даставаць адну бірульку за другой, не закранаючы астатніх. Такі занятак успрымаўся дарослымі як пустая справа.

**Гуляць у жмуркі.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск*. играть в жмурки, *укр.* грати у жмурки). Скрываць, утойваць што-н. ад каго-

н. *Мы тут галасавалі… даваць ці не даваць сваю згоду на звальненне Саевіч з работы. І, чаго там у жмуркі гуляць, галасы раскалоліся… Трое за звальненне і трое супраць…* (П. Кавалёў. Сёмы член мясцкома).

Узнік у выніку пераасэнсавання свабоднага словазлучэння, звязанага з адпаведнай гульнёй. Аднаму з яе ўдзельнікаў ручнікам завязвалі вочы, і ён павінен быў лавіць, адгадваць іншых удзельнікаў гульні.

**Гуляць у маўчанку.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* играть в молчанку, *укр.* грати в мовчанку). Ухіляцца ад размовы. *Гуляць у маўчанку не раю. Не помніце? Я памагу вам, завуць Сараеў Нікодзім?* (А. Александровіч. Нараджэнне чалавека).

Утвораны са сзабоднага словазлучэння, звязанага з гульнёй, у якой кожны стараецца не прагаварыцца першым, бо інакш ён выбывае з гульні ці плаціць штраф.

**Гуляць у хованкі.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* играть в прятки, *укр.* грати в хованки). Скрываць, утойваць што-н. ад каго-н. — *Вось што, Яворскі, — пачаў Сушко, калі яны засталіся ў святліцы адзін на адзін, — даволі нам гуляць у хованкі…* (Я. Колас. Адзін).

Склаўся на аснове свабоднага словазлучэння, звязанага з дзіцячай гульнёй. Адзін з яе ўдзельнікаў шукае іншых, якія пахаваліся хто дзе, і калі знаходзіць каго-небудзь, то той пачынае выконваць яго ролю.

**Гусіныя лапкі.** *Відаць, калька з франц. м.* (patte-d'oie). Ужыв. са значэннямі ‘травяністая расліна сямейства ружакветных са складкаватымі лістамі; гусялапка’ і ‘веерападобныя маршчынкі (каля вока)’. *На той часці, што яшчэ заставалася над вадою, спяшаліся дацвісці гусіныя лапкі і жоўты падбел* (У. Караткевіч. Каласы пад сярпом тваім). *Сядзела звычайная жанчына ў гадах, і гэтыя няўмольныя гады значыліся і на руках, што, відно было, перарабілі нямала living розная работы, і на твары з прыкметнымі ўжо добра «гусінымі лапкамі» каля вачэй, хоць і былі яны падведзены спраўнай рукой санаторнай касметыкі* (А. Васілевіч. «Трэці слухае…»).

Узнік праз супастаўленне з малюнкам перапончатых гусіных лап. Абодва значэнні склаліся ў выніку пачарговай метафарызацыі аднаго і таго ж свабоднага словазлучэння.

# Д

**Да Абрама на піва трапіць.** *Агульны для бел. і польск.* (pojść do Abrahata na pivo) *м.* Памерці. *Так і сапраўды не шпука захварэць і да Абрама на піва трапіць* (Я. Колас. На ростанях).

У вершы К. Крапівы «Вось такія дактары вымуць душу без пары» гаворыцца, як аднойчы шарлатан даў дзядзьку Янку шклянку самаробных лекаў. «Выпіў Янка — й фур за браму: зразу к праайцу Абраму ў нябеснае ён царства, — надта добрае лякарства!» І тут, і ў фразеалагізме *да Абрама на піва трапіць* адзін і той Абрам — біблейскі персанаж. Ён быў вельмі адданы Богу, у чым апошні пераканаўся, загадаўшы яму праз анёла ахвяраваць родным сынам. За пакорлівасць і адданасць Бог узяў Абрама пасля смерці ў нябеснае царства. *Трапіць да Абрама* — першапачаткова «трапіць на той свет, туды, дзе знаходзіцца Абрам». А *на піва* — дасціпны жартоўны дадатак, які каламбурна накладвае на імя біблейскага персанажа іншае, тоеснае, пашыранае сярод яўрэйскага насельніцтва імя *Абрам* (як гаспадар карчмы).

**Да абуха** *дабіваць (дабіць)* і пад. *Уласна бел.* Да поўнай непрыгоднасці. *Як гаспадарылі.. немцы ў часова захопленых імі абласцях, гэта сапраўды вядома ўсяму свету. Дагаспадарыліся, як гэта гаворыцца, да абуха, да ручкі* (Млынькоў. Востраць сякеры беларусы).

Першапачатковае канкрэтнае (але ўжо з перабольшаннем) значэнне спалучэння *да абуха*, відаць, дастасоўвалася толькі да сякеры, лязо якой ад доўгага карыстання зрэзалася, пакарацела ледзь не да самага абуха. Такая прылада была ўжо непрыгодная. У далейшым пераасэнсаваны выраз стаў прымяняцца да зусім іншых рэчаў.

**Да апошняга дыхання.** *Калька з франц. м.* (jusqu'au dernier soupir). Да самай смерці, да канца жыцця (біцца, змагацца, кахаць і інш.). — *Ну што, змагар, намераны ваяваць за Бераг? — Да апошняга дыхання* (І. Шамякін. Атланты і карыятыды).

Склаўся на аснове свабоднага словазлучэння ў выніку сінекдахічнага пераносу (назва часткі ўжыта ў значэнні цэлага).

**Да белага калення** *даводзіць (давесці). Запазыч. з рус. м.* Да поўнага адчаю, да поўнай страты самавалодання. *Антось Кручок сваімі жартамі даводзіў Сідара да белага калення* (А. Чарнышэвіч. Новы дом).

Паходзіць з тэрміналагічнага словазлучэння, якое ў маўленні кавалёў ужываецца ў прамым значэнні. Метал перад коўкай ці

плаўкай награваюць, у залежнасці ад тэмпературы ён становіцца спачатку чырвоным, а затым светлым (белым).

**Да белых мух.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Да першага снегу, да халадоў (рабіць што-н.). *Ну, дарагі мой, з такім настроем і да белых мух не закончыце ўборку* (Л. Левановіч. Шчыглы).

Утварыўся на аснове назоўнікавага фразеалагізма *белыя мухі* (гл.), набыў уласцівасці прыслоўна-акалічнасных выразаў.

**Дабры бабры.** *Уласна бел.* Хітры, выкрутлівы чалавек. Напрыклад, у оперы В. Дуніна-Марцінкевіча «Сялянка» Навум кажа Юліі, якая падвучвае яго пераапрануцца ў жаночае адзенне і прыйсці замест яе на спатканне да Яна: «Ой, цікунка ты, цікунка! відна, што дабры бабры. Глядзі, мая перапёлачка, штоб з гэтага піва не выйшла якога дуру…».

Генетычна выраз з’яўляецца часткай прыказкі *Усе бабры дабры, адна выдра ліхая (у* такой форме яна занатаваная ў зборніку М. Федароўскага; параўн. у зборніку І. І. Насовіча: *Усе бабры дабры, адна выдра — ліха яе бяры).* Адарваўшыся ад прыказкі, выраз стаў ужывацца з іншым, чым у прыказцы, парадкам кампанентаў.

**Даваць (даць) газу** *каму. Відаць, паукалька з ням.* (Gas geben) *ці франц.* (donner les gaz) *м.* Прымушаць каго-н. быць больш энергічным. — *Правільна! Правільна… Харошы будзе наш камандзір… — Дзякуй за выбары… А цяпер трымайцеся, я вам дам газу… — і* [Пятрэнка] *чамусьці прыўзняўся на пальчыках* (П. Пестрак. Гарадь вёскі).

Узнік у выніку пераасэнсавання састаўнога тэрміна, які ў маўленні шафёраў абазначае ‘паскараць рух машыны, павялічыўшы паступленне гаручага’.

**Даваць (даць) галаву на адрэз (на адсячэнне).** *Калька з франц. м.* (donner sa tête á couper). Браць на сябе поўную адказнасць за што-н. *Я магу даць галаву на адрэз, што ён* [Метак] *недзе тут снойдаецца з хутара на хутар* (А. Бажко. Позняе ворыва).

Фразеалагізм успрымаецца як матываваны.

**Даваць (даць; задаваць, задаць) перцу** *каму. Калька з ням. м.* (Pfeffer geben). Ужыв. са значэннямі ‘рэзка прабіраць каго-н.’ і ‘сурова распраўляцца з кім-н., біцць з бязлітаснасцю’. *[Жэня: ] Дай ты яму, Роза, перцу. А то ён тут да нашых дзяўчат заляцацца пачаў* (І. Козел. Над хвалямі Серабранкі). — *Трымайся! Задай яму перцу! — падахвочвалі буйвала з усіх бакоў* (Я. Маўр. Амок).

Фразеалагізм з жывой унутранай формай.

**Даваць (даць; задаваць, задаць) стракача** *ад каго, адкуль, куды. Запазыч. з руск. м.* Кідацца наўцёкі, імкліва ўцякаць.

*[Адзінота: ] Жарты жартамі, а Пацуку, брат, горача. [Кучма: ] Як ноч, так ён з плытоў стракача дае* (У. Галубок. Плытагоны).

Уваходзіць у групу фразеалагізмаў, сэнсава тоесных і аднатыпных паводле ўзнікнення: *даваць дзёру, даваць драла, даваць лататы, даваць цягу*. У іх першы кампанент семантычна «выветрыўся», сэнсаўтваральную ролю выконвае другі кампанент, этымалагічна «цёмны». Лічаць, што дыял. назоўнік *стракач* ‘паганялка для жывёлы’ утварыўся ад дзеяслова *стрекать* ‘падскокваць, скакаць; біць паганялкай’.

**Даваць (даць; задаваць, задаць) тон** *<каму, чаму, у чым>. Пайкалька з франц. м.* (donner le ton*)*. Паказваць прыклад у чым-н., аказваць уплыў на ход падзей. *Бацькавы словы даюць тон грамадзе. З кожным словам лік Марысіных працаўнікаў расце* (Я. Колас. Туды, на Нёман!).

Склаўся ў выніку пераасэнсавання тэрміналагічнага словазлучэння, якое ўжываецца ў маўленні музыкантаў.

**Даваць (даць; задаваць, задаць) храпака.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Моцна спаць: *Сон жа, як на злосць, ніяк не змыкаў яму вочы. Праўда, удзень Мікола даў храпака і выспаўся* (Я. Колас. Трывога).

Сэнсаўтваральную ролю тут выконвае назоўнікавы кампанент. Неўжывальны па-за межамі фразеалагізма, ён утварыўся на базе дзеяслова *храпці*.

**Даваць (даць) задні ход.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Адступаць ад раней сказанага, зробленага, адмаўляцца ад ранейшага намеру, рашэння. — *Ды я так,* — *даў задні ход Валодзя. — Я хацеў ведаць, што вы скажаце...* (П. Рунец. Аб чым шэпчацца аер).

Склаўся на аснове адпаведнага свабоднага словазлучэння, якое ў маўленні машыністаў-чыгуначнікаў або шафёраў ужываецца з прамым значэннем ‘ад’язджаць назад’: «Урэшце поезд, даўшы задні ход, спыніўся ля таварнай платформы» (І. Шамякін).

**Даваць (даць) знаць** *каму. Агульны для ўсходнесл. і польск. м.* Ужыв. са значэннямі ‘паведамляць пра што-н.’ і ‘намякаць на што-н. якім-н. чынам’. *Аўгіня прадумала ўсе спосабы і расказала аб іх бабцы Насце. Трэба даць знаць у Вепры жонцы Мартына Рыля* (Я. Колас. Дрыгва). *Старшыня рэўкома даў знаць Парасцы, што яму ісці трэба* (М. Лобан. На парозе будучыні).

Выраз з агульным аналітычным значэннем. Абодва кампаненты сэнсава суадносяцца (але не супадаюць) з прыватнымі значэннямі адпаведных слоў: *даваць* — ‘перадаваць’, *знаць* — ‘мець звесткі аб кім-, чым-н.’. Выраз неаднаразова сустракаецца ў помніках старажытнай беларускай пісьменнасці — «Лістах Філона

С. Кміты-Чарнабыльскага» (XVI ст.): «... и до вашей панскей милости давал знать». Ужываўся і ў варыянтнай форме *даваць ведаць*: «Даю ведать вашей панскей милости».

**Даваць (даць) перуноў** *каму. Уласна бел.* Гнеўна, з абурэннем гаварыць, пагражаць. *Звычайна Рыгошка ніколі не даваў перуной, толькі пратне вокам, як зазлуе, але ў незвычайны час, калі хваляванне раз'ятрыць яго марудную натуру, то ён мог нарабіць бяды* (А. Наварыч. Сутыкненне з вечнасцю).

У аснове фразеалагізма — адгалосак даўнейшай веры ў Перуна— бога грому і маланкі ва ўсходніх славян. Пад *перунамі* тут маюцца на ўвазе перуновы стрэлы — маланкі.

**Да геркулесавых слупоў** *даходзіць, дагаварвацца* і інш. *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* до геркулесовых столпов, *укр.* до геркулесовіх стовпів). (Даходзіць і інш.) да крайнасці ў чым-н. *І гэтак напісана?.. Ну, гэта ведаеце што?! Гэта значыць — дагаварыцца да геркулесавых слупой* (І. Дуброўскі. У пошуках залатога дна).

Склаўся на аснове назоўнікавага фразеалагізма *геркулесавы слупы* (чаго), які мае значэнне 'вышэйшая ступень, мяжа чаго-н.' і з'яўляецца паўкалькай з англ. м. *(Hегkules Pillars).* Вытокам жа фразеалагізма стала грэчаская міфалогія. Першапачаткова геркулесавымі слупамі называлі дзве скалы на супрацьлеглых берагах Гібралтарскага праліва — «край свету», паводле ўяўленняў старажытных грэкаў. Паставіў гэтыя слупы нібыта Геркулес, які прайшоў усю Афрыку і дасягнуў «канца зямлі».

**Да глыбіні душы.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Вельмі моцна (хваляваць, кранаць, уражваць і пад.). З *маленства ведаю і да глыбіні душы люблю гэты рамантычны край, дзе жывуць добрыя і працавітыя людзі* (Р. Няхай. «Стрэльбы, хлопчыкі, бяры!»).

Склаўся, відаць, на аснове фразеалагізма *ў глыбіні душы* (гл.), які з'яўляецца калькай з лац. м.

**Да грэчаскіх календаў (каляд)** *адкладваць (адкласці). Паўкалька з лац. м.* (ad calendes graecas). На няпэўны час, надоўга ці назаўсёды. *Калі і гавораць* [афіцыяльныя асобы ЗША] *аб магчымасці якіх-небудзь дагаворанасцей, то толькі па асобных, зразумела, выгадных для ЗША, пытаннях ядзерных узбраенняў, а праблему космасу трэба, маўляў, адкласці да грэчаскіх календаў* (Звязда. 3.02.1985).

У Старажытным Рыме календамі называлі першы дзень месяца. З ім звязваліся тэрміны пагашэння даўгоў, выканання іншых абавязкаў. У грэкаў жа календаў не было. І гэта стала падставай для рымскага імператара Аўгуста (63 да н. э. — 14 н. э.) гаварыць пра даўжнікоў, што яны адклалі разлікі да грэчаскіх календаў.

**Да другіх пеўняў.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* до вторых петухов, *укр.* до других півнів). Незадоўга да світання (быць дзе-н., чакаць і пад.). *Свёкар добра яе разумеў: сапраўды, якая гэта такая вучоба, што называецца, да другіх пеўняў ды яшчэ ў сістэме палітасветы?* (М. Парахневіч. Кватэра).

Першапачатковае значэнне выразу — ‘пакуль заспяваюць другі раз пеўні’. А спяваюць яны незадоўга да досвітку.

**Да другога прышэсця.** *Паўкалька з руск. м.* (до второго пришествия). Неакрэслена доўга. *Кастусь сярдзіта пазіраў на Магду.— Мне што, бегаць за вамі да другога прышэсця?* (Л. Рублеўская. Пярсцёнак апошняга імператара).

Склаўся на аснове евангельскага прадказання аб вяртанні («другім прышэсці») Ісуса Хрыста на зямлю перад канцом свету.

**Да зубоў узброіць, узброіцца.** *Калька з франц.* (être armé jusqu’aux dents, літаральна «быць узброеным да зубоў») *ці ням.* (bis an die Zähne bewaffnet sein, літаральна «да зубоў узброіцца») *м.* Вельмі добра, вельмі моцна. «*Дадому» вярталіся ўзброеныя да зубоў. З аднаго боку — рэвальвер, з другога — рэвальвер, ды яшчэ кінжал у дадатак* (Я. Маўр. Палескія рабінзоны).

Магчыма, у французаў выраз склаўся па мадэлі — на ўзор другога іхняга выразу: être savant jusqu’aux dents («быць вучоным да зубоў»), а можа, на думку В. М. Макіенкі, перад намі «празрыстая метафара», «паколькі зубы — самая натуральная і заўсёды „зручная“ зброя».

**Да карэння валасоў** *чырванець (пачырванець). Калька з франц. м.* (jusqu’a la racine des cheveux). Вельмі моцна. *Віктар падумаў, што зараз пачырванее, і тут жа пачырванеў да карэння валасоў* (У. Карпаў. Сотая маладосць).

У аснове фразеалагізма — нерэальны, гіпербалізаваны вобраз.

**Да касцей** *прамокнуць, прамерзнуць. Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* до костей, *укр.* до кісток). Вельмі моцна, наскрозь. *Хлопцы сядзелі на нарах і моўчкі глядзелі на прамерзлага да касцей партызана, які ля печы здымаў боты* (А. Карпюк. Данута).

Магчыма, склаўся пад уплывам фразеалагізма *да мозгу касцей* (гл.) — калькі з франц. м. — у выніку яго скарачэння.

**Далёка не заедзеш (не паедзеш)** *на чым, з чым, без чаго. Агульны для ўсходнесл. м.* Не шмат чаго дасягнеш, многага не даб’ешся.

— *Што гэта за пасаг,— рызыкнуў не паддацца Сёмка Фартушнік.*

— *На адным доме далёка не заедзеш* (К. Чорны. Трыццаць год). *Шафёр таксама лагодна крыкнуў: — Гэй, ты! На гонары*

*далёка не паедзеш! Садзіся. Давязу* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце).

Узнік з прыказкі *На лечаным кані далёка не заедзеш.* Дзеяслоўны кампанент фразеалагізма ўжываецца, як і ў прыказцы, звычайна ў другой асобе адзіночнага ліку.

**Да мозгу касцей.** *Калька з франц. м.* (jusqu'á la тoelle des os). Ужыв. са значэннямі 'вельмі моцна (празябнуць, прамерзнуць; мароз, вецер прабірае, пранізвае і пад.)', 'у найвышэйшай ступені' і 'самы сапраўдны, цвёрда перакананы ў чым-н.'. *Холад пранізваў да мозгу касцей, балюча сціскаў мускулы* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце). *Быць прынцыповым да мозгу касцей, бараніць свае прынцыпы да апошняга дыхання? Хіба гэта кепска?* (У. Дамашэвіч. Між двух агнёў). *Ты вось выступаеш за пачуцці, а сам такі ўжо рацыяналіст… да мозгу касцей!* (У. Рубанаў. Каштаны).

У аснове фразеалагізма — нерэальны, гіпербалізаваны вобраз.

**Дамоклаў меч.** *Калька з лац. м.* Пастаянная небяспека, неадступная пагроза. *Не літасці ў ворага маліць, прасіць, хоць і дамоклаў меч над галавой вісіць* (Я. Пушча. Дамоклаў меч).

Этымалагічнай асновай выразу з'явілася старажыткагрэчаскае паданне, упершыню запісанае рымскім філосафам Цыцэронам. Сіракузскі тыран Дыянісій Старэйшы (IV ст. да н. э.) захацеў правучыць аднаго са сваіх прыбліжаных, Дамокла, які зайздросціў свайму ўладару, называючы яго самым шчаслівым з людзей. І вось зайздросніка запрасілі ў тыранаў палац і пасадзілі на трон. Радасць была нядоўгай і перайшла ў страх, бо Дамокл убачыў, што ў яго над галавой вісіць на конскім воласе востры меч. Як растлумачыў Дыянісій, гэты меч — сімвал небяспекі, якая ўвесь час падпільноўвае тырана, знак нетрываласці яго шчасця.

*Вернемся* **да нашых бараноў.** *Калька з франц. м.* (revenons á nos moutons). (Вернемся) да асноўнай тэмы, да прадмета гаворкі. *Згадайце нашу далёкую ці нават зусім яшчэ нядаўнюю гісторыю… Але вернемся, як кажуць, да нашых бараноў* (Настаўн. газ. 16.01.2001).

Паходзіць з фарса «Адвакат П'ер Патлен» (1470). На судзе багаты суконшчык, у якога пастух украў бараноў і авечак, пачынае, забываючы пра сутнасць распачатай ім судовай справы супраць пастуха, папракаць пастуховага адваката Патлена, які не заплаціў яму да гэтага часу за шэсць локцяў сукна. Суддзя мусіў перапыніць суконшчыка словамі: «Вернемся да нашых бараноў» (у арыгінале першы і апошні кампаненты звязаны рыфмай).

**Да новых венікаў** *помніць, памятаць, не забыць. Агульны для ўсходнесл. м. (укр.* до нових (зелених) віників). Вельмі доўга. *Я*

*так пагавару з гэтым Гатюком, што будзе памятаць да новых венікаў!* (Я. Каршукоў. Пра жонку).

Склаўся ў выніку метанімічнага пераносу, заснаванага на часавай сумежнасці з'яў. Першапачатковае прамое значэнне — 'на працягу ўсяго года, аж да таго часу, калі ў летні сезон зноў пачнуць нарыхтоўваць венікі (для паркі ў лазні ці падмятання паддогі)'.

**Да першых пеўняў.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* до первых петухов, *укр.* до перших півнів). Вельмі позна, да сярэдзіны ночы (сядзець, гуляць, не спаць і інш.). *Выпускнікі перад сваім святам не клаліся спаць да першых пеўняў, латашылі гародчыкі з кветкамі* (В. Казько. Сад, альбо Заблытаны след рамана).

Першапачатковае значэнне выразу— 'пакуль заспяваюць першыя пеўні'. А спяваюць яны заўсёды ў адзін і той жа час — у поўнач.

**Дарогу перабягаць** *каму. Агульны для ўсходнесл. м.* Перашкаджаць камусьці, апярэджваць у чым-н. *Мог бы ўжо і Вінцэсь у горадзе быць, на другім курсе. А от жа не шанцуе... Гарадскія дарогу перабягаюць — растаропны яны, языкі добра падвешаны...* (П. Місько. Ціхае лета).

Прататыпам выразу было пераменнае словазлучэнне, звязанае з даўнімі вераваннямі: калі кошка або заяц ці ліса перабягалі каму-небудзь дарогу, то гэта было прыметай, што не пашанцуе, што будзе бяда. Нічога добрага не абяцала і сустрэча з чалавекам, у якога «паганае вока».

**Дарункі данайцаў.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* дары данайцев, *укр.* дари данайців). Каварная паслуга з мэтай прычыніць зло. *Пасажыры б'юць трывогу: іх збуцвелы каўчэг хіліцца і яшчэ, чаго добрага, перакуліцца ад перагрузкі. Не таварамі для народа, не багаццямі для працоўных. Дарункамі данайцаў — зброяй!* (С. Паўлаў. Воўк ля парога).

Сфарміраваўся на аснове легенды з грэчаскай міфалогіі аб узяцці Троі і траянскім кані. Данайцы (грэкі) пасля дзесяцігадовай асады рашылі хітрасцю авалодаць горадам Троя. Яны сказалі, што пакідаюць горад, падарылі траянцам вялізнага драўлянага каня і адплылі на суседні востраў. Жрэц Лаакоан не паверыў грэкам і папярэдзіў сваіх суайчыннікаў: «Бойцеся данайцаў, што прыносяць дарункі!» Але траянцы не звярнулі ніякай увагі на гэту перасцярогу, разбурылі частку сцяны і ўцягнулі каня ў крэпасць. Ноччу з каня выйшлі схаваныя там воіны-грэкі, перабілі варту, адчынілі гарадскія вароты і ўпусцілі войска, што вярнулася з вострава. Троя была ўзята і разбурана.

**Да ручкі.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Да бязвыхаднага становішча, да поўнай непрыгоднасці (дабівацца, даводзіць). *Піла*

*так затупілася, што бацька дзіву даўся: — Ну, дабілі пілу да ручкі!* (Л. Левановіч. Шчыглы).

Відаць, на пачатку свайго яшчэ нефразеалагічнага жыцця спалучэнне *да ручкі* ўступала ў кантакт з дзеясловам *зрэзацца* і дастасоўвалася, напрыклад, да нажа або сярпа, якія ад доўгага карыстання зрэзваліся ледзь не да самай ручкі і станавіліся непрыгоднымі. Фразеалагізаваўшыся, выраз стаў спалучацца з рознымі дзеясловамі-суправаджальнікамі і ў залежнасці ад гэтага пашыраў свой сэнс. У спалучэнні са словамі *дабіваць, даводзіць* ён абазначае ‘да бязвыхаднага становішча, да поўнай непрыгоднасці’ (гл. вышэй), а са словамі *даходзіць, дайсці, дабівацца* — ‘да мяжы, да крайняй ступені ва ўчынках, у паводзінах, немачы, слабасці і інш.’: «Я і сама ўжо не работніца, да ручкі дабілася, можна сказаць» (І. Козел).

**Да сівых валасоў.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* до седых волос*, укр.* до сівого волосся). Да глыбокай старасці, да старэчага ўзросту (дажыць, дарасці, застацца і інш.). *Да сівых валасоў вунь хутка дарасцеш, а ўсё пустадомкам будзеш* (Р. Сабаленка. Іду ў жыццё).

Склаўся на аснове свабоднага словазлучэння ў выніку сінекдахічнага пераносу (назва канкрэтнай дэталі, характэрнай для пэўнага ўзросту, ужыта ў значэнні самога гэтага ўзросту).

**Даставаць гізунты** *з каго. Уласна бел.* Здзекавацца з кагосьці, збіваць кагосьці. *А што, калі раз’юшаны немец не спыніцца на Драніцы з Брава-Жыватоўскім ды пачне перабіраць плёткай астатніх, дастаючы з кожнага гізунты?* (І. Чыгрынаў. Апраўданне крыві).

Семантычны вобраз гэтага выразу аднаўляецца з высвятленнем сэнсу назоўнікавага кампанента. Паводле Ф. Янкоўскага, слова *гізунты* з’яўляецца запазычаннем з ідыш — мовы яўрэяў Усходняй і Цэнтральнай Еўропы; у аснове гэтай мовы ляжаць ням. дыялекты; *гізунты* — «здароўе», параўн. *gesund* у ням. м. — «здаровы».

**Да трох не гавары** *з кім, каму. Уласна бел.* Хто-н. рашучы, гарачы; з кім-н. жарты кепскія. *То яму дзяжа не чыста, то хлеб прэсны і сыры... Ой, які ўжо наравісты! Хоць ты падай прад ім лістам — і да трох не гавары!* (Я. Колас. Зяць).

Каб уразумець унутраную форму гэтага фразеалагізма, прыгадаем урывак з камедыі А. Макаёнка «Таблетку пад язык»: «[Дзед Цыбулька: ] А чаго ты, дурыла, уз’ерапеніўся? І спытацца нельга? [Іван: ] Пра такое нельга! Ясна?.. Запомні, я да трох лічыць не буду». У словах *да трох лічыць не буду* — выразны намёк на тое, што Іван не стане яшчэ раз гаварыць: «Рабі, што я сказаў! Лічу да трох: адзін... два... тры!», а адразу прывядзе ў выкананне сваю

пагрозу. Параўн. у рамане П. Міська «Мора Герадота»; «—Лічу да трох і страляю. Раз!.. — Два!.. — затрэсліся галіны дуба. — Тры!!!» Першапачатковы сэнс фразеалагізма *да трох не гавары* з кім — ‘хтосьці не будзе, не стане тройчы паўтараць сваю просьбу, загад ці пагрозу’.

**Да трэціх пеўняў.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* до третьих петухов, *укр.* до третіх півнів). Да самага світання (быць дзе-н., займацца чым-н.). *Хадзілі, гаманілі. Нават аднойчы* [мы] *завіталі ў бар, дзе заседзеліся, як раней казалі, да трэціх пеуняў* (Б. Сачанка. Штрыхі).

Першапачатковае значэнне выразу — ‘пакуль заспяваюць трэці раз пеўні’. А гэта бывае, калі ўжо світае.

**Дах (страха) над галавой.** *Агульны для ўсходнесл. (руск.* крыша над головой, *укр.* дах над головой, *польск.* (dach nad głova) *м.* Дом ці кватэра, пакой. *Важна, што ў мяне ёсць дах над галавою. А ў людзей і таго няма* (У. Дамашэвіч. Німфа).

Паходзіць са свабоднага словазлучэння ў выніку сінекдахічнага пераносу (заменена назва цэлага назвай яго часткі).

**Даць газу** *каму. Гл.* даваць (даць) газу *каму.*

**Даць галаву на адрэз.** *Гл.* даваць (даць) галаву на адрэз (на адсячэнне).

**Даць гарбуз** *каму. Запазыч. з укр. м.* (дати гарбуза). Адмовіць таму, хто сватаецца. *Яе асабліва трывожыла тое, што Глушакі сваты не абы-якія, ім не так проста даць гарбуз, паказаць, як ісці туды, адкуль прыйшлі, ні з чым…* (І. Мележ. Людзі на балоце).

Узнік у выніку пераасэнсавання свабоднага словазлучэння. На Украіне і ў некаторых раёнах Беларусі быў звычай: калі дзяўчына ці яе бацькі непрыхільна ставіліся да сватання, то маладому або свату давалі гарбуз як знак нязгоды.

**Даць дуба.** *Гл.* дуба даць.

**Даць дыхту** *каму, чаму. Відаць, запазыч. з польск. м.; яго падае толькі* «Słownik języka polskiedo» (1900): *zadać komu dychtu* — ‘даць лазню, узяць у абарот’. У гэтым слоўніку сярод пяці значэнняў, уласцівых слову *dycht,* называецца і значэнне ‘пабоі’, з якім звязваецца ўзнікненне выразу *даць дыхту.*

У сучаснай бел. м. фразеалагізм ужыв. з чатырма значэннямі: 1) *каму*; моцна сварыцца на каго-н., прабіраць каго-н.; 2) *каму*; сурова распраўляцца з кім-н., біць бязлітасна каго-н.; 3) *чаму* і *без дап.*; рабіць што-н. хутка, энергічна; 4) *чаму*; натруджваць (рукі, ногі). *Як толькі на парозе пакажацца нявестка, ну і дам ёй дыхту!* (Ядвігін Ш. Важная фіга). *Каб яны* [нашы «ястрабкі»] *толькі паявіліся, дык далі б дыхту гэтым нахабнікам-фашыстам* (Р. Сабаленка. Іду ў жыццё). *Даюць дыхту, даюць жару,*

*«Сербіянку», «Польку» шпарaць…* (Я. Купала. Вечарынка). *Эх, і наскакалася ж Яніна ў нядзельку ў Манькоўцы! Ну, і дала дыхту нагам, што дала дык дала* (Р. Мурашка. Салаўі святога Палікара).

**Даць задні ход.** *Гл.* даваць (даць) задні ход.

**Даць знаць** *каму. Гл.* даваць (даць) знаць *каму.*

**Даць лататы.** *Агульны для бел. і рус. м.* Імкліва ўцячы, кінуцца ўцякаць. *Дай, як заяц, лататы праз дарогу — у кусты* (А. Александровіч. Шчаслівая дарога).

Для сучаснага носьбіта бел. м. выраз *даць лататы* — нематываваная фразеалагічная адзінка, пазбаўленая свайго семантычнага вобраза. Для таго ж, хто некалі першы раз ужыў гэты выраз, і яго апошні кампанент не быў «цёмны». Паводле ўзнікнення ён адносіцца да ліку гукапераймальных: сваім складам *(лата-та)* ён нагадвае гукі, характэрныя для дзеяння, названага гэтым словам (тупат ног уцекача). У выразе *даць лататы* яго апошні кампанент, па аналогіі з выразамі адной сэнсавай сям'і *даць цягу, даць дзёру, даць драла* і падобных, прыняў форму род. скл. Часам у мастацкай літаратуры можна сустрэць прыклады, калі пісьменнік агаляе вобразны стрыжань фразеалагізма, напрыклад, падзелам апошняга кампанента на склады: «Па запыленых будынках чуем плач мы беднаты… — Дзе ж цяпер шукаць прыпынку? Ці даваць мо лата-ты?» (М. Чарот. Босыя на вогнішчы).

**Даць ляшча** *каму. Відаць, запазыч. з укр. м.* Моцна ўдарыць, выцяць каго-н. *Даўшы ляшча аднаму, другому, Фурсевіч злавіў трэцяга і скамандаваў:—Клічусіх на аўдыенцыю* (Звязда. 9.10.1987).

Ва ўкр. м. слова *ляшч* ужыв. не толькі ў складзе фразеалагізма *дати ляща* 'ударыць далонню па абліччы', але і як назоўнік з самастойным лексічным значэннем 'аплявуха'; першапачаткова *дати ляща* — 'даць аплявуху'. Фразеалагізм ёсць і ў рус. м. *(дать леща)*; яго ўзнікненне В. М. Макіенка звязвае з магчымым утварэннем ад дыял. дзеяслова *лещить* 'біць' слова-кампанента *лещ* са значэннем 'удар'.

**Даць перуноў** *каму. Гл.* даваць (даць) перуноў *каму.*

**Даць перцу** *каму. Гл.* даваць (даць; задаваць, задаць) перцу *каму.*

**Даць пудла.** *Уласна бел.* Памыліцца, схібіць. *І як далі яны такога пудла! Варту знялі тады, калі яна была найболей патрэбна. Дапусціліся да таго, што пратакол папаў у рукі паліцыі* (Я. Колас. На ростанях).

Паходзіць з мовы паляўнічых, дзе *пудла*—'няўдачны стрэл, промах'. Першапачатковае значэнне выразу — «спудлаваць, прамахнуцца, страляючы; толькі спудзіць (птушку ці звера)».

**Даць пытлю** *каму. Уласна бел.* Абазначае ‘напасці з дакорам, абвінавачаннем’ і ‘правучыць, разбіць’. *Дык вы едзеце?.. Дайце там пытлю ўсім!* (Х. Шынклер. Сонца пад шпалы). — *Гарадскія хлопцы пастараліся. — Што ж, малайцы, і яны далі немцу пытлю*! (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Сэнсаўтваральным кампанентам выразу выступае дзеяслоў *даць*, які ў свабодным ужыванні, без дапаўнення, здольны рэалізаваць такое ж значэнне, як і ўвесь фразеалагізм *даць пытлю* (параўн., напрыклад: «Дам я табе!», «Ну і далі ім…»). Дадатак *пытлю* «прырос» да дзеяслова як увасабленне хуткага руху, што ўсведамлялася носьбітамі мовы, калі слова *пыталь* было ў актыўнай лексіцы. Устарэлы назоўнік *пыталь* — гэта, паводле І. Насовіча, машына для пытлявання пшаніцы. Амаль тое самае і ў даўнейшых слоўніках польск. м., напрыклад у слоўніку 1912 г.: ‘млын для пытлявання’ і ‘спецыяльны млынавы мяшок для прасейвання мукі, які механічна прыводзіцца ў рух’; тут жа падаюцца і ўстойлівыя параўнанні: *язык як пыталь, словы сыпле як з пытля.*

**Даць стракача** *ад каго, адкуль, куды. Гл.* даваць (даць; задаваць, задаць) стракача *ад каго, адкуль, куды.*

**Даць тон** *каму, чаму, у чым. Гл.* даваць (даць; задаваць, задаць) тон *каму, чаму, у чым.*

**Даць храпака.** *Гл.* даваць (даць; задаваць, задаць) храпака.

**Два канцы адной палкі.** *Уласна бел.* Вельмі блізкія ці аднолькавыя ў якіх-н. адносінах з’явы (рэжымы, вучэнні і пад). *Што ж тычыцца ідэалогіі, дык камунізм і фашызм маюць, так бы мовіць, асявую сіметрыю або, як кажуць у народзе, ёсць два канцы адной палкі* (В. Быкаў. У ягоных сімпатыях няма нічога нечаканага).

Магчыма, склаўся на вобразнай аснове фразеалагізма *палка з двума канцамі* (гл.).

**Двухаблічны Янус.** *Пайкалька з франц. м.* (Janus à deux visades). Крывадушны чалавек. *Двухаблічны Янус* [Вігель] *адно гаварыў людзям у вочы, зусім іншае пісаў пра гэтых людзей у сваіх даносах і лістах* (Б. Сачанка. Думкі ўроссып).

Выток фразеалагізма — рымская міфалогія. Янус — старажытнарымскі бог часу, а таксама пачатку і канца, уваходу і выхаду. На малюнках і ў скульптуры яго паказвалі з двума тварамі, звернутымі ў супрацьлеглыя бакі. Маладым тварам ён глядзеў наперад, у будучыню, а старым — назад, у мінулае.

**Двух слоў не звязаць.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Не ўмець звязна, прыгожа выказваць свае думкі. *Ты вот пісаць не ўмееш, двух слоў не звяжаш, а колькі ў газеце трубіш? Гадоў пятнаццаць* (І. Навуменка. Летуценнік).

Склаўся на аснове фразеалагізма (не магчы) *звязаць двух слоў* (гл.) — недакладнай калькі з лац. м.

**Дзве дзюркі ў носе і скончылося.** *Запазыч. з польск. м.* (dwie (dziurki w nosie i skończyło się). Ужыв. са значэннем ‘на гэтым і канец’, звычайна як жартаўлівае выказванне пра завяршэнне чагосьці. Напрыклад, у камедыі Я. Купалы «Паўлінка» Сцяпан пад заслону кажа: *Каханенькія, родненькія, дзве дзюркі ў носе і скончылося.* Або ў камедыі К. Крапівы «Брама неўміручасці»: *Вось і ўся неўміручасць. Дзве дзюркі ў носе і скончылося, як той казаў. Ізноў мы ўсе роўныя. І ніхто нас не дзеліць на вечных і абязвечаных.* М. Федароўскі занатаваў у народных гаворках варыянт гэтага запазычання: *дзве дзіркі ў носе дый скончылося.*

Выраз усведамляецца як матываваны.

**Дзевяты вал.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Ужыв. са значэннямі: 1) самая моцная і небяспечная хваля ў часе марской буры, 2) грозная, нязломная сіла, 3) *чаго*; найбольшае праяўленне чаго-н. *Гаварыў Асілак брату: — Глянь, дзе хвалі пеніць шторм, ці то грывай вал дзевяты, ці то зломаным крылом птушка, тонучы, махае?* (М. Танк. Казка пра Музыку). *Няхай не цешыць сябе стары лад тым, што дзевяты вал мінуў!* (Я. Колас. Забастоўшчыкі). *Проста з моста скакаў рэдактар на дзевятым вале злосці* (П. Палітыка. Свой хлопец).

Звычайна ў выразе выдзяляюць два апошнія значэнні, а першае лічаць тэрміналагічным, аднак гэта тыповае фразеалагічнае значэнне, не звязанае са значэннямі кампанентаў. Назва *дзевяты* ідзе ад міфалагічнага ўяўлення пра дзевяць як свяшчэнны лік. На аснове гэтага зыходнага значэння развіліся метафарычным шляхам астатнія два значэнні.

**Дзеля понту.** *Гл.* для (дзеля) понту.

**Дзень добры! (Добры дзень!).** *Калька з франц. м.* (Bonjour!) *ці ням.* (Guten Tag!) *м.* Прывітальны зварот пры сустрэчы раніцай або днём. *[Куторга: ] Дзень добры, пане Пратасавіцкі! Здарова, пані Пратасавіцкая!* (В. Дунін-Марцінкевіч. Пінская шляхта).

Першапачаткова ўсведамляўся як пажаданне добрага дня каму-н.

**Дзе сабака закапаны.** *Калька з ням.* м. (da ist der Hund begraben; замест *ist* выкарыстоўваецца і *liegt).* У чым сутнасць справы, сапраўдная прычына чаго-н. *Было крыўдна, як гэта ён, майстра сваёй справы з вялікім, яшчэ даваенным стажам, не можа дабрацца, дзе тут, як кажуць, сабака закапаны* (Мік. Ткачоў. Светлы агонь).

Мяркуюць, што выраз нарадзіўся ў перыяд сярэднявечча, калі модным было шукаць скарбы, і першапачаткова абазначаў ‘вось дзе скарб закапаны’. Выкарыстанне замест *скарб* слова

*сабака* вытлумачваецца тым, што існавала павер’е, быццам закапаныя ў зямлі скарбы ахоўваюцца нячыстай сілай у вобразе чорнага сабакі.

**Дзесятаму заказаць.** *Агульны для бел. і ўкр. м.* Ні ў якім разе не паўтарыць падобнага і другіх папярэдзіць. *Ды я сёння сказала: глядзі, хлопчык, калі яшчэ раз убачу — будзе до-о-брая лазня. Так адхрышчу, што дзесятаму закажаш* (А. Кудравец. На зялёнай дарозе).

Калі ўстарэлае слова *заказаць* са значэннем ‘забараніць’ было ў актыўнай лексіцы, то фразеалагізм усведамляўся як «забараніць не толькі сабе, але і дзесятаму», дзе гіпербалічнае *дзесятаму* абазначала ‘кожнаму, іншаму, пятаму-дзесятаму’. Субстантываваны лічэбнік *дзесятаму* замацаваўся ў фразеалагізме як яго сталы кампанент, відаць, не з моманту ўзнікнення выразу. Напрыклад, у помніку XVI ст., у лістах аршанскага старасты Філона С. Кміты-Чарнабыльскага, сустракаем: «…таковое досады ужил, не только молвити сметь, же се вернет, але и другому закажет!»

**Дзесятая (сёмая) вада на кісялі.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Вельмі далёкі сваяк. *Нябожчыцы матцы Яніны яна даводзілася стрэчнай сястрой, вось і ўсё сваяўство — от так, дзесятая вада на кісялі* (Р. Мурашка. Салаўі святога Палікара). *Антоні Плахінскі… даводзіўся ёй дваюрадным ці траюрадным братам, адным словам, сёмая вада на кісялі* (М. Гарэцкі. Віленскія камунары).

Даўней кісель рабілі пераважна з аўса, які намочвалі, прарошчвалі, сушылі і таўклі ў ступе. Затым солад заквашвалі і працэджвалі. Маглі і яшчэ раз ці два заліваць вадой выціснутую гушчу і працэджваць на сіта. Але ўжо атрымліваўся рэдкі кісель, далёка не падобны на першы цэд. Зразумела, што ні сем, ні тым больш дзесяць цэдаў не практыкавалі, бо іх вынікам была б амаль чыстая вада. Таму на пачатку свайго фразеалагічнага жыцця выраз *дзесятая (сёмая) вада на кісялі* ўсведамляўся як гіпербала.

**Дзённа і ночна.** *Уласна бел.* (параўн. ва ўкр. м.: *денно і нічно).* Увесь час, пастаянна. *Улады рабілі (і робяць) выгляд, што раяцца з простымі людзьмі, што прыслухоўваюцца да іх развag і меркаванняў, што дзённа і ночна дбаюць аб іх здароўі, шчасці і дабрабыце* (ЛіМ. 23.10.1998).

Склаўся на аснове царк. — слав. выразу *денно и нощно*, які абазначаў ‘суткі’.

**Дзірка ад абаранка.** *Пайкалька з руск. м.* (дырка от бублика). Зусім нічога. *Я стараўся, стараўся… А за мае старанні — дзірка ад абаранка* (І. Капыловіч. Чарнабурка).

Стваральнік выразу — У. У. Маякоўскі. У яго «Містэрыі Буф» (1918) чытаем: «Чего канителитесь? Обещали и делим поровну:

одному бублик, другому — дырка от бублика. Это и есть демократическая республика». Доказам на карысць такога меркавання з'яуляецца тое, што ў рускіх парэміяграфічных і фразеалагічных працах (У. Даля, М. Міхельсона і інш.) выраз не фіксуецца, няма яго і ў ранейшых беларускіх і ўкраінскіх зборніках. Яго пачалі ўключаць ў слоўнікі толькі ў 1950-я гады.

**Дзіцячы лепет.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* детский лепет, *укр.* дитячий лепет). Наіўныя, несур'ёзныя, павярхоўныя думкі, меркаванні і пад. *Вершы* [я] *пачаў пісаць, калі адолеў граматыку, а складаў іх яшчэ раней. Мабыць, гэта быў дзіцячы лепет* (Полымя. 1987. № 8).

Узнік, хутчэй за ўсё, са свабоднага словазлучэння ў выніку яго метафарычнага пераасэнсавання на аснове падабенства з'яў. Выраз у такім разе ўсведамляецца як прыхаванае параўнанне з дзіцячым лепетам у прамым значэнні гэтых слоў. Параўн. і аналагічнае тлумачэнне фразеалагізма ў ТСБМ (т. 3, с. 35): «Дзіцячы лепет — пра што-н. вельмі бездапаможнае, *па-дзіцячаму* наіўнае». З другога боку, можна лічыць, што гэта выраз з агульным аналітычным значэннем і што абодва кампаненты — сэнсаўтваральныя: *дзіцячы* суадносіцца са значэннем 'наіўны, не сталы, неўласцівы даросламу', а *лепет* — са значэннем ці адценнем 'невыразная, непераканаўчая гаворка, разважанне, тлумачэнне і пад.'.

**Дзяліць шкуру (скуру) незабітага мядзведзя.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Загадзя размяркоўваць прыбытак ад чагосьці яшчэ не ажыццёўленага. *Кожны хоча нешта ўрваць. А рваць пакуль што няма чаго. Дзелім шкуру незабітага мядзведзя* (Б. Сачанка. Вялікі Лес).

Склаўся на аснове прыказкі, вядомай многім народам у блізкіх разнавіднасцях: *Не забіўшы мядзведзя, шкуры не прадавай* (руск.), *Не прадавай мядзведжай шкуры, пакуль не забіў мядзведзя* (ням.), *Не варта прадаваіць шкуру мядзведзя, не забіўшы яго* (франц.). Параўн. беларускія адпаведнікі, занатаваныя М. Федароўскім: *На жывым мядзведзі шкуры не купляй; Калі мядзведзь у лесе, то шкуру не дзяруць.*

**Дзяльба скуры незабітага мядзведзя.** *Гл.* падзел (дзяльба) скуры незабітага мядзведзя.

**Дзям'янава юшка.** *Пайкалька з руск. м.* (демьянова уха). Тое, што назойліва прапануецца каму-н. у вялікай колькасці. *Заставілі і пельмені есці. Смехата. Я іх туды, а яны — назад. Дзям'янава юшка* (В. Ткачоў. Дзень у горадзе).

Выраз з аднайменнай байкі (1813) І. А. Крылова, у якой расказваецца, як Дзям'ян так частаваў юшкай суседа Фоку, што той мусіў уцячы і пасля гэтага «да Дзям'яна ні нагой».

**Для адводу вачэй.** *Агульны для бел. і руск.* (для отвода глаз) *м.* З мэтай адцягнуць увагу, стварыць знешняе ўражанне, падмануць. *Нават неспрактыкаваны слых адразу адчуў бы самае звычайнае бразгаценне металу, якое бывае тады, калі часткі машыны не падагнаны як след адна да адной, зроблены наспех, для адводу вачэй* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Утвораны на аснове дзеяслоўнага фразеалагізма *адводзіць вочы* каму (гл.), набыў уласцівасці прыслоўна-акалічнасных выразаў.

**Для ачысткі сумлення.** *Калька з франц. м.* (par acquit de conscience). У апраўданне сваіх учынкаў, каб потым не шкадаваць аб чым-н., не раскайвацца ў чым-н. *Ды якія там грошы, нічога не трэба!.. Ну, калі вам так карціць, то, як гаворыцца, для ачысткі сумлення вышліце...* (В. Гігевіч. Варыянт).

У франц. м. фразеалагізм мог сфарміравацца на базе дзеяслоўнага выразу *ачысціць сумленне*, які прыйшоў з перакладам біблейскіх тэкстаў, напрыклад: «Хрыстос ачысціць сумленне наша ад мёртвых спраў» (Пасланне да яўрэяў, 9, 14).

**Для блізіру.** *Агульны для бел. і руск.* (для блезиру) *м.* З мэтай стварыць падманлівае ўражанне. У *Грыбаўцах гэтым часам нашы зайшлі да Карповіча, бацькі начштаба, пабілі для блізіру вокны, забралі лесніка* (А. Карпюк. Пушчанская адысея).

У франц. м. ёсць устойлівае спалучэнне *par plaisir* (дзе другі кампанент чытаецца як *плезір)* са значэннем ‘несур’ёзна, дзеля забавы’. Трапіўшы някніжным шляхам у нашу мову і не маючы ў ёй матывавaнай апоры на якое-небудзь слова, назоўнік *плезір* атрымаў народна-этымалагічнае пераасэнсаванне, «зрадніўся» са словам *блізка* ў значэнні ‘прыблізна’ (на аснове гукавога і часткова сэнсавага збліжэння). Адбыліся і некаторыя семантычныя зрухі ў выразе параўнальна з яго першакрыніцай.

**Для (дзеля) понту.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* для понта, *укр.* для понту). З мэтай стварыць пэўнае ўражанне (форсу, важнасці, паказухі і пад). — *Бачу, казакі — дужы народ? — Гэта я дзеля звычайнага понту — Стала быць, дзеля понту? — Так, дзеля понту. — Што ж, для понту дык для понту. А чаго баяцца?* (І. Чыгрынаў. Ігракі).

Паходзіць з турэмна-лагернага жаргону. Утвораны па мадэлі з сэнсава тоеснымі выразамі *для віду, для блізіру, для прыклёпу* і інш. *Понт* ужываецца ў маўленні карцёжнікаў побач са словамі *панцёр* (‘ігрок, які ставіць на кон пэўную суму грошай’) і *панціраваць* (‘рабіць стаўку, якая ў выніку пройгрышу пераходзіць да банкаўшчыка’) — Параўн. у франц. м.: *ponte* (чытаецца: понт) — ‘панцёр’ і ‘уплывовая асоба’.

**Для мэблі.** *Запазыч. з руск. м.* (для мебели). Зусім бескарысны, непатрэбны пры якой-н. справе або дзе-н. *[Пётр: ] Ці зможа яна разабрацца ва ўсіх інструкцыях і розных там паперках? [Насця: ] Ды і мы тут не для мэблі. Паможам, падкажам* (В. Зуб. Златацца не трэба).

Паходзіць з маўлення карцёжнікаў. Як засведчана ў даўнейшых слоўніках арго, словам *мэбля (мебель)* карцёжнікі называлі хаўруснікаў шулера, якія не ведалі шулерскіх прыёмаў і ўдзельнічалі ў гульні для павелічэння колькасці партнёраў, калі іх было мала.

**Днём з агнём.** *Запазыч. з руск. м.* Ужыв. са значэннямі ‘ніякім чынам, аніяк (не знойдзеш, не знайсці каго-, чаго-н.)’ і ‘з вялікімі цяжкасцямі, прыкладаючы значныя намаганні (шукаць, пашукаць каго-, што-н.)’. У *вайну мыла было днём з агнём не знайсці. А ў Захаркавай лазні аж два брускі: Тадорка дастала з дна скрыні* (І. Сіняўскі. Дарога на Замлынне). *[Акуліна: ] О, цяпер такіх нявестак днём з агнём пашукаць трэба* (А. Цяжкі. Нялюбая).

У руск. м. узнікненне фразеалагізма звязваюць з легендай пра грэчаскага філосафа Дыягена (IV ст. да н. э.). Аднойчы ён, каб паказаць, як мала сапраўдных людзей сярод сапсаванага грамадства, запаліў днём ліхтар і ўсюды хадзіў з ім, гаворачы: «Шукаю чалавека».

**Добрая (вясёлая) міна пры дрэннай гульні.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* хорошая мина при плохой игре, *укр.* весела міна при поганій грі). Маскіроўка свайго незадавальнення, непрыемнасцей знешнім спакоем, весялосцю. *Пасол, каб хоць нейкім чынам апраўдацца, захаваць добрую міну пры дрэннай гульні, мусіў гаварыць пра «два элементы» ў палітыцы сваёй краіны…* (А. Вярцінскі. Дзве дыпламатыі на паверку).

Назоўнікавае ўтварэнне на базе суадноснага дзеяслоўнага фразеалагізма *рабіць добрую міну пры дрэннай гульні* (гл.).

**Добры геній** *чый. Паўкалька з франц. м.* (bon génie). Чалавек, які аказвае на каго-н. дабратворны ўплыў, прыносіць каму-н. карысць. [Жарэс Ляхоўскі] *зноў усміхнуўся: «Ты мой добры геній, я гэтага чакаў». І ён паклаў сваю белую далікатную руку на яе маленькую, з доўгімі пальцамі ручку* (У. Дамашэвіч. Німфа).

Склаўся на аснове старажытнарымскіх міфалагічных уяўленняў. *Геній,* паводле гэтых уяўленняў, — дух-заступнік, які кіруе дзеяннямі і думкамі чалавека на працягу ўсяго яго жыцця. Лічылася, што ёсць два геніі: добры, які прыносіць карысць, і злы, які аказвае на чалавека дрэнны ўплыў.

**Добры дзень!** *Гл.* Дзень добры!

**Дойная карова.** *Раўназначныя адпаведнікі ёсць амаль ва ўсіх славянскіх, атаксамарумынскай, турэцкай і іншых мовах. Відаць,*

*калька з ням. м.* (melkende Kuh). Крыніца матэрыяльных даброт, якой можна несумленна карыстацца ў асабістых мэтах. *Варочаецца Валодзька на ложку, думае. Ах, грошы-грошыкі!.. Многа дае дзяржава, але ж ёй і аддаваць трэба. Ведама, не дойная карова* (М. Герчык. Гісторыя хваробы).

Выраз з празрыстай унутранай формай.

**Дражніць гусей.** *Запазыч. з руск. м.* Злаваць каго-н., выклікаць злосць. *Абаронцу лягчэй выступаць, калі ў яго вераць падапечныя. Будзьце стрыманымі і не дражніце без патрэбы гусей* (М. Машара. Лукішкі).

Крылаты выраз з байкі І. А. Крылова «Гусі» (1811). У ёй гаворыцца, як гусі, якіх селянін гнаў у горад прадаваць і «не вельмі ветлівы быў» з імі, раззлаваліся і сталі наракаць (пераклад М. Клімковіча): Таго не цяміць невук той, што ўсе Павінны к нам адносіцца з пашанай,

Бо мы свой знатны род вядзём ад тых гусей,

Якімі некалі быў Рым уратаваны.

Падарожны адказаў гусям, што іх продкаў заслужана шанавалі ў свой час, а гэтыя гусі ні да чаго не прыдатныя, апрача смажаніны.

У маралі выраз набывае абагульнена-пераносны сэнс:

Мог думку гэту ў байцы я далей развіць,

Ды каб гусей не раздражніць.

**Другая натура.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Арганічная патрэба, унутраная схільнасць, істотная рыса каго-н. *У яго ўзросце ўсякая дробязь мае значэнне, і асцярожнасць робіцца другой натурай* (У. Шыцік. Капітан).

«Абломак» прыказкі *Прывычка — другая натура* (паўкалькі з лац. м.: *consuetudo est altera natura).* Другая частка прыказкі стала ўжывацца ў спалучэнні не толькі са словам *прывычка.*

**Другі бок медаля.** *Гл.* адваротны (другі) бок медаля.

**Другое дыханне.** *Калька з англ. м.* (second breath). Новыя сілы, прыліў энергіі, бадзёрасці (пасля стомы, апатыі, няўдачы і пад.). *У стоме, адчаі, бядзе надзею не мкніся закрэсліць. Як новай паэмы раздзел, дыханне другое ўваскрэсне* (Ю. Голуб. Другое дыханне).

Паходзіць з маўлення спартсменаў-бегуноў. У часе бегу на далёкія дыстанцыі ў здаровага чалавека пасля крайняй стомы нечакана адбываецца новы прыліў сілы, выраўноўваецца дыханне.

**Дуба даць.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Абазначае ‘памерці’ (параўн. у польск. м.: *dać dęba* — ‘уцячы, даць цягу’). *Ану, Тоўкач, марш за падводай. Інакш твой Маслакоў… дуба дасць* (В. Быкаў. Круглянскі мост).

Як лічаць У. Даль і А. Праабражэнскі, гэты фразеалагізм у XIX ст. ўжываўся толькі ў паўднёвых гаворках (тэрыторыя сучаснай Украіны). Узнікненне выразу можна звязваць з даўнім славянскім пахавальным абрадам. Існавала павер'е, што прыстанкам душы пасля смерці чалавека становіцца дрэва. Пры пахаванні перавагу аддавалі дубу. Дно ямы выкладвалася дубовым лісцем, помнікі на магіле рабіліся з дубу. Дубовыя помнікі накшталт лодкі «сустракаюцца да гэтага часу на Заходнім Палессі і суседняй з ім Паўночнай Валыншчыне», такія помнікі «зафіксаваны ў мясцовасцях, дзе шмат камення, але яны абавязкова драўляныя, што звязана, трэба меркаваць, з культам дрэва» (М. І. Талстой).

**Дубовая галава.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Тупы, неразумны чалавек. *Вот жа дубовая галава. Далей свайго носа нічога не бачыць* (М. Вышынскі. У адведках).

Кампанент *дубовая* тут адыгрывае сэнсаўтваральную функцыю: ён суадносіцца з такімі словамі, як *дубіна, дуб,* адно са значэнняў якіх тоеснае са значэннем гэтага фразеалагізма.

**Дулю (фігу) з макам.** *Агульны для бел. іўкр. м.* Ужыв. са значэннямі 'зусім нічога не (атрымаць, даваць і пад.)' і 'не, зусім не (у значэнні адмоўнага слова-сказа)'. *Вы за гэта грошы аграбаеце з казны. А мне... дулю з макам даяце. Знайшлі дурня...* (В. Каваленка. Падвышанае неба). *А каб прылашчыць, дык фігу з макам, перасылаюць адна да адной, нібы той футбольны мяч* (В. Зуб. Мае жонкі).

Паводле паходжання гэта выраз каламбурнага характару. Тут на рэалізаванае спачатку значэнне слова *дуля,* выкарыстанае ў якасці пагардлівай адмовы 'не, зусім не', накладзена яшчэ адно значэнне — 'плод ігрушы' — з адначасовым дапаўненнем гэтага значэння экспрэсіўным дадаткам *з макам.* Параўн. прыклад, дзе перадаецца працэс разгортвання слова ў фразеалагізм: «— Чаго гэтую набрыдзь сюды пагнала? — Дык я ж кажу: па дранічкі прыбеглі!.. — Дулю! Дулю ім! З макам і такам! Замест дранічкаў...» (А. Савіцкі). Раней насенне маку было частай прыправай у ежу. Параўн. у прыказцы: *Еш, дурань, бо то з макам*!

**Дулю (фігу, кукіш) з маслам.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* фигу (шиш, кукиш) с маслом, *укр.* дулю (фігу) з маслом). Ужыв. са значэннямі: 1) зусім нічога не (атрымаць, даваць і пад.), 2) не, зусім не (выказванне катэгарычнага адмаўлення, пярэчання і пад.). — *Абшастаў усе кнігарні, — выціраючы насавіком жоўты плеш, зашаптаў мой сусед. — Знайшоў фігу з маслам* (І. Аношкін. Бурсакі). — *У добраахвотнікі хай запішацца!.. — Дулю з маслам, на фронце ногі можна замачыць! — адгукнуўся другі* (М. Лобан. На парозе будучыні).

Паводле паходжання гэта выраз каламбурнага характару. Тут на рэалізаванае спачатку значэнне слова *дулю*, выкарыстанае ў якасці пагардлівай адмовы ‘не, зусім не’, накладзена яшчэ адно значэнне — ‘плод ігрушы’ — з адначасовым дапаўненнем гэтага значэння экспрэсіўным дадаткам *з маслам.*

**Душа наросхрыст** у *каго. Паўкалька з руск. м.* (душа нараспашку). Хто-н. вельмі шчыры, адкрыты. *Памятаеце па Гомелю? Партызан, душа наросхрыст. Некалькі танкаў падарваў* (У. Карпаў. За годам год).

Мяркуюць, што ў словазлучэнні, з якога ўзнік фразеалагізм, рэалізуецца значэнне слова *душа* (засведчанае ў слоўніку У. Даля) — ‘ямачка на шыі пад кадыком’. Паводле народных уяўленняў, у гэтым месцы знаходзіцца душа. На грудзях, каля душы («ямачкі»), раней насілі, хавалі грошы. Першапачаткова словазлучэнне *душа наросхрыст* абазначала, як піша М. М. Шанскі, «чалавека з расшпіленым каўняром кашулі, які не баіцца паказаць, што ў яго за пазухай». Параўн.: «Гэта ўражанне як бы дапаўняла тое, што каўнер касавароткі быў расшпілены, нібы паказваў: уся душа наросхрыст» (І. Мележ. Подых навальніцы).

**Душа ў пяткі <схавалася, ускочыла>** у *каго. Недакладная калька з лац. м.* (animus in pedes decidit — душа ў ногі (ступні) упала). Каго-н. ахоплівае моцны страх. *Не, я перапалохалася вельмі. Як ён пачаў гаварыць, дык у мяне душа ў пяткі схавалася* (А. Асіпенка. Вогненны азімут).

У аснове фразеалагізма — гіпербалізаваны вобраз.

**Душой загавець.** *Уласна бел.* Памерці, загінуць. *Закон, бачыш, такі ёсць: як хто сам праз сябе памрэ, дык датуль няможна хаваць, пакуль не дойдуць, як і праз што ён душой загавеў* (Я. Купала. Раскіданае гняздо).

Слова *загавець*, апрача свайго асноўнага значэння ‘паесці скаромніны апошні раз перад постам’, у бел. гаворках ужываецца з іншымі значэннямі; напрыклад, у «Матэрыялах для слоўніка мінска-маладзечанскіх гаворак» (1974): *загавець* — ‘захварэць’. Параўн. таксама: «Я не хачу загавець жыццём чорт ведама за што» (Р. Мурашка). Тут ужо сэнс дзеяслова *загавець* іншы: ‘загінуць’. Такое ж устар. ці дыял. значэнне і ў дзеяслоўным кампаненце фразеалагізма *душой загавець*. Яно выяўляецца пры супастаўленні гэтага фразеалагізма з антанімічным *душой адгавець* — ‘ажыць’. Параўн. у слоўніку У. Даля: *гавець* — ‘жыць, быць’ (з паметай «устарэлае»). «Магчыма, словы *загавець, адгавець* ад таго кораня, што і *жыць, гаіцца (загаіцца)*» (Ф. Янкоўскі). Як бачым, сэнсавым цэнтрам фразеалагізма *душой загавець* першапачаткова выступаў дзеяслоў *загавець.*

**Дымавая заслона.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* дымовая завеса, *укр.* димова завіса). Маскіроўка, наўмыснае адцягванне ўвагі ад чаго-н. У *ходзе следства і суда дымавая заслона рассеялася, і хапугі паўставалі такімі, якші былі* (Звязда. 3.10.1982).

Узнік у выніку пераасэнсавання састаўнога тэрміна, якім у маўленні ваенных называюць штучна ўтвораныя воблакі дыму як спосаб маскіроўкі.

**Дым карамыслам.** *Запазыч. з руск. м.* Дзе-н. пануе вялікае ажыўленне ці падымаецца шум, беспарадак, сумятня. У *другой* [вёсцы] *паліцаі вяселле гуляюць, нейкага бобіка жэняць: панаехала, па вуліцах поўна падвод, п'янка — дым каромыслам* (В. Быкаў. Круглянскі мост).

Узнікненне фразеалагізма звязваюць з даўнейшым сялянскім бытам, калі існавалі курныя хаты, г. зн. хаты, якія абаграваліся печкай без коміна. Дым выходзіў праз спецыяльнае акенца або ў дзверы. Калі ў хаце было спакойна, а на дварэ стаяла добрая пагода, дым выходзіў роўным патокам. Калі ж пачынаўся шум, сумятня, то дым падымаўся каромыслам, г. зн. выбіваўся клубам і пасля перавальваўся дугой.

**Дыхаць на ладан.** *Гл.* на ладан дыхаць.

# Е

**Егіпецкая ка́ра.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* египетская казнь, *укр.* египетська кара). Нязносна цяжкае становішча, бяда, бядота. *[Ухватаў:] Не-е, я на вас аброцьку знайду. Я табе такую кару егіпецкую зараз знайду, на ўсё жыццё табе хопіць!* (А. Макаёнак. Пагарэльцы).

Склаўся на аснове біблейскага аповеду (Зыход, 7-12) аб дзесяці карах (ператварэнне вады Ніла ў кроў, падзеж жывёлы, маравая пошасць, нашэсце саранчы, шматдзённая цемра і інш.), якімі Бог пакараў егіпцян за тое, што фараон адмаўляўся вызваліць яўрэяў, што жылі ў Егіпце на становішчы рабоў.

**Ездзіць па левым баку.** *Уласна бел.* Парушаць нормы літаратурнай мовы. *У нас, аднак, для некаторых людзей моўныя нормы — не закон. Яны «ездзяць палевым баку»* (Настаўн. газ. 1.04.2000).

Крылаты выраз з артыкула К. Крапівы «Ці будзем мы ездзіць па левым баку?» (1973). І ў загалоўку, і ў тэксце артыкула словазлучэнне ўжыта з метафарычным, пераносным значэннем. Падаецца і аснова пераасэнсавання — супастаўленне з правіламі дарожнага руху (у прыватнасці, такога правіла, як «трымайся правага боку»).

**Ерыхонская труба.** *Гл.* іерыхонская (ерыхонская) труба.

**Есці поедам** *каго. Агульны для ўсходнесл. м.* Бесперастанку мучыць папрокамі, дакараць, зневажаць. *Ты ж яго грызла і грызла, поедам ела. Ды не адна, а ўдвух з маткаю* (П. Місько. Градабой).

Узнік па мадэлі таўталагічных выразаў тыпу *прападзі пропадам.* Сэнсаўтваральным тут выступае дзеяслоў *есці,* ужыты ў пераносным значэнні ‘даймаць каго-н. сваркамі, папрокамі’. Далучанае да дзеяслова аднакаранёвае прыслоўе *поедам,* неўжывальнае па-за гэтым выразам, узмацняе экспрэсію фразеалагізма і дапаўняе яго значэнне элементам бесперапыннасці.

**Есці прасіць(-яць).** *Агульны для ўсходнесл. м.* Ужыв. пры дзейніку, які абазначае назвы абутку, і мае сэнс ‘вельмі знасіўся, патрабуе рамонту (бот, чаравік і пад.)’. *У лодцы і босай сядзець можна. Вунь, адзін чаравік мой — есці просіць* (А. Шашкоў. Белы камень).

Утвораны праз супастаўленне дзіравага абутку з адкрытым ротам немаўляці, які гэтай мімікай просіць есці.

**Ехаць з кірмашу.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* ехать с ярмарки, *укр.* іхати з ярмарку). Блізіцца к канцу жыцця. *Гэта ж*

*трэба, Антось Клепча, які ўжо з кірмашу едзе, запісаўся з гэтай самай Хлёркавай Ганнай…* (М. Скрыпка. Збоку прыпёку).

У вобразнай аснове фразеалагізма — супастаўленне чалавечага жыцця з дарогай на кірмаш і вяртаннем з кірмашу.

# Ё

**Ёлкі зялёныя.** *Запазыч. з рус. м.* Вокліч захаплення, прыкрасці і пад. — *Хлопчыкі мае!* — *крычаў Валодзя ўжо на самым вільчыку страхі. — Ах вы, ёлкі зялёныя, як далёка відаць*! (Я. Брыль. У Забалоцці днее).

Ёсць меркаванне, што ўзнікненне выразу звязана з тым, што даўней на карчомных шыльдах малявалі яловыя галінкі.

**Ёсць яшчэ порах у парахаўніцах** *у каго. Паўкалька з рус. м.* (есть еще порох в пороховницах). Хто-н. мае сілу, энергію, каб зрабіць, здзейсніць што-н. *Каб даказаць, што сапраўды ёсць яшчэ порах у парахаўніцах, ён, Пратасевіч, разагнаўся і, зусім не адчуваючы сваіх ног, як хлапчук, перасігнуў тады двухметровы язык полымя* (А. Васілевіч. Пратасевіч).

Крылаты выраз з аповесці М. В. Гогаля «Тарас Бульба». У час бітвы з непрыяцелем Тарас тройчы звяртаецца да казакоў: «Ёсць яшчэ порах у парахаўніцах? Ці не аслабела казацкая сіла? Ці не гнуцца казакі?» І чуе іх адказ: «Ёсць яшчэ, бацька, порах у парахаўніцах. Не аслабела яшчэ казацкая сіла; яшчэ не гнуцца казакі!»

# Ж

**Жаба ў каляіне.** *Уласна бел.* Нікчэмнасць, асуджаная на пагібель. — *А што такое Абрамчык? Гандлярчык, і то дробны… — Жаба ў каляіне, — дадае Навумовіч* (Л. Прокша. Інтрыгі прэзідэнцкага двара).

Выраз з аднайменнай байкі (1927) К. Крапівы, у якой гаворыцца, як жаба, сеўшы ў каляіну, рашыла перавярнуць воз. Але: «Тут колам — хрась! І кроў і гразь… Пад кола, жаба, не падлазь». Выраз з намёкам на байку, адкуль ён паходзіць, і без намёкаў выкарыстаны ў творах І. Гурскага, А. Жука,

С. Кліменценкі, Л. Прокшы, М. Чавускага і інш., напрыклад: *Партыя цяпер апынулася ў ролі жабы ў каляіне* (ЛіМ. 22.03.1996).

**Жалезная заслона.** *Калька з англ.* (iron curtain) *або ням.* (der eiserne Vorhапд) *м.* Самаізаляцыя, сур'ёзная перашкода ў кантактах (пераважна паміж дзяржавамі). *Жалезная заслонаў канцы васьмідзесятых гадоў была ўжо добра такі прыўзнята* (Т. Кароткая. Дом вокнамі у заўтра).

У замежнай прэсе выраз дастасоўваўся да Савецкага Саюза, які адгарадзіў сябе «жалезнай заслонай» ад краін заходняй дэмакратыі. Выраз у яго палітычным значэнні і менавіта ў дачыненні да СССР упершыню выкарыстаў Гебельс у артыкуле «2000-ы год», апублікаваным у часопісе «Das Reich» 23.02.1945 г. Але шырокую вядомасць і пашыранасць у замежным друку гэты выраз атрымаў пасля таго, як 5.03.1946 г. быў ужыты У. Чэрчылем пры выступленні ў Фултане.

**Жарты сказаць.** *Паўкалька з руск. м.* (шутка сказать). Ужыв. як пабочнае словазлучэнне для падкрэслівання важнасці, значнасці чаго-н., абазначае ‘зусім не простая справа’. *Жарты сказаць — я пабачу сапраўдных пісьменнікаў* (Я. Скрыган. Світанак).

У руск. м. форма *шутка сказать* замест чаканай *шутку сказать* з'яўляецца сінтаксічным перажыткам: у помніках XIII-XIV стст. і пазнейшых часта сустракаецца назоўны скл. аб'екта пры незалежным інфінітыве.

**Журавéль у небе.** *Агульны для бел. і руск. м.* Аддаленая будучыня, нешта няпэўнае. *Як бы, паверыўшы ў байкі тыя, пагнаўшыся за тым жураўлём у небе, не страціць і тое, што яшчэ засталося (І. Ме*леж. Людзі на балоце).

Паходзіць з прыказкі *Лепш сініцаў руках, чым журавель у небе*, якая абазначае ‘лепш мець што-н. пэўнае менавіта цяпер, чым спадзявацца на большае і лепшае ў аддаленай будучыні’ і спарадзіла два фразеалагізмы (гл. *сініца ў руках).*

**Жывы труп.** *Відаць, калька з франц. м.* (cadavre vivant). Вельмі слабы, хворы, блізкі да смерці чалавек. *Даведаўшыся, што ў Каляды быў партызанскі доктар, прыехалі эсэсаўцы, каб забраць яго, але, паглядзеўшы, махнулі рукой. «Гэта жывы труп», — сказаў эсэсаўскі афіцэр* (І. Гурскі. У агні).

Пабудаваны на мастацкім прыёме аксюмарана — наўмыснага спалучэння двух слоў неаднолькавай часціны мовы, якія выражаюць лагічна неспалучальныя паняцці і ўзаемна выключаюць адно аднаго.

**Жыў курылка.** *Запазыч. з руск. м.* (жив курилка). Вокліч задавальнення, захаплення, здзіўлення і пад. пры ўпамінанні пра таго, хто, нягледзячы на што-н., існуе, жыве, дзейнічае. *Нарэшце*

[Ніна Іванаўна] *пачула, як заскрыпела крэсла, як цяжка ўздыхнуў абражаны муж. «Жыў курылка»* (І. Шамякін. Атланты і карыятыды).

Узнікненне фразеалагізма звязана з сімволікай старажытнай народнай гульні з запаленай лучынай, якую перадавалі з рук у рукі, пакуль яна не згасне. Гульня суправаджалася песняй, што пачыналася так: «Жив, жив курилка, жив, жив, да не умер». Выраз падаецца ў «Руска-беларускім слоўніку» і «Беларуска-рускім слоўніку». Параўн. у І. Насовіча: «Жыў быў курылка, дый памёр. — Кажуць жартаўліва, калі дагарэўшая лучына гасне раптам».

**Жыўцом з'есці** *каго. Агульны для бел. і ўкр.* (живцем з'їсти) *м.* Замучыць, загубіць нападкамі, ганеннем. *Можа, вы мяне, братцы, аслабанілі б як... Ізноў жа... жыўцом мяне жонка з'есць, бо й так я забавіўся...* (МЛынькоў. На чырвоных лядах).

Паводле паходжання гэта выраз каламбурнага характару. Тут на рэалізаванае спачатку пераноснае значэнне слова *з'есці* 'замучыць нападкамі, ганеннем' накладзена яшчэ адно, прамое значэнне гэтага ж слова 'скарыстаць на яду' з адначасовым дапаўненнем гэтага значэння экспрэсіўным дадаткам *жыўцом* 'у жывым стане' Параўн. ужыванне дзеяслова *з'есці* і фразеалагізма *жыўцом з'есці* ў наступным урыўку: «З'есць мяне шэф, калі даведаецца, далібог, жыўцом з'есць...» (І. Новікаў).

# З

**Забаронены плод.** *Паўкалька з руск. м.* (запретный плод). Штосьці прывабнае, спакуслівае, але недазволенае. *Вось яны, яго грахі маладосці, якіх яна баялася яшчэ да замужжа Дашы, лічыла, што чалавек, які адкусіў ад забароненага плода, калі-небудзь спакусіцца зноў* (І. Шамякін. Атланты і карыятыды).

У рускай мове выраз узнік з прыказкі *Запретный плод сладок*, якая склалася на аснове біблейскага міфа пра першых людзей на зямлі. Паводле Бібліі (Быццё, 2, 16–17), Бог дазволіў Адаму і Еве есці плады з усіх дрэў, апрача дрэва пазнання дабра і зла: «І не датыкайцеся да іх, каб вам не памерці». Аднак занадта цікаўная Ева не ўтрымалася, каб не сарваць забаронены плод, і спакусіла таксама Адама. За гэта абое былі пакараны і выгнаны з раю.

**Забіванне казла.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Гульня ў даміно. *На жаль, нямала ў нас мужчын, якія пасля работы, у выхадны*

*дзень аддаюць перавагу забіванню казла або тэлевізару* (Звязда. 12.07.1987).

Назоўнікавы фразеалагізм, вытворны ад суадноснага дзеяслоўнага *забіваць казла* 'гуляць у даміно'.

**Забіваць (забіць) двух зайцаў.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Дабівацца адначасовага ажыццяулення дзвюх мэт. *[Генка: ] Так мы зразу забіваем двух зайцау: вырашаем праблему харчавання і рэгулюем рост насельніцтва* (К. Крапіва. Брама неўміручасці).

Узнік на вобразнай аснове прыказкі *За двума зайцамі пагонішся, ніводнага не зловіш* як бы насуперак значэнню яе літаральнага плана.

**Забіць асінавы кол у магілу** *каго, чаго. Усходнесл.* Канчаткова пазбавіцца каго-н., чаго-н. *Пара скончыць з аджытымі формамі гаспадаравання на вузкіх палосках і забіць асінавы кол у магілу індывідуальнай гаспадаркі* (Я. Колас. Адшчапенец).

Узнік у выніку фразеалагізацыі свабоднага спалучэння слоў, звязанага з даўнейшым прымхлівым звычаем забіваць асінавы кол у магілу ведзьмака; гэта нібыта гарантавала, што ён не зможа выходзіць з магілы і шкодзіць людзям. Параўн. ужыванне словазлучэння з прамым значэннем яго кампанентаў: «Закапалі, убілі асінавы кол, далі насып тры сажні высокі» (Я. Купала).

**Заблудзіць у трох соснах.** *Гл.* блудзіць (заблудзіць) у трох соснах.

**Заблудная (блудная, аблудная) авечка.** Фразеалагізм з аналагічнай вобразнасцю і значэннем ёсць амаль ва ўсіх еўрапейскіх мовах. Абазначае 'чалавек, які збіўся з правільнага жыццёвага шляху' *Колькі надзеі паклаў ён* [«брат Міша»] *на тое, што прывядзе нарэшце «к господу» гэтую «заблудную авечку»* (Я. Брыль. Праведнікі і зладзеі).

Выраз склаўся на базе евангельскай прытчы (Лука, 15, 4–6) пра чалавека, які, «маючы сто авец і згубіўшы адну з іх», пакінуў астатніх у пустыні і пайшоў шукаць заблудную, а знайшоўшы яе, радаваўся «больш, чым дзевяноста дзевяці не заблудным». Так, гаворыцца ў канцы прытчы, «бывае радасць у анёлаў божых і аб адным грэшніку, які каецца».

**За бортам** *аказацца, апынуцца* і пад. *Агульны для ўсходнесл. м.* Без справы, без удзелу ў чым-н. *Але ж за бортам Андрэй Захаравіч апынуўся па вашай віне, Алена Міхайлаўна* (Настаўн. газ. 29.05.1985).

Утварыўся ў выніку ўнутрыфразеалагічнай дэрывацыі на аснове ўжо існуючага дзеяслоўнага выразу *выкідваць за борт* каго, што (гл.), набыў уласцівасці прыслоўных фразеалагізмаў.

**Забраць за жывое** *каго. Гл.* закрануць за жывое *каго.*

**Заварыць кашу.** *Агульны для ўсходнесл., серб. — харв. і чэшск. м. (руск.* заварить кашу, *укр.* заварити кашу, *серб. — харв.* закувати кашу — «заварыць кашу», *чэшск.* zavarit si рекпоu kasi; параўн.: *балг.* бъркам каша — «мяшаць кашу», *польск.* nawarzyć piwa). Яго значэнне—‘распачаць складаную, клопатную, непрыемную справу’. *Я першы здагадаўся, што «забастоўка» — непрыкметная работа Івана Свірыдавіча і яго сяброў, што ў батальёне ён, бадай, галоўны. І што ж выходзіць? Заварыў кашу, а сам у кусты? Няхай расплачваюцца іншыя?* (І. Шамякін. Першы генерал).

Выраз узнік з адпаведнага свабоднага словазлучэння. Яго пераасэнсаванне адбылося, на думку М. М. Шанскага, тады, калі слова *каша* сталі ўжываць са значэннямі ‘святочны абед, гасціны з выпадку хрэсьбін ці вяселля’ і ‘беспарадак, сумятня, блытаніна’. Калі прыняць пад увагу, што слова *заварыць* у свабодным ужыванні можа рэалізаваць пераноснае значэнне ‘распачаць штосьці складанае, клопатнае’, то фразеалагізм *заварыць кашу* паводле ўзнікнення можна разглядаць як выраз з агульным аналітычным зместам, які суадносіцца з аслабленымі значэннямі кампанентаў *заварыць* і *каша.* У бел. м. ужываецца і варыянт *наварыць кашы*: «Ой, наварылі бацькі сабе кашы, будзе што есці!.. Будзе вазня!» (В. Дунін-Марцінкевіч). Параўн. у зборніку М. Федароўскага: «Наварылі кашы, ды невядома, ці паядуць». Дзеяслоў *наварыць* ужываўся з пераносным значэннем ‘зрабіць штосьці клопатнае, непрыемнае’ ужо ў XVI ст.; параўн. у «Баркулабаўскай хроніцы»: «Мы вси маем ся тым ображати от тых здрайцов наших, которые то наварили…»

**Завесціся з паўабароту.** *Гл.* заводзіцца (завесціся) з паўабароту.

**Заводзіцца (завесціся) з паўабароту.** *Агульны для ўсходнесл. м.* (руск. заводиться с полуобррота, укр. заводитися з півоберту). Вельмі хутка прыходзіць ва ўзбуджанасць, узрушанасць, хваляванне. *Пасля гісторыі ў тэрмаабрубным начальнік цэха таксама заводзіцца, як кажуць, з паўабароту* (У. Карпаў. Вясеннія ліўні).

Паводле паходжання гэта выраз каламбурнага характару. Тут на рэалізаванае спачатку значэнне слова *заводзіцца* ‘прыходзячы ва ўзбуджанасць, распачынаць спрэчку з кім-н.’ накладзена яшчэ адно значэнне гэтага ж слова ‘пачынаць дзейнічаць у выніку пуску ў ход якога-н. механізма’ з адначасовым яго дапаўненнем экспрэсіўным дадаткам *з паўабароту*. Параўн. прыклад, дзе перадаецца працэс разгортвання слова ў фразеалагізм: «Ён [Ролік] на хвіліну змоўк, але потым зноў завёўся. З паўабароту» (У. Караткевіч). Параўн. таксама: «Бліноў ускіпеў, завёўся з

паўабароту. — Ты што падколваеш? — шалёным позіркам апёк ён Косцю… — Ну-у? А ты скажы, — завёўся ўжо і Косця, хоць знаку яшчэ і не падаваў» (Я. Радкевіч).

**Заводзіць (завесці) катрынку.** *Уласна бел.* Дакучліва гаворыць пра адно і тое ж. — *Ну! Ну! Завяла ўжо катрынку! — глуха загукаў Арцём са студні* (Я. Колас. Недаступны).

Утварыўся ў выніку метафарызацыі свабоднага словазлучэння, звязанага з ігрой на *катрынцы* — пераносным механічным аргане ў выглядзе невялікай скрынкі, на якім ігралі вандроўныя музыканты. Калі заводзілі, пускалі ў ход гэты арган, чулася працяглае, нуднае, тужлівае гучанне. Гэта і стала асновай для пераасэнсавання. Лічыцца, што першай мелодыяй, якая выконвалася вандроўнікамі-немцамі, была франц. песенька «Charmante Catherine» («Прыгожая Кацярына») ці яе ням. пераклад «Scharmante Katharine». Ад другога кампанента гэтай назвы паходзіць слова *катрынка.* У польск. м. ёсць таксама фразеалагізм з гэтым кампанентам: *(gadać, mowić) jak nakręcona katarynka.*

**Заводзіць (завесці) <сваю> шарманку.** *Агульны для бел. і рус. м.* Дакучліва гаворыць пра адно і тое ж. *[Пранцісь — Быкоўскаму: ] Собственно, пане дабрудзею, завядзі яшчэ сваю шарманку: яна ў цябе, прост, як грамафон, вось-цо-да, трубіць* (Я. Купала. Паўлінка).

Узнік гэтак жа, як і фразеалагізм *заводзіць (завесці) катрынку* (гл. вышэй), — на аснове назвы франц. песенькі «Charmante Catherine». Толькі слова *шарманка* паходзіць ад першага кампанента гэтай назвы, а *катрынка* — ад другога.

**Завязваць (завязаць) вузялок.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Цвёрда запамінаць, улічваць на будучыню. *[Гары: ] Па дарозе ў лясгас да Алешкі зазірні. Скажы, што засеў Гары ў Харытонавым ручаі… Алешка трактар арганізуе. Не забудзеш, кандыдат?.. [Ягор: ] Вузялок завяжу* (В. Лукша. Калі вяртаюцца буслы…).

У аснове фразеалагізма — адгалосак даўнейшага звычаю завязваць на нітцы вузялкі для запамінання лікаў ці яшчэ чаго-небудзь.

**Загавець душой.** *Гл.* душой загавець.

**Загаворваць зубы** *каму. Гл.* зубы загаворваць *каму.*

**Заганяць (загнаць) у тупік** *каго. Агульны для бел. і рус. м.* Даводзіць да разгубленасці, збянтэжанасці. *І як заўсёды, нягледзячы на Алесева красамоўства, Кастусь заганяў яго ў тупік* (М. Ваданосаў. Пад чужым паролем).

Узнік у выніку пераасэнсавання тэрміналагічнага словазлучэння з маўлення чыгуначнікаў, дзе *тупік* абазначае ‘чыгуначны станцыйны пуць, злучаны з іншымі пуцямі толькі адным канцом’.

**Загнанасць у тупік.** *Уласна бел.* Крайняя разгубленасць. *А маглі б ужо і сёння жыць іначай… Не было б адчування няпэўнасці, безвыходнасці, загнанасціў тупік* (Н. Гілевіч. У роздумах аб жыцці-быцці нашым).

Паходзіць з суадноснага дзеяслоўнага фразеалагізма *загнаць у тупік* (каго), які абазначае ‘давесці да разгубленасці, збянтэжанасці’ (гл.).

**Загнаць у тупік *каго.*** *Гл.* заганяць (загнаць) у тупік *каго.*

**З агню ды ў полымя.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* из огня да в полымя, *укр.* из вогню та в полум’я). З адной непрыемнасці ў другую (трапляць, кідаць, кідацца). *Нават маці была рада, што, нарэшце, яе сын пазбавіцца ад вечнай крыўды. Але Казік трапіў з агню ды ў полымя* (А. Чарнышэвіч. На сажалках).

Пабудаваны як градацыйная канструкцыя на супастаўленні двух блізкіх у сэнсавых адносінах слоў.

**Заграбаць жар чужымі рукамі.** *Гл.* чужымі рукамі жар заграбаць.

**Заграбаць лапатай** *грошы. Гл.* грэбці (грабці, заграбаць) лапатай (*грошы*).

**За гуж узяцца**. *Уласна бел.* Пачаць якую-н. справу, лічачы сябе здольным выканаць яе. — *Ты ўсё знаеш! Усе падходы! — Знаю. А і табе знаць бы трэба. Калі за гуж узяўся* (І. Мележ. Завеі, снежань).

Паводле паходжання гэта «абломак», першая частка прыказкі *Узяўся за гуж, дык не кажы, што не дуж*, якая абазначае ‘калі ўзяўся за якую-н. справу, не адмаўляйся, спасылаючыся на цяжкасці яе выканання’. Адарваўшыся ад прыказкі, яе фрагмент стаў ужывацца ў розных асобах абодвух трыванняў: *узяўся за гуж* (В. Гардзей), *узяліся за гуж* (А. Васілевіч), *бяруся за гуж* (М. Лужанін), *бярэшся за гуж* (М. Гроднеў) і інш.

**Задаваць (задаць) труса.** *Уласна бел.* Баяцца, палохацца. *Толькі не трэба труса задаваць: глядзі смела, кажы адважна, рэж з-за пляча — храбрасць гарады бярэ!* (Я. Колас. На ростанях).

Склаўся, відаць, пад уплывам фразеалагізма *труса святкаваць* (гл.) з заменай у ім дзеяслоўнага кампанента.

**Задаваць (задаць) фефару** *каму. Пайкалька з ням. м.* (Pfeffer geben). Сурова распраўляцца з кім-н., караць каго-н. — *Гэта напэўна святыМікалай памыліўся і замест цябе мяне пакараў. — Ён яшчэ, глядзі, і мне каб фефару не задаў. Чорт яго, брат, ведае* (Я. Колас. На ростанях).

Унутраная форма фразеалагізма становіцца зразумелай, калі мець на ўвазе, што ням. *Pfeffer* — перац.

**Задаваць (задаць) храпавіцкага.** *Запазыч. з руск. м.* Моцна спаць. — *Алё, здароў! — прывітаў яго Сейка. — Ты, як звычайна, храпавіцкага задаваў*? (У. Карпаў. Вясеннія ліўні).

Назоўнікавы кампанент, неўжывальны па-за межамі гэтага фразеалагізма, выконвае тут сэнсаўтваральную ролю і ўзнік на аснове дзеяслова *храпці.* Магчыма, выраз склаўся пад уплывам сэнсава тоеснага *даваць храпака* (гл.) з заменай апошняга кампанента ўтварэннем каламбурнага характару на ўзор прозвішчаў.

**Задаваць перцу** *каму. Гл.* даваць (даць; задаваць, задаць) перцу *каму.*

**Задаваць стракача** *ад каго, адкуль, куды. Гл.* даваць (даць; задаваць, задаць) стракача *ад каго, адкуль, куды.*

**Задаваць тон** *<каму, чаму, у чым>*. Гл. даваць (даць; задаваць, задаць) тон *<каму, чаму, у чым>.*

**Задаваць храпака.** *Гл.* даваць (даць; задаваць, задаць) храпака.

**Задаць труса.** *Гл.* задаваць (задаць) труса.

**Задаць фефару** *каму. Гл.* задаваць (задаць) фефару *каму.*

**Задаць храпавіцкага.** *Гл.* задаваць (задаць) храпавіцкага.

**За дзедам шведам.** *Уласна бел.* Вельмі даўно (было, будавалася што-н. і пад.). *Шыкялёўскі млын быў стары, мусіць, пабудаваны яшчэ за дзедам шведам* (І. Новікаў. Тварам да небяспекі).

Прыгадаем радкі з пазмы «Барысаў» Я. Купалы: «Былі войны, бітвы, слёзы, кроў ліліся, шведа, Банапарта сляды засталіся». Адзін з такіх слядоў, толькі моўны, — фразеалагізм *за дзедам шведам*: шведскія заваёўнікі прыходзілі на беларускія землі двойчы (1655, 1706–1708). Кампанент *дзедам*, відаць, уліўся для сугучнасці ў першапачаткова свабоднае спалучэнне з канкрэтным часавым значэннем (параўн. падобныя: *за царом, за палякамі).*

**З адкрытым (паднятым) забралам.** *Калька з ням. м.* (mit offenem Visier — «з адкрытым забралам»; варыянт з *паднятым забралам* узнік на аснове нямецкага *das Visier luften* — «забрала падняць»; дарэчы, у немцаў ёсць яшчэ адзін фразеалагізм з кампанентам *забрала: mit verschlossenem Visier* — «з апушчаным забралам»). Ужыв. са значэннямі: 1) адкрыта, не тоячыся, 2) шчыры, нічым не прыхаваны. *Ён* [Туляга] *і цяпер не спяшаецца ісці ў бой з паднятым забралам* (А. Сабалеўскі. Доўгае жыццё камедыі). *Дарагі мой Пілір Макаравіч, дык я ж тады самы заядлы кар'ерыст. Як кажуць, з адкрытым забралам* (І. Дуброўскі. Зямныя вузлы).

Выраз «рыцарскага» паходжання. На галаве ў рыцара быў шлем, пярэдняя рухомая частка якога называлася забралам і, калі трэба, выпускалася і засланяла твар. (Параўн. у А. Вольскага:

«Здаецца, зараз з цаглянай вежы вылезе рыцар і скажа: „Стой!“ На твар забрала апусціць нізка».) Рыцары ваявалі звычайна з апушчаным забралам; найбольш смелыя хадзілі ў бой з адкрытым (паднятым) забралам.

**Заднім розумам моцны.** *Паўкалька з руск. м.* (задним умом крепок). Няздольны своечасова прыняць патрэбнае рашэнне. *Не, я зусім не так сябе з ім трымала. Заднім розумам моцная, хоць пабяжы ды дагані тую «Волгу», пачні ўсю размову спачатку* (Л. Арабей. Дзень мінулы, дзень наступны).

Паходзіць з прыказкі *Мужык задним умом крепок.*

**Задняя думка.** *Калька з франц. м.* (arrière-pensee). Скрыты намер, таемны *замысел. Дырэктар жа не проста частуе. Заднюю думку, відаць, мае, хоча дапамогі на экзамене ці што іншае* (І. Навуменка. Бульба).

Выраз з драмы «Марнатравец» (1736) французскага пісьменніка Дэтуша. У выразе падразумяваецца падабенства з фонамі карціны — пярэднім і заднім.

**За дрэвамі не бачыць лесу.** *Калька з англ.* (not to see the wood for the trees) *ці ням.* (den Wald vor Bäumen nicht sehen) *м.* За чым-н. дробным не заўважаць значнага, вялікага. *Цяпер я ведаю, што азначалі твае словы «нас разбілі»... Але ты вельмі шырока бярэш, за дрэвамі не бачыш лесу. Толькі слабы чалавек можа разгубіцца ад першай няўдачы* (У. Дамашэвіч. Між двух агнёў).

У вобразнай аснове фразеалагізма — алагізм як стылістычны прыём.

**Задурванне галавы** *каму. Уласна бел.* Заблытванне каго-н. глупствам, непатрэбнасцю. *Цярпець не магу анкет, апытванняў і тэстаў. Па-мойму, гэта толькі задурванне галавы добраму чалавеку* (У. Караткевіч. Ці дажывём да ста год…).

Вытворны ад суадноснага дзеяслоўнага фразеалагізма *задурваць галаву* (каму), адно са значэнняў якога — ‘заблытваць каго-н., пазбаўляць здольнасці разумна разважаць’.

**За душой.** *Агульны для ўсходнесл. м.* У наяўнасці (быць у каго-н., мець што-н.). *Каб толькі якая зачэпка была, а там даказаць лёгка будзе, асабліва калі грошы за душою будуць* (М. Лобан. На парозе будучыні).

Першапачаткова слова *душа* тут мела ўстарэлае значэнне (засведчанае ў слоўніку У. І. Даля) ‘ямачка на шыі пад кадыком’. Паводле народных уяўленняў, у гэтым месцы знаходзіцца душа чалавека. На грудзях, каля душы (‘ямачкі’), раней насілі, хавалі грошы.

*Пачынаць* **з азоў.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* с азов, *укр.* з азів). З самага пачатку, з простага, элементарнага. *Як вядома, пачалі мы тут з азоў. Адна электраўстаноўка і тры пілы*

— *восьі ўсё, што мелі спачатку* (М. Ваданосаў. У Баркоўскай пушчы).

Паходзіць ад слова *аз*, якім называлася літара «а» — першая ў старaславянскай азбуцы (кірыліцы). Параўн. у вершы А. Вярцінскага «Аз, букі і ведзі»: «Сумна не ведаць нічога на свеце. Жыць жыццём цёмных лясоў. Дзень добры, аз, букі і ведзі! Усё пачынаецца з вас, з азоў».

**За і супраць** *узважваць, перабіраць. Калька з лац. м.* (pro et contra). Аргументы на карысць чаго-н. у супастаўленні з тым, што адмаўляе іх. *Сустрэўшыся з некаторымі таварышамі, узважыўшы ўсе за і сутраць, Краўчанка прыйшоў да вываду, што «спецыяльная канцылярыя» пакуль што за межамі дасягальнасці…* (Б. Мікуліч. Цяжкая гадзіна).

Першапачаткова, ужываючыся пры абавязковым дзеяслове-суправаджальніку *ўзважваць*, выраз звязваўся з уяўленнем пра шалі (прыладу для ўзважвання) як сімвал правасуддзя.

**Зайсці ў тупік.** *Агульны для бел. і руск. м.* Трапіць у цяжкае становішча. *Рабочыя страцілі веру да лідэраў. І не ведалі, што ім рабіць. Зайшлі ў тупік…* (М. Гарэцкі. Віленскія камунары).

Свабоднае словазлучэнне, на базе якога ўтварыўся фразеалагізм, звязана не з чыгуначным тупіком, а з глухім завулкам, які таксама называюць тупіком. Даўней у кожным горадзе было шмат такіх завулкаў, адкуль цяжка было выйсці. Прыгадаем эпізод з «Новай зямлі» Я. Коласа (раздзел «Дзядзька ў Вільні»), дзе гаворыцца, як Антось «у кут глухі ўпнууся, сцяна прад ім і сцены збоку, ўпярод не ступіш ані кроку — прапала вуліца ды годзе!». Ва ўкр. м. эквівалентам нашага выразу выступае фразеалагізм з аднолькавай, але больш этымалагічна празрыстай асновай — *зайти в глухий кут (в сліпий кут).*

*Заставацца (застацца)* **за кадрам.** *Агульны для бел. і руск. м.* (Заставацца) неадлюстраваным, непаказаным. *На старонках дэтэктыва выкопванне нябожчыка засталося за кадрам, аб ім толькі паведамляецца другой «экспедыцыі» эксгуматараў* (ЛіМ. 13.03.1998).

Паходзіць з маўлення кінарэжысёраў, дзе кадрам называюць асобны здымак або асобны эпізод у фільме.

**Закапаць <свой> талент у зямлю.** *Гл.* закопваць (закапаць) <свой> талент у зямлю.

**Закапыліць губы.** *Гл.* капыліць (закапыліць) губы.

**Закасаўшы рукавы** *працаваць, брацца за справу* і пад. *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* засучив рукава, *укр.* засукавши рукава). Не шкадуючы сіл, шчыра, старанна. *Дык давайце, арляняты, закасаўшы рукавы возьмемся за працу!* (І. Гурскі. Неспакойныя характары).

Утварыўся ў выніку пераасэнсавання свабоднага словазлучэння, прамое значэнне якога — ‘загнуўшы рукавы, падняць іх вышэй, каб было больш зручна працаваць’. Параўн.: «Максім праз цэлы дзень, закасаўшы рукавы, гваздае малатком па распаленым іскрыстым жалезе» (П. Пестрак).

**Закідаць шапкамі** *каго. Запазыч. з руск. м.* Лёгка і хутка перамагчы каго-н. *Ніхто не верыўу тое, хаця пан Дульчыц і крычаў, што шваба палякі шапкамі закідаюць* (К. Каліна. Крылаты конь).

Лічаць, што выраз склаўся ў перыяд руска-японскай вайны (1904–1905), на пачатку якой нацыяналістычная прэса насміхалася з японскага войска, запэўнівала народ, што вораг лёгка і хутка будзе пераможаны. У аповесці Л. Калюгі «Нядоля Заблоцкіх» расказваецца, што, калі пачалася гэта вайна, валасны пісар аб’явіў, каму з баркаўчан трэба ісці «ў войска японцаў біць». «Канечне, тады рускаму цару, — як пісар казаў, — хацелася японцаў шапкамі закідаць, а то яму тады перад другімі царамі будзе не гонар. Гэта слова залавілі баркаўчане, а далей пісаравай мовы яны добра не разабралі — надта ж хуценька гаварыў: ці тыя шапкі будуць казённыя ў войску даваць, ці свае з дому браць трэба — не ведалі… На аднаго японца іх трэба незлічоны лік, а дзе тых шапак на цэлае войска набярэшся?!..Ажно тут і па вайне было. Не сабраў цар шапак, колькі яму трэба было. Паглядзеў на японцаў — шмат падлаў сабралася. Нічога ім не зробіш. Не памаглі краўцы шапачнікам і не нашылі тых шапак, колькі на вайну трэба было».

**Закідванне шапкамі** *каго. Уласна бел.* Лёгкая і хуткая перамога над кім-н. *На нагрэтых панэлях расфуфыранага Неўскага паняслісія задзёртыя выгукі наконт закідвання шапкамі «працiўнае немчуры»* (Ц. Гартны. Сокі цаліны).

Утвораны на аснове суадноснага дзеяслоўнага фразеалагізма *закідаць шапкамі* (гл.).

**Закідваць (закінуць) вуду (вудачку).** *Агульны для ўсходнесл. м.* Асцярожна намякаць на што-н. з мэтай высвятлення абставін, выведвання чаго-н. — *Ты да нас у хаўрус ідзі, дык мы дарэмна табе змалоцім, — закінуў Юзік вуду. — Прымі без грошай, дык пайду. — Без грошай, бач, малатарні не даюць* (К. Крапіва. Мядзведзічы).

Паходзіць з маўлення рыбакоў. Пры пераасэнсаванні адпаведнага словазлучэння актуалізацыю атрымала патэнцыяльная, мэтавая сема гэтага словазлучэння (рыбак закідвае вудачку, каб разведаць, ці будзе клёў). Параўн. ажыўленне ўнутранай формы фразеалагізма і развіццё на яго вобразнай аснове метафарычнага кантэксту: «Змяшчаючы яго [першы акт п’есы] у друку, я ўжыў некаторую аўтарскую хітрасць: мне

хацелася закінуць вудачку і паглядзець, ці торкне на маю прыманку які-небудзь тэатральны лешч» (Я. Колас).

Закідваць (закінуць) наперад. *Уласна бел.* Рабіць які-н. прадбачлівы, апераджальны ход з надзеяй мець потым ад гэтага пэўную карысць для сябе. *Андрэй — наш. Свой. Яго грошы нам з табой яшчэ спатрэбяцца. Як казала мая маці: закідвай наперад… Мяккі кут купіў? Не. І не купіш. Без Андрэя* (І. Шамякін. Губернатар).

Паходзіць з прыказкі *Кінь (закінь) наперад — знойдзеш ззаду*, якая мае сэнс ‘калі зробіш каму-н. ласку, то і табе адплацяць тым самым’.

**Закладваецца фундамент (асновы)** *чаго. Агульны для ўсходнесл. м.* Даецца пачатак чаму-н., ствараецца тое, што з’яўляецца зыходным для чаго-н. *Пабываўшы на Лепельшчыне ў гэту гарачую пару; я ўбачыў як закладваецца фундамент шчодрага гектара* (Звязда. 30.04.1986).

Структурна арганізаваны як двухсастаўны сказ, выраз утварыўся на аснове дзеяслоўнага фразеалагізма *закладваць фундамент* чаго (гл.).

**Закладваць (закласці) за гальштук (за каўнер).** *Калька з франц. м.* (s’en jeter un coup derrière la cravate, літаральна «закладваць глыток за гальштук»). Выпіваць, напівацца п’яным. *Менавіта цяпер Лупека зразумеў чаму дырэктар Будзянскай школы, як бы ні закладваў за каўнер, ніяк не мог вызваліцца з дырэктарскага крэсла* (П. Палітыка. Свой чалавек).

Фразеалагізм успрымаецца як матываваны, з іранічным падтэкстам у кампанентах *за гальштук*.

**Закладваць (закласці) фундамент (асновы)** *чаго. Агульны для ўсходнесл. м.* Ствараць тое, што з’яўляецца зыходным, пачатковым, асноўным для чаго-н. *Першы Інтэрнацыянал заклаў фундамент міжнароднай арганізацыі рабочых для падрыхтоўкі іх рэвалюцыйнага націску на капітал* (Настаўн. газ. 26.09.1984).

Узнік у выніку пераасэнсавання аднайменнага састаўнога тэрміна, звязанага з будаўніцтвам.

Закладка фундаменту *чаго. Уласна бел.* Стварэнне таго, што з’яўляецца зыходным, пачатковым, асноўным для чаго-н. *Дапамагаць пісьменніку трэба часам пры самой закладцы фундаменту новага твора* (Я. Колас. Аб літаратурнай працы).

Назоўнікавае ўтварэнне на аснове суадноснага дзеяслоўнага фразеалагізма *закладваць фундамент* чаго (гл.).

**Заключны акорд.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* заключительный аккорд, *укр.* прикінцевий акорд). Тое, чым завяршаецца што-н. *Яшчэ з большым натхненнем, з большым*

*пафасам дэкламаваў ён* [паэт] *заключны акорд...* (Я. Колас. «Трыумф»).

Склаўся ў выніку пераасэнсавання адпаведнага тэрміналагічнага словазлучэння, якое ўжываецца ў маўленні музыкантаў.

**Закон(-ы) не пісаны** *каму, для каго. Агульны для ўсходнесл. м.* Хто-н. не лічыцца з агульнапрынятымі правіламі, нормамі паводзін. *Перасмешнікам закон не пісан* (М. Гроднеў. Радня). *Дырэктар меў славу рызыкоўнага чалавека, яму, як кажуць, законы не пісаны* (Я. Скрыган. Дакументальная рэвізія).

Выраз паходзіць з прыказкі *Дурному закон не пісан*, у складзе якой меў тое ж значэнне. Як і ў прыказцы, кіруе давальным склонам. Іншая сінтаксічная сувязь (фразеалагізм + *для каго)* — пазнейшае развіццё спалучальнасці з кантэкстам: «Для Парфена, кажуць, законы не пісаны» (І. Чыгрынаў).

**Закопваць (закапаць) <свой> талент у зямлю.** *Паўкалька з руск. м.* (зарывать (свой) талант в землю). Губіць свае здольнасці, не даваць ім развівацца. *Магчыма, што я калі-небудзь буду славутым артыстам, калі зараз свой талент не закапаю ў зямлю* (І. Сяркоў. Мы — хлопцы жывучыя).

Склаўся на аснове евангельскай прытчы (Матфей, 25, 15–30). Адзін багаты чалавек, ад'язджаючы ў далёкія краіны, даў аднаму свайму рабу пяць талантаў (буйных грашовых адзінак), другому — два, трэцяму — адзін. Вярнуўшыся, гаспадар даведаўся, што першыя два рабы ўклалі свае грошы ў розныя выгадныя справы і атрымалі значны прыбытак. Трэці ж сказаў, што ён закапаў атрыманы талант у зямлю. Гаспадар пахваліў першых двух і зганіў трэцяга.

**Закрануць за жывое** *каго. Агульнаслав. (руск.* задеть за жывое, *укр.* зачепити за живе, *польск.* dotknąć do żywago, *чэшск.* tit do ziveho, *серб. — харв.* дирнути у живац і г. д.). Ужыв. са значэннямі: 1) моцна ўсхваляваць, зачапіўшы што-н. важнае, балючае, 2) падзейнічаць на самалюбства, гордасць. *Князь закрануў нас за жывое. Хацелася спрачацца, біцца...* (А. Карпюк. Данута). *Піліп быў чалавек гарачы, і панская абраза закранула яго за жывое* (А. Якімовіч. Цяжкі год).

Паходзіць са свабоднага словазлучэння *закрануць за жывое*, якое спачатку мела больш поўную форму *закрануць за жывое мяса* і канкрэтны сэнс — «параніць, — як піша У. Даль, — пры стрыжцы ногцяў або зразанні мазаля». У сучаснай літаратурнай мове, з забыццём першапачатковай вобразнасці фразеалагізма, у ім развіліся трывальныя формы дзеяслоўнага кампанента і яго лексічная варыянтнасць: *за жывое кранае* (Б. Сачанка), *брала за*

*жывое* (А. Пальчэўскі), *забрала за жывое* (К. Крапіва), *узяло за жывое* (М. Зарэцкі).

**За круглым сталом.** *Калька з англ. м.* (round table). З роўнымі правамі, на роўных умовах (сустракацца, вырашаць і пад.) *Безумоўна, здараліся зрэдку бытавыя непаразуменні, але ўсе канфлікты мы вырашалі, як кажуць дыпламаты, за круглым сталом* (І. Шамякін. Палёт над Палессем). Параўн. кантэкст, дзе фразеалагізм адначасова ўспрымаецца і як свабоднае словазлучэнне: *За круглым сталом не сядзець мне ніколі: занадта гарачы з мяне дыпламат* (П. Панчанка. Тым, хто за акіянам).

Паходзіць з кельцкага народнага падання пра караля брытаў Артура (V–VI стст.). Усе рыцары адчувалі сябе ў караля як роўныя між роўных; на банкетах кароль і рыцары сядзелі за вялікім круглым сталом, па чарзе мяняючыся месцамі.

**Закручванне гаек.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Павышэнне патрабаванняў, узмацненне строгасці. *І ў тагачасным жыцці, і ў літаратуры таксама неаднойчы сустракаліся такія псеўдарэвалюцыянеры, аматары закручвання гаек і іншых рызыкоўных эксперыментаў, якія аб'ектыўна толькі шкодзілі вялікай рэвалюцыйнай справе* (Дз. Бугаёў. Майстэрства драматурга).

Вытворны назоўнікавы фразеалагізм ад суадноснага дзеяслоўнага *закручваць гайкі* каму (гл.).

**Закручваць (закруціць) гайкі** *каму. Агульны для ўсходнесл. м.* Павышаць патрабаванні да каго-н., узмацняць строгасць. *[Марыя Кірылаўна: ] Сам Калібераў прыехаў. Зараз у хату наскочыць. [Лёня: ] Закручваць тату гайкі?* (А. Макаёнак. Выбачайце, калі ласка).

Паходзіць з маўлення механікаў. Пры пераасэнсаванні адпаведнага словазлучэння актуалізацыю атрымала патэнцыяльная, мэтавая сема гэтага словазлучэння (гайкі закручваюць, каб механізм працаваў надзейна, бездакорна).

**Закрыванне (заплюшчванне) вачэй** *нашто. Агульны для ўсходнесл. м.* Утойванне, замоўчванне чаго-н. *Пад уплывам тэндэнцыйнага і аднабаковага асвятлення* [войнаў], *выпуклення гераічнага і наўмыснага закрывання вачэй на цёмныя бакі, у Лабановіча злажылася ўяўленне, у корні фальшывае, аб ваяцкіх здольнасцях царскай Расіі і аб яе неперамажнасці ў вайне* (Я. Колас. На ростанях).

Назоўнікавы фразеалагізм, вытворны ад суадноснага дзеяслоўнага *закрываць (заплюшчваць)* вочы на што 'знарок не заўважаць чаго-н. важнага, значнага'.

**Закрываць (закрыць) вочы** *каму. Агульнаслав. (руск.* закрывать глаза, *укр.* заплющувати очі, *балг.* затварям очите,

*польск.* zamknąć oczy *іінш.).* Быць побач з тым, хто памірае, у апошнія хвіліны жыцця. *Маня адвярнулася. Слёзы душылі яе. Нядобра пакідаць маці ў такі час. Можа, яна, калі вернецца, і не застане яе… Чужы чалавек мусіць закрыць ёй вочы…* (А. Якімовіч. Піянер Геня).

Выток фразеалагізма — старажытны звычай закрываць вочы нябожчыку. Калі гэтага не зрабіць своечасова, то, паводле павер’я, нябожчык «выглядзіць» сабе ахвяру.

**Закрываць (закрыць) лавачку.** *Калька з франц. м.* (fermer boutique). Спыняць якую-н. справу, дзейнасць (часцей заганную). *Не кватэра, а цэх, у якім і не разбярэш, што робяць, — не то сталярнічаюць, не то лапці плятуць… Кацярына Сафронаўна гэту лавачку закрыла…* (М. Ракітны. Капаніца).

Узнік у выніку пераасэнсавання свабоднага словазлучэння, у якім *лавачка* мае значэнне ‘дробная гандлёвая ўстанова’.

**Закусваць (закусіць) цуглі.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Распаліўшыся, ісці напралом, дзейнічаць, ні з чым не лічачыся. *Жэня ўжо закусіла цуглі і не магла сябе стрымаць. Нагаварыла яна Валянціну шмат чаго крыўднага, можа, нават і лішняга* (Б. Стральцоў. Між крутых берагоў).

Утвораны ў выніку пераасэнсавання свабоднага словазлучэння, якое, ужываючыся ў дачыненні да каня, абазначае ‘заціснуць цуглі зубамі’.

**Залатая сярэдзіна.** *Калька з лац. м.* (aurea mediocritas). Ужыв. са значэннямі: 1) прамежкавае становішча, 2) спосаб паводзін, пры якім пазбягаюць крайнасцей, рызыкоўных рашэнняў. *Не сказаць каб вельмі, але і ў раёне старшыню паважалі: як-ніяк калгас займаў залатую сярэдзіну* (В. Праскураў. Сонца ў зеніце). *Дзе яна, залатая сярэдзіна тая, дзе яны, залатыя словы аб праўдзе, аб вечнасці, аб айчыне* (М. Лынькоў. На чырвоных лядах).

Аўтар крылатага выразу — старажытнарымскі паэт Гарацый (65 — 8 гг. да н. э.), які ў одзе выкарыстаў яго са значэннем ‘прамежкавае становішча’.

**Залатое дно.** *Калька з англ.* (gold mine) *або ням.* (ein goldener Boden) *м.* Вельмі багатая крыніца даходу. *Пасля смерці бацькоў, па спадчыне, да яе* [Марты] *пераходзіла ферма. А гэта лічылася ў Германіі залатым дном* (М. Машара. Ішоў дваццаты год).

У аснове фразеалагізма — нерэальны вобраз.

**Залаты дождж.** *Калька з ням. м.* (Goldregen). Вялікія грашовыя сумы, прыбыткі. *Я гавару аб Амерыцы прадпрыемцаў, бізнесменаў, пражорлівых і ненасытных манапалістаў, для якіх вайна была не чым іншым, як залатым дажджом, невычэрпнай*

*крыніцай шалёных прыбыткаў і звышпрыбыткаў* (М. Лынькоў. Гісторыя ідзе наперад).

Выток фразеалагізма — грэчаская міфалогія. Жрэц-прарок прадказаў аргоскаму цару Акрысію, што ў яго дачкі Данаі народзіцца хлопчык, які пасля знішчыць свайго дзеда-цара. Акрысій загадаў трымаць дачку ў падземным будынку пад аховай служанак. Захоплены прыгажосцю Данаі, вярхоўны бог Зеўс пранік у падзямелле ў выглядзе залатога дажджу і апладніў яе. Фарміраванню фразеалагізма садзейнічала тое, што многія вядомыя мастакі (Тыцыян, Ван Дэйк, Рэмбрант і інш.) на карцінах адлюстроўвалі Данаю ў дажджы залатых манет.

**Залаты фонд** *чаго, чый. Агульны для ўсходнесл. м.* Самае лепшае, самае каштоўнае, самае значнае. *Казкі гэтыя шырока друкуюцца іў нас у рэспубліцы, і перакладаюцца на іншыя мовы. Яны — залаты фонд нашай народнай класікі* (А. Якімовіч. Аўтабіяграфія).

Узнік у выніку метафарызацыі ўстойлівага тэрміналагічнага словазлучэння, якім у галіне фінансаў выражаюць спецыяльнае паняцце, ужываючы з прамым значэннем ‘фонд каштоўных металаў, пераважна золата’.

**Залатыя горы** *абяцаць, даваць, чакаць* і пад. *Калька з лац. м.* (montes auri polliceri, літаральна «абяцаць горы золата»). Казачнае багацце, вялікае мноства чаго-н. *Не трэба верыць тым крыкунам, што абяцаюць народу залатыя горы* (Я. Колас. На ростанях).

У аснове фразеалагізма — гіпербалізаваны вобраз.

**Залегчы на дно.** *Гл.* легчы (залегчы) на дно.

**Залівацць (заліць) за гальштук (за каўнер).** *Калька з ням. м.* (einen hinter die Binde giessen, літаральна «за галышук залівацць»). Выпівацць, напівацца п’яным. *Іншыя бабы што робяць, калі мужык за гальштук залівае? На работу бягуць, у міліцыю* (Л. Дайнека. Футбол на замініраваным полі).

Фразеалагізм успрымаецца як матываваны, з іранічным падтэкстам у кампанентах *за гальштук.*

**Залівацць (заліць) чарвяка.** *Паўкалька з польск. м.* (zalać robaka). Выпівацць спіртнога. *Разуменне «заліць чарвяка» — рэч неазначаная і расцяжная: аднаму і кручка даволі, а для другога кручок — капля ў моры* (Я. Колас. На ростанях).

У польск. м. фразеалагізм ужываецца з другой палавіны XVIII ст., выцесніўшы больш старажытны выраз *zalać krzeczka.* Утварыўся пад уплывам недакладнай калькі з франц. м. *(tuer le ver*, літаральна «забіць чарвяка»). *Zalać robaka* — вынік аб’яднання двух выразаў: *zalać krzeczka* + *zabić robaka.*

**Залівацць кулі** *каму. Уласна бел.* Бессаромна лгаць, расказваць няпраўдападобнае. *Залівайце кулі камусь другому, паганцы!* (М. Машара. Лукішкі). *Па-астрожнаму такіх людзей проста называлі залівакамі, ад выразу — заліваць кулі, што значыць ілгаць* (Я. Колас. На ростанях).

Утварыўся, відаць, у выніку кантамінацыі рускага выразу *лыть пулы* і дзеяслова *заліваць* у значэнні 'хлусіць, ілгаць'. Выраз *ліць кулі,* як мяркуе В. У. Вінаградаў, склаўся ўжо ў першай палавіне XVIII ст., узнікшы ў асяроддзі ліцейшчыкаў. Яго папярэднікам быў фразеалагізм *ліць званы* (руск. *лить колокола,* укр. *дзвін великий лити).* Узнікненне гэтага фразеалагізма звязана з прафесійнай міфалогіяй ліцейнай справы. Існавала павер'е, пра якое ў рускім часопісе «Навіны» (1901, 31 мая) чытаем: «Калі адліваюць званы, неабходна пусціць якую-небудзь чутку, якой паверылі б прастадушныя абываць елі. Чым недарэчнейшая выдумка і чым больш ёй паверацць, тым удачнейшай будзе адліўка», тым галаснейшым будзе звон. Пра тое ж і ў М. Федароўскага: «Мусіць, дзесь звон адлілі, калі такую байку пусцілі цікавую». І яшчэ: «Недзе звон адлілі, то пусцілі аб гэтым пагалоску, каб быў галасны». Іншай думкі прытрымліваецца В. М. Макіенка. Ён лічыць, што «ліцейная» трактоўка паходжання фразеалагізма *ліць кулі* «не вытрымлівае крытыкі», і мяркуе, што выраз утварыўся шляхам нарашчэння кампанента *куля* да дзеяслова *ліць* 'ілгаць' «з экспрэсіўнай актуалізацыяй зыходнага слова».

**Замарыць чарвяка (чарвячка).** *Запазыч. з руск. м.* Злёгку перакусіць, спехам прагнаць голад. — *Трэба чарвяка замарыць,* — *абазваўся і ён* [Іван]. — *Не ляжалі ж на баку — на цэлы стог палажылі травы... І ўся едкая, з гарошкам...* (М. Капыловіч. Жаніх).

У руск. м. выраз прыйшоў як недакладная калька з франц. м. (*tuer le ver*, літаральна «забіць чарвяка»), дзе ён абазначае 'выпіць нашча спіртнога'. Узнікненне фразеалагізма звязана са старажытным народным павер'ем, паводле якога ад глістоў можна пазбавіцца, калі выпіць нашча спіртнога. Спачатку ў руск. м. выраз выкарыстоўваўся з тым жа значэннем, што і ў франц. м., а пасля стаў абазначаць 'злёгку перакусіць'. Параўн. ужыванне фразеалагізма ў яго першасным значэнні: «[Даміцэля: ] Ай! Ужо ж я дурная! Гэта ж і ёсць чым чарвячка замарыць! Мой учора з прычыны першага дня сёмухі прызапасіў паўквартачку, каторай з палавінку выпіў, а рэшта асталася» (Я. Купала).

**Замуж за <пана> Пясоцкага** *збірацца. Уласна бел.* Паміраць. [Малады бадзяжнік] *тутэйшай старой удавіцы абяцае: —Далібог, цётка, я вас замуж аддам. — А ідзі ты к чорту матары, п 'янчуга, — злуецца старая. — Мне не сёння дык заўтра ўжо*

*замуж за пана Пясоцкага трэба збірацца* (К. Камейша. Паміж кубкам і вуснамі).

Выраз каламбурнага характару. Тут кампанент *Пясоцкага* склаўся па мадэлі ўтварэння прозвішчаў — ад *пясок* у значэнні ‘зямля, якой закопваюць магілу’.

**Замыканне (замкнёнасць) <самога> у сабе.** *Уласна бел.* Адасабленне ад усяго навакольнага і абмежаванне сваім вузкім, маленькім светам. *Замкнёнасць Міхала ў сабе, яго адасобленасць ад людзей можна растлумачыць непаважлівым стаўленнем улад да селяніна-працаўніка наогул* (Р. Шкраба. Кузьма Чорны).

Утварыўся на базе суадноснага дзеяслоўнага фразеалагізма *замыкацца (замкнуцца) у сабе*, які мае значэнне ‘станавіцца нелюдзімым, маўклівым, скрытным’.

**Замыкацца (замкнуцца) у сваю ракавіну (шкарлупіну).** *Недакладная калька з франц. м.* (rentrer dans sa coquille, літаральна «ўваходзіць, вяртацца ў сваю ракавіну»). Адасабляцца ад усяго навакольнага, абмяжоўваючыся сваім вузкім, маленькім светам. *І мне хацелася стушавацца, знікнуць, замкнуцца ў сваю ракавіну, каб болей ніколі не вытыкацца са сваімі творамі* (К. Крапіва. Слова да малодшых).

Відаць, гэта выраз жывёльнага паходжання і ўтварыўся на аснове падабенства з’яў, праз супастаўленне са звычкамі некаторых беспазваночных жывёлін, напрылад рака-пустэльніка ці слімака, уваходзіць у сваю ракавіну.

**Замятанне слядоў.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Знішчэнне ці ўтойванне таго, што можа быць доказам віны. *Гэтаўжо было падобна на замятанне слядоў. А калі замятаюць сляды, тады, зразумела, пачынаюць нечага баяцца* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Утвораны на аснове суадноснага дзеяслоўнага фразеалагізма *замятаць сляды* ‘спрытна знішчаць ці ўтойваць тое, што можа быць доказам віны’.

**Замятаць сляды.** *Гл.* сляды замятаць.

**Зандзіраваць (празандзіраваць) глебу.** *Пайкалька з франц.* (sonder le terrain) *ці ням.* (das Terain sondieren) *м.* Разведваць што-н., каб вызначыць шансы на поспех. *Аджубей, будучы ў ФРГ, зандзіраваў глебу наконт магчымай паездкі Хрушчова ў ФРГ* (Звязда. 18.08.1988).

Узнік у выніку пераасэнсавання свабоднага словазлучэння, якое абазначае ‘даследаваць падглебу пры дапамозе зонда’.

**Заплюшчванне вачэй** *на што. Гл.* закрыванне (заплюшчванне) вачэй *на што.*

**Запраўляць арапа.** *Агульны для бел. і руск. м.* Знарок уводзіць у зман, выдумваючы што-н. *Я вушам сваім не паверыў.*

*Няўжо ёсць людзі у нас, якія праз гэты мур палезуць па пустыя бутэлькі! Выпадкам, ці не запраўляе арапа мой ціхманы таварыш Рабаў?* (В. Якавенка. Ад грэху далей).

Паходзіць з жаргону карцёжнікаў, дзе слова *арап* атаясамліваецца з ашуканствам, а выраз *запраўляць арапа* першапачаткова ўжываўся са значэннем ‘не заплаціць долі ўдзельнікам шулерскай гульні’.

**За прыгожыя вочы.** *Калька з франц. м.* (pour les beaux yeux). Бескарысліва, дарэмна, толькі з-за сімпатыі да каго-н. (рабіць што-н.). *[Каравай: ] Калі начальства просіць, то і ў яго можна выпрасіць. Я за грошы. Не за прыгожыя вочы…* (А. Макаёнак. Таблетку пад язык).

Выраз з камедыі Мальера «Манерніцы» (1660). Паклоннікі, адхіленыя манерніцамі, яшчэ раз вяртаюцца да іх і знаходзяць там сваіх слуг, якія, пераапрануўшыся, выдалі сябе за маркіза і віконта. Слугі выкрыты. Звяртаючыся да манерніц, адзін з паклоннікаў гаворыць: «Калі вы пакахаеце іх, то гэта сапраўды будзе за іх прыгожыя вочы».

**Зарубіць сабе на носе.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Цвёрда запомніць. *Працаваць трэба… а не пісьмы пісаць. Пісьмамі не ваююць у наш час, зарубіце гэта сабе на носе* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Фразеалагізм цяпер успрымаецца як алагічнае спалучэнне, а на пачатку свайго жыцця ён быў дасціпным народным выразам з намёкам, усім зразумелым: ‘як зарубліваюць на бірцы, каб запомніць’.

Даўней пры амаль усеагульнай непісьменнасці своеасаблівай квітанцыяй пры разліках была бірка — палачка або дошчачка, на якой выразаліся зарубкі. Кожная зарубка адпавядала пэўнаму ліку (пудоў, адпрацаваных дзён і інш.). Бірка, пасля таго як на ёй былі зроблены зарубкі, расшчэплівалася на дзве палавінкі: адна аддавалася, напрыклад, уладальніку аўчын, другую пакідаў сабе дубільшчык. Калі бірку адзін з іх губляў, то пры такой сітуацыі маглі выказаць павучанне: «А ты другі раз зарубі сабе на носе, ужо не згубіш». Трапны выраз, падхоплены іншымі людзьмі, стаў агульнаўжывальным.

**За саломінку ўхапіцца.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* хвататься за соломинку, *укр.* хапатися за соломинку). Шукаючы выйсця, паспрабаваць выратавацца хоць якім, хоць і ненадзейным спосабам. *Толькі і думаю, куды падацца! За чым абараніцца!.. За саломінку ўхапіцца гатова!..* (І. Мележ. Подых навальніцы).

Паводле паходжання гэта другая частка прыказкі *Хтотопіцца — за саломінку ўхопіцца.* Утварэнне параўнальна нядаўняе, таму фразеалагізм нярэдка ўжываецца з агаленнем яго

ўнутранай формы праз адпаведнае параўнанне: «Генерал быў пераможаны. І, як тапелец, ён пачаў хапацца за саломінку. Сорамна ж прызнаць сваё бясслаўнае паражэнне!» (А. Якімовіч).

**За сачавічную поліўку** *прадаваць, прадацца* і пад. *Агульны для У ўсходнесл. м. (руск.* за чечевичную похлебку, *укр.* за сочевичну юшку). З-за дробязнай выгады. *Калі ты за сачавічную поліўку будзеш прадаваць свой край, я ў труне перавярнуся і пракляну цябе навекі* (І. Гурскі. Чужы хлеб).

Выток фразеалагізма — біблейская прытча (Быццё, 25, 31–34) пра братоў-блізнят Ісава і Якава — сыноў патрыярха Ісака. Ісаў нарадзіўся на некалькі мінут раней, чым Якаў, і атрымаў права першародства, якое гарантавала яму падвойную долю спадчыны і значную перавагу ў жыцці. Аднойчы галодны Ісаў папрасіў Якава накарміць яго сачавічнай поліўкай. Якаў згадзіўся, але пры ўмове, калі Ісаў уступіць яму права першародства. Ісаў даў згоду.

*Быць, заставацца* і пад. **за сямю пячаткамі.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* за семью печатями, *укр.* за сьома печатями). (Быць і пад.) недаступным, прыхаваным. *Планы вытворчасці цалкам мірнай, але небяспечнай, можа стацца, для здароўя людзей прадукцыі ўсё яшчэ застаюцца за сямю пячаткамі* (ЛіМ. 1.01.1988).

Утвораны на аснове запазычанага з царк. — слав. м. выразу *кніга за сямю пячаткамі*, якім называюць штосьці незразумелае, недаступнае. Ён упершыню ўжыты ў біблейскім тэксце (Апакаліпсіс, 5,3), дзе гаворыцца пра таямнічую кнігу, прачытаць якую яшчэ нікому не ўдалося.

**Затрашчаць па <усіх> швах.** *Гл.* трашчаць (затрашчаць) па <усіх> швах.

**За трыдзевяць зямель.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Абазначае ‘вельмі далёка’, спалучаецца з дзеясловамі *паехаць, жыць* і інш. *А хібая не «скарылася», калі пасмела ў такім выглядзе ў вёску з’явіцца? Магла ж і за трыдзевяць зямель з’ехаць… Свет вялік, і ўсюды людзі жывуць…* (П. Місько. Ціхае лета).

Узнік са свабоднага словазлучэння, якое нярэдка сустракаецца ў народных казках і абазначае ‘на вельмі далёкай зямлі’. Слова *трыдзевяць* першапачаткова мела значэнне ‘дваццаць сем’ і засталося як перажытак былой дзевяцярычнай сістэмы лічэння.

**Затыканне дзірак** *<у чым>. Уласна бел.* Ліквідацыя якіх-н. недахопаў, прагалаў у чым-н. *Куды ж дзяваецца розніца, якую возьмуць з нашай кішэні? Ды ўсё туды ж: на затыканне дзірак, якіх шмату паміраючай эканоміцы, у бюджэце* (М. Дзелянкоўскі. Газавая дуля).

Вытворны назоўнікавы фразеалагізм ад суадноснага дзеяслоўнага *затыкаць дзіркі* (кім, чым, у чым), што значыць ‘спехам ліквідаваць няхватку, недахопы ў чым-н.’.

**Затыканне рота (ратоў).** *Уласна бел.* Забарона свабодна выказваць свае думкі. *Для нас карціна злачынства ўвогуле ясная. Як ясная і мэтанакіраваная палітыка па затыканню ратоў..* (П. Шарамет. Знік адвакат Аксінчык).

Паходзіць з суадноснага дзеяслоўнага фразеалагізма *затыкаць рот* (каму), які абазначае ‘прымушаць замоўкнуць каго-н., не даваць гаварыць каму-н.’.

**Захадзіць ходырам.** *Гл.* хадзіць (захадзіць) ходырам (хадуном).

**Захварэць на пана.** *Гл.* хварэць (захварэць) на пана.

*Як, што, чаго* **захоча левая нага** *каго, чыя. Гл. як, што, чаго* хоча (захоча) левая нага *каго, чыя.*

**За царом Гарохам.** *Усходнесл. (руск.* при царе Горохе, *укр.* за царя Гороха *часам з дадаткам* як було людей трохи). Вельмі даўно; невядома калі (было, адбывалася што-н. і пад.). *Вялікае Сітца — вёска вялікая. Малое Сітца — амаль такая ж. Калісьці, за царом Гарохам мо, у кожным з гэтых паселішчаў было па сітку, якім муку прасявалі. У адной вёсцы вялікае, у другой — малое… І хадзілі яны па руках у суседзяў…* (В. Якавенка. Прыручэнне зямлі).

Выраз узнік на ўзор свабодных словазлучэнняў тыпу за *царом Ірадам, за царом Сімяонам.* Выкарыстанне замест сапраўднага ўласнага імя агульнага назоўніка (назвы расліны) — плён народнай дасціпнасці. Чаму ўзяты менавіта гарох? Можа, таму, што гэта, як піша, спасылаючыся на звесткі археолагаў, А. С. Аксамітаў, адна з найбольш старажытных культурных раслін, вядомых славянам. Магла, зразумела, адыграць ролю і проста выпадковасць. Напрыклад, ва ўкр. м. склаўся фразеалагізм *за царя Хмеля (як було людей жменя).* Аналагічныя спалучэнні для абазначэння далёкага мінулага ёсць у многіх народаў, пры гэтым усюды са словам *цар* ці *кароль* кантактуюць або назоўнікі «раслiннага» паходжання, або яшчэ якія-небудзь забаўныя, спецыяльна прыдуманыя словы: у немцаў — Anno Tobak («у гады Табакі»), у французаў — *au temps du roi Guillemot* («у часы караля Гільемо») або таксама: au tetps du roi Dadobert, у чэхаў — za кгale Holce («за каралём Галышом»), у палякаў — za króla Ćwieczka («за каралём Цвічком») і г. д.

**Зацісканне рота.** *Уласна бел.* Прымушэнне не гаварыць што-н. нежаданае. *Не подласць, не несправядлівасць, не зацісканне рота, не здрада Алёнкі былі самым жахлівым у гэтай гісторыі* (У. Караткевіч. У снягах драмае вясна).

Утвораны на аснове суадноснага дзеяслоўнага фразеалагізма *заціскаць рот* (каму).

**Зацягваць (зацягнуць) пояс.** *Відаць, недакладная калька з ням.* (Gürtel enger schallen, літаральна «зацягваць тужэй пояс») *або англ.* (tighten one's bell) *м.* Адчуваць вострую нястачу, жыць у крайняй беднасці. *Скарачаецца ў садках і штатная колькасць выхавацеляў, падвышаецца нагрузка, хаця іхні заробак у ранейшых межах. Зацягвае паясы не толькі сфера адукацыі* (А. Іваноўскі. Ні вячэры, ні свята).

Узнік шляхам метанімічнага пераносу, заснаванага на сумежнасці дзвюх з'яў: калі чалавек недаядае, галадае, ён мусіць тужэй зацягваць пояс (у прамым значэнні гэтых слоў). Фразеалагізмы з такой самай вобразнасцю ёсць у шмат якіх мовах, прычым у некаторых — двухкампанентныя: *укр.* підтягувати (затягувати) паски (ремінці, пояски), *балг.* затягам си пояса, *чэшск.* utahovat si гетеп. Параўн. у *руск. м.*: затягивать <туже> пояс (ремень).

**Зачараванае кола.** *Калька з лац. м.* (circulus vitiosus). Ужыв. са значэннямі 'бязвыхаднае становішча' і 'бяссэнсіца, лагічная памылка, калі што-н. даказваецца праз такое палажэнне, якое само патрабуе доказу'. *І ў Шуркі быць бясконца нельга, і ісці куды б там ні было — таксама быццам нельга. Нейкае зачараванае кола, ланцуг, які і парваць як?* (Б. Сачанка. Вялікі Лес). *Атрымліваецца зачараванае кола: няма* [твора] *у хрэстаматыі, бо няма ў праграме, і наадварот* (Р. Шкраба. Энергія слова).

Узнікненне выразу ідзе, відаць, ад блуканняў па лесе, калі той, хто заблудзіў, зноў вяртаўся праз нейкі час на ранейшае месца. Такія блуканні прыпісваліся дзеянням нячыстай сілы.

***Прымаць* за чыстую манету** *што. Агульны для ўсходнесл. м.* Зусім сур'ёзна, як за праўду. — *Аб тым не можа быць і спрэчак — не знесці курыцы такіх яечак. — І што ж, Каштан ухвалу гэту прыняў за чыстую манету* (К. Крапіва. Каштан).

Узнік са свабоднага словазлучэння, дзе чыстай называлася манета дзяржаўнай чаканкі, не падробка з таннага металу, якую пускалі ў ход фальшываманетчыкі, спадзеючыся, што яе прымуць за чыстую манету. Фразеалагізм з вобразам нефальшывай манеты ёсць і яшчэ ў некаторых мовах, але з іншым прыметнікавым кампанентам: польск. *przyjtovać za dobrą monetę* («прымаць за добрую манету»), ням. *für baге Münze nehmen* («за наяўную манету прымаць»).

**Збівацца (збіцца) з панталыку.** *Запазыч. з укр. м.* (збиватися з пантелику). Ужыв. са значэннямі: 1) даходзіць да замяшання, разгубленасці; заблытвацца; 2) пачынаць весці няправільны, заганны спосаб жыцця, кепска паводзіць сябе. *Стройна апрацаваныя планы ламаліся пад націскам жывое сапраўднасці. Ганна збівалася з панталыку. Куды ёй было да ўсяго*

*іншага, калі невыразнасць наступнага дня не давала спакою* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Працаднём гэтым мяне ашаламіў… А тут яшчэ ордэнам стаў спакушаць. Ці доўга з панталыку збіцца* (К. Крапіва. Пяюць жаваранкі).

Утвораны ад фразеалагізма *збіваць (збіць) з панталыку* каго. Слова *панталык*, невядомае па-за фразеалагізмам, «цьмянага» паходжання. Ёсць розныя меркаванні пра яго этымалогію. У слоўніку М. Фасмера (у дадатку рэдактара) выказваецца думка, што ў слове *панталык* можна бачыць запазычанне з аўстрыйска-баварскага дыялекту — *pantl* (‘каснічок, стужачка’), якое ў многіх славянскіх гаворках дало суфіксальнае ўтварэнне з тым жа значэннем: укр. дыял. *пантлик, пантлика*, польск. дыял. *pętlik, pęlika*, славацкае *pantlik*, мараўскае *pentlik*. Аднак наўрад ці магло ўступіць слова *панталык* (з названым яго значэннем ‘каснічок, стужачка’) у лексіка-граматычную спалучальнасць са словам *збівацца*. Больш пераканальная думка М. І. Міхельсона, які звязвае этымалогію слова *панталык* з назвай гары ў паўднёвай Грэцыі — *Пентэлік*. Гл. *збіваць (збіць) з панталыку* каго.

**Збіваць (збіць) з панталыку** *каго. Запазыч. з укр. м.* (збивати/ збити з пантелику). Ужыв. са значэннямі ‘заблытваць, выклікаць замяшанне, разгубленасць’ і ‘уздзейнічаючы якім-н. чынам, схіляць да адыходу ад ранейшага, штурхаць на што-н. нядобрае’. *Рудольф сваім паведамленнем пра вайну зусім збіў вас з панталыку* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *[Дзед Бадыль: ] З старасцянкаю знюхаўся, а яна яго з панталыку збівае. Глядзі, сынок, каб ты праз яе сабакам не стаў!* (К. Крапіва. Партызаны).

Фарміраванне выразу мае сувязь з назвай гары ў паўднёвай Грэцыі — *Пентэлік*. У старажытныя часы гара славілася сваім мармурам, а таксама вялікай пячорай з гротам і вапнавымі нарасцямі, дзе лёгка было заблудзіць, заблытацца. Фразеалагізм склаўся, хутчэй за ўсё, у маўленні гімназістаў. Засвоенае імі пры вывучэнні грэчаскай мовы слова *Пентэлік* атрымала сэнсавае прырашчэнне і было ўключана ў фразеалагічную формулу гатовай мадэлі *збіваць з толку* каго. Пра тое, што выразы *збіваць з панталыку, збівацца з панталыку*, вядомыя ў бел., руск. і польск. м., узніклі на Украіне, сведчаць наступныя факты. Самая ранняя фіксацыя фразеалагізма *збівацца з панталыку* належыць А. Пагарэльскаму. У яго рамане пра жыццё правінцыяльнага дваранства на Украіне «Манастырка» (1830–1833) чытаем: «— Що ты городышь, Галя! — сказала она мне. — Ты збылась с панталыку». Далей ідзе аўтарскі каментарый: «Это по-здешнему, кажется, значит: ты с ума сошла». Выраз неаднаразова ўжываецца ў творах Т. Шаўчэнкі; у п’есе «Назар Стадола» (1843–1844): «Дівці дівку недовго збить з пантелику»; у аповесці «Наймичка» (1844) у

аўтарскай мове сустракаецца *сбить с толку,* а ў мове старога казака Якіма Гірла — *сбить с панталыку*: «Сбили с панталыку окаянные, та й годи». На аснове назоўнікавага кампанента гэтага фразеалагізма ва ўкр. літаратурнай м. утварыліся многія дзеясловы, дзеепрыметнікі, назоўнікі: *пантеличити, пантеличитися, спантеличений, спантеличення, спантеличити, спантеличувати, спантеличитися.* Ва ўкр. м. назоўнікавы кампанент *(пантелик,* чытаецца «пантэлык») сваім гучаннем больш блізкі да грэч. *Пентэлік,* чым у бел., руск., польск. м.

*Час* **збіраць камяні.** *Паўкалька з царк. — слав. м.* (Час, пара) сумеснымі намаганнямі прыводзіць у пэўны парадак што-н. раней разбуранае, раскіданае, занядбанае і пад. (часцей пра мастацтва ці міждзяржаўныя адносіны). *Як апавядаюць старажылы вёскі, са стратай касцёла і царквы многія мясцовыя жыхары страцілі былыя духоўныя і гістарычныя каштоўнасці. Дык наста ў час збіраць камяні* (К. Вяржбіцкі. Час збіраць камяні).

Выток фразеалагізма — Біблія (Эклезіяст, 3,1–4). У ёй ёсць такія радкі (пераклад з рускага тэксту): «Усяму свой час і час усякай рэчы пад небам… Час раскідаць камяні, і час збіраць камяні». Параўн. урывак з нарыса С. Законнікава «Вячэра пад райскім дрэвам», дзе адчуваецца сувязь з прыведзенымі вышэй радкамі: «Калі мы сапраўды хочам пабудаваць мірны агульнаеўрапейскі дом, то кожны народ, кожны чалавек павінен пакласці камень у яго падмурак і сцены. Надышоў час не раскідаць, а збіраць камяні».

**Збіць з панталыку** *каго. Гл.* збіваць (збіць) з панталыку *каго.*

**Збіць з тропу** *каго. Запазыч. з польск. м.* (zbieć z tropu), дзе *trop* — ‘след’. Выраз, можна меркаваць, узнік у мове паляўнічых і першапачаткова меў канкрэтны сэнс — ‘збіць са следу’ (напрыклад, калі гутарка ішла пра сабаку).

Значэнне фразеалагізма — ‘выклікаць замяшанне, заблытаць’. *Лукашык хацеў спачатку далажыць камбату па ўсіх правілах, але веставы сваім сыкам збіў яго з тропу* (У. Дамашэвіч. Між двух агнеў).

**Зблытаць <усе> карты** *каму, чые, каго. Гл.* блытаць (зблытаць, пераблытаць) <усе> карты *каму, чые, каго.*

З богам. *Калька з лац. м.* (cum Deo). Вокліч пажадання поспеху, удачы ў якой-н. справе. — *Будзе выканана, ваша эксэленцыя! — пачціва прамовіў за абодвух Асташэўскі. — Тады — з богам!.. Я са свайго боку падмацую вас таксама* (А. Карпюк. Вершалінскі рай). Ужываючыся ў спалучэнні з дзеясловамі, фразеалагізм развіў у сабе акалічнасна-прыслоўнае значэнне ‘шчасліва, з поспехам’. — *Нам пара. Пойдзем. — Ага, ага, — пагадзіўся гаспадар. — Ідзіце з богам* (А. Ставер. Пад канвоем).

Узнік на аснове старажытных уяўленняў пра Бога як вярхоўную істоту, што кіруе светам.

**З божай ласкі.** *Уласна бел.* Прыроджаны, сапраўдны, таленавіты, з выключнымі здольнасцямі. — *Янка Купала — гэта беларускі паэт,* — *тлумачыў Кастусь.* — *Паэт э божай ласкі, талент незвычайны* (С. Александровіч. На шырокі прастор).

Склаўся на аснове сэнсава тоеснага фразеалагізма *божай міласцю* (гл.) па мадэлі выразу *з ласкі* (каго, чыёй), адно са значэнняў якога — ‘дзякуючы каму-, чаму-н.’.

**Збоку прыпёку.** *Агульны для бел. і руск. м.* Абазначае ‘зусім непатрэбны, лішні, чужы’ і ‘зусім недарэчы, недарэчна (быць, аказацца, знаходзіцца дзе-н. і інш.)’. *Ведаў я гэтыя канікі: спецыяльна называюць вуліцы старымі назвамі, каб дазнацца, карэнны ты або так, збоку прыпёку* (У. Караткевіч. Лісце каштанаў). У *Ульяны хоць прычына, а што бацьку тут збоку прыпёку бавіцца?* (В. Якавенка. Акно на плошчу).

Узнік у прафесійнай мове пекараў, дзе прыпёкай называюць тое лішняе, непатрэбнае, што прыліпла збоку да печыва пры выпяканні. Першапачатковая форма фразеалагізма (занатавана ў зборніку Я. А. Ляцкага) — *збоку прыпёка,* Канчатак — у ў назоўнікавым кампаненце абумоўлены імкненнем да поўнага сугучча.

**Збор-каляда.** *Уласна бел.* Група людзей ці прадметаў, неаднародных па якіх-н. прыметах, якасцях. *Збор-дружына — зборышча людзей, яшчэ дакладней, — збор-каляда...* (М. Лужанін. Дванаццаць вячорных вогнішчаў).

Першапачаткова — пра розныя падарункі, сабраныя ў выніку калядавання. Фіксуецца ў «Зборніку беларускіх прыказак» І. І. Насовіча.

**Збыць з галавы** *што. Уласна бел.* Вызваліцца, пазбавіцца ад чаго-н. непрыемнага. *Пастар, які збыў з галавы нечаканы клопат з нашымі візамі... змог уздыхнуць з палёгкаю* (С. Законнікаў. Вячэра пад райскім дрэвам).

Дзеяслоўны кампанент гэтага фразеалагізма — сэнсаўтваральны. Ён суадносіцца з перыферыйным адценнем дзеяслова *збыць,* якое фіксуецца ў ТСБМ (т. 2, с. 434), хоць, праўда, ілюструецца прыкладам, дзе *збыць* выступае ў непадзельным комплексе з іншымі кампанентамі фразеалагізма «*збыць* з галавы *што*»: *Збыць бяду з галавы.*

**Званіць ва ўсе званы.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* звонить во все колокола, *укр.* дзвонити в усі дзвони). Ужыв. са значэннямі: 1) усім і ўсюды голасна расказваць пра штосьці, 2) празмерна хваліцца чым-н. *Чаго ж аб іх заслугах званіць ва ўсе званы?* (Я. Непачаловіч. Я рад, што змоўклі оды...). *Летась*

[Сурміла] *ва ўсе званы званіў, што збярэ на круг па сорак цэнтнераў збожжа* (В. Блакіт. Шануй імя сваё).

Узнік у выніку пераасэнсавання свабоднага словазлучэння. У царкве звычайна было тры званы рознай велічыні і неаднолькавага гучання. Пускалі ў ход усе званы не заўсёды. Так, пра пачатак царкоўнай службы паспешліва апавяшчаў адзін звон, а ў рэлігійныя святы званілі ва ўсе званы.

Звесці канцы з канцамі. *Гл.* зводзіць (звесці) канцы з канцамі.

**З ветрам (з ветрыкам, з вецярком) у галаве.** *Уласна бел.* Занадта легкадумны, несур'ёзны. — *Вам трэба памірыцца з ім.* — *Немагу я гэтага, Барыс.* — *Ён жа цябе кахае. Галіна. Ну, быў малады, дурны, трохі з ветрам у галаве, трохі памаузяівы, трохі пакрыўдзіў цябе. То ён жа адумаўся* (Я. Скрыган. Скажы адно слова).

Утварыўся на аснове суадноснага фразеалагізма *вецер у галаве (гуляе, свішча)* (у каго), які ўжываецца толькі ў ролі безасабовага сыказніка і абазначае 'хто-н. вельмі легкадумны, несур'ёзны'.

**З ветру вяроўкі віць (звіць).** *Уласна бел.* Гаварыць, сцвярджаць што-н. без усякіх падстаў, пляткарыць, выдумваць. *Такім почыркам толькі падзякі пісаць, а ён кляўзы строчыць. Бываюць жа яшчэ зласліўцы, якія з ветру вяроўкі ўюць — смак у гэтым чуюць* (А. Капусцін. Першае заданне).

У аснове фразеалагізма — нерэальны вобраз.

**Зводзіць (звесці) канцы з канцамі.** *Відаць, недакладная калька з франц. м.* (joindre les deux bouts, літаральна «зводзіць два канцы»). Ужыв. са значэннямі 'пераадольваючы перашкоды, узгадняць розныя бакі чаго-н., злучаючы іх у адно' і 'задавальняць жыццёвыя патрэбы, знаходзячы выйсце з цяжкага матэрыяльнага становішча'. [Сцяпан] *навучыўся самапраўнічаць. Прыпісваць каму-нікаму з даярак малако, а каб звесці канцы з канцамі — спісваць гэтае малако на кармленне цялят* (В. Палтаран. За ракой Гарынню). *Сям 'я жыла бедна, але дружна. Гаспадарку вяла старая маці, сяктак зводзячы канцы з канцамі* (М. Лынькоў. З родных крыніц).

Узнік у маўленні рахункаводаў, дзе *канцы* асэнсоўваліся як «расход і прыход».

**З вуснаў у вусны.** *Калька з франц.* (de bouche en bouche) *ці ням.* (von Mund zu Mund) *м.* У вуснай форме, ад аднаго да другога (перадаваць навіны, чуткі і пад.). — *Лагерны пісар, на выхад!* — *паслужліва перадаюць з вуснаўу вусны арыштанты, і загад ляціць з блока ў блок* (А. Карпюк. Пушчанская адысея).

Выраз успрымаецца як разгорнутая сінекдаха (назва часткі чалавечага цела ўжыта ў значэнні цэлага).

**З вышыні птушынага палёту.** *Недакладная калька з франц. м.* (a vol d'oiseau — з палёту птушкі). Ужыв. са значэннямі 1) зверху, з такой вышыні, што ўсё відаць (глядзець, бачыць, назіраць і пад.), 2) павярхоўна, не ўнікаючы ў сутнасць справы (рашаць, разглядаць што-н.). *Вядома, з вышыні птушынага палёту Прыпяць і яе ваколіцы ўяўляюць цяпер экзатычнае відовішча* (Г. Пашкоў. Палескія вандроўнікі). *Была спісана вялікая бухгалтарская кніга, дзе з вышыні птушынага палёту мы аглядалі гісторыю роднага сяла* (І. Навуменка. Сябры-равеснікі).

Унутраная форма гэтага скалькаванага выразу даволі празрыстая.

**Звядзенне рахункаў** *<з кім>. Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* сведение счетов, *укр.* зведення рахунків). Помста каму-н. за абразу, знявагу і пад. *Сваю дзейнасць на пасадзе старшыні кантралёраў Асадчы накіраваў на звядзенне рахункаў з брыгадзірам* (Звязда. 7.07.1987).

Вытворны ад суадноснага дзеяслоўнага фразеалагізма *зводзіць (звесці) рахункі* з кім 'помсціць каму-н., расквітваючыся з кім-н. за што-н.'.

*Немагчы, неўмець* **звязаць двух** слоў. *Недакладная калька з лац. м.* (tria verba non potest jungere, літаральна «трох слоў не магчы звязаць»). (Не магчы) звязна выказваць свае думкі. *Стрэмка, не чытаючы даведкі, закрычаў:—Што вы тут напісалі? Без мяне двух слоў неможаце звязаць!* (З. Бяспалы. Шышка).

Вобразнасць фразеалагізма заснавана на літоце (знарочыстым прымяншэнні).

**Звязвацца (звязацца) вузамі Гіменея.** *Запазыч. з руск. м.* Уступаць у шлюб. *Нечаканую вестку, што* [Андрэй] *намерыўся ажаніцца, прытым звязацца вузамі Гіменея не з Лірыкай, а з мінчанкай Палінай, з якой нядаўна выпадкова пазнаёміўся, хлопцы ўспрынялі глуха і нема* (В. Блакіт. Усмешка Фартуны).

Выток фразеалагізма — грэчаская міфалогія. *Гіменей* — бог шлюбу.

**Звязваць (ззязаць) канцы з канцамі.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Пераадольваючы перашкоды, узгадняць розныя бакі чаго-н., злучаючы іх у адно. *Каб абагнаць дамашнія выдаткі, прыйшлося прадаваць адну карову; залаталі дзве-тры дзіркі, але на іх месца вылазіла пяць-шэсць дзірак. Звязаць канцы з канцамі ўжо не ўдавалася* (Ядвігін Ш. Золата).

Утвораны па мадзлі з ужо існуючым, відаць, скалькаваным з франц. м. фразеалагізмам *зводзіць канцы з канцамі* (гл.), дзеяслоўны кампанент якога заменены іншым словам з

адначасовым пераасэнсаваннем унутранай формы выразу (яна тут мае сувязь са звязваннем канцоў вяроўкі, лейцаў і пад.).

Звярнуць горы <з *кім, з чым*>. Гл. варочаць (звярнуць, зрушыць, перавярнуць) горы <*з кім, з чым*>.

**З гакам.** *Запазыч. зукр. м.* Ужыв. са значэннямі ‘з невялікім перавышэннем (пасля лічэбніка пры прыблізным вызначэнні велічыні, даўжыні, колькасці чаго-н.)’ і ‘больш, чым трэба (мець, рабіць, зрабіць што-н.)’. *Шэсцьдзесят было ёй з гакам, а цвіла кабета макам* (К. Крапіва. Біблія). *Мне за высокія надоі прэміяльнага малака выдаюць столькі', што хапіла б на нашу сям 'ю з гакам* (А. Макаёнак. Каб людзі не журыліся).

Генетычна выраз мае сэнсавую сувязь з адным са значэнняў пяцізначнага ва ўкр. м. назоўніка *гак* — ‘дабаўка, лішак’.

**З галавой выдаць сябе.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Абазначае: 1) поўнасцю выявіць сваё дачыненне да якой-н. правіннасці, 2) поўнасцю выявіць сваю прысутнасць, 3) поўнасцю выявіць свой стан, настрой, пачуцці перад кім-н. *Цяпер, праўда, хлапчук разумее, што з галавою выдаў сябе. Думаю — шпікі зробяць данос — і на яго, і на Лейбу* (А. Бажко. Перад вераснем). *Ці стане ён страляць, каб выдаць сябе з галавой ды і іншых... падвесці пад абух?* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Слава... чырванеў, гарачыўся, бянтэжыўся і гэтым выдаваў сябе з галавой* (І. Навуменка. Вераніка).

Узнік у выніку кантамінацыі двух фразеалагізмаў з аднолькавымі кампанентамі: *выдаць сябе* + *выдаць з галавой* (гл.). Адбылося як бы накладанне, пашырэнне першага фразеалагізма за кошт часткі другога. Значэнні кантамінаванага выразу засталіся тыя ж, што былі ўласцівы першаму фразеалагізму, толькі ўзбагаціліся семай узмацняльнасці (‘поўнасцю’).

**З глыбіні душы.** *Калька з лац. м.* (ab imo pectore). Чыстасардэчна, з найлепшымі намерамі. —*Дык трэба ж нешта рабіць, Казічак... — вырваліся з глыбіні душы ў яе* [Ганны] *словы. — Як жа ты думаеш жыць далей*? (В. Дайліда. Буслы над вёскай).

**З грахом папалам.** *Запазыч. з руск. м.* Ужыв. са значэннямі ‘недазволеным спосабам, несумленна, ашуканствам (рабіць што-н.)’ і ‘з вялікай цяжкасцю, ледзь-ледзь’. *Які я камандзір? Не ведаў нават, як і стрэльбу трымаць, а пра каманды ці маршы і не пытай/.. Так з грахом папалам трымаюся дьг баюся, каб за шкірку не выштурхнулі* (А. Мрый. Камандзір). *Сярэднюю школу Сямён кончыў з грахом папалам, у старэйшых класах сядзеў па два гады* (А. Чарнышэвіч. Што рабіць?).

Паходзіць, на думку М. М. Шанскага, з аднайменнага свабоднага словазлучэння, у якім *грэх* абазначала не ‘парушэнне правіл рэлігійнай маралі’, а мела архаічнае значэнне ‘памылка’

(параўн.: *огрех, погрешность*). Другое значэнне развілося ў гэтым фразеалагізме, відаць, пад уплывам выразу *з горам папалам.*

**Згубіць галаву.** *Гл.* губляць (згубіць; траціць, страчваць, страціць) галаву.

**Згуляць у паддаўкі.** *Гл.* гуляць (згуляць) у паддаўкі.

**Згушчаць (згусціць) фарбы.** *Паўкалька з ням. м.* (die Farben dick auftragen). Празмерна перабольшваць. *Можа, і згусціла Зіна фарбы, але цяпер ёй здавалася, што ўсё было менавіта так* (Л. Арабей. Другі).

Выраз усведамляецца як матываваны.

**Згушчэнне фарбаў.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* сгущение красок, *укр.* згущенне фарбів). Празмернае перабольшанне. [Касцюшка] *вядома, пісаў і наскрозь крытычныя матэрыялы, у тым ліку фельетоны, якія без згушчэння фарбаў наогул немагчыма напісаць* (І. Навуменка. Летуценнік).

Назоўнікавы фразеалагізм, вытворны ад суадноснага дзеяслоўнага *згушчаць фарбы* (гл.).

**Здаваць (здаць) <свае> пазіцыі.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Прызнаваць сябе пераможаным, паддавацца. *Сашку вельмі хацелася, каб гэты інжынер, Сурын, узяў над ім* [Клімцом] *верху спрэчцы іў нейкім сэнсе разлічыўся б і за яго, Сашку. Але Клімец і не думаў здаваць пазіцыі* (Я. Радкевіч).

Склаўся ў выніку метафарызацыі адпаведнага словазлучэння з вайсковага лексікону, дзе *пазіцыяй* называюць месца распалажэння вайсковых груп у баі. Параўн. урывак з гумарыстычнага апавядання К. Крапівы «Вясна», дзе актуалізуецца і зыходны сэнс фразеалагізма: «Чырвоная вясна павяла рашучы наступ. Белая зіма здае свае пазіцыі на ўсім фронце, толькі дзе-нідзе, у самых глухіх закутках, замацаваліся яе белыя атрады, але і тыя, бачачы немінучую сваю пагібель, праліваюць раўчукі слёз».

**З другіх (трэціх) вуснаў.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* из вторых уст, *укр.* з другіх уст). Праз пасрэднікаў, не непасрэдна ад сведкі (чуць, слухаць, даведвацца і пад.). *Жанчыне хацелася паслухаць і нявестчыны словы з другіх вуснаў* (У. Паўлаў. Спелыя травы).

Узнік, відаць, па мадэлі з ужо існуючым, скалькаваным з франц. м. фразеалагізмам з *другіх рук* (гл.), адно са значэнняў якога — ‘праз пасрэднікаў, не непасрэдна ад сведкі (чуць, даведвацца і пад.)’.

**З другіх (трэціх) рук.** *Калька з франц. м.* (de seconde main, літаральна «з другіх рук»). Ужыв. са значэннямі ‘праз перакупшчыка, не непасрэдна ад уладальніка (купляць, трапляць і пад.)’ і ‘праз пасрэднікаў, не непасрэдна ад сведкі (чуць, даведвацца і пад.)’. *Гэта былі ўжо нават не дубраўцы, а*

*прыезджыя, і хату яны куплялі таксама з другіх рук* (І. Чыгрынаў. Самы шчаслівы чалавек). — *Ты знаёмы з яго задумкамі, галоўны? — Збольшага... Крыху — ад яго самога, крыху з трэціх рук* (У. Карпаў. Сотая маладосць).

Першапачаткова выкарыстоўваўся пры дзеясловах *купляць, набываць* і пад., калі размова ішла пра гандлёвыя справы. Другое значэнне развілося ў фразеалагізме пазней.

*Клёцкі* **з душамі.** *Уласна бел.* Начыненыя мясным ці іншым фаршам з прыправамі, *Гаспадыня са старэйшаю нявесткаю падала новую страву — калдуны, ці клёцкі з душамі, як іх яшчэ называюць, і ўсе дружна ўзяліся за іх* (У. Дамашэвіч. Мітынговая аповесць).

Назоўнікавы кампанент тут мае няслоўнікавае значэнне, звязанае са спосабам прыгатавання гэтых клёцак. Пра яго Р. Барадулін піша: «На тарку дралася бульба. Адціскалася праз суравіну. Гэтае цеста звалася целам. Потым рабіліся душы — з крышанага мяса і сала, з грыбоў, адпаведна прысмакі, прыправы. Цела клёцкі мела форму снежкі, і гэтакую форму мела душа. Душа магла быць і з кавалачка кілбасы. У цела клалі душу — і кідалі ў вар...»

**Здымаць (знімаць, зняць) стружку** *з каго. Агульны для ўсходнесл. м.* Уздзейнічаць на каго-н., адчытваючы, моцна прабіраючы яго. *Прышлі да мяне свайго разумненькага мэра. Я з яго, чортавага сына, здыму стружку* (І. Шамякін. Атланты і карыятыды).

Паходзіць, відаць, з маўлення токараў, дзе *здымаць стружку з загатоўкі* абазначае 'даводзіць дэталь да неабходных памераў'. Пры пераасэнсаванні актуалізацыю атрымала сема 'уздзейнічаць пэўным чынам', агульная для свабоднага словазлучэння і сфарміраванага на яго аснове фразеалагізма.

**З'ездзіў у рыгу.** *Агульны для бел. і руск. м.* Званітавала каго-н., звычайна пры моцным ап'яненні. *Потым з'ездзіў двойчы ў «рыгу», а назаўтра ўстаў з пахмелля, — праклінае Антак «зелле»...* (К. Крапіва. Як Антак стрэў «вельканоц»).

Выраз каламбурнага характару, пабудаваны на сугуччы няроднасных слоў *Рыга* і *рыгаць* (са значэннем 'ванітаваць'). Разам з тым у фразеалагізме, на думку М. І. Міхельсона, прыхаваны намёк «на тыя ж вынікі, што выклікаюцца падарожжам па моры ў Рыгу».

**З'есці з трыбухамі** *каго. Уласна бел.* Замучыць, загубіць нападкамі, ганеннем. *[Валодзя: ] Што так раптам перадумаў? [Раман: ] Як заўважыць гаспадар, з трыбухамі з'есць. «Узрадаваўся, скажа, сукін сын, што мяне спляжылі»* (К. Крапіва. Пяюць жаваранкі).

Выраз генетычна каламбурнага характару. Склаўся ў выніку адначасовай рэалізацыі пераноснага і прамога значэнняў дзеяслова *з'есці* ('замучыць нападкамі, ганеннем' і 'скарыстаць на яду') з далейшым дапаўненнем дзеяслова экспрэсіўным дадаткам з *трыбухамі.*

**З'есці пуд солі** *з кім. Агульны для ўсходнесл. (руск.* съесть пуд соли, *укр.* з'їсти пуд солі) і *польск.* (beczkę soli sj*eść* — бочку солі з'есці) *м.* Доўга пражыць разам. *Тукала на момант асекся. Шыковіч глядзеў на яго цяпер так, быццам не пазнаваў старога сябра, з якім з'еў не адзін пуд солі* (І. Шамякін. Сэрца на далоні).

Фрагмент прыказкі *Каб пазнаць чалавека, трэба з ім пуд солі з'есці.* Літаральны сэнс другой часткі — 'патрэбны працяглы час, за які можна разам з'есці пуд солі'. Прыказка склалася, калі на соль была вельмі высокая цана.

**З жабіны прыгаршчы** *чаго. Уласна бел.* Вельмі мала (шчасця, радасці, здароўя і пад.). *—Хіба маладым не быў? Хіба радасці... шчасця не бачыў? — Было шчасце. З жабіны прыгаршчы* (А. Кажадуб. Ваўкалакі).

У аснове фразеалагізма — нерэальны вобраз.

**З заміраннем сэрца.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Адчуваючы моцнае хваляванне, трывогу (чакаць, сачыць, глядзець і пад.). *З заміраннем сэрца ўзяў я ў рукі знойдзены блакнот* (К. Кірэенка. З аповесці вайны).

Вытворны ад іменна-дзеяслоўнага прэдыкатыўнага фразеалагізма *сэрца замірае* ў каго, чыё 'каго-н. нечакана ахоплівае хваляванне ці трывога, неспакой і пад.'.

**З затоеным дыханнем** *слухаць, глядзець. Уласна бел.* Вельмі ўважліва, зацікаўлена. З *затоеным дыханнем слухалі разаноўцы паведамленні з фронту* (А. Жураўскі. За родныя хаты).

Прыслоўны фразеалагізм, утвораны на аснове суадноснага дзеяслоўнага *затаіць дыханне* 'прыціхнуць у вялікім напружанні, здзіўленні і пад.'.

**Зімой і летам адным цветам.** *Уласна бел.* Ужыв. пры дзейніку са значэннем асобы і мае сэнс 'заўсёды ў адным і тым жа адзенні'. *Адзець на змену не было чаго... І яна* [маці], *і дзеці зімой і летам адным цветам, — адно насілі, латанае-пералатанае* (М. Гіль. Прагал).

Склаўся на аснове аналагічнай загадкі пра елку, хвою. Параўн. тэкст, дзе гэта сувязь выразна адчуваецца: «Зойка амаль па году не здымала з сябе сіняй пацёртай спадніцы і цёмна-шэрай шарсцяной жакеткі. А як жыла тая ж Зойка, чым жыла — ніхто і не думаў цікавіцца! Чулася пра яе толькі адно: „Зімой і летам адным цветам". З таго і празвалі Зойку „елкай"» (Я. Янішчыц. Трое сутак надзеі).

**З каломенскую вярсту.** *Запазыч. з руск. м.* Вельмі высокі (пра чалавека). *Адзін, як за Крычавам кажуць, з каломенскую вярсту, другі — каратыш* (І. Чыгрынаў. Свае і чужынцы).

Узнік на базе той жа крыніцы, што і фразеалагізм *каломенская вярста* (гл.).

**З капейкамі.** *Уласна бел.* З невялікім перавышэннем. *Нам трэба паспець у эвакапункт, а праз нейкі час зноў на платформу — састаў, што на Славянск праследуе, прыбывае праз нейкую гадзіну з капейкамі* (І. Капыловіч. Калі трэба жыць).

Склаўся шляхам мадэліравання — на ўзор сінанімічных выразаў *з гакам, з хвосцікам* і інш., якія ўжываюцца пасля лічэбнікавага спалучэння пры прыблізным вызначэнні велічыні, даўжыні, колькасці чаго-небудзь.

**З карабля на баль.** *Запазыч. з руск. м.* Спалучаецца з дзеясловамі *пападаць, прыязджаць, трапіць* і ўжываецца, калі кажуць пра нечаканую змену абставін, са значэннем ‘з дарогі на нечаканы занятак’: *Вярнуўшыся ў Мінск, артысты трапілі, што называецца, з карабля на баль: трактаразаводцы папрасілі іх выступіць у святочным канцэрце, прысвечаным 30-годдзю завода* (ЛіМ. 18.06.1976).

Крылаты выраз з рамана А. С. Пушкіна «Яўгеній Анегін». Герой рамана пасля падарожжа прыехаў у сталіцу і трапіў, «як Чацкі, з карабля на баль». Слова *баль* у пушкінскім ужыванні выкарыстана з прамым значэннем: і Чацкі, герой камедыі А. С. Грыбаедава «Гора ад розуму», і Анегін сапраўды трапілі на баль. Штуршком да далейшай метафарызацыі выразу было тое, што ўжо ў Пушкіна кампаненты *з карабля* рэалізаваліся ў дачыненні да Анегіна пераносна (ён вярнуўся з падарожжа па Расіі, зразумела, не на караблі).

*Усе грошы* **з кашальком.** *Уласна бел.* Абсалютна (усе грошы, якія былі ў наяўнасці). — *Заплаціў усе грошы з кашальком, — горка апавядаў ён, — прыгналі мне за вароты трактар на стаянку...* (В. Дубінка. У банкетнай зале…).

Узнік у прастамоўі як жартоўны дадатак да спалучэння *ўсе грошы* для паўнаты і пераканальнасці якога-небудзь сцвярджэння.

**Злавіць двух зайцаў (зайцоў).** *Уласна бел.* Адначасова дасягнуць дзвюх мэт. *Зрабіце заключны допыт. Калі ён не адкрыецца, адпусціце яго пад спецыяльны нагляд. Яму скажыце, хай дзякуе Аксане. Такім чынам, мы зловім, як кажуць, двух зайцоў* (М. Гамолка. Лясная крэпасць).

Утвораны на вобразнай аснове прыказкі *За двума зайцамі пагонішся, ніводнага не зловіш* як бы насуперак значэнню яе літаральнага плана.

**Злавіць (спаймаць) лісу (лісіцу).** *Уласна бел.* Неасцярожна прапаліць вопратку пры агні. *Касцы аглядалі свае апранахі. Нехта ўмудрыўся злавіць лісу, прапаліць у крысе кухвайкі дзірку* (В. Макарэвіч. Палын і медуніца).

Склаўся на аснове падабенства па колеры паміж лісінай шэрсцю і прапаленым лапікам.

**Злажыўшы рукі.** *Гл.* склаўшы (злажыўшы) рукі.

**Злажыць галаву** *за каго, за што, дзе. Гл.* класці (складваць, злажыць) галаву *за каго, за што, дзе.*

**Злажыць зброю.** *Гл.* складваць (скласці, злажыць) зброю.

**Злазіць (злезці) з карку (з шыі)** *чыйго (чыёй). Уласна бел.* Пераставаць абцяжарваць каго-н., будучы на яго ўтрыманні. *Ну, Захарка, злазь з жончынага карку і паедзеш на курсы камбайнераў. Вось спіс. Праўленне калгаса і цябе рэкамендуе* (І. Дуброўскі. Разлад).

У аснове фразеалагізма — гіпербалізаваны вобраз. Магчыма, выраз склаўся як антанімічнае ўтварэнне на аснове фразеалагізма *сядзець на шыі (на карку, на гарбе)* чыёй, у каго, каго (гл.).

**Злазіць (злезці) са свайго канька.** *Агульны для ўсходнесл. і польск.* (zejść ze swojedo konika) *м.* Пераставаць гаварыць на любімую тэму. *Бухарын раптам злез са свайго канька — ні слова пра тое, штоў адказ на нямецкае наступленне трэба тут жа ўзняць на «рэвалюцыйную вайну» сялянства* (І. Шамякін. Петраград — Брэст).

Узнік як антанімічнае па форме і змесце ўтварэнне ад фразеалагізма *садзіцца на свайго <любімага> канька* (супрацьпастаўлены *садзіцца* (на каго) і *злазіць* (з каго) (гл.).

**Злезці з карку** *чыйго. Гл.* злазіць (злезці) з карку *чыйго.*

**З лёгкай парай!** *Агульны для бел. і руск.* (с легким паром) *м.* Прывітанне і пажаданне добрага здароўя таму, хто толькі што папарыўся ў лазні. *Паружавелыя, памаладзелыя, задаволеныя людзі вяртаюцца з лазні. — З лёгкай парай! — вітаюць іх тыя, хто з венікам пад пахай крочыць на сустрэчу са спрадвечнай крыніцай здароўя* (Вожык. 1985. № 11).

Першапачаткова гэты выраз гаварыўся пры ўваходзе ў лазню як зычэнне тым, хто парыўся ўжо. *Лёгкай* называлі пару без чаду. У фальклорным томе «Выслоўі» (1979) фіксуюцца розныя зычэнні «ў лазні і ідучы з лазні»: «З лёгкай парай», «З добрым парам» і інш.

І. Насовіч падае як вітанні пры ўваходзе ў лазню: «Пара — баня, лёгкі дух», «Шаўковы венік, лёгкі дух». Параўн. таксамаў апавяданні М. Гарзцкага «У лазні»: «Саўка… шыбка пабег наперад усіх к лазні. Там ён кумільгом укаціўся ў прымыльнік і сказаў дыскантам: — Пара — лазня, лёгкі дух!..»

**З лёгкай рукі** *каго, чыёй. Агульны для ўсходнесл. м.* Пасля чыйго-н. пачынання, прыкладу. *Мае землякі — цесляры, кавалі, адважныя партызаны. Дык гэта ж з іхняй лёгкай рукі гамоняць бары і звіняць крыніцы* (Р. Барадулін. Трыпціх).

Выток фразеалагізма — былое павер'е, што ў некаторых людзей «лёгкая» рука, шчаслівая, прыносіць удачу, поспех. Такіх людзей запрашалі, напрыклад, увесці ў хлеў толькі што купленага каня, зрабіць яшчэ сякую-такую дробязь, якая, аднак, многае значыць.

**З лёгкім сэрцам.** *Калька з франц. м.* (d'un coeur leдег). Без трывог і апаскі, без роздуму. *Як відаць, яе* [Ядвісю] *ніштo не прымацоўвала тут, ніхто не цікавіў, і яна з лёгкім сэрцам гатова была змяняць гэту глуш Палесся на кожнае новае месца* (Я. Колас. На ростанях).

Прыметнікавы кампанент у выразе выступае як сэнсаўтваральны, суадносны з перыферыйным значэннем слова *лёгкі.*

**З ліхвой.** *Запазыч. з руск. м.* (ёсць і ва ўкр. м.: *з лихвою).* Больш, чым трэба (вярнуць, акупіцца і пад.). *Жыццё пылінку вечнасці сваёй пазычыць пад настрой, але адразу цярпець прымусіць крыўду і абразу, вярнуць пазыку хочучы з ліхвой* (Р. Барадулін. Жыццё пылінку вечнасці сваёй…).

Мяркуюць, што выраз утвораны на аснове старажытнага назоўніка *лихва* (ад прыметніка *лихь* 'лішні, астатні'), які абазначаў працэнты, лішкі пры грашовых аперацыях.

**Злоба дня.** *Запазыч. з царк. — слав. м.* Тое, што прыцягвае ўвагу, займае, цікавіць усіх у дадзены момант. *Паўлюк Трус працаваў у штодзённай ггрэсе, актыўна жыў «злобай дня»* (К. Чорны. Думкі пра Паўлюка Труса).

Выток фразеалагізма — Біблія, дзе (Матфей, 6, 34) ёсць радок: «Довлеет дневи злоба его», г. зн. 'хапае для кожнага дня сваёй турботы'; *злоба* — 'турботы, клопат'.

**Злы геній** *чый. Паўкалька з франц. м.* (mauvais gènie). Чалавек, які аказвае на каго-н. дрэнны ўплыў, прыносіць каму-н. шкоду, зло. *[Сухадольскі:] Можа, і я часамі глядзеў на рэчы тваімі вачамі. [Антаніна Пятроўна: ] Злы геній твой* (К. Крапіва. Зацікаўленая асоба).

Выток фразеалагізма — старажытнарымская міфалогія. У ёй геніем называлі духа, які кіруе чалавекам, яго думкамі і дзеяннямі. Лічылася, што ёсць два геніі: добры і злы. Апошні штурхае чалавека на дрэннае.

**Змаганне з ветракамі.** *Гл.* вайна (бітва, змаганне) з ветракамі.

**Змагацца з ветракамі.** *Гл.* ваяваць (змагацца) з ветракамі.

**З малаком маці (мацеры).** *Уласна бел.* З дзіцячага ўзросту, з самых ранніх гадоў (атрымліваць, успрымаць і пад.). *Я з малаком мацеры атрымаў людскую прывычку, хоць часам і нявінна, хітраваць* (К. Чорны. Хвоі гаворац).

Склаўся як акалічнасна-прыслоўны выраз на аснове дзеяслоўнага *ўсмоктваць з малаком маці* што (гл.). Адарваўшыся ад дзеяслоўнага кампанента і захаваўшы «долю» семантыкі ўсяго фразеалагізма, выраз стаў спалучацца з іншымі дзеясловамі поўнага лексічнага значэння *(даваццa, атрымліваць* і г. д.).

**З малатка.** *Калька з ням. м.* (unter den Hatmer). Ужыв. пры дзеясловах *пайсці, прадаць, пусціць* і абазначае ‘з публічнага торгу’ *Паграажалі яшчэ да дуэлі пусціць маёнтак Якубовіча з малатка* (У. Караткевіч. Каласы пад сярпом тваім).

У Германіі (XIV ст. і пазней) практыкаваўся аўкцыённы продаж маёмасці, рэчаў. Калі за тую ці іншую рэч пакупнік прапаноўваў найвышэйшую суму, ударам малатка аб’яўлялі, што рэч прададзена.

**З месца ў кар’ер.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Адразу ж, без адцягвання. *Здаецца, мая парада пайшла вам на карысць. Вырашылі быць дзёрзкім з месца ў кар’ер* (К. Крапіва. Проба агнём).

Паходзіць з мовы кавалерыстаў, дзе словам *кар’ер* называюць самы хуткі бег каня і дзе спалучэнне *з месцаў кар’ер*, звычайна ўжываючыся з дзеясловам *узяць*, мае значэнне ‘адразу перайсці на галоп’. Параўн. ужыванне спалучэння з прамым значэннем слоў: «Конь пад афіцэрам узвіўся на дыбы, пераступіў заднімі нагамі і гупнуў на зямлю пярэднімі — у той бок галавою, куды ім трэба было ехаць, і з месца ўзяў у кар’ер» (П. Місько).

**З месяца зваліўся.** *Гл.* з неба (з месяца) зваліўся.

**З мірам.** *Запазыч. з царк. — слав. м.* Значэнне фразеалагізма ‘без пакарання, мірна’рэалізуецца пры дзеясловах *адпусціць, пакінуць* і інш. *Проста запрасіў* [местачковы ўраднік] *да сябе… і сказаў: «Вось што, падпольны дарэктар!.. Будзем шукаць другога…» І адпусціў мяне з мірам* (М. Гарэцкі. Віленскія камунары).

Выйшаў з той жа евангельскай прытчы пра жанчыну, абвінавачаную ў распусце, што і фразеалагізм *кінуць камень* (гл.). Хрыстос адпусціў жанчыну, сказаўшы ёй: «З мірам!» Фразеалагізм неаднаразова сустракаецца ў помніках старажытнай беларускай пісьменнасці, напрыклад у такіх, як «Хаджэнне дзяка Ігнація Смальняніна ў Царград і Іерусалім» (XIV ст.), «Юдзіф» Ф. Скарыны (1519), «Дыярыуш» А. Філіповіча (XVII ст.).

**З міру па нітцы** *збіраць, сабраць. Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* с миру по нитке, *укр.* з міру по нітці). Ад усіх патроху.

*Гойдаючы малое, яна заўважала рукі, што працягвалі ёй белую хусцінку: «Калі ласка». Нехта прынёс пялёнку, нехта — кавалак марлі. З міру па нітцы…* (С. Шыдлоўская. Звычайны лёс).

Паходзіць з прыказкі *З міру па нітцы — голаму сарочка*, сэнс якой — ‘ад усіх патроху — і атрымаецца нешта значнае, адчувальнае для каго-н. аднаго’. *Мір* — агульнае для ўсходнесл. м., цяпер ужо ўстарэлае слова са значэннем ‘сельская грамада’. Яно захавалася ў фразеалагізме *ўсім мірам*, у прыказцы *Што будзе міру, тое і бабінаму сыну*.

**З мухі зрабіць слана.** *Калька з грэч. м.* Занадта перабольшыць што-н., надаць чаму-н. нязначнаму вялікае значэнне. *Ведаю я вашы жаночыя страхі. Вашу бязглуздую рэўнасць. З мухі можаце зрабіць слана* (І. Шамякін. Выгнанне блудніцы).

Звычайна аўтарам гэтага выслоўя лічаць старажытнагрэчаскага пісьменніка Лукіяна, аднак яно існавала яшчэ да Лукіяна і толькі ім упершыню выкарыстана ў сатыры «Пахвала мусе» як гатовы народны выраз. Пра гэта сведчаць апошнія радкі сатыры, у якіх гаворыцца, што аўтар перапыняе сваё слова, каб не падумалі, быццам ён, «паводле прыказкі, робіць з мухі слана».

**Змяніць пласцінку.** *Гл.* мяняць (змяніць, перамяніць) пласцінку.

**Змяю гадаваць на сваіх грудзях.** *Калька з лац. м.* (viperam sub ala nutricare — змяю за пазухай (пад пахай) выгадаваць). Клапаціцца пра чалавека, які пасля адплачвае няўдзячнасцю. *Пад плотам знайшоў я цябе, сіратою ўзяў, думаў, за сына роднага будзе, ажно змяю гадаваў на сваіх грудзях…* (В. Каваль. Дзень палымнее). Фразеалагізм выкарыстоўваецца і ў форме *прыгрэць змяю на сваіх грудзях: Вось рабі людзям дабро!.. Прыгрэеш змяю на сваіх грудзях, а яна цябеўкусіць. Ці кепска жылосяў мяне Салаўю?.. А вось і аддзякаваў!* (З. Бядуля. Салавей). Гэты варыянт — калька з франц. м. (*rechauffer un serpent dans son sein).*

Фразеалагізм склаўся на аснове байкі Эзопа «Селянін і Змяя»: селянін падабраў скарчанелую змяю і паклаў за пазуху, а тая, адагрэўшыся, укусіла яго.

**Змяя падкалодная.** *Гл.* гадзіна (змяя) падкалодная.

**Знайсці агульную мову** *з кім. Гл.* знаходзіць (знайсці) агульную мову *з кім.*

**Знайшлася агульная мова** ў *каго, з кім. Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* нашелся общий язык, *укр.* знайшлася спільна мова). Хто-н. дасягнуў поўнага паразумення, дамовіўся з кім-н. *З Паходнем у яе знайшлася агульная мова, Васіліне падабаўся гэты*

*маладзы старшыня калгаса з яго энергіяй і смеласцю планаў, пра якія яны не раз гаварылі* (Т. Хадкевіч. Даль палявая).

Утварыўся на аснове дзеяслоўнага фразеалагізма *знаходзіць (знайсці) агульную мову* з кім (гл.). Структурна арганізаваны як двухсастаўны сказ.

**Знайшоў(-шла, — шлі) сякеру (тапор) пад (за) лаўкай.** *Агульны для бел. і ўкр.* (знайшов сокиру під (за) лавкою) *м.* Выказванне іранічных адносін да таго, хто робіць ці гаворыць што-н. недарэчнае або ўсім вядомае і лічыць гэта сваёй знаходкай ці выйсцем з пэўнага становішча. — *Грошы дзе?* — *Ляжаць на тэлевізары.* — *Знайшла тапор пад лаўкай. То — не нашы, то бацькавы. Мы бednякі, дочачка* (Л. Калодзежны. Водар палыну).

Выраз адлюстроўвае рэаліі ранейшага паўсядзённага жыцця сялян. Як пісаў М. Федароўскі, «беларус мае звычай тапор вострым канцом закладваць у шчыліну паміж лаўкай і сцяной». У «Зборніку беларускіх прыказак» І. І. Насовіча фразеалагізм атрымаў звужанае тлумачэнне: «Кажуць у доказ зладзюжку, які апраўдваецца, што знайшоў зніклую рэч».

**Знаходзіць (знайсці) агульную мову** *з кім. Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* находить общий язык, *укр.* знаходити спільну мову). Дасягаць поўнага паразумення; дамаўляцца. *[Шуфт: ] Мы даём вам час абдумаць становішча. Спадзяёмся, што мы з вамі знойдзем агульную мову* (К. Крапіва. З народам).

Выраз з агульным аналітычным значэннем. Кампаненты сэнсава суадносяцца з прыватнымі значэннямі адпаведных слоў: кампанент *знаходзіць* — са значэннем 'дабівацца, адшукваць', *агульны* — са значэннем 'узаемны', *мова* — са значэннем 'сродак наладжвання сувязі паміж людзьмі'.

**З неба (з месяца) зваліўся (-лася, — ліся).** *Агульны для ўсходнесл. м.* Звычайна ўжыв. у пытальных сказах, абазначаючы 'не разумееш таго, што відавочна ўсім'. —*А што за камітэт такі? — Гэ! Ды ты што — з неба зваліўся? Камітэт — гэта наша з табой зараз начальства* (Л. Дайнека. Людзі і маланкі).

У аснове фразеалагізма — нерэальны вобраз. Магчыма, выраз склаўся пад уплывам франц. *tomber des nues* (літаральна «ўпаў (зваліўся) з воблакаў»).

**Знімацца (зняцца) з якара.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Адпраўляцца, ад'язджаць. *Амаль што разам з трактарыстам зняўс я з якара і дзядзька на падводзе, нават шлеганўў лейчыною каня па баку, азірнуўся* (А. Жук. Чорны павой).

Склаўся ў выніку метафарызацыі свабоднага словазлучэння, якое ўжываецца ў маўленні маракоў.

**Знімаць стружку** *з каго. Гл.* здымаць (знімаць, зняць) стружку *з каго.*

**З носа.** *Агульны для ўсходнесл. м.* З кожнага, з аднаго чалавека. *Пашпарты, білеты — усё бяру на сябе. Абы-хто гэтага не зробіць. За ўсе выдаткі па дзесяць даляраў з носа* (В. Супрунчук. У Парагвай, у цёплы край).

Утвораны шляхам сінекдахічнага пераносу (назва часткі ўжыта ў значэнні цэлага).

**З носам** *пакідаць, заставацца, ісці* і пад. *Усходнесл.* Без таго, на што разлічваў, спадзяваўся хто-н., чаго дабіваўся. *Апроч усяго іншага, Васілю было проста непрыемна, што ён, войт, нягледзячы на ўсе захады, каб злавіць старога Талаша, аставаўся, як кажуць, з носам* (Я. Колас. Дрыгва).

Этымалогія выразу звязваецца з аманімічным свабодным спалучэннем, у якім даўно зніклае слова *нос*, утворанае ад дзеяслова *насіць*, абазначала ‘прынос’ — падарунак, хабар, што давалі баярам, духавенству, калі прасілі чагосьці. Не заўсёды дапамагаў і «нос», тады просьбіт заставаўся з тым, што прынёс («з носам»), г. зн. цярпеў няўдачу. Такі ж лёс мог напаткаць і жаніха, калі ён прыносіў калым бацькам нявесты, а яму адмаўлялі.

**Зняцца з якара.** *Гл.* знімацца (зняцца) з якара.

**Зняць стружку** *з каго. Гл.* здымаць (знімаць, зняць) стружку *з каго.*

**Зорка закацілася (патухла)** *чыя. Калька з франц. м.* (étoile pâlit). Кончылася чыё-н. шчасце, поспехі, кар’ера і пад. *Картэра секанула думка: яго зорка закацілася! Відаць, у ваеннапрамысловым комплексе карту паставілі на іншага іграка* (С. Паўлаў. Тарцюф XX стагоддзя).

Узнікненне фразеалагізма звязана з даўнейшай верай у тое, што лёс чалавека залежыць ад зорак, ад таго, пад якой зоркай ён нарадзіўся, як яна свеціць.

**Зорка першай велічыні.** *Калька з ням. м.* (Stern erster Größe). Вельмі славуты ў пэўнай галіне чалавек. *Акрамя самога гаспадара, там ужо былі Якуб Колас, Кандрат Крапіва, Пятро Глебка, Максім Лужанін. Зоркі першай велічыні, паважаныя людзі* (І. Шамякін. Спакойная мудрасць, мужны талент).

Узнік у выніку фразеалагізацыі тэрміналагічнага словазлучэння, якім у астраноміі называюць самыя яркія зоркі, бачныя без тэлескопа.

**Зорная гадзіна (часіна)** *чыя, для каго. Калька з рускі. м.* (звездный час); *у слоўніках англ., франц., ням., а таксама ўкр. і польск. м. выраз не фіксуецца.* Вялікі поспех, трыумф, росквіт у якой-н. справе, дзейнасці. [Андрэй Іванавіч] *адчувае: наступае яго зорная часіна. Позна наступае, на схіле жыцця, але шчасце асабістае і творчае яго ўсё-такі не абмінула* (І. Навуменка. Старавіленскі тракт).

Выраз аўстрыйскага пісьменніка С. Цвэйга з прадмовы да яго зборніка гістарычных навел «Зорныя гадзіны чалавецтва» (1927); на рускую мову перакладзены ў 1956 г. Паводле С. Цвэйга, «кожны крок эпохі... выспявае паступова», «з мільёнаў упустую пражытых часін толькі адна становіцца сапраўды гістарычнай — зорнай гадзінай чалавецтва». Гэтыя гістарычныя імгненні «прадвызначаюць лёс сотняў пакаленняў, накіроўваюць жыццё асобных людзей, цэлага народа ці нават усяго чалавецтва». Яны, як вечныя зоркі, «нязменна ззяюць у ночы забыцця і тлену». Выраз атрымаў пераасэнсаванне і больш шырокую сферу прымянення.

**З-пад зямлі** *даставаць (дастаць). Агульны дляўсходнесл. м.* Пры любых умовах, любым спосабам і абавязкова. *[Гарлахвацкі:] А грошы будуць. Для вас з-пад зямлі дастану* (К. Крапіва. Хто смяецца апошнім).

В. І. Чарнышоў, Э. Вартаньян і інш. лічаць, што ўзнікненне фразеалагізма мае сувязь з даўнейшым звычаем закопваць у зямлю «на чорны дзень» металічныя грошы.

**З паднятым забралам.** *Гл.* з адкрытым (паднятым) забралам.

**З-пад спуду.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Абазначае ‘з забыцця (даставаць, вызваляць і пад.)’. *З-пад спуду вырваўшыся, следам выходзіць праўда на прастор* (М. Аўрамчык. Волхаўская споведзь). Або: *Рэцэпт стары з-пад спуду ў Амерыцы дасталі* (У. Корбан. Вашынгтонскі кулінар).

Склаўся на аснове фразеалагізма *пад спудам* (гл.) як антанімічнае ўтварэнне, як яго сэнсавая супрацьлегласць.

**З паходам.** *Уласна бел.* З невялікім перавышэннем (пры прыблізным вызначэнні велічыні, даўжыні, колькасці чаго-н.). — *А мы хацелі, каб вы яблык нам па якому кілаграму прадалі. — Наце, бярыце! — падала нам цётка па чатыры залатабокія антоны. — Тут мо яшчэ і з паходам будзе* (Р. Сабаленка. Яблыкі).

Узнік праз супастаўленне з узважваннем на бязмене: калі тое, што ўзважваюць, крыху цяжэйшае за патрэбную вагу, то рычаг з грузам не стаіць на месцы, а «ходзіць», ідзе ўніз.

**З першага погляду (позірку).** *Калька з франц. м.* (au premier aspect). Ужыв. са значэннямі ‘адразу ж’ і ‘па першым уражанні’. *З бакавых дзвярэй выйшаў на хвіліну, трэба думаць, дырэктар магазіна. Яго я не ведаў, але з першага позірку можна было вызначыць, што ён тут старажыл* (У. Шахавец. Блакітная мара). *Адна дробная з першага погляду рэч запыніла на сабе іх увагу. Яны ўбачылі ў лесе сляды чалавечых ног* (Я. Колас. Дрыгва).

Лічэбнікавы кампанент усведамляецца як сэнсаўтваральны.

**З першых вуснаў.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* из первых уст, *укр.* з перших уст). Непасрэдна ад сведкі, відавочніка,

удзельніка; з самых дакладных крыніц (чуць, даведвацца і пад.). *Гэта навіна прымусіла набраць нумар сакратара гаркома партыі, каб, як кажуць, з першых вуснаў пачуць пра падрабязнасці* (Звязда. 1.01.1988).

Відаць, утвораны па мадэлі з ужо існуючым фразеалагізмам *з першых рук* (гл.) — калькі з франц. м., адно са значэнняў якога — 'непасрэдна ад сведкі, відавочніка, удзельніка (чуць, даведвацца і пад.)'.

**З першых рук**. *Калька з франц. м.* (de première main). Ужыв. са значэннямі 'непасрэдна ад уладальніка, не праз перакупшчыка (купляць, набываць)' і 'непасрэдна ад сведкі, відавочніка, з самых дакладных крыніц (атрымліваць якую-н. інфармацыю, даведвацца, чуць і пад.)'. «*Лепш купляць з першых рук*», — *сказаў Іліко, слова ў слова паўтараючы тое, што ўчора чуў у духане* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *Будзь як той колісь Несцер-летапісец. Каб нашы нашчадкі страсянулі пыл з хартый і з першых рук уведалі пра тое, што мы тут, у гэтых лясах, рабілі* (Р. Сабаленка. Іду ў жыццё).

Першапачаткова выкарыстоўваўся пры дзеясловах *купляць, набываць* і пад., калі размова ішла пра гандлёвыя справы.

**З плеч ды ў печ.** *Уласна бел.* (фіксуецца і ў некаторых руск. парэміялагічных працах XIX ст., але ў сучасных руск. слоўніках не падаецца). Ужыв. са значэннямі: 1) без асаблівых запасаў, не клапоцячыся пра заўтра, бестурботна (жыць), 2) абы-як, нядбайна (рабіць), 3) зараз жа, неадкладна, не задумваючыся (рабіць што-н.). *Рос ён* [Марцін] *у вялікай сям'і, меў многа братоў і сясцёр, Жылі — з плеч ды ў печ* (А. Варановіч. Ластаўкі пакідаюць гняздо). *Усе маўчалі... і толькі Вакула пачаў гаварыць, што вось бяруцца за справу людзі, якія сякеру не могуць у руках трымаць, а потым сорам на ўсю брыгаду... Але ж сам рабіў з плеч ды ў печ...* (Я. Радкевіч. Казка пра белага арапа). *Чытаючы некаторыя творы, думаеш, што аўтар толькі пагартаў зборнік прыказак і прымавак і адразу — з плеч ды ў печ — перадаў іх сваім героям* (Р. Шкраба. На кожны дзень).

Паводле І. Ілюстрава, першапачаткова фразеалагізм адлюстроўваў даўнейшы быт, беднасць і галечу: многія людзі не мелі запаснога, зменнага адзення, таму тое, што было ў іх на плячах, час ад часу ішло ў печ, г. зн. выварвалася ў чыгуне з лугавой вадой. А магчыма, выраз мог скласціся і ў такой маўленчай сітуацыі: «Ніколі ў Лявона не хапае часу, каб, як людзі, нацягаць дроў на зіму, нарэзаць, насекчы. Заўсёды так: з плеч ды ў печ» (А. Кудравец).

**З понтам.** *Агульны для ўсходнесл. м.* З мэтай стварыць пэўнае ўражанне (форсу, важнасці, паказухі і пад.). «*Дзе*

*падарунак?»* — *амаль крыкнуў хчопчык. «А я з понтам, піянер,* — *зноў усміхнулася госця.* — *З сабой няма, але...»* (Ю. Станкевіч. Усе дзеці любяць бананы).

Паходзіць з турэмна-лагернага жаргону. Утварыўся на аснове фразеалагізма *для (дзеля) понту* (гл.).

**Зрабіць вялікія вочы.** *Гл.* рабіць (зрабіць) вялікія вочы.

**Зрабіць добрую міну пры дрэннай гульні.** *Гл.* рабіць (зрабіць) добрую міну пры дрэннай гульні.

**Зрабіць з белага чорнае.** *Гл.* рабіць (зрабіць) з белага чорнае (белае чорным).

**Зрабіць з камара каня.** *Гл.* рабіць (зрабіць) з камара каня.

**Зрабіць з мухі слана.** *Гл.* з мухі зрабіць слана.

**Зрабіць пагоду** *<у чым, дзе>. Гл.* рабіць (зрабіць) пагоду *<у чым, дзе>.*

**З разбітым сэрцам.** *Уласна бел.* Адчуваючы непакой, пакутуючы (звычайна з-за няўдалага кахання). *Гаршчэня, з разбітым сэрцам, глядзеў кудысьці ў далечыню, але нічога не бачыў* (І. Гурскі. На берагах Прыпяці).

Прыслоўны фразеалагізм, утвораны на аснове суадноснага дзеяслоўнага *разбіваць (разбіць) сэрца* (каму, чыё), які абазначае ‘рабіць каго-н. няшчасным, прычыняючы душэўныя пакуты’.

**Зроблены на адзін капыл.** *Агульны для ўсходнесл. (руск.* сделаны на одну колодку, *укр.* зроблени на один копил) і *польск.* (zrobione na jedno kopyto) *м.* Вельмі падобныя адзін да другога, аднолькавыя. *Так я вам і паверыла! Усе вы мужчыны зроблены на адзін капыл!* (І. Гурскі. Вецер веку).

Паходзіць з маўлення шаўцоў: *капыл* — ‘кавалак з дрэва ў форме ступні, на якім шавец робіць абутак’.

**З рукамі адарваць.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Ужыв. са значэннямі ‘з вялікай ахвотай прыдбаць, купіць што-н.’ і ‘з вялікай ахвотай уладкаваць, узяць каго-н. куды-н.’. *Урэшце прадаць усё гэта можна, не выходзячы з дому, цяпер любыя прадукты з рукамі адарвуць, дзякуй скажуць* (І. Шамякін. Гандлярка і паэт). — *І пасведчанне* [вадзіцеля] *ёсць?* — *Маю.* — *Значыць, цябе ўсюды з рукамі адарвуць* (І. Чыгрынаў. Трэція пеўні).

У аснове фразеалагізма — гіпербалізаваны вобраз.

**З рук у рукі.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Ужыв. са значэннямі ‘непасрэдна каму-н. (перадаваць, здаваць, адцаваць)’, ‘ад аднаго да другога, ад адных да другіх (хадзіць, пераходзіць, перадаваць і пад.)’ і ‘у валоданне то да аднаго, то да другога напераменку (пераходзіць у часе ваенных дзеянняў)’. *Марына адвяла Лену ў адну хату і з руку рукі, што называецца, перадала дзяўчыну маладой сялянцы* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Так і ходзіць з руку рукі лістоўка ці газета, якая невядома адкуль трапілаў*

*салдацкую кішэню* (С. Грахоўскі. Рудабельская рэспубліка). *За апошнія чатыры гады ён* [Выбарг] *трэці раз пераходзіць з рук у рукі* (І. Навуменка. Смутак белых начэй).

Выраз успрымаецца як разгорнутая сінекдаха (назва часткі чалавечага цела ўжыта ў значэнні цэлага).

**Зрушыць горы** *<з кім, з чым>. Гл.* варочаць (звярнуць, зрушыць, перавярнуць) горы *<з кім, з чым>.*

**З сэрцам.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Сярдзіта, раззлавана (сказаць, крыкнуць і пад.). — *Які ты мурзаты, Паўлік, — з сэрцам сказала Даруя Антонаўна* (Л. Дайнека. Футбол на замініраваным полі).

Першапачатковае значэнне слова *сэрца тут* — 'цэнтр злосці, гневу' (параўн.: *сердаваць, сярдзіты).*

**З сямі печаў хлеб есці.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Быць у розных пераплётах і многае зведаць у жыцці. *Многа я бадзяўся па свеце. З сямі печаў хлеб еў…А лепшай ракі, чым наш Дняпро, не бачыў* (Л. Левановіч. Зямля і людзі).

Фразеалагізм усведамляецца як матываваны. Кампанент *сямі*, нярэдкі ў фразеалагізмах і прыказках, тут генетычна не абазначае строга акрэсленую колькасць, а перадае паняцце мноства. Выраз фіксуецца ў «Зборніку беларускіх прыказак» І. І. Насовіча і працы М. Федароўскага «Люд беларускі на Русі Літоўскай».

**З трэціх вуснаў.** *Гл.* з другіх (трэціх) вуснаў.

**З трэціх рук.** *Гл.* з другіх (трэціх) рук.

**Зуб за зуб.** *Запазыч. з царк. — слав. м.* Адплата злом за прычыненае зло. *[Вера: ] Можа, у каго ёсць іншая прапанова? [Люба: ] У мяне ёсць! Падняць тарыф на халтурныя работы. [Надзея: ] Да тысячы тугрыкау за аб'ект. [Вера: ] З нас дзяруць, і мы драць будзем… [Надзея: ] Зуб за зуб!* (А. Петрашкевіч. Укралі кодэкс).

Частка біблейскай формулы закону адплаты (Зыход, 12,24): «Пералом за пералом, вока за вока, зуб за зуб: як ён зрабіў пашкоджанне на целе чалавека, так і яму трэба зрабіць».

**Зуб за зуб зайшоў** *у каго, з кім. Уласна бел.* Склаліся непрыемныя адносіны, пры якіх адзін не ўступае другому. — *Кажуць, ты не паладзіў са сваёй?.. — Разводжуся яшчэ… збіраюся разводзіцца. — Зуб за зуб зайшоў? — Ліха яе ведае* (Л. Калодзежны. Водар палыну).

Утварыўся шляхам пашырэння кампанентнага складу фразеалагізма *зуб за зуб* (гл.). Набыўшы струюуру двухсастаўнага сказа, фразеалагізм атрымаў і іншае, чым яго папярэднік, значэнне, аднак сэнсавыя сувязі паміж імі захаваліся.

**Зуб мець** *на каго. Калька з франц. м.* (avoir une dent). Тайна ненавідзець каго-н., адчуваць непрыхільнасць да каго-н. *Мы засталіся ўдвух. Селязнёў сядзіць злы ў кутку, бачу, на мяне зуб мае* (В. Быкаў. Абеліск).

Французам вядомы і гэты выраз, і біблейскі *вока за вока, зуб за зуб* (гл.), паміж якімі ёсць сэнсавае падабенства. Хутчэй за ўсё, на аснове гэтага запазычання з Бібліі, якое адлюстроўвае закон адплаты за прычыненае зло, склаўся фразеалагізм *зуб мець*. Тут *зуб* выступае як кампанент, семантычна намагнічаны за кошт сэнсавага цэлага, як патэнцыяльнае слова са значэннем «злосць».

**Зубы загаворваць *каму.*** *Агульны для ўсходнесл. м.* Уводзіць у зман, знарок адцягваць увагу ад чагосьці. *І ты мне, зяцёк… свайго розуму не паказвай. Гэта ты можаш перад кім, а мне ты, зубы не загаварвай, яны у мяне яшчэ…* (Р. Мурашка. Салаўі святога Палікара).

Паходзіць са свабоднага словазлучэння, звязанага з ранейшым звычаем: на працягу многіх стагоддзяў знахары з дапамогай доўгіх бяссэнсавых замоў «сунімалі» зубны боль. У пераасэнсаванні словазлучэння *загаворваць зубы* адлюстраваліся адмоўныя, іранічныя адносіны людзей да замоў і тых, хто замаўляе.

**Зубы замаўляць *каму.*** *Агульны для бел. і ўкр. м.* Хітруючы, пабочнымі размовамі адцягваць увагу ад чаго-н. *Ты мне зубоў не замайляй, бо ўсё роўна нічога не дам за тваю балбатню* (І. Козел. Папараць-кветка).

Мае такую ж гісторыю ўзнікнення, як і *зубы загаворваць* каму (гл.), які, у адрозненне ад *зубы замайляць*, бытуе ў трох усходнесл. м. Па гэтай прычыне перад намі не варыянты аднаго фразеалагізма, а два асобныя выразы.

**Зубы з'еў *на чым, у чым.*** *Агульны для ўсходнесл. і польск. м.* Абазначае 'мае вывучку, навыкі ў чым-н.'. *Эт, пано… хацеў сказаць: ясны пане, — я чалавек бывалы, зубы з'еў на дворнай службе* (В. Дунін-Марцінкевіч. Залёты).

Паходзіць са свабоднага словазлучэння, якое пераасэнсавалася на аснове падабенства з'яў: у каня, калі яму болын за дзевяць гадоў, зубы з'едзеныя; зразумела, што такі конь мае пэўную «вывучку». Зрэдку фразеалагізм ужываецца і са значэннем 'састарэць, дажыць да старых гадоў на адным месцы, на адной пасадзе'; у такім разе змяненне дзеяслоўнага кампанента не абмяжоўваецца толькі формамі прошлага часу *(з'еў, з'ела, з'елі)*: «Вельмі ўжо ты душу сваю ў крук гнеш. Так і з'ясі зубы на пабягушках, пісарчуком» (К. Чорны).

**Зубы на паліцу класці.** *Агульны дляўсходнесл. м.* Жывучы ў нястачы, пастаянна недаядаць, галадаць. — *А нам чым жыцы —*

*уплятаў Васіль у іншыя свой крык, у якім былі разам і ўпартасць і страх. — Нам зубы на паліцу?!*! (І. Мележ. Подых навальніцы).

У аснове фразеалагізма трапны гіпербалічны вобраз, матываваны практычнай, гумарыстычна афарбаванай развагай: калі няма чаго есці, дык і няма занятку зубам, а таму хоць кладзі іх на паліцу. *Хоць зубы на паліцу кладзі* (гл.), відаць, і была першапачатковая форма выразу, у якой ён выкарыстоўваецца і ў наш час: «а ты хоць зубы на паліцу кладзі» (Ядвігін Ш.), «мужыку ж хоць зубы злажы на паліцу» (Я. Купала). У далейшым фразеалагізм стаў ужывацца без *хоць,* набыў большую катэгарычнасць, а таксама асабовыя і трывальныя формы дзеяслоўнага кампанента.

**З усіх ног.** *Калька з франц. м.* (à toutes jambes). Вельмі хутка, імкліва (бегчы, кідацца, пускацца і пад.). *Чубар з усіх ног кінуўся бегчы на вяршыню валатоўкі, каб паглядзець адтуль на дарогу* (І. Чыгрынаў. Плач перапёлкі).

Першапачаткова ўжываўся ў дачыненні да коней.

**З царом у галаве.** *Запазыч. з руск. м.* Вельмі разумны, кемлівы. *Старшыня чалавек бывалы, з царом, як кажуць, у галаве. З ім гаварыць цікава пра ўсё* (В. Карамазаў. Я любіў яго).

Узнік на аснове прыказкі *Свой ум — царь в голове*; параўн. яшчэ: *У каждого свой царь в голове; У всякого свой ум и разум, свой царь в голове.*

**Зялёнае святло.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* зеленый свет, *укр.* зелено світло). Свабодны шлях, без перашкод і затрымак. *Каб даць ідэям зялёнае святло, неабходна было распачынаць рэканструкцыю вытворчасці* (Звязда. 18.01.1986).

Склаўся ў выніку пераасэнсавання свабоднага словазлучэння, звязанага са святлафорнай сігналізацыяй, пры якой зялёнае святла з'яўляецца знакам свабоднага праезду, праходу.

**Зялёная вуліца**[1]. *Агульны для ўсходнесл. м.,* стаў гістарызмам і ўжываецца са значэннем 'строй салдат са шпіцрутэнамі' толькі ў тэкстах і вуснай мове, калі гаворка ідзе пра з'явы мінулага. *Сын бітага, хвастанага бацькі, чалавек, дзіцячым светам якога была казарма, а развагаю — дні, калі збеглых праганялі праз зялёную вуліцу, ён прагнуў кар 'еры як адзінага сродку пазбавіцца ад навакольных жахаў, ад зубатычын, ад стаяння з цагельнай выкладкай пад ружжом* (У. Караткевіч. Каласы пад сярпом тваім).

У царскай Расіі было і такое пакаранне: абвінавачанага праводзілі праз строй салдат, кожны з якіх павінен быў выцяць асуджанага па голай спіне шпіцрутэнам — двухметровай гнуткай палкай. Праход паміж дзвюма шарэнгамі ўяўляўся як «вуліца», а «зялёнай» яна называлася таму, што ў руках салдат былі звычайна зялёныя, з лазняку, пруты.

**Зялёная вуліца**[2]. *Агульны для ўсходнесл. м.* Свабодны шлях, без перашкод і затрымак. — *Добра вам: вашым рукапісам зялёная вуліца! — Аякую, скажыце, вуліцу даваць «зялёным» рукапісам?* (Ф. Янкоўскі. У рэдакцыі).

Паходзіць з прафесійнай мовы чыгуначнікаў: калі трэба тэрмінова даставіць па чыгунцы важны груз, то поезду на працягу ўсяго яго руху адкрываюць зялёныя семафоры. Узнікшы ў асяроддзі чыгуначнікаў, фразеалагізм перасягнуў яго межы. Вось некаторыя прыклады, якія ў пэўнай ступені адлюстроўваюць шлях фразеалагізма ў літаратурную мову (спачатку — пра поезд, пасля — са спасылкай на мову-першакрыніцу, а затым — без спасылак, як звычайны агульнанародны выраз): *Адны цягнікі праносяцца паўз будку, як вецер, зацягваючы перад семафорам настойлівы жалезны крык, патрабуючы «зялёнай вуліцы»* (І. Навуменка. Сасна пры дарозе); *У ідэале трэба імкнуцца да таго, каб кожнаму правілу даць, як кажуць чыгуначнікі, зялёную вуліцу...* (К. Крапіва. Пытанні беларускага правапісу); *Мы... не дапытваліся, вядома, пра аутара, а далі яго вершам «зялёную вуліцу»* (Я. Брыль. Памяці Валянціна Таўлая).

**Зямны рай.** *Агульны для ўсходнесл. м.* (*параун. у польскм.*: raj na ziemi). Незвычайна прыгожая мясціна, дзе можна шчасліва і бесклапотна жыць. *Ва ўрочышчы Пасека, дзе мы цяпер вячэраем, дык наогул рай зямны!* (Г. Пашкоў. Палескія вандроўнікі).

Склаўся на аснове біблейскага аповеда пра рай — прыгожы Эдэмскі сад, дзе напачатку жылі Адам і Ева.

**З'яўленне на свет.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Нараджэнне каго-н. *Бацька вельмі хацеў дзяцей, вельмі перажываў, калі памерлі першынцы, і на маё з 'яўленне на свет ён глядзеў як на самую вялікую падзею ў сваім жыцці* (Я. Крупенька. З майго жыццяпісу).

Назоўнікавае ўтварэнне на аснове суадноснага дзеяслоўнага фразеалагізма *з 'яўляцца (з'явіцца) на свет* 'нарадзіцца'.

# I

**І брывом (вокам) не вядзе.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* и бровью/оком не ведет, *укр.* і бривом/оком не веде). Ніяк не рэагуе, не звяртае ніякай увагі. *Філімонаў і Мерлякоў знікаюць. Памкамузвода, старшыня і брывом не вядуць. Як бы іх гэта не датычыць* (І. Навуменка. Смутак белых начэй).

Фразеалагізм жэставага паходжання: унутраны стан чалавека называецца па знешнім выразніку гэтага стану.

**І вокам не вядзе.** *Гл.* і брывом (вокам) не вядзе.

**І вухам не вядзе.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Ніяк не рэагуе, не звяртае ўвагі. *Хоць якім прамоўцам будзь: яны й вухам не вядуць* (К. Крапіва. Да лігі «Час»).

Генетычна гэта «метафара, узятая з жывёльнага свету» (В. У. Вінаградаў). Фразеалагізм, калі гаворка ідзе, скажам, пра каня, адначасова будзе ўспрымацца і як свабоднае словазлучэнне, бо пры адчуванні звера ці іншай небяспецы конь вядзе вушамі: «Эх ты, конік, мой конік! Дурны ты, брат! Там гарматы гудуць, а ты нічога не разумееш і вухам не вядзеш» (Я. Колас).

**Ігра на нервах** *<чыіх>. Агульны дляўсходнесл. м.* Наўмыснае раздражненне, нерваванне каго-н. *Што ж, думаюць мужчыны, можа, самстёт зрабіў разведку і не выкінуў нікога? Можа, гэта проста правакацыя чорных рук, ігра на нашых нервах…* (П. Кавалёў. Падзенне Хвядоса Струка).

Назоўнікавае ўтварэнне на базе суадноснага дзеяслоўнага фразеалагізма *іграць на нервах* <чыіх, каму>, які абазначае ‘наўмысна раздражняць, нерваваць каго-н.’

**Іграць на нервах** *чыіх. Агульны для ўсходнесл. (руск.* играть на нервах, *укр.* грати на нервах) і *польскай* (grać na nerwach) *м.* Наўмысна нерваваць, злаваць, раздражняць каго-н. *Іван, скажы, каб яна не іграла на маіх нервах* (І. Шамякін. Снежныя зімы).

Гэта фразеалагізм з агульным аналітычным значэннем, якое выводзіцца з аслабленага значэння кампанентаў, сэнсава суадносіцца са словамі *іграць* і *нервы* ў свабодным ужыванні: кампанент *іграць* (на чым) суадносіцца са значэннем ‘уздзейнічаць на што-н.’. кампанент *нервы* — са значэннем ‘нервовая сістэма, ад стану якой залежаць агульны стан, паводзіны чалавека’. Магчыма, выраз склаўся ў мове людзей, якія вывучалі латынь і каламбурна выкарысталі розныя значэнні лацінскага слова *nervus* — ‘струна’ і ‘нерв’.

**Іграць на руку каму. Гл. на руку (у руку) іграць *каму.***

**Іграць першую скрыпку.** *Калька з ням. м.* (die erste Geige spielen). Быць галоўным у якой-н. справе. *Карнач там намеснік сакратара партбюро і, як расказваў Кіслюк, іграе ў бюро першую скрыпку, большасць членаў заварожана ім* (І. Шамякін. Атланты і карыятыды).

Прыйшоў з прафесійнай мовы музыкантаў, якія першай называюць скрыпку, што выконвае ў аркестры галоўную партыю; адпаведна *іграць першую скрыпку* — значыць выконваць на скрыпцы або групе скрыпак вядучую партыю ў струнным ці сімфанічным аркестры.

**Іграць (сыграць) другую скрыпку.** *Калька з ням. м.* (die zweite Geige spielen). Займаць другараднае, падпарадкаванае становішча ў чым-н. *Як вядома, у маладосці ён* [Антон] *прывык іграць другую скрыпку пры старэйшым браце Іване* (У. Калеснік. Памяць — настаўніца жыцця).

Утвораны ў выніку пераасэнсавання адпаведнага словазлучэння, якое ў маўленні музыкантаў абазначае 'выконваць у аркестры другую, суправаджальную партыю'.

**Іерыхонская (ерыхонская) труба.** *Паўкалька з франц. м.* (trompette de Jéricho). Чалавек з вельмі гучным голасам. *Хлопцы пасапвалі насамі. Мудрык храпе. Выводзіць рулады, нібы трактар, Іерыхонская труба* (І. Навуменка. Бульба).

Выток фразеалагізма — біблейскі тэкст (Ісус Навіна, 6). Ізраільцяне, вызваліўшыся з егіпецкага палону, накіраваліся ў Палесціну і па дарозе асадзілі горад Іерыхон. Сцены горада былі вельмі моцныя, і, здавалася, іх немагчыма разбурыць. Але калі ўсе затрубілі ў свяшчэнныя трубы, то сцены абваліліся і горад быў узяты.

**І жук і жаба.** *Уласна бел.* Усе без выключэння; усякі, кожны чалавек. *Адчуваў* [Янка]: *ён цяпер самы няўдачлівы ў Янкавінах чалавек. І жук і жаба будуць тыцкаць у яго пальцам* (Г. Далідовіч. Гаспадар-камень).

Створаны па аналогіі са шматлікімі выразамі, кампаненты якіх звязваюцца паўторным злучнікам і — і. У такіх выразах структурная схема *і... і...* звычайна запаўняецца супрацьпастаўленымі (на ўзроўні слоў) кампанентамі *(і смех і грэх, і дзень і ноч, і сёе і тое, і намым і вашым*, і *там і тут* і г.д.). *Жук* і *жаба* таксама як бы супрацьпастаўляюцца — па сваёй мізэрнасці. На выбар менавіта гэтых кампанентаў, магчыма, паўплывала і тое, што яны пачынаюцца з «ж». У беларускай літаратурнай мове гэты выраз упершыню ўжыты Я. Купалам у трагікамедыі «Тутэйшыя» (1922). Магчыма, выраз з'яўляецца «абломкам» прыказкі *І жук і жаба мяне вучаць.* Яна пабачыла свет толькі нядаўна — у зборніку А. Аксамітава «Прыказкі і прымаўкі» (Мн., 2000), дзе ёсць і раздзел

«З рукапіснага неапублікаванага збору прыказак Яна Чачота» (яго запісы прыказак у навагрудскіх і лепельскіх гаворках адносяцца да 40-х гадоў XIX ст.).

**<I> канцы ў ваду.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Ужыв. са значэннямі ‘не засталося ніякіх слядоў, доказу (злачынства, правіннасці)’ і ‘на гэтым усё кончана (пра канчатковую развязку чаго-н.)\ *Наладзілі следства. Усім вядома было, што гэта Вінцанцюк пастараўся, але выразнага доказу не было. Усё было зроблена гладка — і канцы ў ваду* (К. Чорны. Лявон Бушмар). *[Наеум: ] Слова сказана, дый дзела звязана. Тады гарэлка на стол, ручнікі гатовы, дый канцы ў ваду* (В. Дунін-Марцінкевіч. Сялянка).

Ёсць некалькі меркаванняў пра этымалогію гэтага фразеалагізма. Адно з іх (найбольш пераканальнае) звязвае ўзнікненне фразеалагізма са звычкай разбойнікаў кідаць трупы забітых у раку, каб схаваць сляды злачынства. Выраз фіксуецца ў «Зборніку беларускіх прыказак» І. І. Насовіча.

**<I> карты ў рукі** *каму. Агульны для ўсходнесл. м.* У каго-н. ёсць усе падставы, магчымасці зрабіць, выканаць што-н.; хто-н. найбольш падыходзіць да чаго-н. (сваімі ведамі, вопытам і пад.). *Няўжо, Аляксандр Максімавіч, не абыдзецца без маёй асобы там? Я ж не мастак па такіх вось справах... Вам і карты ў рукі, га*?.. (Х. Шынклер. Сонца пад шпалы).

Утварыўся шляхам мадэліравання — на ўзор фразеалагізма *і кнігі ў рукі* каму (гл.). Выкарыстана структура фразеалагізма-папярэдніка, а адзін з кампанентаў заменены словам *карты.* Цяжка сказаць, якія карты — тапаграфічныя, геаграфічныя ці ігральныя — меліся на ўвазе пры ўзнікненні фразеалагізма.

**І кнігі ў рукі** *каму. Агульны для ўсходнесл. м.* У кагосьці ёсць усе падставы, вялікія магчымасці зрабіць, выканаць што-н. *А ігракам з вышэйшай Лігі, як той казаў; і ў рукі кнігі!* (ЛіМ. 7.05.1976).

Узнік з прыказкі *Пісьменнаму і кнігі ў рукі*, атрымаўшы ў спадчыну ад яе некаторыя рэшткавыя з’явы: рэалізацыя выразу ў маўленні немагчыма без дапаўнення яго назвай суб’екта ў давальным склоне *(ікнігі ў рукі* каму), неабходным элементам фразеалагізма выступае часціца *і.* Семантыка гэтага прыказкавага «абломка» значна пашырылася ў параўнанні са значэннем прыказкі, якая выкарыстоўвалася толькі ў дачыненні да пісьменных людзей.

**І куры не шэпчуць** *пра каго. Уласна бел.* Ніхто нічога не гаворыць пра каго-н., хто-н. не з’яўляецца аб’ектам размовы. — *Гэта чаму такая непрыхільнасць раптам да мужчын?.. Але ж я тут які прычыннік?— Пра вас і куры не шэпчуць, не...* (Р. Мурашка. Салаўі святога Палікара).

Гэта сэнсава алагічнае спалучэнне каламбурнага характару. Першапачаткова мелася на ўвазе: ніхто нічога не гаворыць пра кагосьці, нават куры, якія, зразумела, не ўмеюць ні гаварыць, ні шаптаць.

**І лейцы ў рукі** *каму. Уласна бел.* У каго-н. ёсць усе падставы быць кіраўніком чаго-н. *Вы гаворыце тое, што цвярдзілаў свой час Сініцкая… Дык вам і лейцы ў рукі, Мікалай Пятровіч! У добры час…* (М. Ваданосаў. У Баркоўскай пушчы).

Утварыўся ўнутрыфразеалагічным спосабам — на аснове дзеяслоўнага выразу *браць лейцы ў рукі* (гл.), сэнс якога — ‘прымаць на сябе кіраванне чым-н.’. «Абломак» дзеяслоўнага выразу захоўвае «долю» семантыкі ўсяго фразеалагізма. Можна гаварыць, што выраз *ілейцы ў рукі* сфармаваўся і шляхам мадэліравання — на ўзор такіх фразеалагізмаў, як *ікнігі ў рукі* (каму), *ікарты ў рукі* (каму) (гл.).

**Імя** *каму, чаму* **легіён.** *Запазыч. з царк. — слав. м.* Каго-, чаго-н. вялікае мноства, вельмі многа. *Яўген стараўся не глядзець на яго, думаючы — як, мабыць, надакучыла гэтаму чалавеку вадзіць па ўчастку цікаўных гасцей, імя якім легіён* (У. Карпаў. Вясеннія ліўні).

Паводле Евангелля (Лука, 8,30), Ісус спытаўся ў аднаго ашалелага, як яго імя, і той адказаў: «Легіён імя нам, таму што нас многа» (г. зн. не адзін, а шмат чарцей было ў ім; калі ў чалавека, паводле старажытных уяўленняў, уваходзіць нячыстая сіла, ён становіцца шалёным). Фразеалагізацыі словазлучэння садзейнічалатое, што тут слова *легіён* выкарыстана не з прамым тагачасным значэннем (‘найбольшае вайсковае злучэнне ў Старажытным Рыме — ад *6666* да 12 500 і больш чалавек’), а з пераносным ‘многа’.

**<І> на дух** *не пераносіць, не выносіць* і пад. *каго, што, чаго. Агульны для ўсходнесл. м.* Рашуча, неаспрэчна, катэгарычна. *Трэба сказаць, што ён меў адну важную асаблівасць: ва ўсім любіў яснасць і на дух не пераносіў нічога чужароднага, замежнага, цьмянага і ўвогуле малазразумелага* (А. Кудласевіч. «Жэзл Жалезны»).

Першапачаткова *на дух (не пераносіць)* сэнсава быў рэакцыяй на пах, які выдзяляецца з паверхні скуры чалавека ці жывёлы. Як адзначаецца ў літаратуры, ёсць людзі, якія па паху могуць адрозніць негра ад араба, індуса ад кітайца ці татарына. Параўн. прыклад, дзе фразеалагізм *на дух* яшчэ ўтрымлівае часцінкі пачатковага значэння антыпатыі да пэўных пахаў: «Дзе чарка, там і цыгарэта. Мая жонка поедам есць з-за курыва. На дух не пераносіць» (А. Казлоў).

**І нашым і вашым.** *Запазыч. з рус. м.,* дзе выраз паводле паходжання з'яўляецца часткай прыказкі И *нашим и вашим за копейку спляшем.* Ужыв. са значэннем 'адначасова і адным і другім', адмоўна характарызуючы паводзіны чалавека, які служыць, дагаджае двум розным па поглядах бакам. *Пра Ганскага гаварылі, што парадку не глядзіць. Куды яго хто паверне, туды ён і вернецца — і нашым і вашым* (К. Крапіва. Мядзведзічы).

**І пайшло і паехала.** *Уласна бел.* Прыйшло ў рух, пачалося што-н. (пра інтэнсіўнае разгортванне чаго-н.). *І пайшло і паехала: таўкуць нагамі адзін аднаго, ажно з коўдры пыл курыць, пакуль маці не возьме бацькаву дзягу ды па коўдры той — два разы Яську, адзін раз — Калюлю* (М. Гіль. Пуд жыта).

Выраз генетычна каламбурнага характару. Узнік на аснове слова *пайшло* ў выніку накладання на значэнне 'пачало адбывацца' яшчэ аднаго, зыходнага значэння гэтага ж слова 'пачало рухацца, ступаючы нагамі' і яго каламбурнага дапаўнення дадаткам *паехала* 'пачало рухацца пры дапамозе транспарту'.

**<І> пальцам не варухнуць (не паварушыць, не паварухнуць).** *Калька з франц. м.* (ne pas bouger le petit doigt). Нічога не зрабіць, не прыкласці ніякіх намаганняў (для ажыццяўлення чаго-н.). *Ніхто не пакінуў сваіх карой, не паварухнуў пальцам, каб пасобіць гаротнай кабеціне знайсці сына* (Р. Мурашка. Сын).

Склаўся на аснове евангельскага тэксту пра фарысеяў: «Звязваюць нязручны для нашэння цяжар і ўскладваюць на плечы людзям, а самі не хочуць і пальцам зрушыць яго».

**І пернікам не заманіш** *каго куды. Недакладная паўкалька з рус. м.* (и калачом не заманишь). Нічым, ніякім чынам не ўгаворыш, не прывабіш каго-н. быць дзе-н. *А можа, і не маладая* [настаўніца прыехала]? *Маладых сюды і пернікам не заманіш* (С. Грахоўскі. Ранні снег).

Унутраная форма фразеалагізма выразная, звязаная з прыцягальнасцю ласункаў. Хоць у «Руска-беларускім слоўніку» (1953, 1982) рэкамендуюць пераклад: калачом не заманишь — *абаранкам не забавіш*, але маўленчая практыка замацавала іншы, больш экспрэсіўны выраз (*і пернікам не заманіш).* Не прыжыўся ў літаратурнай мове і сінанімічны выраз *і пірагом не заманіш*, занатаваны І. Насовічам.

**<І> печкі і лаўкі (печкілаўкі).** *Агульны для бел. і рус. м.* Ужыв. са значэннямі: (пры кіравальнай сувязі *каму)* 'хто-н. мае добры прытулак дзе-н.' і (пры кіравальнай сувязі *ў каго, з кім)* 'хто-н. блізка знаёмы з кім-н.'. *—Дома п'е?.. — Ого! Смалы ён умяне дома вып'е, а не гарэлкі! — зноў загарэлася Яніна. — У брацікa свайго, у Вацака. Яму там печкі і лаўкі* (А. Шашкоў. Спытай сваё

сэрца). *Тут Іра падумала, што калі б яна папрасіла бацьку, то, відаць, той не паскупіўся б. Купіў бы і туфлі, і боцікі… Грошы ў яго ёсць, і з гандлярамі ў яго печкілаўкі* (А. Цяжкі. Ахвяра).

Узнікненне фразеалагізма звязана з даўнейшым сялянскім бытам. Вялікая цагляная печ і шырокія лаўкі каля сцен — асноўныя «стрыжні» сялянскай хаты. Яны ж і сімвал гасціннасці: добрага чалавека і пакормяць усім, што ёсць у печы, і, калі ён замёрз ці вымак, пакладуць спаць на печы. Выраз фіксуецца ў працах І. І. Насовіча, Я. А. Ляцкага, М. Федароўскага.

**Іскра божая <*у каго, у кім*>.** *Запазыч. з руск. м.* (искра божья). Талент, прыродны дар, здольнасці. *Жывінкаў ім ёсць, іскру божую мае…* (М. Ракітны. Сын).

Лічаць, што выраз з’яўляецца недакладнай калькай з франц. м. (feu sacté, літаральна «свяшчэнны агонь») і ў творах XVIII–XIX стст. часцей ужываўся ў форме *искра божества.*

І след прастыў *каго, чый. Агульны для ўсходнесл. м.* Хто-н. бясследна знік, схаваўся. *Абурыўся карэспандэнт, кінуўся да фермы, а старшыні і след прастыў* (У. Кузьмянкоў. Ішла вясна). Ужыв. і ў форме *і след прапаў. Бацька і Яўхім прыедуць, а іх і след прапаў — шукай ветру ў полі!..* (І. Мележ. Подых навальніцы).

Абодва варыянты прыйшлі ў літаратурную мову з лексікону паляўнічых, для якіх след можа прапасці ці прастыць і ў прамым значэнні гэтых слоў (гл. *па гарачых слядах).*

**Ісці на ражон.** *Гл.* лезці (ісці) на ражон.

**Ісці (пайсці) ва-банк.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Дзейнічаць, рызыкуючы ўсім, што ёсць. *Я іду ва-банк — пан ці прапаў. Хачу рызыкаваць толькі пры той умове, што сапраўды прынясу карысць Радзіме і заслужу яе літасць* (І. Новікаў. Да світання блізка).

Тымі, хто ведае франц. м., выразна адчуваецца сэнсавая таўталагічнасць гэтага выразу. У фразеалагізме ёсць запазычанне з франц. м. *va banque*, што значыць ‘іду на банк’, ці, інакш, ‘гуляю на ўсе грошы, пастаўленыя на кон’. Запазычанне злілося ў мове карцёжнікаў у адно слова *ва-банк* і ўступіла ў сувязь з дзеясловам *ісці.* У такім выглядзе словазлучэнне, пераасэнсаваўшыся, перайшло ў літаратурны ўжытак.

**Ісці (пайсці) на вудачку** *чыю, каго. Агульны для ўсходнесл. м.* Даваць сябе падмануць. — *Хіцёр ён, — трасе галавою стары Сусла, — якая-такая цяпер навука?.. Бязбожніцтва пайшло, заліваюць кулі, а дурні на вудачку ідуць* (Я. Колас. Туды, на Нёман).

Узнік шляхам пераасэнсавання свабоднага словазлучэння, якое ў маўленні рыбакоў ужываецца з прамым значэннем слоў.

**Ісці (пайсці) па лініі найменшага супраціўлення.** *Відаць, паўкалька з англ. м.* (take the line of least resistance). Выбіраць

найбольш лёгкі спосаб дзеянняў, пазбягаючы перашкод. *Не справіўшыся з намечаным, адказныя работнікі пайшлі па лініі найменшага супраціўлення: афармілі ў лютым акт на спісанне* (Звязда. 9.09.1986).

Утвораны на аснове тэрміналагічнага словазлучэння, звязанага з фізічнай з'явай — выбіральным праходжаннем току па лініі з найменшым электрычным супраціўленнем.

**Ісці (пайсці) угору (угару).** *Агульны дляўсходнесл. м. (руск.* идти в гору, *укр.* іти в гору). Ужыв. са значэннямі 'дабівацца болын высокага становішча ў жыцці, грамадстве' і 'паспяхова развівацца, паляпшацца (пра справу, гаспадарку і пад.)'. *Пасля смерці бацькі Пайла абралі царкоўным папячыцелем у шчаткаўскім прыходзе. Прыход багаты. Павал адразу пачаў ісці ўгору…* (П. Галавач. Дзве сцежкі). *Ну, думаю, трымайся, Сямён, справы твае быццам пайшлі ўгару, не балбачы толькі* (В. Быкаў. Кар'ер).

Узнік у выніку пераасэнсавання свабоднага словазлучэння, у якім *угору* абазначае 'уверх, увысь'. Існуе таксама думка, што выраз паходзіць з маўлення карцежнікаў і звязаны з пашыранай у XVIII-XIX стст. картачнай гульнёй «горкай», у якой *ісці ў гару* абазначала 'выйграваць'. Параўн., аднак, існаванне ў руск. м. двух антанімічных фразеалагізмаў *идти в гору* і *идти под гору*, што адмаўляе іх этымалагічную сувязь з названай картачнай гульнёй.

**Ісці (пайсці) у Каносу.** *Пайкалька з франц.* (aller à Canossa) *ці італ.* (andare a Canossa) *м.* Уніжацца перад кім-н., каяцца, станавіцца пакорлівым, прызнаваць сябе пераможаным. *Што там шэпчуць, баючыся, скрытна зноў, пачуўшы крок галодных, босых? Маўчыце лепш! Пакіньце нас і спадчыну бацькоў, — за вамі мы не пойдзем у Каносу* (М. Танк. З паднятай галавой).

*Каноса* — замак у Паўночнай Італіі, у якім доўгі час жыў папа Грыгорый VII. Імкнучыся да сусветнага панавання, папа пракляў і адлучыў ад царквы германскага імператара Генрыха IV, калі той не захацеў падпарадкавацца папскай уладзе. Баючыся страціць прастол, зімой 1077 г. Генрых пехатой пайшоў у Каносу і тры дні прасіў у папы прабачэння.

**Іудаў (юдаў) пацалунак.** *Пайкалька з франц.* (baiser de Judas) *ці англ.* (a Judas kiss) *м.* Здрадніцкі ўчынак пад маскай добразычлівасці, дружбы. *Тысячы брацкіх магіл, сотні і сотні спаленых вёсак, сёл і гарадоў, да двух з паловай мільёнаў загубленых фашыстамі і іх наймітамі чалавечых жыццяў.. Вось жудасныя вынікі «гераізму» фашысцкіх паслугачоў, сапраўдныя вынікі іудавых пацалункаў…* (М. Лынькоў. Аб вылюдках).

Выток фразеалагізма — евангельская прытча (Лука, 22, 47) пра Юду Іскарыёта — аднаго з дванаццаці вучняў Ісуса Хрыста.

Юда прадаў свайго настаўніка за трыццаць срэбранікаў. Каб стражнікі ведалі, хто з дванаццаці Ісус і каго трэба схапіць, Юда падышоў і пацалаваў яго.

**І ў коле і ў мяле.** *Уласна бел.* У самых разнастайных жыццёвых сітуацыях (быць і пад.). *Чалавек гэты пабыў як кажуць, і ў коле і ў мяле, але пакуль што неўпадабаў сабе пэўнага прыстанішча* (І. Сіманоўскі. Развесяліліся бюракраты).

Утвораны па мадэлі тыпу *і там і сям, і ў хвост і ў грыву.* Структурная схема *і... і...* запоўнена цяпер ужо ўстарэлымі ці зніклымі словамі або іх асобнымі значэннямі. *Кола,* паводле «Слоўніка...» І. І. Насовіча, — ‘млынавое кола’, а *мяла* — ‘мялка, мяліца, на якой лён або пяньку мнуць’.

**І ў хвост і ў грыву.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Ужыв. са значэннямі: 1) вельмі моцна (біць, паганяць каго-н., пападаць каму-н.), 2) бязлітасна, непрымірыма (біць, лупіць, крыць і пад.). *А вунь і брат Міша ідзе. Награшыў я, госпадзі, будзе мне і ў хвост і ў грыву...* (Я. Брыль. Праведнікі і зладзеі). *А гнаць іх пачнём, тут ужо і будзеце не абараняцца, а наступаць, лупіць у хвост і ў грыву* (С. Грахоўскі. Рудабельская рэспубліка).

Узнік са свабоднага спалучэння слоў, якое першапачаткова ўжывалася, калі гаворка ішла пра каня.

**І швец (шавец) і жнец і на дудзе (у дуду) ігрэц.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Майстар ва ўсякай справе, здатны да ўсяго. *О, паляшук!.. На ўсе рукі здатны, ён табе і швец і жнец і на дудзе ігрэц* (У. Калеснік. Пасланец Праметэя). *Тарас быў і сталяр, і цясляр, і шавец і жнец і ў дуду ігрэц* (У. Караткевіч. Лісце каштанаў).

Асобныя кампаненты гэтага матываванага фразеалагізма патрабуюць каментарыяў. Як засведчана ў «Слоўніку беларускай мовы» І. І. Насовіча, *швец* — ‘шавец’, *ігрэц* — ‘ігрок, музыкант’; параўн. таксама ў гэтым жа слоўніку: *ні швец ні мнец ні ў дуду ігрэц.*

# К

**Каб і духу не было** *чыйго <дзе>. Агульны дляўсходнесл. м. (руск.* чтоб и духу не было*, укр.* щоб і духу не було). Выказванне катэгарычнага патрабавання, каб хто-н. тут жа знік і больш не паказваўся. — *Парабчука гэтага, тата, каб і духу не было,* — *закамандаваў Казік* (С. Грахоўскі. Рудабельская рэспубліка).

Тут *духу* першапачаткова значыла 'паху, які выдзяляецца ў чалавека з паверхні скуры'. Гэты кампанент нярэдка замяняецца ў маўленні іншымі — *паху, смуроду* або выступае ў спалучэнні з *паху*: «Ану, выкідвайцесе з вагона, каб і паху вашага тут не было!» (М. Лынькоў); «Забудзе пра гэтага галадранца. Заўтра ж турну, каб і смуроду не было» (С. Грахоўскі); «Веры трэба канечна выгнаць яе, гэтую кулацкую гідру, сказаць, каб яе духу-паху тут не было» (М. Зарэцкі). Параўн. ва ўкр. м.: *щоб і дух не пах (не смердів)* (чий де).

**Каб пуста было** *каму. Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* чтоб пусто было*, укр.* щоб пусто було). Выказванне злосці, нядобразычлівасці. *Бадай ты спух! Ото распуста! А каб табе было, гад, пуста! Няма ні сораму, нічога…* (Я. Колас. Новая зямля).

Мяркуюць, што напачатку гэта было пажаданне неўраджаю ці няўдалага палявання.

*Прыкідвацца, глядзець* казанскай сіратой. *Запазыч. з руск. м.* Пакрыўджаным, няшчасным (прыкідвацца). — *Не чуў я, каб хто мяне гукаў, дапытваўся — не патрэбен я нікому… — Во-ёй, не прыкідвайся казанскай сіратою…* (П. Місько. Мора Герадота).

Утварыўся на аснове фразеалагізма *казанская сірата* (гл.), замацаваўшыся ў сваіх семантычных сувязях са строга акрэсленымі дзеясловамі *прыкідвацца, глядзець*.

**Казанская сірата.** *Запазыч. з руск. м.* Той, хто прыкідваецца пакрыўджаным, няшчасным (з мэтай разжаліць каго-н.). *І ўспомніў Васька, як хадзіў ён учора з камандзірам роты і Насцяй па свой заробак да гаспадара. Зніціўся той, збедніўся, ну проста сірата казанская, якія ў яго грошы, калі вайна і разруха…* (М. Лынькоў. Маладосць).

Першапачаткова выкарыстоўваўся ў дачыненні да татарскіх князёў, якія пасля ўзяцця войскамі Івана Грознага ў 1552 г. сталіцы Казанскага царства стараліся прыстасавацца да новай улады, часам пераходзілі ў хрысціянства, слалі рускаму цару чалабітныя, скардзячыся на сваю долю і спадзеючыся на розныя ўступкі, патуранні.

**Казёл адпушчэння.** *Запазыч. з царк. — слав. м.* Чалавек, на якога звальваюць чужую віну, адказнасць за другіх. *Параіліся разумнікі дый вырашылі: «Ахвяруем. На тое ён і Казёл, каб быць казлом адпушчэння. Цяпер-то мы напэўна адкупімся»* (К. Крапіва. Ці была ў яго галава?).

У Бібліі (Левіт, 16, 21–22; 16, 9-10) расказваецца пра старажытнаяўрэйскі абрад «казлаадпушчэння»: адзін раз у год, у дзень адпушчэння грахоў, прыводзілі ў пэўнае месца казла, і на яго галаву першасвяшчэннік (вярхоўны жрэц) ускладваў абедзве рукі, што сімвалізавала перакладанне грахоў усяго народа на казла, якога пасля праганялі («адпускалі») у пустыню.

**Казка пра белага бычка.** *Запазыч. з руск. м.* Бясконцае паўтарэнне аднаго і таго з самага пачатку. — *А можа б, ты ўсё-ткі засталася? Небяспечна ж там дужа, чуеш?.. — Я ўжо казала, цётачка... Нашто нам паўтараць казку пра белага бычка?..* (І. Мележ. Мінскі напрамак).

Значэнне выразу склалася на аснове кароткай, але дакучлівай народнай казкі для дзяцей, калі тыя зноў і зноў прасілі расказаць яшчэ адну казку: «— Расказаць табе казку пра белага бычка? — Раскажы! — Ты раскажы, ды я раскажы, да чаго ў нас будзе і дакуль гэта будзе! Расказаць табе казку пра белага бычка?» і г. д.

**Каінава пячаць.** *Агульны для ўсходнесл. і польск.* (piętno kainowe) *м.* Абазначае ‘след злачыннасці’. *Каму патрэбна творчасць, на якой ляжыць каінава пячаць?* (К. Крапіва. З народам).

Склаўся на аснове біблейскага сюжэта (Быццё, 4) пра першае забойства на зямлі і кару за яго. Калі Каін, сын Адама і Евы, прызнаўся, што ў час ахвяравання забіў свайго брата Авеля, Бог пакараў забойцу: зрабіў на яго твары спецыяльны знак і загадаў быць вечным вандроўнікам.

**Каламуціць (муціць) ваду.** *Агульны для ўсходнесл. (руск.* мутить воду, *укр.* каламутити воду) *іпольск.* (mącić wodę) *м.* Ужыв. са значэннямі ‘свядома заблытваць якую-н. справу’ і ‘уносіць разлад, беспарадак у адносіны паміж кім-н.’. — *Усё на тое хіліцца, што немцы не аддадуць Саветам Бярэсця. — Як гэта не аддадуць?... Берасць савецкі! Разумееш ты ці не? Савецкі! І ты тут вады не муці!* (К. Каліна. Світанак). *Бабка твая ваду каламуціць!.. Ну і шкодная старая, ніяк ёй не дагадзіць!* (В. Іпатава. Зачараваная півоня).

Мяркуюць, што выраз утвораны на аснове фразеалагізма *лавіць рыбу (рыбку) у каламутнай вадзе* (гл.).

**Каланіца насіць** *каго, дзе, калі. Уласна бел.* Хто-н. недарэчы, не ў пару аказваецца, з’яўляецца дзе-н. «*Аэраплан! Аэраплан!*» —

*пракінулася па радах. Задраліся галовы. «У хлябу і то каланіца яго носіць», — прабурчаў нехта* (М. Гарэцкі. Ціхая плынь).

Склаўся шляхам мадэліравання — на ўзор выразаў *ліха носіць, чорт носіць, хвароба носіць* і пад. — з захаваннем структуры фразеалагізмаў-папярэднікаў і з заменай назоўнікавага кампанента іншым. *Каланіца* — калёсная мазь.

**Калі ласка.** *Агульны для бел. і ўкр. м.* Ужыв. як зварот для выражэння ветлівай просьбы, пабуджэння са значэннем ‘прашу вас’. *Можа, пяройдзем у той пакой, калі ласка, я вам яго анкету пакажу?* (Я. Брыль. Птушкі і гнёзды).

Утварыўся, відаць, у выніку скарачэння больш поўнай формы *калі твая (ваша) ласка будзе*. Параўн. у ананімнай паэме «Энеіда навыварат»: «Калі ўжо ласка твая будзе, вялі нам лазню пратапіць». У форме *калі ласка* выраз выкарыстоўваўся ў творах XIX ст. («Гутарка Данілы са Сцяпанам», п’еса В. Дуніна-Марцінкевіча «Пінская шляхта»).

**Каліф на час.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Чалавек, які займеў уладу на кароткі тэрмін. *На славу працуюць любімыя браты нашы — партызаны. Звярыны жах пасялілі яны ў тупыя чарапы нямецкіх каліфаў на час* (М. Лынькоў. Блізка вясна Беларусі).

Склаўся на аснове арабскай казкі «Сон наяву, ці Каліф на час». У ёй гаворыцца, як малады багдадзец Абу-Гасан паклікаў да сябе ў госці незнаёмца і расказаў яму пра сваю запаветную мару — стаць хоць на адзін дзень каліфам. Незнаёмец якраз і быў пераапрануты каліф — вярхоўны правіцель Багдада. Абу-Гасану далі снатворнага парашку, перанеслі ў палац і, калі прачнуўся, цэлы дзень ушаноўвалі як каліфа. А вечарам, зноў усыпіўшы, вярнулі дамоў.

Калі (як) рак (на гары) свісне. *Агульны для ўсходнесл. м.* Ніколі ці невядома калі (будзе, павінна адбыцца што-н.). — *Я магу кінуць піць. — Калі? Як рак на гары свісне. — Як ты загадаеш* (Л. Калодзежны. Аўсяны звон).

У аснове фразеалагізма — нерэальны вобраз як плён народнага гумару.

**Каломенская вярста.** *Запазыч.* з *руск. м.* Чалавек вельмі высокага росту. *Зверху раздаўся глухаваты голас: — Гэй, вярста каломенская, прыгніся, калі кацялок табе дарагі! Тут хутка прадзіравяць* (І. Новікаў. Ачышчэнне).

Склаўся на аснове параўнання высакарослага чалавека з вельмі высокімі верставымі слупамі, якія былі пастаўлены паміж Масквой і сялом Каломенскім, дзе знаходзілася летняя рэзідэнцыя цара Аляксея Міхайлавіча.

**Калос на гліняных нагах.** *Паўкалька з франц. м.* (colosse aux pieds d’argile). Што-н. знешне вялікаснае, але слабае, гатовае

разбурыцца. *Ніхто нават не падумае, што ўсё гэта — калос на гліняных нагах, які вось-вось зваліцца* (У. Караткевіч. Каласы пад сярпом тваім).

Склаўся на базе біблейскага аповеду (Данііл, 2, 31–36) пра вавілонскага цара Навуходаносара, якому прысніўся вялікі страшны ідал: галава яго «была з чыстага золата, грудзі і рукі з серабра, чэрава і клубы — медныя, галёнкі жалезныя, ногі часткова жалезныя, часткова гліняныя». «Камень адарваўся ад гары, ударыў у ідала, у жалезныя і гліняныя ногі яго — і разбіў іх». Паводле Бібліі, металічны ідал-велікан на гліняных нагах і яго лёс сімвалізавалі вавілонскае царства з незайздроснай будучыняй — разбурэннем, гібеллю ад персаў.

**Калоць вочы** *каму. Агульны для ўсходнесл. м.* Абазначае ‘быць непрыемным каму-н., выклікаць злосць’ і ‘моцна папікаць, сароміць каго-н.’. *Зразумей, Мікола, што наш дастатак коле людзям вочы, усе зайздросцяць, таму і плятуць на мяне розную недарэчнасць* (М. Машара. І прыйдзе час…). *Ніхто яму, Вадзіму, не будзе калоць вочы былымі памылкамі* (І. Шамякін. Атланты і карыятыды).

Выраз паходзіць з прыказкі *Праўда вочы коле,* у складзе якой абазначае ‘вельмі непрыемная, выклікае злосць, раздражняе’. Другое значэнне фразеалагізма таксама мае семантычную сувязь з прыказкай, толькі ўскосную.

**Калумбава яйка.** *Пайкалька з франц.* (l’oeuf de Colomb) *ці ням.* (das Ei des Kolumbus) *м.* Удалае рашэнне чаго-н., знойдзены выхад з цяжкага становішча. — *Па неправераных даных сёння ноччу забіта Настасся Вашчыла* [супрацоўніца нямецкай разведкі]. —*Гэта праўда?* — *Калумбава яйка… Нечаканы ўчынак шпега, якога ўчора Настасся Вашчыла на вуліцы стэкам спаласавала, выручыў нас, — тлумачыў Краеўскі. — Не трэба рук пэцкаць...* (І. Гурскі. Вецер веку).

Склаўся на аснове хадзячага аповеду пра Хрыстафора Калумба. Калі адзін з суразмоўнікаў іранічна заўважыў, што адкрыццё Амерыкі было няцяжкай справай, Калумб прапанаваў яму паставіць яйка на стале. Ніхто не мог гэтага зрабіць. Тады Калумб, разбіўшы яйка з тупога канца, паставіў яго старчма. Пры гэтым нібыта дадаў: «Так, гэта справа няцяжкая».

**Камандаваць парадам.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Распараджацца, верхаводзіць, быць завадатарам, аказваць уплыў на ход чаго-н. *Рабушка і Навучэнка пачалі пярэчыць, тады Саша растлумачыў: — Пакольку парадам камандую я, то слухайце мае загады! Пайшлі!* (І. Новікаў. Дарогі скрыжаваліся ў Мінску).

Узнік у выніку пераасэнсавання састаўнога тэрміна, які ўжываецца ў маўленні ваенных.

**Камар носа не падточыць (не падсуне).** *Агульны для ўсходнесл. м.* Нельга прыдрацца да чаго-н. *А хіба крытыкаваць цябе няма за што? Усё ў цябе так спраўненька, так добранька, што і камар носа не падточыць?* (М. Лобан. Гарадок Устронь).

Першапачаткова выраз выкарыстоўваўся, відаць, як ацэнка такой сталярнай або цяслярскай работы, пры якой паміж шчыльна падагнанымі дошкамі ці бярвёнамі нельга прасунуць нават камарынага носа.

**Камень за пазухай.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Скрытая, затоеная злосць, нядобры намер. *Без каменя за пазухай я падаю, равеснік, табе руку на дружбу — не адхіляй яе!* (Н. Гілевіч. Равесніку за акіянам).

Вытворны ад дзеяслоўнага фразеалагізма *насіць (трымаць, хаваць) камень за пазухай* ‘затойваць злосць на каго-н., быць гатовым зрабіць што-н. дрэннае каму-н.’. Адарваўшыся ад дзеяслоўнага выразу, яго фрагмент атрымаў прадметнае значэнне.

**Камень спатыкнення.** *Паўкалька з царк. — слав. м.* (камень преткновения). Значная перашкода, цяжкасць. *А. Бачыла, скажам, піша, што цяпер «сваім багаццем хваліцца ўсё тая ж зямля, якой цураліся тады». Пакуль што для многіх «каменем спатыкнення» з’яўляецца менавіта гэтае невырашальнае: тады і цяпер…* (М. Арочка. Зямля, асвечаная любоўю).

Выток фразеалагізма — Біблія (Ісаія, 8, 14), дзе першапачаткова спалучэнне мела канкрэтны сэнс, бо гаворка ішла пра пакладзены богам у Сіёне камень, аб які спатыкаліся няверныкі ці тыя, хто не скараўся перад строгімі законамі.

**Каменьчык (-і) у агарод** *чый. Агульны для ўсходнесл. м.* Іранічны, крыўдны намёк на што-н. *Роза зразумела, што крытыка яе работы з’яўляецца адначасна каменьчыкам у Юркаў агарод* (У. Калеснік. Пасланец Праметэя).

Склаўся на аснове фразеалагізма *кідаць каменьчыку агарод* чый, каго (гл.) у выніку ўсячэння дзеяслоўнага кампанента. Будучы «абломкам» дзеяслоўнага выразу, захаваў «долю» семантыкі ўсяго фразеалагізма, набыў катэгарыяльнае значэнне прадметнасці.

**Каменя на камені не пакінуць.** *Паўкалька з царк. — слав. м.* Ужыв. са значэннямі: 1) знішчыць ушчэнт, разбурыць да канца, 2) *ад каго, ад чаго*; бязлітасна раскрытыкаваць каго-, што-н. *Колькі разоў цябе нішчылі, Крычаў, не пакідалі на камені камень* (У. Дубоўка. Крычаўская спакуса). У *слоўных баталіях з хлопцамі Марыя любіла не пакінуць ад апанента каменя на камені* (У. Караткевіч. Нельга забыць).

Выраз шмат разоў сустракаецца ў евангельскіх тэкстах, у прыватнасці (Марк, 23, 2) там, дзе расказваецца, як Хрыстос прарочыць пагібель Іерусаліма: «Дакладна кажу вам; не пакінецца

тут каменя на камені („не имать остати здесь камень на камени“); усё будзе разбурана». Фразеалагізм выкарыстоўваўся ў тэкстах старажытнай беларускай пісьменнасці, напрыклад у «Аповесці аб Трыстане» (каля 1580 г.): «…иже там камень на камени не зостал».

**Камяні кідаюцца** *ў каго. Уласна бел.* Хто-н. асуджаецца, абвінавачваецца, ганьбіцца. *І зноў непрыемна чытаць некаторыя ўспаміны, дзе кідаюцца камяні ў яе* [жонку М. Стральцова] (Р. Барадулін. Конь гуляў па волі…).

Выраз, структурна арганізаваны як двухсастаўны сказ, склаўся на аснове суадноснага дзеяслоўнага *кідаць камень* (у каго), які абазначае ‘асуджаць, абвінавачваць, ганьбіць каго-н.’ (гл.).

**Кануць у Лету.** *Запазыч. з руск. м.* Быць забытым, назаўсёды знікнуць. *Мае дарагія сябры, сёстры і браццяя, — мінуць, пройдуць, у Лету кануць стагоддзі, зменяцца пакаленні…* (А. Карпюк. Вершалінскі рай).

Выраз узнік, паводле М. М. Шанскага, у пачатку XIX ст. у паэтычных творах на аснове гутарковага *канул в воду*; апошні кампанент быў заменены іншым словам — вобразам з грэчаскай міфалогіі. *Лета* — рака забыцця ў падземным царстве, з якой душы тых, хто трапляў на той свет, пілі ваду; адзін глыток вады прымушаў іх забываць зямлю і сваё былое жыццё на ёй.

**Канцы з канцамі не зводзяцца (не сыходзяцца)** *у каго, дзе. Агульны для ўсходнесл. м.* Ужыв. са значэннямі ‘не хапае чаго-н. для задавальнення жыццёвых патрэб на ўвесь вызначаны перыяд’ і ‘няма ўзгодненасці, адпаведнасці паміж рознымі бакамі чаго-н. (у развaжаннях, доказах і пад.)’. *Зажынкі заўсёды ўрачыстая падзея, свята. Павялося гэта здавён-даўна, з тых часоў, калі ў многіх хатах канцы не зводзіліся з канцамі. Не хапала хлеба, каб дацягнуць да новага ўраджаю* (І. Дуброўскі. Буйным крокам). *Не, хлопча, канцы з канцамі ў цябе пакуль што не сыходзяцца. Відаць, ты яшчэ не разабраўся толкам у гэтых абозах і авангардах…* (М. Ткачоў. Пошукі скарбаў).

Фразеалагізм, структурна арганізаваны як двухсастаўны сказ, склаўся на аснове суадноснага дзеяслоўнага *зводзіць канцы з канцамі* (гл.).

**Канцы ў ваду.** *Гл.* <і> канцы ў ваду.

**Капанне на мазгі.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Пастаяннае ўздзеянне на каго-н., бесперапыннае настаўленне, павучанне каго-н. *У такіх выпадках — Ліза ведала з шматгадовага вопыту — лабавая атака не падыходзіць. Трэба іншы манеўр — спакой, ласка, зацяжная аблога і паступовае «капанне на мазгі»* (І. Шамякін. Атланты і карыятыды).

Назоўнікавы фразеалагізм, вытворны ад суадноснага дзеяслоўнага *капаць на мазгі* каму ‘пастаянна гаварыць адно і тое ж, уздзейнічаючы на каго-н., павучаючы, настаўляючы каго-н.’.

**Капаць яму** *каму, пад каго, для каго. Агульны для ўсходнесл. м.* Рабіць зло, шкодзіць, рыхтаваць вялікую непрыемнасць каму-н. — *Ты сам сабе яму капаеш... — Ты мне капаеш яму! — перапыніў Аўгіню Васіль* (Я. Колас. Дрыгва).

Паходзіць з прыказкі *Не капай другому яму, сам увалішся.* Фразеалагізм захаваў той самы сэнс, што і ў прыказцы, і здольнасць кіраваць давальным склонам, але развіў і іншыя кіравальныя сувязі *(пад каго, для каго).*

**Капля ў моры <*чаго*>.** *Гл.* кропля (капля) у моры <*чаго*>.

**Капну□□ць глыбей.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Больш грунтоўна вывучыць, высветліць што-н., пранікнуць у сутнасць чаго-н. *У 1949 годзе мяне вырашылі перавесці на новы факультэт. Я адразу ўцяміў, што там прападу: капнуць глыбей і высветляць, што сын расстрэлянага шпіёна пралез да сакрэтаў* (А. Лукашук. Здзек).

Выраз з агульным аналітычным значэннем. Абодва кампаненты сэнсава суадносяцца з перыферыйнымі значэннямі адпаведных слоў: *капнуць* — са значэннем ’унікнуць у што-н., дабрацца да чаго-н.’, *глыбей* — ‘больш змястоўна, больш грунтоўна’.

**Капціць свет.** *Уласна бел.* Жыць без пэўнай мэты, без справы, без карысці для іншых. — *Што, адны жывяце? — Адны. Во з дзедам так і капцім свет, — тужліва адказала кабета* (В. Быкаў. Сотнікаў).

Узнік, відаць, на аснове фразеалагізма *неба капціць* (гл.) і ўжываецца з тоесным значэннем: *не капціў дарэмна свету* (К. Крапіва), *стварэнне гэта свет копціць* (І. Козел).

**Капыліць (закапыліць) губы (-у).** *Агульны для бел. і ўкр. м.* Крывіцца, выражаючы незадаволенасць, злосць. *Скіба гумару ў сітуацыі не зразумеў, ён адно чмыхнуў і, як кажуць, закапыліў губу* (А. Кажадуб. Высока сонейка, высока).

Фразеалагізм жэставага паходжання: унутраны стан чалавека называецца па знешнім выразніку гэтага стану.

**Карміць абяцанкамі** *каго. Пайкалька з руск. м.* (кормить обещаниями). Абяцаць зрабіць што-н. у хуткім часе і не выконваць абяцанага. *Цётка ведала дабрату свайго пляменнічка: толькі абяцанкамі корміць* (М. Лобан. На парозе будучыні).

Утварыўся ў руск. м. на базе фразеалагізма *кормить завтраками*, у апошнім кампаненце якога каламбурна сутыкаюцца два значэнні: ‘снеданне’ і ‘абяцанне зрабіць што-н. заўтра’.

**Карты зблытаны** *чые, каго. Гл.* <усе> карты зблытаны (змешаны) *чые, каго.*

**Карты раскрыты** *чые. Гл.* <усе> карты раскрыты *чые.*

**Карты ў рукі *каму.*** *Гл.* <і> карты ў рукі *каму.*

**Карычневая чума.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Фашызм. *Час яшчэ не сцёр ні з памяці людской, ні з пакутнай зямлі слядоў, якія пакінулі на ёй нечуваныя трагедыі, страты і ахвяры, што прынесла чалавецтву карычневая чума* (В. Вітка. Даследуецца чалавек).

Узнікненне фразеалагізма абумоўлена тым, што ў Германіі фашысцкія малойчыкі насілі карычневыя кашулі.

**Касіць дугой.** *Уласна бел.* Не назапасіўшы корму для жывёлы, выпрошваць, купляць, пазычаць яго. *Хай здаваў бы* [скаціну] *мой, у каго кармоў няма. Напрыклад, Сурміла. Ён ужо з месяц як косіць дугою* (В. Блакіт. Шануй імя сваё).

Выраз каламбурнага характару. Утвораны на аснове свабоднага словазлучэння *касіць касой*, у якім назоўнікавы кампанент заменены словам *дугой.* Апошняе сімвалізуе запрэжанага каня, на якім едуць здабываць сена.

**Касцьмі класціся.** *Уласна бел.* Прыкладаць вялікія намаганні дабіцца чаго-н. *Дзесяткі гадоў мы змагаліся за родную мову — некаторыя касцьмі клаліся ў тым змаганні (як Уладзімір Дамашэвіч, напрыклад), закідвалі пісьмамі ЦК КПСС, Гарбачова* (В. Быкаў. Выступленне на VII з'ездзе СП БССР).

Склаўся на аснове фразеалагізма *легчы касцьмі*, вядомага яшчэ ў старажытнасці. Паводле летапісу, князь Святаслаў перад бітвай з грэкамі ў 970 г. сказаў воінам: «Не посрамим земли Русския, но ляжем костьми ту; мертвые бо срама не имут».

**Касы (косы) сажань у плячах.** *Паўкалька з руск. м.* (косая сажень в плечах). Рослы, плячысты, магутнага складу (пра мужчыну). *Марыя Міхайлаўна ўважліва агледзела рослага праваднікa. Касы сажаньу плячах. Волат* (У. Мяжэвіч. Яблынька для доктара).

Вобразная аснова гэтага фразеалагізма грунтуецца на гіпербале. Даўней, да ўвядзення метрычнай сістэмы, у Расіі і Беларусі выкарыстоўваўся сажань — мера даўжыні, роўная 3 аршынам, або 2,134 м. Апрача гэтай меры, быў яшчэ махавы сажань, роўны двум з палавінай аршынам (па даўжыні адлегласці разведзеных у бакі рук), і касы сажань, які раўняўся адлегласці ад вялікага пальца правай нагі да канца сярэдняга пальца паднятай угору левай рукі.

**Ката ў мяшку купляць.** *Калька з франц. м.* (acheter chat en poche). Выраз вядомы амаль усім славянскім народам, а таксама немцам і абазначае 'набываць што-н. завочна, нічога не ведаючы пра якасці набытку'. — *Ну што, Іван, пераапранайся і прымай*

*гаспадарку. — Яшчэ паглядзім, Віктар, у якім яна ў цябе стане. Сам ведаеш, ката ў мяшку не купляюць* (ЛіМ. 18.04.1975).

Фразеалагізм усведамляецца як жывая метафара.

**Кату па пяту.** *Уласна бел.* Вельмі малы, невысокі, нізкарослы. *Я ж і кажу: колькі таго старшыні — во, на адзін корх, кату па пяту, а глядзі ж ты, як гайкі пачаў закручваць* (П. Місько. За лужком, за рэчкаю).

Вобразнасць гэтага фразеалагізма, кампаненты якога звязаны рыфмай, заснаваная на літоце (знарочыстым прымяншэнні).

**Кацялок варыць** *у каго. Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* котелок варит, *укр.* казанок варить). Хто-н. разумны, кемлівы, знаходлівы. — *Кацялок у цябе варыць, — пастукаў ён мяне па лбе* (А. Якімовіч. Цяжкі год).

Прастамоўны выраз, утвораны на аснове сінанімічнага *галава варыць* у каго (гл.). Экспрэсіўнасць гэтага ўтварэння параўнальна з яго прататыпам значна павялічваецца, бо кампанент *кацялок*, прадметна-семантычна ўзаемазвязаны з кампанентам *варыць,* выклікае асацыяцыі са значэннем ‘невялікая пасудзіна, у якой вараць стразу’. Параўн. урывак з сатырычнага верша К. Крапівы «Цяп!», дзе гаворыцца пра «служку з гарснаба», які забараніў прадаваць торф на рынку: «Гнулі ж людзі свой горб, дык прадаць гэты торф мараць. Мо б хто з воз прывалок падагрэць „кацялок“, чый не варыць. Ды хутчэй як мага! Хоць бы гэтаму „Г“, што з гарснаба, бо наконт „кацялка“ і ў яго, дзівака, слаба».

**Каша заварылася.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Распачалася складаная, непрыемная справа. *Уся гэта каша заварылася пасля таго, як сюды прыязджаў стары скарбовы каморнік са сваімі інструментамі* (Я. Колас. Нёманаў дар).

Выраз узнік на аснове дзеяслоўнага фразеалагізма *заварыць кашу* (гл.).

**Каша ў галаве** *ў каго. Магчыма, недакладная калька з ням. м.* (Gr□□ützkopf ‘дурніла’; складаны назоўнік, у якім *Grütz* — каша, *Kopf* — галава). Хто-н. блытана разважае, не мае яснасці ў разуменні чаго-н. — *Разумнікі любяць вучыць, кіраваць, камандаваць. — Ну-ну… Каша ў цябе ў галаве* (Л. Дайнека. Запомнім сябе маладымі).

Выраз успрымаецца як матываваны, іранічна-гіпербалізаванага ўтварэння.

**Кашы не зварыш** *з кім. Агульны для ўсходнесл. м.* Не дамовішся, не дойдзеш да згоды. *Даставалася Лявону, і Пятрусю, і Сымону за чартоўскі чмут, туман, бо яны ўсе — канаводы, звадыяшы, і не зварыш з імі кашы* (Я. Колас. Ігрышча).

Першапачатковая форма фразеалагізма, у якой ён зрэдку ўжываецца і цяпер, — *піва не зварыш*: «Ага, смяешся! значыць,

люб. Бадай, з табою зварым піва» (К. Крапіва). Выраз паходзіць са свабоднага словазлучэння, у якім *піва* абазначала ‘пітво’ (гл. *наварыць піва).* Даўней пітво («піва») варылі ў складчыну і на свята разам пілі яго. Пра незгаворлівага, непамяркоўнага чалавека сталі казаць, што з ім піва не зварыш. З забыццём унутранай формы фразеалагізма кампанент *піва* быў заменены словам *каша*, відаць, пад уплывам іншых выразаў з кампанентам *каша (заварыць кашу, каша заварваецца* і інш.).

**Квадратура круга.** *Паўкалька з ням.* (die Quadratur des Kreises) *або франц.* (quadratura du cercle) *ці лац.* (quadratura circuli) *м.* Невырашальная задача. [Паэт] *удала асвоіў новую паэтычную прастору нашай рэчаіснасці. Прастору; што не паддаецца вымярэнню нават квадратурай круга* (Маладосць. 2001. № 9).

Узнік у выніку пераасэнсавання матэматычнага састаўнога тэрміна, вядомага яшчэ ў старажытнасці як задача: пабудаваць пры дапамозе лінейкі і цыркуля квадрат, роўнавялікі зададзенаму кругу. Спробы рашыць гэту задачу не мелі поспеху, пакуль у 1882 г. не было канчаткова даказана, што гэта ніяк немагчыма.

**Кветкі з чужых палёў.** *Уласна бел.* Запазычаныя з іншых прац матывы, вобразы, думкі і іх выражэнне. *Ні ў адным з іх* [вершаў М. Танка на запазычаныя матывы] *мы не заўважаем залежнасці, наадварот — тэма, матыў змяняюць самую сваю прыроду, урастаюць у нашу глебу не кветкамі з чужых палёў, а жывымі кветкамі нашай роднай паэзіі* (В. Вітка. Далягляды слова).

Паходзіць ад назвы зборніка (1928) Ю. Гаўрука, куды ўвайшлі пераклады з твораў англійскай, нямецкай, французскай, італьянскай і польскай паэзіі. Намёк на перакладчыка і яго зборнік знаходзім у паэме К Крапівы «Хвядос — Чырвоны нос»: «Пра яго яшчэ трапалі, што ён жыў „з чужых палёў“, а сваё было ў папары».

**Кесарава кесараві.** *Запазыч. з царк. — слав. м.* Кожнаму належнае, тое, чаго заслужыў хто-н. *Я хацеў бы прасіць вас, калега, пазнаёміць мяне з вашай грамадою, бо трэба, як кажуць, аддаць кесарава кесараві* (Я. Колас. На ростанях).

Паводле Евангелля (Матфей, 22,15–21), пасланцы фарысеяў, праціўнікаў Ісуса, правакацыйна спыталіся ў яго пры натоўпе, ці дазваляе хрысціянская рэлігія плаціць падаткі кесару — рымскаму імператару. У Іудзеі, тады калоніі Рыма, ужываўся дынарый з адбіткам на ім кесара. Паказаўшы на гэты адбітак і надпіс на манеце, Ісус сказаў: «Аддавайце кесарава кесараві, а Божае Богаві».

**Ківаць на Пятра.** *Запазыч. з руск. м.,* крылаты выраз з байкі І. А. Крылова «Люстэрка і Малпа», у маралі якой гаворыцца (пераклад М. Клімковіча):

Што Клімыч рукі грэць умее, — людзі знаюць;

Пра хабар Клімычу чытаюць,
А ён украдкаю ківае на Пятра.

Выраз абазначае ‘звальваць віну на іншага’. *Ім добра гаварыць, таварыш Варонін, калі ў іх станцыя пад бокам!.. А табе... Што? Ды хто з вамі тыкаецца? Гэтая сам сабе... Я не ківаю на Пятра, я толькі гавару, што імы неў бога цялятка ўкралі...* (Я. Брыль. Апошняя сустрэча). На аснове гэтага выразу развілася прыказка *Іван ківае на Пятра* са значэннем ‘адзін звальвае віну на другога’: «А там адмаўляюцца: маўляў, да нас гэты бальшак не мае ніякага дачынення. Райвыканком таксама захоўвае поўнае маўчанне. Вось і атрымліваецца, што Іван ківае на Пятра, а дарога як ляжала ў калдобінах, так і ляжыць» (Звязда).

**Кідацца словамі.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* бросаться словами, *укр.* кидатися словами). Безадказна, неабдумана гаварыць што-н. *Я, таварыш Варонін, словамі не кідаюся... І вы на мяне, калі ласка...* (Я. Брыль. Апошняя сустрэча).

Выраз з агульным аналітычным значэннем. Абодва кампаненты — сэнсаўтваральныя: *кідацца* суадносіцца з пераносным значэннем ‘не даражыць кім-, чым-н.’ *(кідацца такімі сябрамі, кідацца грашамі)*, а *слова* — з вытворным значэннем ‘фраза, выказванне’ *(зрэдку перакідваліся словам).*

**Кідаць (кінуць) камень (каменьчык, каменьчыкі) у агарод** *чый, каго. Калька з франц. м.* (jeter des pierres dans le jardin de qn). Рабіць неадабральны намёк у чый-н. адрас. *Я ведаю, Стаўроў ты маеш права кінуць камень у мой агарод за мінулае. Не чапаючы Марыі, я скажу: я сапраўды апусціўся ў той час* (У. Караткевіч. Нельга забыць).

Узнік у выніку пераасэнсавання свабоднага словазлучэння, звязанага са зласлівым звычаем кідаць у агарод свайго ворага каменне, каб зрабіць зямлю нязручнай для апрацоўкі.

**Кідаць (кінуць) пальчатку** *каму, чаму. Калька з франц. м.* (jeter le gant). Уступаць у барацьбу з кім-, чым-н., рабіць рашучы выклік каму-, чаму-н. *Чаго гэта Малец ад мяне хоча? Будзьце сведкамі, што яшчэ адна абраза — і я кідаю яму пальчатку* (У. Дамашэвіч. Студэнты апошняга курса).

Утвораны ў выніку пераасэнсавання свабоднага словазлучэння, звязанага з сярэдневяковым заходнееўрапейскім звычаем. Сеньёр, устанаўліваючы васальную залежнасць рыцара, уручаў яму пальчатку. Калі васал адмаўляўся служыць сеньёру, то кідаў яму пальчатку. У далейшым звычай распаўсюдзіўся і сярод рыцараў. Выклікаючы праціўніка на дуэль, рыцар кідаў перад ім сваю пальчатку. Калі праціўнік паднімаў яе, то гэта азначала, што выклік прыняты.

**Кідаць (кінуць) у твар** *каму, каго што. Калька з франц. м.* (jeter a□□ la face de qn). Гаварыць рэзка і адкрыта, не ўтойваючы. *На канцы размовы, прыціскаючы на кожным слове, кінуў у твар дачцэ: — Калі толькі праўду мелюць, дык глядзі, каб я больш пра гэта не чуў і табе не казаў* (Р. Мурашка. Сын).

На аснове скалькаванага выразу развіўся варыянт *кідаць (кінуць) у вочы* каму, каго што: *Моладзь выбягала наперад і ў вочы паліцыянтаў кідала гэтыя воклічы* (Ц. Гартны. Сокі цаліны).

**Кідаць (кінуць) якар** *дзе. Агульны для ўсходнесл. м.* Спыняцца, уладкоўвацца дзе-н. на пастаяннае жыхарства. *Са мною было так: дзе служыў, там і кінуў якар, дадому не паехаў* (М. Кусянкоў. Жар пад прыскам).

Утварыўся ў выніку пераасэнсавання свабоднага словазлучэння, якое ўжываецца ў маўленні маракоў. Параўн.: «Адзін раз летам у бухце кідаў якар цеплаход» (А. Крыга).

**Кідаць цень** *на каго, на што. Калька з франц. м.* (jeter une ombre). Ужыв. з двума значэннямі: ‘азмрочваць што-н.’ і ‘чарніць, пляміць каго-н. ці што-н.’. *Непрыемна зрабілася ад думкі, што Поля шкадуе яго… Такое шкадаванне як бы кідала цень на іх дружбу, як бы прыніжала яе* (І. Шамякін. Атланты і карыятыды); *Чым можна будзе, памагу. Але кожная сустрэча можа кінуць цень на ваша добрае імя. Гэта ж вёска…* (С. Грахоўскі. Ранні снег).

Гэтыя значэнні развіліся ў выніку двухразовай метафарызацыі зыходнага значэння, уласцівага адпаведнаму свабоднаму словазлучэнню. У вобразнай аснове фразеалагізма выразны намёк: цень засланяе прадметы ад святла, зацямняе іх. Параўн.: «Самая доўгая галіна кідала цень на падаконнік» (У. Рубанаў).

**Кінуць камень** у *каго. Паўкалька з царк. — слав. м.* (верзити камень). Асудзіць, ачарніць, абвінаваціць каго-н. *Дзіця будзе мець хлеб, вопратку і калі вырасце, то на свой розум хай робіць, як хоча. Можа, ён захоча кінуцьу нас камень… І тады хай яго судзіць бог і добрыя людзі* (Э. Самуйлёнак. Будучыня).

Узнікненне фразеалагізма звязана са звычаем караць смерцю, «забіваючы камянямі», які быў у старажытнай Іудзеі. Выраз непасрэдна паходзіць з евангельскай прытчы (Іаан, 8, 77). Аднойчы кніжнікі і фарысеі прывялі Ісусу Хрысту на расправу жанчыну, якую абвінавачвалі ў распусце, але «ён нават галавы не падняў на іх… Толькі сказаў: „Каго вы, людзі, судзіце?! Ану, кіньце ў яе камень той, хто без граху!“ І ніхто… не кінуў» (А. Карпюк). У помніках старажытнай беларускай пісьменнасці яшчэ адчуваецца жывая сувязь фразеалагізма з крыніцай яго ўзнікнення; напрыклад, у «Гістарычна-палемічным даследаванні пра пачатак і распаўсюджанне Уніі ў Літве і Заходняй Русі…» (1600–1605): «А тамъ же отъ местъ разные на нихъ скарги чинено до митрополита,

который бы моглъ першый камень кинути, по евангелскому слову».

**Кінуць камень у агарод** *чый, каго. Гл.* кідаць (кінуць) камень у агарод *чый, каго.*

**Кінуць косць** *каму. Запазыч. з руск. м.* Даць зачэпку для спрэчак, сваркі. *Кінуў людзям косць, а сам у кусты. Так выходзіць?* (К. Крапіва. Брама неўміручасці).

Выраз паходзіць з байкі І. А. Крылова «Сабачая дружба», дзе спачатку выкарыстаны як пераменнае, свабоднае словазлучэнне, а затым, у маралі, з метафарычным сэнсам. У байцы гаворыцца, як Палкан і Барбос кляліся адзін аднаму ў вечнай дружбе (пераклад К. Крапівы):

Прэч сваркі, зайздрасць, злосць!
Тут повар на бяду ім з кухні кінуў косць.
Вось да яе сябры наўзахваткі імчацца, —
Ім не наўме дружыць,
Давай Пілад з Арэстам загрызацца,
Аж толькі шмоцце з іх ляціць:
Іх ледзьве разлілі вадою.
Свет поўны дружбаю такою.
Цяпер у дружбакоў малая ёй цана
І падыход амаль што ў іх аднакі:
Паслухаць, дык душа, здаецца, ў іх адна,
А кінь ім толькі косць, дык што твае сабакі!

**Кінуць пальчатку** *каму, чаму. Гл.* кідаць (кінуць) пальчатку *каму, чаму.*

**Кінуць у вочы** *каму, каго што. Гл.* кідаць (кінуць) у твар *каму; каго што.*

**Кінуць у твар** *каму, каго што. Гл.* кідаць (кінуць) у твар *каму, каго што.*

**Кінуць якар** *дзе. Гл.* кідаць (кінуць) якар *дзе.*

**Кісларод перакрыты** *каму, чаму. Агульны для бел. і руск. м.* Створаны неспрыяльныя ўмовы для чыёй-н. дзейнасці. *Ад абразы, паклёпаў балюча ўздымацца, перакрыты надоўга калі кісларод* (Нар. воля. 4.04.1997).

Структурна арганізаваны як двухсастаўны сказ, фразеалагізм утварыўся на аснове суадноснага дзеяслоўнага *перакрыць кісларод* каму, чаму (гл.).

**Кітайская грамата.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Недаступнае для разумення, тое, у чым цяжка разабрацца. *У яе прыстойнае вымаўленне, учэпістая памяць. Запомніла шмат слоў і зусім вольна адчувае сябе на старонцы, якая яшчэ ўчора была кітайскай граматай* (І. Навуменка. Замецъ жаўталісця).

Метафарычнае значэнне, якое цяпер мае гэты выраз, узнікла на аснове канкрэтнага. Кітайская грамата (пісьмо) цяжкая для авалодання ёю. У Кітаі карыстаюцца не гукавым пісьмом, а іерогліфамі, кожны з якіх абазначае пэўнае слова. Такіх графічных знакаў ёсць каля 60 тысяч, з іх 6–7 тысяч найбольш ужывальныя, без ведання якіх нельга прачытаць газету, часопіс, папулярную літаратуру. Многія іерогліфы вельмі складаныя.

**Кітайская сцяна.** *Агульны дляўсходнесл. м.* Ужыв. са значэннямі: 1) неадольная перашкода; поўная ізаляванасць ад каго-, чаго-н., 2) *чаго,* сур'ёзная перашкода ў чым-н. *Добра паказана* [у аповесці А. Мальдзіса] *таксама, што ў гістарычным плане аніякай «кітайскай сцяны» не было паміж беларускімі і літоўскімі вёскамі ў межах адных і тых самых паветаў і валасцей Беларусі і Літвы* (ЛіМ. 14.12.1984). *Ідэя наша — наша сіла... Каб толькі не расла неразумення наўсцяж кітайская сцяна* (М. Лужанін. Як нараджаўся новы свет).

Узнік на базе тэрміналагічнага словазлучэння. Вялікай кітайскай сцяной называюць крапасную сцяну ў Паўночным Кітаі, якая будавалася ў IV–III стст. да н. э. і часткова захавалася да нашых дзён. Зробленая з каменных пліт, цэглы і зямлі, даўжынёй да пяці тысяч кіламетраў, пры шырыні да шасці і вышыні да дзесяці метраў, яна прызначалася для аховы ад набегу вандроўных плямёнаў. Гэта была сур'ёзная перашкода для ворагаў.

**Класці (пакласці, палажыць) пад сукно** *што. Агульны для ўсходнесл. м.* Адкладваць рашэнне чаго-н. (справы, просьбы, заявы), пакідаць без увагі, без руху. *[Глуздакоў:] У нас ёсць пісьмо з вобласці аб перагібах Буйкевіча? [Цесакоў:] Першы раз чую. [Лявон: ] Няўжо і там пад сукно палажылі?* (А. Макаёнак. Лявоніха на арбіце).

Узнікненне фразеалагізма звязана з традыцыямі даўнейшай судовай практыкі, калі тыя ці іншыя заявы, прашэнні знарок адкладваліся на доўгі час пад сукно, якім засцілаўся службовы стол чыноўніка.

**Класці (пакласці, скласці) на алтар** *чаго, чый што. Блізкі па форме адпаведнік ёсць у розных мовах: руск.* (приносить на алтарь *чего), укр.* (приносити (віддавати, складати) на вівтар (алтар) *чого, чий што), польск. (złożyć* na ołtarz *czego co) і інш.* Аддаваць што-н. у імя чагосьці высокага, дарагога і пад. *Мусіць, у гісторыі не было іншага чалавека, які б паклаў на алтар беларускага асветніцтва столькі ўласных сродкаў, як Магдаліна Радзівіл* (Настаўн. газ. 26.01.2002**).**

Узнік у выніку пераасэнсавання рэлігійнага тэрміналагічнага словазлучэння, дзе алтаром называецца месца, на якое ўскладаліся ахвярапрынашэнні і перад якім адпраўляліся культавыя абрады.

**Класці (складваць) галаву** *за каго, за што, дзе*; скласці (зложыць, пакласці, палажыць) галаву *за каго, за што, дзе. Агульны для ўсходнесл. і польск.* (złożyć głowę) *м.* Гінуць у баі, ахвяроўваць сабой. — *Дзе ж ваш Анатоль цяпер? — Жывога няма! Каб на вайне галавы не склаў, дык абазваўся б дагэтуль* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне).

Выраз з рознымі варыянтамі дзеяслоўнага кампанента сустракаецца ў старажытных помніках, у тым ліку ў «Слове аб палку Ігаравым». Узнік, хутчэй за ўсё, у вайсковым асяроддзі, у баявой практыцы. Кампанент *галава* выступае як сімвал жыцця.

**Класціся на алтар** *чаго, чаму. Блізкі па форме адпаведнік, відаць, ёсць у іншых суседніх мовах, хоць у слоўніках і не фіксуецца.* Аддавацца чаму-н. у імя чагосьці высокага, дарагога і пад. *Ды што змагацца з неспазнаным? На алтар яму кладзецца творчасць — ахвярапрынашэнне, калі ахвярнікам робіцца мальберт, аркуш паперы, сцэна, ахвярай — талент і дух* (В. Куртаніч. Майстра практычных дыскусій).

Утварыўся на аснове суадноснага фразеалагізма *класці на алтар* чаго, чый што (гл.).

**Клюнуць на вудачку** *чыю, каго, чаго, якую. Агульны для ўсходнесл. м.* Ужыв. са значэннямі ‘паддацца на падман’ і ‘аказацца пад уздзеяннем чаго-н.’. *Толькі свіснулі* — і *ты прыбег. Можна павіншаваць мяне* — я *выйграў пары. Я быў упэўнены, што ты клюнеш на гэтую вудачку* (Л. Дайнека. Запомнім сябе маладымі). *Пальчык, як маленькі, клюнуў на вудачку свае ўласнай фантазіі і нейкага хваравітага ўяўлення* (У. Дамашэвіч. *Я* шукаю бацьку).

Узнік у выніку метафарызацыі свабоднага словазлучэння, якое ў маўленні рыбакоў ужываецца з прамым значэннем слоў.

**Кляваць носам.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* клевать носом, *укр.* клювати носом). Драмаць седзячы ці стоячы. *Паўлік так навеславаўся, што заснуў у бацькавай лодцы. Канашэвіч таксама клюе носам* (Г. Пашкоў. Палескія вандроўнікі).

Склаўся праз супастаўленне чалавека, які то апускае, то падымае галаву, калі дрэмле седзячы ці стоячы, — з птушкамі, калі яны клююць ежу дзюбай.

**Кожны сустрэчны.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* каждый встречный, *укр.* кожний стрічний). Любы, без разбору чалавек. *Нярэдка ў жыцці наглядаецца, што двудушнік, пустазвон кожнага сустрэчнага надзяляе такімі ж рысамі характару, якімі валодае ён сам* (Р. Семашкевіч. Бацька ў калаўроце).

Утвораны на аснове фразеалагізма *першы сустрэчны* (гл.) — калькі з франц. м.

**Колькі лет колькі зім!** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* сколько лет сколько зим!*;укр.* скільки літ скільки зим!). Як даўно не бачыліся! Вокліч пры сустрэчы з кім-н., каго даўно не бачыў, з кім даўно не сустракаўся. *Церах пазнаў Васіля адразу. Растапырыўшы рукі, стаў на дарозе. — Іванавіч! Колькі лет колькі зім!..* (І. Навуменка. Срэбныя імхі).

Узнік у выніку скарачэння выразу *колькі лет колькі зім не бачыліся! Лет* — устарэлая форма род. скл. мн. л. ад *лето.*

**Конь божы.** *Уласна бел. (параўн. у польск. м.:* koń Рапа Jezusa) Ужыв. як эўфемізм, як своеасаблівы стылістычны сінонім да слова *асёл* са значэннем 'тупы, неразумны чалавек'. —*Храбры круль Ян Трэці Сабескі сабраў сваё гераічнае войска і 12 верасня... — Матка боская! — зноў спыняе яго панна Рузя. — Ну, сабраў, ну, прыйшоў, ну, разбіў!.. Конь ты божы! Ды гавары ты, нарэшце, сваімі словамі!* (Я. Брыль. Сірочы хлеб).

Паводле Евангелля, Ісус Хрыстос ездзіў па свеце на асле. Параўн.: «Калі ўязджаў Ісус Хрыстос у Іерусалім, Асёл яго на спіне вёз, натоўп ішоў за ім» (К. Крапіва. Асёл Ісуса Хрыста). Выраз узнік як перыфраза, як другая назва асла — пры адначасовым перанясенні назвы з зыходнага значэння слова *асёл* ('жывёліна') на другаснае, метафарычнае ('тупы, неразумны чалавек').

***Коп'і ломяцца (ламаліся)*** *з-за каго, з-за чаго. Агульны для ўсходнесл. м.* Адбываюцца гарачыя спрэчкі, рашучая барацьба. *Я стараўся не ўдзельнічаць у гэтай баталіі, адмоўчваўся, аднекваўся, рабіў выгляд, што не разумею, з-за чаго ломяцца коп`і (Л. Дайнека. Футбол на замініраваным полі).*

Фразеалагізм, структурна арганізаваны як двухсастаўны сказ, склаўся на аснове суадноснага дзеяслоўнага *ламаць коп`і* з-за каго, за што (гл.).

**Костачкі (косці, косткі) перамываць** *каму, чые, каго. Усходнесл.* Абазначае: 1) абгаворваць, бэсціць каго-н., 2) асуджаць чые-н. недахопы, крытыкаваць каго-н. *Ніна пацягвала з кубка чай, а Яроціха, усеўшыся з нагамі на табурэтцы і ўспёршыся локцямі на столік, не пераставала гаварыць. І ўсё тое самае: пра школьных сарок, якяны Нініны костачкі перамываюць* (М. Лобан. Гарадок Устронь). *Навошта перамываць косткі завочна, траціць зарад крытыкі, ці не лепш пакінуць яго на лепшы час?* (І.Шамякін. Крыніцы).

Узнікненне фразеалагізма звязана са старажытнаславянскім абрадам паўторнага пахавання. Звычайна праз тры гады пасля першага пахавання магіла раскопвалася: трэба было праверыць, ці не быў нябожчык пры жыцці звязаны з ведзьмакамі, пярэваратнямі, і, калі гэта так, зняць з яго закляцце і ачысціць ад грахоў. Перад тым як зноў закапаць нябожчыка, яго родзічы і

сваякі перабіралі косці, перамывалі іх вадой або віном. Пры перамыванні костачак не абыходзіліся без ацэнкі нябожчыка, яго характару, паводзін, г. зн. без абгаворвання.

**Костка ў горле** *каму, для каго, для чаго. Уласна бел.* Вялікая перашкода, непрыемнасць для каго-, чаго-н. *Ён жа* [Ціток *]можа стаць другім багачом у воласці. Каб толькі гэта костка ў горле, Кандрат, за ім не ўплянтаўся* (М. Лобан. На парозе будучыні).

Утварыўся на аснове дзеяслоўнага фразеалагізма *стаць косткай у горле* ў выніку ўсячэння дзеяслоўнага кампанента, набыў катэгарыяльнае значэнне прадметнасці і адпаведныя граматычныя ўласцівасці назоўнікавых фразеалагізмаў.

**Косць ад косці** *каго, чыёй. Запазыч. з царк. — слав. м.* У Бібліі (Быццё, 2,21–23) пра стварэнне першых людзей на зямлі гаворыцца, як Адам, прачнуўшыся і ўбачыўшы Еву, зробленую з яго рабрыны Богам, сказаў: «Вось гэта косць ад касцей маіх і плоць ад плоці маёй». Выраз, які ў словах біблейскага Адама меў і канкрэтны сэнс, стаў вобразным абазначэннем роднасці ці ідэйнай блізкасці: *Я косць ад косці, крывінка ад крывінкі мужыка…* (Т. Хадкевіч. Даль палявая). *Цярэшка — косць ад косці свайго народа, ён беларускі ўсім…* (С. Ляўшук. Гэта яго лёс).

**Касы сажань у плячах.** *Гл.* касы (косы) сажань у плячах.

**Кот марцовы.** *Уласна бел.* Распуснік, блуднік. — *Дык ты, кот марцовы, да суханоўскіх дзяўчат унадзіўся, — жартаваў Андрэй* (М. Машара. «Крэсы» змагаюцца).

Цяпер ужо слова *марцовы* — у разрадзе архаічнай лексікі. Яно абазначае ‘сакавіцкі’ і ўтворана ад устарэлага *марац* ‘сакавік’; абодва падаюцца ў «Слоўніку беларускай мовы» І.І.Насовіча. Слова *марац* захавалася ў некаторых прыказках: *Марац адкусіць палец; Цешыўся старац, што пеража ў марац, ажно ў маю нясуць яго да гаю.* У фразеалагізме — намёк на перыяд кацінага «вяселля», які прыпадае на «марац», калі каты з працяглым роспачным мяўканнем бегаюць пад вокнамі.

**Кот наплакаў** *каго, чаго. Агульны дляўсходнесл. і польск.* (tyle co kot napłakał) *м.* Вельмі мала (пра невялікую колькасць каго-, чаго-н.). *—Патроны ёсць?.. — Штук дзесяць. — Не багата… У нас іх таксама кот наплакаў* (І.Чыгрынаў. Плач перапёлкі).

Іншы раз узнікненне гэтага фразеалагізма звязваюць з адной малавядомай фальклорнай песенькай. Выраз, аднак, з’яўляецца плёнам народнай фантазіі. Параўн. аналагічнае індывідуальна-аўтарскае ўтварэнне *жук начхаў:* «Комплексаў у нас, як вы самі ведаеце, жук начхаў…» (К. Крапіва). Выраз у сваім развіцці прайшоў, хутчэй за ўсё, стадыю параўнальнага звароту. У форме *як кот наплакаў* ён выкарыстаны ў творах Ц. Гартнага, М. Лынькова, М. Машары, У. Паўлава, В. Праскурава. У такой

самай форме зафіксаваны М. Федароўскім. Параўн. таксама ва ўкр. м.: *як кіт наплакав.*

**Кот у мяшку.** *Агульны для бел. і руск. м.* Невядомае, няпэўнае. Гы *ў мяне возьмеш самых надзейных* [падпольшчыкаў], *а мне будуць прысылаць катоў у мяшку* (І.Новікаў. Тварам да небяспекі). Ужываецца і з заменай апошняга кампанента: *Атрымалі мы не старшыню, а катаў торбе* (У. Корбан. Хворы).

Паходзіць з дзеяслоўнага фразеалагізма *ката у мяшку купляць* (гл.).

**Коўзанне (слізганне) па паверхні.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* скольжение по поверхности, *укр.* ковзання по поверхні). Дзеянні знешняга характару, павярхоўныя, без заглыблення ў сутнасць чаго-н. У *большасці на старонках раённых газет — слізганне па паверхні, прывычны парадны тон* (Звязда. 31.01.1987).

Назоўнікавы фразеалагізм, вытворны ад суадноснага дзеяслоўнага *коўзацца (слізгаць) па паверхні* 'не ўнікаючы ў сутнасць, закранаць толькі знешні бок чаго-н.'.

**Краевугольны камень** *чаго. Запазыч. з царк. — слав. м.* Аснова, найважнейшая частка чаго-н. *Тут, па сутнасці, сфармуляваны эстэтычныя погляды, краевугольным каменем якіх з'яўляецца крытычны рэалізм* (С. Майхровіч. Максім Багдановіч).

Выраз неаднаразова сустракаецца ў біблейскіх тэкстах (Ісаія, 26, 16). Яго першапачатковае значэнне — 'камень, пакладзены ў фундамент будынка': «…кладу ў падмурак на Сіёне камень… краевугольны». У Бібліі выраз ужываецца і з абстрактным значэннем, калі гаворка ідзе пра Зямлю як планету: «На чым стаіць аснова яе, хто паклаў камень краевугольны на ёй?» Са значэннем 'аснова' фразеалагізм выкарыстоўваецца ў старажытных беларускіх тэкстах; напрыклад, у «Гістарычна-палемічным даследаванні пра пачатак і распаўсюджанне Уніі ў Літве і Заходняй Русі…» (1600–1605): «Павел святый проповедалъ быти Христа головою церкви и каменемъ краеугольнымъ».

**Кракадзілавы слёзы.** *Паўкалька з ням.* (Krokodilstränen) *ці франц.* (larmes de crocodile) *м.* Крывадушнае спачуванне, прытворнае шкадаванне. *[Касперскі:] Кірыла Рыгоравіч! Няўжо вы сумняваецеся?.. Прысягнуць магу… [Анішчук: ] Кракадзілавы слёзы* (І.Гурскі. Хлеб).

У аснове фразеалагізма — старажытнае павер'е, быццам кракадзіл, з'ядаючы сваю ахвяру, плача. Адна з ранніх фіксацый выразу сустракаецца ў помніку палемічнай літаратуры «Антиризись или Апологія противъ Христофора Филалета» (1599): «А што поведаете, жесте зъ жалостью серьдечьною учынили, — крокодиловы то слезы!»

**Кранаць за жывое** *каго. Гл.* закрануць за жывое *каго.*

**Крапіўнае семя.** *Запазыч. з руск. м.* Чыноўнікі, якія займаюцца кручкатворствам і хабарніцтвам. *Паліцыя... сабак на варотах вешае. Чыноўнікі — крапіўнае семя, чарнільныя пацукі, п ’яўкі антыхрыставы* (У. Караткевіч. Зброя).

Першапачаткова гэта была пагардлівая мянушка прыказных і пад’ячых у Маскоўскай Русі. Магчыма, мянушка нейкім чынам была звязаная з выразам *крапіўнае семя,* які ў абласных рускіх гаворках абазначае ‘пазашлюбнае дзіця’. Параўн., аднак, ва ўкр. м.: *засипати кропив’яним сем’ям* — ‘рэзка вылаяць каго-н.’.

**Кроіць сэрца** *каму, чыё. Уласна бел.* Выклікаць вялікі душэўны боль, пакуты. — *Не крой ты майго сэрца, Анежка!* — *крычаў Петрас, грукаючы па стале* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі).

У аснове фразеалагізма — нерэальны вобраз.

**Крок за крокам.** *Калька з англ. м.* (step by step). Ужыв. са значэннямі ‘пастулова, няўхільна’ і ‘паслядоўна, адно за другім’. *Мы спасцігаем космас спакваля. За крокам крок — узорныя абшары* (Г. Пашкоў. Мы спасцігаем космас спакваля...). *Крок за крокам удалося аднавіць падзеі, якія папярэднічалі таму трывожнаму ранку* (І.Ракіцкі. Алібі).

Заснаваны на асацыяцыі па падабенстве з чалавекам, які крочыць. Параўн.: «Памалу, мерна, крок за крокам у сваім раздум’і адзінокім дадыбаў бацька скора к дому» (Я. Колас).

**Крок наперад.** *Калька з франц. м.* (un pas en avant). Дасягненне, прагрэс у якой-н. справе. *Гэта аповесць* [ «Біяграфія майго героя»] *для Сяргея Знаёмага ёсць немалы крок наперад* (К. Чорны. Заўвагі да стылявых тэндэнцый у творчасці Сяргея Знаёмага).

Фразеалагізм усведамляецца як матываваны, з жывой унутранай формай.

**Кропка пастаўлена.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск*. точка поставлена, *укр.* крапка поставлена). Завершана, скончана што-н. *Я заўтра ж паеду да мамы... Я прымушу яе апамятацца. Яна, мабыць, думае, што напісала пісьмо і на гэтым пастаўлена кропка* (Т. Хадкевіч. Песня Дзвіны).

Структурна арганізаваны як двухсастаўны сказ, фразеалагізм утварыўся на аснове суадноснага дзеяслоўнага выразу *ставіць (паставіць) кропку* на чым, над чым, у чым ‘завяршаць што-н., даводзіць выкананне чаго-н. да канца’.

**Кропкі над «і» пастаўлены** *дзе. Агульны дляўсходнесл. м. (руск.* точки над «і» поставлены, *укр.* крапки над «і» поставлени). Няма нічога нявысветленага, усё даведзена да лагічнага канца. *У пастанове і ўказе, на якія вы спасылаецеся, пастаўлены, як кажуць, кропкі над «і»* (ЛіМ. 27.06.1986).

Вытворны ад суадноснага дзеяслоўнага фразеалагізма *ставіць (паставіць) кропкі над «і»* (гл.), які абазначае ‘канчаткова высвятляць усё, не пакідаючы нічога недагаворанага, даводзячы ўсё да лагічнага канца’.

**Кропля (капля) у моры** *<чаго>. Агульны для ўсходнесл. (руск.* капля в море, *укр.* крапля в морі), *польск.* (kropla w morzu) *і некаторых іншых м.* Вельмі нязначная колькасць у параўнанні з чым-н. *Зноў патрэбны сродкі. Тыя, што маем, — кропля ў моры* (Полымя. 1976. № 1).

Мяркуюць, што выраз у сваім развіцці прайшоў стадыю параўнання *(як кропляў моры),* а пасля стаў ужывацца без параўнальнага злучніка.

**Кроў ад крыві** *каго, чыёй. Агульны для ўсходнесл. м.* Ужыв., калі гаворка ідзе пра кроўную або ідэйную роднасць, са значэннем ‘роднае дзіця’ ці ‘плён каго-, чаго-н’. *Язэпу ўпершыню да ламаты ў скронях стала шкада гэтага дзіцяці, ягонага, кроў ад крыві...* (А. Асіпенка. Жыта). *Не можа быць! Бабейка, кроў ад крыві, косць ад косці мужыцкай, як ён сам любіў гаварыць пра сябе, — каб ён падпаліў хлеб?* (Т. Хадкевіч. Даль палявая).

Выраз узнік па мадэлі фразеалагізмаў *косць ад косці* (гл.), *плоць ад плоці* (гл.) як іх сінонім (выкарыстана іх граматычная структура і прыназоўнікавы кампанент *ад).* Звычайна ўжываецца побач з адным ці другім фразеалагізмам-сінонімам: «5 С [клас] — сяло. Плоць ад плоці і кроў ад крыві — сяло» (А. Васілевіч).

**Кроў з малаком.** *Агульны для ўсходнесл. і польск. м.* (krew zmlekiem). Ужыв. са значэннямі ‘здаровы, моцны, у стане росквіту’, ‘вельмі прыгожы’ і ‘свежы, румяны (пра твар, шчокі)’. *Антось — мужчына высокі і плячысты, пад дзевяноста кілаграмаў. Як кажуць, кроў з малаком* (В. Супрунчук. Вегетарыянец). *А, чорт... якая прыгожая, кроў з малаком. Не ведаю, як ты, ая зразу б укахаўся ў яе* (П. Галавач. Загубленае жыццё). *Бог даў ёй дочку Тадорку, вясёленькую, маўляў зорку, проста матчын ненагляд! Кроў з малаком яе шчочкі!..* (В. Дунін-Марцінкевіч. Шчароўскія дажынкі).

Відаць, пранік ва ўсходнесл. і польск. м. як недакладная калька з ням. м. *(wie Milch und Blut,* літаральна «як малако і кроў»); у форме злучальнай канструкцыі фразеалагізм ужываецца ў чэшск. *(krev a mléko,* літаральна «кроў і малако»), балг. *(мляко и кръв) і* некаторых іншых мовах. Вобразнасць фразеалагізма першапачаткова ўсведамлялася так: на белым, як малако, твары іграе яркі, як кроў, румянец.

**Кроў з носа.** *Агульны дляўсходнесл. м.* Абавязкова, нягледзячы ні на што, пры любых умовах. *Слоў на вецер не*

*кідайце, а калі ўжо што намечана, то кроў з носа, а каб было зроблена* (В. Палтаран. Ключы ад сезама).

Паходзіць з канструкцыі больш поўнай формы *хоць кроў з носа, а зраблю.* Маюцца на ўвазе нярэдкія выпадкі, калі ў чалавека пры доўгай і напружанай працы можа пайсці з носа кроў.

**Круціць баранку.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Працаваць шафёрам. *Трэці дзесятак круціць баранку Васіль, а не захварэў на распаўсюджаную шафёрскую хваробу — ліхацтва* (М.Гіль. Дзень пачаўся).

Паходзіць з маўлення шафёраў, дзе баранкай называюць рулявое кола ў аўтамабілі.

**Круціць катрынку.** *Уласна бел.* Надакучліва гаварыць адно і тое ж. *Кінь сваю круціць катрынку, будзь прасцейшы, не... нудзі* (А. Александровіч. Напор).

Выток фразеалагізма аналагічны з вытокам іншых: *заводзіць (завесці) катрынку, заводзіць (завесці) <сваю> шарманку* (гл.). Катрынка прыводзілася ў рух кручэннем ручкі.

**Круціць носам.** *Калька з франц. м.* (hocher du nez). Ужыв. са значэннямі ‘адмаўляцца, натурыцца’ і ‘важнічаць, выказваючы незадавальненне’. *Трапляецца гэтакі чалавек, дык яна яшчэ носам круціць* (А. Васілевіч. Доля знойдзе цябе). *Брат, сват, дзядзька, чорт лысы хай робяць, а ён прыйдзе на гатовае, ён, бачыце, запанеў:.. І носам будзе круціць: «Ах, не такусё! Ах, не гэтак!»* (П.Місько. Ціхае лета).

Фразеалагізм жэставага паходжання. Тут унутраны стан чалавека апісваецца праз яго знешні выгляд.

**Круціць шарманку.** *Агульны для бел. і руск. м.* Надакучліва гаварыць адно і тое ж. *Гебельс круціць шарманку, значыць — у Гітлера туз* (К. Крапіва. Апошняя стаўка Гітлера).

Гэты фразеалагізм, як і тры іншыя, паходзіць з адной крыніцы. Гл. *заводзіць (завесці) катрынку, заводзіць (завесці) <сваю> шарманку, круціць катрынку.*

**Крывіць губы.** *Уласна бел.* Крывіцца, выражаючы незадаволенасць, злосць. *Хто ахвотнік неба мераць, дык выходзь сюды наперад. Ну, а ты што крывіш губы? Ці табе лятаць не люба?* (К. Крапіва. Хто за намі?).

Фразеалагізм жэставага паходжання: унутраны стан чалавека апісваецца праз яго знешні выгляд, выкліканы гэтым станам.

**Крывое кола.** *Уласна бел.* Упарты чалавек, які сваімі ўчынкамі пляміць сам сябе. — *Васіль, пачакай, во нейкі малахольны, — пачуў ён услед, — нічога яму не скажы, крывое кола, — не крані ты яго!* (У. Саламаха. Напрадвесні).

Крыніцай фразеалагізма, як мяркуе Ф. М. Янкоўскі, стала прыказка *Крывое кола на сябе гразь (бруд, балота) кідае.* У

трапным вобразе, што адарваўся ад прыказкі, амаль цалкам захоўваецца яе сэнс. Параўн. ужыванне прыказкі ў п’есе В. Зуба «Юнацтва рыцара»: «[Казімір: ] А я ўсё роўна раскажу ўсім, што галёшы айца Нікана ператварылі ў паштовую скрынку. [Стась — Казіміру, шматзначна: ] Крывое кола на сябе гразь кідае... Май гэта на ўвазе...»

**Крытычная маса.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* критическая масса, *укр.* критична маса). Пэўная мера чаго-н., неабходная для рэзкага, імклівага пераходу чаго-н. у іншы стан. *Мяркуючы па ўсім, у арабаў дасягнула крытычнай масы пачуццё шчымлівай крыўды, знявагі іх годнасці* (ЛіМ. 21.09.2001).

Узнік у выніку метафарычнага пераасэнсавання састаўнога тэрміна, якім у фізіцы называюць мінімальную колькасць ядзернага гаручага з падзельнымі нуклідамі, пры якім магчыма ажыццяўленне ядзернай ланцуговай рэакцыі дзялення.

**Крыць няма чым** *каму. Агульны для бел., руск.* (крыть нечем) и *ўкр.* (крити немае чим) *м.* Каму-н. няма як пярэчыць, няма як апраўдацца, няма чаго сказаць у адказ. *Малайчына! Здарава пад’ехала!.. Мне і крыць няма чым...* (І.Козел. Над хвалямі Серабранкі).

Першапачатковае значэнне гэтага выразу, што ўзнік у асяроддзі карцёжнікаў, — ‘няма чым пакрыць, пабіць карту праціўніка’.

**Куды вочы нясуць (панясуць).** *Уласна бел.* Адпаведна жаданням, куды захочацца, куды ўздумаецца (ісці, пайсці). *Нацешышся, налюбішся, як я буду нагамі адбівацца, а тады сабе пойдзеш куды вочы панясуць* (Л. Родзевіч. Пакрыўджаныя).

Узнік аб’яднаннем двух фразеалагізмаў-сінонімаў у адзін, вынікам іх кантамінацыі стаў фразеалагізм з тым жа значэннем: *куды вочы глядзяць + куды ногі нясуць (панясуць).* Зліццё фразеалагізмаў адбылося ў жывой народнай мове (выраз фіксуецца ў IV томе працы М. Федароўскага «Люд беларускі на Русі Літоўскай»).

**Куды крывая вывезе** *каго. Запазыч. з руск. м.* (куда кривая вывезет). Як атрымаецца. — *Бяры, — працягнуў Міхалу* [грошы] — *там спатрэбіцца. Яшчэ невядома, куды крывая вывезе* (У. Карпаў. Сотая маладосць).

Паводле В. М. Макіенкі, поўная форма выразу — *куда кривая лошадь вывезет,* дзе *кривая* абазначае ‘кульгавая’. Паехаць на такой «лошади» — справа рызыкоўная: яна можа давезці, а можа і не давезці да неабходнага месца.

**Кукіш з маслам.** *Гл.* дулю (фігу, кукіш) з маслам.

**Куку ў руку.** *Агульны для бел. і ўкр. м.* Абазначае ‘хабар, звычайна грашовы’. *Пасябраваў; сволач, з Мусатавым, даў яму, кажуць, куку ў руку, толькі каб той памог яму спаймаць таго*

*збеглага мужыка, што кінуў вілы…* (У. Караткевіч. Каласы пад сярпом тваім).

Склаўся, відаць, на аснове прыказкі *Схавай тры грошы ў руку на куку;* яе занатаваў на Беларусі ў сярэдзіне XIX ст. П. Шпілеўскі, узнікненне прыказкі ён звязваў са старажытным павер’ем. Прыметай вясны было з’яўленне зязюлі ў лясах, і, каб шчасце спадарожнічала чалавеку ўвесь год, трэба было, пачуўшы першае «куку», зазвінець манетамі ў кішэні ці ў руцэ. *На куку* або *на зязюльку* стала абазначаць ‘грошы, прызапашаныя на шчасце’. Пасля *куку* стала асацыявацца з таемным падарункам (такое значэнне ў слове *куку* вылучае ў «Слоўніку беларускай мовы» І.І.Насовіч, ілюструючы яго прыкладам: «Сунь яму куку ў руку, і дзела пойдзе добра»). Першапачатковы сэнс выразу *куку ў руку* — ‘грошы ў руку каму-н.’.

**Кульгаць на абедзве нагі.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* хромать на обе ноги, *укр.* кульгати на обидві ноги). Ужыв. са значэннямі ‘мець значныя недахопы, хібы ў чым-н. (у ведах, падрыхтоўцы і пад.)’, ‘ісці дрэнна, з перабоямі, зрывамі (пра справу, работу і пад.)’ і ‘вельмі дрэнны (пра парадак, дысцыпліну і інш.)’. *Лёгка сказаць — праштудзіруй. А калі Антось яшчэ ў школе па хіміі кульгаў на абедзве нагі…* (З. Шостак. Выгадная штука). *А што да партыйнай работы, то яна ў нас кульгае на абедзве нагі* (М. Лобан. Гарадок Устронь). *Высветлілася, што на ўчастку, як кажуць, на абедзве нагі кульгала дысцыпліна, ігнараваліся правілы тэхнічнай бяспекі* (В. Макарэвіч. На галоўным напрамку).

Сфарміраваўся, відаць, пад уплывам блізкага ў сэнсавых і структурных адносінах біблейскага выразу *хромать на оба колена:* «І падышоў Ілья да ўсяго народу, і сказаў: ці доўга вам кульгаць на абодва калены?» (1-я кн. Царстваў, 18, 21).

**Кульмінацыйны пункт** *<чаго, у чым>. Агульны для ўсходнесл. м.* Найвышэйшы рубеж, вяршыня чаго-н. — *Як вы думаеце, Сымон Іванавіч, ажэніцца наш знаёмы з гэтай дзяўчынай? — Я ўпэўнены. Наш прыход — кульмінацыйны пункту яго заляцанні* (А. Пальчэўскі. Сваты).

Утварыўся ў выніку метафарызацыі астранамічнага састаўнога тэрміна, якім абазначаюць момант праходжання свяціла праз нябесны мерыдыян.

**Кум каралю <і сват міністру>.** *Відаць, уласна бел., хоць зрэдку сустракаецца (як адназначны) ва ўкр. і руск. м.* Ужыв. са значэннямі: 1) свабодны, ні ад каго не залежны, у выгадным становішчы, 2) багаты, заможны, забяспечаны, 3) вельмі добра, цудоўна (жыць, адчуваць сябе і пад.). *Адзін я пачуваю сябе ніштавата: яшчэ дома нацягнуў гумовікі, то цяпер кум каралю* (Г. Пашкоў. Палескія вандроўнікі). *Чалавек ты не дурны, а жыць*

*не ўмееш... Колькі разоў табе казаў: слухай мяне і будзеш кум каралю* (М. Арочка. Хай расце маладая таполя). *Ты адчуваеш тут сябе — кум каралю* (Д.Бічэль-Загнетава. У Гальшанах).

Першапачатковая структура фразеалагізма — двухкампанентная *(кум каралю).* Другая ж частка, факультатыўная і не часта ўжывальная, нарошчана, змадэліравана на ўзор першай і звязана з ёю злучнікам «і». Сустракаюцца выпадкі далейшага, праўда, індывідуальна — аўтарскага, разгортвання вобразнай асновы фразеалагізма і яшчэ большага пашырэння кампанентнага складу: «О, ты цяпер кум каралю і сват міністру... лёгкай і харчовай прамысловасці» (П.Місько). У аснове фразеалагізма, хутчэй за ўсё, — нерэальны, прыдуманы, іранічна-гіпербалізаваны вобраз. Магчыма, выраз напачатку ўжываўся як параўнальны зварот: «Я цяпер, брат, жыву, як кум каралю» (Р. Сабаленка); параўн. і ва ўкр. м.: «Тепер, взимку, я розкошую, мов кум королю» (М. Стэльмах). Выраз мог узнікнуць тады, калі Беларусь была ў складзе Рэчы Паспалітай, якой кіраваў кароль. Ужыванне ў бел. м. гэтага трохзначнага фразеалагізма можна было б пацвердзіць 22 прыкладамі з мастацкіх тэкстаў, тады як ва ўкр. і рускм. ён адназначны і ілюструецца ў слоўніках 2–3 цытатамі.

**Купляць ката ў мяшку.** *Гл.* ката ў мяшку купляць.

**Курам на смех.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Ужыв. са значэннямі: 1) вельмі дрэнны, 2) вельмі недарэчна, бяссэнсава, смехатворна, 3) зусім мала. *Справы ў насу дэпо — курам на смех* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Гэта ж курам на смех, каб барон ды жаніўся з ёю, баранесай захацелася стаць...* (М. Машара. І прыйдзе дзень...). *Пятрок рабіў як пракляты, шчыраваў удзень і ўночы, а плёну было курам на смех* (В. Быкаў. Знак бяды).

Узнік па мадэлі *людзям на смех* (параўн., напрыклад, у прыказцы *Паспех людзям на смех).* Каламбурны характар гэтага спалучэння ў тым, што куры не ўмеюць смяяцца. «Ні адна са свойскіх жывёл не дае найбольшых прычын да пагардлівых насмешак ці параўнанняў, як курыная парода» (С. Максімаў).

**Курту з гурту** *выбіраць (выбраць). Уласна бел.* (Выбіраць) каго-н. непрыгожага, кепскага. *Выбіраюць курту з гурту — рэжа рэпліка* (Р. Барадулін. У Джолсіїта Дамасанава).

У літаратурнай мове няма назоўніка *курта,* суадноснага з першым кампанентам фразеалагізма, хоць і ёсць прыметнік *куртаты* (з чатырма значэннямі). У многіх жа беларускіх гаворках, як сведчаць дыялектныя слоўнікі, існуе слова *курта* ‘маларослы, нізкі чалавек’. У такім разе ўнутраная форма фразеалагізма становіцца празрыстай. Першы ж кампанент атрымаў больш шырокае негатыўнае значэнне ў параўнанні з

зыходным. Выраз склаўся ў жывой народнай мове (фіксуецца М. Федароўскім: *з гурту выбраў курту).*

**Куры не клююць** *грошай. Агульны для ўсходнесл. м.* Вельмі многа (грошай у каго-н.). *Хо-хо… Думае, у мяне грошай — куры не клююць…* (П.Місько. Градабой).

Часам узнікненне фразеалагізма спрабуюць прывязаць да даўнейшых пэўных звычаяў. Думаецца, аднак, што гэта выраз з нерэальным вобразам у яго аснове, што гэта плён народнай фантазіі. Параўн. і іншыя з кампанентам *куры: і куры не шэпчуць* пра каго, *куры будуць смяяцца* з каго, *курам на смех.*

**Курыць фіміям** *каму. Агульны для ўсходнесл. м.* Падлізліва праслаўляць, узвялічваць кагосьці. *Ёсць пара крытыкаў, вядомых нам, якія кураць фіміям…* (К. Крапіва. Шчыры поп). Замест кампанента *курыць* ужываецца і *кадзіць: Стала крытыкаў пашане, фіміяму не кадзілі, сходы ішлі не да світання, а не больш за паўгадзіны* (М. Лужанін. Сілівон на дачы). Аналагічная вобразнасць і ў балг. фразеалагізме *кадя тамян* (‘курыць, кадзіць фіміям’).

Словы *курыць* і *фіміям* цяпер ужо ў пасіўным складзе лексікі. Першае абазначае ‘спальваць якое-н. рэчыва, што дае пахучы дым’, а *фіміям* тое самае, што і *ладан.* Разам жа яны ўтвараюць фразеалагізм, які, аднак, не мае адцення ўстарэласці. Ён паходзіць са свабоднага словазлучэння, звязанага са старажытным абрадам ахвяравання, асобным відам якога было спальванне фіміяму перад багамі. Гэтым славілі і залагоджвалі іх. Фіміям курыўся і пры набажэнстве ў цэрквах, а таксама пры князёўскіх, царскіх дварах.

**Курэнне фіміяму.** *Уласна бел.* Надзвычайнае ўзвялічванне, ліслівае праслаўленне каго-н. *Ад нечаканасці і такога адкрытага курэння фіміяму ледзь не з’ехала пад трыбуну, што стаяла побач* (В. Паўлава. Шклоўскія страсці).

Узнік унутрыфразеалагічным спосабам на аснове суадноснага дзеяслоўнага выразу *курыць фіміям* (каму), набыўшы прадметнае значэнне і іншыя ўласцівасці назоўнікавых фразеалагізмаў (гл.).

**Кусаць <сабе> локці.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Перажываць, шкадаваць з прычыны чагосьці няздзейсненага, непапраўна страчанага. *От дзівачка! Удачы сваёй не бярэш! Ну што ж, я сказала! Дзела тваё. Кусай потым локці сабе!* (І.Мележ. Завеі, снежань).

Узнік на вобразнай аснове прыказкі *Блізка локаць, ды не ўкусіш,* як бы насуперак яе літаральнаму значэнню. Сэнсавая блізкасць паміж фразеалагізмам і прыказкай відавочная: прыказка ўжываецца як выказванне жалю, калі нельга ўжо здзейсніць штосьці.

# Л

**Лавачка закрываецца (закрылася, закрыецца).** *Агульны для ўсходнесл. м.* Спыняецца якая-н. справа, хто-н. перастае займацца чым-н. *І ты думаеш да пенсіі дарабіць? Доўга табе яшчэ. Прыдумаюць які аўтамат — закрылася лавачка* (А. Жук. Хлопчык на краі поля).

Фразеалагізм, структурна арганізаваны як двухсастаўны сказ, утварыўся на базе суадноснага дзеяслоўнага *закрываць лавачку* (гл.).

**Лавіць рыбку ў каламутнай вадзе.** *Калька з франц. м.* (pecЬer en eau trouble). Карысліва карыстацца якімі-н. цяжкасцямі. *А я думаю — не, не туды, павярнулі. І паддаў ім халодненькага душу, каб выцверазіць. «Што, — кажу, — хлеб не ўдаецца, дык рашылі рыбку у каламутнай вадзе лавіць?»* (М. Лобан. Гарадок Устронь).

У французаў выраз склаўся на аснове адной з баек Эзопа, перакладзеных з грэч. м. У байцы расказваецца, як хітры рыбак, ускаламуціўшы ваду, ловіць у ёй рыбу, якая сама ўсплывае наверх. Фразеалагізм прыжыўся ў славянскіх, а таксама ням., англ. і іншых мовах.

**Лазара пець (спяваць).** *Агульны дляўсходнесл. м.* Бедаваць, прыкідвацца няшчасным, старацца расчуліць кагосьці. *Ну, святая Барбара, цяпер на табе далёка не заедзеш. Як зловяць паны, дык і будзеш тады Лазара пець* (К. Крапіва. Канец дружбы).

У дасавецкі час улюбёнай песняй многіх жабракоў была песня пра беднага Лазара. Пра гэта, напрыклад, у драме Я. Купалы «Раскіданае гняздо»: «Старац ідзе наперад, за ім — Марыля з дзецьмі па баках, а за Марыляй — Данілка. Усе пяюць „Лазара“ — Данілка іграе». У «Беларускім зборніку. Вып. 5» (1891) Е. Раманаў пісаў: «„Лазар Бедны“ шырока распаўсюджаны на Беларусі, яго спяваюць не толькі старцы ex officio [па прафесіі, „па пасадзе“], але і ўсе прыгнечаныя і зняволеныя. Здаецца, беларус не супраць таго, каб бачыць у Бедным Лазары самога сябе». Песня склалася на аснове евангельскай прытчы (Лука, 16,19–25) пра Лазара, які, хворы, пакрыты струпамі, ляжаў каля варот багацея, чакаючы, пакуль яму выкінуць аб'едкі. Тэкст песні і яе жалобны матыў скіроўвалі на тое, каб расчуліць слухачоў, выпрасіць у іх міласціну. Пад выглядам жабракоў часам хадзілі пад вокнамі ці ў людным месцы і пелі «Лазара» і такія, што прыкідваліся няшчаснымі. Гэта і было падставай для пераасэнсавання свабоднага словазлучэння.

**Лакмусавая паперка.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Сродак выяўлення, праверкі адносін паміж кім-н. *Швейк стаў яшчэ пры жыцці Гашака лакмусавай паперкай. Па адносінах да яго высвятлялася ўсё прагрэсіўнае і рэакцыйнае* (Настаўн. газ. 27.04.1983).

Утварыўся ў выніку пераасэнсавання хімічнага састаўнога тэрміна. Ім абазначаюць фільтравальную паперу, насычаную раствораm лакмусу, якая ўжываецца як рэактыў на кіслоты і шчолачы.

**Ламанне галавы.** *Уласна бел.* Напружаная спроба вырашыць, зразумець, разгадаць што-н. *Што датычыцца таго, як пракарміць сям 'ю, гэта сапраўды рэальнае ламанне галавы, часам сорам і ганьба, калі і жыць не хочацца* (Р. Тармола-Мірскі. Не давайце чужынцамі быць).

Назоўнікавы фразеалагізм, утвораны ад суадноснага дзеяслоўнага *ламаць галаву* над чым (гл.).

**Ламацца ў адчыненыя дзверы.** *Калька з франц. м.* (enfoncer une porte ouverte). Настойліва сцвярджаць, даказваць тое, што даўно ўсім вядома і не выклікае пярэчанняў. *[Валун: ] А навошта даказваць тое, што і так ясна ўсім? Навошта ламацца ў адчыненыя дзверы?* (А. Чарноў. Усё спачатку).

У аснове фразеалагізма — нерэальны вобраз.

**Ламаць галаву** *над чым. Калька з ням. м.* (sich den Kopf zerbrechen). Напружана думаць, задумвацца, стараючыся зразумець, разгадаць што-н. *Зелянюк ламаў галаву над сфармуляваннем пэўнага, яснага адказу на запытанне, якое зрабіла яму Стася пры іхняй неспадзяванай сустрэчы* (М. Зарэцкі. Вязьмо).

У аснове фразеалагізма — нерэальны, гіпербалізаваны вобраз.

**Ламаць (паламаць) коп'і** *з-за каго, за што. Відаць, усходнесл.* Горача спрачацца, даказваць, змагаючыся за што-н., адстойваючы чые-н. інтарэсы. *Я ўспомніў між хлопцаў гэтых, на гэтых саляных копях, як крытык адзін з паэтам нядаўна ламалі коп'і* (У. Нядзведскі. Будні Салігорскія).

Склаўся ў выніку пераасэнсавання свабоднага словазлучэння. У старажытнасці кап'ё было зброяй першай сутычкі. Уступаючы ў бой, воіны стараліся выбіць праціўніка з сядла, пры гэтым нярэдка ламалі коп'і. Параўн. ужыванне блізкага гучаннем і яшчэ не пераасэнсаванага словазлучэння ў «Слове аб палку Ігаравым»: «Ту ся копіемъ приломати, *ту* ся саблямъ потручати о шеломы половецкыя».

**Ламаць <сабе, свае> рукі.** *Агульны дляўсходнесл. м.* Прыходзіць у адчай, узрушэнне (ад вялікага гора). *Ой, ламалі свае*

*рукі стары са старою: — Налажылась наша донька за ўсіх галавою!* (Я. Купала. Бандароўна).

Фразеалагізм жэставага паходжання: унутраны стан чалавека апісваецца праз пэўны жэст — знешні выразнік гэтага стану.

**Ламаць шапку** *перад кім. Агульны для ўсходнесл. м.* Уніжацца, ліслівіць перад кім-н., паддобрывацца пад каго-н. *Хочаце ламаць шапку перад кожным сталом, чакаць прыёму ў дырэктара…* (М. Лужанін. Дзівадла).

Ва ўкр. м. выраз ужываецца і з варыянтнасцю дзеяслоўнага кампанента: *м'яти шапку,* г. зн. мяць, камячыць шапку, ці, так бы мовіць, «ламаць» яе. У такім разе можна лічыць, што выраз утварыўся шляхам метанімічнага пераносу: просьбіт, прыніжана звяртаючыся да каго-небудзь, здымаў шапку і, трымаючы яе ў руцэ, механічна, ад няёмкасці, мяў, камячыў яе, «ламаў».

**Ласкавае цяля.** *Гл.* ліслівае (ласкавае) цяля (цялятка).

**Лаўры спаць не даюць** *каго, чые каму. Паўкалька з грэч. м.* Абазначае ‘хтосьці вельмі зайздросціць чыйму-н. поспеху’. — *Табе што, брыгадзіравы лаўры спаць не даюць? — спыталі ў Антося аднойчы* (Настаўн. газ. 30.12.1981). Параўн. каламбурнае выкарыстанне фразеалагізма: *Скардзіўся на бяссонніцу. Не давалі спаць лаўры* (Б. Сачанка. Манпансье з гарчыцаю).

Гэта крылаты выраз, які належыць старажытнагрэчаскаму дзяржаўнаму дзеячу і палкаводцу Фемістоклу. Ён прымаў удзел у Марафонскай бітве, у якой грэкі на чале з афінскім стратэгам Мільціядам разбілі персаў. Фемістокл зайздросціў славе стратэга, паўтараючы: «Лаўры Мільціяда не даюць мне спаць», аж пакуль сам не стаў славутым палкаводцам.

**Лахі пад пахі.** *Уласна бел.* У літаратурны ўжытак увайшоў з паўднёва-заходніх гаворак рэспублікі, дзе слова *лахі* з’яўляецца агульнай назвай разнароднага адзення (параўн. у «Пушчанскай адысеі» А. Карпюка: «Не ведаю, кажух браць ці не? Мо дарэмна буду толькі валачы лахі…»). Першапачатковы сэнс спалучэння зразумелы. У далейшым кампаненты выразу, звязаныя ўнутранай рыфмай, страцілі канкрэтнае і набылі больш шырокае, абагульненае значэнне: *лахі* — не абавязкова толькі ‘адзенне’, *пад пахі* — не абавязкова ‘пад плечы’. Фразеалагізм стаў ужывацца са значэннем ‘свае пажыткі з сабой’, калі гаворыцца пра любыя асабістыя рэчы, што можна прыхапіць з сабой, панесці ў руках ці на сабе перад адыходам, уцёкамі, ад’ездам куды-небудзь: *А што ж будзе? Вазьму лахі пад пахі — маёмасць мая невялікая — ды пайду шукаць шчасця на свеце* (Я. Колас. На ростанях). Звычайна фразеалагізм ужываецца пры дзеясловах *браць, узяць, забраць,* якія могуць прапускацца, але падразумяваюцца: *паціхеньку бяры*

*пахі пад пахі і выбірайся* (Я. Колас); *бярыце пахі пад пахі і тупайце* (А. Кудравец); *забірай лахі пад пахі* (В. Каналь).

Калі ж фразеалагізм ужываецца ў ролі дзеяслоўнага выказніка перад аднародным выказнікам (пры перадачы хуткай змены падзей), то ён абазначае ‘схапіць з сабой свае манаткі’: *Ты аконца адчыніш, лахі пад пахі ды скакель з хаты ў сад, як пятух!* (Я. Купала. Паўлінка). Або: *зараз лахі пад пахі і дадому* (К. Чорны); *мы лахі пад пахі ды ходу* (М. Лынькоў). У такіх выпадках перад намі ўжо іншы самастойны фразеалагізм, адрозны ад папярэдняга сваёй семантыкай, сінтаксічнай роляй і спалучальнымі магчымасцямі.

**Лебядзіная песня.** *Калька з грэч. м.* (kukneion asma). Апошні, найбольш значны твор каго-н., апошняя праява таленту, здольнасці. *Тарас Хадкевіч... браў пласт мінулага і знаходзіў у ім тыя парасткі новага, якія сёння з’яўляюцца рэальнасцю, сучаснасцю. Пра гэта можа сведчыць яго раман «Песня Дзвіны», — гэтая, на глыбокі жаль, лебядзіная песня пісьменніка* (ЛіМ. 15.08.1975).

Узнікненне фразеалагізма звязана з павер’ем, што лебедзь спявае адзін раз у жыцці — перад самай смерцю. Павер’е, вядомае старажытным грэкам, сустракаецца ў творах Эзопа, Эсхіла. Відаць, яно мае пад сабой грунт: як сведчаць вучоныя-заолагі, напрыклад нямецкі натураліст А. Брэм, апошнія ўздыхі раненага лебедзя нагадваюць песню.

**Легчы (залегчы) на дно.** *Уласна бел. (у руск., укр., польск. і іншых слоўніках не фіксуецца).* Прытаіўшыся, не рабіць ніякіх дзеянняў. *Нам трэба на пару тыдняў легчы на дно, перачакаць, а як міліцэйскі шмон на дарогах сціхне, уцячы за мяжу* (В. Праўдзін. Вяртанне з апраметнай). *Звольніўшыся з гэтай пасады, ён залёг на дно... Не хацеў лішні раз паказвацца* (Нар. воля. 16.11.2000).

Паходзіць, відаць, з маўлення маракоў падводнага флоту. Параўн. выкарыстанне фразеалагізма ў дачыненні да матросаў: «Хлопцы раз’язджаліся па сваяках, каб, залегшы на дно, перачакаць месяц-паўтара да новага выхаду ў мора» (У. Арлоў).

**Легчы касцьмі.** *Усходнесл.* Ужыв. са значэннямі ‘загінуць у баі’ і ‘старацца з усіх сіл зрабіць што-н.’. *Счапіўся з гадам хіленькі пінчук і лёг касцьмі, не прапусціўшы немца!* (Е. Лось. Гавораць несмяротныя). *Касцьмі лягу, змагаючыся супроць пасадкі «хіміка» ў гэтым раёне* (І.Шамякін. Атланты і карыятыды).

Выраз фіксуецца ў старажытным летапісе, паводле якога князь Святаслаў перад бітвай з грэкамі ў 970 г. сказаў сваім воінам: «Не посрамим земли Русския, но ляжем костьми ту; мертвие бо срама не имут». *Касцьмі* — старая форма творнага скл. мн. л., адпавядае сучаснай *касцямі.* Семантычная сувязь паміж

кампанентамі ў фразеалагізме *легчы касцьмі* невыразная, аднак некаторы намёк на гэту сувязь адчуваецца пры супастаўленні фразеалагізма з пазнейшымі, сэнсава тоеснымі ўтварэннямі *легчы трупам, злажыць косці.*

**Лезці (ісці) на ражон.** *Усходнесл.* Абазначае 'пачынаць штосьці рызыкоўнае, асуджанае на няўдачу, дзейнічаць, не думаючы пра вынікі'. *Ды і сабе самому вы нашкодзіце: вам лезці на ражон няма чаго* (Н.Гілевіч. Формула ржавіны).

Даўней словам *ражон* называлі востры кол, які выкарыстоўвалі на паляванні. З ім хадзілі на мядзведзя. Звычайна некалькі такіх ражноў пахіла ўкопвалі ў зямлю і гналі на іх звера. На фразеалагізацыю свабоднага словазлучэння *лезці на ражон* паўплывала тое, што ў мове ўжо быў фразеалагізм *перці супраць ражна* (гл.), які прыйшоў з царк. — слав. м. Дарэчы, *лезці на ражон* ужываецца і ў форме *перці на ражон:* «Я маю спакойны розум і без адуму на ражон ніколі не пру» (М. Гарэцкі).

**Лезці на сцяну.** *Гл.* на сцяну лезці.

**Лезці са сваім статутам у чужы манастыр.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Умешвацца ў чужыя справы, навязваючы каму-н. свае рашэнні. *Помнілася Рыгору адна размова ў двары з суседам. — Прабач, што лезу са сваім статутам у чужы манастыр, — сказаў той. — Але шкада цябе* (М. Барэйша. Кембрыйскае мора).

Паходзіць з прыказкі *У чужы манастыр са сваім статутам не ходзяць.* Даўней кожны манастыр меў свой статут — звод правіл, якімі і кіраваліся члены пэўнай абшчыны манахаў.

**Лезці сляпіцай у вочы** <*каму*>. *Уласна бел.* Ужыв. са значэннямі 'назойліва прыставаць, невыносна дакучаць' і 'раздражняць, злаваць каго-н. непрыемным уздзеяннем'. *І сур'ёзны ты чалавек, здаецца, а паводзіны твае камарыныя, так і лезеш сляпіцаю ў вочы* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Праз запыленыя вокны хат сямтам пазіралі агні. І снег усё ішоў лез у вочы сляпіцай* (Я. Брыль. У Забалоцці днее).

Узнік на аснове фразеалагізма *лезці ў вочы* (каму) шляхам пашырэння яго кампанентнага складу. Да выразу з цьмянай унутранай формай дададзены для яе ажыўлення кампанент у форме творнага параўнальнага склону; *сляпіцай* абазначае 'як сляпіца' ці 'як сляпень'.

**Лезці смалой у вочы** *каму, да каго. Уласна бел.* Назойліва прыставаць, невыносна дакучаць. *Смалайціс моцна пакрыўдзіўся, затое не лез ужо да кожнага смалою ў вочы* (М. Гарэцкі. Віленскія камунары).

Утвораны на аснове фразеалагізма *лезці ў вочы* (каму) шляхам пашырэння яго кампанентнага складу назоўнікам у форме творнага параўнальнага склону. *Смалой* абазначае ‘як смала’.

**Лёгкая рука** *ў каго. Агульны для ўсходнесл. м.* Хто-н. прыносіць шчасце, поспех, удачу ў чым-н. — *Цяпер загоіцца, — упэўнена кажа дзед і складвае свае прычандалы ў капшук. — У мяне лёгкая рука* (В. Гардзей. Дом з блакітнымі аканіцамі).

Выток фразеалагізма — былое павер’е, што ў некаторых людзей лёгкая рука, якая прыносіць удачу. Першапачаткова ўжываўся, калі гаварылася пра што-небудзь набытае ў чалавека з лёгкай рукой; гэтым выказвалася ўпэўненасць, што ўсё пойдзе рукой, будзе ручыць, г. зн. удавацца, добра весціся.

**Лёд крануўся.** *Фразеалагізм з той жа вобразнасцю і значэннем ёсць таксама ў руск. м.* (лед тронулся), *укр.* (лід пішов), *польск.* (lody ruszyly). Яго сэнс — ‘штосьці пачалося’. *Лёд крануўся, таварыш камандуючы!.. 26-я і 84-я гвардзейскія дывізіі ўзялі Шалашына і ў добрым тэмпе ўсцяж магістралі выходзяць на рубеж Юрцава — Бардзюкі!* (І.Мележ. Мінскі напрамак).

Выраз мае празрыстую ўнутраную форму, ён склаўся на аснове фразеалагізма *лёд разбіты* (гл.).

**Лёд разбіты (паламаны).** *Калька з франц. м.* (la glace est rompue). Ліквідаваны перашкоды (у адносінах паміж кім-н.). *Лёд у чалавечых адносінах паламаны, недавер 'е зломана. Вылучэнства нікога ўжо не здзіўляла, не абурала* (Х. Шынклер. Сонца пад шпалы).

Выраз успрымаецца як матываваны, пераносны.

**Лёд** *чаго* **растае (растаў).** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* лед тает (растаял), *укр.* лід тане (розтанув). Знікае пачуццё чаго-н. (недаверу, непаразумення, адчужанасці і пад.). *Радасць* [Мікіты] *усё ўзрастала, у меру таго як раставаў лёд недавер 'я ў сялянскіх сэрцах* (Я. Колас. Адшчапенец).

Склаўся ўнутрыфразеалагічным спосабам на аснове выразу *лёд разбіты (паламаны)* — калькі з франц. м. (гл.).

**Ліслівае (ласкавае) цяля.** *Уласна бел.* Спрытны, дагодлівы чалавек, які ўмее пакарыстацца абставінамі. *Ты не глядзі, што ён цяпер такім ласкавым цяляткам выглядае, ён яшчэ паспрабуе і кіпцюры выпусціць…* (К. Крапіва. Пяюць жаваранкі).

Узнік з прыказкі *Ліслівае (ласкавае) цяля дзвюх матак ссе.*

**Літара ў літару.** *Калька з руск. м.* (буква в букву). Абсалютна дакладна, без адхіленняў (пісаць, паўтараць, выконваць і пад.). *Ад яго патрабуецца толькі адно — выконваць літара ў літару тое, што яму загадалі, гэта значыць рабіць «выверанья ўзгодненья дзеянні»* (А. Вярбіцкі. Інтэрв’ю).

Мяркуюць, што выраз узнік яшчэ да кнігадрукавання (XVI ст.) і напачатку дастасоўваўся толькі да перакладу з грэч. м. і да перапісвання богаслужэбных кніг. Гэты працэс патрабаваў ад перапісчыкаў выключнай дакладнасці і дбайнасці, пісьмовай перадачы тэксту літара ў літару.

**Ліць (праліваць) кракадзілавы слёзы.** *Калька з ням. м.,* дзе складаны назоўнік *Kгokodilstränen* абазначае ‘кракадзілавы слёзы’, а дзеяслоў *vergieben* — ‘праліваць’. Сэнс фразеалагізма — ‘прытворна шкадаваць, няшчыра скардзіцца’. *Самі паклалі міну; самі ўзарвалі, самі сфатаграфавалі... — Ой хітрыя, яшчэ кракадзілавы слёзы льюць...* (Г. Васілеўская. Бывай, Грушаўка).

У аснове фразеалагізма — старажытнае павер’е, нібыта ў кракадзіла, калі ён есць сваю ахвяру, цякуць слёзы.

**Лунаць у паднябессі (у надхмар'і).** *Недакладная калька з руск. м.* (витать в облаках). Бясплённа марыць, не заўважаючы навакольнага. *[Жлукта: ] Вось калі сатырык — ён зразу глядзіць у корань, а не лунае ў паднябессі, як некаторыя праменныя паэты* (К. Крапіва. Мілы чалавек).

У аснове фразеалагізма — гіпербалізаваны вобраз. У руск. мову фразеалагізм трапіў як запазычанне з царк. — слав. м.

**Лынды біць.** *Уласна бел.* Гультаяваць, займацца нявартымі справамі; пасіўнічаць. *Тут сем патоў з цябе выганяюць, а яны лынды біць будуць...* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Назоўнікавы кампанент гэтага фразеалагізма як асобнае слова ў літаратурнай мове не ўжываецца. Але яно ёсць у паўднёва-заходніх гаворках рэспублікі і выступае як стылістычны сінонім да слова *ногі* (напрыклад, у «Слоўніку беларускіх гаворак паўночна-заходняй часткі Беларусі і яе пагранічча»: *схавай свае лынды, чуць цягне свае лынды).* Зрэдку трапляецца і ў мастацкіх тэкстах — з тым самым значэннем і зніжанай афарбоўкай: «Ажно ляціць колькі падросткаў, адзін і сталы лынды распусціў» (Ядвігін Ш.); «...грэюць трыбухі і лынды» (А. Карпюк). Відаць, у паўднёва-заходніх гаворках і ўзнік фразеалагізм *лынды біць.* Тут ён абазначае амаль тое, што і *ногі біць,* толькі з больш зніжанай, асуджальнай экспрэсіяй і ўспрымаецца як матываваная моўная адзінка (напрыклад, у названым слоўніку*: Дарма лынды збіў*— ‘дарма схадзіў’) — У літаратурнай мове фразеалагізм стаў абазначаць не толькі ‘хадзіць без карысці, бадзяцца’, але і ‘гультаяваць, марна траціць час, пасіўнічаць’.

**Людзьмі звацца.** *Уласна бел.* Быць свабоднымі, незалежнымі, шчаслівымі. *І на гэты раз В. Адамчык расказвае пра жыццё жыхароў Заходняй Беларусі, пра тых, хто імкнуўся «людзьмі звацца» і за гэта змагаўся* (Г. Пашкоў. Абсягі літаратурнага года).

Крылаты выраз з верша Я. Купалы «А хто там ідзе?»:

А чаго ж, чаго захацелась ім,
Пагарджаным век, ім, сляпым, глухім?
— Людзьмі звацца.

**Лягчэй на паваротах.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Будзь асцярожны ў выказваннях ці ўчынках. — *Таты з папругай няма на цябе. Каб узяў галаву паміж ног ды ўсыпаў добры перабор... — Ну, ну; лягчэй на паваротах* (Я. Брыль. Птушкі і гнёзды).

Склаўся, напэўна, на аснове свабоднага словазлучэння, якое ў маўленні шафёраў ужываецца з прамым значэннем.

**Ляжаць пад сукном.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Заставацца без увагі, без разгляду, рэалізацыі. *Затым я напісаў заяву... Але заява ляжыць пад сукном. Калі ласка, дапамажыце разабрацца* (Звязда. 7.06.1987).

Узнік у выніку пераасэнсавання свабоднага словазлучэння, звязанага з даўнейшай судовай практыкай, калі тыя ці іншыя заявы, прашэнні знарок адкладваліся на доўгі час і ляжалі пад сукном, якім засцілаўся стол чыноўніка.

**Ляжачага не б'юць.** *Агульны для ўсходнесл., а таксама польск.* (leżącego się nie bije), *балг.* (легнал човек не се бие) *м.: параўн. у чэшск.: k* zemi sгazeneho nebij. Ужыв. са значэннем 'таго, хто трапіў у бяду, не караюць'. *З кучы трупаў каля машын выцягнулі аднаго жывога... Ён, бачыце, не толькі не фашыст, а нават і не немец... Прыгадаў нават тое, што бацькаўшчына яго, Італія, ужо не ваюе супроць Расіі і што яму вельмі б хацелася жыць... Ну, чорт з табой, ляжачага не б'юць* (Я. Брыль. Нёманскія казакі).

Першапачаткова гэта было правіла кулачнай бойкі, якое ведалі яшчэ ў старажытныя часы. Правіла часам парушалі, таму пра яго даводзілася нагадваць. Напрыклад, ва «Указе» (1726) Пятра II гаворыцца, што калі хто ўпадзе, то каб ляжачых не білі.

**Ляйчына пад хвост папала** *каму. Агульны дляўсходнесл. м. (руск.* вожжа (шлея) под хвост попала, *укр.* вожжина (віжка) під хвіст попала (потрапіла). Хто-н. вядзе сябе неўраўнаважана, праяўляе ўпартасць, самадурства. *Ну, то што там у цябе з жонкай? Расказвай. Што там ёй ляйчына зноў пад хвост папала?* (В. Макоўскі. Бацькава слова).

Фразеалагізм «конскага паходжання». Пад канцом кораня конскага хваста ёсць вельмі адчувальнае, не пакрытае шэрсцю месца. Калі да яго дакрануцца ляйчынай, конь не знаходзіць сабе месца, імчыць што ёсць духу. Параўн. у байцы К. Крапівы «Стары і Малады», дзе адзін конь ушчувае другога: «Разумны ты ды малайчына да той пары, пакуль ляйчына не пападзе табе пад хвост, ну, а тады — панёс, ці з плугам будзеш ты, ці з возам, — і дзе твой дзенецца ўвесь розум!»

**Лямант у пустыні.** *Гл.* <марны> лямант (голас) у пустыні.

**Ля разбітага карыта.** *Няпоўная калька з руск. м.* (у разбитого корыта). Ужываецца са значэннем ‘ні з чым, страціўшы ўвесь ранейшы набытак’: — *То колькі маўчаць?! — азвалася ўжо трэцяя бабка, што таксама засталася ля разбітага карыта* (А. Карпюк. Вершалінскі рай).

Крылаты выраз з «Казкі пра рыбака і рыбку» (1835) А. С. Пушкіна. Словазлучэнне выкарыстоўваецца ў казцы спачатку з прамым значэннем, калі расказваецца, як залатая рыбка выканала першае жаданне прагнай старой: замяніла ёй разбітае карыта на новае. У канцы казкі словазлучэнне адначасова набывае і вобразны, пераносны сэнс: багацце знікла, старая засталася з разбітым карытам.

**Ляцець (паляцець) у тартарары.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Змяняцца карэнным чынам, развальвацца, гінуць. *Можа б,* [паручнік] *жыў так і далей, калі б не вайна, не гэтая рэвалюцыя, калі ўсё ранейшае паляцелаў тартарары* (В. Быкаў. Перад канцом).

Назоўнікавы кампанент, неўжывальны па-за фразеалагізмам, з’яўляецца формай він. скл. мн. л. ад *тартар* — назоўніка, запазычанага з грэч. м., якім, паводле міфалогіі, называлася тая частка падземнага царства, дзе знаходзіцца пекла і куды пасля смерці перасяляліся грэшнікі. У Тартар скінуў Зеўс тытанаў, якія пачалі былі барацьбу з ім за авалоданне небам. Лічыцца, што на аснове гэтых уяўленняў і склаўся фразеалагізм.

# М

**Маг і чарадзей.** *Паўкалька зруск. м.* (маг и волшебник). Чалавек, які ўсё робіць лёгка і хутка. — *Ты, Фелікс, проста маг і чарадзей! Як гэта табеўдалося* [знайсці друкара]? — *Я ж казаў: дзядзька Максі мне сваяк, хоць і не блізкі* (А. Якімовіч. Кастусь Каліноўскі).

Выраз з камедыі А. В. Сухаво-Кабыліна «Вяселле Крачынскага» (1855), у якой адзін з персанажаў называе махляра і авантурыста Крачынскага магам і чарадзеем.

**Мазаць (абмазаць, вымазаць) дзёгцем** *каго, што. Агульны для ўсходнесл. м.* Незаслужана зневажаць, бэсціць, чарніць. *За вочы бэсціць, дзёгцем мажа і несусвеціцу нясе, а стрэне — камплі́менты кажа і доўга дзве рукі трасе* (С. Грахоўскі. «Сумленны»).

Узнікненне фразеалагізма звязана з даўнейшым звычаем мазаць дзёгцем у начны час вароты гаспадару, намякаючы гэтым на якую-небудзь правіннасць гаспадара ці членаў яго сям'і і тым самым ганьбячы іх.

**Мазгі набакір** *у каго. Паўкалька з рус. м.* (мозги набекрень). Хто-н. прыдуркаваты, з дзівацтвам. *Спачатку і мне думалася: яны людзі. Аслеплі ад самаўлюбёнасці, дый мазгі набакір. Цяпер жа ведаю: маразм; і, каб абараніць жывое, патрэбны не адны словы!* (У. Карпаў. Жывое сячэнне).

Склаўся, відаць, па аналогіі з ужо існуючым, сэнсава тоесным выразам *мазгі не на месцы* ў каго. *Набакір* (у дачыненні да мазгоў) першапачаткова абазначала 'зрушаныя набок, скрыўленыя, як шапка, ссунутая набакір'.

**Малако на губах не абсохла** *ў каго. Агульны для ўсходнесл. м.* Хто-н. малады і зусім нявопытны. *Пасаромейся б! Вучань!.. Малако на губах не абсохла* (І.Шамякін. Крыніцы).

У сучасных слоўніках фразеалагізм звычайна фіксуецца ў форме *малако на губах не абсохла* і выступае як нематываваная адзінка. У зборніку І.І.Насовіча ён падаецца ў больш поўнай форме — з семантычна апорным кампанентам: *матчына малако на губах не абсохла.* З сэнсаўтваральным кампанентам выкарыстаў гэты выраз і Я. Купала ў п'есе «Прымакі»: «Занадта рана пачалі ўжо нюхацца з сабою. Янгчэ малако матчына на губах ці абсохла». Параўн. таксама індывідуальна-аўтарскае ўжыванне выразу ў рамане С. Баранавых «Калі ўзыходзіла сонца»: «Абы абцёр матчына малако — ужо кавалер». У вобразнай аснове фразеалагізма —

гіпербала як мастацкі сродак. Унутраная форма фразеалагізма лёгка расшыфроўвалася, пакуль ён не страціў кампанента *матчына.* Гісторыя гэтага выразу адлюстроўвае жывы моўны працэс — вызваленне фразеалагізмаў ад семантычна апорных слоў.

**Малая сошка.** *Пайкалька з руск. м.* Нязначны, малаважны, неўплывовы чалавек. *І ўсе ведалі, што гэта не проста словы, што, крый божа, трапіць Арцёму Захаравічу цяпер на вочы: літасці не будзе нікому, нават другому і трэцяму сакратарам, нават Валатовічу, не кажучы ўжо аб загадчыках аддзелаў, інструктарах, інспектарах і іншых «малых сошках»* (І.Шамякін. Крыніцы).

Словам *саха* раней называлі не толькі прыладу земляроба, але і пэўны кавалак зямлі, які лічыўся адзінкай падатковага абкладання, а таксама абшчыну, што аб’ядноўвала ў сваім складзе «сошных людзей» для выплаты подацей. Былі вялікія сохі і малыя, або «сошкі», сельскія і гарадскія. Сохі падзяляліся на долі. Удзельная вага, уплывовасць чалавека вызначаліся велічынёй яго долі ў сасе. Таму бедных сялян, а таксама дробных чыноўнікаў і збяднелых дваран пагардліва або насмешліва называлі «мелкой сошкой».

**Малоць не падсяваючы.** *Уласна бел.* Гаварыць глупства, пустасловіць. *Ах ты, чорт аднавокі! Гэта ж трэба так малоць не падсяваючы. Прыдумаў!* (І.Ласкоў. Зімовыя лісты).

Утвораны ў выніку «разгортвання слова ў фразеалагізм» (В. М. Макіенка). Тут на рэалізаванае спачатку пераноснае значэнне дзеяслова *малоць* ‘балбатаць, пустасловіць’ накладзена прамое значэнне ‘размолваць,ператвараць зерне ў муку’ з адначасовым далейшым дапаўненнем гэтага дзеяслова дзеепрыслоўем з адмоўем — *не падсяваючы* ў сэнсе ‘не прасейваючы муку праз сіта, не пытлюючы яе’.

**Малочныя рэкі <з кісельнымі берагамі>.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Ужыв. са значэннем ‘прывольнае жыццё’. *З чаго ж пачынаюць работу ў такіх умовах, як не з плана. Не абяцаць ніякіх малочных рэк, а сказаць проста і ясна: давайце працаваць… Толк будзе…* (І.Навуменка. Вясновыя праталіны).

Склаўся на аснове казачных вобразаў. У народнай казцы гаворыцца пра далёкі мінулы час, калі «рэкі цяклі малочныя, берагі былі кісельныя, а па палях лёталі смажаныя курапаткі».

**Мамаева пабоішча.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Ужыв. са значэннямі: 1) вялікая сварка, бойка, 2) поўны беспарадак, неразбярыха. *О, каша заварваецца, — задаволена паціраў рукі Арцём. От жа мамаева пабоішча пачынаецца!* (В. Блакіт. Усмешка Фартуны). — *Калі ласка, палюбуйцеся на гэтага героя, які ўчыніў у*

*класе мамаева пабоішча! А? Як вам падабаецца? — пераможна і зларадна ггытаў Арэшкін. — Зашпілі каўнер* (І.Шамякін. Крыніцы).

Узнік у выніку пераасэнсавання састаўной назвы гістарычнай падзеі: у 1380 г. на Куліковым полі былі разбіты войскі татарскага хана Мамая. У бітве разам з рускімі на чале з Дзмітрыем Данскім прымалі ўдзел беларускія і ўкраінскія атрады. Бітва гэта называецца Кулікоўскай, а таксама Мамаевым пабоішчам.

**Мамчын (мамін) сынок.** *Відаць, калька з ням. м., дзе замест фразеалагізма ўжыв. сэнсава раўназначны складаны назоўнік* Muttersöhnchen. Распешчаны, збалаваны, ні да чаго не прыстасаваны хлопчык ці малады чалавек. — *Што ж, песці, гадуй мамчынага сынка. Мужчыну трэба гадаваць па-мужчынску, строга, — гаварыў Міхал* (Л. Арабей. Другі).

Выраз усведамляецца як матываваны, падсвечаны іроніяй.

**Манна з неба сыплецца (падае)** *каму, у каго, для каго. Агульны для ўсходнесл. м.* Каму-н. вельмі лёгка, само сабой дастаюцца сродкі для пражыцця, набытак і пад. *Думаеш, у Сенніцы табе манна з неба сыпацца будзе?..* (С. Александровіч. Незабыўнымі сцежкамі).

Склаўся на аснове фразеалагізма *манна нябесная* (гл.).

**Манна нябесная.** *Відаць, паўкалька з франц. м.* (manne céleste). Ужыв. са значэннямі ‘што-н. вельмі патрэбнае, доўгачаканае’ і ‘багацце падазронага паходжання’. *У калгас* [мужчыны] *пайшлі не думаючы. Пайшлі таму, што ўсе ішлі. Або думалі, што калгас — гэта рай, дзе даюць манну нябесную…* (В. Каваленка. Падвышанае неба). *Адкуль яму, думаем, такая манна нябесная?.. Ды нехта зірк, а на грашовых пераводах акуратныя штампікі: маўляў, грошы пасылае рэдакцыя* (М. Кусянкоў. Пра воўка памоўка).

Выток фразеалагізма — біблейскі аповед (Зыход, 16, 14–16, 31) пра «сыноў Ізраіля», якія на працягу 40 гадоў елі манну, пакуль не прыйшлі ў зямлю абяцаную. Манну, калі іудзеі ішлі пустыняй, кожную раніцу нібыта пасылаў з неба Бог.

*Чакаць* **манны нябеснай.** *Агульны для ўсходнесл. м.* (Чакаць) малаверагоднай дапамогі, падтрымкі, вынікаў. *Адамаўна ўсё можа, а мы чакаем нябеснай манны, дарагі час марнуем, а за прастой нам не плоцяць* (А. Масарэнка. Баргузінскае лета).

Утварыўся на аснове фразеалагізма *манна нябесная* (гл.), стаўшы ўжывацца пры строга акрэсленым дзеяслове-суправаджальніку.

**<Марны> лямант (голас) у пустыні.** *Недакладная паўкалька з царк. — слав. м.* (*параўн. у руск.:* глас вопиющего в пустыне, *укр.:* голос волаючего в пустелі, польск. głos wołającego na

puszczy). Дарэмныя заклікі да чаго-н., якія застаюцца без увагі. *А я нічым не магу памагчы вечнасці, акрамя вечнага паўтарэння аднаго і таго ж, вечнага заклiку да сумлення братоў. Заклікання, якое часам бывае марным лямантам у пустыні* (У. Караткевіч. Студзёная вясна…).

Паходзіць з Біблii (Ісаія, 40, 3). Прарок Ісаія ў пустыні, гаворачы пра будучае вяртанне іудзеяў з вавілонскага палону, заклікае ізраільцян, каб яны падрыхтавалі шлях Богу. Але гэты заклік так і застаўся «гласом вопиющего в пустыне».

**Мастацтва для (дзеля) мастацтва.** *Калька з франц. м.* (l'art pour l'art). Бескарысная справа, бескарысны занятак. *За крытыку трэба дзякаваць кожнаму, калі толькі гэтая крытыка імкнецца дапамагчы справе. Але калі гэтая крытыка ёсць своеасаблівае мастацтва дзеля мастацтва, дык за яе дзякаваць няма чаго* (К. Чорны. Публіцыстычныя нататкі).

Склаўся ў выніку пераасэнсавання тэрміналагічнага словазлучэння, упершыню ўжытага французскім філосафам-ідэалістам В. Кузенам у 1818 г. у часе чытання ў Сарбоне 22-й лекцыі «Курса філасофіі». Састаўны тэрмін выкарыстоўваўся як лозунг, абвешчаны прыхільнікамі так званага «чыстага», «свабоднага» мастацтва, якія не прызнаюць грамадскага прызначэння і ідэйнага зместу мастацтва.

**Масты спалены** *<чаго, куды>. Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* мосты сожжены, *укр.* мости спалени). Хто-н. канчаткова пазбаўлены магчымасці вярнуцца да ранейшага. [Юткевіч] *адмовіўся ехаць у тую краіну, якая дала яму жыццё, дала яму славу. Адмовіўся, і яго пакінулі. Масты ў новы свет былі спалены* (Б.Мікуліч. Дужасць).

Структурна арганізаваны як двухсастаўны сказ, выраз утварыўся на аснове суадноснага з ім дзеяслоўнага фразеалагізма *спаліць <за сабой> масты* узнікненне якога звязана з гісторыяй войнаў і паходаў. Было нямала выпадкаў, калі, наступаючы і пераправіўшыся на другі бок ракі, палкаводцы спальвалі за сабой масты, каб паказаць салдатам, што назад дарогі адрэзаны і што наперадзе толькі рашучая і пераможная барацьба або смерць.

**Матаць (намотваць, наматаць) <сабе> на вус** *што. Агульны для ўсходнесл. м.* Цвёрда запамінаць, улічваць на будучае. *Дзед Талаш прыглядаўся да Букрэя, прыслухоўваўся да яго загадаў і каманды і ўсё гэта матаў сабе на вус* (Я. Колас. Дрыгва).

У фразеалагізме, відаць, знайшла адлюстраванне нервозная прывычка падкручваць вусы ў часе роздуму.

**Мафусаілаў век.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Вельмі доўгае жыццё, даўгалецце. *Няхай чалавек сам сабе ўстановіць мафусаілаў век* (А. Мальдзіс. Восень пасярод вясны).

Паходзіць з біблейскага тэксту (Быццё, 5,12) пра патрыярха Мафусаіла, які пражыў нібыта 969 гадоў.

**Махаць пасля бойкі кулакамі.** *Гл.* размахваць (махаць, памахаць) пасля бойкі кулакамі.

**Махнуць рукой** *на каго, на што. Агульны для ўсходнесл. і польск. м.* Перастаць звяртаць увагу на каго-, што-н., перастаць цікавіцца кім-, чым-н. *На Сымонку даўно ў хаце ўсе махнулі ўжо рукой* (Я. Колас. Сымон-музыка).

Фразеалагізм жэставага паходжання: унутраны стан чалавека апісваецца праз пэўны жэст — знешні выразнік гэтага стану.

**Медны лоб.** *Калька з франц. м.* (front d'airain). Тупы, абмежаваны ці занадта ўпарты чалавек. *Там, дзе ён робіць расцяроб, знікае ўсё жывое... На тое ж ён — і медны лоб, стварэнне ў помсце злое* (А. Бачыла. Медны лоб). Параўн. каламбурнае выкарыстанне фразеалагізма ў вершы Я. Купалы «На тэму крытыкі і самакрытыкі»; *О, крытык, грызапёр мой бедны! Чытач, яго ты пажалей; не месціць, брат, яго лоб медны ні прынцыпаў тых, ні ідэй.*

Прыметнік *медны* як эпітэт да слова *лоб* выкарыстоўваўся ў лац. м., сустракаецца ў Бібліі (Ісаія, 48, 4): «жила железна, выя твоя, и чело твое медяно» (у шыі тваёй жыла жалезная, і лоб твой медны). У франц. м. словазлучэнне *медны лоб* стала ўжывацца з пераносным значэннем і перайшло ў шмат якія еўрапейскія мовы.

**Мераць асьмінай** *грошы. Уласна бел.* Многа мець, атрымліваць, нажываць (грошай). *[Куторга: ] Ды і пасаг мае гаспадарскі: адна ў бацькоў; а стары грошы асьмінаю мерае* (В. Дунін-Марцінкевіч. Пінская шляхта).

*Асьміна* (ад лічэбніка *восем)* — устар. слова, старая мера аб'ёму сыпкіх цел, пасудзіна на тры пуды збожжа або на восьмую частку бочкі (каля 105 л). Фразеалагізм засноўваецца на гіпербале. Гэта гіпербалічнасць падкрэсліваецца ў паэме Я. Купалы «Адплата кахання» ўжываннем спалучэння *чуць не* перад фразеалагізмам: «Жыў шляхціц багаты; меў поля ён многа, і конікаў сытых, і ўсякай скаціны, і грошы, што *чуць* іх *не* мераў асьмінай».

**Мераць на адзін капыл** *каго. Уласна бел.* Меркаваць пра каго-н., ацэньваць каго-н. абсалютна аднолькава, без уліку індывідуальных асаблівасцей. *Але, бачыце, нельга ўсіх рабочых мераць на адзін капыл* (Р. Мурашка. Сын).

Кантамінаванае ўтварэнне, узнікла аб'яднаннем фразеалагізмаў *мераць на адзін аршын + на адзін капыл* і захавала значэнне фразеалагізма *мераць на адзін аршын.*

**Мераць на свой аршын** *каго, што. Агульны для ўсходнесл. м.* Меркаваць пра каго-, што-н. аднабакова, суб'ектыўна, з асабістага пункту гледжання. *Сядзіць такі ваяка-кіраўнік у*

*лясным зацішку і мерае ўсіх на свой аршын, нават папракае другіх, распякае, павучае* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Склаўся ў выніку пераасэнсавання свабоднага словазлучэння. Даўней, да ўвядзення метрычнай сістэмы, карысталіся аршынам — мерай даўжыні, роўнай 71,12 см. Аршыны выраблялiся саматужна і не заўсёды былі дакладнымі па даўжыні. Часам купец меў некалькі аршынаў і пры зручным выпадку мераў на «свой», укарочаны аршын.

**Мераць на свой капыл** *каго, што. Уласна бел.* Меркаваць пра каго-, што-н. аднабакова, суб'ектыўна, толькі са свайго пункту гледжання. *Адчапіся ты, дзядзька Марцін! Не мерай ты ўсіх на свой капыл!* (Я. Брыль. Апошняя сустрэча).

Узнік шляхам аб'яднання двух фразеалагізмаў у адзін: *мераць на свой аршын + на свой капыл.* Кантамінаванае ўтварэнне захавала значэнне фразеалагізма *мераць на свой аршын.*

**Месца пад сонцам.** *Калька з франц. м.* (place au soleil). Ужыв. са значэннямі 'права на існаванне' і 'трывалае, высокае месца ў грамадстве'. *[Скарына: ] Я за пошук месца пад сонцам для ўсіх моў і супраць міжрэлігійнай рознасці, а вы…* (А. Петрашкевіч. Напісанае застаецца). *А пра што думаў, чаго дамагаўся? Свайго месца пад сонцам…. А хто не дамагаецца свайго месца пад сонцам?..* (В. Блакіт. Шануй імя сваё).

Аўтар выразу — французскі матэматык, фізік, філосаф Паскаль, які ў творы «Pensées» (1670) ужыў названае спалучэнне са значэннем 'права на існаванне'.

**Месцы не вельмі аддаленыя.** *Гл.* мясціны (месцы) не вельмі аддаленыя.

**Мець зуб** *на каго. Гл.* зуб мець *на каго.*

**Мець месца.** *Калька з франц. м.* (avoir lieu). Абазначае 'быць у наяўнасці' і 'адбывацца, здарацца'. *Асабістыя меркаванні тут не могуць мець месца. Справа ідзе пра чэсць палка* (К. Крапіва. Проба агнём). *І заўважце — такія выпадкі мелі месца не адзін раз і былі ў розных губернях* (Я. Колас. На ростанях).

Унутраная форма скалькаванага фразеалагізма ўспрымаецца выразна.

**Мець на ўвазе.** *Калька з франц. м.* (avoir en vue). Ужыв. са значэннямі 'падразумяваць каго-, што-н.', 'улічваць што-н., не забывацца пра што-н.' і 'разлічваць на што-н.'. — *У такой справе гарачкі пароць не трэба… — Уякой гэта?.. — А ў нашай, партызанскай, — адказаў дзядзька, і цяжка было зразумець, што ён мае на увазе* (У. Дамашэвіч. Між двух агнёў). *Май на ўвазе, мы з табой яшчэ па-людску гаворым!..* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *Сакратар райкома не меў на ўвазе дабівацца ад мядзведзіцкіх якой-небудзь пэўнай пастановы* (К. Крапіва. Мядзведзічы).

**Мецъ справу** *з кім, з чым. Калька з франц. м,* (avoir affaire aves). Ужыв. са значэннямі: 1) сутыкацца з кім-н. ці з якім-н. фактам, з'явай і пад., 2) уступаць у якія-н. адносіны, у пэўныя сувязі, 3) карыстацца чым-н., зварочвацца да чаго-н. — *Мы маем справу з таварышам, — гаварыў сакратар, — які парваў, я падкрэсліваю, які іменна парваў з бацькамі-гандлярамі* (П. Галавач. Вінаваты). *Ды і ўсё ройна ж праз Лібу прыйдзецца мець справу з яе бацькамі* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Магазін — Міншвеяў дваццаць, прадаўцоў зусім няма там: хто прыходзіць адзявацца, мае справу з аўтаматам* (К. Крапіва. Хвядос — Чырвоны нос).

Паходзіць з маўлення камерсантаў і напачатку дастасоўваўся да вядзення якой-небудзь сумеснай справы.

**Мецъ сэрца** *на каго. Агульны для ўсходнесл. м.* Злавацца на каго-н. *І Костусь броеы свае хмурыць: і ён на брата сэрца мае, бо Уладзя дзядзьку зневажае* (Я. Колас. Новая зямля).

Першапачатковае значэнне слова *сэрца* тут — 'цэнтр злосці, гневу' (параўн.: *сердаваць, сярдзіты).*

**Мёртвая хватка.** *Агульны для ўсходнесл. і балг.* (мъртво хващане) *м.* Здольнасць упарта дабівацца свайго. *Начальніка ліцейнага цэняць за яго спраўнасць, за мёртвую хватку ў рабоце, паважаюць як практыка* (У. Карпаў. Вясеннія ліўні).

Узнік у выніку метафарызацыі тэрміналагічнага словазлучэння, вядомага ў мове паляўнічых, дзе яно абазначае хватку ў сабак, пры якой сківіцы, сутаргава сціснуўшыся, доўгі час не могуць разамккуцца.

**Мёртвым грузам** *ляжаць. Калька з англ. м.* (dead load, літаральна «мёртвы груз»). Без выкарыстання, як зусім непатрэбнае. *Мёртвым грузам ляжаць яны* [некаторыя творы], *Як муміі ў грабніцах, на пыльных стэлажах бібліятэк* (Х. Жычка. Белыя санеты).

У англ. м. ёсць і тэхнічны тэрмін *dead load* для абазначэння незапатрабаваных матэрыяльных каштоўнасцей. Фразеалагізм склаўся на аснове гэтага тэрміна.

**Мёртвыя душы.** *Запазыч. з руск. м.* Неіснуючыя асобы, якія толькі фіктыўна лічацца дзе-н. *На заводзе... праходзілі на зарплату мёртвыя душы, грошы за іх атрымоўвалі. Цягнулася гэта некалькі гадоў* (А. Жук. Асабліва небяспечнае).

Выраз з аднайменнай паэмы (1842) М. В. Гогаля. Галоўны герой паэмы Чычыкаў са спекуляцыйнай мэтай скуплівае ў памешчыкаў «мёртвыя душы» — прыгонных сялян-нябожчыкаў, якія па дакументах яшчэ лічыліся жывымі.

**Між двух агнёў.** *Ужыв. таксама ўруск.* (между двух огней), укр. (між двома вогнями), *балг.* (между два огьня), *серб. — харв.* (изме у две ватра) *м.* У становішчы, калі небяспечна з абодвух

бакоў. У *вайну немцы паставілі Анікея на нейкі час старастам. Вялікім дыпламатам трэба было быць, каб круціцца між двух агнёў — займаць такую пасаду і не даваць у крыўду людзей* (М. Ракітны. Чысціня).

Мяркуюць, што ўзнікненне фразеалагізма звязана са звычаем, які быў у цюркскіх і мангольскіх ханаў Каб трапіць у штаб хана, трэба было прайсці між двух ачышчальных агнёў Як сведчыць адзін з летапісаў, у 1246 г. у стаўцы Батыя пакаралі смерцю вялікага князя Міхаіла Чарнігаўскага за тое, што ён не захацеў прайсці паміж двух агнёў. Пра гэты абразлівы ханскі звычай ведалі і ў Заходняй Еўропе. Захаваліся, напрыклад, успаміны італьянца П. Карпіні (XIII ст.), які піша пра культ агню ў манголаў: «Робяць два агні і побач ставяць два кап'і з вяроўкай на верхавіне... і між двух агнёў праходзяць людзі, жывёлы». На гэтай аснове склаўся фразеалагізм *між двух агнёў* і ў немцаў (*zwischen zwei Feuer),* французаў (*entre deux feux);* магчыма, гэта калька са славянскіх моў.

**Між (паміж) іншым.** *Калька з франц. м.* (entre autres). Ужыв. са значэннямі 'не звяртаючы асаблівай увагі, мімаходам' і 'дарэчы; у сувязі са сказаным'. *Нават і на канікулах* [Васіль і Максім] *сустракаліся так сабе, між іншым, як і з усімі іншымі былымі аднакласнікамі* (І.Шамякін. У добры час). *Паміж іншым, таварыш Дубіцкі, ты вельмі смелы* (А. Чарнышэвіч. На сажалках).

**Між (паміж) молатам і кавадлам.** *Калька з ням. м.* (zwischen Hammer und Amboß). У цяжкім становішчы, калі небяспека ці непрыемнасць пагражае з двух бакоў (быць, аказацца, знаходзіцца і пад.) *Карнікі атакавалі партызан з боку Латвіі. Партызанскія брыгады апынуліся паміж молатам і каеадлам* (В. Ждановіч. Асвея).

Паходзіць ад аднайменнай назвы рамана (1868) Фрыдрыха Шпільгагена.

**Між (паміж) намі <кажучы>.** *Калька з франц. м.* (entre nous soit dit). Ужыв. як пабочнае словазлучэнне са значэннем 'пад сакрэтам (пра што-н. такое, чаго не варта гаварыць іншым)' *Учора, між намі кажучы, быў я ля паліўнага склада... Цікавіўся... Дарага, скажу табе, цяпер гэтыя паленцы каштуюць* (М. Капыловіч. Шукаю кватэру).

У франц. м. выраз сфарміраваўся, відаць, пад уплывам фразеалагізма з лац. м. *inter nos.*

**Між (паміж) небам і зямлёй.** *Фразеапагізм з аналагічнай вобразнасцю, структурай і значэннем ёсць амаль ва ўсіх еўрапейскіх мовах.* Яго вытак — Біблія, дзе выраз сустракаецца некалькі разоў. Так, у Другой кнізе царстваў (18, 9) расказваецца,

як у час бітвы дружыннік Авесалом «заблытаўся валасамі сваімі ў галлі дуба і павіс між небам і зямлёю, мул жа яго пад ім прайшоў».

Ужыв. са значэннямі: 1) у стане няпэўнасці, неўладкаванасці (быць, заставацца і пад.), 2) без пастаяннага жылля, дзе давядзецца (жыць, знаходзіцца і пад.), 3) далёка ад рэчаіснасці (быць, існаваць і пад.). *Цяпер яго ўжо нічога не звязвала з арміяй... цяпер ён заставаўся адзін між небам і зямлёю* (В. Быкаў. Жураўліны крык). *Як ёй, адной, з ім, калі і самой між зямлёй і небам жыць даводзіцца?* (І.Мележ. Завеі, снежань). *Душы іхнія, размякчаныя і разагрэтыя гарэлкай, ужо, як кажуць, між небам і зямлёй* (Л. Дайнека. Футбол на замініраваным полі).

**Між (паміж) Сцылай і Харыбдай.** *Паўкалька з ням.* (zwischen Szylla und Charybdis) *ці англ.* (between Scylla and Charybdis) *м.* У цяжкім становішчы, калі непрыемнасці, небяспека пагражаюць з двух бакоў (выбіраць, быць і пад.) *Глыбы думак. Праху глыбы — за сівою даўнінай паміж Сцылай і Харыбдай...* (Я. Янішчыц. Глыбы думак).

Выток фразеалагізма — грэчаская міфалогія. Сцыла і Харыбда — дзве пачвары, якія пільна ахоўвалі Месінскі праліў (паміж Сіцыліяй і Апенінскім паўвостравам) і жылі ў пячорах па абодва бакі ад праліва. Праход праз вузкі праліў (між Сцылай і Харыбдай) быў надзвычай небяспечны для мараплаўцаў.

**Міма вушэй** *прапускаць (прапусціць), пускаць (пусціць), праходзіць (прайсці). Агульны для ўсходнесл. і польск.* (mimo uszu) *м.* Без увагі і рэагавання (прапускаць тое, што гаворыцца кім-н.). *Сама гаспадыня маўчыць, але ніводнае слова наша міма вушэй не прапускае — відаць па яе насцярожанасці* (В. Карамазаў. Векапомнае).

Выраз успрымаецца як матываваны. Першапачаткова ўжываўся, відаць, толькі пры дзеяслове-суправаджальніку *пусціць.* Параўн. адну з першых фіксацый фразеалагізма, якая адносіцца да 1551 г: *А ведь-же его королевская милость, не хотячи тое прозьбы мимо уши свои... пустити* (Акты, относящиеся к истории Западной России. — СПб., 1846–1853, т. 3, с.34).

**Міна запаволенага дзеяння.** *Агульны для белруск.* (мина замедленного действия), *укр.* (міна сповільненої дії) *м.* Тое, што пагражае небяспечнымі наступствамі. *У 30-я гады рукапісы станавіліся для іх аўтараў мінай запаволенага дзеяння, — іх нярэдка падшывалі да судовай справы ў якасці «доказаў» варожай думкі, — і часта служылі «падставай», каб «прышыць» пісьменніку 58-ы артыкул крымінальнага кодэкса — «антысавецкую прапаганду»* (У. Конан. Каментарыі [да кн.: І.Замоцін. Творы]).

Узнік у выніку метафарычнага пераасэнсавання тэрміналагічнага словазлучэння, шырокавядомага ў вайсковай справе.

**Млын пусты.** *Уласна бел.* Чалавек, які займаецца не справай, а пустымі размовамі; балбатун, пустаслоў. — *А што папу казаць я маю? Я печ на рай не памяняю! — Цьфу, млын пусты! ото завала, бадай цябе было зарвала!* (Я. Колас. Новая зямля).

Паходзіць ад параўнання балбатлівага чалавека з пустым млыном, г. зн. такім, які прарэзліва гудзе пры недастатковай загрузцы яго камянёў.

**Можна ў плуг запрагаць** *каго. Уласна бел.* Хто-н. вельмі моцны, здаровы. *Што за народ! Што за людзі! Пабачылі, што бяру без чаргі, па тваім дакуменце, то адразу накінуліся на мяне, гатовыя былі разарваць: якая я, маўляў, інвалідка, мяне ў плуг запрагаць можна* (І.Капыловіч. Калі трэба жыць).

У аснове выразу — гіпербалічнае супастаўленне з канём (паводле сілы, стану здароўя).

**Можна язык зламаць.** *Уласна бел.* Цяжка вымавіць што-н. (слова, фразу і пад.). *Калі некаторыя з гэтых слоў прамаўляюцца лёгка ці з пэўным намаганнем, то на іншых… можна язык зламаць* (А. Каўрус. Служэнне роднаму слову).

У аснове фразеалагізма — нерэальны вобраз, звязаны з языком як органам маўлення.

**Мокрая курыца.** *Відаць, калька з франц. м.* (poule mouillée). Ужыв. са значэннямі ‘чалавек, які мае ўбогі, прыгнечаны выгляд’ і ‘слабавольны, бесхарактарны чалавек’. *Піп адчуваў сябе не героем з неба, а мокрай курыцай* (Я. Маўр. Amok). *А вы, пан турэмны начальнік, будзьце сапраўдным начальнікам, не мокрай курыцай! Тут вам не берлінская галантарэя!* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Узнік у выніку асацыяцыі па падабенстве з курыцай, якая, калі вымакне на дажджы, мае мізэрны выгляд.

**Молада-зелена.** *Запазыч. з руск. м.* Нявопытны, наіўны па маладосці год. *Маладосць, што ты хочаш. Молада-зелена. Дурны быў, паміж намі кажучы. Яно, каб на цяперашні розум, асцеражнейшы быў бы* (В.Гігевіч. Дом, да якога вяртаешся).

Першапачаткова дастасоўваўся да садавіны і агародніны, *зялёны (зелена)* абазначала ‘няспелы, недаспелы’. Параўн., як арыгінальна расшыфроўвае вобразнасць фразеалагізма М. Лынькоў у аповесці «Апошні зверыядавец», далучаючы да кожнага кампанента разгорнутае параўнанне: «Ёрзкая ты ў мяне, браце, дзяўчына. Не нажыць бы бяды часам… Молада-зелена. Так, молада-зелена. Молада, як пахучыя вятры вясновыя, поўныя гуду жыццёвага, перазвону палёў і лясоў — перазвону птушынага,

срэбнага. Зелена, як тыя лісточкі прыбярыхі-бярозы, як тыя лугі-мурагі са сваімі мядовымі краскамі...»

**Мора па калена** *каму. Агульны для ўсходнесл. м.* Паходзіць з прыказкі *П'янаму мора па калена*, у складзе якой ён меў тое ж значэнне 'нічога не страшна, усё нічога не варта'. Сінтаксічныя сувязі фразеалагізма (здольнасць кіраваць давальным склонам: *мора па калена* к а м у) засталіся такімі, якія былі і ў прыказцы. *Некаторыя лічылі, што галоўнае — разбурыць усё старое, што напрыдумлялі паны афіцэры, а тады, маўляў, нам мора па калена...* (І.Шамякін. Матрос з «Алега»).

**Мукі Тантала (танталавы мукі (пакуты).** Выток фразеалагізма — грэч. міфалогія, але склаўся ён як пераасэнсаваны выраз у лац. м. (*Tantali supplicia*), адкуль як фразеалагічная паўкалька перайшоў амаль ва ўсе еўрапейскія мовы. Сэнс выразу — 'нясцерпныя пакуты ад блізкасці жаданай мэты і немажлівасці дасягнуць яе'. *Мукі Тантала — бачыць жанчыне люстэрка і не паглядзецца ў яго* (Б. Сачанка. Манпансье з гарчыцаю). *Думаеш, я не бачыла тваіх танталавых пакут? Бачыла. Але, думаю, маўчаць буду* (Я. Ермаловіч. Валуны).

Паводле міфа, фрыгійскі цар Тантал доўгі час быў любімцам багоў, яго запрашалі на Алімп, пакуль ён не расказаў людзям пра тайнае рашэнне Зеўса (у другіх варыянтах міфа гаворыцца пра іншую віну Тантала перад багамі). Яго сурова пакаралі: скінулі ў падземнае царства на вечныя мукі прагі і голаду. Ён стаяў па горла ў вадзе, але не мог напіцца, бо вада адразу адступала. Над ім звісалі галіны з яблыкамі, грушамі і іншай садавінай і тут жа адхіналіся, калі ён працягваў да іх рукі.

**Мурашкі бегаюць (пабеглі, забегалі) па целе (па спіне, па скуры)** *у каго, каго, чыім. Агульнаслав. (руск.* мурашки бегают по *спине, укр.* мурашкі по тілу бігають, *польск.* mrowie mię przechodzi, *серб. — харв.* пошлі су мравці уз кожу, *балг.* мравки палазват). Хто-н. адчувае дрыжыкі ад моцнага страху, хвалявання і пад. *На дарозе паявілася белая абледзянелая здань. У Міці па целе пабеглі мурашкі* (І.Навуменка. Сасна пры дарозе).

Склаўся на аснове падабенства з'яў, праз супастаўленне адчування дрыжыкаў з бегаючымі па целе мурашкамі.

**Мухі не пакрыўдзіць.** *Агульны для ўсходнесл.(руск.* мухи не обидит, *укр.* мухи не скривдить), *польск.* (muchu nie skrzywdzi), *чэшск.* (ani mouse neubliži) *м.*; параўн. у некаторых іншых мовах: франц. *ne pas faire de mal à une nouche* (літаральна «не прычыніць болю нават мусе», ням. *kann keiner Fliege etwas zuleide tun* (літаральна «не можа прычыніць крыўду нават мусе»). Вельмі ціхі, лагодны, пакорлівы. — *Кастусь добры... — нібы адгадвае нашы*

*думкі дзед. — Мухі не пакрыўдзіць: кавалкам хлеба не папракне, у рот не загляне* (К. Каліна. Світанак).

Вобразнасць фразеалагізма засноўваецца на літоце (знарочыстым прымяншэнні).

**Муціць ваду.** *Гл.* каламуціць (муціць) ваду.

**Мыліць галаву** *каму. Гл.* галаву мыліць (намыліць) *каму.*

**Мышыны жарэбчык.** *Запазыч. з рус. м.* Стары, які любіць заляцацца да маладых жанчын. *Аказваецца, «галубятнікі» перамаглі. Ды няхай не носяцца, мышыныя жарэбчыкі* (Я. Колас. Пісьмо IL Броўку).

Упершыню ўжыты ў паэме М. В. Гогаля «Мёртвыя душы» (1842) — у разгорнутым параўнанні Чычыкава, які перабіраў ножкамі, са старэнькімі фарсунамі, што даволі спрытна бегаюць каля дам і называюцца мышынымі жарэбчыкамі. Відаць, Гогаль і аўтар гэтага выразу. *Мышыны* — колеру мышы (пра масць каня), тут у сэнсе ‘які пачынае сівець’.

**Мядзведжае вуха.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Вечназялёная паўзучая расліна сямейства верасовых з бела-ружовымі кветкамі і чырвонымі ягадамі; талакнянка. *Паблізу раслі смолкі, мядзведжае вуха, дзікі кроп* (М. Даніленка. Ля Дняпра, у другім эшалоне).

Склаўся на аснове падабенства паміж прадаўгаватым махнатым лісцем расліны і мядзведжым вухам.

**Мядзведжы куток (кут).** *Паўкалька з рус. м.* (медвежий угол). Глухая, аддаленая мясціна. *Пасмею запытаць, з якой важнай патрэбай дарагія госці адважыліся наведаць наш гэты мядзведжы куток?* (М. Лобан. На парозе будучыні).

У фразеалагізме — выразны намёк на мядзведжы бярлог, на глуш, дзе толькі водзяцца мядзведзі.

**Мядовы месяц.** *Калька з франц. м,* (la lune de miel), абазначае ‘першы, найбольш шчаслівы час сямейнага жыцця’. *У іншых дома сварка, лямант, крык. А тут бясконца месяц цягнецца мядовы.* (Э. Валасевіч. Развод). Калі выраз дапаўняецца якім-небудзь абстрактным назоўнікам у форме род. скл., то мае сэнс ‘росквіт, лепшы час’: *Польскае шляхецтва перажывала мядовы месяц адраджэння свае дзяржаўнасці, зварот да жыцця, здзяйсненне гадаваных вякамі надзей* (Я. Колас. Дрыгва).

Крылаты выраз з рамана Вальтэра «Задзіг, або Лёс» (1747), дзе сустракаецца ў такім кантэксце: «Задзіг пераканаўся, што першы месяд шлюбу… з’яўляецца мядовым месяцам, а другі— палыновым». Вальтэр выкарыстаў думку і вобразы з персідскага афарызма: «Калі першы месяц шлюбнага жыцця бывае толькі мядовым, то другі бывае палыновым».

**Мяняць (змяніць, перамяніць) пласцінку.** *Калька з франц. м.* (changer le disque). Пераключацца на новую тэму размовы.

*Кравец не толькі не падтрымаў яго, а нават падміргнуў, каб той мяняў хутчэй пласцінку. Толік адразу ж перавёў гаворку на іншую тэму* (Л. Гаўрылкін. Матчына хата).

Склаўся шляхам метафарызацыі адпаведнага свабоднага словазлучэння, звязанага з ігрой на патэфоне, грамафоне, калі даводзіцца замяняць неўпадабаную пласцінку іншай.

**Мясціны (месцы) не вельмі аддаленыя.** *Паўкалька з руск. м.* (места не столь отдаленные). Далёкая ссылка. — *Кажаш, табе патрэбна толькі сталіца? І што ж — здалёк ты шыбуеш да яе? — Здалёк. Хоць у мастацкай літаратуры тыя мясціны завуцца чамусьці «мясцінамі не вельмі аддаленымі»* (Я. Васілёнак. Першы стрэчны).

Выраз з «Улажэння аб пакараннях» царскай Расіі. Першапачаткова мелася на ўвазе ссылка ў еўрапейскую частку краіны.

**Мячы скрыжоўваюцца** *дзе. Агульны для ўсходнесл. м.* Пачынаюцца паядынкі, баі і пад. *Белая Русь... Колькі разоў на яе зямлі скрыжоўваліся мячы, і беларусы першыя прымалі ўдары ад шматлікіх ворагаў, сквапных чужаземцаў* (І.Гурскі. Вецер веку).

Структурна арганізаваны як двухсастаўны сказ, фразеалагізм утварыўся на аснове суадноснага дзеяслоўнага выразу *скрыжоўваць шпагі (мячы)* (з кім) (гл.).

**Мяшацца з гразёю.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* смешиваться с грязью, *укр.* змішуватися з болотом). Усяляк прыніжацца, беспадстаўна абвінавачвацца. *Наша роднае ўхілялася ўбок, аддавалася на смех, выскаленне і кпіны, тапталася нагамі і мяшалася з гразёю, а за прыклад выстаўлялася чужое, велікарускае, дзецям не даступнае і малазразумелае* (Я. Лёсік. Што рабіць?).

Утвораны ад фразеалагізма *мяшаць (змешваць) з граззю (гразёю)* (каго, што) — выразу з жывой унутранай формай, звязанай, хутчэй, з нерэальным, гіпербалізаваным, чым рэальным вобразам.

# Н

**На авось.** *Запазыч. з руск. м.* З разлікам на шчаслівую выпадковасць; наўдачу (рабіць што-н.). *Пагана адчувае сябе Сайка, а ўсё таму што не дадумвае сваіх думак, робіць на авось, пакладаючыся на шчаслівы выпадак* (Я. Колас. Дрыгва).

Лічаць, што слова *авось* паходзіць ад займеннікавага спалучэння *а во се*, якое сустракаецца ў тэкстах XVI–XVII стст. і літаральна абазначала «а вось» (параўн. часціну *авось* з тым самым значэннем у сучаснай бел. літаратурнай м.). Указальнае слова *авось*, якое ў гутарковым маўленні страчвае канцавую галосную, паступова замяняецца на іншыя, у тым ліку на часціцу «можа», «а можа».

**На авось ды нябось.** *Уласна бел.* (параўн. у руск. м.: *авось да небось* са значэннем ‘як будзе, як здарыцца’). З разлікам на шчаслівую выпадковасць; наўдачу (пакладацца, рабіць што-н.). *Кароў аслабленых падвязваць на вужышчы пад жываты бацька не збірайся, падсмейвайся з гультаяватых «зімагораў», што пакладаліся на авось ды нябось* (У. Калеснік. Доўг памяці).

Развіўся ў выніку далучэння да фразеалагізма *на авось* (гл. вышэй) часціцы *нябось*, якая як бы падагнана пад «гукавую сіметрыю».

**На адзін капыл.** *Агульны для ўсходнесл. (руск.* на одну колодку, *укр.* на один копил) *і польск.* (na jedno kopyto) *м.* Аднолькавыя, падобныя адзін да аднаго. *Усе яны* [паны] *на адзін капыл — стараюцца дастаць з цябе ўвесь дух, пакуль ты ў іх служыш* (УДамашэвіч. Дзявочая клятва).

Паходзіць з мовы шаўцоў: *капыл*—‘кавалак дрэва ў форме ступні, на якім шавец робіць абутак’. Зыходная форма выразу — *зробленыя на адзін капыл* (гл.).

**Набітасць рукі.** *Уласна бел.* Вялікі вопыт, добры навык, спрактыкаванасць у чым-н. *Цяжэй, калі чалавек лічыць за прызванне простую набітасць рукі, якая дазваляе без намаганняў зарыфмаваць пару лозунгаў і такім чынам «адгукнуцца» на сур'ёзную патрэбу грамадства, хоць яна не стала ўнутранай патрэбай аўтара* (М. Лужанін. Роздум перад маладымі).

Назоўнікавае ўтварэнне на базе суадноснага дзеяслоўнага фразеалагізма *набіць* руку (на чым, у чым), які абазначае ‘ выпрацоўваючы навык, зрабіцца спрактыкаваным’.

**На благі канец.** *Паўкалька з руск. м.* (на худой конец). Пры найгоршых абставінах. *Мы дарослыя… На благі канец будзем жыць у інтэрнаце або ў нас* (У. Карпаў. Вясеннія ліўні).

Два кампаненты ў скалькаваным выразе — сэнсаўтваральныя: *благі*—суадносіцца з адпаведным словам у значэнні ‘дрэнны, кепскі’, а *канец* — у значэнні ‘завяршэнне, заканчэнне’. Аднак сума гэтых значэнняў усё роўна не тоесная з агульным сэнсам фразеалагізма.

**На блізкую нагу** *быць, сысціся* і пад. *Уласна бел.* Вельмі блізка, у блізкіх, сяброўскіх адносінах (быць з кім-н.). *Праз пару мінут з хлопчыкам мы былі на блізкую нагу, а ў кірпатай жанчыны насцярожанасць рассеялася* (А. Карпюк. Куды едзеш, хлопчык?).

Утварыўся на аснове сэнсава тоеснага фразеалагізма *на кароткую нагу* з кім (гл.): прыметнікавы кампанент заменены словам *блізкі,* якое тут выступае сэнсаўтваральным элементам фразеалагізма.

*Піць* **на брудэршафт.** *Паўкалька з ням. м.* (Brüderschaft trinken, літаральна «братэрства піць»). З правам дружыць і звяртацца адзін да аднаго на «ты». — *Ой, што вы!* — *слаба запярэчыла Клава. — На брудэршафт звычайна п’юць мужчына з мужчынам* (Б. Стральцоў. Між крутых берагоў).

Ужыванне назоўнікавага кампанента, запазычанага з ням. м., з прыназоўнікам *на* замацавалася, відаць, пад уплывам фразеалагізма *на ты* (з кім) (гл.).

**На вагу золата.** *Калька з франц. м.* (au poids de l’or). Ужыв. са значэннямі ‘вельмі высока, дорага (цаніць, каштаваць і пад.)’ і ‘вельмі значны, каштоўны, цэнны’. *Вы ж апрача ўсяго вогнетрывалую цэглу зможаце эканоміць. А яна, пэўна, на вагу золата каштуе?* (У. Карпаў. Вясеннія ліўні). *Цэмент у гады індустрыялізацыі быў на вагу золата* (В. Макарэвіч. Цэмент і барозны).

Унутраная форма фразеалагізма ўсведамляецца выразна.

**На ваду брахаць.** *Уласна бел.* Бясконца многа піць, не могучы прагнаць смагу. *Вобла — гэта добра. Але каб ад яе на ваду не брахаць* (Я. Радкевіч. Сутокі дзён).

Склаўся, відаць, на аснове хадзячага аповеду. Ён занатаваны і ў названым вышэй рамане Я. Радкевіча. Начлежнікі сталі даваць печаную бульбу сабаку, закладваючы ў сярэдзіну яе драбок солі. «Той галодны, бульбіну глыне — і зноў чакае, калі дадуць. Наеўся нарэшце, а соль у страўніку растала і пачала смаліць. Ну, Шарык да вады. Пап’е, пап’е, а хочацца ўсё адно. Ужо і піць не можа, а смага паліць. Дык ён дабяжыць да рэчкі, хлебтане вады, болей не можа — і пачынае на ваду брахаць».

**На валаску** *<ад чаго>. Агульны для ўсходнесл. м.* У вельмі небяспечным становішчы (быць, знаходзіцца). *Многа разоў маё жыццё было на валаску, але жыла нейкая дзіўная ўпэўненасць, што мяне не заб'юць* (У. Дамашэвіч. Хараство душы).

Утварыўся на аснове фразеалагізма *вісець на валаску* (гл.) у выніку ўсячэння яго дзеяслоўнага кампанента.

**На валовай скуры не спішаш** *чаго. Уласна бел.* Вельмі многа, у вялікай колькасці. *На тую пару пасыпаліся прозвішчы ад пастухоў: «Рабы, Галдабыр, Касня...» Куды — на валовай скуры тых прозвішчаў не спішаш* (Цётка. Міхаська).

Узнік праз супастаўленне са старажытным рукапісам, напісаным на пергаменце. Даўней, да вынаходства паперы, пісалі на спецыяльна апрацаванай скуры жывёлы, часцей гэта была валовая скура. Параўн.: «Калі яўрэі ўсім мястэчкам неслі ў сінагогу новую тору, спісаную па далёкай традыцыі на валовай скуры, Бурштэйн ішоў з гзтай самай блішчастай палачкай у першых радах» (П. Пестрак).

**Наварыць піва.** *Агульны для бел., польск.* (nawarżyć piwa), *укр.* (пива наварити) *м.* Распачаць складаную, непрыемную справу. — *Ідзі ты наперад ды пакланіся яму... — Што ты мяне пасылаеш? Ты сам наварыў піва, сам і папівай здароў, я баюся* (В. Дунін-Марцінкевіч. Пінская шляхта).

Паходзіць са свабоднага словазлучэння, у якім *піва* абазначала 'пітво'. Даўней, як пісаў у 1856 г. С. Салаўёў, пітво («піва») варылі ў складчыну і на свята разам пілі яго. Гатаванне піва было далёка не простай справай.

**На вастрыі нажа** *хадзіць. Відаць, калька з ням. м.* (auf des Messers Schneide). У пастаяннай небяспецы для жыцця. *Вось хлопцы ўчора вярнуліся. Два месяцы хадзілі на вастрыі нажа, а верхні чыгуначны мост узарвалі* (Р. Няхай. Туман над стэпам).

Фразеалагізм успрымаецца як матываваны.

**Навастрыць вушы.** *Гл.* вастрыць (навастрыць) вушы.

**На (ва) ўвесь дух.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* во весь дух, *укр.* скільки духу), абазначае 'вельмі хутка' і ўжываецца пры дзеясловах руху *(бегчы, несціся* і інш.). *І адразу ўзяў разгон напраскі хлапчына, на ўвесь дух імчыцца ён...* (В.Вітка. Казка пра цара зубра).

Слова *дух* у гэтым фразеалагізме мае значэнне 'дыханне, дых', якое захавалася толькі ва ўстойлівых выразах (напрыклад: *дух займае, перавесці дух).* Першапачатковы сэнс выразу — 'на ўсё дыханне, колькі хапае дыхання'.

**На векі вечныя.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Назаўсёды, навечна. *Зараз ачысціцца ад вайны тое месца, адкуль ён родам,*

*дзе тыя пяць дзесяцін яго ўласнай на векі вечныя зямлі* (К. Чорны. Семнаццаць год).

Вытворны ад фразеалагізма *ва векі вякоў* (гл.). Ужываючыся ў адмоўных сказах, выраз развіў у сабе значэнне ‘ніколі’. *[Максім: ] Не зазнаць ужо мне на векі вечныя дабра і спакою са сваёй Папанейкай* (Я. Купала. Прымакі).

*Гаварыць* **на вецер.** *Калька з ням.* (in den Wind reden) *ці франц.* (parler en l’air) *м.* (Гаварыць) дарэмна, упустую, безвынікова. *Дзед Талаш гаварыў не на вецер. Вочы яго гарэлі неспакойным злавесным агнём і зачароўвалі Мартына, адбіралі яго волю* (Я. Колас. Дрыгва).

У аснове фразеалагізма — уяўленне, што сказанае кім-небудзь падхопіць вецер і бясследна панясе кудысьці.

**Навешванне лапшы на вушы** *каму. Уласна бел.* Імкненне падмануць каго-н., падман. *Каму ж патрэбна гэта хлусня, навешванне лапшы на вушы простым людзям?* (Нар. воля. 4.03.1998).

Вытворны назоўнікавы фразеалагізм ад суадноснага дзеяслоўнага *вешаць (навешваць, навешаць) лапшу на вушы* (каму).

**Навешванне ярлыкоў.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Павярхоўная, аднабаковая, шаблонная характарыстыка, ацэнка каго-н. *Усё яшчэ існуе пагроза навешвання ярлыкоў у выпадку смелых крытычных абагульненняў; не так і рэдка сустракаецца падмена сацыяльнага аналізу лёгкім маральным каментарыем* (В. Каваленка. Ёсць арыенцір дзейнасці).

Назоўнікавае ўтварэнне ад суадноснага дзеяслоўнага фразеалагізма *вешаць (навешваць, навешаць) ярлыкі* <каму, на каго, на што> ‘аднабакова, шаблонна ацэньваць, характарызаваць каго-н.’.

**На вуснах мёд, а ў (на) сэрцы лёд** *у каго. Агульны для бел. і польск.* (na ustach miód, a w sercu lód) *м.* Хто-н. знешне ветлівы, далікатны, а спадцішка прычыняе шкоду, непрыемнасці. *Мы павінны папярэдзіць тых, у якіх на вуснах мёд, а ў сэрцы лёд, якія на кожным перакрыжаванні брэшуць, як мая старая сучка...* (І.Гурскі. Вецер веку).

Пабудаваны на прыёме антытэзы па мадэлі «знадворку — салодкасць, унутры — гаркота». Параўн. блізкія па ўнутранай форме выразы ў іншых мовах: руск. *на языке мед, а под языком лед;* укр. *на язиці мід, а під язиком лід*; чэшск. v *ustech med, a w srdci jed* (літаральна «на вуснах мёд, а ў сэрцы яд»); франц. *bouche de miel,coeur de fiel* (літаральна «рот у мёдзе, сэрца з жоўцю»).

**На вы** *быць, звяртацца* і пад. *Калька з франц. м.* (vouvoger; літаральна гэты дзеяслоў абазначае «быць на „вы“, звяртацца на „вы“ ці, інакш, „выкаць“»). Ужыв. са значэннямі ‘у такіх адносінах,

калі адзін аднаму кажуць *вы* ' і 'сур'ёзна, па-дзелавому'. *Кунцэвіч на людзях трымаецца на «вы», што заўсёды бянтэжыць Лазовіка* (В. Блакіт. Шануй імя сваё). *Атамная энергія, апаратура рэактара патрабуюць, каб да іх звярталіся на «вы»* (М. Гроднеў. Крох да тайны).

Напісанне *Вы* (з вялікай літары) у пісьмах і дакументах паходзіць ад нямецкага *Sie,* а зварот на *вы* да аднаго чалавека бярэ пачатак у Старажытным Рыме. «Мяркуюць, што калі Рымская імперыя была падзелена на дзве часткі і стала два імператары — у Рыме і ў Канстанцінопалі, людзі, звяртаючыся да імператара, гаварылі: „Вы рашылі", „Вы можаце зрабіць" і пад., маючы на ўвазе не адну асобу, а двух імператараў. Затым гэта было пераасэнсавана як асаблівае ўшанаванне, распаўсюдзілася на найбліжэйшых саноўнікаў імператара (напачатку як ліслівасць), пасля на ўсіх, перад кім хацелі ліслівіць. Паступова важныя асобы сталі патрабаваць, каб да іх звярталіся на „вы" (Русск. яз. в школе. 1979. № 1. С. 49).

**Навядзенне мастоў.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Наладжванне кантактаў з кім-н. *Савет Эканамічнай Узаемадапамогі падаў сігнал да навядзення мастоў у інтарэсах усіх еўрапейскіх народаў* (Звязда. 11.04.1987).

Назоўнікавае ўтварэнне ад суадноснага дзеяслоўнага фразеалагізма *наводзіць (навесці) масты,* які абазначае 'устанаўліваць, наладжваць кантакты з кім-, чым-н.'.

**На вярбе грушы растуць** у *каго. Агульны для бел. і ўкр.* (на вербі груші ростуть) *м.* Хто-н. неймаверна хлусіць, выдумляе, расказвае небыліцы. *Дык жа гэты дзед — вядомы на ўсю акругу манюка Навум Бублік. Уяго на вярбе грушы растуць...* (Р. Хацкевіч. На золку).

Выраз, струкіурна арганізаваны як двухсастаўны сказ, утварыўся на аснове назоўнікавага фразеалагізма *грушы на вярбе* (гл.) шляхам пашырэння яго кампанентнага складу і развіцця інакшай спалучальнасці з кантэкстам.

**На гарматны (пушачны) стрэл (выстрал).** *Агульны для ўсходнесл. м, (руск.* на пушечный выстрел, *укр.* на гарматний постріл). Зусім, ні ў якім разе (не падпускаць; нельга, не трэба падпускаць каго-н.). *[Вера: ] Я такіх, як яе муж, на гарматны стрэл да партыі не падпусціла б!* (І.Мележ. У новым доме).

Першапачаткова абазначаў 'на адлегласць, на якую дзейнічае гармата; на адлегласць гарматнага стрэлу'. Магчыма, выраз склаўся пад уплывам франц. *à portée de fusil* (літаральна „на ружэйны выстрал").

**На горкі яблык.** *Уласна бел.* Вельмі моцна, бязлітасна. *Іх, збітых на горкі яблык, знайшоў нямецкі патруль на глухой вуліцы*

*ля руін* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). Уступае ў спалучальнасць толькі з дзеясловам *збіць* (зрэдку — з яго сінонімамі). Такі лексіка-фразеалагічны кантакт вытлумачваецца вобразнай асновай выразу: горкі яблык, звычайна з дзічкі, перш чым есці, б'юць аб цвёрдае, спускаючы кіслы сок.

**На грэчаскія календы.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Ніколі, невядома калі. — *Пазыч сторублёў. — А аддасі калі? На грэ[час]кія календы? — Ды сёння ж аддам, скнара ты праклятыі — ускіпеў Шахрай і грымнуў далоняй па стале* (Я. Васілёнак. Нараджэнне чалавека).

Утвораны па мадэлі з ужо існуючымі, сэнсава тоеснымі выразамі *на святы Адам, на святое ніколі, на святыя нігды* з запаўненнем структурнай схемы кампанентамі фразеалагізма *да грэчаскіх календаў* (гл.) — паўкалькі з лац. м.

**На дзесятым небе.** *Гл.* на сёмым (дзесятым) небе.

**Надзець шапку Манамаха.** *Запазыч. з руск. м.* Стаць адзіным, поўнаўладным кіраўніком дзяржавы. *Патаемнай жа марай Жыгімонта было самому надзець тую клятую шапку Манамаха* (А. Петрашкевіч. Рупнасць дзяржаўнай асобы пра суверэнітэт Айчыны).

Дзеяслоўны фразеалагізм, утвораны на аснове назоўнікавага *шапка Манамаха* (гл.).

**На другі (задні) план.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* на второй (задний) план, *укр.* на другий (задній) план). Як менш істотны, другарадны, нязначны (адцясніць, адступідь і пад). *Усё гэта неяк само сабой адступіла на задні план перад яго незразумелым неспакоем і незадаволенасцю сабою* (А. Жалязоўскі. У вясковай цішыні).

Паходзіць з маўлення мастакоў, дзе ўжываюць у тэрміналагічным значэнні *першы (пярэдні) план* і *другі (задні) план.* Гл. *на першым (пярэднім) плане.*

**На другім (заднім) плане.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* на втором (заднем) плане, *укр.* на другим (задньому) плані). Менш важны, другарадны, нязначны. *Аксеня цяпер на заднім плане. Яе месца заняла Васіліна* (Т. Хадкевіч. Вяснянка).

Паходзіць з маўлення мастакоў. Гл. *на другі (задні) план* і *на першым (пярэднім) плане.*

**На дух** *не пераносіць, не выносіць* і пад. *Гл.* <і> на дух *не пераносіць, не выносіць* і пад.

**На дыван** *выклікаць, ісці, трапяць* і пад. *Калька з англ. м.* (call on the carpet, літаральна „выклікаць на дыван“). Для сур'ёзнай размовы, адказу на якія-н. прэтэнзіі, заўвагі і пад. *Усіх, хто правінаваціўся, трапіў на дыван да „таты“ — дырэктара*

*саўгаса,* — *адсылалі да Аляксея Трафімавіча на перавыхаванне* (М. Тычына. Дажынкі).

Першапачатковае значэнне выразу — ‘у засланы дываном пакой, кабінет гаспадара, начальніка’.

**На ёту.** *Агульны для бел. і руск. м.* Нямнога, ледзь-ледзь. *Мэты нашы — задачы нашы вы ведаеце. А што мы толкам зрабілі, каб хоць на ёту, наблізіць перамогу нашай справы?* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Узнік па аналогіі з фразеалагізмамі тыпу *на капельку, на макулінку* (выкарыстана іх граматычная структура і першы кампанент). Што да *ёты,* то гэта так называецца літара ***ι*** ў грэч. алфавіце, найтанчэйшая сярод іншых літар.

**На заднім плане.** *Гл.* на другім (заднім) плане.

**На задні план.** *Гл.* на другі (задні) план.

**На задніх лапках хадзіць** *перад кім. Запазыч. з руск. м.* Прыслугоўваць, лісліва дагаджаць каму-н. *Ага, спужайся высокага начальства, пачнеш на задніх лапках перад ім хадзіць...* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Паходзіць з байкі І. А. Крылова „Два сабакі“, дзе спачатку выкарыстаны як свабоднае словазлучэнне (гаворыцца пра сабаку, які ў прамым сэнсе можа хадзіць на задніх лапках), а затым — як выраз з пераносным значэннем (размова ідзе пра людзей). Пакаёвы сабачка Жужу хваліцца дваровому Барбосу, што жыве „ў пяшчоце, у дабры“, п’е і есць „на серабры“ (пераклад К. Крапівы):

„Чым служыш ты?“ — „Чым служыш? Вось пытанне! —
З насмешкай адказаў Жужу: —
На задніх лапках я хаджу“.
Так шчасце многія у тым знаходзяць,
Што ўсё жыццё на задніх лапках ходзяць!

**На здароўе.** *Агульны для бел., руск. і польск.* (na zdrowie) *м.* Колькі хочацца каму-н. і без пярэчанняў з боку таго, хто гаворыць. — *Я кахаю Ганчара...* — *Ну й кахай сабе на здароўе* (Г. Багданава. Паганскія экспрэсіі).

Фразеалагічнае значэнне ў гэтым выразе, ніяк не звязанае з сэнсавай структурай слова *здароўе*, развілося на аснове тоста ці зычэння пры частаванні („ешце, піце на здароўе“), калі спалучэнне *на здароўе* пашырыла сферу свайго дастасавання, выйшаўшы за межы ветлівага кантакту з суразмоўнікам пры гасцяванні, частаванні і пад. Параўн. ужыванне спалучэння ў нефразеалагічным сэнсе: „Няхай ядуць на здароўе, я не шкадую“ (В. Палтаран).

**На злобу дня.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Пра што-н. надзённае, якое хвалюе, займае, цікавіць усіх (гаварыць, пісаць і пад.). *Ласкі нашы звычайна перапыняліся ціхімі гутаркамі і*

*спакойнымі разважаннямі на злобу дня* (М. Гарэцкі. Віленскія камунары).

Фразеалагізм мае застылую, нязменную форму і з’яўляецца ўтварэннем ад назоўнікавага выразу *злоба дня* (гл.), якое ўзнікла на аснове запазычання з царк. — слав. м. — з тэксту Бібліі (Матфей, 6, 34): *Довлеет дневи злоба его* — ‘хапае для кожнага дня сваёй турботы’; *злоба* — ‘турбота, клопат’.

**На злом галавы.** *Уласна бел.* Абазначае ‘не думаючы, неабачліва (рабіць што-н.)’ і ‘вельмі хутка, імкліва, стрымгалоў (імчацца, уцякаць і пад.)’. *У маім лёсе ўсе наадварот. Некалі на злом галавы вырваўся з вёскі, а пад старасць усё часцей і часцей стаў думаць, што зрабіў глупства* (ЛіМ. 1.10.1982). *Тады Чубар скочыў цераз вайка і рынуўся на злом галавы па дарозе да бальшака* (І.Чыгрынаў. Плач перапёлкі).

Асновай для ўтварэння гэтага прыслоўнага фразеалагізма быў дзеяслоўны выраз *зламаць галаву,* які ўжываецца са значэннем ‘знявечыцца, загінуць’, калі гаворка ідзе пра рызыкоўныя дзеянні.

**Называць (назваць) рэчы сваімі імёнамі.** *Калька з франц. м.* (appeler les choses par leurs noms). Гаварыць прама, адкрыта, нічога не ўтойваючы пра каго-, што-н. *[Ягор: ] Аяі не гавару загадкамі. Я называю рэчы сваімі імёнамі, Вадзім Сілавіч* (В. Лукша. Калі вяртаюцца буслы…).

Фразеалагізм успрымаецца як матываваны.

**На кані** *быць, адчуваць сябе. Агульны для ўсходнесл. м.* У прыемнай сітуацыі, у выгадным становішчы. *Васька ўвайшоў у ролю і адчуваў сябе на кані* (А. Жук. Чорны павой).

Параўнальна нядаўняе ўтварэнне, „абломак“ фразеалагізма *на кані і пад канём* ‘у самых разнастайных, прыемных і непрыемных сітуацыях (быць і пад.)’, пабудаванага на супастаўленні дзвюх частак. У „Зборніку беларускіх прыказак“ І.І.Насовіча выраз фіксуецца ў форме *быў на кані і пад канём.*

**На карачках** *паўзці, поўзаць. Агульны для бел. і руск. м.* Адначасова на абедзвюх руках і нагах. *Лейтэнант тут жа развярнуўся ў снезе, на карачках праскочыў у галаву сваёй распластанай над узмежкам калоны, схапіў лыжы* (В. Быкаў. Дажыць да світання).

На думку В. М. Макіенкі, у выразе захавалася старажытнае праславянскае слова *карк (корак)* са значэннем ‘нага жывёліны’. Першапачаткова *карачкі* — ‘маленькія ногі, ножкі’ (відаць, лапы жывёліны), спалучэнне *на карачках* напачатку дастасоўвалася толькі да чатырохногіх (жывёлін).

*Быць, адчуваць сябе* **на кароткай назе** *з кім. Запазыч. з руск. м.* (на короткой ноге). У блізкіх, сяброўскіх адносінах. *Адразу ён*

[Шпулькевіч] *адчуў сябе на кароткай назе з гэтым хлопцам* (К. Чорны. Люба Лук’янская).

У руск. м. выраз трапіў як калька з франц. *sur un pied d'intimité,* дзе апошні кампанент перакладзены прыметнікам *короткий* са значэннем ‘блізкі, сяброўскі’.

**На кароткую нагу** *жыць, станавіцца* і пад. *Уласна бел.* Вельмі блізка, па-сяброўску. *Нупрэеў лічыўся чалавекам сухаватым, у абыходжанні са сваімі падначаленымі ён ніколі не ставіўся, як кажуць, на кароткую нагу, мог нават часамі ні за што нагрубіць чалавеку* (Я. Васілёнак. Сакрэт).

Утварыўся на аснове фразеалагізма *на кароткай назе* з кім (гл.), стаўшы спалучацца з іншымі, чым яго папярэднік, дзеясловамі-суправаджальнікамі.

**На крайні выпадак.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* на крайний случай, *укр.* на крайній випадок). У прадбачанні крайняй неабходнасці, калі не будзе іншага выхаду. [Сцяпан] *можа пайсці ў лес, камандаванне яму гэта дазволіла на крайні выпадак* (У. Шыцік. Масткі над абрывам).

Склаўся, відаць, пад уплывам сінанімічнага з ім фразеалагізма *ў крайнім выпадку* (гл.) — калькі з франц. м.

**На край свету (зямлі)** *ісці, ехаць* і пад. *Агульнаслав. (руск.* на край света, *укр.* на край світу, *польск.* па koniec świata, *чэшск.* па konec sveta, *балг.* накрай света, *серб. — харв.* на крај света і г. д.). Абазначае ‘куды-н. вельмі далёка’ і ‘у любое месца, абы-куды’. *Яна яшчэ дзіця чакала тады... Дык жа не паглядзелі... Забралі... На край свету павезлі...* (МЛынькоў. Сустрэчы). *Я гэтак рада... З вамі я на край зямлі ісці гатова* (А. Бачыла. Загорская восень).

Паходзіць са свабоднага словазлучэння, якое мела канкрэтны сэнс. Зямля, як даўней лічылі,— плоскі чатырохвугольнік з дахам-небам, а край свету — месца, дзе неба сыходзіцца з зямлёй.

**На кругі свая** *вяртацца, вярнуцца, вярнуць* і пад. *Запазыч. з царкслав. м,* Да ранейшага стану; на былое месца. *Будзь спакойная, Чазенія. Усё вярнулася на кругі свая. Жыві добра* (У. Караткевіч. Чазенія).

Выраз з Бібліі (Эклезіяст, 1,1), дзе ўжыты ў кантэксце: *Вяртаецца вецер на кругі свая.* Тут *свая* — форма мужч. р. мн. л. він. скл.

**Накруціць хвост** *каму. Агульны для ўсходнесл. м.* Зрабіць строгую вымову, выгаварыць з дакорам. *Мароз пад’ехаў куставую нараду правесці — хлеб не ішоў па закупу, Трэба было накруціць хвост актыву. На самацёк пусцілі, апартуністы!* (М. Лобан. Гарадок Устронь).

Склаўся ў выніку пераасэнсавання свабоднага словазлучэння, якое ўжываецца ў дачыненні да некаторых свойскіх жывёл.

Параўн.: „Эйдля бачыла, як упіралася карова адна, падала на пярэдняе калена, не хацела ісці. Але Пінька хітры, ён падганяць умее — і біць не б'е, а так хвост накруціць, што тая аж трушком бяжыць“ (М. Лынькоў).

**На кудыкіну гару.** *Агульны для бел. і руск, м.* Ужыв. як уніклівы адказ на пытанне: „Куды ідзеш?“ — *Куды гэта вы?.. — Анікуды!.. — Так ужо і нікуды?.. — Ну тады на кудыкіну гару, — для адчэпкі сказала Дуня Пракопкіна і паспрабавала абмінуць на дарозе паліцэйскага, каб ісці далей* (І.Чыгрынаў Апраўданне крыві).

Прыметнікавы кампанент *кудыкіну,* утвораны ад прыслоўя *куды,* па-за фразеалагізмам у літаратурнай мове не ўжываецца. Мяркуюць, што выраз узнік у асяроддзі паляўнічых. Ідучы на паляванне, яны, у адпаведнасці з павер'ем, ні ў якім разе не называлі месца, куды ідуць: іначай ім не пашанцуе.

**На курынай ножцы.** *Агульны для ўсходнесл. м.,* спалучаецца са словам *хата* і абазначае 'маленькая, мізэрная'. *У Янкі Скрыбы клопаты зусім не такія. У яго хата на курынай ножцы, катух-хлеву-шок, а ў ім карова што тая каза* (У. Дамашэвіч. Ключ да шчасця).

Выраз з народных казак. Параўн.: „Гэта была не хата, а хатка, як з казкі, — на курыных ножках“ (П. Пестрак). Казачны вобраз хаткі на курыных ножках узнік, магчыма, на аснове канкрэтнага зрокавага ўяўлення: драўляныя зрубы, калі мясціна была багністая, ставілі на слупкі або пні.

**На ладан дыхаць.** *Агульны для ўсходнесл. м.* (*руск.* на ладан дышать, *укр.* на ладан дихати; *параўн. у балг. м.*: държа тамяна под носа си — трымаць ладан пад носам). Абазначае 'быць блізкім да смерці' і 'даходзіць да непрыгоднасці, занепадаць'. *Вольгу вершы такіяспачатку не кранулі, яна падумала з грубаватай гарэзлівасцю: „Бач ты, на ладан дыхае, а пра любоў думае“* (І.Шамякін. Гандлярка і паэт). *Электрастанцыя дыхае на ладан* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Паводле хрысціянскага звычаю, чалавека, якому заставалася нядоўга жыць, свяшчэннік спавядаў, прычашчаў і кадзіў ладанам. Выходзіла, што чалавек перад смерцю дыхаў на ладан. Гэта і стала асновай для пераасэнсавання словазлучэння.

**Наламаць дроў.** *Запазыч. з руск. м.* Зрабіць абы-як, нарабіць памылак. *Табе трэба паехаць к Буйкевічу, разабрацца там і... Толькі не налામі дроў* (А. Макаёнак. Лявоніха на арбіце).

Выраз трапіў у рускую літаратурную мову, як сцвярджае С. Ожагаў, з данскіх гаворак праз творы М. Шолахава, іншых пісьменнікаў з Дона. Рэальнымі бытавымі ўмовамі ўзнікнення фразеалагізма з'яўляецца тое, што на Доне ёсць свабоднае словазлучэнне *наламаць дроў* Там, як і ў некаторых мясцінах

Беларусі, дровамі называюць галлё, ламачча і яго на падворку, перад тым як паліць у печы, не сякуць, а ламаюць на калене. Зразумела, ламаюць няроўна, абы-як. Гэта і стала падставай для ўзнікнення на Доне параўнанняў *наломал, как дровишек; сделал, как дровишек наломал* і фразеалагізма *наломать дров.*

**На лбе напісана** *ў каго.* І.Уразаў, Э. Вартаньян, М. Булатаў і інш. лічаць, што з'яўленне гэтага фразеалагізма звязана з суровым звычаем, які захоўваўся ў Расіі аж да 1863 г.: злачынца клеймавалі распаленым жалезам, пакідаючы на шчоках і лбе знакі-літары. Аднак з такой этымалагізацыяй наўрад ці можна згадзіцца, бо выраз *на лбе напісана,* як і *на твары напісана,* ведалі яшчэ ў часы Цыцэрона. Відаць, з латыні выраз прыйшоў у ням. м. *(steht an der Stirn geschrieben),* а з ням. як фразеалагічная калька пранік ва ўсходнесл., чэшск., балг. і іншыя мовы.

Фразеалагізм, значэнне якога 'ясна відаць па знешнім выглядзе чалавека', і сёння ўсведамляецца як матываваны, вобразны, хоць і з нерэальным вобразам у аснове. *Мядзведзя, брат, не чапай. Ён-то на чалавека сам не нападзе. Але ж ён думае, што ты ідзеш на яго. На лбе ж у цябе не напісана, хто ты* (І.Пташнікаў. Мсціжы).

**На лона (на ўлонне) прыроды.** *Агульны для ўсходнесл. м.* За горад, у лес, у поле і пад. (ехаць, выязджаць і пад.). *З зялёных запыленых вагонаў выходзілі дачнікі, грыбнікі, рыбаловы і проста ўсе, хто ў гэты нядзельны дзень выязджаў на ўлонне прыроды* (І.Навуменка. Бульба).

Склаўся на аснове фразеалагізма *на лоне прыроды* (гл.) — калькі з франц. м., стаўшы спалучацца з іншымі, чым яго папярэднік, дзеясловамі-суправаджальнікамі.

На лоне (на ўлонні) прыроды. *Калька з франц. м.* (au sein de la nature). Па-за горадам, у лесе, у полі і пад. (быць, адпачываць і пад.). *Дождж перакрэсліў усе мае сённяшнія сустрэчы на лоне прыроды* (М. Танк. Лісткі календара).

Тут *лона* генетычна абазначае 'грудзі або чэрава як сімвал мацярынства, пяшчоты'.

**На мазі.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Ужыв. са значэннем 'блізка да ажыццяўлення, вось-вось павінна завяршыцца' і звычайна спалучаецца з назоўнікам *справа* або займеннікам *усё. — Ведаеце, — адказаў ён, — не ем, не сплю, усё ад аднаго да другога бегаю, тэлефон сабе дабіваюся. Але, здаецца, усё ўжо на мазі...* (Б. Сачанка. Тэлефон).

Дзеяслоў *мазаць* і назоўнікавы кампанент фразеалагізма *на мазі* — аднаго кораня. Першапачаткова спалучэнне ўжывалася, калі гаварылі пра калёсы, брычкі, восі якіх перад паездкай змазвалі калёснай маззю (параўн. з семантычным вобразам

прыказкі *Не падмажаш — не паедзеш).* На аснове прамога значэння ‘падмазаны (калёсы)’ развілося пераноснае спачатку ‘гатова ў дарогу’, а потым ‘блізка да паспяховага завяршэння’.

**На месцы злачынства.** *Калька з лац. м.* (in loso delicti). Пры яўных доказах, у момант учынення чаго-н. заганнага (захапіць, злавіць і пад.). *Рыгор вінавата ўсміхнуўся, як дураслівы школьнік, якога настаўніца злавіла на месцы злачынства* (К. Крапіва. Мядзведзічы).

Першапачаткова ўжываўся ў юрыдычнай справе.

**Намотваць <сабе> на вус** *што. Гл.* матаць (намотваць, наматаць) <сабе> на вус *што.*

**Намыліць галаву** *каму Гл.* галаву мыліць (намыліць) *каму.*

На мякіне не правядзеш *каго. Агульны для бел. і руск. м.* Не перахітруеш, не абдурыш, не ашукаеш. *Я чалавек кручаны, мяне на мякіне не правядзеш…* (І.Пташнікаў. Мсціжы).

Паходзіць з прыказкі *Старога вераб’я на мякіне не правядзеш,* якая расшчапілася на дзве часткі (гл. *стары верабей).* Адпаведна і яе значэнне ‘вопытнага чалавека не ашукаеш’ размеркавалася паміж двума „абломкамі“. Фразеалагізм ужываецца звычайна толькі ў застылай форме, у якой выкарыстоўваўся (і выкарыстоўваецца) у складзе прыказкі, — з дзеяслоўным кампанентам у другой асобе адзіночнага ліку.

**На паверхні.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* на поверхности, *укр.* на поверхні). Лёгка заўважаецца, усведамляецца. *Якое звяно ў ланцужку сістэмы ўрокаў найчасцей выпадае, не дае належнай эфектыўнасці? Адказ на гэтае пытанне на паверхні* (Настаўн. газ. 28.09.2000).

Утвораны ад фразеалагізма *ляжаць на паверхні* ў выніку ўсячэння дзеяслоўнага кампанента. Абодва выразы амаль ва ўсіх кантэкстах выступаюць як сэнсава ўзаемазамяняльныя, але адрозніваюцца функцыянальна-стылёвай прыналежнасцю: першы *(ляжаць на паверхні)* — функцыянальна не замацаваны, другі *(на паверхні)* — размоўны.

**На паповы сані** *збірацца. Уласна бел.* Паміраць. *У горадзе сорак гадоў бульба па бульбе — звялася. Тут, можа, гады два пародзіць, а там бадай што давядзецца збірацца на паповы сані* (Р. Барадулін. Каму пазваніць?).

У фразеалагізме захаваўся адгалосак даўнейшых эпох. Як сведчаць старажытныя пісьмовыя помнікі Кіеўскай дзяржавы, у даўнія часы быў звычай адвозіць нябожчыка дамесца пахавання на санях у любую пару года. Абрадам пахавання кіраваў поп („поповы поюще обычныя песни“). „У гуцулаў да нашага часу захаваўся звычай адвозіць труну з нябожчыкам на могілкі на санях“ (Ф. М. Янкоўскі). Параўн. фіксацыю выразу ў крыху іншым

кампанентным складзе і ў нятоесным значэнні: выхаваў *на паповы сані* — „смерць, скананне“ (М. Федароўскі. Люд беларускі…, с. 241); *глядзець на паповы сані* — „вельмі кепска пачуваць сябе (пра хворага), рыхтавацца да смерці“ (Ф. Янкоўскі. Беларуская фразеалогія, с. 107). Магчыма, *глядзець на паповы сані*— кантамінаваны выраз, які склаўся ў асобных беларускіх гаворках па структурнай аналогіі з польскім фразеалагізмам *patrzeć na księzą oborę* (літаральна „глядзець на ксяндзоўскую абору“) — „быць блізкім да смерці“.

**На пасад садзіць** *каго. Уласна бел.* Аддаваць замуж. *Раз бяседа вялікая ў князя была: на пасад дачку княжну садзілі* (Я. Купала. Курган).

Узнік у выніку метафарызацыі пераменнага словазлучэння, звязанага з даўнейшым вясельным абрадам. Пасад, як засведчана ў слоўніку І.І.Насовіча, — ‘месца, на якім на вяселлі садзяць нявесту’. У паэме В. Дуніна-Марцінкевіча „Гапон“ словазлучэнне *на пасад садзіць* выкарыстана як свабоднае, з прамым значэнкем слоў: „Лубку з жытам падстаўляюць, маладу на ёй саджаюць, як каралеўну на ўрад; яна ж усцяж галосіць, кругом паклоны разносіць дый зноў сядзе на пасад“.

**Напасці на след** *каго, чаго, чый. Агульны для ўсходнесл. м.* Атрымаць звесткі, якія дапамагаюць выявіць, знайсці каго-, што-н., ці даведацца пра месца, дзе знаходзіцца хто-, што-н. *Каб хто чуў Рыгораў наказ, падумаў бы, што Рыгор напаў на след чалавека, якога шукаў гадамі* (Ц. Гартны. Сокі цаліны).

Паходзіць з маўлення паляўнічых, дзе ўжываецца з прамым значэннем у дачыненні да следу дзікай жывёлы.

**На пень брахаць** *навучыцца, навучыць* і пад. *Уласна бел.* (Вучыць, навучыць каго-н.) гаварыць недарэчнае, неразумнае. — *Скажы, чаго гэта з Верасава цябе прынясло ў Дварчаны. — Выгналі... — Бачу; што і ты ўжо навучыўся на пень брахаць* (В. Адамчык. І скажа той, хто народзіцца). Ужыв. і ў больш развітай, нарошчанай форме: *на пень брахаць, на калоду тукаць: — Яна ж у нас толькі навучыцца. — Навучыцца… На пень брахаць ды на калоду тукаць. Досыць ужо навучылася* (М. Зарэцкі. Як Настулька камсамолкай зрабілася); *Шырэй думай. Табе здаецца, што ў нас… навучаюць на пень брахаць, на калоду тукаць?* (А. Масарэнка. Лесавікі).

Узнік са свабоднага словазлучэння, звязанага з недарэчным сабачым брэхам іншы раз і на пень. Параўн.: „— А ты куды глядзеў? — замахваецца бацька пугай на сабаку. — На пень брэшаш, а на кароў не хочаш“ (В. Шырко); „Дурны сабака і на пень брэша“ (Ф. Янкоўскі).

**На першым (пярэднім) плане.** *Агульны для ўсходнесл. і польск.* (na pierwszym planie) *м.* Важнейшы за ўсё, вышэй за ўсё. *Як была наша школа савецкай, так ёю і засталася. Паказуха на першым плане* (Я. Рагін. Выбіраю радзіму).

Паходзіць з маўлення мастакоў, дзе планам называюць месца, занятае асобай або прадметам у перспектыве, вызначанае паводле адлегласці яго ад назіральніка. Паралельна ўжываюць *пярэдні план* і *першы план, на трэднім плане* і *на першым плане.* Параўн. ужыванне словазлучэння ў тэрміналагічным значэнні: „На малюнку твар недзе там, дзе чалавек грэбаецца рукамі ў зямельцы. А на пярэднім плане тое, што ў такой урачкаванай паставе тырчыць угору“ (М.Гіль).

**На першы погляд.** *Калька з франц. м.* (a premiere vue). З першага ўражання. *Трэба навучыцца з-за малога бачыць вялікае… Тут таксама на першы погляд нязначны маштаб* (Э. Самуйлёнак. Тэорыя Каленбрун).

Выраз з сэнсаўтваральным прыметнікавым кампанентам і матываваным, часткова цэласным значэннем.

**На першы (пярэдні) план.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Як найбольш істотны, важны (выходзіць, выступаць, вылучаць і пад.). *Ва ўмовах палітычнага генацыду… на пярэдні план выступіла праблема захавання нацыі* (В. Рагойша. Бацька нацыі).

Паходзіць з маўлення мастакоў. Гл. *на першым (пярэднім) плане.* Параўн. ужыванне словазлучэння *пярэдні план у* тэрміналагічным значэнні: „Як я біўся над гэтым эцюдам! Не атрымліваўся пярэдні план. Месца роўнае, няма за што воку зачапіцца“ (В. Карамазаў).

**На плыву.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Ва ўцалелым стане (быць, утрымліваць, знаходзіцца, пратрымацца і пад). *Цяпер у раёне толькі 30 працэнтаў гаспадарак неяк зводзяць канцы з канцамі, яшчэ знаходзяцца на плыву* (Звязда. 18.11.1994).

Узнік у выніку асацыяцыі па падабенстве з марскім ці рачным суднам, якое знаходзіцца ў стане плавання.

**На поўную (усю) катушку.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Ужыв. са значэннямі ‘вельмі строга (караць, штрафаваць і пад.)’, ‘па-сапраўд-наму, як і трэба (рабіць што-н.)’ і ‘спаўна, як толькі можна (рабіць што-н.)’. З *непаўналетняга зрабілі мяне дарослым. Судзіць можна ўжо. І далі на поўную катушку* (І.Чыгрынаў. Плывун). *Я, вядома, прадумана спланаваў, каб час ад цягніка да цягніка выкарыстаць разумна, на ўсю, як кажуць, катушку* (П. Кавалёў. Баханка хлеба). *І чалавек прачнуўся ў гэты час. Злавіў у скрынцы джаз і громкасць уключыў на ўсю катушку* (Н.Гілевіч. Ах, як вітаў ён песняй родны кут).

Паходзіць з жаргону зняволеных, дзе *катушка* асацыіруецца з тэрмінам асуджэння, зняволення каго-н. Зыходнае значэнне фразеалагізма — ‘на ўвесь тэрмін, прадугледжаны законам (асудзіць, пакараць і пад.)’, Два іншыя значэнні развіліся ў фразеалагізме, калі ён, маючы цьмяную ўнутраную форму, стаў спалучацца з дзеясловамі не „судовай“ тэматычнай групы.

**На поўным сур’ёзе.** *Пайкалька з руск. м.* (на полном серьёзе). Зусім сур’ёзна. — *Было гэта даўно, — на поўным сур ’ёзе пачынае Лявон. — Надумаў я жаніцца...* (Г. Пашкоў. Палескія вандроўнікі).

Паводле Л.І.Скварцова, выраз склаўся ў акцёрскім прафесійным асяроддзі, а пачынаючы з 1960-х гадоў ужываецца як нейтральны сродак у нарысах, фельетонах, у аўтарскай мове мастацкіх твораў. Актыўна выкарыстоўваецца ён і ў беларускіх тэкстах.

**Напрамілы бог.** *Уласна бел.* Ужыв. з абавязковым прыфразеалагічным словам *прасіць* і абазначае ‘вельмі шчыра, настойліва’. *Чалавек напрамілы бог прасіў за ўзнагароду знайсці партфель, які ён згубіў...* (М. Капыловіч. Шукаю кватэру).

Лексіка-фразеалагічная канструкцыя *прасіць напрамілы бог* знаходзіцца ў шэрагу аднатыпных: *бачыць на свае вочы, чуць на свае вушы, выспацца на поўнае вока, гаварыць на поўны голас.* Таму нярэдка фразеалагізм *напрамілы бог* усведамляецца і арфаграфічна перадаецца як трохкампанентны: „Слухай, браток! Я ж цябе прасіў на прамілы бог фарбаваць цокаль...“ (У. Дубоўка). Кампанент *напрамілы* ўзнік у выніку зліцця прыназоўніка *на* і ўстарэлага прыметніка *прамілы* (дзе прыстаўка праабазначае найвышэйшую ступень якасці). Дарэчы, у помніках старой беларускай пісьменнасці (напрыклад, у „Завяшчанні старасты слонімскага і камянецкага Міхайла Богуша Багавіцінавіча“, 1529) засведчаны варыянт фразеалагізма без прыстаўкі (прыназоўніка) ***на-:***„А на остатокь тыхь всихъ речей прошу промилый Богъ господина моего пана Кгаштолта...“ Сінтаксічная сувязь у канструкцыі *прасіць напрамілы бог* замест чаканай *прасіць на прамілага бога,* відаць, дапускае меркаванне, што выраз *напрамілы бог* склаўся яшчэ ў старажытных беларускіх гаворках: у ім замацавалася форма він. скл., аднолькавая для адушаўлёных і неадушаўлёных назоўнікаў мужч. р. (параўн. старажытныя спалучэнні *въсести на конь, иду на вы).*

**Напускаць туману.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Заблытваць што-н., уводзіць у зман. — *Маці я нічога не сказала... Калі яна напускае туману на маё з ’яўленне на свет, то, нарэшце, мне таксама ўсё роўна, хто мой бацька, — заключыла яна са злосцю* (І.Шамякін. Снежныя зімы).

Выраз паходзіць з адпаведнага свабоднага словазлучэння, што ўжывалася, калі гаворка ішла пра ведзьмакоў і знахароў, якія замовамі, заклінаннямі нібыта маглі ўздзейнічаць на чалавека і прыроду. Карыстаючыся падманам і шарлатанствам, яны часам напускалі на прысутных дурманлівай сіняй пары, туману, як быццам дзеля таго, каб выклікаць адпаведных уяўных духаў.

**На пушачны стрэл.** *Гл.* на гарматны (пушачны) стрэл (выстрал).

**На пярэднім плане.** *Гл.* на першым (пярэднім) плане.

**На пярэдні план.** *Гл.* на першы (пярэдні) план.

**Нарадзіўся ў сарочцы (кашулі).** *Гл.* у сарочцы (кашулі) нарадзіўся.

**Нарадзіцца пад шчаслівай зоркай.** *Напэўна, калька з ням. м.* (unter einem glücklichen Stem geboren sein). Быць шчаслівым, удачлівым, мець поспех у сваіх справах. *Да пары да часу Стэк-Халімон-чык лічыў, што нарадзіўся пад шчаслівай зоркай. Жыў ён без асаблівых клопатаў і жыў, можна сказаць, прыпяваючы* (І.Сіняўскі. Дарога на Замлынне).

Узнікненне выразу звязана з прымхлівымі сцвярджэннямі старажытных астролагаў, што нібыта лёс чалавека залежыць ад таго, пад якой зоркай ці планетай ён нарадзіўся.

**На разбор шапак.** *Агульны для бел. і ўкр.* (на розбір шапок) *м.* Пад самы канец чаго-н., з вялікім спазненнем (прыходзіць, паспяваць, трапляць і пад.). *Было відаць, што вячэра ідзе не першую гадзіну, і я зразумеў, што паспеў на разбор шапак — не болей* (В. Быкаў. Абеліск).

Утварыўся на аснове сэнсава тоеснага фразеалагізма *на шапачны разбор,* які з’яўляецца паўкалькай з руск. м. *(к шапочному разбору).*

**На ростанях.** *Уласна бел.* У стане сумнення, хістанняў, у нерашучасці перад выбарам чаго-н. (быць, заставацца і пад.). *Вершы* [Грынкевіча] *патыхалі нейкай чыстай яснасцю і халаднаватасцю. А гэта смерць для паэта. І ён зразумеў гэта і зараз стаіць на ростанях, не ведаючы, што і як пісаць* (У. Караткевіч. Нельга забыць).

Паходзіць са свабоднага спалучэння слоў, у якім *ростань* абазначае ‘месца перакрыжавання дзвюх або некалькіх дарог’. Зыходная вобразнасць фразеалагізма адлюстроўвае пэўную сітуацыю, калі, напрыклад, вандроўнік, апынуўшыся на перакрыжаванні дарог, задумваецца, па якой з іх ісці.

*Быць, трымацца, стаяць* і пад. **на роўнай назе** *з кім. Недакладная калька з франц. м.* (sur le pied de I’egalite, літаральна „на назе роўнасці“). *Як* роўны з роўным, не прыніжаючы чыёй-н. годнасці. *Коласу, па яго духоўным складзе, было агідна слугаванне і*

*падлашчванне. Ён трымаўся на роўнай назе, папярэдліва і далікатна* (М. Лужанін. Колас расказвае пра сябе).

*Роўнай* (этымалагічна — *роўнасць)* тут выступае як сэнсаўтваральны кампанент.

*Станавіцца, стаць* і пад. **на роўную нагу** *з кім. Агульны для ўсходнесл. м.* Як роўны з роўным. *Пан Скірмунт бярэ петыцыю, ускідае вочы. На твары абразлівая ўсмешка. — Гм! На роўную нагу са мною становяцца: грамадзяне пішуць да грамадзяніна* (Я. Колас.

На ростанях).

Утварыўся на аснове фразеалагізма *на роўнай назе* з кім (гл.) — недакладнай калькі з франц. м., стаўшы спалучацца з іншымі, чым яго папярэднік, дзеясловамі-суправаджальнікамі.

**На руках насіць** *каго. Запазыч. з царк. — слав. м.* Ужыв. са значэннямі ‘надта песціць каго-н.’ і ’высока цаніць каго-н., даражыць кім-н.’. *Мікалай абяцанак-цацанак на руках насіць не даваў. Толькі песню „Выйдзі, каханая“ на жалейцы сваёй напяваў* (Д.Бічэль-Загнетава. Буслянка). *Гэтакі ў цябе муж! Каб у мяне гэтакі быў, ябна руках яго насіла* (М. Лобан. Гарадок Устронь).

Выраз сустракаецца ў евангельскіх тэкстах, у Псалтыры, калі гаворыцца пра Ісуса і яго анёлаў („Анёлам сваім завяшчае цябе; і на руках панясуць цябе“). З царкоўных кніг выраз перайшоў ва ўсе славянскія мовы.

**На руку** *каму. Агульны для ўсходнесл. і польск.* (na rękę) *м.,* ужываецца са значэннем ‘падыходзіць каму-н., выгадна камусьці, адпавядае яго жаданням’. *І чаму-у-то людзі маўчаць?.. Рабочыя маўчаць, салдаты маўчаць... Няўжоа не ведаюць, што іх маўчанка як раз на руку начальству? Га-а? У вас таксама?* (Ц. Гартны. Сокі цаліны).

Выраз з’яўляецца „абломкам“ фразеалагізма *на руку (у руку) іграць* каму (гл.).

**На руку (у руку) іграць** *каму. Калька з англ. м.* (play into hands). Ускосна дапамагаць каму-н. сваімі паводзінамі, дзеяннямі. *Самы адказны момант, дзядзька Лаўрэн, а ты гэтага не хочаш разумець і ідзеш у прагульшчыкі. На гэтым кулацкая агентура спекуляваць будзе, ты на руку кулаку граеш, а ты лепшы ўдарнік* (Э. Самуйлёнак. Паляўнічае шчасце).

Узнік у асяроддзі карцёжнікаў, дзе абазначаў ‘дапамагаць аднаму з ігракоў, падыгрываць яму, даваць магчымасць выйграць ці адыгрaцца’.

**На сваім месцы.** *Калька з франц. м.* (en son lieu). Адпаведны свайму прызначэнню, справе, якой заняты. *[Дзед Цыбулька: ] Вот я добра ведаю, што і Уладзімір Андрэевіч адчувае сябе на сваім*

*месцы. А вы кожны на сваім месцы?* (А. Макаёнак. Таблетку пад язык).

Успрымаецца як матываваны выраз.

**На сваіх дваіх.** *Агульны для бел. і руск. м.,* абазначае ‘пехатою (дабірацца, ісці і пад.)’. *Мы без дзядзі абыдземся... Мы на сваіх дваіх прывыклі тэпаць* (П.Місько. Ціхае лета).

Скарочаны варыянт словазлучэння *на сваіх дваіх нагах,* у якім *нагах*—семантычна апорны кампанент. У сучаснай беларускай мове, як і ў рускай, зборныя лічэбнікі, у тым ліку і *двое,* не спалучаюцца з назоўнікам *нага* (кажуць: *дзве нагі,* а не *двое ног;* адпаведна ў месным скл.: *на дзвюх нагах,* а не *на дваіх нагах); дваіх* — месны скл. ад старой формы зборнага лічэбніка *двоіі* ў значэнні ‘пара’.

**На свой капыл.** *Агульны для ўсходнесл. (руск.* на одну колодку, *укр.* на один копил) і *польск.* (na jedno kopyto) *м.* Пасвойму, на свой узор, лад (рабіць, зрабіць што-н.). *Рыгор і дагэтуль гне на свой капыл усё ў хаце, але, апроч неладоў, нічога з гэтага няма* (К. Чорны. Вясна).

Утвораны шляхам унутрыфразеалагічнай дэрывацыі на базе дзеяслоўнага фразеалагізма *мерацьна свой капыл* у выніку ўсячэння дзеяслоўнага кампанента. Адарваўшыся ад кампанента *мераць,* выраз стаў спалучацца са шмат якімі дзеясловамі поўнага лексічнага значэння *(гнуць, варочаць, перарабіць, збудаваць* і інш.). У гэтым „абломку“ ёсць сэнсаўтваральны кампанент *свой,* суадносны з такім жа словам свабоднага ўжывання.

**На святое ніколі.** *Паўкалька з польск. м.* (na święty nikdy). Невядома калі; ніколі. *[Якім: ] Калі, калі ўжо надойдзе тая часінка, што нас злучыць навекі і мы ўжо ніколі не расстанемся? Калі? Калі?.. [Паўлінка: ] Ха-ха-ха! На святое ніколі* (Я. Купала. Паўлінка).

Утварыўся на ўзор спалучэнняў тыпу *на святога Пятра, на святога Міколу;* параўн. у прыказках-прыметах: *На святога Мацея зіма пацее, На святога Прыска праб’е лёд і пліска.* У гаворках, як засведчана ў М. Федароўскага, выраз ужываецца і без перакладу апошняга кампанента: *на святы нігды*; параўн. таксама: *Аддасць ён табе на святыя мігды, што не ўгледзіш нігды.*

**На святыя нігды.** *Паўкалька з польск. м.* (na święty nikdy, літаральна „на святое ніколі“). Невядома калі. — *Кажуць, што во ў Вайтовічавай хаце маюцца школу адкрыць. — Будзе тое на святыя нігды* (В. Адамчык. І скажа той, хто народзіцца).

Утвораны на ўзор спалучэнняў *на святога Пятра, на святога Міколу.*

**На сёмым небе.** *Магчыма, калька з франц. м.* (au septième ciel). Гэты фразеалагізм супадае сваім значэннем, вобразнасцю, лексічным складам, граматычнай структурай з такімі ж

адпаведнікамі ў славянскіх, а таксама ням., англ. і некаторых іншых мовах. Ужыв. са значэннем ‘бязмерна шчаслівы, вельмі задаволены’: *Ён* [Мірон Іванавіч] *тут жа, перадими, горача падзякаваў Дубку і яго двум памочнікам за ўдала праведзеную аперацыю. Дубок быў на сёмым небе ад радасці* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Выток фразеалагізма — уяўленні старажытных грэкаў, арабаў пра будову свету: купал неба нібыта складаецца з сямі крыштальных сфер; на верхнім, сёмым небе, дзе знаходзіцца Бог, — рай, царства нябеснае. Зыходная вобразнасць фразеалагізма не ўсведамляецца, і гэтым можна вытлумачыць з’яўленне ў некаторых беларускіх гаворках варыянта *на дзесятым небе,* які трапіў і ў мастацкія тэксты: „А калі ты падорыш мне дачку, а потым і сына, дык мы што на дзесятым небе будзем!“ (І.Козел). Дарэчы, у серб. — харв. літаратурнай мове нормай лічыцца *на деветом небу*:.

**На сіні (чорны) пазногаць (пазногцік).** У такой форме фразеалагізм ужыв. ў бел. м. паралельна з выразам *ні на ногаць* і абазначае ‘трошачкі, ледзь-ледзь’. *Вы мяне прынялі як роднага… я ж для вас на сіні пазногаць нічога добрага не зрабіў* (У. Дубоўка. Пялёсткі). *Брыгадзір, рука старшыні, а чым ён памог нам хоць на чорны пазногцік?* (І.Козел. Над хвалямі Серабранкі).

Аналагічны выраз з кампанентам *сіні* ёсць у пскоўскіх, пячорскіх, букавінскіх гаворках *(на синии нёготь, синии ноготок, як за нігтьом сине).* З той жа вобразнасцю, з кампанентам *чорны* ці яго адпаведнікамі (замест *сіні)* фразеалагізм сустракаецца ў шмат якіх іншых славянскіх гаворках. Усё гэта дае падставу, на думку М.І.Талстога, адносіць названы выраз да праславянскай эпохі. Значэнне кампанента *сіні* — ‘чорны’; з такой семантыкай гэта слова выкарыстоўваецца і цяпер у некаторых гаворках, прычым у нефразеалагічным ужыванні. Адсюль першапачатковы сэнс выразу *на сіні пазногаць* — ‘на чорную палоску пад ногцем’.

**Насіцца ў паветры.** *Калька з франц. м.* (être dans l'air). Няўхільна набліжацца, адчувацца, распаўсюджвацца (пра думкі, ідэі, з’явы і пад.). *„Ты перабудаваўся?“ — гэта пытанне не проста насіцца паветры, а яго вось-вось пачнуць тыражыраваць друк і гучнагаварыцелі, развешаныя на ўсіх вуліцах* (А. Кудравец. Усясільная формула).

Фразеалагізм усведамляецца як матываваны.

**Насіць ваду рэшатам (у рэшаце).** *Недакладная калька з лац> м.* (haurire aquam cribro, літаральна „чэрпаць ваду рэшатам“). Рабіць што-н. безвынікова, заведама ўпустую. *Кірыла прамаўчаў: лішне гаварыць — у рэшаце ваду насіць* (А. Асіпенка. Кірыла Уласік).

У аснове фразеалагізма — нерэальны вобраз. Выраз сустракаецца ў камедыі Плаўта „Mercator“. У сярэднявеччы часцей ужываўся з рыфмаваным дадаткам дыдактычнай часткі: *Qui discit sine libro, is aquat haurit cribro* (Хто вучыцца без кнігі, той чэрпае ваду рэшатам).

**Насіць на руках** *каго. Гл.* на руках насіць *каго.*

**На скрут галавы.** *Уласна бел.* Ужыв. са значэннямі ‘не думаючы, безразважна (рабіць што-н.)’ і ‘вельмі хутка, стрымгалоў (кінуцца, імчацца і пад.)’. *Не, немцы не такія дурні, каб на скрут галавы перці за імі ў гушчар, не ведаючы, што іх чакае за кожным кустом* (П.Місько. Мора Герадота). *Кінуцца вось так у кусты на скрут галавы і бегчы… куды вочы глядзяць* (Б. Сачанка. Вялікі Лес).

Узнік на аснове дзеяслоўнага фразеалагізма *скруціць галаву,* адно са значэнняў якога — ‘загінуць, знявечыцца’.

**На славу.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Ужыв. са значэннямі прыслоўным ‘вельмі добра, надзвычайна’ і прыметнікавым ‘вельмі добры, надзвычайны’. *Прыйшлося дзядзьку весці справу і папацецьтакі на славу* (Я. Колас. Новая зямля). *Качагар быў сумленны… І выйшаў бы з яго машыніст на славу* (М. Лынькоў. Андрэй Лятун).

Лічаць, што тут *на* ўжыта ў значэнні ‘ для’. Першапачатковае прыслоўнае значэнне *на славу* — ‘каб пра гэта гаварылі, праслаўлялі’. Прыметнікавае значэнне развілося ў фразеалагізме ў сувязі з тым, што ён замацаваўся ў маўленні і ў сінтаксічнай ролі азначэння да назоўнікаў.

*Верыць, паверыць* **на слова.** *Калька з франц. м.* (sur parole). Давяраючы чыйму-н. запэўненню, без пацвярджэння фактамі, доказамі. *[Чарнавус: ] Якія ж прычыны вашага адчаю? [Туляга: ] Прычыны ёсць, Аляксандр Пятровіч! Паверце мне на слова!* (К. Крапіва. Хто смяецца апошнім).

Можна лічыць, што тут кампанент *слова* — сэнсаўтваральны, суадносны з адным са значэнняў (‘абяцанне зрабіць, выканаць што-н.).

**Настаўляць (наставіць) акуляры** *каму. Уласна бел.* Уводзіць у зман, паказваючы што-н. у фальшывым, скажоным, але выгадным для сябе выглядзе. *Пра багацце гэты пан Адольф гаворыць самазадаволена, бо ведае, што ў гэтым доме шануюць гаспадарлівых. А дзяўчо яму акуляры настаўляе!* (В. Бур’ян. Век на мяжы — і „Паўлінка“ ў афішах).

Фразеалагізаваны крылаты выраз з камедыі К. Крапівы „Хто смяецца апошнім“ (1939): „[Гарлахвацкі—адзін: ] Праўяральшчык знайшоўся! Я, брат, такія акуляры настаўлю, што табе і чорнае белым пакажацца“. „Беларуска-рускі слоўнік“ (1988, т. 1, с. 757) падае як адпаведнік да *наставіць акуляры* рускі фразеалагізм

*втереть очки,* хоць, зразумела, паміж кампанентамі *акуляры* і *очки* няма ніякай сувязі — ні сэнсавай, ні этымалагічнай. Выраз *втирать очки* паходзіць з лексікону карцёжнікаў: шулеры, каб выйграць, ішлі на падман, непрыкметна ўціралі, замазвалі на парашковай карце ачкі, ператваралі, напрыклад, сямёрку ў шасцёрку.

**Настаўляць рогі** *каму. Вядомы славянскім і заходнееўрапейскім мовам*, абазначае ‘здраджваць мужу, становячыся палюбоўніцай іншага мужчыны’ і ‘ашукваць мужа, стаўшы палюбоўнікам яго жонкі’. *І жонка яму рогі настаўляла... ды ён цярпеў, бо рваўся ў чыны* (Э. Валасевіч. Ён не кахаў — жаніўся па разліку…). *Думка пра тое, што ён можа наставіць рогі самаупэўненаму, пыхліваму і нядобразычліваму да яго Макаеду, рассмяшыла* (І. Шамякін. Атланты і карыятыды).

Выраз прыйшоў ва ўсходнеславянскія мовы, на думку М. Міхельсона, або непасрэдна ад грэкаў, або праз французаў. Гэта не зусім дакладная калька (франц. *coiffer de cornes* — „надзяваць рогі“; тое самае і ў немцаў: *Hörner aufsetzen).* Ёсць некалькі меркаванняў адносна этымалагічнай асновы гэтага выразу. Немцы, напрыклад, лічаць, што ён звязаны з іх старажытным звычаем: калі муж ішоў ваяваць, жонка надзявала яму шлем са звярынай шкуры з рагамі, і гэта азначала, што жонка застаецца „на сваёй волі“.

**Наступаць (наступіць) на горла (глотку)** *каму, чаму. Калька з ням. м.* (J-m an die Kehle gehen; літаральна „на горла нахадзіць (наступаць)“). Прымушаць рабіць так, як хочацца, як выгадна каму-н. *Калі нам удасца падвесці масы, як гаворыцца, да барыкад, тады мы зможам наступіць на горла фашызму, тады прадыктуем сваю волю…* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

У аснове фразеалагізма — нерэальны вобраз. Параўн. падобныя выразы з такім самым дзеяслоўным кампанентам: *наступаць на душу* каму, *наступаць на язык* каму, *наступаць сабе на язык, наступаць сабе на горла.*

**Наступаць (наступіць) на граблі.** *Запазыч. з руск. м.* Рабіць непрадуманы крок з магчымымі непрыемнымі наступствамі для таго, хто гэта робіць. *Улады хутка зразумелі, што зноў наступілі на граблі, і праз 16 гадзін* [арыштаванага] *выпусцілі. Праўда, з умовай, што пасля з’езда ён усё ж адбудзе пакаранне* (ЛіМ. 27.06.1997).

Крылаты выраз з байкі Л. Талстога „Вучоны сын“ (1872). Тут расказваецца, як бацька папрасіў сына, які прыехаў з горада ў вёску, узяць граблі і дапамагчы на сенажаці. „А сыну не хацелася працаваць, ён і кажа: „Я вучыўся навукам, а ўсе мужыцкія словы забыў, што такое граблі?““ Толькі ён пайшоў па падворку, наступіў

на граблі, яны яго стукнулі ў лоб. Тады ён і ўспомніў, што такое граблі, хапіўся за лоб і кажа: „І што за дурань тут граблі кінуў!“

**На схіле дзён (жыцця).** *Калька з франц. м.* (sur le déclin de la vie). У глыбокай старасці. *Вось і цяпер, ужо на схіле дзён, душу ўспамін кранае нечакана, калі раптоўна рве кароткі сон забыты голас мілай і каханай* (А. Звонак. Праўдзе веку).

У аснове фразеалагізма — прыпадабненне чалавечага жыцця да пад’ёму і схілу, спуску.

**На сцяну лезці.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Крайне ўзрушвацца, раздражняцца, злавацца. *Іду гэта па Зарэччы, чую, у хаце адной аж на сцяну лезе народ, лямант, вiзг!.. Што гэта, пытаюся. Моляцца, кажа* (Я. Брыль. Праведнікі і зладзеі).

Відаць, фразеалагізм узнік са свабоднага словазлучэння, якім характарызуюць дзеянні раз’юшаных, раздражнёных ці напалоханых жывёл. Напрыклад, у байцы К. Крапівы „Далікатныя Парасяты“: „Наставіўшы хібы і папусціўшы пену, на дзверы лезуць і на сцену“. Або ў апавяданні Ядвігіна Ш. „Чортава ласка“: „Раве скаціна, аж на сцяну лезе, а з хлява ані руш!“ Меркаванне (Э. Вартаньян і інш.), быццам прататып фразеалагізма — словазлучэнне, звязанае са штурмам крапасных сцен, наўрад ці пераканальнае, бо цяжка адчуць хоць якую-небудзь сувязь паміж значэннямі свабоднага і фразеалагічнага словазлучэнняў.

**На ты** *быць. Агульны амаль для ўсіх славянскіх м.* Ужыв. са значэннямі ‘у сяброўскіх, блізкіх адносінах’ і ‘з вельмі добрым разуменнем чаго-н.’. *Мы з ім былі на ты, аднак ён быў на дваццаць гадоў з гакам старэйшы* (Я. Брыль. Ніжнія Байдуны). *Усё жыццё гэтага чалавека праходзіла сярод лічбаў, ён з імі быў як кажуць, на ты* (М. Даніленка. Восеньскі букет).

Узнік як супрацьлеглае ўтварэнне на аснове фразеалагізма *на вы* — калькі з франц. м. (гл.).

**На ўвесь мах.** *Агульны для бел. і руск.* (во весь мах) *м.* Як мага, вельмі хутка. *І Міхліны дні ўзварушаны былі жыццём ды разгушканы на ўвесь мах* (С. Баранавых. Новая дарога).

Ёсць меркаванні, што выток фразеалагізма ідзе з падабенства з’яў: у ім „намёк на млынавое крыло — „мах“, на вятрак, пушчаны на ўвесь мах“ (М.І.Міхельсон), „слова *мах* — гэта адзін абарот млынавога кола“ (М. М. Шанскі).

**На ўзвей (на ўзві) вецер.** *Уласна бел.* Дарэмна, упустую, безвынікова (рабіць што-н.). *Была і ў гміне, і ў павеце, у розных следчых і паноў і абхадзіла на ўзві вецер нямала панскіх устаноў* (Я. Колас. Рыбакова хата).

Склаўся ў выніку аб’ яднання двух фразеалагізмаў у адзін: *на вецер* гаварыць + *узвейвецер.* Кантамінаваны выраз захаваў значэнне фразеалагізма *на вецер,* але пашырыў свае спалучальныя

магчымасці, стаў ужывацца не толькі з дзеясловам *гаварыць,* а і з іншымі *(ісці, абяцаць* і г. д.): „Пакуль нашы чаравікі не купілі, пакуль у іх не ходзяць на работу, у кіно, на танцы, значыць, мы працуем, як у народзе кажуць, на ўзвей вецер“ (Л. Левановіч).

**На ўзводзе.** *Запазыч. з руск. м.* (на взводе). Ужыв. са значэннямі: 1) у стане ап’янення, 2) у стане ўзбуджэння, раздражнення. *Ты сёння, старшыня, на ўзводзе, падпіўшы* (А. Макаёнак. Каб людзі не журыліся). *Вярнуўся* [муж] *і ўбачыў што Ніна на ўзводзе, — моўча сядзела на канапе і вязала світэр* (В.Гігевіч. Асенні вечар).

Лічаць, што сучасны варыянт фразеалагізма — вынік скарачэння ранейшых выразаў *на першым (другім, трэцім) узводзе,* якія адрозніваліся паміж сабой ступенню пэўнай ацэнкі чалавека. Склаўся па асацыяцыі з узвядзеннем ружэйнага курка для гатоўнасці выстраліць. Паводле М.І.Міхельсона, *на трэцім узводзе* значыла ‘вельмі п’яны’, „больш за магчымае, бо курок ружжа, на які тут намякаецца, мае толькі два ўзводы“. 2-е значэнне развілося на аснове 1-га, у якім актуалізацыю атрымала сема ўзбуджанасці. Параўн. ужыванне фразеалагізма з агаленнем яго зыходнай вобразнасці: „Неаднойчы пераконваўся, што лепш за ўсё мне працуецца на ўзводзе, калі палец увесь час на спускавым курку, націснеш — і стрэліць! Ты нават не ведаеш, куды: у сябе самога, у сябра ці ворага…“ (А. Кудласевіч).

**На ўлонне прыроды.** *Гл.* на лона (на ўлонне) прыроды.

**На ўлонні прыроды.** *Гл.* на лоне (на ўлонні) прыроды.

**На ўсе застаўкі.** *Агульны для бел. і ўкр.* (на всі заставки) *м.* Фразеалагізм у залежнасці ад таго, з якімі дзеясловамі ён спалучаецца, рэалізуе розныя значэнні: 1) спаўна, як толькі можна (рабіць што-н.): *газаваць на ўсе застаўкі* (А. Макарэвіч); 2) вельмі гучна, голасна (храпці, захрапці): *храпуць на ўсе застаўкі* (А. Савіцкі); 3) вельмі хутка, імкліва (бегчы і пад.): *пёр на ўсе застаўкі* (З. Бядуля); 4) вельмі моцна, празмерна (хваліць і пад.): *на ўсе застаўкі расхвальваў* (В. Дайліда); 5) шырока, прыветліва (смяяцца і пад.): *на ўсе застаўкі ўсміхнуўся* (Я. Брыль).

Узнік у выніку пераасэнсавання свабоднага словазлучэння, дзе *застаўкі* — ‘шчыты для затрымання вады, якая падае на кола вадзянога млына’. Зыходнае значэнне — ‘спаўна, як толькі можна’.

**На ўсе коркі.** *Запазыч. з руск. м.* Мае значэнне ‘вельмі моцна’. *Калі вам часамі закідаюць вуду (хто? глядзіце самі, я казаць не буду), хваляць на ўсе коркі, хоць жадаюць смерці, — гэта зноў жа толькі фіга на талерцы* (К. Крапіва. Фіга на талерцы).

На думку А. М. Бабкіна, выраз паходзіць з мовы пекараў і ўжываўся спачатку ў поўнай форме *распекать на обе (на все) корки* (дзе *корка* адпавядае беларускаму *скарынка),* а пасля

расшчапіўся на дзве часткі: дзеяслоў *распякаць* з тым жа значэннем, што і поўная фразеалагічная адзінка, — ‘вельмі моцна прабіраць, выгаворваць з дакорам’, і самастойны выраз *на ўсе коркі* — ‘вельмі моцна’. Апошняе найчасцей спалучаецца з дзеясловамі са значэннем ‘бічаваць словамі’.

**На ўсе лапаткі.** *Гл.* ва (на) усе лапаткі.

**На ўсе сто.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Ужыв. са значэннямі: 1) у поўнай меры, як і трэба (рабіць што-н.), 2) вельмі добра, цудоўна (жыць, рабіць што-н.), 3) вельмі добры, цудоўны. *Юркаў гэтым пераканаты на ўсе сто* (І.Сяркоў. Мы — хлопцы жывучыя). *Што і казаць, жылі на ўсе сто, на поўную маліну…* (М. Лынькоў. На вялікай хвалі). *Конь, як кажуць, на ўсе сто* (В. Адамчык. Год нулявы).

Гэта скарочаны варыянт фразеалагізма *на ўсе сто працэнтаў,* які ўзнік са свабоднага словазлучэння ў выніку развіцця ў ім пераноснага значэння.

**На ўсе чатыры <бакі, стараны>** *ісці (пайсці), адпускаць (адпусціць)* і пад. *Недакладная калька з франц. м.* (aller par quatre chemins, літаральна „ісці па чатырох дарогах“). У любое месца, абы-куды, куды захочацца. *Ці ты скажаш, ці не? Вырашай! Нашто цяганіна? Мы пусцім цябе на ўсе чатыры бакі* (С. Баранавых. Калі ўзыходзіла сонца).

Паводле М.І.Міхельсона, выраз засноўваецца на даўнейшым звычаі франкаў пры вызваленні раба ставіць яго на скрыжаванні, што вядзе ў розныя чатыры бакі, і гаварыць: „Няхай будзе свабодны і ідзе куды хоча“.

**На ўсіх парах** *ляцець, імчацца* і пад. *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* на всех парах, *укр,* на всіх парах). Вельмі хутка, з вялікай скорасцю. *Пад вечар, пазычыўшы ў суседа веласіпед, Мікола Гаўрылавіч злётаў на ўсіх парах да свайго слупа* (Г. Марчук. Аб’ява на слупе).

Утвораны па мадэлі з ужо існуючым, сэнсава тоесным выразам *на ўсіх парусах* (гл.). Калі парусныя судны былі выцеснены параходамі, назоўнікавы кампанент *парусах* быў заменены іншым, больш лагічным для пэўнага часу.

**На ўсіх парусах** *ляцець, імчацца* і пад. *Агульны для ўсходнесл. м.* Вельмі хутка, з вялікай скорасцю. *[Чухрай: ] Таварыш Міхайлаў! Тут да вас дамачка на ўсіх парусах… Дапусціць?* (П. Васілеўскі. Год дзевяцьсот семнаццаты).

Узнік у выніку пераасэнсавання свабоднага словазлучэння, якое ўжывалася ў маўленні маракоў. Калі на парусным судне падымалі ўсе парусы, то яно ішло з максімальнай для яго хуткасцю.

**На ўсю жалезку.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Выкарыстоўваючы ўсе рэзервы магутнасці, скорасці і пад. (імчацца, газаваць і інш.). *Данік* [матацыкліст], *як ён казаў, націскаў на ўсю жалезку, каб не бурчала старая ведзьма Агата, калі яны трохі прыпозняцца* (М. Даніленка. Журлівіца).

Паходзіць з маўлення шафёраў, дзе жалезкай нярэдка называюць педаль акселератара, якой рэгулююць паступленне гаручай сумесі ў цыліндры рухавіка і тым самым колькасць яго абаротаў.

**На ўсю іванаўскую.** *Пайкалька з руск. м.* (во всю ивановскую). Ужыв. са значэннямі 'вельмі гучна, голасна (крычаць, храпці і пад.)' і 'у поўную меру (рабіць што-н.)'. *Аляксей Сафронавіч.. паклікаў Колю. Шапнуў яму: — Ідзі, зрабі так, каб матор роў на ўсю іванаўскую* (І.Шамякін. Трывожнае шчасце). *У хаце на ўсю іванаўскую круціўся вальс. Каманду падаваў кучаравы, геройскі з выгляду сяржант* (Р. Няхай. Сарочы лес).

Узнікненне фразеалагізма традыцыйна звязваюць з назвай Іванаўскай плошчы ў Маскоўскім Крамлі, на якой у XVI ст. і пазней дзякі вельмі гучна, каб усе чулі, аб'яўлялі царскія ўказы. Паводле ж В. М. Макіенкі, фразеалагізм утварыўся на аснове выразу больш поўнай формы *во всю ивановскую мощь* шляхам субстантывацыі прыметніка і ўсячэння назоўніка. Кампанент *іванаўскі* першапачаткова адносіўся не да Іванаўскай плошчы, а да Івана — героя шматлікіх народных казак.

**На ўсю катушку.** *Гл.* на поўную (усю) катушку.

**На хвост (на хвасце) станавіцца.** *Уласна бел.* Пагрозліва, варожа ставіцца да каго-н. *Ціток таксама як не закрычаў на Зазыбу: „Ды не трэба таго сходу!..“ Астатнія мужыкі... зарагаталі—тады навошта было дарэмна на хвост станавіцца!* (І.Чыгрынаў. Плач перапёлкі).

Узнікненне фразеалагізма — вынік пераносу дзеянняў, стану гадзюкі на чалавека. Як піша Ф. Янкоўскі, „гадзюка мае здольнасць падымацца і кідацца на чалавека, на любую жывую істоту“. Перад тым як нанесці імгненны ўкол ядавітымі зубамі, гадзюка рэзкім і дужым рухам становіцца на хвост, г. зн. падымае пярэднюю частку мускулістага цела.

**На цугундар браць (узяць)** *каго. Агульны для ўсходнесл. м.* (*руск.* брать на цугундер, *укр.* братн на цугундер). Караць, прыцягваць да адказнасці. *У анкеце ўжо не напішаш, што ў палоне і акружэнні не быў. Цяпер чортаў знак. Ды яшчэ асобы аддзел на цугундар возьме* (В. Быкаў. Здрада).

Слова *цугундар*, неўжывальнае па-за фразеалагізмам, узнікла, паводле М.І.Міхельсона, шляхам зрашчэння двух ням. слоў: *zu* + *hundert* (к + сотня), успрынятых ад немцаў як частка

каманды-загаду даць камусьці сто ўдараў (палак, розгаў, шпіцрутэнаў). Этымалагічная невыразнасць, нематываванасць гэтага слова часам спараджае яго іншае напісанне: *цугундры, цыгундзер, цыгундар.*

**На цырлах.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Ужыв. са значэннямі ‘дрыжаць перад кім-н., без адгаворак падпарадкоўваючыся ва ўсім’ і ‘усяляк дагаджаючы каму-н. (бегаць вакол каго-н.)’. *Усе, нават афіцэры, перад ім, як кажа старая Пабетынчыха, на цырлах* (В. Супрунчук. Калыханка ддя Ясіка). *Бач, пан які знайшоўся, бегай вакол яго на цырлах!* (С. Законнікаў. Ліёнскі тыдзень).

Паходзіць з турэмна-лагернага жаргону, дзе назоўнікавы кампанент застыў толькі ў адной форме (параўн.: *на дыбачках, на кукішках, на цыпачках).*

**На чале** *з кім. Агульны для многіх слав. м. (напрыклад, укр.* на чолі, *польск.* na czele, *балг. — у злітным напісанні* — начело; *параўн. у руск. м.:* во главе). Пад кіраўніцтвам каго-н. *Кудысьці спяшыла грамада вучняў на чале з настаўнікам* (Ц. Гартны. Сокі цаліны).

Пададзенае ў ТСБМ (т. 5, кн. 2, с. 291) слова *чало* са значэннямі ‘лоб’ і ‘твар’ і пазначанае паметамі „ўстар. і паэт.“ не мае дачынення да фразеалагізма *на чале.* Тут іншае *чало (чело)* — агульнаславянскае слова, утворанае, відаць, суфіксальным спосабам ад дзеяслоўнай асновы і з першапачатковым значэннем ‘верх, узвышша’.

**На чатыры вокі.** *Агульны для бел. і ўкр.* (на чотири ока) *м.* Без сведак, без пабочных асоб (гаварыць, сустракацца, апынуцца і пад.). *Цярэшка сеў на канапу, утапіўся ў яе мяккасці, побач сеў чалавек з вачыма сфінкса, і на чатыры вокі Цярэшка здаў кароткую справаздачу* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі).

Выраз усведамляецца як матываваны, заснаваны на сінекдасе. Склаўся пад уплывам сэнсава тоесных, але з крыху іншай структурай фразеалагізмаў, якія ёсць у многіх мовах; параўн.: польск. *w cztery oczy* руск. *между четырех глаз,* чэшск. *mezi ctrzrma ocima,* ням. *unter vier Augen,* франц. *entre quatre yeux.*

**Начная зязюля.** *Уласна бел.* Жонка. *Спытала пасля ў свайго начная зязюля: „Пра што вы там гаварылі?“ А ён па-чужому неяк адсек: „Спі лепш, а то старою будзеш без пары“* (Я. Брыль. Сцежка-дарожка).

Паходзіць з прыказкі *Начная зязюля дзённую перакукуе,* што значыць ‘жонка зможа настаяць на сваім, пераканаць мужа зрабіць па яе жаданні’.

**На чорны пазногаць.** *Гл.* на сіні (чорны) пазногаць.

**На чым свет стаіць.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Вельмі моцна, нястрымна (лаяць, лаяцца, клясці, крыць і пад.). *Каваль паказвае малойцу, дзе трэба па кавадлу біць, і лае на чым свет стаіць няўмелага малатабойца* (Я.Сіпакоў. Кузня).

Узнікненне фразеалагізма, як лічыць В. М. Макіенка, звязана са старажытным вераваннем людзей, паводле якога свет стаіць на чымсьці (напрыклад, на трох вялікіх кітах). Першапачаткова выраз абазначаў 'да самай асновы свету, грунтоўна'.

**Нашага палку прыбыло.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* нашего полку прибыло, *укр.* нашого полку прибуло). Нас, такіх, як мы, стала больш (гаворыцца пры з'яўленні ў калектыве чалавека аднолькавых поглядаў, перакананняў і інш.). *[Клава: ] Гэта друг таварыша Язвы, паэт. [Жлукта: ] Значыць, нашага палку прыбыло* (К. Крапіва. Мілы чалавек). Дзеяслоўны кампанент ужыв. і ў форме цяперашняга часу: *О! Нашага палку прыбывае. Вельмі прыемна, калі круг інтэлігенцыі павялічваецца* (Я. Колас. На ростанях).

Выраз прыйшоў са старадаўняй песні-гульні „А мы проса сеялі". Хлопцы і дзяўчаты станавіліся ў два рады, ці, іначай, палкі (даўней словам *полк* называлі не толькі вайсковую адзінку, але і, як засведчана У. Далем, гурт, чараду людзей). Калі з адной чарады ў другую пераходзіў, як таго патрабавалі ўмовы гульні, хлопец ці дзяўчына, полк, які атрымаў папаўненне, спяваў:

Нашага палку прыбыло, прыбыло,
Ой, дзідлада, прыбыло, прыбыло!

У вершаванай аповесці А. А. Бястужава-Марлінскага „Андрэй, князь Пераяслаўскі" апошні з прыведзеных радкоў песні падаецца ў такой арфаграфіі: „Ой, дид-ладо, прибыло!" Гэта пралівае святло на нацыянальна-этымалагічны бок песні. Украінскае *дід* — гэта „дзед", *ладо* — „лада" (у руск. і бел. мовах), ці „мілы". Адсюль становіцца зразумелым, чаму ў назоўнікавым кампаненце фразеалагізма *нашага палку прыбыло* такі незвычайны канчатак — *у:* і ў сучаснай укр. м. слова *полк* мае ў род. скл. адз. л. формы *полку* і *полка* а літаратурная норма фразеалагізма — *нашого полку прибуло.* Відаць, і ў памянёнай песні націск прыпадаў не на другі, а на першы склад назоўнікавай формы *полку.*

**На шапачны разбор.** *Паўкалька з руск. м.* (к шапочному разбору). Ужыв. пры дзеясловах *прыйсці, паспець* і абазначае 'позна, пад самы канец чагосьці'. — *Але доўга нешта вы там,* — *плюснуў Чубар прыжмуранымі ад бяссонніцы вачамі.* — *На шапачны разбор, лічы, прыйшоў!..* (І.Чыгрынаў. Плач перапёлкі).

Зыходная вобразнасць фразеалагізма адлюстроўвае пэўную сітуацыю: хто-небудзь завітаў у госці тады, як ужо ўсе іншыя

пачалі разбіраць шапкі і апранацца, каб ісці дамоў. Параўн. у „Абеліску“ В. Быкава, дзе агаляецца вобраз фразеалагізма, выкарыстанага са змяненнем формы: „Было відаць, што вячэра ідзе не першую гадзіну, і я зразумеў, што паспеў на разбор шапак — не болей. Знаў бы — не ехаў… Ну, але не брацца ж за шапку, калі ўжо прыехаў“.

**На шчыце.** *Агульны для ўсходнесл. і польск.* (na tarczy) *м.* Пераможаны, з паражэннем. *Праўда, яшчэ невядома, ці не спяшаецца ён, Корзун, спраўляць перамогу, толькі будучыня пакажа, хто з іх са шчытом, а хто на шчыце* (У. Шыцік. Па жураўля ў небе).

Склаўся на аснове легенды пра выключную мужнасць спартанцаў. Як апісвае старажытнагрэчаскі пісьменнік Плутарх (каля 46-126), адна са спартанскіх жанчын, выпраўляючы сына на вайну, падала яму шчыт і сказала: „З ім ці на ім“, г. зн. вярніся пераможцам ці мёртвым. Забітага выносілі з поля бою на шчыце.

**На шырокую нагу.** *Запазыч. з руск. м.* Ужыв. са значэннямі: 1) багата, раскошна, без абмежаванняў у сродках (жыць, пажыць і пад.), 2) з вялікім размахам (гуляць, ставіць і інш.), 3) багаты, раскошны, без абмежаванняў. *Амерыка жыла, што называецца, на шырокую нагу* (М. Лынькоў. Гісторыя ідзе наперад). *Назіраючы, мабыць, за песнямі народа, за скамарохамі, яны* [паны] *спрабавалі такія відовішчы ставіць на шырокую нагу* (А. Карпюк. След на зямлі). *„Нясун“ — той жа злодзей, як бы ён ні маскіраваўся. Адсюль і жыццё не па працоўных даходах, бесклапотнае, на шырокую нагу* (Звязда. 31.03.1987).

У XII ст. у Заходняй Еўропе была мода насіць доўгі і вялікі абутак. Мяркуюць, што першы заказаў сабе такія чаравікі з загнутымі ўгору наскамі кароль Англіі Генрых II, які зрабіў гэта, каб неяк прыхаваць нарасць на вялікім пальцы правай нагі. Абутак з доўгім наском стаў модай. Яна перакінулася ў іншыя краіны. Найбольш знатныя і багатыя асобы насілі чаравікі з асабліва вялікімі наскамі. Пра такіх людзей у Германіі сталі гаварыць, што яны жывуць „на вялікую нагу“ *(auf großen Fuße).* Як дакладная калька з ням. фразеалагізм перайшоў у рускую мову. Але цяпер ужо ў слоўніках ён падаецца з паметай „устарэлы“. Яшчэ ў сярэдзіне XIX ст. замест незразумелага на сваёй вобразнасці *на вялікую нагу* сталі ўжываць *на шырокую нагу,* дзе прыметнікавы кампанент асацыяваўся з такім значэннем слова *шырокі,* як ‘нічым не абмежаваны’. У такой форме фразеалагізм ужываецца і ў бел. м.

**На які ляд** *каму хто, што. Відаць, паўкалька з руск. м.* (на кой ляд); *ёсць і ва укр. м.* (на який ляд). Навошта, для чаго. — *Вось бы мне такую машыну, хоць на паўмесяца.* — *На які ляд яна табе?* — *спытаў Максім* (А. Кудравец. На балоце скрыпелі дразды).

Уваходзіць у групу сінанімічных фразеалагізмаў аднолькавай структурнай мадэлі: *на які чорт, на які хрэн, на якое ліха, на якога чорта* і інш. Лічаць, што *ляд* тое самае, што *чорт, нячыстая сіла* або абазначае чорта, які жыве ў *лядзе* 'закінутай, запушчанай зямлі'. Параўн. у сучаснай бел. м.: *ляда*—'дзялянка высечанага лесу' і 'расчышчанае месца ў лесе пад пасеў або пад сенажаць'.

**На яць.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Абазначае 'выдатна, цудоўна' і 'выдатны, цудоўны'. *Калі хто — „бе", ён кажа: „Не! Ляпей вучыся ад мяне, і будзеш ты тады бляяць на яць"* (К. Крапіва. Казёл). *Мотуза пакінь: з яго камсамолец будзе на яць* (Л. Калюга. Ні госць ні гаспадар).

„Яць" — гэта назва літары *ђ у* кірылаўскай азбуцы. Каб стаць пісьменным, трэба было завучыць на памяць мноства слоў „ка яць", бо, напрыклад, у словах *дзень, дзевяць* пісалася *е,* а ў *лес, дзед* — „яць". Лічылася: калі школьнік авалодаў „правілам на яць", то гэта выдатны школьнік. Фразеалагізм, відаць, нарадзіўся ў школьным асяроддзі, дзе ён, адарваўшыся ад часта ўжывальных словазлучэнняў *правіла на яць, словы на яць,* набыў значэнне 'выдатна, цудоўна'. Параўн. ужыванне фразеалагізма ў вершы К. Крапівы „Майстры крывавага джаза", дзе выраз ставіцца ў сувязь з „правіламі граматыкі": „Дыпламаты і дыпламатыкі,— кожны правілы знае „на яць" імперыялістычнай граматыкі".

**Неба капціць.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Жыць без пэўнай мэты, без справы, без карысці для іншых. *Час ужо, годзе, пара і сваю сям 'ю завесці, бо нельга ж вечна неба капціць. Прапусціш — не дагоніш* (М. Лынькоў. Журавель мой, журавель...).

Узнік з прыказкі *Без працы жыць — толькі неба капціць.* Параўн. і такія варыянты: *Нудна жыць — толькі неба капціць; Абібокам жыць — толькі неба капціць.* Адарваўшыся ад прыказкі, фразеалагізм свабодна рэалізуе розныя формы дзеяслоўнага кампанента: *неба капцяць* (М. Лынькоў), *капціў неба* (З. Бядуля) і г. д.

**Неба ў алмазах.** *Запазыч. з руск. м.* Штосьці жаданае, прыемнае (убачыць, пабачыць). *Мы яшчэ пабачым небаў алмазах... Вот паглядзіш...* (В.Гігевіч. Доказ ад процілеглага).

Выраз з п'есы А. П. Чэхава „Дзядзька Ваня" (1897). Ужыты ў рэпліцы Соні, якая, суцяшаючы змучанага жыццём дзядзьку Ваню, верыць, што яны яшчэ ўбачаць „усё неба ў алмазах".

**Неба ў клетачку.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Турма або іншыя месцы зняволення. *Небараку Уладзіміру адвалілі салідны тэрмін пражывання ў мясцінах, дзе неба ў клетачку* (Вожык. 1994. № 5).

Склаўся, відаць, у асяроддзі вязняў, якім даводзіцца бачыць неба, глядзець на яго толькі праз турэмныя краты. Параўн. у Ю. Хадыкі: „У карцэры праз закратаванае акенца бачны толькі

кавалачак неба“. Шлях узнікнення гэтага выразу, як і некаторых іншых, куды менш тыповы, але больш мудрагелісты, чым апісаныя ў літаратуры асноўныя чатыры спосабы фразеалагічнай дэрывацыі.

**Не бі ляжачага.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Вельмі лёгкая (работа, праца). *Намажуць грымам, і ходзіш па сцэне, крычыш, калі трэба, або рукамі махаеш. Дужа мне тая работа падабалася. Хоць грошы невялікія, але і работа не бі ляжачага* (А. Асіпенка. Абжыты кут).

Узнік, відаць, на вобразнай аснове фразеалагізма *ляжачага не б’юць* (гл.); у ім намёк: праца такая, што можна і паляжаць, паспаць, адпачыць. Параўн.: „У мяне работа — не бі ляжачага. Аддыхнеш за змену ў лабараторыі“ (В. Мыслівец).

**Не гледзячы на асобы.** *Калька з ням. м.* (ohne Ansehen der Person — без позірку на асобы). Справядліва, не лічачыся з грамадскім, службовым ці яшчэ якім становішчам каго-н. *Лаяў усіх, каго ўздумаў, не гледзячы на асобы: паноў і рускае начальства, Пстрычку і Махлярчыка, нават нябожчыка настаўніка Грызунца...* (М. Гарэцкі. Віленскія камунары).

У ням. мову выраз прыйшоў як цытата з лютэраўскага перакладу Евангелля (Першае пасланне Пятра). У Евангеллі часта паўтараецца выраз, блізкі да сучаснага сваёй формай: „...ты справядлівы і не клапоцішся, каб дагадзіць каму-небудзь, бо не глядзіш ні на якую асобу“.

*З'явіўся* не запыліўся. *Агульны для ўсходнесл. м.* Раптоўна, нечакана ці якраз тады, калі пра каго-н. гаварылі, успаміналі. *Здароў быў, Гардзей! З’явіўся — не запыліўся. Ад’еўся, значыць, на матчыных харчах?* (Б. Стральцоў. Між крутых берагоў).

Унутраная форма фразеалагізма ўсведамляецца як „не паспеў нават запыліцца“.

**Не <з> баязлівага дзесятка.** *Гл.* не <з> палахлівага (баязлівага, труслівага) дзесятка.

**Не зірнуўшы (не паглядзеўшы) у святцы біць (званіць) узваны.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Рабіць што-н. недарэчы, дачасна, не разабраўшыся ў чым-н. *Кулінчык — чалавек стрыманы, удумлівы, разважлівы — не любіў не зірнуўшы ў святцы біць у званы* (І.Дуброўскі. На новыя кругі).

Утвораны ў выніку пераасэнсавання адпаведнага злучэння слоў свабоднага ўжывання. Святцамі называецца царкоўны каляндар-даведнік, у якім даецца пералік усіх святых і царкоўных свят у каляндарным парадку. У адпаведнасці з гэтым даведнікам ажыццяўляюць царкоўную службу, адзначаюць рэлігійныя святы, апавяшчаюць людзей пра пачатак свята адным ці трыма званамі рознай велічыні і неаднолькавага гучання.

**Не знаходзіць (не знайсці) <сабе> месца.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Надзвычайна хваляваццa, непакоіцца. *Спацелы ўвесь, ляжыць Лёня на пасцелі, а Марына ўсё яшчэ не знаходзіць сабе месца* (А. Пальчэўскі. Любоў да жыцця).

Узнікненне фразеалагізма абумоўлена прывычкай хадзіць узадуперад пры хваляванні.

Не <з> палахлівага (баязлівага, труслівага) дзесятка. *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* не робкого десятка, *укр.* не з полохливого десятка). Смелы чалавек. *А вы, бачу не з палахлівага дзесятка. То — рэдкая якасць у вашага брата...* (В. Блакіт. Час прылёту журавоў).

Сэнсавым цэнтрам фразеалагізма выступае прыметнікавы кампанент з адмоўем „не“. Выраз, як мяркуюць, мог скласціся ў вайсковым асяроддзі, дзе *дзесяткам* даўней называлі мінімальную ваенную адзінку (з дзесяці чалавек), якая ўваходзіла ў сотню. Затым фразеалагічныя сувязі выразу выйшлі за межы вайсковай сферы.

**Не з таго дзесятка.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Не такі, як хто-н. думае, мяркуе пра яго. *О не, дзетка мая, Стась не з таго дзесятка, каб забыцца на бацьку* (Р. Сабаленка. Незамужняя ўдава).

Узнік на базе фразеалагізма *не <з> палахлівага дзесятка* з заменай сэнсаўтваральнага кампанента *палахлівага* займеннікавым словам-кампанентам, якім у абагульненым плане падкрэсліваюцца адметнасці таго, пра каго гавораць.

**Не <з> труслівага дзесятка.** *Гл.* не <з> палахлівага (баязлівага, труслівага) дзесятка.

**Не кот наплакаў.** *Уласна бел.* Ужыв. са значэннямі: 1) многа, нямала, 2) не пусцяковіна; справа сур’ёзная. *Ты падумай, паўтары тысячы цалковых, гэта, брат, не кот наплакаў* (М. Лынькоў. Баян).

*А мы, заўваж, суседзе, па-сапраўднаму і не адсвяткавалі твайго высокага чыну. Войт — гэта табе не кот наплакаў* (Я. Колас. У пушчах Палесся).

Развіўся на аснове фразеалагізма *кот наплакаў* (гл.).

**Не магчы знайсці <сабе> месца.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Быць у стане крайняга хвалявання, трывогі, непакою. [Сотнікаў] *сунуў пісталет у кабуру замкнуў усё ў камод і не мог знайсці сабе месца, пакуль не прыйшла маці* (В. Быкаў. Сотнікаў).

У вобразнай аснове фразеалагізма знайшла адлюстраванне прывычка хадзіць узадуперад пры хваляванні.

**Не на жыццё, а на смерць.** *Паўкалька з руск. м.* (не на жизнь (живот), а на смерть). Ужыв. са значэннямі ‘бязлітасны, суровы, да рашучага зыходу (бой, бітва, барацьба і пад.)’ і

‘бязлітасна (біцца, змагацца і пад.)’. *Нгара… учапіўся за край чоўна і перакуліў яго разам з Мангам… Завязалася барацьба не на жыццё, а на смерць* (Я. Маўр. Сын вады). *Ішла рэвалюцыя — левай, левай! Змагаліся не на жыццё, а на смерць* (А. Вярцінскі. Ленінскі смех).

У руск. м. фразеалагізм трапіў, відаць, як недакладная калька з ням. м. (*ein Kampf auf Leben und Tod*, літаральна „барацьба на жыццё і смерць“). Параўн. таксама: балг. *на живот и смърт,* серб. — харв. *на живот и смерт,* чэшск. *na zivot a na smrt.*

**Не на той вуліцы.** *Запазыч. з руск. м.* Не так, як трэба (жыць, пражыць). *Які Язэп Тарасюк пісьменнік? Выпадковы чалавек, які пражыў не там, дзе яму трэба было жыць, як кажуць часам, не на той вуліцы і займаўся не тым, чым яму трэба было займацца* (Б. Сачанка. Не на той вуліцы).

Выраз з п’есы М. Горкага „Ягор Булычоў і іншыя“ (1932). Галоўны персанаж п’есы, нарэшце, зразумеў, што ён жыў „не на той вуліцы“, што яму не па дарозе з тымі, з кім шмат гадоў пражыў у адным доме, з людзьмі, гатовымі накінуцца адзін на аднаго.

**Не паглядзеўшы ў святцы біць у званы.** *Гл.* не зірнуўшы (не паглядзеўшы) у святцы біць (званіць) у званы.

**Не па днях, а па гадзінах.** *Пайкалька з руск. м.* (не по дням, а по часам). Вельмі хутка (расці, развівацца, павялічвацца і пад.). *Адно толькі палешукоў на небе непакоіць: лік хадакоў ад зямлі павялічваецца не па днях, а па гадзінах* (З. Бядуля. Панас на небе).

Выраз з „Казкі пра цара Салтана“ (1831) А. С. Пушкіна. Размова ідзе пра малога царэвіча. Яго пасадзілі ў бочку, засмалілі яе і кінулі ў мора. Царэвіч там расце не па днях, а па гадзінах і хутка выратоўваецца.

**Не пакідаць (не пакінуць) каменя на камені.** *Гл.* каменя на камені не пакінуць.

**Не пакладаючы рук** *працаваць, рабіць* і пад. *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* не покладая рук, *укр.* не покладаючи рук). Вельмі старанна, не перастаючы. *Дзякую ім, музыкам, — яны працавалі не пакладаючы рук* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі).

Яшчэ ў XIX ст., як засведчана ў „Слоўніку беларускай мовы“ І.І.Насовіча, паралельна з *пакласці* (закончанае трыванне) існавала дзеяслоўная форма незакончанага трывання *пакладаць* ‘складаць, класці, укладваць’. *Не пакладаючы* — літаральна „не складаючы, не кладучы“.

**Непачаты край** *чаго. Агульны для ўсходнесл. м.* Вельмі многа, у вялікай колькасці. — *Мы… так… — прамовіў пасля Кляновіч, — работы ў нас з вамі непачаты край* (П. Пестрак. Серадзібор).

Першы кампанент фразеалагізма, які найчасцей спалучаецца са словамі *работа, справа, праца,* выконвае сэнсаўтваральную функцыю, ён суадносіцца са значэннем адпаведнага слова — ‘такі, якога яшчэ не пачыналі, за які яшчэ не браліся’. У бел. м. назоўнікавы кампанент як менш істотны ў сэнсавых адносінах можа замяняцца іншым: „ка́зак *вугал непачаты*“ (Я. Колас), „працы — *кут непачаты*“ (М.Нікановіч).

**Не разлівада** *з кім. Агульны для ўсходнесл. м.* Вельмі здружаныя, неразлучныя. *Шурка з Нінай маёй не разлівада* (Я. Брыль. У сям’і).

Узнік на аснове сінанімічнага з ім фразеалагізма *не разліць вадой* лексіка-сінтаксічным спосабам — аб’яднаннем дзвюх асноў у адзін складаны назоўнік (па мадэлі *сарвігалава, вярнідуб, гарыцвет).*

**Не раўнуючы.** *Уласна бел.* Прабачце за не зусім дарэчнае параўнанне. Ужыв. як пабочнае словазлучэнне пры параўнальным звароце. *Стаіць такі прыгажун ля дэпо, калёсы высокія, чырвоныя, не раўнуючы, як ногі ў бусла балотнага* (М. Лынькоў. Міколка-паравоз).

Паводле А. Я. Багдановіча, узнікненне фразеалагізма звязана з былым павер’ем у магічную сілу слова. Першапачаткова выраз ужываўся, калі гаварылі пра хваробу і ўказвалі пашкоджанае хваробай месца на целе. Каб хвароба не перакінулася на суразмоўніка, дабаўлялі засцерагальнае *не раўнуючы.*

**Не сёння-заўтра (не сягоння-заўтра).** *Агульны для ўсходнесл. м.* Вельмі хутка, у бліжэйшы час (будзе што-н.) — *Кандрат у такіх гадах, што не сёння-заўтраў салдаты ісці* (М. Лобан. На парозе будучыні).

Склаўся на аснове выразу больш поўнай формы *не сёння дык заўтра;* параўн.: „Гэта ж вайна пачалася. І я… Я… Не сёння дык заўтра расстануся з усім гэтым…“ (Б. Сачанка. Вялікі Лес). Пабудаваны на прыёме антытэзы, прычым кампанент *заўтра,* проціпастаўлены слову *сёння,* адначасова рэалізуе значэнні ‘у наступны дзень пасля сённяшняга’ і ‘у недалёкім будучым’.

**Несці свой крыж.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Цярпліва пераносіць жыццёвыя цяжкасці, выпрабаванні. *Не той ён чалавек, каб лёгка ўсё пакінуць, на ўсіх забыцца, дзеля дзяцей ён гатовы несці свой крыж да скону жыцця* (І.Шамякін. Ах, Міхаліна, Міхаліна).

Узнік у выніку пераасэнсавання свабоднага словазлучэння, пашыранага ў царкоўнаславянскіх тэкстах, напрыклад у Евангеллі (Іаан, 19, 17): „Хто не нясе крыжа свайго і ідзе за мною, не можа быць маім вучнем“. Крыж быў прадметам культу і сімвалам прыхільнікаў Ісуса, іх гатоўнасці да выпрабаванняў: „Тады Ісус

сказаў вучням сваім: калі хто хоча ісці за мною, няхай зрачэцца сябе самога і возьме крыж свой і ідзе за мною“. Або з прытчы пра распяцце Хрыста, у якой гаворыцца пра вялізны крыж, які Ісусу загадалі несці да месца пакарання яго смерцю: „І, несучы крыж свой, ён выйшаў на месца… лобнае, па-яўрэйску галгофа“. Відаць, гэты вобраз, адлюстраваны таксама ў карцінах і скульптуры, і лёг у аснову фразеалагізма.

**Не тут кажучы (казана).** *Уласна бел.* Прабачце за неэтычнае, непрыемнае паведамленне, выказванне. *Трэба было і Міхаську вывезці на сапраўдны лясны прастор: усю зіму, не тут кажучы, абсядалі яго хваробы* (С. Александровіч. Сейбіт песні і мудрасці).

Узнікненне фразеалагізма, на думку А. Я. Багдановіча, звязана з былым павер'ем у магічную сілу слова. Каб яно не пашкодзіла, калі кажуць пра што-н. непрыемнае, папярэдне агаворваюцца гэтым выразам.

**Не тут тое было.** *Відаць, калька з франц. м.* (in n'en fut rien). Дарэмна; не тое, на што хто-н. разлічваў (пра неапраўданыя надзеі, разлікі). *Ворагі спадзяваліся, што ў гэтым глухім, на іх думку, гарадку муха не асмеліцца загусці ў прысутнасці „салдата фюрэра“, Ды не тут тое было* (Вожык. 1985. № 4).

**Не ў свае сані садзіцца (сесці).** *Агульны для ўсходнесл. м.* Брацца не за сваю справу, не за тое, на што здольны. *Гэты не з тых… упарты… Хоць не ў свае сані сеў, але трымаецца моцна* (Х. Шынклер. Сонца пад шпалы).

Узнік з прыказкі *Не ў свае сані не садзіся*; з адмоўнай канструкцыі, структурна арганізаванай як абагульнена-асабовы сказ, атрымалася сцвярджальнае словазлучэнне незамкнёнай структуры і шырокага дыяпазону спалучальнасці.

**Не ў сваёй талерцы.** *У бел. мову фразеалагізм прыйшоў з руск., дзе ён з'яўляецца недакладнай калькай франц. выразу* en dehors de son assiette. Апошняе слова гэтага выразу ў франц. мове мае шэсць значэнняў, у тым ліку ‘пасадка (на кані)’ і ‘талерка’. Пры перакладзе на руск. м. зблыталі гэтыя два значэнні, і замест *не ў сваёй пасадцы* атрымалася *не ў сваёй талерцы.*

Ужыв. з двума значэннямі: 1) у дрэнным, прыгнечаным настроі, стане (быць), 2) няёмка, нязручна, кепска (адчуваць сябе). *Максім Тарасавіч сёння быў не ў сваёй талерцы* (М. Машара. Сонца за кратамі). *Усё гэта страшэнна абрыдла дзяўчыне, якая адчувала тут сябе не ў сваёй талерцы* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). Фразеалагізм ужываецца і без *не: Ён дастаткова ведаў службы палка, іх функцыі, ролю, адчуваў сябе ў сваёй талерцы* (І.Навуменка. Замець жаўталісцця).

**Не ўсе дома** *ў каго. Відаць, паўкалька з польск. м.* (nie wszyscy w domu). Хто-н. прыдуркаваты, ненармальны. *[Якім: ] А ці нікога няма? [Паўлінка: ] Ой, ой, памалу! Усе дома, усе дома. Толькі ў Якіма не ўсе дома, бо паначы ходзіць да маладых дзяўчат* (Я. Купала. Паўлінка).

У некаторых працах па ўкр. фразеалогіі сцвярджаецца, што фразеалагізм *не всі дома* склаўся ў выніку скарачэння прыказак *Не всі дома — половина поїхали; У нього не всі дома — поїхали по курай.* Аднак тое, што пададзеныя тут кантэксты не першасныя, не зыходныя, а другасныя, пашыраныя шляхам нарашчэння, пацвярджаецца такім моўным фактам, як фіксацыя гэтага выразу менавіта ў кароткай форме ў польскіх помніках яшчэ ў XVI ст. (у форме *nie ws**2**ycsy w domu).* Адсюль можна меркаваць, што бел. *не ўсе дома* (параўн. руск. *не все дома,* чэшск. *nemit usech doma)* — паўкалька з польск. м. Магчыма, напачатку кампаненты *w domu* асацыіраваліся са спалучэннем *у галаве* (у якой „не ўсё ў парадку“).

**Не фунт ізюму** *<каму>. Запазыч. з руск. м.* Не дробязь, не пусцяковіна; справа сур’ёзная. *—А вы што робіце? — Што я раблю? Ого-го! Важную дзяржаўную справу, пане мой! Сталыпінскія хутарочкі... Гэта не фунт ізюму...* (М. Гарэцкі. Меланхолік).

Фразеалагізм можна лічыць матываваным, калі мець на ўвазе, што ўстарэлае слова *фунт* абазначае даўнейшую меру вагі, роўную 409,5 г, якая існавала да ўвядзення метрычнай сістэмы.

**Не цяпер дык у чацвер.** *Агульны для бел. і ўкр.* (не теперь то в четвер) *м.* Калі-небудзь, у бліжэйшым будучым і абавязкова (будзе што-н.). *Калі становішча абвострыцца, не раю марудзіць. Не цяпер дык у чацвер прыйдзецца брацца за зброю* (Р. Няхай. Туман над стэпам).

Утвораны па мадэлі з сэнсава тоесным фразеалагізмам *не сёння-заўтра* (гл.). У аснове выразу — прыём антытэзы. Выкарыстанне слова *чацвер* (а не назвы якога-н. іншага дня) абумоўлена рыфмай.

**Ні а ні бэ.** *Уласна бел.* Зусім нічога (не ведаць, не разумець). *Яго, малечу, — адзін нос тарчыць за партай, — ставяць у прыклад семнаццацігадовым дзецюкам, якія — аж смешна — ні а ні бэ ў навуцы* (В. Мыслівец. Задняпроўцы).

Узнік па мадэлі з ужо існуючым, сэнсава тоесным фразеалагізмам *ні бэ ні мэ <ні кукарэку>* з запаўненнем структурнай схемы назвамі першых літар алфавіта.

**Ні бельмеса** *не ведаць, не разумець. Запазыч. з руск. м.* Зусім нічога. *Адразу* [Рыгор] *гаварыў па-свойму, але бачыць, што гэты немец ні бельмеса не разумее з яго гаворкі, і хочаш не хочаш, а давялося ламаць язык на чужы лад* (Я. Лецка. Па цаліку).

Утвораны на ўзор прыслоўяў *нікольکі, нічуць* з выкарыстаннем татарскага *бельмес* 'ён не разумее'.

**Ні богу свечка ні чорту качарга.** *Відаць, недакладная паўкалька з польск. м.* Пасрэдны чалавек, які нічым не вызначаецца. Э-э, *напарнік мне: ні богу свечка ні чорту качарга* (Л. Калодзежны. Ішоў чалавек).

У польск. м. фразеалагізм ужываўся ўжо ў XVI ст. і фіксуецца ў форме *ani Bogu świeczki ni diablu ożoga* (літаральна „ні богу свечка ні чорту галавешка"); ён пабудаваны на супрацьпастаўленні Бога і чорта і іх крыніц святла — свечкі і галавешкі. Слова *ożóg* у польск. м. абазначае і 'галавешка', і 'качарга', таму пры калькаванні, відаць, адбылася падмена аднаго значэння другім. Дарэчы, у „Зборніку беларускіх прыказак" І.І.Насовіча выраз занатаваны ў форме *ні богу свечка ні чорту галавешка.*

**Нібы аршын праглынуўшы.** *Гл.* як (быццам, нібы) аршын праглынуўшы.

**Нібы на карове сядло.** *Гл.* як (нібы, бы) на карове сядло.

**<Нібы> па шчупаковым загадзе.** *Паўкалька з руск. м.* (по щучьему велению). Самым нечаканым спосабам, цудам, без чыёй-н. падтрымкі, дапамогі. *На нейкую хвілю заплюшчыў вочы і ўявіў: робіцца ўсё — нібы па шчупаковым загадзе* (ЛіМ. 11.01.1980).

Выраз з рускай народнай казкі пра Ямелю, які злавіў у палонцы шчупака-чарадзея і адпусціў яго на волю, пасля чаго той выконваў любое пажаданне Ямелі, абы толькі пачуў яго словы: „По щучьему велению, по моему хотению..." У беларускіх акадэмічных слоўніках фразеалагізм у форме *<нібы> па шчупаковым загадзе* не фіксуецца. „Руска-беларускі слоўнік" ва ўсіх сямі выданнях паўтарае аднолькавы пераклад: *по щучьему велению* — па шчупачынаму загаду». У «Зборніку беларускіх прыказак» (1874) І.І.Насовіч занатаваў тоесны выраз *на шчупакова казанне.* «Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы» (1996) падае пад загаловачным словам *шчупакоў* (праўда, не за ромбавым знакам) спалучэнні *па шчупаковай волі і на шчупакова казанне.* Аднак у літаратурных тэкстах не сустракаецца хоць бы адно пацвярджэнне, што гэтыя аналагі *(па шчупаковай волі, на шчупакова казанне, па шчупачынаму загаду*) бытуюць у мове. Таму пра адпаведную норму можна будзе гаварыць толькі тады, калі назапасяцца факты ўжывання ў маўленні якога-небудзь з гэтых, магчыма, патэнцыяльных выразаў. А пакуль што маўленчая практыка, насуперах рэкамендацыям слоўнікаў, сведчыць пра іншае: «І неўзабаве на круглым стале *нібы па шчупаковым загадзе* з'явіліся каралеўскія прысмакі» (В.Іпатава); «Іван Пятровіч расказвае пра некаторыя іншыя эпізоды сваёй дэпутацкай дзейнасці, і я пачынаю разумець, што не ўсё робіцца, як кажуць,

*па шчупаковым загадзе:* атрымаў пісьмо, пайшоў да міністра ці напісаў у выканкам — і ўсё ў парадку» (М. Замскі); «Тут табе не казка, цудаў не бывае. Дзялка твая — табе і палоць. *Па шчупаковым загадзе* ў нас нічога не робіцца» (Л. Юргілевіч). І яшчэ — у крыху іншым афармленні: «Не *па шчупаковаму загаду* падніmaліся з руін гарады і вёскі» (Х. Жычка); «Праект новага агрэгата. Думаеш, *па шчупаковаму загаду* гэта робіцца?» (М. Чавускі).

**Ні бэ ні мя.** *Уласна бел.* Зусім нічога не разумець, не разбірацца ў чымсьці. *Калі я хадзіў па залах выстаўкі так званага сучаснага мастацтва (і ў Варшаве, і ў іншых гарадах)... мяне не пакідала думка пра «бікіняжаў» у мастацтве, пра важны, па-місіянерску сур’ёзны, твар стылягі, які высакамерна і грэбліва прапаведуе і мне, і вам, і ўсім сумленным людзям нешта вельмі моднае, вельмі высокае, вельмі заходнееўрапейскае, і яшчэ далей, у чым, дарэчы, сам ён, бедненькі, часцей за ўсё — ні бэ ні мя* (Я. Брыль. Яшчэ раз па шчырасці).

Крылаты выраз з байкі К. Крапівы «Дыпламаваны Баран», мараль якой: «Другі баран — ні „бэ“, ні „мя“, А любіць гучнае імя». У байцы выраз выступае як версіфікацыйны варыянт агульнанароднага *ні бэ ні мэ (ні кукарэку).*

**Ні вока ні бока** *не шкадаваць, не пашкадаваць. Уласна бел.* Абсалютна нічога. *Ну, от! Пачубіліся — хопіць!.. Хто на старым спатыкнецца зноў — не пашкадую ні вока ні бока* (І.Мележ. Гарачы жнівень).

Акалічнасна-прыслоўны фразеалагізм, утвораны на базе дзеяслоўнага *не глядзець ні вока ні бока* ‘не зважаць ні на што, зусім не асцерагацца’.

**Ні грама.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Зусім нічога, нічолькі (няма, не рабіць і пад.). *І зноў жа, Іван, давай без прафілактыкі... Мяне яна ні грама не кранае* (А. Жук. Раданіца).

Утвораны па мадэлі з ужо існуючым, сэнсава тоесным выразам *ні грана* (гл.) з заменай устарэлага і незразумелага *грана* блізкім па гучанні словам.

**Ні грана.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Зусім нічога (няма, не было, не знайсці і пад.). *Увогуле ты маеш рацыю... Але ўжо — ні грана хітрасці, Эма! Гэта — умова. Загад. Раскажаш там праўду* (У. Карпаў. Жак).

Узнік, відаць, у маўленні аптэкараў. *Гран* — даўнейшая мера аптэкарскай вагі, роўная 0,062 грама.

**Ні даць ні ўзяць.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Ужыв. са значэннямі ‘абсалютна такі, як хто-, што-н.’ і ‘зусім дакладна’. *Яны папраўляюць гальштукі, прычэсваюцца, выпростваюць плечы; ні даць ні ўзяць — рыцары!* (В. Хомчанка. Не вер слязам). *Ха-ха! Ні*

*даць ні ўзяць — гадоў дваццаць пяць! Маладуха!* (Р. Кобец. Нішто сабе жарты).

Тут зыходныя значэнні дзеяслоўных кампанентаў такія: *даць* — ‘дадаць’, *узяць* — ‘адняць’, што разам складае ‘ні дадаць, ні адняць’. Сродкам «спайкі» кампанентаў выступае рыфмічнае сугучча.

**Ні дна ні пакрышкі** *каму, чаму. Агульны для ўсходнесл. м.* Выклічнікавы выраз, ужыв. як пажаданне ўсяго найгоршага. *Дайце ж перадышкі, няхай «роя» спухне. Ні дна ні пакрышкі ёй, лацінскай кухні!* (Я. Колас. «Роі» і «хрыпы»).

Утвораны па аналогіі з існуючымі фразеалагізмамі. Структурная схема *ні…* запоўнена кантэкстуальнымі антонімамі. Першапачаткова ўжываўся як пажаданне быць пахаваным не так, як прынята, а без труны, без дна і без пакрышкі.

**Ні жывы ні мёртвы.** *Калька з лац. м.* (neque vivos neque mortuos). У стане вялікага страху, знямення; страшэнна спалоханы. *Ляжыць Міколка ні жывы ні мёртвы і толькі чуе, як моцна б’ецца ды вырываецца з грудзей яго маленькае сэрца* (М. Лынькоў. Міколка-паравоз).

Упершыню выкарыстаны ў камедыі «Грубіян» Плаўта (каля 254–184 да н. э.).

**Ніжэй <за> калена.** *Уласна бел.* Ужыв. (з іранічным адценнем) са значэннямі ‘да мінімальнага ўзроўню (апусціць, апусціцца, аказацца і пад.)’ і ‘вельмі дрэнны, кепскага ўзроўню’. *Мой першы прэм'ер-міністр пісаў, што ніколі не любіў мяне. Што ступень ягонае павагі ўжо даўно апусцілася ніжэй за калена* (У. Арлоў. Ордэн Белай Мышы). *У 41 працэнта айчынных прадпрыемстваў — паказчык ніжэй калена! Гэта той выпадак, калі такі паказчык не радуе* (У. Даўжэнка. Амбіцыі).

Паходзіць з маўлення А. Р. Лукашэнкі, які неаднойчы ўжыў яго ў сваіх трансліраваных па тэлебачанні выступленнях адразу пасля абрання Прэзідэнтам Беларусі.

**Ні за грош.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Зусім дарэмна (прапасці, загінуць і пад.). *Павёў* [паліцэйскі] *мяне ў хату, напісаў запіску. «Перадасі Фроні»… і адпусціў… Але бачыш — усё ад выпадку залежыць. Не ведаў бы яе — ні за грош кокнулі б* (І.Навуменка. Сасна пры дарозе).

Словам *грош* называлі пачынаючы з XVI ст. дробную медную манету. Фразеалагізм *ні за грош* узнік, відаць, тады, калі грош стаў самай дробнай разменнай манетай — паўкапеечнай (пасля грашовай рэформы 1838 г. у Расіі).

**Ні за панюх табак**і (прапасці, гінуць і пад.). *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* ни за понюшку табаку, *укр.* ні за понюх табаку). Дарэмна, нізавошта. *З легіянерамі вы лёгка справіліся. А*

*тут армія, і не абы-якая армія. Дубальтоўкамі яе не спыніш. Пакласці лепшых людзей ні за панюх табакі — карысці мала* (С. Грахоўскі. Рудабельская рэспубліка).

Узнік у мове спажыўцоў нюхальнага тытуню (табакі). Устарэлае слова *панюх* абазначала дробачку табакі. «„Панюх (табакі)“ — ад тых часоў, калі модна было нюхаць табаку (бралі крышачку, на адзін „панюх“ табакі ў шчопці і нюхалі)» (Ф. Янкоўскі).

**Ні за што.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск*. ни за что, *укр.* ні за що). Ні пры якіх умовах, абставінах (не будзе, не адбудзецца што-н.) — *Брыгадзір наш у праўленне пайшоў, а я… Пры ім жа і не падумай адлучыцца. Ні за што не адпусціць!* (Я. Каршукоў Усмешка).

Узнік як фрагмент сінанімічнага фразеалагізма *ні за што на свеце* (гл.).

**Ні за што на свеце.** *Напэўна, калька з франц. м,* (pour rien au monde). Ні пры якіх умовах, абставінах (не будзе, не адбудзецца што-н.). *Калі б да вайны школьніку Міколу Голубу сказалі, што ён будзе аграномам, стане старшынёй калгаса, то ён не паверыў бы гэтаму ні за што на свеце* (І.Навуменка. Вясновыя праталіны).

**Нізкай пробы.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Дрэннай вартасці, дасканаласці, кваліфікацыі. *Эстрадную тэлепраграму літаральна запаланіла рок-музыка нізкай пробы* (Звязда. 22.02.1988).

Узнік у выніку пераасэнсавання свабоднага словазлучэння, якое бытуе ў асяроддзі ювеліраў; у іх золата ці серабро як матэрыял для вырабу розных рэчаў можа быць найвышэйшай, высокай і нізкай пробы, што залежыць ад долі высакароднага металу ў сплаве. Параўн.: «Было заключэнне ювеліра: пярсцёнак з золата нізкай пробы, камень — шкло пад брыльянт» (В. Хомчанка).

**Ні кала ні двара.** *Усходнесл.* Зусім нічога няма, не было ў каго-н. *Добра табе, халасцяку, ні кала ні двара, сам сабе галава. А тут — чацвёрай доме, і малыя!* (В. Быкаў. Трэцяя ракета).

Этымалогія фразеалагізма стане зразумелай, калі прыняць пад увагу, што ўстарэлае слова (гістарызм) *кол* абазначала ‘невялікі ўчастак ворнай зямлі, кадзел каля хаты (у некаторых мясцінах — шырынёю два сажні)’. *Двор* — гэта ‘гаспадарка’. Такім чынам, першапачатковае значэнне спалучэння было канкрэтным паказчыкам беднасці — ‘ні зямлі, ні гаспадаркі’.

**Ні млён ні таўкач.** *Уласна бел.* Ні на што не здатны, няўмелы. *Я хацеў закрычаць, абразіць, сказаць, што ён ні млён ні таўкач, у нашым Чарцяжы так называюць людзей нікчэмных, ні на што не здатных* (В. Шырко. Імем барыкад мяцежных).

Утвораны па мадэлі з ужо існуючымі выразамі, у якіх структурная схема *ні...ні...* запоўнена супрацьпастаўленымі словамі. *Млён* — палка, якой круцяць жорны, сячкарню.

**Ні на грам.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Нікольві, зусім (не даваць, не баяцца і пад.). *Мужычок знізу ўверх бліснуў на Валошку шчаслівымі вочкамі, ні на грам не спалохаўся* (В. Карамазаў. Пушча).

Узнік па аналогіі з ужо існуючым, сэнсава тоесным фразеалагізмам *ні на гран* (гл.) з заменай устарэлага і незразумелага *гран* блізкім па гучанні словам.

**Ні на гран.** *Агульны для ўсходнесл: м.* Нікольві, зусім (не мець, не хваляваць і пад.). *Маё нядаўняе мінулае, верыш, ніколечкі мяне, ну ні на гран не хвалюе...* (А. Масарэнка. Баргузінскае лета).

Склаўся, відаць, у маўленні аптэкараў па аналогіі з фразеалагізмамі *ні на грош, ні на ёту, ні на кроплю. Гран* — даўнейшая мера аптэкарскай вагі, роўная 0,062 грама.

**Ні на ёту.** *Паўкалька з грэч. м.* Нікольві, зусім (не саступаць, не пераацэньваць і пад.). *Жыццё цвёрда крочыць наперад, не саступаючы ні на ёту перад «крамолаю»* (Р. Мурашка. Сын).

Паходзіць з Бібліі (Матфей, 5,18): «Ні адна ёта, ні адна рыска не знікне з закону, пакуль не здзейсніцца ўсё», г. зн. недапушчальныя нават самыя малыя змены ў законе Божым, ні тэкст, ні літара, ні рысачка ў ім не могуць быць зменены. *Ёта* — літара грэч. алфавіта, якая абазначае гук «і»; яна ж у паменшаным памеры, як рысачка, выкарыстоўвалася пад галоснымі для адрознення гэтых гукаў.

**Ні нашым ні вашым.** *Запазыч. з руск. м.* Ні за аднаго і ні за другога; нікому з двух розных поглядамі бакоў (не служыць, не дагаджаць). *Рыгор сумеўся. Былі так сабе — ні нашым ні вашым* (К. Чорны. Нянавісць).

Выраз узнік на аснове фразеалагізма *і нашым і вашым* (ш.) як яго сэнсавая супрацьлегласць.

**Ні пава ні варона.** *Запазыч. з руск. м.* Той, хто адышоў ад адных і не далучыўся да другіх. *Прайшла* [паэтка], *паглядаючы ў бакі. — Ні пава ні варона, — усміхнуўся Кулік* (І.Гурскі. Чужы хлеб).

Выраз з байкі І.А. Крылова «Варона» (1825), у якой гаворыцца, як варона, прыбраўшыся «пад паву», хацела ўсіх зачараваць. Але яе абскублі спачатку павы, а пасля варокы. І «ад варон яна адстала, а да паваў не прыстала», зрабілася «ні пава ні варона» (гл. *варона ў паўлінавых пёрах).*

**Ні пры якой пагодзе.** *Паўкалька з руск. м.* (ни при какой погоде). Ніколі і ні пры якіх умовах, абставінах (не рабіць чаго-н.). *Ці ж мала войнаў за стагоддзе было ў нас на планеце ўсёй? О не, ні*

*пры якой пагодзе не трэба болей зброі ёй!* (П. Прыходзька. Рэпартаж з родных мясцін).

Фразеалагізаваны крылаты выраз з верша С. Ясеніна «Вяртанне на радзіму» (1924), дзе ёсць радкі: «И вот сестра разводит, Раскрыв, как Библию, пузатый „Капитал“, / О Марксе, Энгельсе…/ Ни при какой погоде / Я этих книг, конечно, не читал».

**Ні пуху ні пяра.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Ужыв. як шчырае пажаданне поспеху, удачы каму-н. у якой-н. справе. *Да Лапаціч правядуць цябе хлопцы. А адтуль глядзі сама, Ніна… Ідзі, збірайся… Ні пуху ні пяра* (І.Мележ. Мінскі напрамак).

Узнік у асяроддзі паляўнічых і гаварыўся перад адыходам на паляванне як пажаданне ўдачы, выказанае ў адмоўнай форме, што адлюстроўвала прымхлівыя ўяўленні, быццам пры прамым пажаданні *(і пуху і пяра)* можна сурочыць. *Пяро* ў мове паляўнічых абазначае ‘птушкі’, а *пух* атаясамліваецца са словам *звяры.*

**Ні пядзі** *не аддаць, не ўступіць. Агульны для ўсходнесл. м.* Нікольні, нават самай невялікай часткі. Звычайна пра зямлю. *Мы свае зямлі ні пядзі не аддадзім. Так мае наказвалі старыя, а я вам* (І.Гурскі. Вецер веку).

*Пядзя* — старая мера даўжыні, роўная адлегласці паміж канцамі расстаўленых вялікага і ўказальнага пальцаў.

**Ні роду ні племені.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Нікога з родных, сваякоў (няма, не памятаць і пад.). *[Мальвіна: ] А ён што? Галота нейкая, ні роду ні племені* (В. Вольскі. Несцерка).

Першапачаткова ў славян слова *род* абазначала бліжэйшых, а *племя* — аддаленых родзічаў Тут кампанент *племені* асацыіруецца з патомствам.

**Ні роду ні плоду.** *Агульны для бел. і ўкр. м.* Нікога з родных, сваякоў (не засталося, няма і пад.). — *А ў цябе, праўда, ні роду ні плоду не засталося? — мабыць, каб толькі не маўчаць, спытаў Пётра* (С. Грахоўскі. Ранні снег).

Утвораны па аналогіі з ужо існуючым, сэнсава тоесным фразеалагізмам *ні роду ні племені* (гл.). Кампанент *плоду* абумоўлены рыфмай і сэнсава асацыіруецца з патомствам.

**Ні рыба ні мяса.** *Калька з ням. м.* (nicht Fisch nicht Fleisch; *параўн. у французаў:* ni chair ni po isson — ні мяса ні рыба). Пасрэдкы чалавек, які нічым асаблівым не вылучаецца і якога цяжка кваліфікаваць. *Жаніх не вельмі спадабаўся. Манерны нейкі, але* бесстылёвы… *ні старамодны, ні сучасны — як кажуць, ні рыба ні мяса* (І.Шамякін. Атланты і карыятыды).

Ёсць меркаванне, што фразеалагізм узнік у XVI ст. у перыяд рэфармацыі — шырокага грамадскага руху спачатку ў Германіі, а пасля і ў іншых краінах Заходняй Еўропы. Рэфарматы выступалі

супраць феадалізму і каталіцкай царквы з яе індульгенцыямі і пастамі. Некаторыя, як піша М.І.Міхельсон, «дакладна не выяўлялі, ці рэфарматы яны, ці католікі, г. зн. ці елі скаромнае — мяса, ці поснае — рыбу». Такіх людзей першапачаткова і называлі фразеалагізмам *ні рыба ні мяса.*

**Ні самому (самой, самім) пагллядзець ні людзям паказаць.** *Уласна бел.* Нікчэмны, непрыглядны; такі, што пакідае непрыемнае ўражанне. *Той хоць лётчыкам быў, а гэты хто? Так сабе вахлачок, ні самой паглядзець ні людзям паказаць* (Р. Сабаленка. Іду ў жыццё).

Першапачаткова дастасоўваўся, як сведчыць І.І.Насовіч, толькі да фурункула (скулы) на заднім праходзе, а затым стаў ужывацца ў дачыненні да асоб і канкрэтных прадметаў.

**Ні села ні пала.** *Агульны для бел. і ўкр.* (ні сіло ні пало) *м.* Неспадзявана, нечакана. *Пабылі б яшчэ тыдзень які. А то ні села ні пала ўзняліся, як тыя птушкі з перапуду, і толькі іх бачыў* (А. Пальчэўскі. Жнівеньская раніца).

Страчаная вобразнасць фразеалагізма ўзнаўляецца, калі мець на ўвазе, што ён утварыўся з прыказкі *Ні села ні пала, захацела баба сала* ў выніку яе скарачэння. У складзе прыказкі, першапачатковае значэнне якой — ‘не паспеў сесці, а ўжо давай яму есці’, сэнс слова *пала* акрэслены, блізкі да сэнсу кампанента *села.*

**Ні семя ні емя** *ў каго, дзе. Уласна бел.* Зусім няма нічога есці. *І яна мучыцца, і бацька мучыўся. Бывала, ні семя ў яго ні емя* (Я.Сіпакоў. Крыло цішыні).

Утвораны па мадэлі з фразеалагізмамі тыпу *ні кала ні двара, ні роду ні плоду.* Структурная схема *ні... ні...* запоўнена словам *семя* ‘насенне’ і нававторам *емя* (ад *есці),* абумоўленым рыфмай да *семя.*

**Ні сінь пораху.** *Агульны для бел. і руск.* (ни синь пороха) *м.* Зусім нічога (няма, не засталося і пад.). *А там, глядзім, солі — ні сінь пораху. Цётка Пёкла памуляецца і скажа: — Вазьмі шчопаць, пасалі* (І.Сяркоў. Мы — хлопцы жывучыя).

Першапачаткова *сінь* — гэта ‘чорны’ (гл. *на сіні пазногаць),* а *порах* — ‘пыл’ (з такім значэннем слова *порах* падаецца ў слоўніках У. Даля, І.Насовіча, з такім жа значэннем яно ўжываецца ў сучаснай украінскай мове; параўн, таксама бел. *парахня). Ні сінь пораху* — літаральна «ні чорнай пылінкі». У сувязі з тым, што ўнутраная форма фразеалагізма з цягам часу забылася, а паводле структуры *ні сінь пораху* стаў адзінкавым выразам, у некаторых бел. гаворках ён выраўнаваўся на ўзор выразаў жывой, прадуктыўнай мадэлі тыпу *ні каліва ні беднага, ні ўцяць ні ўзяць*: «Прыйшлі з блакады — ні ў кога ні пораху ні сіняга» (Ф. Янкоўскі).

Відаць, жыве ў мове і скарочаны варыянт фразеалагізма, зафіксаваны І.Насовічам, — *ні пораху:* «Ні пораху не асталося мне».

**Ні складу ні ладу.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Бесталкова, бязладна, без пэўнай логікі, без сувязі. *І хто прыдумаў гэтыя гузікі ў пятліцы? Ні складу ні ладу* (В. Быкаў. Яго батальён).

Узнік праз параўнанне з дрэннай песняй, у якой і словы нескладныя, і музыка (лад) няўдалая. Параўн.: «Устаў шаман, узяў свой бубен (без бубна ён кроку не ступіць), ударыў у яго і запяяў. Доўгую такую, дзіўную песню зацягнуў. Ні складу ў ёй, ні ладу не было» (М. Багдановіч).

**Ні слуху ні духу.** *Запазыч. з руск. м.* Ніякіх вестак (няма пра каго-н.*). Дзе ён цяпер, татка? Ці жывы, ці дачакаюся яго? Недзе ваюе, а дзе — ні слуху ні духу* (С. Грахоўскі. Жывое вогнішча).

*Ні слуху* — сэнсаўтваральная частка фразеалагізма і літаральна абазначае ‘не чуваць нічога (пра каго-н.)’. Другая частка, абумоўленая рыфмай, выступае як дадатак са значэннем ‘не чуць чыйго-н. паху’. Выраз ужыв. і ў скалькаваным варыянце *ні слыху ні дыху:* «Помню, яшчэ мой бацька расказваў, як яны [мядзведзі] прыходзілі ў вёску і калоды з пчоламі варочалі. Эге-е… За прыгонам яшчэ было. Пасля яны ад нас сышлі: ні слыху ні дыху» (І.Пташнікаў).

**Ні сучка ні задзірынкі.** *Паўкалька з руск. м.* (ни сучка ни задоринки). Ніякіх недахопаў (не знаходзіцца, няма, не было і пад.)< *Павел Іванавіч правяраў надзейнасць таго ці іншага вузла ў рабоце на розных рэжымах і, калі не знаходзіў, як кажуць, ні сучка ні задзірынкі, дазваляў упакоўваць* (В. Макарэвіч. На галоўным напрамку).

Паходзіць з прафесійнага маўлення сталяроў, дзе ён ужываўся, калі гаварылася пра драўляныя вырабы высокай якасці.

**Ні тпру ні но (ну).** *Агульны для ўсходнесл. м.* Ужыв. са значэннямі ‘не дзейнічае (пра машыну, апарат і пад.)’ і ‘нічога не робіць, ніяк не выяўляе сябе’. *Два міліцыянеры… зазірнулі ў акенца адзінокага таксі, якое знаходзілася ў стане, як кажуць, ні тпру ні но* (П. Пестрак. Серадзібор). *Усім хацелася забіваць галы, і ніхто не хацеў стаяць у варотах. Упрошвалі Сярожу і я, і Вася, і Паўлуша. А ён ні тпру ні ну* (П.Місько. Навасёлы).

Утвораны па мадэлі з ужо існуючымі выразамі, у якіх структурная схема *ні… ні…* запоўнена антанімічнымі словамі *(ні ўзад ні ўперад, ні тое ні сёе, ні жывы ні мёртвы). Тпру* і *но* — воклічы, першым спыняюць, другім панукаюць каня. Варыянт з кампанентам *ну (ні тпру ні ну)* абумоўлены імкненнем да сугучча.

**Ні ўбавіць ні прыбавіць.** *Запазыч. з руск. м.* Абсалютна дакладна. — *Добра працаваў у зоне… — Добра… Тэмп нармальны. Тут ні ўбавіць ні прыбавіць* (А. Алешка. Дарогі без слядоў).

Узнік па мадэлі з ужо існуючым фразеалагізмам *ні даць ні ўзяць.* Структурная схема *ні... ні...* запоўнена дзеясловамі-антонімамі. Выраз зрэдку ўжываўся і ў тэкстах XIX ст. (у творах І.А. Крылова, М. Я. Салтыкова-Шчадрына і інш.), але асаблівую пашыранасць набыў пасля *яго*неаднаразовага выкарыстання ў якасці рэфрэна ў раздзеле «Так гэта было» паэмы А. Твардоўскага «За даллю — даль» (1960).

**Ні ў жысць.** *Запазыч. з руск. м.* (ни в жизнь) *з заменай назоўнікавага кампанента дыялектным адпаведнікам.* Ні пры якіх умовах, абставінах. — *Ні ў жысць не паверыў бы, што так анучу выбеліш! — заўважыў Ігнась* (П. Броўка. Каландры).

Генетычна ў гэтым выразе можна бачыць гіпербалічнае прысягненне ўласным жыццём. Параўн.: «Сумленнем кляўся чыстым ён, жыццём ён кляўся чыстым...» (А. Бялевіч). У форме *ні в жисть* выраз сустракаецца ў некаторых укр. гаворках; гл.: *Ужченко В., Ужченко Д.* Фразеологічний словник. — Луганск, 2002. С. 99.

**Ні ў зуб нагой.** *Запазыч. з руск. м.* Зусім нічога не разумець, не ведаць. *Дзе там было навучыцца. Бэкаем* [па-англійску], *чытаючы, збольшага, а каб перакласці з прачытанага ці самому што якое сказаць па-іхняму — ні ў зуб нагой* (Я. Васілёнак. Сітуацыя).

Паходзіць са школьнага арго. Фразеалагізм перажыў трансфармацыю: скарачэнне і замену аднаго кампанента іншым. *Яго* першапачатковая форма — *ни в зуб толкнуть не смыслит.* У сярэдзіне XIX ст. паралельна з поўнай формай ужывалася скарочаная, напрыклад у М. Памялоўскага: «Ученики, как говорится в бурсе, ни в зуб толкнуть». Затым адбылася замена дзеяслоўнага кампанента *толкнуть* кантэкстуальна блізкім назоўнікам *ногой.*

**Ні ў кола ні ў мяла.** *Уласна бел.* Няўмелы, нянздатны чалавек. *Людзі і па-людску жыць хочуць. Што яны, цётачка, вінаваты, што старшыні ні ў кола ні ў мяла?..* (М. Клебановіч. Заручыны).

І.Насовіч тлумачыць гэты выраз так: «кажуць з прыкрасцю пра такога чалавека, які ў сям'і мала здатны да гаспадарчых работ». У абагульненым сэнсе гэта выказваецца праз назоўнікавыя кампаненты, якія (на ўзроўні слоў) даўней, паводле «Слоўніка...» І.Насовіча, абазначалі: *кола* — 'млынавое кола', а *мяла* — 'мяліца, мялка, на якой лён або пяньку мнуць'.

**Ні ўцяць ні ўзяць.** *Уласна бел.* Абсалютна нічога (няма есці). *Ты ж ажэнішся ды будзе ўсяго ставаць, дык і прывыкнеш і палюбіш, а як не будзе ні ўцяць ні ўзяць, дык любошчы твае пойдуць марна...* (К. Крапіва. Каровін мужык).

Значэнне кампанента *ўцяць* у зыходным спалучэнні — ‘адрэзаць’. Вобразнасць рыфмаванага фразеалагізма асэнсоўваецца як ‘ні адрэзаць чаго-н., каб з’есці, ні ўзяць з сабой’.

**Ні цэ ні бэ.** *Уласна бел.* Зусім нічога (не ведадь, не разумець). *Смяхоцце з чалавека! Не ведае, як той казаў, ні цэ ні бэ, а на каралеўства прэ!* (С. Баранавых. Межы).

Утвораны па аналогіі з ужо існуючым, сэнсава тоесным фразеалагізмам *ні бэ ні мэ <ні кукарэку>* з запаўненнем структурнай схемы назвамі трэцяй і другой літар лацінскага алфавіта.

**Ногі выцягнуць.** *Агульны для ўсходнесл. (руск.* протянуть ноги, *укр.* витягти ноги) *і польск.* (wyciągnąć nogi) *м.,* абазначае ‘памерці’. У *бальніцу я не пайду Пайсці мне ў вашу бальнігцу, значыць, і ногі там выцягнуць* (П. Галавач. Праз гады). У бел. і ўкр. мовах фразеалагізм ужываецца і ў форме *ногі выпрастаць: А той, што падстрэлены быў Арцёмам, пакуль яго там раздзявалі ды перавязвалі, і ногі выпрастаў* (А. Чарнышэвіч. На сажалках).

Этымалагічна гэта «метафара, узятая з жывёльнага свету» (В.У.Вінаградаў): жывёлы перад смерцю, у апошнія секунды жыцця, выпростваюць, выцягваюць ногі.

**Ногі кормяць** *каго. Уласна бел.* Чыя-н. плённая праца патрабуе бегатні, амаль сталага знаходжання ў руху. *Каб ты ведаў, той чалавек, якогая шукаў па вуліцы Русіянава, прызнаўся ў трох забойствах. Два — у нас, адно — у Расіі. Так што ногі нас кормяць, ногі…* (В. Праўдзін. Танцавальны марафон).

Паходзіць з прыказкі *Вайка (воўка) ногі кормяць,* якая абазначае ‘каб пракарміцца, трэба шукаць харчы, турбавацца, а не сядзець на адным месцы’. Супаставім выкарыстанне фразеалагізма з агаленнем яго вобразнасці праз параўнальны зварот: «Думалася, цяпер у рэдакцыю яму ўжо ніколі не вярнуцца, журналіста, як любіў і сам жартаваць, як і воўка, ногі кормяць, а якія ў яго цяпер ногі?!» (І.Капыловіч).

**Ногі мыць** *каму, чые* **і тую ваду піць.** *Запазыч. з руск. м,* Бязмежна дагаджаць каму-н. у знак удзячнасці за што-н. Часцей як абяцанне. — *Будзем пані ногі мыць і тую ваду піць, — нізка кланялася пані Даміцэля* (Я. Колас. Хатка над балотцам).

Узнік у выніку пераасэнсавання свабоднага словазлучэння. «У Сібіры калісьці быў на першы погляд варварскі, але мудры звычай. У часе сватання нявеста павінна была вымыць ногі жаніху, а пасля выпіць гэту ваду. Толькі ў такім выпадку нявеста лічылася вартай, каб яе ўзялі ў жонкі» (Я.Еўтушэнка).

**Ногі на плечы і (ды)…** *Гл.* <браць (узяць)> ногі на плечы і (ды)…

**Ногі ў рукі і (ды)…** *Гл.* <браць (узяць)> ногі ў рукі і (ды)…

Нуль увагі *каму, на каго, на што. Калька з руск. м.* (ноль внимания). Зусім не зважаць на каго-, што-н., абыякава адносіцца да каго-, чаго-н. *На супрацьлеглым баку дзеўчынёха вудзіць рыбу. Стройная, маладая, у яркай матросцы... На заляцанні — нуль увагі* (Г. Пашкоў. Палескія вандроўнікі).

Паходзіць, на думку В.У.Вінаградава, са школьнага жаргону. Тут *нуль* атаясамліваецца з *нікольні,* з поўнай адсутнасцю чаго-н. (увагі). Замацаванню фразеалагізма ў мове садзейнічала яго строга фіксаваная, нязменная марфалагічная форма і пастаянная сінтаксічная функцыя выказніка.

**Нялёгкая гоніць (прыгнала)** *каго. Уласна бел.* Хто-н. недарэчы, не ў пару прыходзіць, з'яўляецца (выказванне незадавальнення ў сувязі з прыходам нежаданага госця, наведвальніка). *[Яніна: ] Ведзьма ідзе... Леснічыха. [Люба: ] Чаго ж яе нялёгкая гоніць сюды?* (І.Козел. Папараць-кветка).

Утвораны шляхам мадэліравання — на ўзор *ліха гоніць, нячыстая <сіла> гоніць, чорт гоніць* і інш. Кампанент *нялёгкая,* неўжывальны па-за фразеалагізмам як назоўнік, паходзіць ад словазлучэння *нялёгкая сіла,* г. зн. 'нячыстая сіла, чорт, д'ябал, ліха'. Гэты кампанент ёсць і ў фразеалагізмах *нялёгкая носіць* (каго дзе), *нялёгкая нясе* (каго) і інш. І.Насовіч падае выраз *нялёгкая нясець* з паясненнем першага кампанента: «г. зн. сіла».

**Нясолана хлябаўшы.** *Запазыч. з руск. м,* Нічога не дабіўшыся, ашукаўшыся ў сваіх спадзяваннях. *Развітаўся Слімак і пайшоў нясолана хлябаўшы. Усё думаў, гадаў, як жа ён выберацца з усёй гэтай напасці* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Узнік у выніку пераасэнсавання свабоднага словазлучэння. Даўней, калі соль была вельмі дарагім прадуктам, бо дастаўлялася здалёку на конях ці валах ды яшчэ абкладвалася высокім падаткам, страву гатавалі несалёнай. А пасля, як садзіліся за стол, гаспадар дзяліў соль. Такі парадак захоўваўся і тады, калі ў дом збіраліся госці. Некаторых, малаважных, часамі гаспадар абмінаў, і яны елі несалёнае.

**Няўрокам кажучы.** *Уласна бел.* Ужыв. як пабочнае словазлучэнне са значэннем 'няхай і надалей будзе гэтак жа, без змен'. *Грыбок сказаў, што Міканор, няўрокам кажучы, спраўны вельмі з выгляду — непагана, мабыць, на службе было* (І.Мележ. Людзі на балоце).

Узнікненне фразеалагізма звязана з былым павер'ем у магічную сілу слова. Літаральна — 'каб не сурочыць, сказаўшы што-н.'. *Няўрокам, урокі, сурочыць* — аднакаранёвыя словы.

# П

**Паабіваць парогі** *чые, каму, каго, чаго. Гл.* абіваць (паабіваць) парогі *чые, каму; каго, чаго.*

**Павесці рэй.** *Гл.* весці (павесці) рэй.

**Паветраныя замкі.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* воздушные замки, *укр.* надхмарні замки). Нерэальныя, фантастычныя планы, што-н. нязбытнае. *Ты і без гэтага марыш пра паветраныя замкі, а гэта ў тваім узросце не пасуе...* (У. Караткевіч. Нельга забыць).

Утварыўся ў выніку ўсячэння дзеяслоўнага кампанента ў фразеалагізме *будаваць паветраныя замкі* (гл.), які паводле паходжання з'яўляецца калькай з ням. м. (*Luftschlösser bauen).*

**Паветраныя замкі будаваць.** *Калька з ням. м.:* складаны назоўнік *Luftschlösser* перакладзены словазлучэннем *паветраныя замкі,* дзеяслоў *bauen — будаваць.* Абазначае 'захапляцца нязбытнымі марамі, планаваць нездзяйснялънае'. *Дробязей такіх вось прапаноўваць спецыяліст не будзе. Паветраных замкаў будаваць не стане — ён ведае рэальныя магчымасці сучаснага* (Х. Шынклер. Сонца пад шпалы).

Склаўся, відаць, у выніку кантамінацыі двух выразаў: *будаўніцтва ў паветры* + *будаваць замкі ў Іспаніі* або *будаваць картачныя замкі.* Першы — крылаты выраз, яго аўтар — царкоўны пісьменнік Аўгусцін (354–430). Два другія — франц. фразеалагізмы-сінонімы. Адзін з іх *(будаваць замкі ў Іспаніі)* узнік на аснове сярэдневяковага гераічнага эпасу «Песні пра подзвігі», дзе расказваецца, што рыцары атрымлівалі ў спадчыннае ўладанне яшчэ не заваяваныя замкі ў Іспаніі.

**Павісаць у паветры.** *Гл.* вісець (віснуць, павісаць) у паветры.

**Павіснуць паміж небам і зямлёй.** *Гл.* вісець (павіснуць) паміж небам і зямлёй.

**Па вялікім рахунку.** *Паўкалька з руск. м.* (по большому счету). Ужыв. са значэннямі 'сур'ёзна, прынцыпова, без скідак і ўступак', 'па-сапраўднаму, належным чынам, як і павінна быць' і 'фактычна, у адпаведнасці з рэальнасцю'.

Гл. ілюстрацыі да гэтых значэнняў і гістарычна-этымалагічную даведку пра фразеалагізм на с. 15–16.

**Павярнуць кола гісторыі назад.** *Відаць, калька з ням. м.* (das Rad der Geschichte zurückdrehen). Прыпыніць заканамерны ход гістарычнага развіцця, вярнуцца да мінулага. *Няма такой*

*сілы, якая б павярнула кола гісторыі назад. Чалавека, які ведае, што такое свабода, нельга пакарыць* (І.Гурскі. У агні).

Вобраз празрысты, матываваны.

**Па гарачых слядах.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Неадкладна, не марудзячы, непасрэдна пасля чаго-н. *Я лічу, што гэта трэба было рабіць або раней, адразу ж па гарачых слядах... Або гэта трэба рабіць пазней, калі загояцца ўсе раны...* (І.Шамякін. Сэрца на далоні).

Паходзіць з мовы паляўнічых, для якіх, калі яны гоняцца за зверам, сляды сапраўды могуць быць гарачымі, астылымі ці халоднымі, што асабліва відаць зімой. Параўн.: «Калі прайшоў далей, бачу новы доказ таго, што лапатнік гэты — мядзведзь. Я, значыцца, іду якраз па гарачых слядах. Ад аднаго следу аж пара» (У. Дубоўка). З лексікону паляўнічых прыйшоў у літаратурную мову і лексічны варыянт гэтага фразеалагізма — *па свежых слядах:* «Напісана яна па свежых слядах падзей і на канкрэтным матэрыяле» (К. Крапіва).

**Пагнацца за двума зайцамі.** *Гл.* гнацца (пагнацца) за двума зайцамі.

**Пагрэць рукі** *на чым, каля чаго, аб што, дзе. Гл.* грэць (пагрэць) рукі *на чым, каля чаго, аб што, дзе.*

**Пагуляць у кошкі-мышкі.** *Гл.* гуляць (пагуляць) у кошкі-мышкі (у ката і мышку).

**Пад адкрытым небам.** *Калька з франц. м.* (à ciel ouvert). На вуліцы, не ў памяшканні. *Якраз у гэтым маляўнічым месцы размешчаны музей народнай культуры і быту. Пад адкрытым небам* (Г. Пашкоў. Дарога да акіяна).

Выраз усведамляецца як матываваны. *Адкрыты тут* 'без пакрыву зверху, з бакоў'.

**Пад адным дахам (пад адной страхой)** *жыць (пражыць). Агульны для ўсходнесл. (руск.* под одной крышей, *укр.* під одним дахом) *і польск.* (pod jednym dachem) *м.* У адным доме, у адной кватэры, разам. *Амаль два гады жылі мы з ім пад адным дахам* (А. Шашкоў. Лань — рака лясная).

Склаўся на аснове свабоднага словазлучэння ў выніку сінекдахічнага пераносу (заменена назва цэлага назвай яго часткі).

**Падаць (упасці) духам.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Траціць упэўненасць, адчайвацца. *Макаед зразумеў, што свой праект яму не праціснуць. Але не ўпаў духам* (І.Шамякін. Атланты і карыятыды).

Выраз з агульным аналітычным значэннем. Абодва кампаненты сэнсава суадносяцца з прыватнымі значэннямі адпаведных слоў: кампанент *падаць* — са значэннем 'рабіцца кепскім, псавацца', *дух* — са значэннем 'унутраны стан, настрой'.

**Падбіванне кліноў (клінкоў)** *да каго. Агульны для бел. і ўкр. м.* Заляцанне. *Неўзабаве гэтае прастойванне ў лінатыпнай успрынялі ў друкарні як падбіванне кліноў да лінатыпісткі Леначкі — балбатлівай, з кірпатым носікам бландзіначкі* (В. Блакіт. Усмешка Фартуны).

Назоўнікавы фразеалагізм, утвораны на аснове суадноснага дзеяслоўнага *падбіваць клінкі (кліны)* пад каго, да каго ‘заляцацца да каго-н., дабіваючыся ўзаемнасці’.

**Пад богавай страхой.** *Уласна бел.* Ужыв. са значэннямі ‘не ў памяшканні’ і ‘у сусвеце, у наваколлі’. *Напярэдадні я наведаў гэты цікавы, арыгінальны, «пад богавай страхою», музей: зямлянкі, накрытыя дзёрнам і з акенцамі, нары пры сценах, печкі з бляхі, лаўкі каля дзвярэй перад кожнаю зямлянкаю…* (Ф. Янкоўскі. Трэба ж). *Чубару было цікава адгадаць наперад, каго раптам вывеў клопат за вёску, аднак дарэмна: цяпер, калі ўсё перайначылася пад богавай страхой і не паддавалася вызначэнню, можна было меркаваць і так і гэтак* (І.Чыгрынаў. Плач перапёлкі).

У аснове фразеалагізма — нерэальны вобраз, які ўсведамляецца як «пад страхой, збудаванай Богам» або «без якой-небудзь страхі».

**Пад ботам** *каго, чыім, у каго. Агульны для руск.* (под сапогом), *укр.* (під чоботом), *польск.* (pod butem), *балг.* (под ботуш*) м.* Абазначае: 1) пад чыёй-н. уладай, пад прыгнётам (аказацца, стагнаць і пад.), 2) у поўнай залежнасці ад каго-н. (быць, знаходзіцца). *Тады наш край стагнаў пад ботам царскіх сатрапаў* (Л. Левановіч. Валанцёр свабоды). *Няўжо канец табе, пагроза, і вечны ціск пад панскім ботам і страх знайсці канец пад плотам?* (Я. Колас. Новая зямля).

Выраз адлюстроўвае даўнейшую, вядомую многім народам практыку адносін паміж людзьмі, калі бот быў сімвалічным знакам улады: параможца наступаў нагой (ботам) на галаву пераможанага, паказваючы гэтым сваю поўную ўладу над ім.

**Падвесці міну** *пад каго, пад што. Гл.* падводзіць (падвесці) міну *пад каго, пад што.*

**Падводзіць (падвесці) міну** *пад каго, пад што. Агульны для ўсходнесл. м.* Цішком рабіць вялікую непрыемнасць каму-н. *[Надзя: ] Я чула, як яна тут міну падводзіла пад мяне. [Валодзя: ] Дражнілася. Ты ж яе ведаеш* (К. Крапіва. Зацікаўленая асоба).

Утвораны шляхам пераасэнсавання тэрміналагічнага словазлучэння, якое ў маўленні ваенных маракоў ужываецца з прамым значэннем.

**Пад голым небам.** *Агульны для бел., укр.* (під голим небом) *іпольск.* (pod gołym niebem) *м.* На вуліцы, не ў памяшканні. *[Паніч: ]*

*Каб за табой праўда была, то не сядзеў бы гэтак пад голым небам* (Я. Купала. Раскіданае гняздо).

Узнік па мадэлі з ужо існуючым, сэнсава тоесным фразеалагізмам *пад адкрытым небам* (гл.) — калькай з франц. м.

**Пад заслону.** *Агульны для ўсходнесл. м,* У самым канцы (рабіць, зрабіць што-н.). *Няма ў вас жалю, Клаўдзія Аляксееўна. Пад заслону рабочага дня столькі назапасілі ўсяго* (У.Ліпскі. Бачыць будучае).

Паходзіць з маўлення акцёраў. Найбольш эфектныя сцэны нярэдка прыпадаюць на канец акта ці ўсёй п'есы перад тым, калі апускаецца заслона.

**Падзел (дзяльба) скуры незабітага мядзведзя.** *Уласна бел.* Заўчаснае размеркаванне прыбытку ў яшчэ не зробленай справе.

*Складвалася ўражанне... што некаторых «апазіцыянераў» больш хвалюе падзел скуры незабітага мядзведзя* (Ю. Хадыка. Што далей?).

Утвораны на аснове суадноснага дзеяслоўнага фразеалагізма *дзяліць скуру незабітага мядзведзя* (гл.).

**Падзенне акцый** *каго, чаго. Агульны для ўсходнесл. м.* Зніжэнне ўплыву, значэння каго-, чаго-н. *Наменклатуршчыкі не маглі не зафіксаваць падзенне акцый палітыкі прэзідэнта* (Нар. воля. 29.10.2000).

Узнік унутрыфразеалагічным спосабам на аснове несуадноснага выразу *акцыі падаюць* (чые, каго) — паўкалькі з франц. м. (гл.).

**Падкаваць блыху.** *Запазыч. з руск. м.* Паказаць, праявіць надзвычайную вынаходлівасць у якой-н. справе. [Аляксей] *падышоў, моўчкі прысеў ля прыбора. Клімчанка запытаў: — Падкуём, Лёша, гэтую блыху?* (М. Гроднеў. Сонечны вецер).

Выраз з апавядання М. С. Ляскова «Ляўша» (1881), дзе расказваецца, як тульскі майстар Ляўша змог падкаваць маленькую металічную блыху, якую англічане падарылі рускаму цару, каб паказаць сваё адмысловае ўменне.

**Пад канём** *быць, аказвацца* і пад. *Агульны для ўсходнесл. м.* У непрыемнай сітуацыі, у нявыгадным становішчы. *За свой век я на многае наглядзеўся, многае пабачыў Быў; як кажуць, на кані і пад канём. Больш, канечне, пад канём...* (Б. Сачанка. Памяць).

Параўнальна нядаўняе ўтварэнне, «абломак» фразеалагізма *на кані і пад канём* 'у самых разнастайных, прыемных і непрыемных сітуацыях (быць і пад.)'. У «Зборніку беларускіх прыказак» І.І.Насовіча выраз фіксуецца ў форме *быў на кані і пад канём.*

**Пад каўпаком** *каго, у каго. Запазыч. з руск. м.* (под колпаком). У поўнай залежнасці ад каго-н. (знаходзіцца, быць, жыць і пад.). *Скора я буду браць вашага рэзідэнта, пачакаю*

*толькі, пакуль управіцца, а таму не ўздумайце мне перашкодзіць — вы ў мяне пад каўпаком* (М. Кусянкоў. Чага).

Выраз з тэлефільма «Семнаццаць імгненняў вясны», знятага па аднайменным рамане Ю. Сямёнава. Будучы маўленчай характарыстыкай аднаго з персанажаў рамана — гестапаўца Мюлера, выраз з'яўляецца недакладнай калькай з ням. м. *(unter jemandes Hut sein* 'быць пад чыёй-н. аховай'). Пры калькаванні фразеалагізма стварылася каламбурная двухпланавасць, бо ў ням. м. ёсць два амонімы: *Hut1* — 'капялюш', а таксама ў тэхнічным ужыванні 'каўпак' і *Hut2* — 'абарона, ахова'.

**Падкласці свінню** *каму Гл.* падлажыць (падкласці) свінню *каму.*

**Падлажыць (падкласці) свінню** *каму. Агульны для ўсходнесл. м.* Цішком падстроіць непрыемнасць, подласць. *Ічаму раптам інспектар патрабуе пасведчанне якраз* **у** *той час, калі настаўнік* **у** *споведзі не быў?.. Эгэ! Ды гэта пісар Васількевіч падлажыў яму такую свінню!* (Я. Колас. На ростанях).

У многіх рускіх крыніцах этымалогію гэтага выразу звязваюць з даўнейшым ваенным тэрмінам *свіння* — 'строй клінам для прарыву варожай абароны'. Аднак фразеалагічнае значэнне 'цішком падстроіць каму-н. подласць' не мае ніякай сувязі з названай «свіннёй». Яно склалася як метафарычнае ў адносінах да прамога значэння свабоднага словазлучэння. Даўней татары і іншыя магаметане не елі свініны, і калі хто-небудзь за сталом падкладваў ім свінню (свіное мяса), то гэта было для іх вялікай непрыемнасцю.

**Падліванне масла ў агонь.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Абвастрэнне непрыязных адносін паміж кім-н. *Ніякіх аргументаў ён* [Іван Пятровіч] *знаць не знае і не слухае, наадварот, гэта толькі — падліванне масла ў агонь* (Я. Колас. У глыбі Палесся).

Паходзіць з суадноснага дзеяслоўнага фразеалагізма *падліваць маслаў агонь* (гл.), адно са значэнняў якога — 'абвастраць непрыязныя адносіны паміж кім-н., узмацняць якія-н. пачуцці, настрой і пад.'.

**Падліваць (падліць) масла ў агонь.** *Калька з франц. м.* (verser l'huile sur le feu). Ужыв. са значэннямі 'абвастраць непрыязныя адносіны паміж кім-н.' і 'выклікаць, павышаць цікавасць да чаго-н.'. *Яго* [Башлыкова] *пагроза падліла масла ў агонь. — Засудзіце? За нашае ж добрае? — Арыштуеце! За што?* (І.Мележ. Завеі, снежань). *Дзед уважліва ўглядаецца ў акно, каб не прапусціць часам свой прыпынах. А вясёлы хлопец падлівае масла ў агонь, выдумляе ўсё пра балота ды камароў* (Л. Прокша. Дзе ж тыя камары?).

Магчыма, склаўся пад уплывам лац. *oleum addere camino* (літаральна «падліваць масла ў печ»). Фразеалагізм з празрыстай унутранай формай.

**Падліваць смалы ў агонь.** *Уласна бел.* Абвастраць непрыязныя адносіны паміж кім-н., узмацняць якія-н. пачуцці, настрой і пад. *У нас на Беларусі і так, дзякаваць богу і добрым людзям, бяды і гора ўсякага хоць гаць гаці, дык нашто яшчэ падліваць смалы ў агонь?* (Я. Купала. Вера і незалежнасць).

Утвораны на базе сінанімічнага фразеалагізма *падліваць масла ў агонь* — калькі з франц. м. (гл.).

**Падмінаць (падмяць) пад сябе** *каго, што. Уласна бел.* Ужыв. са значэннямі ‘поўнасцю падпарадкоўваць сваёй волі’ і ‘сілай авалодваць чым-н. (часцей пра ўладу)’. *Спярша ён прыкінуўся ціхмянай, бяскрыўднай авечкай, неўзабаве ж увайшоў у сілу, паказаў зубы, падмяў пад сябе: паспрабуй толькі не дагадзі — адразу ж звольніць* (Маладосць. 2001. № 6). *Страшная татарская навала падмяла пад сябе рускія гарады, але нас яна не зачапіла* (В.Іпатава. Вяшчун Гедзіміна).

Узнік у выніку асацыяцыі па падабенстве з некаторымі жывёламі, якія сваю ахвяру падмінаюць пад сябе. Параўн.: «Апошніх трох ахвотнікаў мядзведзь згроб у ахапак і падмяў пад сябе» (Я. Конеў).

**Пад мухай.** *Агульны для ўсходнесл. і польск.* (pod muchą) *м.* Падпіўшы. *Аднойчы дзядзька Захара вярнуўся з мястэчка пад мухай, але не ноччу і не зімой, і я тады бачыў і чуў цераз плот незаўважна, як ён сустрэўся з Канісам каля будкі* (Я. Брыль. Ніжнія Байдуны).

Узнікненне фразеалагізма звязана з карцёжнай гульнёй у муху. Паводле В. У.Вінаградава, спачатку склаўся ў жаргонна-прафесійным асяроддзі карцёжнікаў і ваенных фразеалагізм *забіць муху*—‘выпіць віна’, а затым на яго аснове азначальны выраз *з мухай.* Апошні першапачаткова абазначаў ‘з выйгрышам, з перамогай пры гульні ў муху’, а пасля стаў характарызаваць стан нецвярозага чалавека. Пазней на базе выразу *з мухай* складваецца фразеалагізм *пад мухай,* мадэллю для якога маглі паслужыць аналагічныя ўтварэнні тыпу *пад чаркай.*

**Паднімаць сцяг** *чаго, чый. Гл.* узнімаць (узняць; паднімаць, падняць) сцяг *чаго, чый.*

**Падножны корм.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Сродкі існавання, здабытыя дзе прыйдзецца і як папала. — *Бачу, брат, на падножным корме сядзіш. — Беркут глянуў на кошык з грыбамі і крывенька ўсміхнуўся. — Так доўга ногі не працягнеш!* (В. Жуковіч. Кволы).

Выток фразеалагізма — сялянскі быт. Першапачаткова так называлі няскошаную траву, корм, які свойская жывёла сама знаходзіць пад нагамі.

**Падняць галаву.** *Гл.* падымаць (падняць; узнімаць, узняць) галаву.

**Падняць голас.** *Гл.* падымаць (падняць) голас.

**Падняць на крыло** *каго. Уласна бел.* Ужыв. са значэннямі ‘змусіць узляцець, паляцець, аддяцець (пра птушак)’ і ‘вырасціць, выхаваць, давёўшы да самастойнасці’. *Адшчыраваў пчаліным звонам ліпень, і жнівень вырай на крыло падняў…* (С. Законнікаў. Адшчыраваў пчаліным звонам…). *Палессе для В. Казько і яго персанажаў — гэта не проста куточак, дзе яны нарадзіліся, паднялі на крыло дзяцей* (Полымя. 1999. № 2).

Выраз «птушынага паходжання». Склаўся шляхам мадэліравання — на ўзор фразеалагізма *падняць на ногі* (каго), адно са значэнняў якога тоеснае з 2-м значэннем выразу *падняць на крыло* (каго).

**Падняць на шчыт** *каго, што. Гл.* узняць (падняць) на шчыт *каго, што.*

**Падпілоўваць (падпілаваць) рогі** *каму. Уласна бел.* Уціхамірваць, утаймоўваць, рабіць больш памяркоўным каго-н., прымушаць пакарыцца. *Я стаяў у парозе і думаў: позна вучыць чалавека ў такія гады, позна яму і падпілоўваць рогі* (М. Гроднеў. Радня).

Узнік у выніку пераасэнсавання свабоднага словазлучэння, якое ўжываецца ў дачыненні да быка, калі ён становіцца небяспечны для статка і ўзнікае патрэба ўтаймаваць яго.

**Падпісвацца (падпісацца) абедзвюма рукамі** *пад чым. Агульны для ўсходнесл. м.* Ахвотна і поўнасцю згаджацца з чым-н. *Прыгнёт ненавідзіць* [Мікола Браніборскі], *сялян тады вызваліць сам прапанаваў, абедзвюма рукамі падпісаўся пад Раткевічавай запіскай* (У. Караткевіч. Каласы пад сярпом тваім).

Утвораны па аналогіі з ужо існуючым фразеалагізмам *хапацца абедзвюма рукамі* за што (гл.). У аснове фразеалагізма — гіпербалізаваны вобраз.

**Падразаць (падрэзаць) крылы (крылле)** *каму. Калька з франц. м.* (couper les ailes). Перашкаджаць каму-н. шырока разгарнуць сваю дзейнасць, праявіць свае сілы, здольнасці. *Каторы рабіць не лянуецца, то і тут жыве… Вайна толькі цяпер крылы падрэзала* (М. Лобан. На парозе будучыні).

Выраз усведамляецца як разгорнутая метафара праз супастаўленне з птушкамі, якім па пэўных прычынах падразаюць крылы.

**Пад рукой.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Ужыв. са значэннямі ‘у чыёй-н. уладзе (быць)’, 'каля сябе, так блізка, што можна лёгка дастаць, выкарыстаць’ і ‘вельмі блізка, недалёка, побач’. *Ведаў* [Арсень] *адно: ён на фронце, пад яго рукой за чатыры дзесяткі байцоў* (Т. Хадкевіч. Песня Дзвіны). *Дуга была тут недалёка — ляжала тут жа пад рукою* (Я. Колас. Новая зямля). [Янка] *міжвольна ўсе свае няўдачы зварочваў на таго, хто быў пад рукою* (У. Дамашэвіч. Ключ ад шчасця).

Першае значэнне фразеалагізма мае сувязь са старажытным атаясамліваннем рукі з фізічнай сілай і ўладай над чым- ці кім-н. Фразеалагізм у гэтым значэнні ўжываўся ўжо ў XIV ст. — у Лаўрэнцьеўскім летапісе: «Иже послани отъ Олга, великаго князя Рускаго, а отъ всъх иже суть под рукою его светлых бояр».

**Пад спудам.** *Усходнесл.* Без выкарыстання, ужывання, прымянення; у забыцці (трымаць, заставацца, знаходзіцца). *Недзе ж пляснее ў скрынях пад спудам хараство — узоры слуцкай зямлі* (А. Калачынскі. Хлопец з нашага сяла).

Выраз сустракаецца яшчэ ў «Астраміравым евангеллі» (1057): «Ни въжагають светильника и поставляють его под спудьмъ, нъ на свещьнице». Амаль тое самае і ў царкоўнаславянскім тэксце Евангелля (Лука, 6, 14): «Запаліўшы свечку, не ставяць яе пад спудам, а на падсвечнік». Гістарызм *спуд* — мерка вадкіх і сыпкіх цел, напрыклад: «...было ячменя яко два спуды, которые принесла и указала свекрови свое» (М. Бельскі. Хроніка ўсяго свету). Слова *спуд* ужывалася і са значэннем ‘тайнік’.

**Пад сукном.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Без прасоўвання, без руху наперад, без разгляду (трымаць, знаходзіцца і пад.). *Няхай бы ўжо такую змрочную паперчыну прафсаюзныя лідэры пад сукном дзе трымалі, давалі ёй ход толькі пры неабходнасці* (А. Масарэнка. Баргузінскае лета).

Вытворны ад дзеяслоўнага фразеалагізма *ляжаць пад сукном* (гл.).

**Пад сурдзінку.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Абазначае ‘ціха, прыглушана’ і ‘тайком, цішком, употай’. *Верабей стаяў перад сходам і гаварыў пад сурдзінку — Якія ж вы дзіўныя...* (П. Пестрак. Серадзі-бор). *У іншых школах мо і лепей, а ў нашай музыка занядбала: Юльчын тата прыглушыў яе, пад сурдзінку грошы калыміць і ў вус не дзьме* (Л. Левановіч. Якар надзеі).

Першапачатковая сфера ўжывання выразу — мова музыкантаў, у якой словамі *сурдзіна* і *сурдзінка* называюць прыстасаванне (у выглядзе грабеньчыка з расшчэпленымі зубамі), што надзяваецца на падстаўку смычковага інструмента, каб аслабіць, прыглушыць яго гук. Фразеалагізм *пад сурдзінку* ўзнік на аснове французскага *a la courdine* з выкарыстаннем замест

*сурдзіна* слова *сурдзінка,* агульнага для ўсходнесл. м., утворанага ад запазычанага *сурдзіна* далучэннем суфікса — к-.

**Падтуліць хвост.** *Гл.* хвост падтуліць (падціснуць).

**Падцісканне хваста.** *Уласна бел.* Залішняя асцярожнасць, страта самаўпэўненасці. *Людзям сапраўды патрэбен мір. Але ж не схаваўшыся пад зямлёю здабываць яго — не скавытаннем, не падцісканнем хваста ў хвіліну небяспекі, а смелым, разумным і сумленным дзеяннем* (Я. Радкевіч. У Агародніке па песні).

Назоўнікавы фразеалагізм, вытворны ад суадноснага дзеяслоўнага *падціскаць хвост.*

**Падціснуць хвост.** *Гл.* хвост падтуліць (падціснуць).

**Пад шафэ.** *Відаць, запазыч. з руск. м.* У стане ап'янення. *Канечне, Масальскі быў пад шафэ. Ён у новенькім трыковым гарнітуры, лакавых новых туфлях* (В. Хомчанка. Пры апазнанні — затрымаць).

У руск. м. выраз склаўся па аналогіі з ужо існуючымі, сэнсава блізкімі фразеалагізмамі *пад газам, пад мухай, пад чаркай.* Структурная схема фразеалагічнай мадэлі «пад + назоўнік» запоўнена запазычаным з франц. м. дзеепрыметнікам *chauffé* 'нагрэты алкаголем'.

**Падымацца з каленяў.** *Гл.* уставаць (падымацца, паднімацца) з каленяў.

**Падымаць (падняць) голас.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Рашуча выказваць сваю думку, выступаць. *Досыць было мне трошку падняць голас, як адзін з іх, мусіць, загадчык ці старшы майстар, унтэр з нашыўкамі, схапіў мяне за локаць і выпіхнуў на вуліцу* (М. Гарэцкі. Віленскія камунары).

Выраз з агульным аналітычным значэнкем. Абодва кампаненты семантычна суадносяцца з прыватнымі значэннямі адпаведных слоў: кампанент *падымаць* — са значэннем 'выклікаць паяўленне чаго-н.', *голас* — са значэннем 'меркаванне, выказванне'.

**Падымаць (падняць; узнімаць, узняць) галаву (галовы).** *Відаць, калька з франц. м.* (lever la tête). Адчуўшы ўпэўненасць, станавіцца смелым, пачынаць актыўна дзейнічаць. *Як прыйшлі былі палякі, Скуратовіч падняў галаву* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне).

Фразеалагізм успрымаецца як матываваны, з жывой унутранай формай.

**Па дыяганалі.** *Паўкалька з франц. м.* (en diagonale). Няўважліва, павярхоўна (чытаць). *І тут жа* [Шура] *успомніў, што даўно збіраўся зайсці ў бібліятэку, узяцца і па-сапраўднаму перачытаць класіку, не так, як студэнтам — па дыяганалі* (А. Жук. Такая восень).

**Пад эгідай** *чыёй, каго, чаго. Відаць, паўкалька з франц. м.* (sous l'egide). Пад прыкрыццем каго-, чаго-н., пад чыёй-н. аховай, заступніцтвам ці кіраўніцтвам (рабіць што-н.). *Пад эгідай іх* [выставак] *актыўна дзейнічаюць гіды і эксперты ЦРУ* (С. Паўлаў: Рак).

У франц. м. выраз склаўся на аснове грэчаскага слова *эгіс (aigis,* у род. скл. *aigidos),* якім называлі шчыт бога Зеўса ў старагрэчаскай міфалогіі.

**Паехаць да Абрама на піва.** *Гл.* адправіцца (пайсці, паехаць) да Абрама на піва.

**Пажынаць (пажаць) лаўры.** *Паўкалька з франц. м.* (moissonner des lauriers). Карыстацца плёнам поспеху. *Насця Федарынчык таксама, напэўна, пажала нямала лаўраў у мясцовых гледачоў* (А. Васілевіч. Блізкія знаёмыя).

Паводле грэчаскага міфа, Апалон пакахаў німфу Дафну, але яна не хацела стаць яго жонкай і папрасіла дапамогі ў багоў. Яны ператварылі яе ў лаўровае дрэва. Лаўр стаў свяшчэнным дрэвам Апалона, бога мастацтваў. У Старажытнай Грэцыі ўсталяваўся звычай узнагароджваць лаўровым вянком паэтаў, мастакоў, музыкантаў. Звычай перанялі старажытныя рымляне. Слова *лаўр* у шмат якіх мовах свету стала ўжывацца з пераносным значэннем як сімвал перамогі, узнагароды. На гэтай аснове ў французаў склаўся фразеалагізм *пажаць (пажынаць) лаўры,* які перайшоў у многія іншыя мовы.

**Пажынаць (пажаць) плады** *чаго. Агульны для ўсходнесл. м.* Карыстацца вынікамі чаго-н. зробленага. *Спакусіўшыся працэнтаманіяй, некаторыя школьныя адміністратары пажынаюць зараз тады «майстэрства», далёкага ад педагогікі* (В.Вітка. Азбука душы).

Утвораны на аснове фразеалагізма *пажынаць лаўры* (гл.) — паўкалькі з франц. м.; абодва выразы ўжываюцца з тоесным значэннем.

**Па завязку.** *Гл.* па <самую> завязку.

**Пазнацца на фарбаваных лісах.** *Агульны для бел., польск.* (poznać się na farbowanych lisach), *укр.* (пізнатися на фарбованих лисах) *м.* Адчуць на сабе чые-н. хітрыкі, падман. *Не кідайце ж вялікіх абманных лозунгаў аб сваіх заходніх ці ўсходніх пяршынствах. На хварбаваных лісах даўно ўжо людзі пазналіся* (Я. Купала. Торжышча).

У аснове фразеалагізма — нерэальны вобраз. У І.Франко ёсць казка «Фарбоваий Лис», дзе гаворыцца, як звычайны ліс «Микита», падфарбаваўшыся, выдаваў сябе за цара звяроў, пакуль звяры не выявілі яго хітрыкі і не разарвалі падманшчыка. Параўн. у

«Беларускай фразеалогіі» Ф. Янкоўскага (1968, с. 216): *ліса фарбаваць* — ‘быць няшчырым, выкручвацца хітруючы’.

**Пайсці ва-банк.** *Гл,* ісці (пайсці) ва-банк.

**Пайсці да Абрама на піва.** *Гл.* адправіцца (пайсці, паехаць) да Абрама на піва.

**Пайсці на вудачку** *чыю, каго. Гл.* ісці (пайсці) на вудачку *чыю, каго.*

**Пайсці па лініі найменшага супраціўлення.** *Гл.* ісці (пайсці) па лініі найменшага супраціўлення.

**Пайсці рукой.** *Гл.* рукой пайсці.

**Пайсці ўгору.** Гл. ісці (пайсці) угору (угару).

**Пайсці ў Каносу.** *Гл.* ісці (пайсці) у Каносу.

**Пайсці ў рожкі** *з кім. Гл.* у рожкі пайсці (узяцца) *з кім.*

**Пайшла пісаць губерня.** *Запазыч. з рус. м.* Выкарыстоўваецца з іранічнай афарбоўкай, калі кажуць пра інтэнсіўнае разгортванне якіх-н. дзеянняў, пра пачатак перапалоху, розных плётак і г.д. *Дубенскі павятовы спраўнік Рамешка.. нагнаў А. Незабытоўскага.. і загадаў вярнуцца ў Пінск, дзе здаў яго пад арышт мясцоваму гараднічаму. Пайшла пісаць губерня!* (С. Александровіч. Вальнадумца з-пад Нясвіжа Аляксандр Незабытоўскі).

Крылаты выраз з паэмы М. В. Гогаля «Мёртвыя душы». Назіраючы на балі ў губернатара, як дамы і чыноўнікі падняліся і панесліся ў хуткім танцы, Чычыкаў усклікнуў: «Вона! пошла писать губерния!» Выраз утварыўся далучэннем слова *губерня* да фразеалагізма *пайшла пісаць,* які і сёння ўжываецца ва ўсходнесл. мовах. Сэнсава і стылістычна гэтыя фразеалагізмы не адрозніваюцца, і тое, што першародны *(пайшла пісаць)* не знікае, вытлумачваецца яго большай магчымасцю спалучацца са словамі і здольнасцю першага кампанента ўтвараць формы роду і ліку *(пайшла, пайшло, пайшлі пісаць): [Цёця Каця: ] Ці праўда гэта, Аляксандр Пятровіч, што пра нашага Чарнавуса гавораць?.. [Гарлахвацкі:] Каб я што і ведаў, дык вам бы не сказаў. Пра гэта гаварыць няможна. [Цёця Каця: ] Ага! Дык такі праўда.* (Выходзіць.) *[Гарлахвацкі* (адзін)*:]. Пайшло пісаць!* (К. Крапіва. Хто смяецца апошнім).

**Паказаць дзе ракі зімуюць** *каму. Агульны для ўсходнесл., польск. і балг. м,* Правучыць, жорстка пакараць кагосьці. *Вось папрашу, каб ён паказаў табе дзе ракі зімуюць* (І.Шамякін. Крыніцы).

Пра паходжанне гэтага выразу ёсць некалькі здагадак. Мяркуюць, напрыклад, што яго ўзнікненне звязана з прыгонным часам, калі паны змушалі сялян лезці зімой у халодную ваду і даставаць ракаў з нораў, дзе яны зімуюць. Думаецца, няма

патрэбы ставіць этымалогію гэтага выразу ў сувязь з пэўнымі з'явамі, падзеямі і рабіць яе загадкавай. *Дзе зімуюць ракі* — гэта, хутчэй за ўсё, дасціпны дадатак да дзеяслова *паказаць,* адно са значэнняў якога — 'правучыць, адпомсціць' (напрыклад: «Я табе пакажу!..»). Такіх пагрозлівых формул, што пачынаюцца дзеясловам *паказаць,* у мове шмат: «Я яму сёння даў! *Я* яму паказаў, дзе камар мухі пасе!» (Я. Брыль); «Эх, каб сюды сотні са дзве рудабельцаў, пушак ды снарадаў хоць трохі, яны б ворагу паказалі, адкуль ногі растуць» (С. Грахоўскі).

**Паказаць пачым фунт ліха** *каму. Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* показать почем фунт лиха, *укр.* показати почаму ківш (пуд, фунт) лиха). Жорстка пакараць, правучыць каго-н., каб непаваднa было. *Ну, даведацца б мне толькі, хто гэта зрабіў! Я яму паказаў бы пачым фунт ліха!* (Я. Васілёнак. Сартавальная горка).

Утварыўся ў выніку далучэння да фразеалагізма *пачым фунт ліха* (гл.) дзеяслоўнага кампанента *паказаць,* які сэнсава суадносіцца (але не супадае!) з перыферыйным зкачэннем дзеяслова *паказаць* ('адпомсціць каму-н., правучыць каго-н.'). Дарэчы, аналагічную ролю выконвае слова-кампанент і пры ўтварэнні яшчэ двух фразеалагізмаў, структурна арганізаваных па схеме: *паказаць* + фразеалагізм, які бытуе самастойна *(дзе ракі зімуюць, адкуль ногі растуць).*

**Паказваць (выстаўляць) дулю (фігу, кукіш)** *каму;* **паказаць (выставіць) дулю (фігу, кукіш)** *каму. Паўкалька з ням. м. (die Feigen weisen* літаральна «фігу паказаць»). Рашуча і з насмешкай адмаўляць у чым-н., нічога не даваць каму-н. *Вітэ нам даклярavaу — помніце? — свабоду. Потым фігу паказаў «вернаму» народу* (Я. Колас. Канстытуцыя).

Выраз метанімічнага паходжання, звязаны з адпаведным жэстам. Параўн.: «Падвучаны маткаю [Пiліпка] часта ўсяляк гаварыў на Зосю ды фігу соваў ледзь не пад самы нос» (К. Крапіва).

**Паказваць (паказаць) дулю (фігу, кукіш) у кішэні.** *Агульны для бел. і руск.* (показывать кукиш в кармане) *м.;* параўн. у І.Насовіча: *кукіш у кішэні даў.* Спадцішка паграражаць каму-н., асуджаць каго-н. *А мы з вамі, Рагнеда Іванаўна, любім іншы раз прамаўчаць. Калі нам выгадна прамаўчаць... І кукіш у кішэні паказваем...* (М. Матукоўскі. Амністыя).

Узнікненне выразу ставяць у сувязь з нямецкім фразеалагізмам *machen eine Faust in der Tasche* (літаральна «паказаць кулак у кішэні»).

**Паказваць (паказаць) зубы** *каму. Агульны для ўсходнесл. м.* Выяўляць непрыязнасць, варожасць да каго-н., гатоўнасць даць адпор. *[Мікод: ] Мусіць, забыўся ён ужо на пяты год, дык мы яму*

*прыпомнім, мы яму пакажам зубы, калі на тое пойдзе* (П. Галавач. Праз гады).

Склаўся як метафара, узятая з жывёльнага свету. Параўн.: «Ваўчанё… наровіла выбавіцца, круціла мордачкай, скалілася. — Малое, а ўжо — бач ты яго! — зубы паказвае — сказана, воўчае адроддзе» (А. Масарэнка. Юлік, айчым і ваўчанё).

**Паказваць (паказаць) кіпцюры (кіпці)** *каму. Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* показывать когти, *укр.* показувати кіпті). Выяўляць непрыязнасць, варожасць да каго-н., гатоўнасць даць адпор. *Галена ліхаманкава захадзіла па пакоі: дык вось чаму Мальвіна то такая ліслівая, што хоць да раны яе прыкладай, то кіпці паказвае* (А. Мальдзіс. Восень пасярод вясны).

Узнік у выніку пераносу на чалавека дзеянняў і ўласцівасцей птушак ці некаторых жывёл.

**Паказваць (паказаць) на дзверы** *каму. Калька з франц. м.* (montrer la porte). Прапаноўваць каму-н. выйсці; выганяць каго-н. — *Яніс, я буду вымушана паказаць вам на дзверы. — А я не пайду. — Пабачым* (У. Караткевіч. Нельга забыць).

Фразеалагізм успрымаеццаяк матываваны, з жывой унутранай формай.

**Паказваць (паказаць) парог** *каму. Агульны для бел. і ўкр.* (показувати поріг) *м.* Прапаноўваць каму-н. выйсці; выганяць каго-н. *Хацела я табе паказаць парог, калі пачула ад людзей… Ды Антаніна Аркадзеўна просіць: прытулі, кажа, паглядзі…* (І.Шамякін. Ах, Міхаліна, Міхаліна).

Склаўся, відаць, на аснове сінанімічнага выразу *паказваць на дзверы* каму (гл.). Мог узнікнуць таксама пад уплывам выклічнікавага фразеалагізма *вось табе бог, а вось табе парог* ‘выбірайся вон’.

**Паказваць (паказаць) пяткі.** *Калька з франц. м.* (montrer les talons). Ратавацца ўцёкамі, уцякаць. *Калі іх прыгрэлі добра шрапнеллю, уцалелыя немцы спрытна паказалі пяткі* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Абстрактнае паняцце, увасобленае ў гэтым фразеалагізме, перадаецца праз канкрэтную дэталь, кідкую і відавочную пры ўцяканні каго-небудзь, асабліва басаногіх дзяцей, падлеткаў.

**Пакідае (вымушае) жадаць лепшага.** *Калька з руск. м.* (оставляет желать лучшего). Недастаткова добры, нездавальняючы, не адпавядае пэўным патрабаванням. *Некаторыя пераклады, гаворачы газетнай мовай, пакідаюць жадаць лепшага* (Р. Шкраба. Жыццё слова). *Вымушае жадаць лепшага і асартымент прадукцыі* (Звязда. 28.01.1986).

У руск. м. выраз склаўся як недакладная калька з франц. м. (*laisser à désirer* ‘вымушаць жадаць’).

**Пакласці галаву** *за каго, за што, дзе. Гл.* класці (складваць) галаву *за каго, за што, дзе.*

**Пакласці зубы на паліцу.** *Гл.* зубы на паліцу класці.

**Пакласці на алтар** *чаго, чый што. Гл.* класці (пакласці, скласці) на алтар *чаго, чый што.*

**Пакласці пад сукно** *што. Гл.* класці (пакласці, палажыць) пад сукно *што.*

**Пакласці (палажыць) канец** *чаму. Калька з франц. м.* (mettre fin). Спыніць што-н., пакончыць з чым-н. *На заводзе трывала прапісаліся штурмаушчына і аўралы. Гэтаму трэба было пакласці канец* (Звязда. 17.03.1987).

**Паклаўшы (палажыўшы) руку на сэрца.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* положа руку ка сердце, *укр.* поклавши руку на серце). З усёй шчырасцю, адкрыта (сказаць, адказаць і пад.). *Ці шчаслівая яна, гэта мая доля, ці нешчаслівая, я і сам паклаўшы руку на сэрца кажу: не ведаю!..* (У. Дубоўка. Пялёсткі).

Гэта не зусім дакладная, дапоўненая калька з ням. м. *(Hand aufs Herz* — «руку на сэрца»; без дзеяслоўнага кампанента выраз бытуе ў франц., польск., чэшск., балг. мовах). Сваім паходжаннем фразеалагізм звязаны з прыкладакнем у размове рукі да левай часткі грудзей — знакам запэўнівання, што сказанае — чыстая праўда.

**Па костачках** *разбіраць (разабраць). Агульны для ўсходнесл. м.* Падрабязна, старанна, дэталёва. *Як бы для пэўнасці сказаў сабе: «Усё, лейтэнант Бутоўкін, правільна, разбяры па костачках версію з машынай»* (А. Капусцін. Скажу праўду).

Прыслоўны выраз, утвораны, відаць, на аснове дзеяслоўнага фразеалагізма *перабіраць (разбіраць) па костачках* (гл.) у выніку ўсячэння дзеяслоўнага кампанента. Адарваўшыся ад дзеяслоўнага фразеалагізма, выраз *па костачках* рэалізуе сваё значэнне толькі пры дзеяслове-суправаджальніку *разбіраць (разабраць),* які захоўвае сваю сэнсавую самастойнасць (‘разглядаць, аналізаваць’).

**Палажыўшы руку на сэрца.** *Гл.* паклаўшы (палажыўшы) руку на сэрца.

**Палажыць галаву** *за каго, за што, дзе. Гл.* класці (складваць) галаву *за каго, за што, дзе.*

**Палажыць зубы на паліцу.** *Гл.* зубы на паліцу класці.

**Палажыць канец** *чаму. Гл.* пакласці (палажыць) канец *чаму.*

**Палажыць пад сукно** *што. Гл.* класці (пакласці, палажыць) пад сукно *што.*

**Паламаць коп'і** *з-за каго, за што. Гл.* ламаць (паламаць) коп'і *з-за каго, за што.*

**Паласкаць косці (костачкі)** *чые, каго. Гл.* апалосквацъ (апаласкаць; паласкаць, папаласкаць) косці (костачкі) *чые, каго.*

**Паліць за сабой масты.** *Гл.* спаліць за сабой масты.

**Паліць (спаліць) свае караблі.** *Калька з франц. м.* (brûler ses vaisseaux). Рашуча парываць з мінулым, робячы немагчымым вяртанне да яго. *Шурупіч перадаў ёй авоську і паскорыў крокі — трэба было скарыстаць выпадак ды заадно спаліць караблі і для свайго адступлення* (У. Карпаў. Вясеннія ліўні).

Узнік у выніку пераасэнсавання свабоднага словазлучэння. У старажытныя часы і ў перыяд сярэднявечча было нямала выпадкаў, калі палкаводцы, высадзіўшы войска на чужой тэрыторыі, спальвалі свае караблі, каб адрэзаць шлях да адступлення; войску заставалася толькі перамагчы ворага або загінуць.

**Палка з двума канцамі.** *Паўкалька з руск. м.* (палка о двух концах). Тое, што можа скончыцца добра і дрэнна. *Бытуе думка, што меліярацыя — гэта палка з двума канцамі. Калі раней чалавек не мог прадукцыйна выкарыстаць мільёны гектараў зямлі з-за балота, дык цяпер, пасля асушэння, яму пагражае, наадварот, дэфіцыт вады* (ЛіМ 29.04.1983).

Адны лічаць, што фразеалагізм — «абломак» прыказкі *Счастье — палка о двух концах.* Другія скандэнсаваную «сюжэтнасць» фразеалагізма паясняюць так: той, каго б'юць палкай, можа выхапіць яе і пачаць біць праціўніка яе другім канцом. Параўн. прыказкі, занатаваныя М. Федароўскім: *У палцы два канцы; У кія два канцы; У кія два канцы: адзін па мне, другі па табе.*

**Палкі ў колы.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* палки в колеса, *укр.* палки в колеса). Наўмысныя перашкоды ў якой-н. справе. *Кандрацьева ўсё робіць на зло новаму старшыні. Яму і так цяжка даводзіцца, а тут замест апоры — палкі ў колы* (Звязда. 21.02.1986).

Назоўнікавае ўтварэнне, «абломак» дзеяслоўнага фразеалагізма *ставіць палкі ў колы* каму, чаго 'знарок перашкаджаць каму-, чаму-н.'.

**Пальма першынства.** *Паўкалька з ням. м.* (die Palme der Priorität). Перавага над іншымі, першае месца. — *Пальмы першынства, безумоўна, заслугоўвае гэтая цудоўная карціна, — безапеляцыйна сказаў адзін з членаў журы* (ЛіМ. 16.04.1977).

Этымалагічнай асновай выразу з'яўляецца звычай старажытных грэкаў узнагароджваць пальмавай галінкай — сімвалам найвышэйшай славы — пераможцаў на алімпійскіх гульнях ці іншых спаборніцтвах.

**Пальцам не варухнуць (не паварушыць).** *Гл.* <і> пальцам не варухнуць (не паварушыць, не паварухнуць).

**Пальца ў рот не кладзі** *каму. Агульны для ўсходнесл. м.* Хто-н. такі, што з ім трэба быць асцярожным. *Мяккацелы, кажаце? Не-е. Яму таксама пальца ў рот не кладзі* (А. Макаёнак. Таблетку пад язык).

Узнік у выніку скарачэння прыказкі *Не кладзі сабаку пальца ў рот, бо адкусіць.* Параўн. і такі варыянт, занатаваны ў зборніку Я. Ляцкага: *Не кладзі яму пальца ў рот: у яго мядзведжы паварот, а воўчы паглёд. Як* спадчына прыказкі — застыласць фразеалагічнага дзеяслоўнага кампанента ў другой асобе адз. л.

**Пальчыкі абліжаш (-аце).** *Агульны для ўсходнесл. м.* Ужыв. са значэннямі 'вельмі смачны, прыемны' і 'вельмі добры, прывабны, выклікае захапленне'. *Нічога, хлопцы, прыходзьце праз два гады. Такі будзе вінаград — пальчыкі абліжаце* (Г. Васілеўская. Малюнак на снезе). — *Прыйдзе і ён... Пабачыш, які хлопец. Пальчыкі абліжаш, — захаплялася Куля* (Р. Сабаленка. Лора).

Першапачаткова ўжываўся ў дачыненні да яды; мелася на ўвазе: яда такая смачная, што ўсю з'ясі і нават пальчыкі абліжаш. Другое значэнне развілося ў фразеалагізме, калі ён пачаў ужывацца пры дзейніку са значэннем асобы ці канкрэтнага або абстрактнага прадмета.

**Паляванне на ведзьмаў.** *Калька з англ. м.* (witch-hunt). Вышукванне ўнутраных ворагаў, пераслед праціўнікаў існуючага рэжыму. *Другая палова 20-х гадоў — ці не адзін з найбольш складаных перыядаў у гісторыі беларускай савецкай літаратуры. Менавіта ў гэты час пачынаецца «паляванне на ведзьмаў», шуканне ворагаў у літаратурным асяроддзі* (Маладосць. 2000. № 5).

Узнікненне фразеалагізма звязана з практыкай інквізіцыі — судова-паліцэйскай установы каталіцкай цэрквы для барацьбы з ерэтыкамі, вальнадумцамі, антыцаркоўным і антыфеадальным рухам. Створаная на пачатку XIII ст., яна праіснавала ў краінах Заходняй Еўропы да канца XVII ст. (у Вялікім княстве Літоўскім была ўведзена ў 1436 г. і скасавана праз 43 гады). У часы інквізіцыі знішчана каля 9 мільёнаў чалавек, нярэдка спальваннем на вогнішчах. Спальвалі і псіхічнахворых, якіх называлі ведзьмамі ці ведзьмакамі. Іх вылоўлівалі, палявалі на іх. Дарэчы, перыяд сталіншчыны, калі праводзіліся савецкія масавыя чысткі, у замежным друку параўноўвалі з сярэдневяковым «паляваннем на ведзьмаў».

**Паляцець у тартарары.** *Гл.* ляцець (паляцець) у тартарары.

**Памахаць пасля бойкі кулакамі.** *Гл.* размахваць (махаць, памахаць) пасля бойкі кулакамі.

**Паміж іншым.** *Гл.* між (паміж) іншым.

**Паміж молатам і кавадлам.** *Гл.* між (паміж) молатам і кавадлам.

**Паміж намі** *застанецца, будзе. Уласна бел.* Строга сакрэтна. *[Язва: ] Чорт з табой, я не напішу, што ты чытаў ёй чужыя вершы, гэта застанецца паміж намі* (К. Крапіва. Мілы чалавек).

Узнік на аснове фразеалагізма *між намі* <*кажучы*> (гл.).

**Паміж намі <кажучы>.** *Гл.* між (паміж) намі <кажучы>.

**Паміж небам і зямлёй.** *Гл.* між (паміж) небам і зямлёй.

**Паміж Сцылай і Харыбдай.** *Гл.* між (паміж) Сцылай і Харыбдай.

*Відаць (відно)* **пана па халявах.** *Запазыч. з польск. м.* (znać pana po cholewach). (Відаць) па знешнасці, паводзінах, справах, што за чалавек. — *Відаць пана па халявах, — кідае ў адрас аўтара Канстанцін Міхайлавіч. — Чуеш, які пах з яго творыка верне?* (М. Лужанін. Колас расказвае пра сябе).

Вядомы ўкраінсхі фалькларыст XIX ст. М. Номіс узнікненне фразеалагізма звязвае з тым, што даўней польскія паны абувалі каляровыя саф'янавыя боты. Іх пасля даношвалі слугі, прышыўшы да каляровых халяў чорныя галоўкі і гэтым вылучаючыся сярод іншых людзей.

**Па нутры** *каму. Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* по нутру, *укр.* по нутру). Падабаецца. *Думаць пра завод — гэта перш за ўсё думаць пра людзей. А гэта яму* [Голубу] *не па нутры* (Э. Ярашэвіч. Святло імя Твайго).

Выраз часцей ужываецца з адмоўем *не,* якое захоўвае значэнне адмоўнай часціцы. Як лічыў А. А. Патабня, літаральны сэнс выразу быў тахі: «не па страўніку ежа». Параўн. у А. С. Пушкіна: «… тому и пища по нутру и все доступны наслажденья». Пасля выраз пашырыў свае лексіка-фразеалагічныя сувязі. Напрыклад, у паэме «Энеіда навыварат» (1845) чытаем: «Дзявуха па нутру была». Ужываючыся пры абавязковым дзеяслове-суправаджальніку *прыйсціся,* выраз атрымлівае значэнне 'даспадобы': «[Вішням], мабыць, не па нутры прыйшлася туташняя вільготная і тлустая зямля» (А. Жук).

**Пападацца на вудачку** *каму, да каго. Гл.* трапляць (трапіць; пападацца, папасціся) на вудачку (на кручок) *каму да каго.*

**Папасціся ў нерат.** *Гл.* трапіць (папасціся, улезці) у нерат.

**Папускаць (папусціць; адпускаць, адпусціць) лейцы.** *Агульны для бел. і ўкр.* (попускати віжки) *м.* Змяншаць кантроль, паслабляць увагу, пільнасць, патрабаванні да каго-н. *Калі мы зараз замарудзім, спынімся, папусцім лейцы, нас паспрабуюць задушыць* (М. Лужанін. Дванаццаць вячорных вогнішчаў).

Утвораны ў выніку пераасэнсавання свабоднага словазлучэння, якое ўжываюць, калі гавораць пра кіраванне запрэжаным канём, язду з ненацягнутымі лейцамі.

**Па пятах** *чыіх, каго, за кім. Агульны для ўсходнесл. м.* Не адстаючы, неадступна (ісці, хадзіць, гнацца і пад.). *А вунь шпіён... Баіцца, каб не згубіць з вачэй чалавекаў паліто... Ён, ідавочна, ідзе па яго пятах...* (С. Баранавых. Калі ўзыходзіла сонца).

Першапачаткова выраз успрымаўся як «бачачы перад сабой чые-н. пяты».

**Парадак дня.** *Калька з ням. м.* (Tagesordnung). Кола пытанняў, прызначаных для абмеркавання ў пэўнай паслядоўнасці на сходзе, пасяджэнні, канферэнцыі і пад. *Дня парадак іх наступны: 1, — За два дні даклад уступны зробіць сябра Вадалей. 2.—Перакажа ўвесь нанова яго зноў Балбатунова. 3. — Потым спрэчкі, а далей: 4. — Скажа дзядзька Целяпала і дапоўніць Кругабегаў пра ўжыванне для апалу пазалеташняга снегу. 5. — На канцы парадку дня, аб чым хочаш балбатня* (К. Крапіва. Хвядос — Чырвоны нос).

**Парахня сыплецца** *з каго. Агульны для бел. і ўкр. м.* Хто-н. вельмі стары, слабы. *[Клава: ] На рыбалку ёй захацелася. З кім? З яго ж парахня сыплецца... Ці ж гэта мужчына?* (А. Макаёнак. Лявоніха на арбіце).

Узнік шляхам пераасэнсавання свабоднага словазлучэння, якое дастасоўваецца да сапрэлага або паточанага шашалем дрэва. Магчыма, на фарміраванне выразу паўплываў сэнсава тоесны фразеалагізм *пясок сыплецца* з каго (гл.) — калька з англ. м.

**Пасадзіць на мель** *каго. Гл.* садзіць (пасадзіць) на мель *каго.*

**Пасаліўшы есці можна.** *Уласна бел.* Ні кепскі і ні добры, пасрэдны. — *Новых п'ес у вас не густа, чым мая вам не да густу? — Калі справа йдзе аб змесце, пасаліўшы можна есці* (К. Крапіва. Рэжысёр і драматург).

І.І.Насовіч звязвае этымалогію фразеалагізма з народным апавяданнем. Малады муж прыйшоў з працы і, калі маці падала яму есці, сказаў са злосцю: «Хто варыў, вочы б яму заліў». — «Ды гэта ж жонка твая», — адказала маці. «Ат! — стрымана заўважыў сын, — пасаліўшы есці можна».

**Па <самую> завязку.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Ужыв. са значэннямі 'поўнасцю, як толькі можна (запоўніць, накарміць і пад.)', 'вельмі моцна (нагаравацца, намучыцца і пад.)' і 'вельмі многа, звыш меры чаго-н.'. *Добра, мабыць, па завязку накарміла яго Фядора* (П.Місько. Мора Герадота). *Яўхім глядзеў на сына як на няшчасніка: «Гэты наробіцца, нагаруецца па самую завязку»* (Р. Сабаленка. Мохарты). *Пайшлі. Спраў там у мяне — па завязку...* (Я. Брыль. Апошняя сустрэча).

Узнікненне фразеалагізма, відаць, мае сувязь з завязкай — вяровачкай ці шнурком, якім завязваюць мяшок.

**Па свежых слядах.** *Гл.* па гарачых слядах.

**Пасля дожджыку ў чацвер.** *Пайкалька з руск. м.* (после дождичка в четверг). Невядома калі ці ніколі. *—Дык калі прыходзіць — сёння? — Пасля дожджыку ў чацвер* (А. Капусцін. Белае медзведзяня).

Лічыцца, што фразеалагізм склаўся як формула недаверу да бога грому Перуна, днём якога быў чацвер. Паходжанне фразеалагізма звязваюць таксама з адміраннем язычніцкага свята ў гонар Перуна, якое адзначалася ў пэўны чацвер пасля першага вясенняга дажджу і грому.

**Паспееш з козамі на торг.** *Агульны для бел. і ўкр. м.* Няма чаго спяшацца, не спяшайся. — *Дзед, дык ты яшчэ нат не пачаў!.. — Паспееш, хлопча, з козамі на торг… Сёння пад вечар пачну* (Я. Брыль. Мышалоўкі).

Гэта «абломак», першая частка прыказкі *Паспееш з козамі на торг: і коз прадасі, і грошы праясі.* Паміж фразеалагізмам і прыказкай сэнсавая тоеснасць, але неаднолькавыя магчымасці ўключацца ў кантэкст; дзеяслоўны кампанент фразеалагізма ўжываецца не толькі ў форме другой асобы адз. л.: *паспею з козамі на торг* (МЛынькоў), *паспее з козамі на торг* (М.Г арэцкі), з *козамі на торг паспеем* (Я. Колас), *паспеюць з козамі на торг* (З. Бядуля).

**Паставіць знак роўнасці** *паміж кім, паміж чым. Гл.* ставіць (паставіць) знак роўнасці *паміж кім, паміж чым.*

**Паставіць кропкі над «і».** *Гл.* ставіць (паставіць) кропкі над «і».

**Паставіць крыж** *на кім, на чым, над чым. Гл.* ставіць (паставіць) крыж *на кім, на чым, над чым.*

**Паставіць на дыван** *каго. Гл.* ставіць (паставіць) на дыван *каго.*

**Паставіць на крыло** *каго. Гл.* ставіць (паставіць) на крыло *каго.*

**Паставіць на паток** *што. Агульны для ўсходнесл. м.* Зрабіць што-н. сістэматычным, паслядоўным, бесперапынным. *Так атрымалася, што «скасаванне» Быкава ў нашай краіне пастаўлена на паток. Быкаў усім недэмакратычным уладам быў няўгодны* (Р. Барадулін. Інтэрв'ю).

Паходзіць з вытворчай тэрміналогіі, дзе патокам называюць бесперапынны выраб чаго-небудзь. *Паток у* гэтым значэнні найчасцей спалучаецца з дзеясловамі *паставіць, ставіць, пусціць.*

**Паставіць у тупік** *каго. Гл.* ставіць (паставіць) у тупік *каго.*

**Пасыпаць галаву попелам.** *Агульны для ўсходнесл. і польск.* (posypać glowę popiełem) *м.* Глыбока смуткаваць, бедаваць з

якойсьці прычыны. *Я не адношу сябе да ліку крытыкаў, якія сцвярджаюць, што наша літаратура не зрабіла нічога або, прынамсі, вельмі мала зрабіла для мастацкага асваення тэмы сучаснасці, горада, навукова-тэхнічнай рэвалюцыі. Не варта фетышызаваць паняцці і, як кажуць, пасыпаць галаву попелам* (І.Навуменка. Героя працы — у поўны рост).

Узнік у выніку пераасэнсавання свабоднага словазлучэння з царкоўнаславянскіх кніг. Як расказваецца ў Бібліі (Іоў, 2, 12), у старажытных яўрэяў быў звычай выказваць пачуццё гора, роспачы не толькі плачам, але і пасыпаннем галавы попелам. Такі звычай, апісаны ў «Іліядзе» Гамера, быў і ў старажытных грэкаў. Ён сімвалізаваў і агульную для ўсіх жалобу.

**Патачыць лясы.** *Гл.* тачыць (патачыць) лясы (балясы).

**Патрапіць у <самы> яблычак.** *Гл.* пацэліць (патрапіць, трапіць) у <самы> яблычак.

**Паўтарэнне пройдзенага.** *Уласнабел.* Вяртанне да таго, што ўжо чулася, бачылася, адбывалася і г.д. *Гэта яшчэ адзін крок да стварэння гарантый, якія пазбавяць нас ад «паўтарэння пройдзенага»* (Маладосць. 2000. № 6).

Паходзіць з маўлення настаўнікаў, у практыцы якіх адзін з этапаў урока — паўтарэнне *пройдзенага* (таго, што ўжо вывучалася, выкладалася).

**Пахне смаленым.** *Недакладная калька з франц. м.* (ca sent le roussi, літаральна «чуецца пах гарэлага»). Паказвае на магчымасць небяспекі, пагражае непрыемнасцю каму-н. *Гэту справу нельга дапускаць да райкома. Я спецыльна прыехаў, каб патушыць, а ты... Цяпер ад нас абодвух пахне смаленым, а ты не разумееш* (А. Макаёнак. Каб людзі не журыліся).

Мяркуюць, што ўзнікненне выразу звязана са звычаем спальваць ерэтыкоў і «ведзьмаў» на вогнішчах інквізіцыі. Гл. *паляванне на ведзьмаў.*

**Пацёмкінскія вёскі.** *Паукалька з руск. м.* (потемкинские деревни). Ашуканства, паказуха, за якой хаваецца дрэнны стан чаго-н. *[Галавач: ] Мяне за гэты комплекс Матусевіч, ведаеш, колькі агітаваў? Выстаяў. Яму мода, пацёмкінская вёска патрэбна, каб дэлегацыі вазіць. А мужыку жыццё патрэбна* (М. Матукоўскі. Наследны прынц).

Узнікненне выразу звязана з імем фаварыта і найбліжэйшага памочніка імператрыцы Кацярыны II — князя Г. А. Пацёмкіна, па ініцыятыве якога ў 1783 г. да Расіі быў далучаны Крым. У часе падарожжа Кацярыны II на поўдзень (1787) Пацёмкін, каб пераканаць царыцу і іншаземных гасцей у росквіце новых расійскіх тэрыторый і ў поспехах сваёй дзейнасці, выстаўляў на шляху імператрыцы па-святочнаму апранутых людзей, паказваў

спецыяльна пабудаваныя дэкаратыўныя вёскі, хлебныя склады (у якіх мяшкі былі набіты пяском), статкі жывёл (ноччу іх пераганялі па маршруту царыцы), штучныя пышныя паркі, магутныя крэпасці і пад.

**Паціраць рукі.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Адчуваць, перажываць вялікае задавальненне ад поспеху ў якой-н. справе. *Пан Вячорык загадзя пацірай рукі, спадзеючыся на ўзнагароду* (М. Машара. Сонца за кратамі).

Фразеалагізм жэставага паходжання: унутраны стан чалавека апісваецца праз пэўны жэст — знешні выразнік гэтага стану.

**Паціскаць (паціснуць) плячамі (-ыма).** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* пожимать плечами, *укр.* знизувати плечима). Выяўляць здзіўленне, неразуменне, няведанне і пад. *Цяпер, калі Міцькавец так заартачыўся, дасужы селькор толькі паціскае плячыма: паганага пралесніка не чуў, сеў і напісаў…* (А. Капусцін. Калі крануўся цягнік).

Фразеалагізм жэставага паходжання: унутраны стан чалавека называецца па знешнім выразніку гэтага стану.

**Пацэліць (патрапіць, трапіць) у <самы > яблычак.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Сказаць ці зрабіць менавіта тое, што патрэбна. — *Такая вялікая ўнучка?.. Вас самую яшчэ хоць замуж аддавай. — Мабыць, пацэліў у самы яблычак, бо цётка ажно паеярнулася да мяне* (П.Місько. Браканьеры).

У некаторых працах паходжанне гэтага выразу звязваюць з імем Вільгельма Тэля. Паводле легенды, аўстрыйскі намеснік у Швейцарыі Тэслер загадаў Тэлю, як пакаранне за непаслушэнства, збіць выстралам з лука яблык з галавы свайго сына. І Тэль папаў у самую сарцавіну яблыка. Аднак згаданы фразеалагізм не значыцца ў слоўніках заходнееўрапейскіх моў. Ён узнік, хутчэй за ўсё, у выніку метафарызацыі тоеснага словазлучэння з маўлення вайскоўцаў, дзе *яблычак* — гэта ‘цэнтральная частка мішэні ў выглядзе чорнага круга’. Вось прыклад, дзе выраз ужыты не як прыхаванае параўнанне з уяўнай сувяззю паміж з’явамі, а са злучнікам «як»: «Як у яблычак пацэліў Дзёмін з Канаплянкі — адрываліся сяляне ад хат, а першы з іх — „снайпер“ Ціма Плішка» (А. Пашкевіч).

**Пачуццё (адчуванне) локця.** *Пайкалька з руск. м.* (чувство локтя). Узаемная падтрымка. *Паміж гэтымі людзьмі, якія яшчэ пару тыдняў таму назад адзін аднаго і ў вочы не бачылі, цяпер — зладжанасць, «пачуццё локця»* (А. Карпюк. Пушчанская адысея).

Утвораны шляхам пераасэнсавання адпаведнага словазлучэння, якім у маўленні ваенных называюць уменне салдатаў падтрымліваць сінхроннасць руху і раўненне ў страі.

*Ведаць, знаць, пазнаць,* **пачым фунт ліха.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* почем фунт лиха, *укр.* почому ківш (пуд, фунт) лиха). (Ведаць) якія бываюць цяжкасці, выпрабаванні ў жыцці. *Сама Аўдоля хапіла гора нямала, ведае, пачым фунт ліха* (К. Крапіва. Мядзведзічы).

Два кампаненты выразу выконваюць сэнсаўтваральную функцыю: *пачым* суадносіцца са значэннем ‘колькі каштуе, па якой цане’, а *ліха* — са значэннем ‘няшчасце, бяда, гора’. *Фунт*— устарэлая мера вагі, роўная 409,5 г, але тут, як і ў фразеалагізме *не фунт ізюму,* гэта не рэальная, а сімвалічная мера бяды, гора, цяжкасцей і пад. Аднак зразумела, што сума значэнняў названых кампанентаў не тоесная з агульным значэннем фразеалагізма.

**Па шчупаковым загадзе.** *Гл.* <нібы> па шчупаковым загадзе.

**Пень асінавы.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Тупіца, бесталковы чалавек. *Пень ты асінавы, а не старшыня. Па камандзе, як які яфрэйтар, думаеш весці гаспадарку?* (Я. Ермаловіч. Стаяў маладзік над лесам).

Выраз каламбурнага характару, узнік у выніку разгортвання слова ў фразеалагізм. Тут слову *пень,* рэалізаванаму ў пераносным значэнні ‘тупіца’, адначасова вяртаецца і канкрэтнае, прамое значэнне, дзякуючы нарошчванню прыметнікавага кампанента *асінавы.*

**Перабіраць (перабраць; разбіраць, разабраць) па костачках** *каго. Агульны для ўсходнесл. м.* Асуджаць чые-н. недахопы, абмяркоўваць каго-н. *А потым мы, жанчыны, перабяром вас па костачках, усё перагаворым, усё зложым у адно — поўны партрэт-характарыстыка* (У. Дамашэвіч. Дарожная гісторыя).

Вытворны ад фразеалагізма *перамываць костачкі* каму, каго, чые (гл.), узнікненне якога звязана са старажытнаславянскім абрадам паўторнага пахавання. Звычайна праз тры гады пасля першага пахавання магіла раскопвалася: трэба было праверыць, ці не быў нябожчык пры жыцці звязаны з ведзьмакамі, пярэваратнямі, і, калі гэта так, зняць з яго закляцце і ачысціць ад грахоў. Перад тым як зноў закапаць нябожчыка, яго родзічы і сваякі перабіралі косці, перамывалі іх вадой або віном. Пры перамыванні костачак не абыходзілася без ацэнкі нябожчыка, яго характару, паводзін, г зн. без абгаворвання.

**Перабіраць <усе> костачкі** *чые, каму, каго. Агульны для ўсходнесл. м.* Абазначае: 1) абгаворваць каго-н., распаўсюджваць плёткі, 2) дэталёва, падрабязна абмяркоўваць, вывучаць каго-н. *І дзяўчаты аж заходзіліся ад смеху, перабіраючы костачкі хлопцаў* (Я. Колас. Нёманаў дар). *Ні Клава, ні Фіма не ведалі, як цяжка*

*атрымаць дазвол, каб пабачыцца з арыштаваным! Пакуль дазволяць — перабяруць усе твае костачкі: хто ты, які ты, чаму ты, а не другі?* (С. Баранавых. Калі ўзыходзіла сонца).

Гэты выраз сінанімічны ўсходнесл. фразеалагізму *перамываць костачкі* і аднолькавы з ім паходжаннем. Абодва ўзніклі ў выніку пераасэнсавання адпаведных свабодных словазлучэнняў, звязаных з абрадам паўторнага пахавання. Перабіраючы і перамываючы костачкі нябожчыка, трэба было, як даўней лічылі, вызваліць грэшніка ад закляцця, калі ён не паспеў перад смерцю раскаяцца, бо такі грэшнік-нябожчык нібыта выходзіў у выглядзе вампіра ці пярэваратня з магілы і смактаў кроў з жывых (гл. *костачкі перамываць).*

**Пераблытаць <усе> карты** *каму, чые, каго. Гл.* блытаць (зблытаць, пераблытаць) <усе> карты *каму, чые, каго.*

**Перабягаць дарогу** *каму. Гл.* дарогу перабягаць *каму.*

**Перавод на рэйкі** *чаго, якія. Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* перевод на рельсы, *укр.* перевод на рейки). Перабудова чаго-н. пэўным чынам. *Устойлівага прагрэсу ў якасным развіцці эканомікі няма. Мы мала рушылі наперад па шляху яе пераводу на рэйкі інтэнсіфікацыі* (Звязда. 7.08.1986).

Вытворны ад суадноснага дзеяслоўнага фразеалагізма *пераводзіць на рэйкі* чаго, якія ‘арганізоўваць, перабудоўваць што-н. пэўным чынам’.

**Перад разбітым карытам** *апынуцца, аказацца. Паўкалька з руск. м.* (у разбитого корыта). Без нічога, страціўшы ўвесь ранейшы набытак. *Усе спадзяванні яго* [Боўціка] *праваліліся ў адзін дзень, і ён апынуўся перад разбітым карытам* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Фразеалагізаваны крылаты выраз з «Казкі пра рыбака і рыбку» (1835) А. С. Пушкіна. Спалучэнне выкарыстоўваецца ў казцы спачатку з прамым значэннем, калі расказваецца, як залатая рыбка выканала першае жаданне прагнай старой: замяніла ёй разбітае карыта на новае. У канцы казкі словазлучэнне адначасова набывае і вобразны, пераносны сэнс: багацце знікла, старая засталася з разбітым карытам.

**Перакаваць мячы на аралы.** *Запазыч. з царк. — слав. м.* Раззброіцца, выкарыстаць усе сродкі на мірныя мэты. *Мы заклікалі і заклікаем перакаваць мячы на аралы, знішчыць зброю. І мы гатовы гэта зрабіць, калі сустрэнем шчырае разуменне і згоду іншых краін* (Звязда. 29.07.1976).

Выраз з біблейскай кнігі Ісаія (2, 4), які прарочыў, што прыйдзе час, калі народы «перакуюць мячы свае на аралы і коп’і свае на сярпы». *Аралы* (вытворнае слова ад агульнаслав. *араць)* — гэта ‘плугі’.

**Перавярнуць горы** *<з кім, з чым>. Гл.* варочаць (звярнуць, зрушыць, перавярнуць) горы *<з кім, з чым>*.

**Перайсці рубікон.** *Гл.* рубікон перайсці.

**Перакаці-поле.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Той, хто доўга не жыве на адным месцы, хто не мае пастаяннага прыстанішча. *Думаць аб Левановічу, што ён ветраны чалавек, перакаці-поле, сёння тут, а заўтра там, — Зязюля не меў ніякай падставы* (А. Рылько. Кумы).

Утвораны шляхам пераасэнсавання аднайменнай назвы стэпавай расліны, якая пасля выспявання, клубком адарваўшыся ад кораня, коціцца па зямлі, пераносіцца ветрам на вялікія адлегласці.

**Перакрыць кісларод** *каму чаму. Агульны для бел і руск. м.* Стварыць неспрыяльныя ўмовы для чыёй-н. дзейнасці. *Гэта ўрад са мною змагаецца, ён перакрыў мне кісларод...* (Р. Баравікова. Каханне дысідэнта).

Узнік, відаць, у выніку метафарычнага пераасэнсавання свабоднага словазлучэння, якое выкарыстоўваецца ў медыцынскай практыцы. Хворым пры неабходнасці даюць кіслародную падушку з вентылем, якім рэгулюецца паток кіслароду.

**Пераліванне з пустога ў парожняе.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Пустая балбатня, марная трата часу. *Размова вялася між паненкамі і Саханюком аб справах другога зместу, аб іх знаёмых, адным словам, пачалося пераліванне з пустога ў парожняе* (Я. Колас. На ростанях).

Паходзіць з дзеяслоўнага фразеалагізма *пераліваць з пустога ў парожняе* (гл.), мае прадметнае значэнне і іншыя ўласцівасці назоўнікавых фразеалагізмаў.

**Пераліваць з пустога ў парожняе.** *Агульнаслав.* (*польск.* przelewać z pustego w próżne, *чэшск.* z pustého v prâzdné prelivati, *балг.* преливам от пусто в празно *і г.д.).* Займацца пустой балбатнёй, марна траціць час за размовамі. *[Альжбета: ] Еш вот лепей, чымся з пустога ў парожняе пераліваць* (Я. Купала. Паўлінка).

Выраз успрымаецца як матываваны, хоць і з нерэальным вобразам у яго аснове, пабудаваным на супрацьпастаўленні прыметнікаў-сінонімаў *пусты* і *парожні.*

**Перамыванне костачак** *каго, чыіх. Агульны для ўсходнесл. м.* Ужыв. са значэннямі ‘абгавор, пляткарства’ і ‘асуджэнне, крытыка чыіх-н. недахопаў’. *Вельмі шкоднай справай з’яўляецца і перамыванне костачак знаёмых або суседзяў* (Р. Лазуркін. Калі хочаш быць здаровым). *Душа выкладчыка Гайдука трымцела. Ужо ішло перамыванне яго костачак — перавыбіралі па конкурсе* (Р. Семашкевіч. Бацька ў калаўроце).

Вытворны ад суадноснага дзеяслоўнага фразеалагізма *перамываць костачкі* (каму, каго, чые). Пра яго паходжанне гл. у слоўнікавым артыкуле *перабіраць па костачках* каго.

**Перамываць костачкі** *каму, чые, каго. Гл.* костачкі (косці) перамываць *каму, чые, каго.*

**Перамяніць пласцінку.** *Гл.* мяняць (змяніць, перамяніць) пласцінку.

**Перастала біцца сэрца** *каго. Агульны для ўсходнесл. м.* Хто-н. памёр ці загінуў. *Перастала біцца сэрца чалавека, які прысвяціў жыццё роднай Беларусі, усе сілы і вопыт аддаў служэнню грамадству* (ЛіМ. 7.07.2000).

Узнік у выніку метанімічнага пераносу, заснаванага на сумежнасці з'яў прычынна-выніковага характару. Магчыма, сфармаваўся пад уплывам іншага выразу — *(пакуль) сэрца б'ецца* (гл.) — калькі з франц. м.

**Пераяда вантроб.** *Уласна бел.* Той або тое, хто ці што страшэнна назаляе, даводзіць да адчаю. *Пасынка самога* [старая] *баіцца трохі чапаць. Злосны і на язык востры — адсячэ адразу, аж абліжашся... Над газетамі ўсё сядзіць, спусціўшы нос. Ох, гэтыя газеты! Гэта ёй пераяда вантроб. Яна на іх глядзець не можа* (К. Крапіва. Мядзведзічы).

Вытворны ад суадноснага дзеяслоўнага фразеалагізма *пераядаць вантробы* каму 'страшэнна хваляваць каго-н., дакучаючы чым-н. непрыемным'.

**Персона нон грата.** *Транслітэрацыя лац. выразу* persona non grata. Ужыв. са значэннямі 'дыпламат ці проста замежны грамадзянін, які страціў давер з боку ўрадавых устаноў той дзяржавы, дзе ён знаходзіцца' і 'грамадзянін, нераўнапраўны ў сваёй краіне, непажаданы для ўлад'. *Персона нон грата бываюць не толькі дыпламаты, але і звычайныя замежныя грамадзяне, якія парушаюць законы краіны, у якую прыехалі* (ЛіМ. 7.09.2001). *Хай вам імя — легіён. Ды жыць не ўмееш багата, не ўмееш нажыць мільён, — ты — персона нон грата* (А. Вярцінскі. Бедныя, бедныя бednякі).

Першапачаткова гэта быў дыпламатычны тэрмін для абазначэння асобы, кандыдатура якой на пост дыпламата ў пэўнай краіне была гэтай краінай адхілена.

**Перці супраць ражна.** *Пайкалька з царк. — слав. м.* Пачынаць штосьці рызыкоўнае, асуджанае на няўдачу. — *Сыдзі з дарогі, кажу табе! — Не пры супроць ражна, а то і табе будзе* (П. Галавач. Рубанаўскі вузел).

У Евангеллі (Дзяянні, 9,5; 26,14) расказваецца, як Саўлу аднойчы пачулася папярэджанне з неба: «Жестоко ти есть противу

рожну прати» (цяжка табе супраць ражна перці). Слова *ражон* абазначала ‘востры кол’ (гл. *лезці на ражон).*

**Першай гільдыі.** *Уласна бел.* Ужыв. са значэннямі ‘найвышэйшай якасці, адметны (майстар, штукар і пад.)’ і ‘самы заўзяты, з крайнім праяўленнем якіх-н. якасцей (махляр, дармаед і пад.)’. — А *чыя ж то скрыпка гэта? — зноў спытаўся гаспадар. — А яго! О, граць ён мэта: першай гільдыі штукар!* (Я. Колас. Сымон-музыка). *А то, штоя цябе, абібока, трымаю на ўчастку, дык гэта правільна? Ты ж дармаед першай гільдыі* (В. Супрунчук. Вышыня).

Утвораны шляхам пераасэнсавання тэрміналагічнага словазлучэння, якое ў царскай Расіі дастасоўвалася да аднаго з саслоўнапа-датковых разрадаў купецтва. У залежнасці ад велічыні капіталу купцы падзяляліся на тры гільдыі. Самая высокая — першая гільдыя. Параўн.: «Я-я-я не дазволю… Я-я-я першай гільдыі рыбны купец…» (М. Лынькоў).

**Першая ластаўка.** *Фразеалагізм з той самай вобразнасцю ёсць таксама ў руск., укр., польск., чэшск., балг. мовах.* Абазначае ‘першапачатковыя прыметы чагосьці’ і ‘пачынальнік чаго-н.’. *Усюды, дзе ў першыя пасля вайны гады бываў Высоцкі, паказвалі новыя кароўнікі, цялятнікі, канюшні, свінарнікі. Гэта былі нібы першыя ластаўкі мірнага жыцця* (І.Навуменка. Замець жаўталісця). *Нарэшце, ролю першай ластаўкі бярэ на сябе адзін з найбольш салідных членаў дэлегацыі — паважаны дзеяч мастацтва, таварыш з поўна выяўленай сівізной* (Я. Брыль. Вачыма друга).

Прататып фразеалагізма — свабоднае словазлучэнне: першая ластаўка, што вярнулася з цёплых краін, — прымета вясны. Пра гэта і прыказка-прымета: *Ластаўка вясну пачынае, а салавей канчае.* Мяркуюць таксама, што ўзнікненне выразу звязана з байкай Эзопа, з яе радком «Адна ластаўка вясны не робіць».

**Першая скрыпка.** *Агульны для бел., руск. і польск. м.* Ужыв. са значэннямі: 1) галоўная, кіруючая, вядучая роля ў чым-н., 2) самая галоўная, найбольш уплывовая асоба ў якой-н. галіне, справе і пад. *Няважна, што ў гэтай падрыхтоўцы першая скрыпка належала не яму* [Кашыну] *і многае рабілася насуперак яго волі* (У. Карпаў. Вясеннія ліўні). *Мікола зразумеў толькі, што першай скрыпкай з ’яўляецца Кастусь* (М. Машара. І прыйдзе час…).

Паходзіць з дзеяслоўнага фразеалагізма *іграць першую скрыпку* (гл.).

**Першы-лепшы.** *Агульны для бел., укр.* (перший ліпший) *іпольск.* (pierwszy lepszy) *м.* Ужыв. са значэннямі ‘любы чалавек, які трапіцца’ і ‘няважна які, любы’. *Выйду раніцай на шлях, дам пару злотых першаму-лепшаму, абы конь добры папаўся, дык, калі*

*добра ўсё пойдзе, адвячоркам і там буду* (М. Машара. «Крэсы» змагаюцца).

*Ану, скочце, хлопцы, ды здыміце трох-чатырох першых-лепшых варот* (У. Караткевіч. Хрыстос прызямліўся ў Гародні).

Склаўся, відаць, пад уплывам фразеалагізма *першы сустрэчны* (гл.) — калькі з франц. м. Выкарыстаны адзін з яго кампанентаў, а другі — абумоўлены рыфмай.

**Першы сустрэчны (стрэчны).** *Калька з франц. м.* (le premier venu, літаральна 'першы, які прыйшоў, прыехаў'). Любы чалавек, які трапіцца. *Павінна быць больш строгая канспірацыя. Нельга давяраць першаму сустрэчнаму* (І.Новікаў. Да світання блізка).

Выраз з агульным аналітычным значэннем, якое суадносіцца са значэннямі адпаведных слоў у іх свабодным ужыванні.

**Першыя крокі (першы крок)** *<у чым, чаго>. Агульны для ўсходнесл. (руск.* первые шаги (первый шаг), *укр.* перші кроки (перший крок) і *польск.* (pierwsze kroki (pierwszy krok) *м.* Самы пачатак якіх-н. дзеянняў, якой-н. дзейнасці. *З першых крокаў сваёй творчасці Я. Купала марыў «з цэлым народам гутарку весці», быць вестуном яго надзей і спадзяванняў* (Р. Шкраба. Янка Купала).

Выраз з агульным аналітычным значэннем. Абодва кампаненты — сэнсаўтваральныя: *першы* суадносіцца са значэннем 'які адбываецца на самым пачатку чаго-н.; першапачатковы', а *крок* — са значэннем 'дзеянне, учынак' *(рашучы крок).*

**Песенька (песня) спета** *чыя. Агульны для ўсходнесл. (укр.* пісня скінчена) і *балг.* (изпята песента) *м.* Абазначае 'чыё-н. жыццё блізіцца к канцу' і 'чые-н. поспехі канчаюцца, скончыліся'. *«Састарэў, — спыніўся Паўлюк і дастаў шкляную трубачку. — Спета мая песенька»* (Л. Калодзежны. Ішоў чалавек). *Варта мне толькі зняць трубку, пазваніць — іваша песенька спета* (К. Крапіва. Хто смяецца апошнім).

Паходжанне фразеалагізма звязана з царкоўным адпяваннем: над нябожчыкам, перад тым як яго пахаваць, спявалі «Са святымі ўпакой». Параўн. у Я. Коласа: «Смерць прыйшла — і песня спета, і прылажана пячаць».

**Песня песняў.** *Запазыч. з царк. — слав. м.* Выдатны, найлепшы твор, вяршыня творчасці. *Выдатная праца Сухамлінскага «Сэрца аддаю дзецям», у якой абагульнены вопыт педагога-наватара, — гэта сапраўды яго песня песняў* (В.Вітка. Настаўнік).

Паходзіць ад назвы адной з біблейскіх кніг, напісанай з высокім паэтычным майстэрствам.

**Пець асанну** *каму, чаму. Гл.* спяваць (пець) асанну *каму, чаму.*

**Пець Лазара.** *Гл.* Лазара пець (спяваць).

**Пець (спяваць) дыфірамбы** *каму, чаму. Ужыв. таксама ў руск.* (петь дифирамбы), *укр.* (співати дифірамбн), *польск.* (śpiewać dytyramby), *балг.* (пея дитирамби) *м.* Празмерна хваліць, захвальваць. *Эх, шкада, што я не лірык! Я тады, дзяўчаткі, вам бы пеў такія дыфірамбы ад відна і да відна, — «душу б выпеяў да дна»* (К. Крапіва. Шкірута).

Склаўся на аснове свабоднага словазлучэння, звязанага са звычаямі старажытных грэкаў. Першапачаткова слова *дыфірамб* мела вузкае значэнне: ім называлася ўрачыстая харавая песня ў гонар Дыяніса — бога вінаробства. Пасля песні-дыфірамбы спявалі і ў гонар іншых багоў і герояў. Яшчэ ў старажытнагрэчаскай мове слова *дыфірамб* развіло пераноснае значэнне ʽусхваленне, напышлівасцьʼ.

**Печкі і лаўкі.** *Гл.* <і> печкі і лаўкі.

**Піць (выпіць) <горкую> чашу да дна.** *Запазыч. з царк. — слав. м.* Вельмі многа пакутаваць, цярпець, пераносіць якія-н. цяжкасці. У *маці ад гэтага ляманту як адарвалася сэрца. Відаць, ёй давядзецца выпіць чашу да дна. Яна ўскрыкнула і ў роспачы закрыла твар рукамі* (Я. Шарахоўскі. Сярэбраная раніца).

Упершыню выраз ужыты ў біблейскім тэксце (Ісаія, 51, 17) — у звароце да Іерусаліма, які выпіў з рук Госпада чашу да дна і павінен паўстаць, падняцца.

**Піць (смактаць) кроў** *з каго, чыю. Калька з франц. м.* (boire (sucer) le sang, літаральна «піць (смактаць, ссаць) кроў»), Ужыв. са значэннямі ʽбязлітасна эксплуатаваць, даводзіць да беднасці каго-н.ʼ і ʽмучыць каго-н., прычыняць пакутыʼ. — *Папаліся, гады! Не век жа вам чужую кроў смактаць! — чуліся паасобныя выклікі людзей з тратуараў, з вуліцы* (М. Лынькоў. Міколка-паравоз). *Зноў пайшоў цягацца праз ноч, не дай бог. От, з'еў маё жыццё, от, высмактаў маю кроў паляваннем гэтым* (Э. Самуйлёнак. Паляўнічае шчасце).

У гэтым метафарычным фразеалагізме — выразны намёк, напрыклад, на п'яўку ці аваднёў, якія п'юць, высмоктваюць кроў у прамым значэнні гэтых слоў. Параўн. ужыванне фразеалагізма з агаленнем яго ўнутранай формы параўнальным зваротам: «Ты, як п'яўка, усю б кроў з нас выссаў!» (В. Дунін-Марцінкевіч).

**Плаціць (адплаціць) той жа манетай** *каму. Калька з англ.* (to pay a man back in his own coin) *ці франц.* (rendre à qn la monnaie de sa pièce) *м.* Адказваць тым самым, такімі ж адносінамі, учынкамі. *[Італьянец: ] Гітлераўцы.. не любілі нас, здзекліва звалі*

*«спагецці» — «макароннікі». Мы плацілі ім той жа манетай* (У. Краўчанка. Сустрэча ля храма Лорэта).

Утвораны шляхам пераасэнсавання свабоднага словазлучэння, якое бытавала ў практыцы грашовых разлікаў.

**Плесці кашалі** *<каму, пра каго, пра што>. Уласнабел.* Гаварыць абы-што, выдумваць. *Гавары хутчэй, хто такая і куды ідзеш. Толькі пра Заграддзе кашалі не пляці — я там усіх ведаю* (П.Місько. Мора Герадота).

Склаўся на аснове асобнага слова ў выніку адначасовай рэалізацыі двух значэнняў дзеяслова *плесці* (‘перавіваючы, вырабляць што-н.’ і ‘гаварыць абы-што’) з далейшым дапаўненнем каламбурна выкарыстанага дзеяслова экспрэсіўным дадаткам *кашалі.*

**Плесці лапці.** *Уласна бел.* Гаварыць абы-што, выдумваць. — *Базы няма. Напэўна, перабазіравалася ў іншае месца… — Называецца, гарадзілі гарод. Плялі лапці, — прабурчэў Лукашоў* (В. Быкаў. Дажыць да світання).

Утвораны ў выніку адначасовай рэалізацыі прамога і пераноснага значэнняў дзеяслова *плесці* (‘перавіваючы, вырабляць што-н.’ і ‘гаварыць абы-што’) з далейшым дапаўненнем каламбурна выкарыстанага дзеяслова экспрэсіўным дадаткам *лапці.*

**Плоць ад плоці** *каго, чыёй. Запазыч, з царк. — слав. м.* Ужываецца са значэннямі ‘роднае дзіця’ ці ‘плён каго-н., чаго-н.’. *Жбан гліняны павіс на плоце — плоць ад вясковай плоці* (А. Вярцінскі. Прадмесце).

Крыніца фразеалагізма — тая ж біблейская легенда пра стварэнне Евы з Адамавага рабра, з якой паходзіць фразеалагізм *косць ад косці* (гл.). І семантыка абодвух фразеалагізмаў аднолькавая.

**Плоць і кроў** *чыя, каго. Відаць, калька з ням. м.* (Fleisch und Blut). Ужыв. са значэннямі ‘роднае дзіця (пра кроўную роднасць)’ і ‘спараджэнне, дзецішча каго-, чаго-н. (пра ідэйную роднасць)’. *Ян шкадаваў сына не толькі як роднага чалавека — сваю плоць і кроў — але і як работніка, без якога занепадзе гаспадарка* (А. Чарнышэвіч. Засценак Малінаўка). *Гэтыя недахопы зыходзяць ад вашых таварышаў, ад людзей вашай плоці і крыві* (Маладосць. 1958. № 3).

Склаўся на базе семантычна тоесных фразеалагізмаў *плоць ад плоці, кроў ад крыві, косць ад косці* ў выніку аб’яднання першых кампанентаў двух выразаў. Узнікненне гэтых фразеалагізмаў звязана з біблейскім аповедам пра стварэнне першых людзей на зямлі. Паводле Бібліі, Адам, прачнуўшыся і ўбачыўшы Еву, зробленую з яго рабрыны Богам, сказаў: «Вось гэта косць ад касцей маіх і плоць ад плоці маёй».

**Плысці за вадой.** *Уласна бел.* Пасіўнічаць, прыстасоўваючыся да абставін. *Магдаліна заўпарцілася. Хопіць плысці за вадой. І заявіла, што здасць усе іспыты* (Л. Рублеўская. Пярсцёнак апошняга імператара).

Магчыма, склаўся пад уплывам сінанімічнага фразеалагізма *плысці па цячэнні* — калькі з ням. ці франц. м. (гл.).

Плысці (плыць) па цячэнні. *Калька з ням.* (mit den Strom schwimmen) *ці франц.* (se laisser aller au courant) *м.* Дзейнічаць пасіўна, вяла, прыстасоўваючыся да абставін, не выказваючы супраціўлення. [Ясевіч] *прывык, відаць, абыходзіць вострыя вуглы. І цяпер вось ён не рашаецца пераадолець у сабе гэтай прывычкі, плыве па цячэнні* (А. Дзятлаў. Начное неба ў ліпені).

Утвораны на аснове свабоднага словазлучэння, пры пераасэнсаванні якога актуалізацыю атрымала патэнцыяльная сема ‘плысці без асаблівых намаганняў’.

**Плысці (плыць) супраць цячэння.** *Калька з ням. м.* (gegen den Strom schwimmen). Дзейнічаць наперакор усяму. *«Сярод нас, — гаварыў прадстаўнік Мадагаскара, — існуе група краін, якія плывуць супраць цячэння...»* (А. Вярцінскі. Дзве дыпламатыі на паверку).

Узнік шляхам пераасэнсавання свабоднага словазлучэння.

**Плячом к плячу (да пляча).** *Калька з ням.* (Schulter an Schulter) *або англ.* (shoulder to shoulder) *м.* Ужыв. са значэннямі: 1) зусім побач, у непасрэднай блізкасці, адзін каля аднаго (ісці, ехаць, стаяць, сядзець і пад.), 2) разам, вельмі дружна, у цесным адзінстве (жыць, працаваць, змагацца і пад.). *І мы не забудзем ніколі, суседзі мае, землякі, як роднаму ў хаце пісалі, сядзелі — плячо да пляча* (А. Бялевіч. Высокі поўдзень). *Нам дружыць патрэбна між сабою і стаяць за мір — плячом к плячу, — сустракаць вас не на полі бою, а на фестывалях я хачу* (М. Смагаровіч. Маё выступленне).

1-е значэнне ўзнікла шляхам сінекдахічнага пераносу: па назве часткі называецца цэлае. 2-е ж значэнне развілося на аснове 1-га метафарычным шляхам.

**Плячысты на жывот.** *Уласна бел.* Прагны да яды, пражэрлівы, любіць многа есці. *Шмыг узяў дзве смятаны, два гуляшы, два куфлі піва, разлічыўся каля касы. — Плячысты на жывот, — жартам, мусіць> сказаў начальнік цэха Мамалыга. — А рабіць не хоча* (В. Мыслівец. Гарачая сталь).

Выраз каламбурнага характару. Утвораны на ўзор шматлікіх фразеалагізмаў тыпу *востры на язык, лёгкі на ногі.* Упершыню ў літаратурнай мове выкарыстаны ў вершы К. Крапівы «Фрыцавы трафеі» (1941): «Сала, масла, цукар, мёд гітлераўца вабяць: фрыц плячысты на жывот і мастак паграбіць».

**Повен рот.** *Пайкалька з руск. м.,* абазначае ‘вельмі многа’ і, як правіла, ужываецца з прыфразеалагічным словам *турбот. Трэба было мець смякалку ў руках дзяржаць Міхалку, пад сваім аховам, і Таклюсю,* і *Мар’янку, — проста з самага ўжо ранку навучай іх словам. Ну, як бачыце, турбот у Мікіты повен рот* (Я. Колас. Як поп зрабіўся авіятарам).

Ёсць меркаванне, што выраз узнік з прыказкі *Хлопот полон рот, а перекусить нечего ў* выніку яе скарачэння.

**Поле зроку.** *Калька з англ. м.* (the field of vision). Ужыв. са значэннямі ‘прастора, якая акідваецца вокам’ і ‘кола праблем, інтарэсаў, клопатаў і пад.’. *Разведчыкі крочылі далей. Тым часам з поля зроку знікла гравійка* (І.Навуменка. Смутак белых начэй). *У поле зроку празаіка ўсё шырэй уваходзяць такія паняцці, як «час», «пасляваенныя цяжкасці», «сярэдзіна дваццатага стагоддзя»* (М. Тычына. У лабірынце чалавечага жыцця).

Абодва кампаненты фразеалагізма ў яго першым значэнні — сэнсаўтваральныя, суадносныя з перыферыйнымі значэннямі адпаведных слоў. Другое значэнне развілося на базе першага і абазначае абстрактны прадмет.

**Порах сыплецца** *з каго. Агульны для бел. і ўкр. м.* Хто-н. вельмі стары, слабы. *Я не з тых, хто трымаецца за пасаду як клешч. З яго, беднага, порах сыплецца, а ён усё падскоквае, дае ўстаноўкі, камандуе, не заўважаючы, што выпусціў лейцы з рук і за яго робяць другія* (Т. Хадкевіч. Песня Дзвіны).

Утварыўся, відаць, у выніку пераасэнсавання свабоднага словазлучэння, якое дастасоўваецца да старога каня, калі з яго ў выніку захворвання скуры сыплюцца дробныя лусачкі. Слова *порах, як* засведчана ў «Слоўніку беларускай мовы» І.І.Насовіча і ў слоўніках сучаснай укр. м., мае, апрача агульнавядомага значэння, сэнс ‘пыл, прах’. Магчыма, на фарміраванне выразу паўплываў семантычна тоесны фразеалагізм *пясок сыплецца* з каго (гл.) — калька з англ. м.

**Порах(-у) не выдумляць (не выдумаць).** *Агульны для ўсходнесл. і польск.* (prochu nie wymyślać) *м.* Нічога новага, свайго, арыгінальнага не ствараць. — *Пра нас можна не гаварыць! — ужо крычыць Мудрык. — Мы порах не выдумляем. Але я казаў і буду казаць, што раўняць сапраўднага вучонага і няхай сабе найлепшага рабочага нельга* (І.Навуменка. Бульба).

У названыя вышэй мовы фразеалагізм трапіў як недакладная калька з франц. *n’a pas inventé la poudre* ці ням. *hat das Pulver nicht erfunden* **m.** (літаральна «пораху не вынайсці»).

**Поўная чаша.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Часцей ужыв. пры дзейніку *дом,* абазначаючы ‘вельмі багаты, заможны, з вялікім дастаткам ва *ўсім'. Дом Крамера — поўная чаша. Бургамістры*

*валасцей, старасты, загадчыкі млыноў, наязджаючы ў мястэчка, не прамінаюць выпадку падкінуць сёе-тое раённаму бургамістру* (І.Навуменка. Сасна пры дарозе).

Узнік праз супастаўленне з чашай, напоўненай да самага верху.

*Гатоў, рад, хацелася, лепш бы* **праваліцца скрозь зямлю.** *Калька з грэч. м.* (Гатоў і інш.) хутчэй схавацца, знікнуць з-за сораму, няёмкасці. *Пасля такой неспакойнай ночы іду на сваю новую службу; а сам гатоў скрозь зямлю праваліцца* (М. Ракітны. На прыстані).

Паводле М.І.Міхельсона, фразеалагізм выкарыстоўваўся ў старажытнагрэчаскай літараіуры, у тым ліку ў творы сатырыка Лукіяна (120–190), прычым з агаворкай «прымаўка».

**Правая рука** *каго, чыя, у каго. Відаць, агульнаслав. (толькі ў балгараў няма гэтага фразеалагізма, у іх правая рука называецца адным словам — десница).* Першы памочнік, супольнік. *Аб'ездчык, сярэдніх год чалавек, правая рука ляснічага і пярвейшы шэльма, скрыва і злосна зірнуў на лесніка і павёў яго ў лес* (Я. Колас. Малады дубок).

Паміж фразеалагізмам і аманімічным пераменным словазлучэннем — жывая асацыятыўная сувязь. Аднак паміж імі, на шляху ўтварэння фразеалагізма, было «прамежкавае звяно» — вайсковы тэрмін *полк правай рукі.* Гэты тэрмін ведалі ў Кіеўскай Русі. Камандаваў такім палком самы надзейны чалавек князя, звычайна яго блізкі родзіч. Карысталіся тэрмінам і пазней. Напрыклад, у Кулікоўскай бітве (1380) удзельнічаў полк правай рукі на чале з князем Андрэем Полацкім. Быў таксама полк левай рукі, але на яго аснове не склаўся адпаведны агульнанародны фразеалагізм, хоць у пэўным кантэксце, на фоне выслоўя *правая рука,* можа выкарыстоўвацца з цэласным значэннем 'другі памочнік' выраз *левая рука:* «Паўлюк у райкоме, а мой Кастусь у райсавеце. У Шаўчэнкі ён — левая рука. Раманаў правая, а ён левая — загадчык аддзела сельскага і калгаснага будаўніцтва. Таксама, можна сказаць, намеснік старшыні!» (Я. Брыль). Ведаюць фразеалагізм *правая рука* немцы *(rechte Hand)* і французы *(main droite);* цяжка сказаць, ці ён запазычаны імі ў славян, ці ўзнік самастойна.

**Прагаласаваць абедзвюма рукамі.** *Гл.* галасаваць (прагаласаваць) абедзвюма рукамі.

**Праглынуць <горкую> пілюлю.** *Паўкалька з франц. м.* (avaler la pilule). Моўчкі знесці крыўду, цярпліва выслухаць непрыемнае.

*Але, на маё шчасце, інспектар.. згадзіўся, што… не можа быць забароненых тэм на шляху пазнання чалавека і прыроды…*

*Адным словам, Адэлька мусіла праглынуць пілюльку, яшчэ адну* (І.Шамякін. Снежныя зімы).

Узнік са свабоднага словазлучэння, на аснове яго канкрэтнага значэння склалася метафарычнае.

**Праглынуць язык.** *Калька з франц. м.* (avaler sa langue). Перастаць гаварыць, замоўкнуць. *Яе смяшлівыя шчокі з ямачкамі па-дзіцячы расчырванеліся, а з прыгожых вачэй струменіла такая гарэзная весялосць, што Ляўчук проста праглынуў язык і забыўся на ўвесь учарашні інструктаж* (В. Быкаў. Воўчая зграя).

У аснове фразеалагізма — нерэальны вобраз.

**Празандзіраваць глебу.** *Гл.* зандзіраваць (празандзіраваць) глебу.

**Праз (скрозь) зубы.** *Калька з франц. м.* (entre ses dents). Ужыв. са значэннямі ‘невыразна, неразборліва або ледзь чутна (гаварыць, мармытаць і пад.)’ і ‘з пагардай, незадавальненнем (гаварыць, цадзіць і пад.)’. *Мікола правёў па «сівых» валасах малога, намацаў гуз ад кія і, заплюшчыўшы вочы, праз зубы ціха вылаяўся* (Я. Брыль. Сірочы хлеб). *Андрэй прабурчэў скрозь зубы: — Багатыр* (М. Зарэцкі. Вязьмо).

Выраз усведамляецца як матываваны.

**Прайсці агонь і ваду.** *Калька з англ. м.* (go through flre and water). Зведаць, перанесці шмат чаго ў жыцці. *Але дзіва дзіўнае: гэты Віткоўскі прайшоў усе агні і воды і ўцалеў!* (У. Дамашэвіч. Дарожная гісторыя).

Першапачатковая вобразнасць фразеалагізма ўсведамляецца як ‘быць у агні і не згарэць, быць у вадзе і не патануць’. Ва ўсходнесл. мовах выраз ўжываецца і з дадаткам *медныя трубы* — вобразам, вядомым яшчэ ў Старажытнай Грэцыі як сімвал урачыстасці з аркестрам. Параўн.: «Прайшоў агонь, ваду, медныя трубы. Кажуць, прайсці медныя трубы — гэта прайсці цераз славу, самае цяжкае выпрабаванне» (І.Шамякін).

**Пракаціць на вараных** *каго. Агульны для ўсходнесл. м.* Забалаціраваць, праваліць на выбарах. *Людзі яму не даруюць гэтага. Думаецца, што на справаздачным сходзе пракоцяць яго на вараных* (А. Савіцкі. Палын — зелле горкае).

Прыведзены ўрывак-ілюстрацыя семантычна нічога б не страціў, калі б замест выразу *пракоцяць на вараных* застаўся толькі дзеяслоў *пракоцяць;* адно са значэнняў гэтага дзеяслова такое ж, як і значэнне фразеалагізма: «Мяне пракацілі… Не выбралі… Вось што здарылася…» (І.Шамякін); «Цябе могуць пракаціць» (А. Асіпенка). Такім чынам, фразеалагізм узнік на аснове слова *пракаціць* у выніку накладання на значэнне ‘забалаціраваць’ яшчэ аднаго значэння гэтага дзеяслова — ‘правезці’ і каламбурнага дапаўнення яго дадаткам *на вараных.* А

для такога дадатку былі пэўныя падставы: раней на выбарах у некаторыя ўстановы галасавалі белымі («за») і чорнымі («супраць») шарамі; калі чорных (вараных) шароў аказвалася ў урне больш, чым белых, то гэта абазначала, што кандыдата «пракацілі… на вараных».

**Пракладаць (пракладваць, праклaсці, пралажыць) дарогу (шлях, сцежку)** *каму, чаму, куды. Агульны для ўсходнесл. м.* Ствараць спрыяльныя ўмовы для дасягнення чаго-н., якой-н. мэты, для поспеху, развіцця. У *драматургіі К. Крапіва — патрыярх. Авалодаўшы самым складаным жанрам літаратуры, ён праклаў сцежку нам, малодшым, на саюзную сцэну* (ЛіМ. 26.03.1976).

Утвораны на аснове фразеалагізма *пракладаць сабе дарогу* (гл.) шляхам апушчэння кампанента *сабе і* замены яго залежным ад фразеалагізма словам у тым жа склоне, у якім стаяў апушчаны кампанент.

**Пракладаць (пракладваць, праклaсці, пралажыць) першую баразну.** *Уласна бел.* Быць пачынальнікам, першаадкрывальнікам у якой-н. справе. *Понтус не зробіць такіх памылак. Але затое ні за што не возьмецца пракладаць першую баразну. І самае лепшае, на што здатны, — выкрыць памылкі другіх* (У. Карпаў. За годам год).

Утварыўся ў выніку пераасэнсавання свабоднага словазлучэння, звязанага з пачынаннем араць зямлю плугам.

**Пракладаць (правкладваць, праклaсці, пралажыць) сабе дарогу (шлях).** *Калька з франц.* (faire son chemin) *або ням.* (seinem Weg machen) *м.* Ужыв. са значэннямі ‘дабівацца добрага становішча, поспеху ў жыцці’ і ‘пераадольваючы супярэчнасці, атрымліваць распаўсюджванне, развіццё, прызнанне і пад.’. *Твор… не мог не выклікаць гарачага пратэсту супраць такога жыцця, жадання вырвацца, праклaсці сабе шлях да лепшай долі* (К. Крапіва. Жыццё і творчасць народнага паэта Беларусі Якуба Коласа). *Сітуацыя ў літаратурна-мастацкай крытыцы даволі супярэчлівая. У яе дзейнасці назіраюцца разнародныя тэндэнцыі, новае пракладвае сабе дарогу ў сутыкненні са старым* (М. Мушынскі. Ад размоў пра поспехі ўстрымаемся).

Фразеалагізм з жывой унутранай формай.

**Праклaсці дарогу** *каму, чаму куды. Гл.* пракладаць (пракладваць, праклaсці, пралажыць) дарогу (шлях, сцежку) *каму, чаму; куды.*

**Праклaсці першую баразну.** *Гл.* пракладаць (пракладваць, праклaсці, пралажыць) першую баразну.

**Праклaсці сабе дарогу.** *Гл.* пракладаць (пракладваць, праклaсці, пралажыць) сабе дарогу.

**Пракрустава ложа.** *Пайкалька з франц.* (lit de Procruste) *ці англ.* (the Procrustean bed) *м.* Мерка, пад якую сілком, штучна падганяюць ці прыстасоўваюць што-н. *Сам я не вельмі люблю дзяліцца думкамі. І не таму, што яны ганебныя. Яны не лезуць у пракрустава ложа звычнага, прынятага…* (А. Асіпенка. Святыя грэшнікі).

Склаўся на аснове старажытнагрэчаскага міфа пра разбойніка Пракруста. Ён лавіў людзей, заводзіў да сябе і ўкладваў у сваю пасцель. Калі ахвяра была даўжэйшая за ложак, Пракруст адсякаў ёй ногі, а калі карацейшая — расцягваў госця да памеру ложка.

**Пралажыць дарогу** *каму чаму, куды. Гл.* пракладаць (пракладваць, праклaсці, пралажыць) дарогу (шлях, сцежку) *каму, чаму, куды.*

**Пралажыць першую баразну.** *Гл.* пракладаць (пракладваць, праклaсці, пралажыць) першую баразну.

**Пралажыць сабе дарогу.** *Гл.* пракладаць (пракладваць, праклaсці, пралажыць) сабе дарогу.

**Прамачыць горла.** *Калька з ням.* (sich die Kehle anfeuchten) *ці франц.* (se rincer la sifflet) *м.* Выпіць трохі спіртнога. *Кажу я Базылю: у кутку дзе прысядзем і горла прамочым, жывату дарадзім* (В. Дунін-Марцінкевіч. Халімон на каранацыі).

Фразеалагізм усведамляецца як матываваны.

**Праметэеў агонь.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Незгасальнае імкненне да высакароднай мэты. У *вашай душы не патух праметэеў агонь* (М. Гамолка. Шосты акіян).

Склаўся на аснове грэчаскіх міфаў пра тытана Праметэя — «самага высакароднага святога і мучаніка ў філасофскім календары» (К. Маркс). Паводле міфаў, Праметэй — багаборац і абаронца людзей. Ён выкраў з Алімпа, ад багоў, агонь і аддаў людзям, зрабіў для людзей яшчэ шмат чаго добрага: навучыў астраноміі, медыцыне, пісьму, чытанню, вадзіць караблі і інш. За гэта раззлаваны Зеўс, вярхоўны бог грэкаў, загадаў прыкаваць Праметэя да каўказскай скалы. Сюды кожную раніцу прылятаў вялізны арол і дзёўб печань прыкутага, а яна зноў загойвалася за коч. У гонар Праметэя ў Афінах святкавалі праметэі (бег з факелам і перадача яго з рук у рукі).

**Прамываць (прамыць) мазгі** *каму. Калька з англ. м.* (brainwash). Павучаючы каго-н., уздзейнічаючы на каго-н., схіляць да іншага, пабуджаць змяніць паводзіны, погляды і пад. *Сёння Цімка мне мазгі прамываў. У камсамол рэкамендаваў* (І.Шальманаў. Цагельня).

Складаны англійскі дзеяслоў скалькаваны па частках — як двухкампанентны выраз. Першапачаткова абазначаў ‘уздзейнічаць на псіхіку чалавека спецыяльнымі медыцынскімі прэпаратамі’.

**Прамыўка мазгоў.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Строгая вымова, праборка, нацаняй. *Мяккае, абабітае дэрмацінам* [крэсла], *Шалянок падсоўваў таму наведвальніку, да якога меў важную просьбу ці іншы інтарэс, а калі ўжо выклікаў на «прамыўку мазгоў», дык мяккага крэсла не прапаноўваў, добра, калі кіне халодным вокам на цвёрдае* (В. Карамазаў. Спіраль).

Вытворны ад суадноснага дзеяслоўнага фразеалагізма *прамываць (прамыць) мазгі* каму (гл.) ‘павучаючы каго-н., уздзейнічаючы на каго-н., схіляць да іншага, пабуджаць змяніць паводзіны, погляды і пад.’.

**Прапанова рукі і сэрца.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Просьба хлопца да дзяўчыны стаць яго жонкай. — *'Так можа быць заўсёды. Калі толькі ты гэтага захочаш, — азваўся Ігар… Ларыса ўважліва зірнула на ягоны твар, бачны толькі ў профіль: — Як разумець вашы словы, сеньёр? — Як прапанову рукі і сэрца* (Т. Мушынская. Джульета і экстрасенс).

Утварыўся на базе суадноснага дзеяслоўнага фразеалагізма *прапанаваць руку і сэрца* (каму).

**Прапісаць іжыцу** *каму. Агульны для ўсходнесл. м.* Правучыць, пакараць каго-н. *Прыйдуць нашы, прапішам мы яму іжыцу* (К. Крапіва. Канец дружбы).

*Іжыца* — апошняя літара царкоўнаславянскай і старой рускай азбукі. На правапіс гэтай літары вучні рабілі памылкі, бо трэба было памятаць, калі пісаць ***и*** (васьмярычнае), а калі ***i*** (дзесяцярычнае) ці ***Ѵ***(іжыцу) для абазначэння аднаго і таго гука ***i***. Іжыца была прычынай пакарання школьнікаў розгамі, што і спарадзіла выраз *прапісаць іжыцу* — спачатку з вузкім сэнсам ‘адлупцаваць’. Дарэчы, іжыца і знешне падобная на бізун.

**Праседжванне штаноў.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Канцылярская ці іншая праца за пісьмовым сталом. *Прыкра, калі літаратар «выязджае» на адным Богам дадзеным таленце і падмацоўвае яго ў маладосці не праседжваннем штаноў у бібліятэцы, а чаканнем «натхнення» над чаркай гарэлкі…* (Б. Пятровіч. Інтэрв’ю).

Вытворны ад суадноснага дзеяслоўнага фразеалагізма *праціраць (праседжваць) штаны* (гл.).

**Праўдамі і няпраўдамі.** *Гл.* <усімі> праўдамі і няпраўдамі.

**Праціраць (праседжваць) штаны.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Займацца канцылярскай ці іншай працай за пісьмовым сталом.

*Чыноўніку перападае свая сціплая скібачка з алеем, ён жа штаны праціраe на гасударавай службе* (В. Дубінка. Дазваляльшчыкі).

У аснове фразеалагізма — крыху гіпербалізаваны вобраз аб працяглай сядзячай дзейнасці чалавека.

**Працэс пайшоў.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Незваротны, неабарачальны рух у развіцці чаго-н. пачаўся. *Армяне ўзяліся наладзіць збыт цацак у суседнюю дзяржаву. Разлічваецца абяцалі не бартэрам, а звонкай манетай.І, як кажуць, працэс пайшоў* (А. Брава. Бязлітасны мой воін).

Паходзіць з маўлення М. С. Гарбачова, які ў публічных выступленнях (1985–1991) даволі часта ўжываў гэты выраз. Параўн.: «Міхаіл Гарбачоў ставіў яе [перабудовачную рэйку] на вышыню, дазволеную статутам КПСС, плюс дадаваў некалькі сантыметраў ад сябе, астуджаючы і супакойваючы нецярплівых словамі: „Працэс пайшоў!“» (А. Кудравец).

**Прачытаць паміж радкоў** <*што*>. *Гл.* чытаць (прачытаць) паміж радкоў <*што*>.

Пробны камень *каго, чаго, для каго, для чаго. Калька з ням. м.* (Prüfstein). Тое, што дазваляе выявіць асноўныя ўласцівасці, якасці каго-, чаго-н. *[Гарлахвацкі:] Гэта будзе пробны камень і для Чарнавуса. Магчыма, што ён паспрабуе зганьбіць маю працу і скампраметаваць мяне, як савецкага вучонага. Тады мы яго і выкрыем* (К. Крапіва. Хто смяецца апошнім).

Утвораны ў выніку пераасэнсавання тэрміналагічнага словазлучэння, якім называюць спецыяльны камень для вызначэння пробы каштоўных металаў.

**Проста з моста.** *Агульны для бел. і польск. м.* Адразу ж, без роздуму, не падумаўшы. *Узяцца проста з моста за гэтую справу, нарабіць так можна шкоды для дзяржавы* (Я. Купала. Над ракой Арэсай).

Першая частка выслоўя, якое ў XIX ст. ужывалася ў форме *проста з моста, тарчма галавою* і, як сведчыць І.Насовіч, пры абставінах, «калі хто пад выглядам праставатасці знарок рабіў якія-небудзь непрыемнасці ці страты».

**Просяць (прасілі) кашы.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Ужыв. пры дзейніку, які абазначае назвы абутку, і мае сэнс ‘вельмі знасіліся, патрабуюць рамонту (чаравікі, боты і пад.)’. *На новым боце падэшва амаль адвалілася, быццам падрэзаная па канту на левым таксама ледзь ліпела. — Кашы просяць, — прамовіў Лагуцін са смяшком* (А. Савіцкі. Зямля раскажа).

У аснове фразеалагізма — супастаўленне дзіравага абутку з адкрытым ротам малога дзіцяці, які гэтай мімікай просіць есці.

**Прыбіваць (прыбіць) да ганебнага слупа** *каго. Калька з рус. м.* (пригвождать к позорному столбу). Клеймаваць ганьбай, сурова бічаваць каго-н. *Шаройку прыйшоў канец, яго, як кажуць,*

*прыбілі да ганебнага слупа, калі супраць яго чарговай кражы абурылісяўсе калгаснікі, увесь калектыў* (І.Шамякін. У добры час).

Узнікненне фразеалагізма звязана з даўнейшым звычаем караць злачынца, прывязваючы яго на плошчы да слупа для ўсеагульнага агляданння.

**Прыбіраць у <свае> рукі.** *Гл.* убіраць (убраць; прыбіраць, прыбраць) у <свае> рукі.

Прыводзіць (прывесці) да агульнага назоўніка. *Пайкалька з руск. м.* (приводить к общему знаменателю). Ліквідуючы адрозненні, ураўноўваць што-н. у якіх-н. адносінах. *Звер мае прапановы са сваімі варыянтамі і прывядзі да агульнага назоўніка* (А. Куляшоў. Я. Хелемскаму).

Узнік у выніку пераасэнсавання састаўнога матэматычнага тэрміна.

**Прывядзенне** *чаго* **да агульнага назоўніка.** *Пайкалька з руск. м.* (приведение к общему знаменателю). Ураўноўванне чаго-н. у якіх-н. адносінах з нівеліраваннем некаторых адметнасцей. *Патрабуецца прывядзенне мастацкай сутнасці теора да агульнага назоўніка…* (І.Жук. Коланавыя кампазіцыі ў рытмавым існаванні празаічнага тэксту).

Узнік у выніку пераасэнсавання састаўнога матэматычнага тэрміна.

**Прыгожы пол.** *Калька з франц. м.* (le beau sexe). Жанчыны. *Вытлумачыць разумнымі прычынамі Мікалаевы перамогі над прыгожым полам немагчыма* (І.Навуменка. Смутак белых начэй).

Усведамляецца як матываваны выраз.

**Прыгрэць змяю на сваіх грудзях.** *Гл.* змяю гадаваць на сваіх грудзях.

**Пры душы.** *Агульны для бел. і польск.* (przy duszy) *м.* У наяўнасці (быць у каго-н., мець што-н., звычайна грошы). *Зірнуўшы на яго* [сына], *Міхал зразумеў, што ніякага фальварка ў яго сына ў Полшчы няма і наўрад ці ёсць капейка пры душы* (К. Чорны. Світанне).

Склаўся, відаць, на аснове сэнсава тоеснага фразеалагізма *за душой* (гл.), у якім слова *душа* першапачаткова абазначала 'ямачка на шыі пад кадыком, дзе раней насілі, хавалі грошы'.

**Прыйдзе коза да воза.** *Агульны для бел., укр. і польск, м.* Выкарыстоўваецца як выказванне пагрозы, папярэджання ці прароцтва, што хтосьці некалі адумаецца, пакаецца, звернецца з просьбай. *Дык, значыць, будзеце заворваць? Па-суседску, значыць, не хочаце пагадзіцца?.. Што ж, рабеце, няхай і так будзе, мо калі… прыйдзе коза да воза…* (П. Галавач. Спалох на загонах).

Паходзіць з прыказкі *Прыйдзе коза да воза, ды не будзе сена,* другая частка якой адпала, перастала ўжывацца. У

парэміялагічных зборніках XIX ст. падаюцца і такія варыянты прыказкі: *Прыйдзе коза да воза прасіць сена; Прыйдзе коза да воза прасіць аброку, дастане кіем па боку; Прыйдзе каза да ваза, папросіць сена, а мы ёй пугі дамо.*

**Прыйсці ў сябе.** *Гл.* прыходзіць у сябе.

**Прыкладваць (прыкласці, прылажыць) руку.** *Агульны для амаль усіх славянскіх м. (руск.* приложить руку, *укр.* приложити руку, *польск.* przylożyć rękę і г.д.). Ужыв. са значэннямі: 1) *(да чаго)* падпісваць які-н. дакумент, паперу, 2) *(да каго)* біць каго-н., 3) *(да чаго)* мець дачыненне да чаго-н. заганнага, удзельнічаць у чым-н. нядобрым. *Нярэдка да іх пасланняў прыкладваў руку і Генка. Тады на аркушах, спісаных няроўным почыркам дырэктара дзіцячага дома, паяўляліся рознакаляровыя кружочкі, квадрацікі…* (Настаўн. газ. 21.03.2002). *Загадчыца магазіна… не толькі парушае правілы савецкага гандлю, але і прыкладвае руку да пакупнікоў Прасцей кажучы, б'е* (Вожык. 1977. № 10). — *Тут скаргі калгаснікаў. Праўда, без подпісаў. Прызнайся, ты прыклаў руку? — Ёсць і мая работа* (А. Макаёнак. Каб людзі не журыліся).

Выраз у яго першым, зыходным значэнні склаўся ў старажытнай афіцыйна-справавой мове. Непісьменныя людзі замест подпісаў прыкладалі да падання ці іншага дакумента палец або руку, змазаную фарбай, пакідалі на паперы адбітак. І гэта лічылася подпісам. Два іншыя значэнні развіліся ў фразеалагізме ў выніку паўторнай метафарызацыі таго самага свабоднага словазлучэння.

*Заставацца* **пры пікавых інтарэсах (пры пікавым інтарэсе).** *Агульны для ўсходнесл. м.* Без таго, на што разлічваў, спадзяваўся хто-н., чаго дабіваўся. *Пры пікавых інтарэсах народ застаўся. Куды ні зірні—усё пачынай спачатку, а тут табе ані хамута, ані шыі…* (М. Ракітны. Этапы).

Першаснова фразеалагізма — картачная варажба, пры якой пікі (картачная масць) сімвалізуюць нядобрае.

*Заставацца* **пры сваіх інтарэсах (пры сваім інтарэсе).** *Агульны для ўсходнесл. м.* У тым жа становішчы, з тым, што мелася. *Пакуль яго* [сена] *не забралі, трэба ў хлеў укінуць. Спакойней будзе. А то, пабачыце, застанемся пры сваім інтарэсе* (А. Асіпенка. Непрыкаяны маладзік).

Утвораны шляхам пераасэнсавання адпаведнага словазлучэння, якое ўжываецца пры картачнай варажбе, а таксама пры гульні ў карты.

**Прытуліць галаву** *дзе, да каго. Гл.* галаву прыхінуць (прыхіліць, прытуліць) *дзе, да каго.*

**Прытча ва языцах.** *Запазыч. з царк. — слав. м.* Прадмет усеагульных размоў, абгавораў, кпінаў і пад. *Усё Азярное ведае,*

*што Бадытчык — кулак, што яго скора знімаць будуць. Там — гэта прытча ва языцах* (М. Лобан. Гарадок Устронь).

Выраз з Бібліі, дзе ён выкарыстаны некалькі разоў (напрыклад, Другазаконне, 28,37), *Ва языцах (во языцех)* — старая форма меснага скл. мн. л, назоўніка *язык* (тут ён ужыты са значэннем ‘народ’). Літаральна *прытча ва языцах* абазначае ‘прытча ў народзе, народная прытча’.

**Прыхінуць галаву** *дзе, да каго. Гл.* галаву прыхінуць (прыхіліць, прытуліць) *дзе, да каго.*

**Прыходзіць (прыйсці) у галаву** *каму. Агульны для ўсходнесл. і польск.* (przychodzić do głowy) *м.* Ужыв. са значэннямі: 1) раптоўна, выпадкова з’яўляцца ў свядомасці, 2) даходзіць да свядомасці, 3) адчуваць патрэбу ў чым-н.; хацець, наважвацца. *Шафёр зірнуў насцярожана: што сакратару прыйшло ў галаву?* (І.Шамякін. Атланты і карыятыды). *Мне і ў галаву не прыходзіла, каб бацька найшоў на маю бяду і ўбачыў усё сваімі вачыма* (А. Пальчэўскі. Калі ападала лісце). *Нікому не прыходзіла ў галаву палажыць кладачку хоць супраць свае хаты, каб льга было прайсці праз балота, у якім тапілася гэта вуліца* (Я. Колас. На ростанях).

Усе кампаненты фразеалагізма выступаюць як сэнсаўтваральныя, суадносныя з адпаведнымі словамі свабоднага ўжывання ў пэўных іх значэннях: *прыходзіць* — ‘узнікаць, з’яўляцца’, *галава* — ‘розум, свядомасць’. Але дзеяслоўны кампанент *прыходзіць (прыйсці),* калі яго разглядаюць на ўзроўні слова, мае абавязковае канструктыўна абмежаванае значэнне (*прыходзіць* у ш т о), тады як суадносны дзеяслоў згаданае вышэй значэнне заўсёды рэалізуе без залежнага слова-канкрэтызатара: *прыйшло жаданне* (І.Шамякін), *думка мне прыйшла* (Л. Прокша), *апетыт прыйдзе* (А. Васілевіч).

**Прыходзіць (прыйсці) у сябе.** *Калька з франц. м.* (revenir a soi). Ужыв. са значэннямі ‘выходзіць са стану непрытомнасці, забыцця і пад.’ і ‘пераставаць хвалявацца; супакойвацца’. *Праз некалькі хвілін Агата прыйшла ў сябе, але была такою нямоцнаю, што ногі яе не трымалі* (Я. Нёманскі. Тодар Базылёнак). *Даведалася, што з табою зрабілася бяда, і, паверыш, тры дні не магла прыйсці ў сябе, супакоіцца* (Ц. Гартны. Сокі цаліны).

Узнікненне фразеалагізма звязана з вераваннем, што ў часе непрытомнасці душа чалавека пакідае яго цела, а пасля зноў вяртаецца. Другое значэнне развілося ў фразеалагізме на базе першага.

**Прыход на свет** *каго, чый. Уласна бел.* Нараджэнне каго-н. *Бацька, расказвалі ў вёсцы, вельмі рады быў майму прыходу на свет і трывожыўся, помнячы лёс папярэдніх дзяцей* (У. Калеснік. Доўг памяці).

Вытворны назоўнікавы фразеалагізм ад суадноснага дзеяслоўнага *прыходзіць на свет.*

**Прыцягваць (прыцягнуць) за вушы (за валасы)** *што. Калька з франц.* (tirer par les cheveux) *ці ням.* (an den Haaren herbeiziehen) *т.* (літаральна «прыцягваць за валасы»). Неапраўдана, беспадстаўна выкарыстоўваць што-н. у якасці доказаў, доваду. *Успомнілася, што ў некаторых абвінавачванні, і вельмі сур'ёзныя, былі прыцягнуты, проста сказаць, за вушы* (І.Мележ. Подых навальніцы).

У аснове фразеалагізма — гіпербалізаваны вобраз.

**Прышыванне ярлыкоў.** *Уласна бел.* Аднабаковая, шаблонная ацэнка, характарыстыка каго-н. *Настаў час, калі палітыка бесцырымоннага прышывання ярлыкоў пачала цярпець няўдачы* (М. Чавускі. Чаму ж не смяяцца?).

Назоўнікавы фразеалагізм, утвораны ад суадноснага дзеяслоўнага *прышываць ярлыкі* (каму).

**Прышый кабыле хвост.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Зусім непатрэбна, не мае дачынення да чаго-н. — *Мы ведаем, што чужы. Табе ён толькі, відаць, не чужы... — Разам градусы цiснуць!.. Прымак — прышый кабыле хвост! — пачуліся ў агульным шуме галасы* (Я. Брыль. У Забалоцці днее).

Паводле паходжання гэта «абломак» выслоўя больш поўнай формы, якое цяпер ужываецца без другой, тлумачальнай часткі. У збор-ніках І.Насовіча, Е. Раманава, М. Федароўскага падаецца з сэнсаўтваральнай часткай: *Прышый кабыле хвост, а ў яе свой ёсць.*

**Псаванне крыві.** *Уласна бел.* Непрыемнасці, моцнае раздражненне. *Мыслі аб выездзе з Ташкента палохаюць... Будзе многа клопатаў і псавання крыві* (Я. Колас. Дзённікі).

Паходзіць з суадноснага дзеяслоўнага фразеалагізма *псаваць кроў* каму (гл.).

**Псаваць кроў** *каму; многа, нямала, колькі* і пад. папсаваць крыві *Калька з франц. м.* (se faire du mauvais sang). Рабіць непрыемнасці каму-н., моцна раздражняць каго-н. *Баламутны сын многа папсаваў крыві Паўлу і працягвае псаваць* (І.Навуменка. Якая доўгая вайна).

Узнікненне фразеалагізма грунтуецца на ўяўленні, што ў чалавека пры яго раздражненні псуецца кроў, бо ў яе паступае занадта многа жоўці.

**Птушынае малако.** *Калька з грэч. м.* (gala omithon, літаральна «малако птушынае»). Ужыв. са значэннямі ‘птушкамлечнік’, ‘нешта неверагоднае, казачнае, яўна немагчымае (часцей пра ежу)’ і ‘вельмі смачны торт, а таксама цукеркі асобнага гатунку’.

Гл. ілюстрацыі да гэтых значэнняў і гістарычна-этымалагічную даведку пра фразеалагізм на с. 13–15.

Пудзіла агароднае. *Уласна бел.* Непрыгожа адзеты ці пусты, варты смеху чалавек. — *Дурніца! Пудзіла агароднае! Што нарабіла?! — з кулакамі кінуўся Анатоль да Пігулеўскай, але тут жа ачомаўся, выскачыў за дзверы* (А. Кандрусевіч. Кругі на Белай паляне).

Утвораны праз супастаўленне чалавека з пудзілам, якое выстаўляецца ў агародзе для адпуджвання птушак.

**Пужаная варона.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* пуганая ворона, *укр.* лякана ворона). Залішне асцярожны чалавек, які з-за перажытых выпрабаванняў баіцца нават таго, што не пагражае яму небяспекай. — *Хто Васіля пабіў, га, Шылькевіч? — Нея… — Дарэмна білі. Васіль нічога не ведаў. Тут вам верхавод, хаця і папаў па галаве, моцна прамахнуўся. — Пужаная варона…* (У. Шыцік. Ускосныя доказы).

Паходзіць з прыказкі *Пужаная варона куста баіцца.*

**Пуп зямлі.** *Калька з грэч. м.* Самы важны, самы галоўны; лепшы за ўсіх. *Нічога — гэта не самае лепшае, безумоўна, аднак лепш, чым задзіраць нос і думаць, што ты пуп зямлі* (І.Шамякін. Крыніцы).

Мяркуюць, што ў грэч. м. выраз трапіў з талмуда. Паводле старажытнаяўрэйскіх рэлігійных уяўленняў, пуп, або цэнтр, зямлі ў Іерусаліме, у алтары храма; адсюль Бог, кінуўшы ў мора камень, пачаў стварэнне свету. Такое ўяўленне пра святое месца, пуп зямлі, знаходзім і ў некаторых старажытнарускіх літаратурных помніках («Хождение в Иерусалим игумена Даниила»).

**Пусканне пылу ў вочы.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Стварэнне падманлівага ўражання пра сябе з выхвальваннем і паказам чаго-н. *Падобныя наракання, апрача непатрэбнай мітусні і пускання пылу ў вочы, ніякай рэальнай карысці не маюць і ўвогуле з 'яўляюцца справай марнай і пустой* (Я. Лецка. Згода…).

Назоўнікавае ўтварэнне на базе суадноснага дзеяслоўнага фразеалагізма *пыл пускаць у вочы* (гл.), мае катэгарыяльнае значэнне прадметнасці і іншыя ўласцівасці назоўнікавых фразеалагізмаў.

**Пускаць (пусціць) пробны шар.** *Калька з франц. м.* (envoyer un ballon d’essai). Разведваць, высвятляць што-н., ужываючы якія-н. прыёмы, хітрыкі. — *Ну як?.. —Ды паступова разгортваецца клубок, — невядома з якой прычыны пусціў я пробны шар. — Але да канца ўсё яшчэ далёка* (У. Караткевіч. Чорны замак Альшанскі).

Утвораны ў выніку пераасэнсавання адпаведнага свабоднага словазлучэння, якое ўжываецца ў аэрастатыцы. Шар, напоўнены

газам, лягчэйшым за паветра, пускаюць для выпрабавання ўмоў палёту.

**Пускаць пыл у вочы** *каму. Гл.* пыл пускаць у вочы *каму.*

**Пустая малатарня.** *Уласна бел.* Чалавек, які займаецца не справай, а пустымі размовамі; балбатун, пустаслоў. *Гэта ж у нас з масавіком-забаўнікам як было?.. Пустая малатарня. Толькі і клёку, што язык па-за вушшу ходзіць* (А. Петрашкевіч. Трывога).

Узнік у выніку асацыяцыі па падабенстве з пустой малатаркяй, якая, калі яе барабан не запоўнены сцёбламі збажыны, пачынае прарэзліва гусці.

**Пусціць чырвонага пеўня** *<каму, куды, дзе>. Агульны для ўсходнесл. (руск.* пустить красного петуха, укр. пустити червоного півня) *і польск.* (puścić czerwonego koguta) *м.* Вобраз чырвонага пеўня лёг у аснову адпаведнага выразу ў чэшск. *(posadit cerveneho kohouta na strechu),* у ням. *(den roten Hahn aufs Dach setzen)* мовах. Выраз абазначае ‘зламысна падпаліць што-н.’ *У жнiўнi сорак другога мы зрабiлi нядоўгi рэйд за Дняпро. Мелi мэту — сарваць акупантам хлебанарыхтоўкi, пусцiць чырвонага пеўня на iх склады* (І.Шамякін. Снежныя зімы).

Узнікненне фразеалагізма звязваецца з тым, што ў славян сімвалам бога агню быў певень. Быў і звычай ахвяравання пеўня, каб залагодзіць, зрабіць літасцівым бога агню.

**Пуцёўка ў жыццё.** *Паўкалька з руск. м.* (путевка в жизнь). Ужыв. са значэннямі: 1) падтрымка на пачатку якой-н. дзейнасці, 2) веды, навыкі і пад. як магчымасць займацца працоўнай дзейнасцю, 3) права на прыгоднасць да выкарыстання. *Дапамагчы выпускнікам школы знайсці сваё месца ў жыцці заклiканы педагагічныя калектывы, органы народнай асветы…* (Настаўн. газ. 5.06.1976). *Плоткiнай я даў пуцёўку ў жыццё. Трэці разрад мае* (В. Мыслівец. Задняпроўцы). *Калі такое слова дасць новую фарбу, новае сэнсавае адценне, дык яму можна даць пуцёўку ў жыццё* (К. Крапіва. Аб некаторых пытаннях беларускай мовы).

Гэта фразеалагізаваны крылаты выраз, ідзе ад аднайменнай назвы першага савецкага гукавога фільма (1931, сцэнарый М. Эка і А. Столпера). У фільме паказваецца шлях былых беспрытульнікаў да працоўнай камуны, да карыснай дзейнасці. Усе значэнні гэтага полісемантычнага фразеалагізма так ці інакай звязаны з першапачатковым ‘паваротны момант у жыцці, які дае права на карысную дзейнасць’.

**Пуцяводная зорка.** *Фразеалагізм з такой жа вобразнасцю ёсць амаль ва ўсіх славянскіх мовах* (*парайн. у ням. м.: складаны назоўнік* Leitstern — пуцяводная зорка). Першае значэнне фразеалагізма — ‘тое, што накіроўвае чыё-н. жыццё, дзейнасць’. *Памяць роднай зямлі стала пуцяводнай зоркай у жыцці і Ягора*

*Захаравіча* (Полымя. 1983. № 3). У фразеалагізме развілося і другое значэнне — ‘чалавек, які вызначае чыё-н. жыццё, дзейнасць’: *У жыцці ты будзь мне зоркай пуцяводнай* (Я. Журба. Маё жаданне).

Склаўся на аснове евангельскай легенды. Паводле аднаго з хрысціянскіх міфаў, вешчуны, убачыўшы на небе зорку, якая была знакам таго, што нарадзіўся Ісус, пайшлі шукаць яго. «І зорка, якую бачылі яны на ўсходзе, ішла перад імі, нарэшце прыйшла і спынілася над месцам, дзе было дзіця».

**Пушку(-і) заліваць** *каму. Уласна бел.* Бессаромна лгаць, пускаць пагалоскі. *Згубы-ы захацелі... Нішчыце народ... А нам пушку заліваеце-э...* (Ц. Гартны. Сокі цаліны).

Утварыўся, відаць, у выніку кантамінацыі рускага выразу *лить пушку* і дзеяслова *заліваць* у значэнні ‘хлусіць, ілгаць’. Гісторыя выразу *ліць пушку* такая ж, як і ў фразеалагізма *заліваць кулі* (гл.). Іншая магчымая трактоўка: выраз, як мяркуе В. М. Макіенка, мог утварыцца шляхам нарашчэння слова *пушка* да дзеяслова *заліваць (ліць)* ‘ілгаць’ пры адначасовай рэалізацыі і значэння ‘рабіць што-н. з расплаўленага рэчыва’.

**Пыл пускаецца ў вочы** *каму. Уласна бел. (у слоўніках іншых моў не фіксуецца).* Робіцца падман каго-н. з мэтай стварыць пэўнае ўражанне. *Выбаршчыкі ўспомнілі і тое, як пускаўся пыл у вочы, як цягалі прадукты з крамы ў краму па шляху высокага начальства ў час наведвання горада і вобласці Лігачовым...* (С. Законнікаў. Выбары па-віцебску...).

Фразеалагізм, структурна арганізаваны як двухсастаўны сказ, склаўся на аснове суадноснага дзеяслоўнага *пыл пускаць у вочы* (гл.).

**Пыл пускаць у вочы.** *Агульны для бел. і руск.* (пыль пускать в глаза) *м.* Дурыць, марочыць каго-н., выхваляючыся сабой. *Усе яны трошкі хвалькі, пыл любяць пусціць у вочы і як бы загадзя надзелі на сябе маскі страшэнных зухаў, якім мора па калена* (І.Навуменка. Ноч у літоўскім гарадку).

Блізкія па вобразнасці фразеалагізмы ёсць у іншых мовах; напрыклад, у балг. — *хвърлям прах в очите* (кідаць пыл у вочы), у серб. — харв. — *бацати прашину у очи* (кідаць пыл у вочы), у польск. — *rzucać piaskiem w oczy),* у чэшск. — *sypat pisek do oci,* у ням. — *Sand in die Augen streuen* (сыпаць пясок у вочы). Магчыма, усе яны выходзяць з адной крыніцы — з латыні, дзе *pulverem ob oculos adspergete* — ‘пыл у вочы сыпаць’. Адносна ўзнікнення гэтага выразу ёсць шмат гіпотэз. Найбольш прымальная з іх, відаць, тая, якая вытлумачвае сувязь паміж сучасным значэннем фразеалагізма і першапачатковым. Яго паходжанне звязваецца з народным павер’ем пра ведзьмакоў і ведзьмаў, якія часам нібыта

з'яўляюцца ў віхрах і дурацъ, марочаць людзей, пускаючы, кідаючы ім у вочы пыл.

**Пыл (туман) у вочы.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* пыль в глаза, *укр.* пил в очі). Падман з мэтай стварыць няправільнае ўражанне. *А клятвы?.. А прызнанні?.. Няўжо гэта была гульня ў каханне?.. Усё гэта, мусіць, быў пыл у вочы?* (А. Ставер. Завіруха).

Назоўнікавае ўтварэнне на аснове дзеяслоўнага фразеалагізма *пускаць пыл (туман) у вочы* каму (гл.) 'выхваляючыся, падманваць каго-н., ствараць падманлівае ўражанне аб сабе'.

**Пытанне жыцця і смерці.** *Калька з франц. м.* (question de vie et de mort). Самае важнае, самае істотнае. *Пытанні жыцця і смерці.. паўставалі перад ім* [Кліменкам] *на ўвесь рост, засланялі ўсё астатняе* (У. Дамашэвіч. Порахам пахла зямля).

Выраз антытэзнай пабудовы.

**Пяро ўставіць (уваткнуць)** *каму. Уласна бел.* Пакараць каго-н., прагнаўшы адкуль-н. *Хацелі табе пяро ўставіць і дарэмна не ўставілі. Пашкадавалі, думалі — паправішся* (К. Крапіва. Канец дружбы).

Узнікненке выразу звязваецца з дзіцячым спосабам караць аваднёў утыканнем сцяблінкі ў брушка (параўн. у апавяданні В. Каваля «Сіняя восень»: «Над іх галовамі.. гулі авадні. Гарась злавіў аднаго на сваім носе і, утыркнуўшы саломінку ў яго брухастае цела, пусціў»). Слова *пяро* ў спалучэнні *ўставіць пяро авадню* мела незвычайны сэнс: гэта і 'сімвал палёту', і 'сродак запаволіць палёт'. Словазлучэнне фразеалагізавалася і стала ўжывацца ў дачыненні да людзей. Параўн. кантэкст, дзе сувязь фразеалагізма з прататыпам асабліва відавочная: «Не Маскву яму, а дулю! — Не збылося, як хацеў: мы пяро яму ўваткнулі, — ён ад нас і паляцеў» (К. Крапіва). Можна таксама звязваць паходжанне фразеалагізма з арго крымінальнікаў, дзе *пяро* — 'нож'. Параўн. у апавяданні Я. Таўшчэзнага «Аперацыя „Рэмбрант“»: «— Дзяшоўка! — зароў Віцька… — З-за цябе ледзь фартовага на пяро не пасадзіў!»

**Пярун яго (яе, іх) ведае.** *Агульны для бел. і польск.* (piorun go wie) *м.* Невядома. — *І што яны думаюць рабіць з намі? — Пярун іх ведае…* (І.Сіняўскі. На правым флангу).

Узнік па аналогіі з фразеалагізмам *бог яго ведае.* Першапачатковa *пярун* тут не 'аглушальны ўдар грому', а 'бог грому і маланкі ва ўсходніх славян'.

**Пярэдні край** *чаго. Агульны для ўсходнесл. м.* Найважнейшы, самы адказны ўчастак. *Падборка «Пярэдні край навукі» расказвае аб тых пераўтварэннях, якія адбываюццаў апошнія гады ў горадзе Обнінску…* (ЛіМ. 6.10.1972).

Выраз склаўся нядаўна — пасля Вялікай Айчыннай вайны. Гэта метафарычна пераасэнсаваны ваенны тэрмін *пярэдні край* — ‘першая лінія ў раёне баявых дзеянняў’ Параўн.: «З адцзяленнем разведчыкаў дзень назіраем за пярэднім краем немцаў, пазначаючы на карце агнявыя кулямётныя кропкі» (Ф. Шкірманкоў).

**Пясок сыплецца** *з каго. Відаць, калька з англ. м.* (the sands are running out). Хто-н. вельмі стары, слабы. *Бач ты, выскаляецца, а з самога ўжо пясок сыплецца* (М. Лынькоў. На чырвоных лядах).

Склаўся, магчыма, праз супастаўленне слабага здароўем чалавека са старым канём, з якога ў выніку захворвання скуры сыплюцца дробныя лусачкі-пясчынкі.

Пятая калона. *Калька з іспан. м,* (la quinta columna). Варожая агентура ўнутры краіны. *Баявыя атрады міліцыі рабілі ўсё, каб перашкодзіць гітлераўцам заслаць у горад пятую калону* (Полымя. 1978. № 11).

Гэты крылаты выраз узнік у 1939 г. у Іспаніі, дзе з 1936 г. ішла грамадзянская вайна паміж дэмакратыяй і фашызмам. Контррэвалюцыйныя сілы на чале з генералам Франка, карыстаючыся падтрымкай германскіх і італьянскіх фашыстаў, акружылі сталіцу рэспублікі Мадрыд. Напярэдадні яго падзення франкісцкі генерал Мола выступіў у друку з заявай: «Мы ідзём на Мадрыд чатырма калонамі, але самая небяспечная, пятая калона знаходзіцца ў самім Мадрыдзе»; генерал меў на ўвазе здраднікаў, фашыстаў, капітулянтаў у кіруючых колах Іспанскай рэспублікі, шпіёнаў і дыверсантаў, засланых у Мадрыд ці завербаваных там.

**Пяты (апошні) акт.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* пятый (последннй) акт, *укр.* п’ятий (останний) акт). З’ява, падзея і пад., якой завяршаецца што-н. *Сёння рызыкаваць цікава, ласуну — шляхетная справа. Пяты акт, апошняя з ’ява* (А. Хадановіч. Макабрычныя скокі).

Узнік у выніку пераасэнсавання свабоднага словазлучэння, якое шырока ўжываецца ў драматычных творах, асабліва ў трагедыях. У антычнай Грэцыі трагедыя абавязкова дзялілася на пяць актаў. Пяты акт быў апошні, ім завяршалася п’еса. Таму фразеалагізм ужываецца з варыянтнасцю першага кампанента: «Разумею: вы хочаце сваё апошняе слова сказаць у апошнім акце. Што ж, няхай будзе і так» (К. Крапіва).

**Пячы як бліны.** *Відаць, паўкалька з руск. м.* (печь как блины). Вельмі хутка і многа стварыць што-н. *Пячом калгасы як бліны і ліквідуем кулака, а тут працерліся штаны, і рад бы каплі малака* (К. Крапіва. Плач абывацеля).

Вобразнасць фразеалагізма засноўваецца на гіпербале праз супастаўленне пэўнага дзеяння з хуткасцю пячэння бліноў.

# Р

**Раб божы.** *Запазыч. з царк. — слав. м.* Ужыв. са значэннямі ‘мужчына як істота, падуладная Богу’ і ‘чалавек наогул’. *Памянём раба божага Піліпа… Каб яму на тым свеце лёгка было…* (Б. Сачанка. Вялікі Лес). *Трусіць бародкай казлінай, выпіўшы, раб божы — дзяк* (М. Смагаровіч. Пачастунак).

Узнік на аснове рэлігійнага ўяўлення аб поўнай залежнасці чалавека ад Бога.

**Рабіць з мухі слана.** *Гл.* з мухі зрабіць слана.

**Рабіць (зрабіць) вялікія вочы.** *Калька з ням. м.* (große Augen machen). Выражаць крайняе здзіўленне, недаўменне. *Каля чарговай вёскі выскачыў на бераг хлапчук, стаў як укапаны, зрабіў вялікія вочы, потым закрычаў, замахаў рукамі* (Г. Пашкоў. Палескія вандроўнікі).

Фразеалагізм жэставага паходжання: унутраны стан чалавека апісваецца праз яго знешні выгляд, выкліканы гэтым станам.

**Рабіць (зрабіць) добрую міну пры дрэннай гульні.** *Паўкалька з франц. м.* (faire bonne mine à mauvais jeu). Старацца схаваць за знешнім спакоем ці весялосцю сваё незадавальненне, непрыемнасці. *Гітлераўцы, як відаць было з нямецкіх газет, што траплялі ў нашы рукі, усё яшчэ рабілі добрую міну пры дрэннай гульні* (Я.Міско. Было яно калісьці).

Узнік у асяроддзі карцёжнікаў. Першапачаткова выразам характарызавалі паводзіны гульца, які, маючы на руках дрэнныя карты, стараўся быць вясёлым, каб не выдаць сябе.

**Рабіць (зрабіць) з белага чорнае (белае чорным).** *Калька з лац. м.* (candida de nigris vertere). Падаваць што-н. у іншым выглядзе, беспадстаўна перайначваць. *Чаго толькі не зложаць? З белага могуць зрабіць чорнае* (С. Баранавых. Межы).

Фразеалагізм успрымаецца як матываваны.

**Рабіць (зрабіць) з камара каня.** *Уласна бел.* Беспадстаўна перабольшваць што-н., надаваць чаму-н. нязначнаму вялікае значэнне. *Іхто цягнуў мяне за язык? А цяпер людзі з камара зрабілі каня, а бацькам перажывай за «вучанага», але неразумнага сына* (В. Шырко. О, sancta simplicitas).

Утвораны шляхам мадэліравання — на ўзор фразеалагізма *рабіць (зрабіць) з мухі слана* (гл.), прычым склаўся не пад пяром якога-небудзь аўтара, а непасрэдна ў жывой народнай мове. Яго занатаваў М. Федароўскі: *з камара зрабілі каня.*

**Рабіць (зрабіць) пагоду** *<у чым, дзе>. Недакладная калька з франц. м.* (faire la pluie et le beau temps, літаральна «рабіць дождж і добрую пагоду»). Мець рашаючае значэнне, выконваць самую істотную ролю ў чым-н. *Апранаючыся ісці дадому, Ігнатовіч падумаў: «Пагоду ў класе робяць хлопчыкі»* (Я. Ермаловіч. Зазімак).

Узнікненне фразеалагізма звязана з дзейнасцю астролагаў, якіх трымалі пры французскім каралеўскім двары, бо яны нібыта маглі не толькі прадказваць пагоду, але і ўплываць на яе.

**Радзімая пляма** *чаго. Недакладная калька з ням. м.* (Muttermal, літаральна «матчына пляма»). Недахоп, які з'яўляецца перажыткам чаго-н. *Абарчук бачыў ліслівасць, вераломства, пакору; жорсткасць. Ён называў гэтыя рысы радзімымі плямамі капіталізму* (Звязда. 19.12.1987).

Выраз з «Крытыкі Гоцкай праграмы» (1891) К. Маркса, які, гаворачы пра сацыялізм, сцвярджае, што ён «захоўвае яшчэ радзімыя плямы старога грамадства, з нетраў якога ён выйшаў».

**Рад не рад.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Насуперак жаданню, незалежна ад жадання, старання каго-н. *Івыходзіць — рад не рад — папраўляйся, Якаў, брат!* (К. Крапіва. Біблія).

Відаць, утвораны па аналогіі з ужо існуючым, сэнсава тоесным выразам *воляй-няволяй,* які з'яўляецца калькай з лац. м. *(volens nolens).*

**Радыё АБС.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Пагалоска, няпэўныя пачутыя звесткі. *Айтар звальвае з хворай галавы на здаровую. Часам крыніца сцвярджэнняў для яго — радыё АБС (адна баба сказала)* (Каша слова. 27.10.2000).

Выраз каламбурнага паходжання, заснаваны «на ўнутраным кантрасце, этымалагічнай неадпаведнасці» (В.У.Вінаградаў). Узнік па аналогіі, напрыклад, з такім спалучэннем, як *радыё Бі-Бі-Сі.*

**Разарвацца на часткі.** *Гл.* разрывацца (рвацца, разарвацца) на часткі (на кавалкі).

**Разбіраць па костачках** *каго. Гл.* перабіраць (перабраць; разбіраць, разабраць) па костачках *каго.*

**Разбітае карыта.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Няспраўджаныя надзеі ў сувязі са стратай ранейшага набытку. *[Кусонскі:] Урад дайно трэба было б сфарміраваць толькі з ваенных. Каб так зрабілі ў свой час — мы сёння не бедавалі б над разбітым карытам* (К. Губарэвіч. Галоўная стаўка).

Назоўнікавы фразеалагізм, вытворны ад прыслоўнага выразу *ля разбітага карыта* (гл.) 'без нічога, страціўшы ўвесь ранейшы набытак (заставацца, апынуцца, сядзець)', які з'яўляецца паўкалькай з рус. м. *(у разбитого корыта)* і сваім паходжаннем звязаны з «Казкай пра рыбака і рыбку» А. С. Пушкіна.

**Разбіць лёд** *<чаго, паміж кім>. Агульны для ўсходнесл. і польск.* (skruszyć 1ody) *м.* Ліквідаваць нацягнутасць у адносінах паміж кім-н. *Таццяна не стрымала ўсмешку, і гэта разбіла лёд сур'ёзнасці. Жэнька пад'ехаў да яе і працягнуў руку* (І.Шамякін. Глыбокая плынь).

Дзеяслоўны выраз, утвораны на аснове суадноснага з ім фразеалагізма, структурна арганізаванага як двухсастаўны сказ і скалькаванага з франц. м. — *лёд разбіты* (гл.).

**Разбойнікі пяра.** *Запазыч. з руск. м.* Прадажныя, беспрынцыповыя рэакцыйныя пісакі. *Адвакат па сваёй адукацыі, містэр Ніксан не пнуўся павучаць разбойнікаў пяра, як высмоктваць з пальца сенсацыю ў кожны нумар газеты* (Вожык. 1986. № 13).

Выраз належыць рэакцыйнаму пісьменніку Б. М. Маркевічу, які ўжыў яго ў 70-х гг. XIX ст. у «Московских ведомостях» у адрас некаторых прагрэсіўных журналістаў. Пасля прадстаўнікі перадавога друку пераадрасавалі гэты выраз журналістам рэакцыйнай прэсы.

**Разведка боем.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Спроба высветліць што-н. у выніку непасрэднага дзеяння. *Раманіст вядзе настойлівую, глыбокую, вельмі працаёмкую «разведку боем», імкнецца паказаць новае ў побыце, адносінах, чалавечых лёсах* (У. Гніламёдаў. Шырокі фронт пошукаў).

Узнік у выніку пераасэнсавання тэрміналагічнага словазлучэння, якім у маўленні ваенных называюць здабыванне звестак аб праціўніку шляхам вядзення бою.

**Разводзіць (развесці) антымоніі.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Весці пустыя, непатрэбныя размовы. *Пішы. Чаго там разводзіць антымоніі!* (І.Шамякін. Трывожнае шчасце).

Сярод розкых здагадак пра паходжанне гэтага фразеалагізма найбольш прымальнай варта лічыць наступную. Яго ўзнікненне, відаць, звязана з лац. назвай сурмы — *antimonium,* разводзячы якую людзі вялі пустыя размовы.

**Разводзіць (развесці) рукамі.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Прыходзіць у крайняе здзіўленне, недаўменне; не ведаць, як выйсці з цяжкага становішча. *Быў склікаsuccessful кансіліум з лепшых спецыялістаў-медыкаў горада. Аднак і тыя, агледзеўшы хворую, толькі рукамі развялі. Надзеі на ўратаванне хворай не было* (М. Машара. Лукішкі).

Фразеалагізм жэстовага паходжання: унутраны стан чалавека апісваецца праз пэўны жэст — знешні выразнік гэтага стану.

**Раз-два і ў дамках(-і).** *Агульны для ўсходнесл. м.* Вельмі хутка можа быць зроблена. *Рацыяналізм рацыяналізму розніца.*

*Мой рацыяналізм — у выбары жаданняў вобразаў, а там ужо — раз-два і ў дамках* (У. Рубанаў. Каштаны).

Вытох фразеалагізма — шашачная гульня, дзе дамка мае права перасоўвацца на любую колькасць клетак уперад або назад.

**Раз <і> назаўсёды.** *Калька з франц. м.* (une fois pour toujours). Ужыв. са значэннем ‘канчаткова, беспаваротна’, калі гаворыцца пра штосьці нязменнае, і як выказванне рашучага і катэгарычнага папярэджання. *І лейтэнант, адчуўшы, што тут можа нешта раз і назаўсёды рашыцца, дадаў: — Артылерыйская армейская база за шэсцьдзесят кіламетраў одсюль* (В. Быкаў. Дажыць да світання). *Гэтыя... ідэйкі пакіньце раз назаўсёды!* (Э. Самуйлёнак. Будучыня).

Выраз усведамляецца як матываваны, з сэнсаўтваральным кампанентам *назаўсёды.*

**Размахваць (махаць, памахаць) пасля бойкі кулакамі.** *Уласна бел.* Абурацца, апраўдвацца пасля якога-н. здарэння, калі ўжо бескарысна і позна рабіць штосьці. *Ён* [Шугачоў] *быў з тых людзей, якія не размахваюць пасля бойкі кулакамі. Навошта?* (І.Шамякін. Атланты і карыятыды). *Прыняўшы рашэнне, лейтэнант супакоіўся, павесялеў уявіўшы, як падпалкоўнік, даведаўшыся пра яго ўчынак, скажа: «Любіш ты пасля бойкі кулакамі памахаць»* (У. Шыцік. Неспадзяваны ход).

Выток фразеалагізма — прыказка *Пасля бойкі кулакамі не размахваюць.* З адмоўнай канструкцыі (у форме абагульнена-асабовага сказа) утварылася сцвярджальнае дзеяслоўнае словазлучэнне незамкнёнай структуры.

**Разрывацца (рвацца, разарвацца) на часткі (на кавалкі).** *Агульны для ўсходнесл. м.* Старацца адразу выконваць мноства розных спраў, даручэнняў і пад. *Мікульскі схуднеў страшэнна. Ён разрываўся на часткі — дзе на ўсё браць час?* (П.Місько. Мора Герадота).

У аснове фразеалагізма — нерэальны, гіпербалізаваны вобраз.

**Разрываць на кавалкі** *каго. Гл.* рваць (разрываць) на кавалкі *каго.*

**Ранняя птушка.** *Агульны для ўсходнесл. (руск.* ранняя пташка, *укр.* рання пташка) *іпольск.* (ranny ptaszek) *м.* Дбайны чалавек, які рана ўстае, раней за іншых прыходзіць куды-н. — *От жа ранняя птушка... — паківала галавою маці. — Спаць ды спаць бы яшчэ, а ён успорваецца ні свет ні зара...* (С. Александровіч. Ад роднае зямлі).

Выток фразеалагізма — прыказка *Ранняя птушка зубкі цярэбіць, а позняя вочкі працірае,* ад якой адарваўся трапны вобраз.

**Раса вочы выядае** *каму. Уласна бел.* Хто-н. нешчаслівы, жыве ў горы, нядолі. *У вершах Каратынскага і не было нічога падданніцкага — толькі скарга на неўрадлівы пясочак, цёмную святліцу, на тое, што раса выядае вочы* (А. Мальдзіс. Восень пасярод вясны).

Паходзіць з прыказкі *Пакуль сонца ўзыдзе, раса вочы выесць.*

**Раскрыць (адкрыць) карты.** *Пайкалька з ням. м.* (Karten aufdecken). Дзейнічаць адкрыта, не хаваючы сваіх намераў. *[Каліноўскі:] Казаць, Марыська? [Марыська: ] Так, Каліноўскі, Раскрыем карты. Мы гэты тост, які не жартаў варты, адтэрміноўваем на два гады* (А. Куляшоў. Хамуціус).

Выраз паходзіць з мовы карцёжнікаў: пры пэўнай сітуацыі адзін з ігракоў раскрываў свае карты і працягваў гульню, не тоячыся ад праціўнікаў.

**Распраўляць (расправіць) крылы.** *Агульны для ўсходнесл. і польск.* (rozwinąć skrzydła) *м.* Пачынаць дзейнічаць на поўную сілу сваіх здольнасцей, магчымасцей. *Усе верылі, што сяржант выжыве і расправіць крылы, па бабуліному наказу, і яшчэ паваюе з ворагам…* (К.Кірэенка. З аповесці вайны).

Узнік у выніку пераасэнсавання свабоднага словазлучэння, якое ўжываецца ў дачыненні да птушак. Перад палётам птушка распраўляе крылы.

**Растапіць лёд** *<чаго, паміж кім>. Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* растопить *лед, укр.* розтопити лід). Ліквідаваць нацягнутасць у адносінах паміж кім-н. — *Вы служылі ў дзвесце дваццаць дзевятым артылерыйскім?* — *пытанне такога ладу, калі я не памыліўся ў чалавеку, павінна было растапіць лёд адчужэння. Па нумары часці ветэран пазнае ветэрана* (Б. Стральцоў. Падземныя пераходы).

Узнік, відаць, шляхам мадэліравання — на ўзор семантычна тоеснага фразеалагізма *разбіць лёд* (гл.).

**Расхлёбваць кашу.** *Агульны для бел. і руск. м.* Разблытваць складаную, непрыемную справу, выкручвацца з чаго-н. *Твае справы, брат, дрэнныя… Аднаму табе давядзецца расхлёбваць кашу за ўсіх* (У. Караткевіч. Каласы пад сярпом тваім).

Паходзіць з прыказкі *Сам заварыў кашу; сам і расхлёбвай,* сэнс якой ‘сам распачаў штосьці складанае, клопатнае, непрыемнае, сам і разблытвай, выкручвайся’.

**Рвацца на часткі.** *Гл.* разрывацца (рвацца, разарвацца) на часткі (на кавалкі).

**Рваць на сабе валасы.** *Недакладная калька з ням.* (sich die Haare ausraufen, літаральна «рваць сабе валасы») *ці франц.* (s’arracher les cheveux, літаральна «рваць сабе валасы») *м,* Прыходзіць у адчай, вельмі моцна перажываць, гараваць. *Як указ*

*той прачыталі, валасы на сабе рвалі ўсе палатныя чыны* (В. Дунін-Марцінкевіч. Халімон на каранацыі).

Фразеалагізм жэставага паходжання: унутраны стан чалавека апісваецца праз пэўны жэст — знешні выразнік гэтага стану.

**Рваць (разрываць) на кавалкі** *каго. Агульны для ўсходнесл. м.* (*руск.* рвать на части, *укр.* рвати на шматки). Бесперапынна турбаваць просьбамі, даручэннямі і пад. *З усіх бакоў яго* [Крушынскага] *рвуць на кавалкі. — Таварыш Крушынскі! — Дзядзька Язэп! — Суседзе!* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі).

У аснове фразеалагізма — нерэальны вобраз, заснаваны на гіпербале.

**Рожкі ды ножкі.** *Запазыч. з руск. м.* Сваё значэнне ‘нічога ці амаль нічога’ фразеалагізм рэалізуе пры дзеясловах *пакідаць, заставацца: Хай як хоча, так і выкручваецца Эдзік. Усё роўна рожкі ды ножкі астануцца ад сцэнарыя…* (П.Місько. Ціхае лета).

Узнік у выніку метафарызацыі спалучэння слоў з песні невядомага аўтара «Жыў-быў у бабулі шэранькі козлік» (каля 1850 г.). Павяла бабуля козліка ў лес пагуляць, напалі на яго ваўкі і з’елі. «Пакінулі бабулі рожкі ды ножкі, вось як, вось як, рожкі ды ножкі».

**Розная рознасць.** *Паўкалька з руск. м.* (разная разность). Самыя разнастайныя рэчы, прадметы. *Апісаць не хопіць слоў, што за Сару той Абрам рознай рознасці набраў* (К. Крапіва. Біблія).

Відаць, склаўся пад уплывам і на ўзор фразеалагізма *ўсякая ўсячына* (гл.).

**Рубікон перайсці.** *Паўкалька з лац. м.* (Rubiconem transeo). Зрабіць сур’ёзны крок, рашучы ўчынак, які вызначае далейшыя падзеі. *Вельмі вялікая трансфармацыя адбылася ў ягонай душы… Ён перайшоў рубікон* (Л. Дайнека. Футбол на замініраваным полі).

Выраз — пераасэнсаванае словазлучэнне. Рубікон, рака ў паўночнай Італіі, была да 49 г. да н. э. граніцай паміж Рымам (Італіяй) і яго паўночнай правінцыяй Галіяй. Кіраваў гэтай правінцыяй Юлій Цэзар. Ён ноччу перайшоў са сваімі легіёнамі Рубікон, што прывяло да грамадзянскай вайны, якая закончылася перамогай над арміямі сената і ўстанаўленнем у Рыме імперыі на чале з Цэзарам — фактычным пажыццёвым дыктатарам.

**Рубікон пяройдзены.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Адказны, рашучы крок зроблены, прынята беспаваротнае рашэнне. — *Гэта больш надзейна, — сказаў Зімін, — а то яшчэ перадумаеш* [звальняцца]. *І так, рубікон пяройдзены, назад ходу няма* (В. Хомчанка. Стрэл у акно).

Структурна арганізаваны як двухсастаўны сказ, фразеалагізм утварыўся на базе суадноснага дзеяслоўнага *перайсці*

*рубікон* (гл.), які абазначае ‘прыняць беспаваротнае рашэнне, зрабіць адказны, рашучы крок’.

**Ружовы туман.** *Уласна бел.* Стан ілюзорнага, таталітарна-савецкага ўспрымання рэчаіснасці. *Магчыма, Быкаў стаў тым пісьменнікам, які першы выйшаў з ружовага туману* (С. Дубянец. «Ружовы туман»). *Гісторыя літаратуры 20–50 і пазнейшых гадоў яшчэ чакае ўдумлівага асэнсавання. У ёй быў не толькі ружовы туман, узведзеная ў закон фальсіфікацыя* (У. Казбярук. «Песні з турмы» на нашым полі).

Паходзіць з назвы апавядання (1995) В. Быкава. Гэта знешне алагічнае словазлучэнне ўжыта з пераасэнсаваным значэннем ужо і ў загалоўку самога апавядання пра чалавека з саўковымі звычкамі, і двойчы ў тэксце апавядання, у тым ліку ў заключным сказе пра дзевяностагадовага Барсука, які, «можа, хай жыве ў сваім ружовым тумане, дажывае век і носіць вазончыкі да падножжа помніка». Нядаўна ўзнікшы, выраз набыў «крылатасць», што можна было б пацвердзіць яшчэ шасцю прыкладамі яго выкарыстання ў друку («Полымя», «Маладосць», «ЛіМ»).

**Ружовыя акуляры.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* розовые очки, *укр.* рожеві окуляри). Ідэалізаванае бачанне, успрыманне чаго-н. *Ведаў* [Пятро], *што гэта талстоўская філасофія: не працівўся злу — будзе добра. Часта смяяўся сам са сваіх ружовых акуляраў, бо жыццё штодня разбівала іх і прымушала весці змаганне супраць зла* (І.Шамякін. Трывожнае шчасце).

Назоўнікавы фразеалагізм, утвораны як фрагмент, што адарваўся ад суадноснага з ім дзеяслоўнага выразу *глядзець праз ружовыя акуляры* на каго, на што (гл.).

**Рука набіта(-я)** *у каго, чыя на чым, у чым. Агульны для ўсходнесл. м.* Хто-н. мае вялікі вопыт, добры навык, спрактыкаванасць у чым-н. *Рука ў вас набітая. Ці не пішаце еы самі што-небудзь — вершы або апавяданні? Прызнайцеся…* (С. Александровіч. На шырокі прастор).

Структурна арганізаваны як двухсастаўны сказ, фразеалагізм утварыўся на аснове суадноснага дзеяслоўнага *набіваць (набіць) руку* на чым, у чым ‘выпрацоўваючы навык, рабіцца спрактыкаваным у чым-н.’.

**Рукі звязаны** *ў каго. Агульны для ўсходнесл. м.* Хто-н. пазбаўлены свабоды дзеянняў, магчымасці рабіць так, як хочацца. — *Хто хацеў — той паздаваў! — А як жа, паздаваў… у каго скрынкі былі ды рукі нічым не звязаны* (А. Кудравец. Такі дзень).

Вытворны ад суадноснага дзеяслоўнага фразеалагізма *звязваць (звязаць) рукі* каму, які абазначае ‘пазбаўляць магчымасці свабодна дзейнічаць’.

**Рукі прэч** *ад каго, ад чаго. Калька з англ. м.* (hands off). Ужыв. як патрабаванне не ўмешвацца ў чые-н. справы. *Не вы дасце народам свята, не вам пажар вайны заліць! Дык рукі прэч, забойцы, каты! Не вам аб згодзе гаварыць!* (Я. Колас. Ворагам).

Крылаты выраз, належыць англійскаму палітычнаму дзеячу, лідэру ліберальнай партыі Уільяму Гладстану. У 1878 г., калі Аўстрыя захапіла частку сербскіх зямель, Гладстан выступіў у парламенце супраць захопніцкай палітыкі і закончыў прамову словамі: «Рукі прэч ад Босніі і Герцагавіны!»

**Рукі развязаны** *ў каго, чые. Агульны для ўсходнесл. м.* Хто-н. мае поўную свабоду дзеянняў. *Нарэшце яе рукі развязаны! Яна* [Волька] *верыла, што яе пакутам прыйшоў канец* (М. Ваданосаў. Надзеі і спадзяванні).

Структурна арганізаваны як двухсастаўны сказ, фразеалагізм утварыўся на аснове суадноснага дзеяслоўнага *развязваць (развязаць) рукі* каму ‘даваць поўную свабоду дзеянняў, вызваляць ад залежнасці, абмежавакня ў чым-н.’.

**Рукой падаць** *да чаго. Агульны для бел. і руск. м.* Зусім блізка, не вельмі далёка. *Вучні загарэліся: з'ездзіць паглядзець! Нейкія сорак кіламетраў—гэта ж рукой падаць!* (І.Шамякін. Ах, Міхаліна, Міхаліна).

Зыходнай формай выразу варта лічыць канструкцыю з параўнальным злучнікам *як: як рукой падаць* (да чаго). Зрэдку выраз і сёння ўжываецца ў поўнай, нескарочанай форме: «Ад Рыгі як рукой падаць узмор’е» (Ц. Гартны); «За гэтым мастком сама Галынаўка як рукой падаць» (А. Якімовіч); «Як рукой падаць мая радзіма, — лес, лугі, вада» (М. Пракаповіч); «Як падаць рукою цяпер да вечнасці яму» (А. Каско); «Вунь ужо і родная Турбінка — як рукой падаць...» (А. Бароўскі). Ва ўкр. м. аналагам гэтага фразеалагізма выступае *дістати рукою.* І яго зыходная форма — параўнальны зварот, які сустракаецца і ў бел. м.: «Як рукой дастаць тапырылі голле алешыны» (В. Быкаў), «Да іх — як рукою дастаць» (Ф. Янкоўскі). Параўн. у М. Федароўскага (с. 31): «Блізка, хоць рукою дастаць». У фразеалагізме *як рукой падаць,* як і ў некаторых іншых, узніклых з параўнальнага звароту, злучнік *як* адпаў, рэдукаваўся, бо зварот пачаў займаць слабую, непрыдзеяслоўную пазіцыю.

**Рукой пайсці.** *Уласна бел.* Добра весціся, гадавацца (пра жывёлу, птушку, пчол). *Не купляй ад аканома скацінкі,—рукой не пойдзе, на крадзеным, баш, аўсе ўскормлена* (В. Дунін-Марцінкевіч. Залёты).

Паходзіць з даўняга павер’я пра добрую, «лёгкую» руку: купленае з такой рукі будзе добра пладзіцца, весціся. А. Я. Багдановіч у этнаграфічным нарысе «Перажыткі старажытнага светасузірання ў

беларусаў» (1895) піша: «Калі прадаеш каня ці карову, наогул што-небудзь жывое, і жадаеш, каб „пайшло рукой“, то не трэба перадаваць іх новаму гаспадару голымі рукамі: не будзе пладзіцца. У такім разе „б’юць па руках“ і перадаюць купленае „касматай рукой“, г. зн. захінуўшы руку крысом адзення». Параўн. прыказку, у якой ускосна выказаны негатыўныя адносіны да названага павер’я: *Кармі парсюка мукою — пойдзе рукою.*

**Рыльца ў пушку** *ў каго. Запазыч. з руск. м.* Хтосьці мае дачыненне да чаго-н. нядобрага, заганнага. *Думалася, што ў мясістага дырэктара рыльца ў пушку, дык ён і паддобрываецца, як можа* (Р. Сабаленка. Дырэктарава бакоўка).

Аўтар крылатага выразу — І.А. Крылоў. У яго байцы «Лісіца і Сурок» выраз выкарыстаны двойчы. Першы раз — з прамым значэннем слоў. Лісіца была «суддзёй над курамі», яе асудзілі за хабар на высылку, і яна скардзіцца Сурку (пераклад К. Крапівы):

«Мне хабар браць?
Ці ж я, кумок, рашуся?
Ці ж ты б сказаў, я на цябе спашлюся,
Што вінавата я у гэтым хоць крыху?
І ў галаву табе не прыйдзе гэта думка!» —
«Ох, часцяком я бачыў, кумка,
Што рыльца у цябе ў пуху».

У маралі байкі аўтар зноў вяртаецца да гэтага выразу, ужываючы яго пераносна ў дачыненні да тых, хто «паціху ды патрошку то дом збудуе, то купіць сабе вёску».

Хаця ў судзе і не дакажаш,
Ды як жа не сагрэшыш і не скажаш,
Што рыльца у яго ў пушку.

**Рыхтык у рыхтык** *падобны. Уласна бел.* Вельмі моцна, абсалютна. *Адразу ж ззаяе плячэй выйшлі два сыны, абодва трактарысты і падобныя, як кажуць, рыхтык у рыхтык адзін да аднаго* (В. Казько. Бунт незапатрабаванага праху).

Выраз пэўным чынам сэнсава таўталагічны з прыметнікам *падобны*, бо, як пазначана ў ТСБМ (т. 4, с. 741), *рыхтык* у сваім 2-м значэнні — гэта «выліты, падобны на каго-н.’». Магчыма, склаўся пад уплывам і на ўзор сінанімічнага з ім фразеалагізма *кропкаў кропку (кропля ў кроплю).*

**Рыцар без страху і дакору.** *Калька з франц. м.* (le chevalier sans peur et sans reproche). Смелы, велікадушны чалавек. *Дастойны, скажу вам, быў служка… Такімі людзьмі род багацее… Але… прапаў, як рыцар без страху і дакору* (В. Быкаў. Кар’ер).

Спачатку ў Францыі гэтым выразам называлі канкрэтных гістарычных асоб: мужнага рыцара П’ера дзю Тэрайля Баярда(1476–1524) і яго сучасніка, выдатнага палкаводца Луі

Трэмуйля (1460–1525). Пра першага з іх расказваецца ў кнізе «Найпрыемная, забаўная гісторыя, напісаная сумленным слугой пра падзеі і ўчынкі, поспехі і подзвігі добрага рыцара без страху і дакору, славутага сеньёра Баярда...» (1527). Пасля выраз фразеалагізаваўся і стаў выкарыстоўвацца для характарыстыкі любога чалавека высокіх маральных якасцей.

**Рыцар журботнага вобраза.** *Калька з іспан. м.* (ei Caballero de la Triste Figura). Наіўны, бясплённы летуценнік. — *Чытаеце думкі на адлегласці? — засмяялася дзяўчына. — Тады прачытайце!.. — Тады... вам... адзін рыцар журботнага вобраза прапанаваў руку і сэрца... — Не-е...* (В. Блакіт. Вяселле ў Беражках).

Выраз з рамана Сервантэса «Дон Кіхот» (1615). Так аднойчы называе пабітага, пацярпелага, упрыгожанага сінякамі Дон Кіхота яго збраяносец Санча Панса.

**Рыцар на час.** *Запазыч. з руск. м.* Слабавольны чалавек, няздольны да працяглай барацьбы дзеля высакародных мэт. *Я пачаў патрабаваць сабе тое, што, па сутнасці, мне не належала. Вось і атрымаўся з мяне рыцар на час, герой міжволі, які вельмі хутка пацярпеў крах* (А. Кобец-Філімонава. Агні за перавалам).

Выраз з аднайменнага верша (1863) М. А. Някрасава. Утвораны па аналогіі з ужо існуючым фразеалагізмам *каліф на час* (гл.).

**Рыцар ночы.** *Уласна бел.* Злосны вораг прагрэсу; цемрашал. *На нас узнімаюцца рыцары ночы, іх сочаць у цьме нашы зоркія вочы* (К. Крапіва. Ворану вышай арла не лятаць).

Выраз з абразка З. Бядулі «Прытуліся ка мне» (1913), ужыты ў такім кантэксце: «А мо і праўда, што ў розных там замчышчах крыштальных ваююць паміж сабой рыцары дня з рыцарамі ночы?» З экспрэсіўна-стылістычнага боку гэта кніжны выраз і выкарыстоўваецца ў творах на грамадска-палітычныя тэмы: «Апошнія здзірае з плеч старых кашулі распасвены, вясёлы рыцар цёмнай ночы» (Я. Купала); «Рыцары ночы са скуры вылузваліся, каб нацягнуць на сябе скуру авечак» (І.Сіманоўскі).

**Рэжа (рэзала) вочы** *<каму, чые, чым>. Агульны для ўсходнесл. м.* Рэзка выдзяляцца, выклікаючы да сябе адмоўныя адносіны. *У паветры стаяла барва і рэзала вочы святло* (М. Лобан. На парозе будучыні).

У фразеалагізме праз кампанент *рэжа* перадаецца не толькі зрокавае адчуванне, але і як бы пачуццё непасрэднага дакранання да вачэй.

**Рэжа (рэзала) вушы.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Непрыемна раздражняе слых. *Уразіла слова «з'ёмныя», уразіла ненатуральнасцю. Вушы рэжа яно, бо штучнае, робленае* (В. Рабкевіч. Шукаю слова).

У фразеалагізме праз дзеяслоўны кампанент перадаецца не толькі слыхавое адчуванне, але і як бы пачуццё непасрэднага дакранання да вушэй.

**Рэч у сабе.** *Калька з ням. м.* (das Dingansich). Хтосьці загадкавы ці штосьці загадкавае, сапраўдная сутнасць каго- ці чаго-н. не раскрытая, не зразумелая. *Дзякуй табе, тата, што ты быў тады поруч са мною. Каб ты ведаў, як я шкадую, што не паспеў дасягнуць таго веку, калі мая і твая душы маглі б ператварыцца ў злучаныя між сабою ёмістасці: ты так і застаўся для мяне рэччу ў сабе* (У. Арлоў. Мой радавод да пятага калена…).

Пераасэнсаваны філасофскі тэрмін І.Канта — з яго «Крытыкі чыстага розуму» (1781). Паводле Канта, рэчы, якія існуюць незалежна ад свядомасці, прынцыпова непазнавальныя і ў гэтым сэнсе з'яўляюцца «рэчамі ў сабе».

**Рэшатам (у рэшаце) ваду насіць.** *Гл.* насіць ваду рэшатам (у рэшаце).

# С

**Сабакам сена касіць.** *Уласна бел.* Ужыв. са значэннямі: 1) бадзяцца дзе-н., займаючыся пустой справай, 2) знаходзіцца невядома дзе, хаваючыся ад сям'і. *Недзе па загальскіх хутарах з такою ж хеўраю, як і сам, сабакам сена косіць* (С. Грахоўскі. Рудабельская рэспубліка). *Пра мужа пытаўся, махнула: — Ат, сена сабакам косіць…* (Р. Барадулін. Дом на сопцы).

Узнік не са свабоднага словазлучэння (такога не магло быць: сабакам сена не косяць, яны і не ядуць яго). Ён утвораны па мадэлі свабоднага словазлучэння тыпу *каровам сена касіць,* у якім лагічнае *каровам* заменена нелагічным. Атрымаўся дасціпны выраз каламбурнага характару. Параўн.: *кот наплакаў, без нажа зарэзаць, без году тыдзень.*

**Сабака на сене.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Чалавек, які сам не карыстаецца і іншым не дае карыстацца чымсьці. *—Дазволь ноччу на чыгунцы супроць твайго хутара перапыніць патрулёў са страшаўскай вахі… — Не, Валя. Шукай сабе іншае месца!.. — Сабаакі на сене!* (А. Карпюк. Пушчанская адысея).

Крыніца фразеалагізма — прыказка *Сабака на сене ляжыць, сам не есць і другім не дае,* тлумачальная частка якой адпала. Або: *Як сабака на сене: і сам не гам, і другому не дам.*

**Сабак вешаць** *на каго, каму. Агульны для ўсходнесл. і польск.* (psy wieszać) *м.* Нагаворваць на каго-н., абвінавачваючы ў чым-н. — *У вашай палатцы яшчэ чатырох пасяляем. Глядзі, каб без гэтага… — Зноў за старое? Што на мяне ўсіх сабак вешаюць?.. Каваль ды Каваль!* (А. Савіцкі. Кедры глядзяць на мора).

Паходзіць са свабоднага словазлучэння, у якім слова *сабака* мае значэнне 'лопух, галоўка лопуху, дзед' Параўн. у слоўніку

І.І.Насовіча: «Сабачка — галоўка лопуху. Твая світка ўся ў сабачках». Вешалі сабак на таго, хто заслугоўваў насмешкі ці быў вінаваты ў чым-небудзь.

**Сабаку з'еў** *на чым, у чым. Агульны для ўсходнесл. м.* Мае вялікі вопыт, навык у чымсьці. *Нашто вам браць якога-небудзь смаркача, калі ёсць вопытны работнік, які на гэтай справе сабаку з'еў* (К. Крапіва. Брама неўміручасці).

Ёсць некалькі спроб разгадаць этымалогію гэтага выразу. Найбольш верагодная з іх тая, якая ставіць фразеалагізм у сэнсавую і генетычную сувязь з прыказкай *Сабаку з'еў, а хвастом удавіўся* (падаецца ў слоўніку УДаля). Яна ўжывалася ў XIX ст., калі гаворка ішла пра вопытнага майстра, які выканаў штосьці вельмі

цяжкае, а на дробязі спатыкнуўся. Другая палавіна прыказкі адпала, а першая стала фразеалагізмам, захавала за сабой частку агулькага значэння прыказкі і застыласць дзеяслоўнага кампанента, яго здольнасць ужывацца, як і ў прыказцы, толькі ў формах прошлага часу *(з’еў, з'ела, з’елі).*

**Сабачая радасць.** *Агульны для ўсходнесл. м.(руск.* собачья радость, *укр.* собача радість). Самая танная каўбаса, звычайна ліверная. *Калі на паліцах будуць толькі кілбаскі «сабачая радасць», усе пойдзем з працягнутай рукой* (В. Адамчык. Падарожжа на Буцафале).

Этымалагічна выраз грунтуецца на ўяўленні, што каўбаса самай нізкай якасці з’яўляецца радасцю толькі для сабакі.

**Сабе наўме.** *Калька з лац. м.* (sibi in mente). Вельмі скрытны, хітры (пра чалавека). — *Старыя розныя бываюць, — ціщэй загаварыла маці.—Адзін за ласку гатовы ўсё аддаць, а іншы сабе наўме* (Э. Ярашэвіч. Гэта было нядаўна).

**Садзіцца не ў свае сані.** *Гл.* не ў свае сані садзіцца (сесці).

**Садзіцца (сесці) на мель.** *Агульны для ўсходнесл. (руск.* садиться на мель, *укр.* сідати на мілину) *іпольск.* (osiąść na mieliznie) *м.* Трапляць у вельмі цяжкае становішча. *Мы абодва выдатна ведалі, што гэтым рашэннем калгас садзіцца на мель* (В. Шырко. Імем барыкад мяцежных).

Утвораны на аснове суадноснага фразеалагізма *садзіць (пасадзіць) на мель* каго (гл.).

**Садзіцца (сесці) на свайго <любімага> канька.** *Запазыч. з руск. м.* Пачынаць размову на ўпадабаную, улюбёную тэму. *Сіняк, як заўсёды, сеў на свайго любімага канька. Ён лічыць, што яго абышоў лёс, што толькі ў горадзе маглі б поўнасцю раскрыцца ўсе яго шматлікія таленты* (Л. Дайнека. Футбол на замініраваным полі).

У рус. м. выраз склаўся на аснове калькі з франц. м. *c’est son dada* (літаральна «ёсць яго канёк») ці з англ. *it is his hobby horse* (літаральна «гэта ёсць яго любімы канёк, хобі»). Узнікненне фразеалагізма *садзіцца на свайго любімага канька* адбылося ў выніку разгортвання метафарычнага кантэксту нарашчэннем дзеяслоўнага кампанента *садзіцца* (на каго). Назоўнікавы ж кампанент *канёк* атрымлівае тут як бы падвойнае значэнне: і прамое, памяншальнае да *конь у* зыходным значэнні, і фігуральнае — «захапленне, хобі».

**Садзіцца (сесці) на хлеб *і* ваду.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Абмяжоўзаць сябе ў самым неабходным, харчавацца толькі простай ежай. *Аўтар зноў і зноў ладзіў прэзентацыі кніжкі… І стаміўся ад гэтых высілкаў… І тады вырашыў сесці на хлеб і ваду і раздаць рэшткі тыражу ўсім-усім сваім знаёмым. На апошнія*

*грошы ён выкупіў дзве свае кніжкі ў той самай, знаёмай з маленства вясковай краме* (С. Рублеўскі. Кніга).

Склаўся, відаць, на аснове фразеалагізма *садзіць (пасадзіць) на хлеб і ваду* (каго), узнікненне якога звязваюць з пакараннем, прынятым у турмах, ваенных і навучальных установах царскай Расіі. Віноўніка запіралі ў асобным пакоі і кармілі толькі хлебам і вадой.

**Садзіцца (сесці, уссесці) на карак (на шыю)** *каму, чый, каго. Агульны для ўсходнесл. м.* Ужыв. са значэннямі ‘поўнасцю падпарадкоўваць сабе, выкарыстоўваць каго-н. у сваіх інтарэсах’ і ‘абцяжарваць каго-н., знаходзячыся на яго ўтрыманні’. У *кожным маёнтку садзіцца на шыю народа «зондэрфюрэр»* (К. Чорны. Нямецкае вараннё над Случчынай). *Э не, дачушка, садзіцца на ваш карак я не хачу. Глядзіце сябе, абы вам добра было, а мы, старыя, так-сяк пражывём…* (Т. Хадкевіч. Даль палявая).

У аснове фразеалагізма — гіпербалізаваны вобраз.

**Садзіць на пасад** *каго. Гл.* на пасад садзіць *каго.*

**Садзіць (пасадзіць) на мель** *каго. Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* сажать на мель, *укр.* саднти на мілину) і *польск.* (sadzać na mieliźnie) *м.* Ставіць каго-н. у вельмі цяжкае становішча. *Востры на язык, Платон у час спрэчак мог абрэзаць дасціпным словам каго хочаш, садзіў на мель любога* (Я. Радкевіч. Закон прыцяжэння).

Паходзіць з маўлення маракоў, дзе меллю называюць неглыбокае месца на моры, небяспечнае для суднаходства.

**Садом і гамора.** *Агульны для ўсходнесл. і польск. м.* Крайняе бязладдзе, беспарадак, хаос. *О, божачка! Садом і гамора. Думала, канец свету настаў. Гэта ж трэба так біць па сваім горадзе* (І.Шамякін. Шлюбная ноч).

Узнік на аснове біблейскага сюжэта (Быццё, 19, 24–25) пра лёс двух суседніх гарадоў старажытнай Палесціны — Садома і Гаморы. У гэтых гарадах запанавалі беспарадак, распуста, і Бог вогненным дажджом і землетрасеннем рашыў пакараць грэшнікаў. Пра гэта ў паэме К. Крапівы «Біблія»: «Як пасыплецца агонь! Як прарвецца ў небе дзірка! Як пальецца з неба серка! Так, як „Біблія“ нам кажа, бог Садом дарэшты спляжыў, а з ім разам і Гамору».

**Сакрэт палішынеля.** *Пайкалька з франц. м.* (secret de polichinelle). Уяўная тайна; тое, што хоць і лічыцца тайнай, але стала вядома ўсім.

*Дзялюся сакрэтам палішынеля за ўмераную плату* (Я. Таўшчэзны. Вясёлая сумесь).

Узнікненне фразеалагізма звязана з імем Палішынеля — камічнага персанажа французскага народнага тэатра (з канца XVI ст.). Гэта быў вясёлы задзіра, насмешнік, блазан і балбатун. Часта

ён смяшыў публіку тым, што расказваў пад сакрэтам пра вядомыя ўсім рэчы.

**Саламяная ўдава.** *Калька з ням. м.,* пераклад складанага слова *Strohwitwe,* якое ўзнікла аб'яднаннем частак двух слоў: *Strohbraut* ('саламяная нявеста') + *Graswitwe* ('спакушаная', літаральна 'травяная ўдава'). Так называюць жанчыну, якая часова засталася без мужа або афіцыйна не мела яго. *Кладаўшчыцай у калгасе была Ганна Карнілава, саламяная ўдава: у свае маладыя гады — не набрала яшчэ і дваццаці пяці — яна мела двух дзяцей, так званых ветравічкоў-бяз-бацькавічаў* (І.Чыгрынаў. Плач перапёлкі).

Азначэнне *саламяная* звязваецца з сярэдневяковым звычаем у прырэйнскіх гарадах: на галаву дзяўчыны, якая мела пазашлюбнае дзіця, публічна надзявалі саламяны вянок.

**Саламяны ўдавец.** *Калька з ням. м.* (der Strohwitwer). Мужчына, які знаходзіцца ў часовай разлуцы з жонкай. *Сяргей Кірылавіч, вы сёння саламяны ўдавец, прашу ўзяць пад апеку маю сяброўку, яна — літаратар, вы — кнігалюб, побач вам не будзе сумна!* (Л. Арабей. Дзень мінулы, дзень наступны).

Складаны нямецкі назоўнік калькуецца як двухкампанентны выраз. У ням. м. гэты назоўнік склаўся як пазнейшае ўтварэнне ад *Strohwitwe* («саламяная ўдава»), дзе *саламяная* звязваецца з сярэдневяковым звычаем у прырэйнскіх гарадах: на галаву дзяўчыны, якая мела пазашлюбнае дзіця, прылюдна надзявалі саламяны вянок.

**Самі з вусамі.** *Агульны для бел. і руск. м.* Не горшыя за іншых. *Не, ён мною не пакамандуе, гэты студэнцік. Мы самі з вусамі...* (П. Пестрак. Серадзібор).

Першапачаткова ўжываўся як своеасаблівая формула задзірлівага выхваляння, у якой спайка кампанентаў (першы з іх захоўвае слоўнікавае значэнне) рэгулюецца рыфмай. У XIX ст., як адзначана ў «Зборніку беларускіх прыказак» І.І.Насовіча, выраз выкарыстоўваўся і ў такой форме: *самі з вусамі, толькі нос не аброс* 'адважны адказ на пагрозы'.

**Сам-насам.** *Агульны для бел., укр.* (сам на сам) і *польск.* (sam na sam) *м.* Ужыв. са значэннямі 'без сведак, удвух з кім-н. (гаварыць, сустракацца і пад.)', 'без саюзнікаў, без падтрымкі з боку каго-н. (біцца, сустракаць небяспеку і пад.)', 'на адзіноце (заставацца, рабіць што-н.)' і 'зусім адзін, у адзіночку (заставацца, пабыць з чым-н.)'.

*Пасля, сам-насам са сваім героем, я спытаўся: — Вас тады, Рафаіл Іванавіч, білі? — Ну, вядома* (Я. Брыль. Партрэт старэйшага таварыша). *[Шукайла: ] Хлопцы, глядзіце! Князь мядзведзя забіў Сам-на-сам, без нас!* (В. Вольскі. Машэка). *Калі ж ні сяброў; ні*

*сведак не было паблізу, ён* [Сушчэня] *мусіў трываць усё сам-насам* (В. Быкаў. У тумане). *Мужчыны пайшлі* [на фронт], *івёска засталася сам-насам з усімі чуткамі і трывогамі* (У. Паўлаў. Спелыя травы).

Узнік па мадэлі сэнсава тоесных фразеалагізмаў таўталагічнага характару *вока на вока, адзін на адзін.* Адна з ранніх фіксацый адносіцца да 1599 г. — у форме *самъ на самъ* (помнік палемічнай літаратуры «Антиризисъ, или Апологія против Христофора Филалета»).

**Сам-насам з сабой.** *Уласна бел.* На адзіноце (заставацца, быць і пад.). *Такія часіны душэўнай сабранасці, роздуму сам-насам з сабою Пятро Глебка вельмі любіў і даражыў імі* (В.Вітка. Майстар).

Утвораны шляхам кантамінацыі — аб’яднання элементаў двух фразеалагізмаў: *сам-насам* + *сам з сабой.* Абодва фразеалагізмы мнагазначныя, адно з іх значэнняў (‘на адзіноце’) — агульнае для абодвух фразеалагізмаў і для кантамінаванага на іх аснове ўтварэння.

**Сам не свой**. Агульны для ўсходнесл., польск. і чэшск. м. Моцна ўсхваляваны, у стане разгубленасці, роспачы, адчаю (быць, хадзіць, ісці, сядзець і пад.). Я *скажу табе, што ўвесь час, як толькі ты з’явілася ў атрадзе, я быў сам не свой* (У. Дамашэвіч. Між двух агнёў).

Першапачаткова выраз абазначаў, што хто-небудзь, знаходзячыся ў незвычайным, у «не сваім» стане, часткова ўжо належыць якой-небудзь нячыстай сіле і што яго лёс, вяртанне ці невяртанне ў ранейшы стан залежыць ад далейшых сувязей з гэтай нячыстай сілай. Такое вытлумачэнне пацвярджаецца польскай прыказкай *Już sam nie swój, połowica dijablowa* (ужо сам не свой, палавіна — д’яблава). У бел. м. фразеалагізм нярэдка ўжываецца ў форме кампаратыўнага звароту *як сам не свой:* «Увесь гэты час Толя быў як сам не свой. Як сам не свой ён страляў у трохразовым адрывістым салюце» (У. Паўлаў Чуж-чужаніца).

**Само сабой <разумеецца, зразумела>.** *Калька з ням. м.* (es versteht sich von selbst). Ужыв. як пабочнае словазлучэнне ў сэнсе ‘не выклікае ніякага сумнення’. — *Вы спытайце Касцянка яшчэ раз, Віктар Паўлавіч. — Само сабой разумеецца, — мірна згадзіўся той* (І.Шамякін. Крыніцы).

Сам сабе галава. *Агульны для ўсходнесл. м.* Самастойны, незалежны ні ад каго чалавек. *Добра табе, халасцяку, ні кала ні двара, сам сабе галава. А тут — чацвёра ў доме, і малыя!* (В. Быкаў. Трэцяя ракета).

Сэнсаўтваральную ролю ў выразе выконвае кампанент *галава*, суадносны з такім жа назоўнікам у адным з яго значэнняў — ‘кіраўнік, начальнік’.

**Сам чорт не брат** *каму. Запазыч. з руск. м.* Каму-н. нічога не страшна, нічога не значыць, усё хоць бы што. — *Цяпер куды болей разгону, — ажыўляецца Мартын. — Вясною і сам чорт нам не брат. Знай толькі лес ды добрую часіну з лесу паказацца…* (Я. Колас. Дрыгва).

У руск. м. фразеалагізм склаўся пад уплывам франц. *le roi n'est pas son cousin* (літаральна «кароль яму не брат»). У перыяд сярэднявечча французскі кароль даваў сваім прыбліжаным тытул кузена (стрыечнага брата); тыя ж, хто не меў такога тытула, былі больш незалежнымі ад караля.

**Са шчытом.** *Агульны для ўсходнесл. і польск.* (z tarczą) *м.* З перамогай, пераможцам (з’явіцца, вярнуцца і пад.). — *Ну як: са шчытом ці на шчыце? — прыжмураным вокам сустрэў Марыну Пайлаўну высокі мужчына* (А. Васілевіч. Шляхі-дарогі) Этымалагічная аснова выразу тая самая, што і ў фразеалагізма *на шчыце* (гл.).

Сваімі словамі *гаварыць, расказваць, адказваць* і пад. *Агульны для ўсходнесл. і польск.* (własnymi (swoimi) słowami) *м.* Не літаральна, не даслоўна, а перадаючы галоўны сэнс. — *Матка боска! — зноў спыняе яго* [вучня] *панна Рузя, — Ну сабраў, ну прайшоў ну, разбіў… Конь ты божы! Ды гавары ты нарэшце сваімі словамі!* (Я. Брыль. Сірочы хлеб).

Узнік, хутчэй за ўсё, у маўленні настаўнікаў. Параўн. аналагічнае меркаванне: «Атрымліваецца часам, што мы гаворым не пра тое, што знаем лепш за ўсіх, што нам больш за ўсё баліць, і ў той жа час гаворым не сваімі, як кажуць школьныя настаўнікі, словамі» (В. Бечык, А. Вярцінскі).

**Свая вош укусіць** *каго. Уласна бел.* Каму-н. прыйдзецца сутыкнуцца з жыццёвымі клопатамі, адчуць жыццёвыя цяжкасці непасрэдна самому, без чыёйсьці апекі. *Табе за бацькавай спінай добра «спасацца», а пачакай толькі, хай свая вош укусіць* (Я. Брыль. Праведнікі і зладзеі).

Паходзіць з прыказкі (падаецца ў зборніку І.Насовіча) *Тады чалавек памысліць мусіць, як свая вош укусіць.* Або: *Кожны перастаць тады мусіць, як свая вош укусіць* (пра выпраўленне паводзін маладога чалавека). Фразеалагізм набыў здольнасць свабодна ўключацца ў кантэкст і рэалізаваць часавыя формы дзеяслоўнага кампанента: «А цябе яшчэ як мае быць не ўкусіла свая вош, ты яшчэ жывеш кнігамі…» (Л. Арабей. Іскры ў папялішчы).

**Светлая галава.** *Калька з ням. м.* (ein heller Kopf). Вельмі разумны, здольны лагічна думаць чалавек. *[Мірон: ] А ў яго слова, як жалеза, аказалася: усё, што абяцаў, — зрабіў. Пра яго, ведаеш, як ка~ жуць? Мудры чалавек, чулы дужа, светлая галава!* (А. Савіцкі. Верай і праўдай). Можна лічыць, што абодва кампаненты — сэнсаўтваральныя: *галава* суадносіцца са значэннем 'розум', *светлая* — 'лагічная, ясная'.

**Свет цесны.** *Калька з італ. м.* (il mondo po). У любым месцы можна нечакана сустрэцца са знаёмым. *Свет цесны, гэта сказана не мною... Праз тлумны магазін, без гаманы хлапчына падыходзіць за чаргою, аўтограф просіць: «Я са Старыны!»* (Е. Лось. Студэнту з вёскі).

Выраз прыпісваецца Хрыстафору Калумбу, які ў 1492 г. адправіўся на трох іспанскіх суднах шукаць прамы марскі шлях у Індыю, але нечакана прычаліў да берагоў невядомай тады Амерыкі, «адкрыў Амерыку».

**Свінтус грандыёзус.** *Уласна бел.* Ганебны чалавек, нахабнік, невук. *А сам бы як аднёсся да ўсяго, каб на яе месцы быў?.. Свінтус грандыёзус ты, таварыш Мікульскі...* (П.Місько. Мора Герадота).

Выраз з камедыі К. Крапівы «Хто смяецца апошнім» (1939), дзе ён спачатку ўжыты для абазначэння вялізнай дапатопнай жывёліны з жабрамі, «адкрытай» ілжэвучоным Гарлахвацкім, а пасля пераносна — у дачыненні да таго ж Гарлахвацкага — невука і прайдзісвета.

**Свята на вуліцы** *чыёй. Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* праздник на улице, *укр.* свято на вулиці). Ажыццяўленне чыіх-н. надзей, жаданняў. *Праз некалькі дзён адбылося свята на Кастусёвай вуліцы: ён прыйшоў на першы ўрок у беларускую школу* (С. Александровіч. На шырокі прастор).

Паходзіць з прыказкі *Будзе і на нашай вуліцы свята,* сэнс якой — 'даб'ёмся і мы свайго, збудуцца нашы надзеі, спадзяванні'.

**Святая прастата.** *Калька з лац. м.* (sancta simplicitas). Наіўны, прастадушны чалавек. *Святая прастата, Піваварaў, мабыць, думаў, што на ваеннай карце ўсё абазначана* (В. Быкаў. Дажыць да світання).

Выраз прыпісваюць Яну Гусу — нацыянальнаму герою чэшскага народа. Адлучаны ад царквы як ерэтык, за некалькі мінут да таго, як яго спалілі на кастры (1415), Гус, убачыўшы, што нейкая адурманеная рэлігіяй старая стала падкідаць у агонь галлё, нібыта ўсклікнуў па-латыні: «O sancta simplicitas!» Біёграфы Гуса, аднак, не пацвярджаюць гэтага. Больш верагодна, што выраз набыў крылатасць раней. Як сведчыць рымскі пісьменнік Руфін (IV

ст.), упершыню гэтыя словы сказаў на Нікейскім саборы (325) адзін багаслоў у спрэчцы з філосафам, каб прымусіць яго замоўкнуць.

**Святая святых.** *Запазыч. з царк. — слав. м.* У Бібліі (Ісход, 26,33–34) гэта тэрмін для абазначэння той часткі Іерусалімскага храма, дзе захоўваўся каўчэг з запаведзямі, пасудзіна з маннай, цудадзейнае жазло і куды дазвалялася заходзіць толькі першасвяшчэнніку адзін раз у год. Апрача таго, гэтым тэрмінам называўся ахвярны хлеб, што прыносілі ў Іерусалімскі храм і які маглі з'есці толькі жрацы гэтага храма.

На аснове названых канкрэтных значэнняў у выразе развіліся пераносныя, звязаныя з памяшканнем або аб'ектам: 1) недаступнае памяшканне, якое строга ахоўваецца; 2) месца, якое з'яўляецца вельмі дарагім, да якога адносяцца з пашанай; 3) памяшканне, дзе вядуцца адказныя работы, знаходзяцца важныя прыборы і пад.; 4) самае важнае, дарагое, запаветнае. *Сувязны перадаў ад таварыша Андрэя просьбу — пранікнуць у святая святых складанай жандарскай махіны...* (Б.Мікуліч. Цяжкая гадзіна). *Я не хацела б, каб у святое святых — яго кабінеце, рукапісах — капаўся хто-небудзь чужы...* (Б. Сачанка. Не на той вуліцы). *Давайце наведаемся ў святая святых радыё — студыю гуказапісу* (В. Тарас. Сустрэча з сучаснікамі). *І ці ёсць у паэта маральнае права маўчаць, калі гаворка ідзе пра святая святых — пра паэзію?* (Т. Бондар. Паэзія ці версіфікатарства?). Першы фразеалагічны кампанент, які з'яўляецца былой формай назоўнага скл. мн. л. н. р., у сучаснай мове перастаў ужо быць нескланяльным: *святое святых* (Я. Колас), *святога святых* (З. Бядуля, У. Калеснік, Л. Прокша), *святую святых* (А. Косаў).

**Святло праліваецца (пралілося)** *на што. Уласна бел.* Што-н. робіцца зразумелым. *Для мяне асабіста пралілося святло на вытокі канфлікту ў калгасе імя Суворава* (Звязда. 18.07.1987).

Структурна арганізаваны як двухсастаўны сказ, фразеалагізм утварыўся на базе суадноснага дзеяслоўнага *ліць (праліваць, праліць) святло* на што 'растлумачваючы, рабіць зразумелым што-н.'.

**Святым духам.** *Агульны для бел. і руск. м.* Абазначае: 1) нічога не еўшы (жыць), 2) нібы само сабой, невядома як (рабіць што-н., робіцца што-н.). *Ідзі... Ды скажы, каб падсілкаваўца чаго-небудзь прыдумалі... Святым духам, ведаеш, нядоўга працягнеш* (І.Мележ. Мінскі напрамак). *А хто яе* [чуму] *занёс сюды, хачу я вас запытаць?.. Святым духам? Не, святым духам яна не прыйшла сюды!* (М. Лобан. Гарадок Устронь).

У лексіка-фразеалагічных кантэкстах тыпу: *не духам святым ён жыве* (Я. Колас); *святым духам не жыве* (К. Крапіва); *святым духам жыло* (Б. Сачанка) і інш. — *святым духам* па форме —

творны склон параўкальны, тое самае, што і «(жыць) як святы дух». У фразеалагізме адбіліся негатыўныя адносіны народа да «святога духа» — трэцяй асобы тройцы. Паводле хрысціянскага веравання, Бог адзіны, але і троечны, г. зн. адзіны нябесны Уладыка можа выступаць, праяўляцца ў трох асобах: Бога-айца, Бога-сына і Бога — духа святога. Гэта «троечнасць адзінага», як сцвярджалі цархоўнікі, «недаступная розуму тайна бажаства». Сама ідэя «Бога — духа святога» з прычыны яе незразумеласці не была папулярнай нават сярод вернікаў. На гэтай аснове і ўзнік фразеалагізм *святым духам*, які мае афарбоўку іроніі, жартаўлівасці.

**Сезам, адчыніся!** *Пайкалька з франц. м.* (Sésame, ouvretoi). Выказванне жартаўлівага заклінання, якое павінна дапамагчы без цяжкасцей адолець пэўную перашкоду. — *Бывайце здаровы, жывіце багата, — як чараўнічае «Сезам, адчыніся», сказала Валя* (У. Карпаў. Без нейтральнай паласы).

Паходзіць з арабскай казкі «Алі Баба і сорак разбойнікаў», якая ўпершыню ў перакладзе на франц. м. ўключана ў зборнік «Тысяча і адна ноч» (1704–1708). У казцы гаворыцца, як Алі Баба, знаходзячыся ў лесе, выпадкова ўбачыў сорак разбойнікаў. Яны падышлі да пячоры, дзверы якой адчыніліся толькі пасля таго, як атаман вымавіў магічныя словы: «Сезам, адчыніся!» Падслухаўшы гэта, Алі Баба праз пэўны час таксама пранікае ў пячору і становіцца ўладальнікам вялікіх скарбаў, нарабаваных разбойнікамі.

**Секчы гордзіеў вузел.** *Агульны для ўсходнесл. (руск.* разрубать гордиев узел, укр. розрубувати гордіїв вузол) *іпольск.* (przeciać węzel gordyjski) *м.* Смела і рашуча вырашаць якія-н. цяжкасці, супярэчнасці. *Урэшце і сам даследчык зразумеў, што не хапае яму той нітачкі, знайшоўшы якую можна разблытаць увесь клубок. Тут трэба было або шукаць гэтых канчыкаў ніткі, або секчы гордзіеў вузел* (І.Шамякін. Сэрца на далоні).

Крылаты выраз з грэч. міфалогіі. Паходзіць з таго ж міфа, што і фразеалагізм *гордзіеў вузел* (гл.). Аракул прарочыў, што той, хто развяжа хітры вузел, зроблены фрыгійскім царом Гордзіем, стане ўладаром усёй Азіі. Ніхто, аднак, не мог справіцца з вузлом, пакуль Аляксандр Македонскі не рассек яго мячом.

**Сем пятніц на тыдні** ў *каго. Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* семь пятниц на неделе, *укр.* сім п'ятниць на тиждень). Сінанімічны беларускаму *ў адзін дзень сем перамен* і вобразна характарызуе людзей нясталых, якія часта і лёгка мяняюць свае рашэнні, намеры, настрой, не выконваюць абяцанага. *Кажы гэта дурнейшым ад самога, а не мне, валацуга! Ці ж можна табе верыць, калі ў цябе сем пятніц на тыдні!* (Я. Колас. Адзінокае дрэва).

Сярод розных меркаванняў адносна этымалогіі гэтага выразу найбольш пераконвае прапанаванае С. Максімавым. Здаўна пятніца традыцыйна лічылася нерабочым днём. Гэта быў базарны дзень. Яшчэ ў канцы XIX ст. на адну толькі Магілёўскую губерню выпадала «семнаццаць пятнічных кірмашоў», а ў яе чатырнаццаці гарадах і мястэчках адбываліся «базары абавязкова ў кожны пяты дзень хрысціянскага тыдня, які (дзень) несумненна быў галоўным святочным і першым у тыдні язычніцкіх крывічоў» (С. Максімаў). Базарная пятніца была днём разлікаў, аддачы пазычанага. Пра чалавека, які не выконваў абяцанага, прасіў пачакаць да другога дня ці да другой пятніцы, а потым і зноў адкладваў, сталі гіпербалічна гаварыць, што ў яго «сем пятніц на тыдні».

**Сена на асфальце.** *Уласна бел.* Гараджанін у першым пакаленні, ахоплены настальгіяй па роднай вёсцы. *Ты, значыць, агітуеш за горад? Ну правільна. Што табе вёска? Паўзабытае мінулае. Ты даўно перастала быць «сенам на асфальце». Твой дом у горадзе* (А. Цяжкі. Дзе мой дом?).

Выраз з аднайменнага апавядання (1963) і назвы зборніка апавяданняў (1966) М. Стральцова.

**Серада з-пад пятніцы** *відаць, вылазіць* і пад. *Уласна бел.* Ніжняе адзенне з-пад верхняга (відаць і інш.). *Суседка наша, Карабуціха, да вайны бязладная жанчына, у якой заусёды серада з-пад пятніцы вылазіла, аказалася практычнай кабетай* (Л. Арабей. Камандзіроўка за мяжу).

Назоўнікавыя кампаненты ў гэтым выразе атрымалі няслоўнікавае значэнне, асацыюючца адзін з ніжнім адзеннем, а другі з верхнім. На выбар менавіта серады і пятніцы, а не якіх-небудзь іншых дзён тыдня, відаць, паўплывала тое, што гэтыя дні даўней былі, што называецца, на слыху. Есці мясное і малочнае забаранялася не толькі ў пасты, але і ў сераду ды пятніцу амаль кожнага тыдня. Параўн. таксама гісторыю фразеалагізма *(крывіцца, скрывіцца) як серада на пятніцу* (гл.).

**Сесці на карак** *каму, чый, каго. Гл,* садзіцца (сесці, ўссесці) на карак (на шыю) *каму, чый, каго.*

**Сесці на свайго <любімага> канька.** *Гл.* садзіцца (сесці) на свайго <любімага> канька.

**Сесці на хлеб і ваду.** *Гл.* садзіцца (сесці) на хлеб і ваду.

**Сесці не ў свае сані.** *Гл.* не ў свае сані садзіцца (сесці).

**Сёмая вада на кісялі.** *Гл.* дзесятая (сёмая) вада на кісялі.

**Сініца ў руках.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Што-н. пэўнае, канкрэтнае, супрацьпастаўленае чаму-н. няпэўнаму, ненадзейнаму, хоць і жаданаму. *І калі ўдасца дабіцца волі, то яна не абміне і селяніна: ён будзе мець хоць сініцу ў руках* (А. Якімовіч. Кастусь Каліноўскі).

Паходзідь з прыказкі *Лепш сініцаў руках, чым журавель у небе,* сэнс якой — ‘лепш мець хоць што-н. пэўнае менавіта цяпер, чым спадзявацца на большае і лепшае ў аддаленай будучыні’. Дарэчы, гэта прыказка спарадзіла два фразеалагізмы (гл. *журавель у небе).* Параўн. кантэкст, дзе выкарыстаны абодва прыказкавыя вобразы: «І лёгкая перамога яго ўжо не задаволіла б, хоць яму пакутліва хацелася мець, пакуль той журавель у небе, хоць нейкую сініцу...» (П.Місько).

**Сіняя панчоха.** *Калька з англ. м.* (blue-stocking). Так называюць непрывабных жанчын, якіх больш за ўсё цікавяць кніжныя, вучоныя заняткі. *Адзін на адзін ён пераканаў бы любую сухастоіну, любую «сінюю панчоху». Але перашкаджала Даша* (І.Шамякін. Атланты і карыятыды).

У Англіі ў другой палавіне XVIII ст. спачатку гэтым выразам называлі, а дакладней, прзывалі адну асобу, прычым не жанчыну, а мужчыну — вучонага Б. Стэлінгфліта, які, насуперак модзе, апранаўся ў цёмнае, а панчохі насіў сінія. У такой форме ён прыходзіў у свой гурток, які аб’ядноўваў жанчын і мужчын і на пасяджэннях якога вяліся гутаркі на літаратурныя і навуковыя тэмы. Назва *сіняя панчоха* была перанесена на ўвесь гэты гурток і яго ўдзельнікаў. У далейшым выраз замацаваўся толькі за такімі жанчынамі, якія больш цікавяцца навукай, чым гаспадарчымі жаночымі справамі.

**Сіняя птушка.** *Калька з франц. м.* (aiseau bleu). Сімвал шчасця; тое, што ўвасабляе для каго-н. найвышэйшае шчасце. *Сон яшчэ ціха гушкаў ля вокнаў зарапад, а золак сіняй птушкай зляцеў нячутна ў сад, што сум таіў дзявочы* (Т. Бондар. Абуджэнне).

Аўтар крылатага выразу — бельгійскі паэт і драматург М. Метэрлінк (пісаў на франц. м.). Вяршыня яго творчасці — паэтычная п’еса «Сіняя птушка» (1908). Сюжэт п'есы казачны, пабудаваны на прыгодах дзяцей дрывасека, якія шукаюць «сінюю птушку» — «таямніцу рэчаў і шчасця», але не знаходзяць яе.

**Сіямскія блізняты.** *Агульны для ўсходнесл. і польск, м.* Аднадумцы, блізкія ў якіх-н. адносінах людзі ці неразлучныя сябры. *В. Бечык імкнецца паказаць непадобнасць кожнага майстра, знайсці такія рысы і дэталі ў іх творчай манеры, каб паэты той ці іншай генерацыі пры ўсёй іх ідэйна-эстэтычнай, грамадзянскай агульнасці не выглядалі сіямскімі блізнятамі* (В. Яраш. З удумлівай любоўю).

Склаўся ў выніку метафарызацыі адпаведнага словазлучэння, якім называлі двух зрослых блізнят — Чанга і Энга Букераў. Яны нарадзіліся ў 1811 г. у Сіяме (старая афіцыйная назва Тайланда) і, будучы зрослымі, пражылі 63 гады.

**Скакаць пад дудку** *чыю. Калька з ням. м.* (nach j-s Pfeife tanzen). Пакарацца каму-н., выконваць яго волю. *«Скачы ж, браток, пад маю дудку, прызнай жа мне і ты пашану!» — Міхал у думках кажа пану* (Я. Колас. Новая зямля).

У немцаў выраз склаўся на аснове байкі старажытнагрэчаскага байкапісца Эзопа «Рыбак і рыбы». Адзін рыбак ігранкем на флейце хацеў прывабіць да сябе рыб, але яны не выйшлі з мора. Тады ён закінуў сетку. Улоў быў добры. Бачачы, як рыбы трапечуцца і падскокваюць, рыбак сказаў з дакорам: «О нягодныя! Хопіць. Калі я іграў, вы не скакалі пад маю флейту, а як перастаў, вы скачаце».

**Скідаць (скідваць, скінуць) з рахунку** *каго, што. Недакладная калька з руск. м.* (сбрасывать со счетов). Пераставаць улічваць што-н., пераставаць надаваць значэнне чаму-н. *Была, вядома, яшчэ адна надзвычай важная прычына, якую нельга скідаць з рахунку, калі гаварыць пра папулярнасць Косці на Першамайскай вуліцы* (І.Навуменка. Вайна каля Цітавай копанкі).

Утварыўся ў выніку пераасэнсавання тэрміналагічнага словазлучэння, якое ўжываецца ў маўленні бухгалтараў, рахунковых работнікаў. Калі падлікі закончаны, то костачкі скідваюць з лічыльнікаў, паварочваючы рамку так, каб костачкі аказаліся справа.

**Скінуць з рахунку** *каго, што. Гл.* скідаць (скідваць, скінуць) з рахунку *каго, што.*

**Скінуць з сябе ветхага Адама.** *Паукалька з франц. м.* (depouiller le vieil Adam). Вызваліцца ад старых прывычак, поглядаў і стаць іншым чалавекам. — *Пакольві мы сабраліся для таго, каб назаўсёды скінуць з сябе адзежу «ветхага Адама», — азваўся Іван Тадорык, — дык давайце найперад пакупаемся ў Нёмане, а наш сход не мядзведзь, у лес не ўцячэ* (Я. Колас. На ростанях).

У французаў выраз склаўся на аснове евангельскага тэксту: у «Пасланнях апостала Паўла» выказваецца заклік да грэшнага чалавека духоўна перарадзіцца, «скінуўшы з сябе ветхага чалавека са справамі яго».

**Складваць галаву** *за каго, за што, дзе. Гл.* класці (складваць) галаву *за каго, за што, дзе.*

**Складваць (скласці, злажыць) зброю.** *Відаць, калька з ням. м.* (die Waffen strecken). Ужыв. са значэннямі ‘спыняць узброенае супраціўленне, прызнаваць сябе пераможаным’ і ‘адмаўляцца ад працягу барацьбы, ад прындыпаў абароны сваіх інтарэсаў’. *Паўлаўцы згаджаюцца скласці зброю. Патрабуюць гарантыі* (І.Шамякін. Першы генерал). *Леанід Рыгоравіч — тады толькі мастацкі кіраўнік тэатра — не разгубіўся і не злажыў зброі. Ён*

*прапанаваў прачытаць п’есу першаму сакратару КПБ... Чытаў сам* (К. Кузняцова, Р. Смольскі. Вернасць тэатру, часу, сабе).

Узнік у маўленні ваенных: пераможаныя складвалі, здавалі зброю (у прамым значэнні гэтых слоў).

**Скласці зброю.** *Гл.* складваць (скласці, злажыць) зброю.

**Склаўшы (злажыўшы) рукі.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* сложа руки, *укр.* склавши руки). Нічога не робячы, бяздзейнічаючы. *Душна ў панскім бары. Доўга так да зары склаўшы рукі чакаць. Час збірацца, сябры!* (А. Куляшоў. Грозная пушча).

Выраз з’яўляецца «абломкам» дзеяслоўнага фразеалагізма *сядзець склаўшы рукі* (гл.). Адарваўшыся ад кампанента *сядзець,* ён стаў спалучацца са шмат якімі дзеясловамі поўнага лексічнага значэння *(жыць, чакаць, хадзіць* і інш.): «Не хачу, не прывык склаўшы рукі хадзіць: я гарбар — працаўнік. Я жыву — каб рабіць» (Ц. Гартны). Фразеалагізм можа спалучацца і з дзеясловам *сядзець,* калі той захоўвае сваё лексічнае значэнне: «Сядзяць паны, як мурашкі, на купіне сярод лужыны... Але не век жа сядзець злажыўшы рукі, трэба ж даваць якую раду» (Я. Колас).

**Скрозь зубы.** *Гл.* праз (скрозь) зубы.

**Скрыжоўваць (скрыжаваць) шпагі (мячы)** *<з кім>. Калька з франц. м.* (croiser les epees). Горача спрачацца, даказваць, змагаючыся за што-н., адстойваючы чые-н. інтарэсы. *Над галавой гэтага дарослага дзіцяці скрыжоўваюць шпагі польскія і рускія палемісты* (А. Мальдзіс. Восень пасярод вясны).

Утвораны ў выніку пераасэнсавання свабоднага словазлучэння, якое з прамым значзннем слоў ужывалася ў маўленні рыцараў.

**Скрыня Пандоры.** *Паўкалька з франц.* (boîte de Pandora) *ці італ.* (il vasa di Pandora) *м,* Крыніца ліха, бедстваў. *Дзеля ілюстрацыі можна было б прывесці нямала прыкладаў з прапагандысцкай скрыні Пандоры* (Полымя. 1986. № 4).

Выток фразеалагізма — грэчаская міфалогія. Паводле аднаго з міфаў, доўгі час людзі жылі, не ведаючы ніякіх хвароб, няшчасця і старасці. Калі ж Праметэй выкраў ад багоў агонь і аддаў яго людзям, раззлаваны Зеўс паслаў на зямлю прыгожую жанчыну Пандору, даўшы ёй таямнічую скрыню і забараніўшы адчыняць яе. Будучы цікаўнай, Пандора прыадчыніла вечка, і са скрыні тут жа вылецелі ўсе чалавечыя няшчасці і разляцеліся па ўсёй зямлі. Так Зеўс адпомсціў людзям за Праметэеў учынак.

**Скура ды косці.** *Гл.* <адна> скура ды косці.

**Скура ды косці засталіся** *на кім, у каго, ад каго. Гл.* <адны> скура ды косці засталіся *на кім, у каго, ад каго.*

**Следам за дзедам.** *Уласна бел.* Па шляху іншых, шляхам папярэднікаў (ісці, ехаць, рабіць што-н.). *То ж сёння ў нас не трыццаты, а сорак сёмы год канчаецца. І нам з калгасамі не пачынаць, — мы ўжо следам за дзедам паедзем. Ведаем ужо тым часам, што і ў людзей на свеце робіцца, — былі, глядзелі* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). Або: *У вячорнай размове ён ад трагічнай смерці акцёра перайшоў да смерці паэта... — Мусіць, і мне хутка — следам за дзедам* (М. Лужанін. Колас расказвае пра сябе).

Гэты звязаны ўнутранай рыфмай выраз раней меў больш канкрэтны сэнс: пад словам *дзед* меўся на ўвазе муж. Відаць, першапачатковай сферай ужывання выразу была якраз тая моўная сітуацыя, пра якую піша І.Насовіч: «Кажуць, калі жонка прыходзіць туды, дзе яе гаспадар». Далейшае семантычнае развіццё ад канкрэтнага да абстрактнага і выкарыстанне выразу, напрыклад, са значэннем ‘як дзед (муж)’ можна бачыць у такім кантэксце з камедыі Я. Купалы «Паўлінка», дзе Альжбета, жонка Сцяпана, які толькі што пайшоў у бакоўку спаць, гаворыць Паўлінцы: «Ну, дык паглядзі ж ты, дзе карты, ды пазабаўляйцеся яшчэ трохі з панам Адольфам, бо я, мусіць, зраблю следам за дзедам. Трохі ж сягоння такі натупалася».

**Слізганне па паверхні.** *Гл.* коўзанне (слізганне) па паверхні.

**Слова ў слова.** *Калька з франц.* (mot a mot) *ці англ.* (word for word) *м.* Даслоўна, абсалютна дакладна, без скажэння (пераказаць, паўтарыць, запомніць і пад.). *Міша расказаў усё, што было ў сельсавеце. Слова ў слова расказаў* (С. Грахоўскі. Ранні снег).

**Сляды замятаць.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Спрытна знішчаць тое, шю можа быць доказам у выкрыцці чагосьці. *Ты паедзеш, а што падумае Абрамаў? Уцёк, сляды замятае. Значыць, вінаваты* (С. Грахоўскі. Ранні снег).

Узнік са свабоднага словазлучэння, якое пераасэнсавалася на аснове падабенства з’яў: ліса, уцякаючы, замятае сляды. Параўн. ужыванне словазлучэння *замятаць сляды* з прамым значэннем гэтых слоў: «Ліса спыталася ў Зайца, чаму ён гэтакі палахлівы — сам сябе баіцца. — Бо я не маю такога, як у цябе, хваста, якім бы мог замятаць за сабою сляды, — адказаў Заяц» (Б. Сачанка).

**Смактаць кроў** *з каго, чыю. Гл.* піць (смактаць) кроў *з каго, чыю.*

**Смактаць лапу.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Жыць надгаладзь, галадаць. — *Тых, хто згодзіцца ехаць у Францыю, з заўтрашняга дня ўрад бярэ на сваё ўтрыманне. — Амерыканскай тушонкай і канадскімі булкамі заманьваеце. — Францыя сама лапу смокча, — прагучалі кплівыя галасы* (А. Пальчэўскі. Вяртанне).

Утвораны ў выніку пераасэнсавання свабоднага словазлучэння, звязанага са звычкай мядзведзя жыць зімой у бярлозе за кошт тлушчавых запасаў, смокчучы сваю лапу.

**Смаловы (смаляны) дуб** *плесці. Агульны для бел. і ўкр.* (смаленого дуба *плести) м.* Небыліцы, недарэчнасць. — *Чаго ж вы тут смаляныя дубы плялі? — не вытрымаў я. — Васільку такое неслі, што… —А я не Васільку, а табе* (А. Шлег. Весялун).

У аснове фразеалагізма — нерэальны вобраз, плён народнай фантазіі. Выраз ужываецца і ў польск. літаратурнай мове (у форме *duby smalone),* куды ён трапіў з творчасці А.Міцкевіча, які запазычыў яго з родных для паэта навагрудскіх гаворак.

**Смертны грэх.** *Гл.* смяротны (смертны, смяртэльны) грэх.

**Смех у зале.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Выказванне здзіўлення, абурэння і пад. з прычыны чаго-н. недарэчнага, вартага смеху. *Смех у зале, як кажа сучасная моладзь, — гадаваўся на бульбе, ды каб не ведаць, як яе пасадзіць ці акучыць ды выкапаць?* (А. Ярась. Дзень сонечных промняў).

Узнік у выніку пераасэнсавання свабоднага словазлучэння, якое сустракаецца ў чыім-н. апублікаваным выступленні, дакладзе як паказчык адносін слухачоў да асобных выказванняў прамоўцы.

**Смяротны (смертны, смяртэльны) грэх.** *Запазыч. з царк. — слав. м.* Вельмі вялікая загана, недаравальны ўчынак. *Міхаіл Іпалітавіч напісаў запіску ў міністэрства. І добра, што напісаў. Там паспелі ўжо абвінаваціць яго ў самых смяротных грахах* (М. Кацюшэнка. Урок маўчання).

Паходзіць з Бібліі (1-е пасланне Іаана, 5, 16–17). Паводле рэлігійных уяўленняу, гэта грэх, які нельга нічым згладзіць і вынікам якога з’уляецца вечная мука ў пекле. Лічылася, што ёсць сем смяротных грахоў: зайздрасць, скупасць, распуста, аб’ядзенне, гордасць, маркота, гнеў. У далейшым царкоўнаславянскае словазлучэнне фразеалагізавалася, набыло абагульнены сэнс.

**Совацць палкі ў кола** *каму, чаго. Гл.* ставіць (устаўляць, совацць, сунуць) палкі ў кола *каму, чаго.*

**Совацць (сунуць, утыкаць) <свой> нос** *куды, у што. Калька з ням. м.* (die <seine> Nase stecken). Умешвацца ў што-н. — *А ты не сунь свайго носа, куды цябе нг просяць, бо дастанеш, — пацьмянеў Грамабой* (К. Крапіва. Мядзведзічы).

У аснове фразеалагізма — нерэальны вобраз.

**Соль зямлі.** *Запазыч. з царк. — слав. м.* Лепшыя прадстаўнікі народа, цвет якога-н. асяроддзя. *Не магу я выхваляцца, што, маўляў я соль зямлі, бо ў мяне такая праца — кожны дзень мялі й мялі* (Я. Непачаловіч. Млынар).

Паводле Евангелля (Матфей, 5, 13), гэтымі словамі назваў сваіх вучняў Ісус, звяртаючыся да іх з казанню: «Вы соль зямлі.

Калі ж соль страціць сілу, то чым зробіш яе салёнаю? Яна не патрэбна ні на што, яе толькі выкінуць вон на патаптанне людзям».

**Сорак саракоў** *чаго. Запазыч. з руск. м.* Незлічонае мноства, вялікая колькасць. *Крыж сімвалам галоўным быў князёў, баярынаў, купцоў, крыжоў маскоўскіх не лічыў казалі — сорак саракоў* (П. Броўка. Крыжы і зоркі).

Першапачаткова ўжываўся ў спалучэнні толькі са словам *царква* для абазначэння вялікай колькасці цэркваў у старой Маскве. *Сорак* — лічэбнік усходнеславянскага паходжання, адзінка падліку, роўная чатыром дзесяткам. Спачатку словам *сорак* называлі мяшок, у якім змяшчалася 40 собалевых шкурак, г. зн. неабходны набор на поўную шубу.

**Спаймаць лісу.** *Гл.* злавіць (спаймаць) лісу (лісіцу).

**Спакон вякоў (веку).** *Агульны для бел. і руск. м. (руск.* испокон веков; *параўн. ва ўкр. м.:* споконвіку, споконвічно, споконвіків). З самага даўняга часу, спрадвеку. *Ад прадзедаў спакон вякоў мне засталася спадчына; паміж сваіх і чужакоў яна мне ласкай матчынай* (Я. Купала. Спадчына).

Першапачатковы сэнс выразу — 'з самага пачатку вякоў' Марфемны склад першага кампанента генетычна такі: с + *па* + *кон,* дзе *кон* абазначае ‘пачатак’.

**Спаліць за сабой масты.** *З той жа вобразнасцю і граматычнай структурай, пры адпаведных лексічных эквівалентах, фразеалагізм жыве ва ўсіх славянскіх мовах, а таксама ў франц., ням. ііншых.* Абазначае ‘рашуча парваць з мінулым, не мець магчымасці вярнуцца да яго’. *Для людзей, якія ўжо спалілі за сабой масты, спозненыя разважанні хлопцаў — будзь яны найкрыштальнейшай праўдай! — цяпер былі непажаданымі* (А. Карпюк. Вершалінскі рай).

Выраз «ваеннага паходжання». Гісторыя войнаў і паходаў ведае нямала выпадкаў, калі, наступаючы і пераправіўшыся на другі бок ракі, палкаводцы спальвалі за сабой масты, каб паказаць салдатам, што назад дарогі адрэзаны і што наперадзе толькі рашучая і пераможная барацьба або смерць. Захавалася паданне, што менавіта так зрабіў Дзмітрый Данскі напярэдадні Кулікоўскай бітвы.

**Спаліць свае караблі.** *Гл.* паліць (спаліць) свае караблі.

**Спачываць на лаўрах.** *Пайкалька з франц. м.* (se reposer sur ses lauriers). Супакойвацца на дасягнутым, задавольвацца дасягнутым. *Напэўна ўжо раман цудоўны ён нам падараваў бы, каб трызніў менш вянком лаўровым, менш спачываў на лаўрах* (Г. Кляўко. Нязжатыя лаўры).

У аснове фразеалагізма звычай старажытных грэкаў і рымлян узнагароджваць лаўровым вянком пераможцаў на паэтычных і музычных спаборніцтвах (гл. *пажынаць лаўры*).

**Спісванне ў архіў** *чаго. Уласна бел.* Прызнанне чаго-н. застарэлым, вартым забыцця. *На пачатку патрабуецца даказаць, што сучаснае «спісванне ў архіў» сапраўды значныя творы, напісаныя ў папярэднюю эпоху, не закране* (ЛіМ. 10.04.1998).

Назоўнікавае ўтварэнне ад суадноснага дзеяслоўнага фразеалагізма *спісваць у архіў* (што).

**Спісваць (спісаць) у тыраж** *каго. Агульны для ўсходнесл. м.* Адхіляць каго-н., лічачы непрыдатным да якой-н. дзейнасці. *Хай ведаюць, што Пракопчык яшчэ не стары — рана спісваць у тыраж...* (В. Карамазаў. Спіраль).

Паходзіць з аднайменнага тэрміналагічнага словазлучэння, якое ўжываецца ў галіне фінансаў, дзе *тыраж* абазначае ‘пагашэнне аблігацый і іншых каштоўных папер установай, якая іх выпусціла’.

**Спісваць у расход** *каго. Гл.* выводзіць (вывесці; спісваць, спісаць) у расход *каго*.

**Спускаць (спусціць) на тармазах** *што. Агульны для ўсходнесл. м.* Спыняць, уладжваць што-н. непрыемнае ціха, паступова, бясшумна. *Карней сцяміў, што перахапіў цераз край, што далей жартаваць з Валяй так нельга; сястра даведзена да шаленства. Пачаў «спускаць на тармазах»* (І.Шамякін. Вазьму твой боль).

Утварыўся ў выніку пераасэнсавання тэрміналагічнага словазлучэння, якое ў маўленні чыгуначнікаў і шафёраў ужываецца, калі гавораць пра адзін з відаў манеўравання пры ваджэнні лакаматываў, аўтамашын — выкарыстанне тармазоў пры крутым спуску.

**Спусціўшы рукавы.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* спустя рукава, *укр.* спустивши рукави). Без належнай стараннасці, абы-як (рабіць што-н.). *Некаторыя, павер, інстытут кідаюць або вучацца спусціўшы рукавы* (У. Карпаў. Вясеннія ліўні).

Узнік у выніку пераасэнсавання свабоднага словазлучэння. У становішчы, калі рукавы не закасваюць, працаваць не заўсёды зручна.

**Спяваць дыфірамбы** *каму, чаму Гл.* пець (спяваць) дыфірамбы *каму, чаму*.

**Спяваць Лазара.** *Гл.* Лазара пець (спяваць).

**Спяваць на хлеб.** *Уласна бел.* Збіраць міласціну, жабраваць. — *Пайшлі, Арсень,* — *рашуча рыкнуў Шлык,* — *абыдземся без гэтага салапёкі, каб ён на хлеб спяваў* (У. Караткевіч. Аліва і меч).

У выразе — намёк: жабракі, выпрошваючы міласціну (хлеб), спявалі жаласныя песні. Параўн. у драме Я. Купалы «Раскіданае гняздо»: «Старац ідзе наперад, за ім — Марыля з дзецьмі па баках, а за Марыляй — Данілка. Усе пяюць „Лазара“ — Данілка іграе».

**Спяваць (пець) асанну** *каму, чаму; Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* петь осанну, *укр.* співати осанну). Празмерна ўсхваляць каго-, што-н. *Народ, не верачы газетам, пра яблыневы марыў сад, галасаваў з такім імпэтам — быў так патрэбен Аляксандр! Быў шанец мо галоўны самы, адзін за гэтулькі вякоў ужо спявалі мы асанну!* (Р. Тармола-Мірскі. Зруб).

Склаўся на аснове біблейскіх сюжэтаў. *Асанна,* неўжывальны па-за фразеалагізмам кампанент, з'яўляецца запазычаннем са старажытнаяўрэйскай мовы *(hasanna!)* і абазначае 'Слава!'.

**Ставіць на карту.** *Паўкалька з ням. м.* (auf eine Karte setzen). Рызыкаваць, спадзеючыся дабіцца чагосьці. *Усё ставіў ён на апошнюю сваю карту; усё яшчэ насіўся са сваімі шалёнымі планамі падпарадкаваць увесь свет інтарэсам фашысцкай імперыі* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Паходзіць з мовы карцёжнікаў, дзе прамое значэнне словазлучэння *ставіць на карту* — 'уносіць у банк грошы, на якія ігрок страчвае права ў выпадку пройгрышу'.

**Ставіць (паставіць) знак роўнасці** *паміж кім, паміж чым. Ужыв. амаль ва ўсіх еўрапейскіх мовах. Магчыма, калька з англ.* (split hairs) *ці ням.* (Haare spalten) *м.* Лічыць каго-, што-н. зусім аднолькавым, раўнацэнным, падобным. *У вобразе Дзіміна Івана Міхайлавіча выразна бачыцца воблік Дзёміна. Аднак нельга ставіць паміж імі знак роўнасці* (І.Новікаў. З жыцця і для жыцця).

Утварыўся ў выніку пераасэнсавання састаўнога матэматычнага тэрміна.

**Ставіць (паставіць) кропкі над «і».** *Калька з франц. м.* (mettre les points sur les i). Канчаткова высвятляць усё, не пакідаючы нічога недагаворанага, даводзячы ўсё да лагічнага канца. *Гісторыя ўрэшце разважыць, паставіць кропкі над «і»* (ЛіМ. 8.06.1984).

У лац. алфавіце ёсць літара «і» (як і ў бел. ды ўкр. м.). У франц. м. выраз напачатку меў больш вузкае значэнне ўдакладнення сказанага ці напісанага, ужываўся, калі трэба было ўдакладніць што-небудзь.

**Ставіць (паставіць) крыж** *на кім, на чым, над чым. Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* ставить крест, *укр.* ставити хрест). Траціць усякую надзею на каго-, што-н., адмаўляцца ад каго-, чаго-н. *Мне ажаніцца цяпер — значыць, паставіць крыж над усім, што я люблю і чаму я аддан*ы (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

Склаўся ў выніку пераасэнсавання свабоднага словазлучэння, якое ўжываецца, калі гавораць пра крыж над магільным пагоркам. Лічаць таксама, што ўзнікненне фразеалагізма магло быць звязана і з такой рэаліяй, як перакрэсліванне крыжам чаго-небудзь непатрэбнага ў паперах.

**Ставіць (паставіць) на дыван** *каго. Уласна бел.* Прымушаць трымаць адказ на якія-н. прэтэнзіі, заўвагі і пад. *Упершыню ўсмешка скрывіла вусны нечым моцна заклапочанага чалавека... — Усе мы смелыя, пакуль нас не паставяць на дыван* (І.Шамякін. Атланты і карыятыды).

Утварыўся на аснове фразеалагізма *на дыван* (гл.) — калькі з англ. м., які сваё акалічнасна-прыслоўнае значэнне рэалізуе пры дзеясловах-суправаджальніках *выклікаць, ісці, трапляць* і пад. У спалучэнні ж з кампанентам *ставіць (паставіць)* (каго) узнікае адзінае вобразнае ўяўленне, новы фразеалагізм з самастойным дзеяслоўным значэннем.

**Ставіць (паставіць) на крыло** *каго. Уласна бел.* Расціць, выхоў-ваць, даводзячы да самастойнасці. *Італьянскі настаўнік выхоўвае і ставіць на крыло сапраўдную змену сапраўднай нацыі. Таму колькасць урокаў на тыдзень — самая мізэрная* (Я. Рагін. Эканоміка павінна быць...).

Выраз «птушынага паходжання». Склаўся шляхам мадэліравання — на ўзор фразеалагізма *ставіць на ногі* (каго), адно са значэнняў якога тоеснае са значэннем выразу *ставіць на крыло* (каго). Параўн. ужыванне гэтага выразу з агаленнем яго вобразнасці праз параўнанне з птушанятамі: «Знакаміты крытык, бы птушанят, паставіў на крыло цэлае паэтычнае пакаленне» (З. Мельнікава).

**Ставіць (паставіць) у тупік** *каго. Агульны для бел. і руск. м.* Прыводзіць у збянтэжанасць, у цяжкае становішча. *Сярод звычайных старажытных малюнкаў удзельнікі экспедыцыі знаходзілі і такія, якія ставілі іх у тупік* (Г. Шыловіч. Школа ля крэпасці).

Утвораны шляхам пераасэнсавання тэрміналагічнага словазлучэння з маўлення чыгуначнікаў, дзе *тупік* абазначае ‘чыгуначны станцыйны пуць з адзіным выхадам’.

**Ставіць (устаўляць, соваць, сунуць) палкі(-у) у кола(-ы)** *каму, чаго. Калька з франц.* (mettre des bâtons dans les roues) *ці англ.* (to put a spoke in some one’s wheel) *м.* Знарок перашкаджаць каму-, чаму-н. *Вера выступае ў спрэчках... і ў гарачыя запальныя словы ўкладае сваё глыбокае абурэнне супраць тых, хто ставіць палкі ў кола вялікага будаўніцтва* (М. Зарэцкі. Вязьмо).

Склаўся ў выніку пераасэнсавання адпаведнага свабоднага словазлучэкня, якое ўжывалася, калі гаварылі пра дзеянні, звязаныя з тармажзннем калёс, карэты і пад.

**Сталыпінскі гальштук.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Шыбеніца, пятля. *Лютуюць карныя экспедыцыі, шырока практыкуюцца ваенна-палявыя суды, расстрэлы, шыбеніцы, пакідаючы далёка за сабою эпохі мураўёўскіх шыбеніц і сталыпінскіх гальштукаў* (Я. Колас. Далоў панскую інквізіцыю!).

Выраз належыць кадэту Ф.І.Родзічаву. 17 лістапада 1907 г. на пасяджэнні Дзяржаўнай думы П. А. Сталыпін заявіў, што яго ўрад і ў далейшым будзе жорстка падаўляць рэвалюцыйны рух у Расіі. Выступіўшы ў спрэчках, Ф.І.Родзічаў сказаў, што рэпрэсіўныя сродкі барацьбы «нашчадкі назавуць, магчыма, сталыпінскім гальштукам». У гады сталыпінскай рэакцыі даволі папулярнымі былі куплеты тыпу: «У нашего премьера Ужасная манера На шею галстуки цеплять…».

**Станавая жыла (станавы хрыбет)** *чаго, чыя. Запазыч. з руск. м.* Самае галоўнае, асноўнае ў чым-н. *Ядром гаспадаркі, яе станавой жылай з'яўляецца, вядома, комплекс па адкорму буйной рагатай жывёлы на 10 000 галоў* (Звязда. 8.07.1987).

Утвораны ў выніку пераасэнсавання тэрміналагічнага словазлучэння, якім у рускім прастамоўі і некаторых гаворках называюць пазваночнік.

**Станавіцца на хвост.** *Гл.* на хвост (на хвасце) станавіцца.

**Станавіцца (стаць; уставаць, устаць) на дыбкі.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* становиться на дыбы, *укр.* ставати на диби; *параўн. у польск. м.:* stanąć dęba). Рэзка пярэчыць, пратэставаць, выяўляць нязгоду. *Даша спачатку станавілася на дыбкі: —Не хачу! Сама нясі, калі маеш ахвоту!* (М. Ракітны. Павадыр).

Узнік шляхам метафарызацыі адпаведнага свабоднага словазлучэння, якое ўжываецца ў дачыненні да каня, сабакі і некаторых іншых жывёл. *На дыбкі* абазначае 'на заднія ногі'. Параўн.: «Падкаваць жарабка сапраўды было цяжка: ён ірваўся з прывязі, спрабаваў стаць на дыбкі, прысядаў, ад страху дрыжала на ім скура» (А. Рылько).

**Станавіцца (стаць) у строй.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Рабіцца дзеючым, працаздольным ці баяздольным. *Ну, што ж, давай, станавіся, як кажуць, у строй… А мы рады вітаць твой прыход…* (В. Дайліда. Буслы над вёскай).

Утвораны на аснове адпаведнага састаўнога тэрміна, які ўжываецца ў маўленні ваенных, дзе слова *строй* абазначае 'воіны, пастроеныя радамі' і 'састаў дзеючай арміі'.

**Стары верабей.** *Агульны для ўсходнесл. (руск.* старый воробей, *укр.* старий горобець) *і польск.* (stary wróbel) *м.* Вельмі вопытны, спрактыкаваны чалавек. *Без хвалявання ў нашай справе нельга. Я, так сказаць, стары верабей, і то хвалююся* (Я. Брыль. На Быстранцы).

Узнік з прыказкі *Старога вераб'я на мякіне не правядзеш* у выніку яе расшчаплення на дзве часткі (гл. *на мякіне не правядзеш).* Значэнне фразеалагізма з'яўляецца часткай агульнага сэнсу той самай прыказкі. На аснове фразеалагізма *стары верабей* утварыўся шляхам мадэліравання выраз *стрэляны верабей*, агульны для бел., руск. (*стреляный воробей)* і ўкр. (*стріляний горобець)* м. — *Глядзі, сцеражыся, дачушка! — Цяпер не пападуся! Цяпер я — стрэляны верабей!..* (І.Мележ. Мінскі напрамак).

**Стары воўк.** *Калька з франц. м* (vieux loup). Вельмі вопытны, спрактыкаваны чалавек. *Раманенка быў стары касмічны воўк: два стагоддзі назад ён пакінуў Зямлю на першым караблі з калясветлавой хуткасцю* (У. Шыцік. Капітан).

Фразеалагізм успрымаецца як матываваны.

**Стаць на дыбкі.** *Гл.* станавіцца (стаць; уставаць, устаць) на дыбкі.

**Стаць на крыло.** *Агульны для бел. і руск. м.* Пачаць весці самастойнае жыццё, зрабіцца самастойным. *Многім выкладчыкам вучоны дапамог стаць на крыло* (ЛіМ. 2.10.1998).

Выраз «птушынага паходжання». Склаўся шляхам мадэліравання — на ўзор фразеалагізма *стаць на ногі*, адно са значэнняў якога тоеснае са значэннем выразу *стаць на крыло.* Параўн. ужыванне гэтага выразу з актуалізацыяй яго ўнутранай формы праз прэпазіцыйнае выкарыстанне дзеяслова *аперыцца* адначасова ў зыходным і пераносным значэннях: «Цяпер, калі ён вырас, калі ён, як кажуць, аперыўся і стаў на крыло, бацька яму не надта і патрэбны» (М.Гіль).

**Стаць на чале** *чаго. Гл.* стаяць (стаць) на чале *чаго.*

**Стаць у строй.** *Гл.* станавіцца (стаць) у строй.

**Стачыць канцы з канцамі.** *Гл.* сточваць (стачыць) канцы з канцамі.

**Стаяць на адным.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Строга прытрымлівацца якой-н. адной думкі, не адступаючы ад яе. *А той малайцаваты загадчык стаяў на адным: — Не было тых грошай у маёй кучы. Не ведаю, дзе яна іх дзела, а цяпер звальвае бяду на мяне…* (А. Пальчэўскі. За парогам).

Узнік у выніку зліцця паасобных значэнняў у агульнае аналітычнае значэнне, якое суадносіцца са словамі *стаяць* і *адно* ў свабодным ужыванні: *стаяць* — 'цвёрда прытрымлівацца чаго-н.' *адно* — 'тое самае'.

**Стаяць на сваім.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Ужыв. са значэннямі ‘строга прытрымлівацца якой-н. адной думкі, не адступаючы ад яе’ і ‘дабівацца выканання сваіх патрабаванняў’. *Доўга прасіў Андрэй ляснічага, але пан быў цвёрды і стаяў на сваім* (Я. Колас. Малады дубок). *Ігар зірнуў на Міколу і прачытаў на яго грубаватым, заўжды нахмураным твары рашучасць стаяць на сваім* (В. Быкаў. Дажыць да світання).

Выраз з агульным аналітычным значэннем. Абодва кампаненты сэнсава суадносяцца з прыватнымі значэннямі адпаведных слоў: кампанент *стаяць* — са значэннем ‘цвёрда прытрымлівацца чаго-н.’, *сваё* — ‘тое, што належыць сабе’.

**Стаяць (стаць) на чале** *чаго. Агульны для бел., укр.* (стояти на чолі), *польск.* (stanąć na czele) *м.* Ужыв. са значэннямі ‘кіраваць чым-н., узначальваць што-н.’ і ‘займаць вядучае месца, пануючае становішча’. *А не знойдзе* [князь] *ваяводу для іх, то я сам стану на чале змагання!* (А. Куляшоў. Хамуціус). *Краіна стане на чале прагрэсу народаў свету!* (І.Гурскі. Вецер веку).

Утвораны шляхам мадэліравання — на ўзор фразеалагізмаў *стаяць на варце* (чаго), *стаяць ля калыскі* (чаго) і інш. і на аснове выразу *на чале* (гл.), дзе *чало* ў першапачатковым значэнні — ‘верх, узвышша’.

**Стоп машына.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Перастаў займацца чым-н., спыніўся. *Івось я паклаў перад сабой стос чыстай паперы, узяў шарыкавую ручку іўжо хацеў пісаць... І раптам — стоп машына! Як жа назваць героя?..* (В. Зуб. Дзве галавы лепш).

Узнік у выніку пераасэнсавання састаўнога тэрміна-каманды, што выкарыстоўваецца ў маўленні маракоў. Параўн.: «— Стоп машына! — раптам загадаў капітан. Валодзя схамянуўся і рвануў ручку тэлеграфа ўніз. „Судак“ скалануўся і павольна загойдаўся на хвалях» (А. Шлег).

**Сточваць (стачыць) канцы з канцамі.** *Уласна бел.* Ужыв. са значэннямі ‘пераадольваючы перашкоды, узгадняць розныя бакі чаго-н., злучаючы іх у адно’ і ‘задавальняць жыццёвыя патрэбы, знаходзячы выйсце з цяжкага становішча’. *Раней саўгасы былі толькіў колішніх маёнтках, а цяпер усе заняпалыя гаспадаркі дзяржава ўзваліла на свае плечы і неяк сточвае канцы з канцамі* (С. Грахоўскі. А маці не спіць). *Падкармлю вось парсюкоў, мо сточым канцы з канцамі на год, а там — бог бацька* (Р. Мурашка. Сын).

Утвораны па мадэлі з ужо існуючым, відаць, скалькаваным з франц. м. фразеалагізмам *зводзіць канцы з канцамі* (гл.). Яго дзеяслоўны кампанент заменены іншым словам, першапачатковае значэнне якога — ‘злучыць шыццём ці звязваннем’.

**Страляць з гарматы (гармат) па вераб'ях.** *Відаць, калька з ням. м.* (mit Kanonen auf Spatzen schlieben, літаральна «з гарматы па вераб'ях страляць»). Траціць шмат сіл, сродкаў на дробязі. *У цябе няма ніякай падставы лічыць, што яны з гармат па вераб'ях страляюць. Яны ўдала спраўляюцца з заданнямі* (І.Новікаў. Тварам да небяспекі).

Відаць, першым з заходнееўрапейскіх пісьменнікаў, хто выкарыстаў гэты выраз, быў франц. драматург Мальер. У камедыі «Школа мужоў» (1661) ёсць гіпербалічнае словазлучэнне *tirer sa poudre axmoineaux* (літаральна «страляць порахам па вераб'ях»). У такой форме выраз фіксуецца і ў сённяшніх франц. слоўніках, паралельна з *tirer aux moineaux* («страляць па вераб'ях»). У ням. м. фразеалагізм атрымаў больш ёмісты вобраз.

**Страха над галавой.** *Гл.* дах (страха) над галавой.

**Страціць галаву.** *Гл.* губляць (згубіць; траціць, страчваць, страціць) галаву.

**Строіць вочкі** *каму. Паўкалька з руск. м.* (строить глазки). Какетліва паглядаць на каго-н. *У мяне, браце, дзяўчына ёсць не раўня гэтай Адэлі. Яна мне вочак не строіць, а то не была б яна мая* (А. Чарнышэвіч. Засценак Малінаўка).

У руск. м. фразеалагізм ужываецца ў двух варыянтах: *делать (строить) глазки.* Можна меркаваць, што ён з'яўляецца недакладнай калькай з *faire les yeux doux* (літаральна «рабіць салодкія вочы»).

**Стрыгчы купоны.** *Паўкалька з франц. м.* (coupon couper, літаральна «купоны адразаць, стрыгчы»). Апрача значэння 'жыць на працэнты з каштоўных папер', найчасцей абазначае 'беспадстаўна мець які-н. набытак, грошы, славу і пад.' *Той, хто бессаромна стрыжэ купоны з ганьбавання традыцый, несумненна дыскрэдытуе сваю творчую прафесію і павінен несці за гэта адказнасць* (Звязда. 8.09.1986).

Узнік у выніку метафарызацыі свабоднага словазлучэння, у якім *купон* рэалізуе сваё зыходнае значэнне 'адразны талон у каштоўных паперах на атрыманне працэнтаў з іх'.

**Стрыжка пад адзін грабянец.** *Уласна бел.* Аднолькавая ацэнка каго-, чаго-н., без уліку адрозненняў. *Тыпізацыя лягчэй выводзіцца пры характарызаванні з 'явы. Што ж, як гаворыцца, да персаналіяў, то тут са стрыжкай пад адзін грабянец складаней* (У. Мехаў. Ва ўсмешцы сандалавай Неферціці).

Утвораны на аснове суадноснага дзеяслоўнага фразеалагізма *стрыгчы пад адзін грабянец* (каго).

**Стрымаць <сваё> слова.** *Гл.* трымаць (стрымаць) <сваё> слова.

**Стрэляны верабей.** *Гл.* стары верабей.

**Стрэляны воўк.** *Агульны для бел. і ўкр. м.* Вельмі вопытны, спрактыкаваны чалавек. *Гардзіенка ляжыць на ложку, паклаўшы забінтаваную галаву на рукі, маўчыць і думае сваю думку, Ён моргае мне адным вокам. Маўчы! Гэта стрэляны воўк* (С. Александровіч. Далёкія зарніцы).

Склаўся ў выніку кантамінацыі — аб'яднання элементаў двух семантычна тоесных фразеалагізмаў: *стрэляны верабей* + *стары воўк* (гл.).

**Стрэчны <і> папярэчны.** *Пайкалька з руск. м.* (встречный и поперечный). Ужыв. са значэннямі 'любы чалавек, які трапіцца' і 'няважна які, любы'. *Чорным груганнём нізрынуліся гітлераўцы на Доўгі Брод... Стралялі стрэчных і папярэчных — усіх пад парадак, усе перад імі былі вінаватыя...* (А. Кандрусевіч. Вайной апаленая памяць). *Вольга і без гэтага дагадалася, што да Пытля дайшла тая чутка ці мо праўда, якую яна расказвала стрэчным і папярэчным бабам* (В. Адамчык. Чужая бацькаўшчына).

Склаўся, відаць, пад уплывам фразеалагізма *першы сустрэчны (стрэчны)* (гл.) — калькі з франц. м. Выкарыстаны адзін з яго кампанентаў, а другі — абумоўлены рыфмай.

**Сунуць палкі ў кола** *каму, чаго. Гл.* ставіць (устаўляць, соваць, сунуць) палкі ў кола *каму, чаго.*

**Сунуць <свой> нос** *куды, у што. Гл.* соваць (сунуць, утыкаць) <свой> нос *куды, у што.*

**Сусветная туга.** *Калька з ням. м.* (Weltschmerz). Крайні песімізм, адчай, расчараванне ў жыдці. *Мною валодала не «сусветная туга», а проста жаданне ўмяшацца ў жыццё і сёе-тое ў ім паправіць* (К. Крапіва. Ад маленства да сталасці).

Аўтарам гэтага выразу, які набыў крылатасць, з'яўляецца ням. пісьменнік Жан-Поль (Рыхтэр); у творы «Селіна, або Пра неўміручасць душы» (1825) ён ужыў гэтыя словы як перыфразу да «бясконцых людскіх пакут». Спачатку выраз выкарыстоўваўся ў літаратуразнаўстве, калі гаворка ішла пра песімістычны настрой, уласцівы творчасці пісьменнікаў-рамантыкаў канца XVIII — пачатку XIX ст. З цягам часу выраз пашырыў сваю дастасавальнасць і атрымаў больш шырокі сэнс — 'адчай, расчараванне'.

**Схаваць канцы ў ваду.** *Гл.* хаваць (схаваць) канцы ў ваду.

**Сцежка зарасла (зарастае, зарасце).** *Пайкалька з руск. м.* (тропа заросла). Хто-н. ці што-н. забыты (забыта). *Змітрок, глядзі, каб зарасла сцежка да Анэты* (В. Гарбацэвіч. Максім Саравітан). *Тады Мялешка казаў прамову, абяцаў, што да камісаравай магілы ніколі не зарасце сцежка* (А. Асіпенка. Два дні і дзве ночы).

Выраз з верша А. С. Пушкіна «Помнік» (1836), дзе аўтар верыць, што да яго нерукатворнага помніка «не зарастет народная тропа».

**Сценка на сценку.** *Запазыч. з рус. м.* Адзін на аднаго групамі (хадзіць, сыходзіцца ў кулачным баі). *І ў гэтай цясніне пачалося сапраўднае лядовае пабоішча. Кулачны рускі бой. Сценка на сценку* (В. Казько. Бунт незапатрабаванага праху).

Як засведчана ў працы І.М. Снегірова, у кулачным баі байцы размяркоўваліся на два бакі. Спачатку баі пачынала моладзь, пасля жанатыя, нарэшце, баі рабіліся агульнымі — ішлі сценка на сценку.

**Сшыта белымі ніткамі.** *Гл.* шыта (сшыта) белымі ніткамі.

**Сыграць другую скрыпку.** *Гл.* іграць (сыграць) другую скрыпку.

**Сыпаць бісер (перлы) перад свіннямі.** *Пайкалька з царк. — слав. м.* Дарэмна гаварыць пра што-н. ці даказваць таму, хто не здольны або не хоча зразумець што-н. *Я ведаў — яны* [местачковыя бароны] *ненавідзяць новае. Навошта перад свіннямі сыпаць перлы? І ўсё ж я ўстаў і абрушыўся словам на гэту прыбраную зграю памерлых...* (У. Караткевіч. Калумбы зямлі беларускай).

Выток фразеалагізма — Евангелле: «Не рассыпайце бісеру вашага перад свіннямі, каб яны не патапталі яго нагамі сваімі» (Матфей, 7, 6).

**Сыр-бор.** *Агульны для бел. і рус. м.* Шум, неразбярыха, перапалох. *Хто іх, маладых, разбярэ, з-за аднаго позірку могуць такі сыр-бор развесці, а з-за слова — тым болей...* (В.Гігевіч. Варыянт).

Паводле паходжання гэта фрагмент прэдыкатыўнага фразеалагізма са структурай сказа *сыр-бор разгарэўся* з-за каго, з-за чаго, праз каго, з чаго (гл. ніжэй).

**Сыр-бор разгарэўся** *з-за каго, з-за чаго, праз каго, з чаго. Агульны для бел. і рус.* (сыр-бор загорелся) *м.* Падняўся шум, перапалох, распачалася справа. *Вясною эмтээсаўскі аграном прыехаў у «Прамень» абмяркоўваць план сяўбы. Усё ішло добра, а як да пшаніцы дайшлі,— разгарэўся сыр-бор* (А. Пальчэўскі. Гаспадары).

Паходзіць з прыказкі *Ад іскры сыр-бор загарэўся* (яе падаюць У. Даль, М.Міхельсон, Я. Рапановіч; параўн. у С. Максімава: *Разгорелся сыр-бор из-за сосенки). Сыр* — старажытны кароткі прыметнік у сваёй пачатковай форме *(сыр-бор* — «сыры бор»).

**Сысці са сцэны.** *Гл.* сыходзіць (сысці) са сцэны.

**Сыходзіць (сысці) са сцэны.** *Відаць, калька з англ. м.* (quit the stage). Ужыв. са значэннямі ‘пераставаць выконвацца (пра п’есу, драму і пад.)’, ‘траціць сваё значэнне, пераставаць

адыгрываць ранейшую ролю’, ‘адыходзіць ад якой-н. дзейнасці’ і ‘пераставаць існаваць, паміраць’. *Некаторыя з гэтых п’ес.. заслужана карыстаюцца папулярнасцю ў народзе, і яны не сыходзяць са сцэны тэатраў* (А. Макаёнак. Аб некаторых пытаннях беларускай драматургіі). *Абломкі эксплуататарскіх класаў.. вымушаны сысці са сцэны, каб назаўсёды адысці ў нябыт* (К. Крапіва. Выдатны пісьменнік і чалавек). — *Не, проста так са сцэны не сыду! — ганарліва прамовіў услых Гаўрыла* (Я. Каршукоў. Тэлевізійная прэм’ера). *Чалавек памірае ці сыходзіць са сцэны, а справы яго прадаўжаюць жыць* (У. Дамашэвіч. Я шукаю бацьку).

Выраз у яго першым значэнні ўтвораны шляхам пераасэнсавання свабоднага словазлучэння, характэрнага для маўлення акцёраў. Іншыя значэнні склаліся ў выніку паўторнай метафарызацыі зыходнага словазлучэння.

**Сыход са сцэны.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Адыход ад былой дзейнасці. *Мацёры палітычны ігрок трапна выбраў момант для сыходу са сцэны: да ўлады тады ўпершыню прыйшлі правыя на чале з тым жа Вітасам* (У. Калеснік. Пасланец Праметэя).

Вытворны ад суадноснага дзеяслоўнага фразеалагізма *сыходзіць са сцэны* (гл.), адно са значэнняў якога — ‘адыходзіць ад якой-н. дзейнасці’.

*Пакуль* **сэрца б’ецца (будзе біцца)** <*каго*>. *Калька з франц. м.* (tant que le coer me battra, літаральна «пакуль сэрца ў каго-н. б’ец-ца»). Хто-н. жывы, жыве, існуе. *Горад і краіна не паміраюць, пакуль б’ецца сэрца хаця аднаго іхняга сына ці дачкі* (У. Караткевіч. «Мой се градок!»).

Узнік у выніку метанімічнага пераносу, заснаванага на сумежнасці з’яў прычынна-выніковага характару.

**Сэрца кроіцца** ў каго, *ад чаго. Уласна бел.* Каму-н. нязносна цяжка ад душэўнага болю за што-н., хто-н. моцна перажывае за што-н. *Спавілася бацькаўшчына наша страхоццем і жахам навокала. Кроіцца сэрца ад жалю і болю…* (Я. Лёсік. Эканамічны заняпад Дзяржавы Расійскай).

Структурна арганізаваны як двухсастаўны сказ, фразеалагізм утварыўся на базе суадноснага дзеяслоўнага *кроіць сэрца* каму, чыё (гл.).

**Сядзець на двух крэслах.** *Уласна бел.* Ужыв. са значэннямі ‘займаць няпэўную, няясную пазіцыю, прытрымліваючыся розных, несумяшчальных пунктаў гледжання’ і ‘займаць адначасова дзве пасады’. *Апартэід і сапраўды сурова асуджаўся амаль усімі — за асобнымі выключэннямі — дзяржавамі. Але вось што датычыць ЗША, то яны і тут спрабавалі сядзець на двух крэслах* (А. Вярцінскі. Дзве дыпламатыі на паверку). *Рэкламы мне не трэба, Антон Ягоравіч, не дзеля яе я пайшоўу калгас, мяне*

*турбуюць іншыя рэчы. Перш за ўсё я не маю яшчэ сабе замены ў эмтэс, сяджу на двух крэслах* (Т. Хадкевіч. Даль палявая).

У аснове фразеалагізма — нерэальны вобраз. Магчыма, выраз склаўся пад уплывам франц. *être assis entre deux chaises* (літаральна «сядзець паміж двух крэслаў»), які ў сэнсавых адносінах супадае з першым значэннем фразеалагізма *сядзець на двух крэслах.*

**Сядзець на шыі (на карку, на гарбе)** *чыёй, у каго, каго, Агульны для ўсходнесл. м.* Знаходзіцца, быць на чыім-н. забеспячэнні, утрыманні. *У маім узросце бацька ўжо цэлую сям'ю карміў, хату пабудаваў, іншыя людзі навуковыя адкрыцці паспелі зрабіць, а я? Сяджу ў бацькоў на шыі…* (А. Карпюк. Данута).

У аснове фразеалагізма — гіпербалізаваны вобраз.

**Сядзець склаўшы (злажыўшы) рукі.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Нічога не рабіць, бяздзейнічаць. *Атака захлынулася, і паўтараць яе не было сэнсу. А сядзець склаўшы рукі — злачынства перад рэвалюцыяй, перад таварышамі, якія гінулі ў горадзе* (С. Грахоўскі. Рудабельская рэспубліка).

Узнік у выніку пераасэнсавання свабоднага словазлучэння, напрыклад: «Маці сядзіць, склаўшы рукі,— простая, акамянеўшая і глядзіць на абраз, вусны яе нешта шэпчуць…» (В. Каваль). Магчыма, у аснове фразеалагізма, як мяркуе П. Сцяцко, «вобраз намаляваных на іконах святых са складзенымі пэўным чынам (згорнутымі) рукамі». Параўн. у зборніку Я. Рапановіча «Беларускія прыказкі, прымаўкі і загадкі»: *сядзіць, рукі злажыўшы, як святы.* Або: «— Баюся: трэба чакаць горшага… — Дачакаемся! Калі будзем сядзець, як бажкі! Склаўшы рукі…» (І.Мележ).

**Сякера пад лаўкай (лавай).** *Уласна бел.* Не знаходка, не адкрыццё, даўно вядомая рэч, з'ява, факт і пад. *Сякера пад лаўкай! — Скарупкаў «Slownik fraseologiczny», які так доўга чакаў маёй пільнейшай увагі* (Я. Брыль. Дзевяноста чацвёрты).

Узнік унутрыфразеалагічным спосабам — на аснове выклічнікавага выразу *знайшоў сякеру (тапор) пад (за) лаўкай* (гл.). Параўн. у М. Федароўскага: «На Палессі кажуць: От нахадка: тапор за лаваю».

**Сякі-такі нямазаны (такі-сякі нямазаны).** *Агульны для ўсходнесл. м.* Выраз, які ўжыв. замест разгорнутай характарыстыкі ці ацэнкі каго-н., звычайна адмоўнай. *[Жлукта: ] Хацеў бы я яшчэ зайсці да таварыша Бывалава… Перадайце яму прывітанне. Скажыце, што прыехаў сякі-такі нямазаны* (К. Крапіва. Мілы чалавек).

Утвораны на аснове фразеалагізмаў *сякі-такі, такі ды сякі* шляхам пашырэння іх кампанентнага складу словам *нямазаны,* якое першапачаткова, відаць, усведамлялася як «не мазаны мірам

у часе хрысціянскага абраду памазання» або як «няхры шчаны», «непрычашчоны». У «Зборніку беларускіх прыказак» І.І.Насовіча пададзены ў форме *такі-сякі сухі, нямазаны.*

**Сямі пядзяў у лбе.** *Паўкалька з руск. м.* (семи пядей во лбу). Вельмі разумны, здольны, здатны. *Як ні дзіўна, сярэдневяковае праваслаўе страшэнна абыякавае да творцы, да асобы, якая на яго працавала, да дойліда, майстра фрэскі і іконы, разьбяра. І так паўсюль. Трэба быць сямі пядзяў у лбе, каб заслужыць на ўпамінанне* (УКараткевіч. Дыяментны горад).

Узнік на аснове ўяўленняў, што высокі лоб — прымета вялікага розуму. *Пядзя* — даўнейшая мера даўжыні, роўная адлегласці паміж канцамі расцягнутых вялікага і ўказальнага пальцаў, г. зн. 18–20 см. Выраз засноўваецца на прыёме гіпербалы (сем пядзяў — гэта амаль паўтара метра). Фразеалагізмы з падобным гіпербалізаваным вобразам ёсць у некаторых раманскіх мовах: румынскай *(eu sapta palme in frunte*, літаральна «з сямю пядзямі ў лбе»), іспанскай *(tener mas de dos palmos de frente*, літаральна «мець больш як дзве пядзі ў лбе»).

# Т

**Табаку важыць.** *Уласна бел.* Драмаць седзячы ці стоячы, то апускаючы, то падымаючы галаву. *Што ты, табаку важыш? Ідзі ды кладзіся спаць. Гэта ж табе тут не карчма!* (Я. Купала. Паўлінка).

Узнік з аманімічнага свабоднага словазлучэння ў выніку яго метафарызацыі на аснове падабенства з'яў «Табаку важылі на маленькіх шаліках, вельмі адчувальных нават ад шчопця табакі» (Ф. Янкоўскі), яны доўга хадзілі то ўверх, то ўніз, пакуль не ўсталёўвалася раўнавага.

Так бы мовіць. *Запазыч. з укр. м.* (так би мовити). Калі можна так выказацца. *Я ўжо даўно мінуў той дзіцячы ўзрост, пазбавіўся, так бы мовіць, ланцугоў чароўнага і, шчыра кажучы, трохі жорсткага туману…* (А. Асташонак. Драматургічныя тэксты).

Гэта нядаўкяе запазычанне ўжываецца ў нашай мове паралельна з сінанімічным выразам *так сказаць*.

**Так трымаць!** *Пайкалька з руск. м.* (так держать). Заклік ці пажаданне і надалей прытрымліваецца ранейшай лініі паводзін. *Малайчына, Андрэй, так трымаць, я ведаў, што ты не здасіся ўсякім жыццёвым перыпетыям* (І.Капыловіч. Калі трэба жыць).

Паходзіць з маўлення маракоў, дзе «Так держать!» — каманда рулявому на судне, па якой ён павінен утрымліваць ход карабля па зададзеным курсе. Параўн. выкарыстанне фразеалагізма з паказам на сферу яго першапачатковага ўжывання: «Пылец па-сяброўску ляпае Алеся па плячы: — Так трымаць, старшына! Гэтак, здаецца, па-флоцку?» (І.Шамякін).

**Танцаваць ад печы (ад печкі).** *Запазыч. з руск. м.* Пачынаць з самага прывычнага, паўтараючы ўсе дзеянні з самага пачатку. *Мне, Гарасім Сямёнавіч, здаецца, што я танцую, як кажуць, ад печы. Нешта хочацца знайсці такое… зразумець, чаму ўсё ж дзяўчына вярнулася з горадаў вёску* (У. Саламаха. Напрадвесні).

Выраз з рамана В. А. Сляпцова «Добры чалавек» (1871). У адным з эпізодаў герой рамана Церабенеў успамінае, як яго, малога, калісьці вучылі танцаваць. Пачынаючы танец ад печкі, хлопчык збіваецца з такта і спыняецца. Настаўнік танцаў зноў вяртае хлопчыка да печкі, зноў усё пачынаецца спачатку. Праз пятнаццаць гадоў Церабенеў вяртаецца на радзіму пасля бясплённых блуканняў па Еўропе і са страхам думае, што

прыйдзецца пачынаць жыццё спачатку. «Чаго я еду ў Расію? — раптам з жахам падумаў ён. — Гэта я вяртаюся да печкі!..»

**Танталавы мукі (пакуты).** *Гл.* мукі Тантала.

**Таптанне на месцы.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Адсутнасць развіцця, руху наперад. *[Язва: ] Пара канчаць гэту камедыю. Іначай будзе таптанне на месцы, чаго глядач цярпець не можа* (К. Крапіва. Мілы чалавек).

Вытворны ад суадноснага дзеяслоўнага фразеалагізма *таптацца на <адным> месцы* 'не рухацца наперад, не развівацца, не ўдасканальвацца'.

**Таптанне ў гразь** *каго, чаго. Гл.* утоптванне (таптанне) у гразь *каго, чаго.*

**Таптацца ў гразь.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Усяляк прыніжацца, знеслаўляцца, зневажацца. *У краіне, дзе верхаводзяць «праваслаўныя атэісты», тысячагадовыя традыцыі мудрых продкаў топчуцца ў гразь* (С. Кліменценка. Не згасайце, свечкі памяці).

Утвораны ад фразеалагізма *таптаць у гразь* (каго, што) — выразу з жывой унутранай формай.

**Таптаць (утоптваць; утаптаць) у гразь** *каго, што. Калька з франц. м.* (saucer dans la boue). Усяляк чарніць, прыніжаць, знеслаўляць каго-, што-н., зневажальна адзывацца, несправядліва абвінавачваючы. *Як з «хамамужыка» ў палацах умела панства пасмяяцца! Як твае думы, тваё слова ў гразь таптала адмыслова!* (Ю. Свірка. Хат вячысты дар).

Вобразнае ўяўленне, якое спадарожнічае фразеалагічнаму значэнню, усведамляецца даволі выразна. Адчуваецца і гіпербалічнасць у супастаўленні з'яў.

**Тармазы адказваюць** *у каго. Агульны для бел. і руск.* (тормоза срываются) *м.* Хто-н. страчвае кантроль над сваімі дзеяннямі, учынкамі. *Мабыць, многія чулі, як юнак, які зрабіў нешта кепскае, апраўдваецца: «Адказалі тармазы… Быў п'яны»* (Маладосць. 1988. № 2).

Паходзіць з маўлення шафёраў.

**Таўчы ваду ў ступе.** *Гл.* ваду ў ступе таўчы.

**Тачыць зубы** *на каго, на што. Гл.* вастрыць (тачыць) зубы *на каго, на што.*

**Тачыць (патачыць) лясы (балясы)** *з кім. Агульны для ўсходнесл. м,* Займацца пустымі размовамі, пустасловіць. *Ёй* [бабулі] *няма часу з намі тачыць лясы — трэба бульбу перабраць: што варыць, што на насенне* (І.Сяркоў. Мы з Санькам у тыле ворага).

Прынята лічыць, што фразеалагізм склаўся ў выніку пераасэнсавання свабоднага словазлучэння *тачыць балясы,* г. зн.

выточваць, апрацоўваць з дрэва фігурныя слупкі (балясы), якія ішлі на ўпрыгожванне лесвічных поручняў. Майстры, выконваючы гэту няцяжкую работу, займаліся вясёлымі размовамі, пустасловілі. Ёсць і другое меркаванне пра паходжанне фразеалагізма; на думку В. М. Макіенкі, выраз на пачатку свайго існавання меў агульнае аналітычнае значэнне: кампанент *тачыць* суадносіўся са значэннем ‘выконваць’, а кампанент *балясы* — са значэннем ‘пустыя размовы’.

**Толькі (аднаго) птушынага малака няма (не хапае, бракуе)** у *каго, дзе. Агульны для ўсходнесл. (руск.* только нет птичьего молока, *укр.* тільки пташиного молока нема) *і польск.* (brakuje *komu* tylko ptasiego mleka) *м.* Усяго ўволю, удосталь. *І пажылі ж мы з Нэлечкай — ёсць што ўспомніць! Можна сказаць, аднаго птушынага малака бракавала* (І.Аношкін. Дружбакі).

Склаўся на аснове фразеалагізма *птушынае малако* (гл.).

**Трапіць да Абрама на піва.** *Гл.* да Абрама на піва трапіць.

**Трапіць (папасціся, улезці) у нерат.** *Уласна бел.* Апынуцца ў безвыходным, непрыемным ці няёмкім становішчы. *Зморaныя чырвонаармейцы прыпыніліся ў невялікім маёнтку. Трэба было адпачыць і агледзецца, каб не трапіць у нерат* (С. Грахоўскі. Рудабельская рэспубліка).

Узнік з прыказкі *Трапіў у нерат — ні ўзад ні ўперад,* у якой першапачаткова мелася на ўвазе рыба. Скарочаны варыянт пашырыў сваю спалучальнасць, уступае ў сінтаксічную сувязь, не заўсёды ўласцівую прыказцы.

**Трапіць у <самы> яблычак.** *Гл,* пацэліць (патрапіць, трапіць) у <самы > яблычак.

**Трапляць (трапіць; пападацца, папасціся) на вудачку (на кручок)** *каму, да каго. Агульны для ўсходнесл. м.* Даваць сябе падмануць, ашукаць. *У мяне пасля балелі мышцы жывата — ад натугі, каб не зарагатаць ад таго, як траплялі на вудачку паважаныя сталыя людзі* (І.Шамякін. Тайна драмы).

Узнік шляхам пераасэнсавання свабоднага словазлучэння, якое ў маўленні рыбакоў ужываецца з прамым значэннем слоў.

**Трапляць (трапіць) у пераплёт.** *Паўкалька з руск. м.* (попадать в переплет). Аказвацца ў цяжкім, небяспечным ці непрыемным становішчы. *Рыхлінскі зразумеў, у чым справа, не раз трапляў у пераплёт, хацеў крычаць, але мужчыны (гэта былі партызаны) заткнулі яму рот* (І.Гурскі. Вецер веку).

Утварыўся ў выніку пераасэнсавання свабоднага словазлучэння, у якім словам *пераплёт,* паводле В. М. Макіенкі, называлі сплеценую з жэрдак пастку для лоўлі рыбы.

**Траціць галаву.** *Гл.* губляць (згубіць; траціць, страчваць, страціць) галаву.

**Трашчаць (затрашчаць) па <усіх> швах.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Знаходзіцца пад пагрозай краху, развалу, распаду, зрыву. *Рабочыя планы ў гаспадарцы цяпер трашчаць па ўсіх швах і толькі таму, што аднесліся да іх распрацоўкі фармальна* (Звязда. 3.08.1986).

Утвораны ў выкіку метафарызацыі свабоднага словазлучэння, якое ўжываецца ў дачыненні да адзення, калі яно не падыходзіць каму-небудзь з-за малога памеру.

**Траянскі конь.** *Калька з грэч. м.* Мае значэнні ‘ашуканства, хітры падман’ і ‘чалаaек, які са здрадніцкімі намерамі дабіваецца чыйгосьці давер’я, выдае сябе не за таго, кім з’яўляецца на самай справе’. *У вясковай ночнай цішыні дагараў клуб — гэты траянскі конь графа Ельскага* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *[Ягадка: ] Калі быў таварыскі суд, вы назвалі яго пры ўсіх траянскім… жарабцом. [Ізабела: ] Даруйце, у вас недакладна запісана. Я назвала яго траянскім канём* (М. Матукоўскі. Амністыя).

Паводле старажытнагрэчаскага эпасу, пасля дзесяцігадовай асады грэкі хітрасцю авалодалі горадам Троя. Яны сказалі, што пакідаюць горад, падарылі траянцам вялізнага драўлянага каня і адплылі на суседні востраў. Каб уцягнуць каня ў крэпасць, траянцы разбурылі частку сцяны. Ноччу з каня выйшлі схаваныя там воіны-грэкі, перабілі варту, адчынілі гарадскія вароты і ўпусцілі войска, што вярнулася з вострава. Троя была ўзята і разбурана.

**Труса святкаваць.** *Паўкалька з руск. м.* (труса праздновать). Баяцца, палохацца. *Кабакоў ціха прызнаўся: —Баюся… — Лейтэнант Самохін, ён што — заўсёды ў вас труса святкуе? — Ды быццам не. Не прыкмячалася* (В. Быкаў. Яго батальён).

Склаўся як своеасаблівая пародыя на словазлучэнні са святцаў (тыпу *святкаваць Вялікдзень, святкаваць імяніны).* Сэнсаўтваральным тут выступае назоўнікавы кампанент са значэннем ‘баязлівец’.

**Тры карабы** *нагаварыць, наплесці* і пад. *Паўкалька з руск. м.* (с три короба). Вельмі многа і абы-чаго. *Чаго ты абыходзіш мяне? І табе ўжо напляў тры карабы?* (У. Карпаў. За годам год).

Паходзіць з прыказкі *Приехала баба из города, привезла вестей с три короба.* Як сведчыць У.І.Даль, *короб* і ў прыказцы, і ў яе «абломку» ўжыты з даўнейшым значэннем ‘павозка, воз, калёсы’. У бел. м. фразеалагізм выкарыстоўваецца і ў форме *сем карабаў:* «А цяпер спі, а то я табе нагаварыла сем карабаў. Прабач старую» (А. Васілевіч. У прасторы жыцця).

**Трымай кішэнь(-і) шырэй.** *Паўкалька з руск. м.* (держи карман шире). Не спадзявайся, не разлічвай на што-н., не чакай

чаго-н. *[Цыганок: ] Дык вы яму верце, што пан хоча нам добрае дзела зрабіць! Трымай кішэні шырэй! Аддасць ён зямлю!* (М. Грамыка. Змітрок з Высокай Буды).

Выраз грунтуецца на іранічным асэнсаванні адпаведнага словазлучэння, у якім, як мяркуюць, слова *карман* мела даўнейшае значэнне ‘мяшок’.

**Трымацца абедзвюма рукамі** *за каго. Уласна бел.* Высока цаніць каго-н., даражыць кім-н. *А ты, дурань, падумала* [Антаніна] *пра Аляксея, замест таго, каб абедзвюма рукамі трымацца за такую прыгажуню, яшчэ круціш носам...* (Я. Радкевіч. Антаніна).

Утварыўся на аснове свабоднага словазлучэння ў выніку яго пераасэнсавання, пераносу дзеяння з неадушаўлёных прадметаў на чалавека.

**Трымацца на адлегласці** *ад каго, з кім. Агульны для ўсходнесл. і польск, м. (руск.* держаться на почтнтельном расстоянии *от кого, укр.* триматися на <значній> відстані *від кого, польск.* trzymać się w <pewnei> odległosci *od kogo).* Не ўступаць у блізкія адносіны, сувязі з кім-н. *Сурміла трымаўся на адлегласці з падначаленымі, раўніва клапаціўся пра свой аўтарытэт...* (В. Блакіт. Шануй сваё імя).

Утвораны ад фразеалагізма *трымаць на адлегласці* (каго) — недакладнай калькі з франц. м. (гл.).

**Трымаць вуха востра.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* держать ухо востро, укр. тримати вухо гостро). Ужыв. са значэннямі ‘апасаючыся чаго-н., быць вельмі пільным, быць напагатове’ і ‘не давярацца каму-н., быць асцярожным з кім-н.’. *Стан рэчаў быў такі, што трэба трымаць вуха востра, каб не папасціся бязглузда ў панскія рукі* (Я. Колас. Дрыгва). *[Туміловіч: ] Гэта такія людзі, Аўдоцця Захараўна, што з імі трэба трымаць вуха востра* (К. Крапіва. Пяюць жаваранкі).

Узнік у выніку пераасэнсавання свабоднага словазлучэння, пераносу на чалавека дзеянняў, звычак, напрыклад, каня ці сабакі, якія пры адчуванні небяспекі востра трымаюць вушы, прыслухоўваюцца.

**Трымаць на адлегласці** *каго. Недакладная калька з франц. м.* (tenir a distance respectueuse, літаральна «трымаць на значнай адлегласці»). Пазбягаць блізкіх адносін, сувязей з кім-н. *[Майстар: ] Ты не адзін раз казаў мне, што вучняў трэба трымаць на адлегласці. Ці не ў гэтым твая памылка?* (А. Кобец-Філімонава. Агні за перавалам).

Узнікненне фразеалагізма звязана з правіламі этыкету, паводле якіх неабходна было знаходзіцца на пэўнай адлегласці ад караля і іншых важных асоб.

**Трымаць нос па ветры.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* держать нос по ветру, *укр.* тримати ніс по вітру). Вобразная назва беспрынцыповых дзеянняў і паводзін тых, хто прыстасоўваецца да абставін, мяняе свае погляды, перакананні. *Не ў яго звычцы прыкідвацца, лаўчыць, «трымаць нос па ветры»* (Г. Бураўкін. Ён прыйшоў з вайны…).

Выраз увайшоў у літаратурны ўжытак з мовы маракоў, дзе яго першапачатковае значэнне было канкрэтнае: да з'яўлення параходаў, у перыяд паруснага флоту, увесь час неабходна было трымаць нос карабля па ветры.

**Трымаць порах сухім.** *Калька з англ. м.* (keep one's powder dry). Быць пільным, быць у баявой гатоўнасці. *Вораг гатоў выкарыстаць любую нашу слабасць, любы зручны момант. Гэта абавязвае нас быць увесь час напагатове, трымаць порах сухім* (І.Мележ. Завеі, снежань).

Узнікненне выразу звязваецца з імем Олівера Кромвеля — кіраўніка англійскай буржуазнай рэвалюцыі XVII ст. Калі яго войска павінна было фарсіраваць раку, ён нібыта сказаў: «Спадзявайцеся на Бога, але порах трымайце сухім».

**Трымаць руку на пульсе** *чаго. Паўкалька з руск. м.* (держать руку на пульсе). Быць у курсе падзей, сочачы за іх развіццём. *Паэт трымаў руку на пульсе часу, апяваў жыццё ў яго перспектыве…* (Ю. Свірка. «Прымі мой зорны спеў…»).

Утвораны на базе састаўнога медыцынскага тэрміна ў выніку яго пераноснага ўжывання.

**Трымаць (стрымаць) <сваё> слова.** *Калька з франц. м.* (tenir <sa> parole). Выконваць абяцанне. *Скончылі працу, гаспадар стрымаў сваё слова, і вячэра была сытая і смачная* (У. Дамашэвіч. Дзявочая клятва).

**Трымаць хвост трубой (дудой).** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* держать хвост трубой, *укр.* тримати хвіст трубою). Трымацца ўпэўнена, з гонарам, не баючыся, не сумуючы. *Хадзем, браце, апранацца, наводзіць глянец. Як сябе ні адчуваеш, а, як той казаў, хвост трэба трубой трымаць* (Р. Сабаленка. Пчаліны мёд).

Утварыўся ў выніку пераасэнсавання свабоднага словазлучэння, якое з прамым значэннем слоў ужываецца ў дачыненні да некаторых жывёл (напрыклад, сабакі ці ваўка).

**Трымаць язык за зубамі.** *Калька з ням. м.* (die Zunqe im Zaum halten, літаральна «язык за зубамі трымаць»). Нічога не гаварыць лішняга, быць асцярожным у выказваннях; маўчаць, калі трэба. *Сеня адмовіўся* [адказваць], *можа, таму, што яму толькі што загадалі «трымаць язык за зубамі»* (І.Шамякін. Трывожнае шчасце).

У многіх навуковых працах сцвярджаецца, што гэты выраз «уласна рускі» і з'яўляецца вынікам скарачэння прыказкі «Ешь пирог с грибами, а язык держи за зубами». Часам да гэтага дадаюць яшчэ і сюжэтны аповед з часоў імператрыцы Лізаветы Пятроўны. Думаецца, аднак, што гэты выраз склаўся ў немцаў і ў яго аснове — нерэальны вобраз, звязаны з языком як органам маўлення. Параўн. іншыя сінанімічныя фразеалагізмы: *трымаць язык на прывязі, трымаць язык на замку, прытрымліваць язык.* Параўн. і ў франц. м.: *tenir sa lanque* (літаральна «трымаць язык»).

**Трын-трава** *для каго, каму. Запызыч. з руск. м.* Не заслугоўвае ніякай увагі, не мае значэння, не хвалюе каго-н. *Звінела б тая струна ды брала нас за жывое! Астатняе ўсё — нажыўное, астатняе ўсё — трын-трава!* (А. Вярцінскі. Запаветная струна).

Лічаць, што неўжывальнае па-за фразеалагізмам слова *трын* — фанетычнае змяненне *крын* (грэч.) 'кветка лілея'. У руск. помніках XVIII ст. сустракаецца тэрміналагічнае спалучэнне *крин-трава* як батанічна-ўрачэбнае абазначэнне лекаў ці лекавай сыравіны. Параўн. іншыя падобныя ўтварэнні: *сон-трава, размарын-трава.* Спалучэнне магло фразеалагізавацца ў маўленні ўрачоў ці знахароў, а фанетычнае пераўтварэнне адбылося, відаць, пад уздзеяннем пачатковага *т* у слове *трава.* Выраз ёсць і ў І.Насовіча — у такой форме: *трынь трава.* З мяккім *н*, але ў напісанні праз злучок сустракаецца ў З. Бядулі («Усё рэшта — трынь-трава»), Я. Коласа («Усё гэта трынь-трава»).

**Трыццаць срэбранікаў (сярэбранікаў).** *Пайкалька з царк. — слав. м.*(параўн. у «Трыёдзі поснай», спіс XI ст.: «Продаеши на трьхъ десятехъ серебрышщехъ»). Ужыв. са значэннем 'плата за здраду, цана здрады'. *[Мігуцкі:] Падумайце. Лібрэта гатова. Ганарар — трыццаць... [Гудовіч* (падхоплівае):*]Срэбранікаў* (К. Крапіва. З народам).

Паходзіць з евангельскай прытчы (Матфей, 26,15) пра Юду Іскарыёта, які прадаў свайго настаўніка Ісуса Хрыста за трыццаць срэбранікаў. Каб стражнікі ведалі, хто з дванаццаці Ісус і каго трэба схапіць, Юда падышоў і пацалаваў яго.

**Тры чвэрці *да смерці.*** *Уласна бел.* Зусім нядоўга (да смерці засталося каму-н.). *Камісар... Камісар... Што з табою робіцца? Вазьмі сябе ў рукі... Мо тры чвэрці да смерці, а ты...* (П.Місько. Мора Герадота).

У гэтым фразеалагізме этымалагізацыі патрабуюць яго кампаненты. *Чвэрць* — тут тое самае, што *пядзя.* І хоць працягласць жыцця ніхто не вымярае на чвэрці, аднак у фразеалагізмах з унутранай рыфмай часам бываюць такія лагічныя і моўныя «анамаліі». А чаму *тры,* а не *дзве?* Бо лік *тры*

адзін з улюбёных у народнай фразеалогіі, як і ў фальклоры (параўн.: *да трох не гавары, у тры пагібелі, на тры сажні пад зямлёй* і г.д.).

**Трышкаў кафтан (каптан).** *Паўкалька з руск. м.* (тришкин кафтан). Непапраўнае становішча, сітуацыя, калі з ліквідацыяй адных недахопаў непазбежна ўзнікаюць другія. *Зрэшты, я ведаю: гэта, лечачы лёгкія, я пасадзіў сэрца. Пракляты трышкаў каптан! Дранае ашмоцце, а не здароўе!* (В. Быкаў. Мёртвым не баліць).

Выраз з аднайменнай байкі (1815) І.А. Крылова. У ёй гаворыцца, як Трышка, каб палапіць прадзёртыя локці кафтана, абрэзаў рукавы, а каб надтачыць рукавы, абрэзаў полы і канчаткова сапсаваў свой кафтан. У баечнай маралі выраз ужыты ў іншасказальным значэнні; ён дастасаваны да асоб, якія, заблытаўшы свае справы, так іх папраўляюць, што ў выніку «ў трышкавым кафтане франціць».

**Туман у вочы.** *Гл.* пыл (туман) у вочы.

**Турусы на калёсах.** *Відаць, недакладная паўкалька з італ. м.* (turres ambulatoriae, літаральна «турусы рухомыя, якія ходзяць»), Бязглуздзіца, балбатня, небыліцы. *[Голас з грамады: ] Разводзь, разводзь, доўгавалосы, турусы на калёсах!* (Я. Колас. На шляхах волі).

Турусамі ў старажытнасці называлі вялікія перасовачныя вежы для асады крэпасцей. Многія не верылі ў існаванне такіх асадных машын і гаворку пра іх успрымалі як лухту. Выраз фіксуецца ў «Зборніку беларускіх прыказак» І.І.Насовіча: *гоніць турусы на калёсах* ‘гаворыць бязглуздзіцу’.

**Тысяча і адна ноч.** *Калька з ням. м.* (Tausendundeine Nacht). Штосьці дзіўнае, незвычайнае, казачнае. *Яна* [гід] *не стараецца здзівіць тысяччу і адной ноччу: «Венецыя-Венецыя, ну і што? Знайшлі чаму здзіўляцца»* (С. Астравец. Венецыя).

Паходзіць ад назвы зборніка арабскіх казак. Кніга пад такой назвай (з казкамі і апавяданнямі народаў Усходу) канчаткова склалася ў Егіпце (XIV–XV стст.) і была перакладзена на многія раманскія, германскія, славянскія і іншыя мовы.

**Тэт-а-тэт.** *Запазыч. з франц. м.* (tête-a-tête). Без сведак, без пабочных асоб, удвух з кім-н. (гаварыць, пагаварыць, спытаць і пад.). *Далікатнасць сітуацыі вымагала гаворкі з ім, як кажуць французы, тэт-а-тэт* (С. Законнікаў. Ліёнскі тыдзень).

Літаральны пераклад франц. выразу — «галава да галавы».

# У

**У абдымкі (абдоймы) Марфея** *ісці, пайсці* і пад. *Паўкалька з англ. м.* (in the arms of Morpheus). Спаць. *Я проста скептык, якому да таго ж вельмі хочацца спаць і які не дачакаецца сустрэчы са Швальбе, каб пасля адправіць яго да д'ябла, пачытаць штосьці з твораў тутэйшых паэтаў... І пайсці ў абдоймы Марфея* (У. Караткевіч. Млын на Сініх Вірах).

Склаўся на аснове грэчаскай міфалогіі, дзе *Марфей* — бог сну, у антычным мастацтве адлюстроўваўся як стары чалавек з крыламі.

**У абозе.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Ззаду ўсіх (заставацца, плесціся, цягнуцца і пад.). *Мы пераходзім на прапашную сістэму. А ты застанешся ў абозе. Гаспадарка твая паказальная, што ж ты будзеш паказваць?* (І.Дуброўскі. Зямныя вузлы).

Паходзіць з маўлення ваенных. Вайсковы абоз як сукупнасць транспартных сродкаў знаходзіўся ззаду палка, дывізіі, замыкаў рух вайсковага злучэння.

**У агонь і <у> ваду** *ісці (пайсці) за кім, за каго. Агульны для ўсходнесл. м.* Усюды і на ўсё, на любыя ўчынкі, безразважна і самаахвярна. *Гэта і ёсць той самы Янка... У сельпо працуе. Я за яго ў агонь і ваду пайшоў бы...* (У. Краўчанка. Не верыць нельга).

Склаўся, відаць, на вобразнай аснове фразеалагізма *прайсці агонь і ваду і медныя трубы* (гл.), які абазначае 'пабыць у розных цяжкіх абставінах і загартавацца' і паводле паходжання з'яўляецца калькай з англ. м. (go through fire and water).

**У адзін міг.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Адразу ж, імгненна, вельмі хутка (зрабіць што-н., адбылося што-н.). *Нібы ўдараны знянацку, Мікола ўздрыгнуў, твар яго пабялеў. У адзін міг ён увесь змяніўся* (У. Краўчанка. Над хвалямі Прыпяці).

Першапачаткова выраз абазначаў час, за які можна адзін раз мігнуць, маргнуць.

**У ажуры.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Абазначае 'добра, паспяхова' і 'добры, паспяховы, як і павінна быць'. —*Не хвалюйцеся, матка, — звярнуўся нарэшце да Ганны Макараўны Жора, — усё будзеў ажуры* (А. Марціновіч. Мама, сын і Толька). *Валера, не дачакаўшыся адказу, зразумеў, што «справа ў ажуры»* (У. Рубанаў. Каштаны).

Узнік у мове рахунковых работнікаў, дзе словам *ажур* называюць такі стан рахункаводства, пры якім запісы ў бухгалтарскіх кнігах робяцца ў дзень правядзення аперацыі.

Параўн. у аповесці М. Лужаніна «Трое»: «Нямецкі афіцэр, відаць, былы фінансавы работкік,ператрасаў ашчадную касу, дзівячыся, як дакладна ўсё зведзена ў ажур, гаворачы бухгалтарскай мовай». Слова *ажур* узнікла на аснове французскага *a jour,* што значыць «у дзень».

**Убачыць свет.** *Калька з франц. м.* (voir le jour). Быць апублікаваным, выдадзеным (пра кнігу, брашуру і пад.). *Калі газеце не выпадаў лёс убачыць свет, наборшчык пераказваў сваім сябрам змест заметак, якія ён набіраў для «крамольнай» газеты* (Х. Жычка. «Не кажыце маме…»).

Выраз усведамляецца як матываваны. У франц. м. ён мае два значэнні: ‘нарадзіцца’ і ‘быць апублікаваным’.

**Убіраць (убраць; прыбіраць, прыбраць) у <свае> рукі.** *Уласна бел.* Ужыв. са значэннямі ‘поўнасцю падпарадкоўваць сваёй волі’ і ‘самавольна завалодваць чым-н., прысвойваць што-н.’. —*Гэта яна так убрала цябе ў рукі? — Ладуцька скасіў вочы ў бок Аксені* (Н. Маеўская. Такая позняя вясна). *Іначай як магло стацца, што пан Скірмунт з Альбрэхта залез у іх хату, прыбраў у свае рукі з-пад іх носа затокі на рэчцы…* (Я. Колас. На ростанях).

Склаўся па мадэлі з ужо існуючым, сэнсава тоесным фразеалагізмам *браць у <свае> рукі* (гл.) — калькай з франц. м.

**Убраць у <свае> рукі.** *Гл.* убіраць (убраць; прыбіраць, прыбраць) у <свае> рукі.

**Увайсці ў гісторыю.** *Калька з ням. м.* (der Geschichte angehören). Стаць вядомым, захавацца ў памяці людзей. *Рукой «выкладчыка» вадзілі «філосафы», выхаваныя на старых догмах. Тым не менш імя Андрэевай увайшло ў гісторыю* (М. Кацюшэнка. Першамай надзеі нашай).

Першапачаткова абазначаў ‘трапіць у летапіс гістарычных падзей’.

**Увайсці ў плоць і кроў** *каго, чаго, чыю. Гл.* уваходзіць (увайсці) у плоць і кроў *каго, чаго, чыю.*

**Увайсці ў прымаўку.** *Калька з франц, м.* (passer en proverbe). Стаць агульнавядомым, усімі прызнаным. *Храбрасць Садзіленкі ўвайшла ў прымаўку* (ЛіМ. 27.05.1969).

Тут што-небудзь папулярнае, вядомае шырокаму колу людзей атаясамліваецца з устойлівасцю і ўзнаўляльнасцю народных прымавак (прыказак).

**Уваткнуць пяро** *каму. Гл.* пяро ўставіць (уваткнуць) *каму.*

**Уваходзіць (увайсці) у плоць і кроў** *каго, чаго, чыю. Агульны для ўсходнеcл. м.* Арганічна засвойвацца, моцна ўкараняцца, становячыся прывычным, неабходным. *Гісторыя балючая, бы рана. Яна ўвайшла ў нашу плоць і кроў і плоццю і*

*крывёю продкаў нашых* (Г. Каржанеўская. Гісторыя — не могільнік глухі...).

Склаўся на аснове назоўнікавага фразеалагізма *плоць і кроў* чыя, каго (гл.) у выніку пашырэння яго саставу дзеяслоўным кампанентам.

**Уваходзіць (увайсці) у <сваю> каляіну.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* входить в <свою> колею, *укр.* входити в колію). Ужыв. са значэннямі ‘вяртацца да прывычнага спосабу жыцця’ і ‘прымаць звычайны рытм, характар’. *Асталяваўшыся, Лабановіч увайшоў у каляіну дамашняга жыцця* (Я. Колас. На ростанях). *Жыццё на новым месцы паволі ўваходзіць у сваю каляіну* (С. Александровіч. На шырокі прастор).

Паходзіць з адпаведнага свабоднага словазлучэння. Гл. пра паходжанне антанімічнага (у 1-м знач.) фразеалагізма *выбівацца з каляіны.*

**У гадзіну па чайнай лыжцы.** *Недакладная паўкалька з руск. м.* (через час по чайной ложке). Вельмі марудна, не спяшаючыся, павольна. *Трактары стаяць, а яны на конях цыркаюцца, у гадзіну па чайнай лыжцы* (У. Кузьмянкоў. Ішла вясна).

Узнік на аснове свабоднага словазлучэння, якое ў маўленні медыкаў выкарыстоўваецца як рэгламентацыя прыёму мікстуры. У «Руска-беларускім слоўніку» як адпаведнік рускаму выразу рэкамендуецца *праз гадзіну па сталовай лыжцы* (параўн. у «Беларуска-рускім слоўніку»: *праз гадзіну па чайнай лыжцы),* аднак у мастацкіх і публіцыстычных тэкстах прыжыўся іншы — *у гадзіну па чайнай лыжцы* (напрыклад, у творах М. Машары, А. Рыбака, на старонках «Звязды», «Настаўніцкай газеты»).

**У гарачай вадзе купаны.** *Агульны для бел. і польск.* (w gorącej wodzie kąpany) *м.* Занадта гарачы, запальчывы. — *Хвелька Зянковіч. З універсітэта. Дражняць абрыкосам. Вядома, не ў вочы. — Не буду. — І не раю. Ён у нас у гарачай вадзе купаны* (У. Караткевіч. Каласы пад сярпом тваім).

Узнікненне выразу звязана з царкоўным абрадам хрышчэння, калі малога апускалі ў спецыяльную пасудзіну з вадой (купель). Вобразная аснова фразеалагізма грунтуецца на народным гумары, на прыёме гіпербалы (параўн. таксама: *у гарачага папа хрышчаны, малёны поп хрысціў).*

**У глыбіні душы.** *Калька з лац. м.* (in imo pectore). Унутрана, употайкі, падсвядома. *Калі шчыра, то недзе ў глыбіні душы хацелася, каб Тася нейкім чынам умяшалася і сарвала гэтую паездку* (І.Шамякін. Вазьму твой боль).

**Удар ніжэй пояса.** *Агульны для бел. іруск. м.* Раптоўная і балючая непрыемнасць, нечакана і нетактоўна прычыненая каму-

н. *«[Сеятлана Уладзіміраўна: ] Я не думала, што вы такі маленькі і худзенькі...» Для Лукіна, які і сапраўды быў на цэлую галаву ніжэйшы за Святлану Уладзіслаўну, гэта быў удар, як кажуць баксёры, ніжэй пояса* (В. Праўдзін. Танцавальны марафон).

Як відаць з прыведзенага прыкладу, выток фразеалагізма — маўленне баксёраў. Удар ніжэй пояса — забаронены прыём у боксе.

**Удар пад дых.** *Уласна бел.* Раптоўная і балючая непрыемнасць для каго-, чаго-н. *Калі стараннямі даносчыкаў і прыдуркаў спыняцца беларускае кнігадрукаванне і перыядычны друк, гэта будзе ўдар пад дых усёй нашай нацыянальнай культуры, пасля якога яна невядома як і калі выпрастаецца* (У. Някляеў. «У сваім народзе ты жывеш...»).

Склаўся ў выніку пераасэнсаванкя адпаведнага словазлучэння, якое ўжываецца ў маўленні баксёраў.

**Удзельная вага** *чыя, чагоў чым. Агульны для ўсходнесл. м.* Пэўная роля, значэнне, месца чаго-н. у чым-н. *На аснове гэтых даных асветлена дынаміка кожнай з форм і галін прамысловасці, іх удзельная вага ва ўсёй прамысловасці, перыяды ўздымаў, крызісаў, дэпрэсій* (М.В.Біч. Прамысловасць Беларусі ў другой палавіне XIX ст.).

Узнік у выніку метафарычнага пераасэнсавання састаўнога тэрміна, якім у фізіцы называюць адносіны вагі цела пры тэмпературы 0 °С да вагі роўнага аб'ёму вады пры тэмпературы 4 °С.

*Адкладваць (адкласці)* **у доўгую скрыню (скрынку).** *Калька з руск. м.* (в долгий ящик). На няпэўна доўгі час (адкладваць што-н.). *Сказана — зроблена, добрую справу не трэба адкладваць у доўгую скрынку, бо «адклад не ідзе ў лад»* (М. Машара. Лукішкі).

Часцей за ўсё гэты фразеалагізм кваліфікуюць паводле паходжання як уласна рускі, а яго ўзнікненне звязваюць з перыядам праўлення цара Аляксея Міхайлавіча (1645–1676). Цар загадаў прыбіць доўгую скрыню на слупе каля свайго палаца ў сяле Каломенскім. У гэту скрыню прасіцелі апускалі свае чалабітныя. Просьбы, апушчаныя туды, звычайна разглядаліся вельмі доўга, што нібыта і стала падставай для ўзнікнення фразеалагізма. Больш пераканальнай трэба лічыць версію В. М. Макіенкі, які паказвае, што ў руск. м. гэты выраз прыйшоў як калька з ням. м. *(in die lange Truhe legen,* літаральна «класці ў доўгую скрыню»), дзе ён фіксуецца ў помніках XIV ст. У ням. слоўніках даецца і гістарычна-этымалагічнае тлумачэнне фразеалагізма: у сярэдневяковым германскім судаводстве скрыні-рундукі звычайна выкарыстоўваліся для захоўвання актаў і спраў, вырашэнне якіх адкладвалася на няпэўны тэрмін.

**У дурнях** *заставацца (застацца), апынуцца, пакідаць (пакінуць). Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* в дураках, *укр.* в дурнях). У недарэчным, смешным становішчы. *І мне таксама робіцца ясна і зразумела, што назад Задарожны не прыйдзе — не затым ён пайшоў Тут нейкая была яго хітрасць, якой ён дамогся, і мы засталіся ў дурнях* (В. Быкаў. Трэцяя ракета).

Паходзіць ад картачнай гульні «ў дурня». Параўн.: «Карты, Гаркуша, яшчэ ў калодзе ёсць. І невядома, каму прыйдзецца большы козыр, хто ўрэшце выйграе, а хто застанецца ў дурнях» (М. Кусянкоў).

**Узводзіцца (узвесціся) у квадрат.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Значна перабольшвацца. *Толькі ты тады, вядома, злуй на сябе: без заслуг застанешся. Перад немцамі. А там заслугі за табой падвояцца. У квадрат узвядуцца. Зразумеў?* (В. Быкаў. Пастка).

Узнік у выніку пераасэнсавання састаўнога матэматычнага тэрміна.

**Узнесці да нябёс** *каго, што. Гл.* узносіць (узнесці) да нябёс *каго, што.*

**Узнімаць галаву.** *Гл.* падымаць (паднядь; узнімаць, узняць) галаву.

**Узнімаць (узняць; паднімаць, падняць) сцяг** *чаго, чый. Калька з царк. — слав. м.* (поднимать знамя). Пачынаць барацьбу за што-н., дзейнічаць у імя чаго-н. *Савецкі народ высока ўзняў сцяг інтэрнацыяналізму; смела, рашуча выступіў супраць ганьбы нашых дзён — каланіяльнага рабства* (У. Карпаў. Сотая маладосць).

Сустракаецца ў біблейскіх тэкстах: «Мы возрадуемся о спасении твоем и во имя Бога нашего поднимем знамя» (Псалтыр, 19,6).

**Узносіць (узнесці) да нябёс** *каго, што. Паўкалька з руск. м.* (превозносить до небес). Празмерна расхвальваць каго-, што-н. *Анатоль цягнуўся да кніг, захапляўся музыкай, паэзіяй, асабліва палюбіў Ясеніна, якога ў Разані моладзь узносіла да нябёс* (У. Калеснік. Пасланец Праметэя).

Склаўся, відаць, на аснове блізкага гучаннем словазлучэння, пададзенага ў адным з псалмоў (Псалтыр, 56, 12): «Будзь узнесены вышэй нябёс, Божа, і над усёю зямлёю хай будзе слава Твая».

**Узняць (падняць) на шчыт** *каго, што. Калька з ням. м.* (auf den Schild heden). Залішне расхваліць. *Праект Пятра Шувалава ўзнялі на шчыт самыя абрыдліва-правыя элементы* (УКараткевіч. Каласы пад сярпом тваім).

Першапачаткова выраз меў значэнне ‘зрабіць правадыром’. Выток фразеалагізма — звычай старажытных германцаў:

выбраўшы на полі бою правадыра, яны ўзнімалі яго на шчыт, каб усе навакол маглі бачыць, каго выбралі.

**Узыходзячая зорка** *<чаго, на чым>. Калька з ням. м.* (ein aufgehender Stern). Чалавек, які пачынае набываць шырокую вядомасць, славу ў якой-н. галіне дзейнасці. *Арнольд з'явіўся на свет тады, калі бацька яшчэ не быў узыходзячай зоркай на варшаўскім фінансавым небе* (У. Мехаў. Сцяг над рэўкомам).

Выраз усведамляецца як матываваны.

**Узяцца за гуж.** *Гл.* за гуж узяцца.

**Узяцца ў рожкі** *з кім. Гл.* брацца (узяцца) у рожкі *з кім.*

**Узяць (браць) за шкірку** *каго. Уласна бел.* Пакараць, прыцягнуць да адказнасці. *Цяпер, калі прыйшлося, што самога зараз возьмуць за шкірку, «он украдкою кивает на Петра», гэта значыць на Антона Мітрафанавіча* (К. Крапіва. Канец дружбы). *А нелюдзю, ашуканцу не абавязкова верыць. Яго трэба браць за шкірку адразу…* (Вожык. 1965. № 2).

Слова *шкірка* з'яўляецца, магчыма, запазычаннем з укр. м., але ў бел. м. яно атрымала іншае значэнне. Украінскае *шкірка* адпавядае нашым *шкурка, скурка.* Беларускае *шкірка* звычайна ўжываецца толькі ў форме він. скл. з прыназоўнікам *за (за шкірку)* і спалучаецца з абмежаванай колькасцю дзеясловаў: «Трэсці лейбмедыка за шкірку…» (У. Караткевіч); «…быццам іх за шкірку хто выкідае» (І.Грамовіч); «Ухапіў за шкірку…» (Р. Мурашка). Значэнне спалучэння *за шкірку* — 'за каўнер, за шыварат'. З такім жа значэннем выступае прыназоўнікава-склонавая форма *за шкірку* ў спалучэнні з дзеясловам *узяць,* які звычайна апускаецца: «Тут я яго за шкірку — хадзі сюды!» (К. Крапіва); «…а тут — за шкірку ды ў каталажку» (М. Лужанін); «Вось такога б, як кажуць, за шкірку ды на поле, дзе сеюць і косяць…» (М. Калачынскі). Ва ўсіх прыкладах сэнс спалучэння прамы, канкрэтны — 'узяць за шыварат'. На аснове гэтага першаснага значэння ў словазлучэнні *ўзяць за шкірку* развілося другое, пераноснае — 'пакараць'.

**Узяць быка за рогі.** *Гл.* браць (узяць) быка за рогі.

**Узяць верх.** *Гл.* браць (узяць) верх.

**Узяць за горла** *каго. Гл.* браць (узяць) за горла *каго.*

**Узяць за жабры** *каго. Гл.* браць (узядь) за жабры *каго.*

**Узяць за жывое** *каго. Гл.* закрануць за жывое *каго.*

**Узяць за шчэлепы** *каго. Гл.* браць (узяць) за шчэлепы *каго.*

**Узяць лейцы ў <свае> рукі.** *Гл.* браць (узяць) лейцы ў <свае> рукі.

**Узяць на абардаж** *каго, што. Гл.* браць (узяць) на абардаж *каго, што.*

**Узяць на арапа** *каго. Гл.* браць (узяць) на арапа *каго.*

**Узяць на буксір** *каго. Гл.* браць (узяць) на буксір *каго.*

**Узяць на зыхер** *каго. Гл.* браць (узяць) на зыхер *каго.*

**Узяць на мушку** *каго, што. Гл.* браць (узяць) на мушку *каго, што.*

**Узяць на понт** *каго. Гл.* браць (узяць) на понт *каго.*

**Узяць на пушку** *каго. Гл.* браць (узяць) на пушку *каго.*

**Узяць на ўзбраенне** *што. Гл.* браць (узяць) на ўзбраенне *што.*

**Узяць на цугундар** *каго. Гл.* на цугундар браць (узяць) *каго.*

**Узяць ногі на плечы і (ды)...** *Гл.* <браць (узяць)> ногі на плечы і (ды)…

**Узяць ногі ў рукі і (ды)...** *Гл.* <браць (узяць)> ногі ў рукі і (ды)…

**Узяць прыклад** *з каго. Гл.* браць (узяць) прыклад *з каго.*

**Узяць сябе ў рукі.** *Гл.* браць (узяць) сябе ў рукі.

**Узяць у пераплёт** *каго. Гл.* браць (узяць) у пераплёт *каго.*

**Узяць у <свае> рукі.** *Гл.* браць (узяць) у <свае> рукі.

**Узяць уцям** *што. Гл.* браць (узяць) уцям *што.*

**Узяць у шоры** *каго. Гл,* браць (узяць) у шоры *каго.*

**У імгненне вока.** *Агульны для бел., руск.* (в мгновение ока) *і польск.* (w mgnieniu oka) *м.*, абазначае ‘вельмі хутка, вокамгненна’. *Міколка падцягнуўся ўвесь, сцягся ў пругкі камяк і ў імгненне вока апынуўся ля самых вокан машыны* (М. Лынькоў. Васількі).

Кампанент *імгненне* роднасны са словамі *міг, мігнуць*. Увесь выраз першапачаткова абазначаў час, за які можна адзін раз мігнуць, маргнуць. Фразеалагізм ужываўся яшчэ ў XVI ст., напрыклад, у «Катэхізісе» С. Буднага: «…хотя жь умрють, але иже въ мгненіи ока, не усъпнуть».

**У канцы канцоў.** *Калька з франц. м.* (à la fin des fins). Ужыв. з акалічнасным значэннем ‘у канчатковым выніку, пад канец, напаследак’ і як пабочнае словазлучэнне для падкрэслівання чаго-н. ці паказу, што мера цярпення, чакання скончылася. *А ў канцы канцоў вось што: надзявайце пінжак, бярыце ногі ў рукі і бяжыце на пошту* (У. Корбан. Гінка). *[Радзецкі:] Ты надаела, не хачу цябе я знаць, прападаць не буду, чуеш? [Васіліса: ] Не крычы, у канцы канцоў!* (А. Александровіч. Напор).

Таўталагічны выраз, у якім першы назоўнікавы кампанент выконвае сэнсаўтваральную функцыю, а другі дапаўняе сэнс першага семай узмацняльнасці, робіць выраз экспрэсіўным сродкам.

**У касцюме Адама.** *Агульны для ўсходнесл. іпольск.* (w stroju Adama) *м.* Без усякага адзення, голы (пра мужчыну). *Можна прымаць паветраныя ванны — хі-хі — у касцюме Адама, ніхто не патрывожыць* (М. Ваданосаў. Пераломнае лета).

Першыя біблейскія людзі Адам і Ева (пакуль Бог не выгнаў іх з раю, пакараўшы за з'едзены яблык з дрэва пазнання дабра і зла) хадзілі голыя, без адзення. На аснове гэтага біблейскага падання ўзніклі фразеалагізмы са значэннем 'голы, без адзення': *у касцюме Адама* — пра мужчыну, *у касцюме Евы* — пра жанчыну.

**У касцюме Евы.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Без усякага адзення, голая. Пра жанчыну. *А найбольш пекным, ну, такім, як панна Марыся, — ага, падумалася, няхай пазайздросцяць — і Галена, і Янінка, — такім, будзе дазволена танцаваць на балі ў касцюме Евы* (А. Мальдзіс. Восень пасярод вясны).

Узнік на аснове біблейскага падання пра першых людзей — Адама і Еву, якія, пакуль Бог не выгнаў іх з раю, хадзілі голыя, без адзення. Параўн. ужыванне кантамінаванага выразу *ў касцюмах Адама і Евы* — у п'есе М. Матукоўскага «Амністыя»: «Няхай яны гэтай гармоніяй у музеях цешацца. Там усе статуі ў касцюмах Адама і Евы».

**У кашулі нарадзіўся.** *Гл.* у сарочцы (кашулі) нарадзіўся.

**У квадраце.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Найвышэйшай ступені. *[Радыслаў:] Ізноў спрачацца, пагражаць, у чорнай здрадзе вінаваціць?.. Ну што ж, нахабства ў квадраце, падходзь! Гатовы я прыняць любую вашу атаку* (А. Бачыла. Загорская восень).

Склаўся ў выніку пераасэнсавання тэрміналагічнага спалучэння, якое ўжываецца ў маўленні матэматыкаў, дзе *квадрат* — 'здабытак ад памнажэння якога-н. ліку на самога сябе'.

**Укладвацца ў пракрустава ложа.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Насільна прыстасоўвацца да чаго-н., падганяцца да пэўнай меркі. *Бокам цяпер вылазяць іх хуткаспелыя схемы, жыццё не хоча ўкладвацца ў іх пракрустава ложа* (В. Блакіт. Шануй сваё імя).

Утвораны ад фразеалагізма *ўкладваць (укласці) у пракрустава ложа* (гл.).

**Укласці ў пракрустава ложа** *чаго. Уласна бел. (у слоўніках іншых моў не фіксуецца).* Насільна прыстасаваць да чагосьці, падагнаць да пэўнай меркі. *Гэта не асаблівасць якой-небудзь мясцовай гаворкі, а рыса, уласцівая ўсёй агульнанароднай мове — пісьмовай і вуснай. Яе нельга ні ігнараваць, ні ўкласці ў пракрустава ложа граматыкі* (К. Крапіва. Грамадская неабходнасць і беспадстаўнае наватарства).

Дзеяслоўны фразеалагізм склаўся на аснове назоўнікавага *пракрустава ложа* (гл.) і звязаны з тым жа старажытнагрэчаскім міфам, паводле якога разбойнік Дамаст (другі варыянт: Паліпемон) вылучаўся выключнай лютасцю, за што яго празвалі Пракрустам (што значыць «мучыцелем»). Ён лавіў людзей, заводзіў да сябе і ўкладваў у сваю пасцель. Калі ахвяра была даўжэйшая за ложак,

Пракруст адсякаў ёй ногі, а калі карацейшая — расцягваў госця да памеру ложка.

**У кожным выпадку.** *Гл.* ва ўсякім (у кожным) выпадку.

**У кожным разе.** *Гл.* ва ўсякім (у кожным) разе.

**У крайнім выпадку.** *Калька з франц. м.* (le cas échéant). Пры вострай неабходнасці, калі не будзе іншага выхаду. *Дрывамі забяспечым, а там, можа, і мэбляю якою разжывёмся. У крайнім выпадку пазычым у дзіцячым доме* (С. Грахоўскі. Ранні снег).

Прыметнікавы кампанент — сэнсаўтваральны, суадносны з адным са значэнняў слова *крайні* (‘надзвычайны, выключны’).

**У кулак** *смяяцца, хіхікаць* і пад. *Агульны для ўсходнесл. м.* Ціха і непрыкметна. *Хітруга гэты і лаўкач, Алейнік, зваліў свой клопат на мяне і цяпер хіхікае ў кулак* (І.Шамякін. Атланты і карыятыды).

Фразеалагізм з жывой унутранай формай.

**У курсе** *чаго. Калька з франц. м.* (au courant de qch). Мае дасведчанасць, дасведчаны ў чым-н. — *Вы часам не ў курсе, што там на лесапілцы? — Чаму не ў курсе? У курсе. Усе ў курсе, — гаварыў трошкі ў нос гаспадар. — Там верхаводам Даніла, хоць старшым лічыцца Раман* (Я. Ермаловіч. Малады старшыня).

**У лапці абуць** *каго. Уласна бел.* Паступіць нядобрасумленна, ашукаць, падмануць каго-н. (параўн. ва ўкр. м.: *обути в лапті* — ‘разарыць, давесці да галечы, да беднасці каго-н.’). — *Не перабівай, таварыш! Потым сабе слова возьмеш, — І вазьму! А ты думаеш, так пройдзе?.. Мяне ў лапці не абуеш!* (Л. Калюга. Ні госць ні гаспадар).

У бел. м. дзеяслоў *абуць* мае значэнні ‘надзець абутак’ і ‘абдурыць’, г. зн. *яго* другое значэнне такое ж, якое ўласціва фразеалагізму *ў лапці абуць:* «Як прыйшоў Ісаў дадому ды як стала ўсё вядома, што абуў яго так Якаў, дык са злосці аж заплакаў» (К. Крапіва). Таму ёсць падставы меркаваць, што паводле паходжання фразеалагізм *абуць у лапці* — выраз каламбурнага характару: ён узнік на аснове слова *абуць,* у якім адначасова сутыкаюцца два яго значэнні; захаваўшы за сабой другое значэнне, ён запазычыў ад першага сувязь кіравання *(абуць у* што) і дапоўніўся неабходнымі кампанентамі. Этымалогію гэтага фразеалагізма звязваюць таксама з вусным народным апавяданнем «пра хітрага і лоўкага злодзея, які абуў у лапці ўкрадзенага вала, каб не пакідаць слядоў і не даць магчымасці высачыць і знайсці прапажу і злодзея» (Ф. Янкоўскі).

**Уласнай персонай.** *Паўкальказ лац. м.* (in propria persona). Асабіста, непасрэдна сам. — *Бараноўскі прыходзіў, — адказала* [Каця]. — *Раней нават не ведаў, дзе той партархіў а тут сам, уласнай персонай завітаў* (І.Новікаў. Ачышчэнне).

**Улезці ў нерат.** *Гл.* трапіць (папасціся, улезці) у нерат.

**У лес глядзець.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Мець намер вярнуцца да ранейшага, прывычнага, свайго. *Ды і што ён, Журавінка, адзін зробіць, калі ўсе, як ваўкі, у лес глядзяць?..* (М. Лобан. Гарадок Устронь).

**Утварыўся з прыказкі** *Як ваўка ні кармі, а ён усё ў лес глядзіць.* Сувязь паміж фразеалагізмам і прыказкай яшчэ досыць моцная і выразна адчуваецца; параўн.: «— Добранькі ты, камісар! Каб я карміла немчуру, ваўка, які будзе ўвесь час глядзець у лес!.. — абурылася Лена. — Што табе скажуць партызаны?» (І.Шамякін).

**У лес не збяжыць (не ўцячэ).** *Уласна бел.* Яшчэ паспеецца, можна пачакаць, за гэты час нічога не зробіцца з кім-, чым-н. *[Кацярына: ] Я не так сабе прыйшла, патрэба ёсць. [Рыгор: ] Я ж ведаю, што гуляць бы не прыйшла. Ды ліха яе бяры з патрэбаю. У лес не збяжыць* (К. Крапіва. Партызаны).

Генетычна выраз з’яўляецца другой часткай прыказкі *Работа не воўк, у лес не ўцячэ (не збяжыць).* Парадак кампанентаў і сінтаксічныя сувязі фразеалагізма (ужыв. пры дзейніку са значэннем абстрактнага прадмета) засталіся такімі, якімі былі і ў прыказцы.

**Уліваць (уліць) у старыя мяхі новае віно.** *Паўкалька з царк. — слав. м.* Запаўняць новым зместам старую форму. *Якраз на купалле быў запланаваны абласны семінар творчай моладзі і абласное свята паэзіі. Вось яна — магчымасць узнавіць народныя традыцыі, уліць у старыя мяхі новае віно* (Маладосць. 1981. № 9).

Упершыню ўжыты ў Евангеллі (Матфей, 9, 17): «Не ўліваюць віна маладога ў мяхі старыя; а інакш прарываюцца мяхі, і віно выцякае, і мяхі прападаюць». *Мяхі* — скураныя мяшкі для захоўвання віна.

**У лыжцы вады ўтапіць** *каго. Агульны для ўсходнесл. м.* Прычыніць вялікую непрыемнасць каму-н. з-за дробязі, пусцяковіны. *Знайшоў каго шкадаваць! Ды ён любога ў лыжцы вады ўтопіць. Паразіт і п'яніца. Забойца...* (І.Навуменка. Срэбныя мхі).

У аснове фразеалагізма — нерэальны вобраз.

**У Магілёўскай губерні.** *Уласна бел.* У замагільным свеце, сурацьлеглым зямному (апынуцца, аказацца і пад.). *Трэба было дзейнічаць, зыходзячы з канкрэтнасці, а будзеш, як сляпы плоту трымацца нейкага плану, дык хутка апынешся ў Магілёўскай губерні і яшчэ пацягнеш за сабой іншых* (В. Быкаў. Воўчая зграя).

Узнік на аснове каламбурнага, народнаэтымалагічнага збліжэння слоў *магіла* (са значэннем ‘смерць, пагібель’) і *Магілёўская* (прыметнік ад назвы горада — Магілёў).

**У Магілёўскую губерню** *трапіць, папасці, збірацца* і пад. *Уласна бел. (у слоўніках іншых моў адсутнічае).* У замагільны свет, супрацьпастаўлены зямному жыццю. У *нас, калі богу душу аддаў, кажуць: перасяліўся ў Магілёўскую губерню* (М. Гроднеў. Нязведаная даль).

Выраз каламбурнага характару: тут прыметнікавы кампанент асацыятыўна збліжаецца са словам *магіла* (‘яма для пахавання памерлых’). Гл. таксама *адпраўляць у Магілёўскую губерню.*

**У міг вока.** *Агульны для бел. і ўкр.* (у міг ока) *м.* Адразу ж, вельмі хутка, імгненна (зрабіць што-н.). *Салдат, што апынуўся побач, у міг вока шпурнуў туды гранату і каменем упаў на зямлю* (А. Кулакоўскі. Сустрэчы на ростанях).

Відаць, склаўся пад уплывам фразеалагізма *ў імгненне вока,* які ўжываўся яшчэ ў XVI ст., напрыклад, у «Катэхізісе» С. Буднага («въ мгненіи ока»). Першапачаткова выраз абазначаў час, за які можна адзін раз мігнуць, маргнуць.

**У момант вока.** *Уласна бел.* Адразу ж, вельмі хутка, імгненна (зрабіць што-н.). *У момант вока ўгары матнуўся пас высока і ў тую ж самую хвіліну агнём апёк Алесю спіну* (Я. Колас. Новая зямля).

Утвораны па мадэлі з ужо існуючымі, сэнсава тоеснымі выразамі *ў імгненне вока, у міг вока* (гл.) з заменай другога кампанента словам *момант,* зыходнае значэнне якога — ‘імгненне, міг’.

**Умыванне рук.** *Уласна бел.* Адмаўленне ад удзелу ў чым-н. ці ўхіленне ад адказнасці. *А можа, усе гэтыя разважанні—такая, больш-менш зручная, форма ўмывання рук* (Я. Брыль. На раздарожжы).

Вытворны назоўнікавы фразеалагізм на аснове суадноснага дзеяслоўнага *ўмываць рукі* (гл.).

У мыле. *Агульны для ўсходнесл. м.* Змучаны напружанай работай. *[Сухадольскі:] Спакойнае ў вас жыццё. Аўрал, усе ў мыле, а вы сабе займаецеся вывучэннем матэрыялу* (К. Крапіва. Зацікаўленая асоба).

Склаўся праз супастаўленне чалавека, змучанага работай, з канём, які пасля працяглага бегу пакрываецца белай пенай, падобнай на мыльную (яе называюць мылам). Параўн.: «Конь быў увесь у мыле і цяжка дыхаў» (М. Лынькоў).

**Умыць рукі.** *Запазычанне з царк. — слав. м.* Ухіліцца ад адказнасці, ад удзелу ў чымсьці. *Я во не разумею. Чаму гэтыя дзядзі важныя не паклапаціліся, каб не было гэтых самых — бязвесных? Няўжо яны ўсе ўмылі рукі?* (В. Быкаў. Абеліск).

Выраз ідзе з евангельскага сюжэта пра распяцце Ісуса (Матфей, 27,24). Рымскі намеснік у Іудзеі Пілат, перад тым як аддаць натоўпу Ісуса на пакаранне, узяў вады, умыў рукі перад народам і сказаў: «Не вінаваты я ў крыві праведніка гэтага; глядзіце вы». У старажытных яўрэяў быў сімвалічны абрад умывання рук як знак няўдзельнасці ў чым-небудзь. Біблія павучала тых, хто знойдзе мёртвае цела, умыць рукі: гэта абазначала, што яны не віноўнікі забойства.

**Унтэр прышыбееў.** *Запазыч. з руск. м.* Самачынны ахоўнік парадку, душыцель свабоды. *Платон Грушка і Вера Ігнатаўна таксама мараць аб будучыні Серадзібора… дзе не будзе ні Враб'ёў ні Зашчамілаў і, вядома, такіх унтэр прышыбеевых, як Чухноўскі…* (П. Пестрак. Серадзібор).

Выраз з аднайменнага апавядання (1885) А. П. Чэхава. Герой гэтага твора лічыць сваім абавязкам умешвацца ва ўсе справы, душыць усіх сваім унтэр-афіцэрскім аўтарытэтам.

**У парадку** *рэчаў. Калька з франц. м.* (s'est dans j'ordre des choses, літаральна «гэта у парадку рэчаў»). Звычайна, нармальна, натуральна. *Увогуле першы павінен паміраць мужчына. Гэта ў парадку рэчаў* (І.Навуменка. Цёмныя змрокі).

Гл. больш падрабязна на с. 12–13.

**Упасці духам.** *Гл.* падаць (упасці) духам.

**У піку** *каму. Паўкалька з франц. м.* (faire piques contre qn). З намерам даняць, раззлаваць каго-н.; на злосць каму-н. *Крэйна таксама была на сходзе і ў піку мне крытыкавала наш план* (А. Мрый. Запіскі Самсона Самасуя).

**У поце твару (чала) <свайго>.** *Паўкалька з царк. — слав. м.* Фразеалагізм абазначае 'з вялікай стараннасцю, напружаннем' і ўступае ў лексічную і граматычную сувязь з дзеясловамі *рабіць, працаваць, здабываць, зарабляць* і пад. *Есці хлеб у поце твару мы не лічым больш за кару* (К. Крапіва. Біблія). *Нядаўна чытаў і па радыё чуў, як жыць будуць некалі ўнукі. Не трэба ім будзе касіць і араць, і песні складаць, і быліны, у поце чала свайго хлеб здабываць — бо ўсё за іх зробяць машыны* (М. Танк. Пасланне вучонаму).

Паводле Бібліі (Быццё, 3,19), Бог прагнаў з раю Адама, пакараўшы яго вечнай цяжкай працай: «В поте лица твоего будешь есть хлеб».

**У рожкі** *з кім. Уласна бел.* Уступаць у сутычку з кім-н. *Ці праўда тое, жвенькаюць людзі, дужа ён* [поп] *жыла вялікая і з пападдзёй у рожкі заўсёды* (М. Лынькоў. На чырвоных лядах).

Узнік на аснове фразеалагізма *брацца ў рожкі* з кім (гл.) у выніку апушчэння дзеяслоўнага кампанента. Першапачаткова (у 20-я гады) ужываўся толькі ў кантэксце *ў рожкі са старымі ў* мове маладых беларускіх літаратараў, якія ўваходзілі ў аб'яднанне

«Маладняк», часам не прызнавалі літаратурных аўтарытэтаў, выступалі супраць старэйшых пісьменнікаў, нярэдка захапляліся фармалістычным штукарствам. «Сярод маладнякоўцаў нават хадзячы лозунг бытаваў: „У рожкі са старымі“. „Старыя“ глядзелі на малады задзёр хто з крыўдай, хто з іроніяй» (К. Крапіва).

**У рожкі пайсці** *з кім. Уласна бел.* Выяўляючы сваю самастойнасць, незалежнасць, задзірацца, спрачацца, сутыкацца з кім-н. — *А чаго яны* [паліцаі] *прыходзяць да вас? — Ды ўсё да яе, да Танюшы. У рожкі з імі наважылася пайсці дзеўка. Ты б, Максімка, пагаварыў з ёй... Яна цябе паважае. Можа б, паслухала, уціхамірылася. Не за дзявочую справу ўзялася* (М. Машара. «Крэсы» змагаюцца).

Выраз узнік у выніку пераасэнсавання свабоднага словазлучэння: яно ўжываецца, калі гавораць пра быкоў, якія пачынаюць борацца.

**У роце чорна** *ў каго. Гл.* <аж> у роце чорна *ў каго.*

**У ружовым святле (колеры).** *Паўкалька з франц. м.* (tout couleur de rose). Ідэалізавана, лепш, чым на самай справе (бачыць, паказваць, уяўляць і пад.). *Не, я не імкнуся бачыць усё і ўсіх у ружовым колеры. Сустракаюцца ў нас і злачынцы, і дармаеды, і раскрадальнікі дзяржаўнай маёмасці...* (Звязда. 22.06.1986).

Ружовы колер заўсёды асацыіраваўся з прыемным, прыгожым.

**У рукаў** *смяяцца, хіхікаць* і пад. *Калька з англ. м.* (to laugh in one’s sleeve). Ціха і непрыкметна. *Прыстаў грозна зірнуў на ўрадніка.Ураднік апусціў вочы і зірнуў на стражніка, стражнік — на соцкага. Соцкі стаяў бокам і смяяўсяў рукаў* (Я. Колас. Соцкі падвёў).

У аснове фразеалагізма — нерэальны вобраз.

**У руку** *чыю, каму. Уласна бел.* Ужыв. са значэннямі: 1) на карысць каго-н., так, як каму-н. хочацца (гаварыць), 2) падыходзіць каму-н., задавальняе каго-н. *Стась трымаўся з хлопцамі добра, гаварыў усім у руку* (К. Чорны. Нянавісць). *А ўсе абставіны, умовы якраз Данілу не ў руку* (Я. Колас. Рыбакова хата).

Фразеалагізм, відаць, узнік у выніку скарачэння выразу *на руку (у руку) іграць* (гл.), які паходзіць з арго карцёжнікаў.

**У сабакі вачэй пазычыць.** *Уласна бел.* Страціць сумленне, сорам, набрацца нахабнасці. *Вочы якія ў Аляксея... Як у вінаватага сабакі... Праўду кажуць: у сабакі трэба вочы пазычыць, каб пасля такога з’явіцца сюды...* (П.Місько. Ціхае лета).

Відаць, склаўся на аснове фразеалагізма *хоць у сабакі вачэй пазыч* (гл.). Параўн. падобную этымалагічную сувязь паміж

фразеалагізмамі *хоць зубы на паліцу кладзі* (гл.) і *зубы на паліцу класці* (гл.).

**У саку.** *Гл.* у <самым> саку.

**У <самым> саку.** *Агульны для ўсходнесл. м.* У поўным росквіце сіл. *Уніят быў яшчэ не стары, як кажуць, у самым саку* (М. Машара. Сонца за кратамі).

Узнік на аснове падабенства з'яў. Спалучэнне *ў саку* (з прамым значэннем слоў) ужываецца, калі гавораць пра расліны: у веснавы час яны ўзмоцнена жывяцца сокамі зямлі.

**У сарочцы (кашулі) нарадзіўся.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Удачлівы, шчаслівы, шчаслівец. *Штаб быў на месцы. Павел Адамавіч дужа ўзрадаваўся, што я вярнулася. — У сарочцы ты нарадзілася, Валя* (І.Шамякін. Шлюбная ноч).

Паходжанне фразеалагізма звязваецца з павер'ем: калі дзіця прыходзіць на свет не голае, як звычайна, а ў «сарочцы», — г. зн. калі яго галоўка пакрыта каляплоднай плеўкай, якая ў хуткім часе спадае, то яму наканавана шчаслівая будучыня.

**У свет вочы.** *Уласна бел.* (параўн. падобны выраз ва ўкр. м.: *світ за очі).* У невядомым напрамку, не выбіраючы дарогі, абы-куды (ісці, пайсці і пад.). *Вось ім солтыс прывёў нейкага з тых, што пасля турмы за камуну не маюць права жыць у сваім павеце, а ідуць у свет вочы на высылку* (Я. Брыль. Праведнікі і зладзеі).

Выраз узнік аб'яднаннем двух фразеалагізмаў-сінонімаў у адзін, вынікам іх кантамінацыі стаў фразеалагізм з той самай семантыкай: *(ісці) у свет+(ісці) куды вочы глядзяць = у свет вочы.*

**У свіныя галасы.** *Агульны для бел. і ўкр. м.* Позна, запознена. *Потым стары ўспамінае пра сваё ранішняе здарэнне. Спазніўся вось толькі дарма, выбраўся з дому ў свіныя галасы* (Я. Брыль. Надпіс на зрубе).

У *свіныя галасы* — гэта «калі свінні вішчаць, падаюць галасы». Свінні прачынаюцца позна, пазней за іншых жывёл. Таму пра таго, хто любіць многа спаць, кажуць, што ён «кладзецца з курамі, а ўстае з свіннямі». Відаць, і прывычка позна прачынацца выпрацавалася ў свіней таму, што кармілі іх пазней, чым іншых жывёл ці птушак, для якіх не трэба было варыць у печы. «Гаспадыня звычайна даглядае свіней пасля таго, як уходзіцца каля печы, дагледзіць гаспадарку, і галодныя свінні падаюць галасы» (Ф. Янкоўскі).

**<Усе> карты зблытаны (змешаны)** *чые, каго. Агульны для ўсходнесл. м.* Чые-н. планы, намеры, разлікі разбураны, разладжаны. *Адным словам, пан Зыгмусь быў аглушаны, а ўсе яго карты аказаліся змешанымі* (Я. Колас. Хата над балотцам).

Структурна арганізаваны як двухсастаўны сказ, фразеалагізм утвораны на аснове дзеяслоўнага *блытаць*

*(зблытаць) <усе> карты* чые, каму, каго (гл.) ‘разладжваць, разбураць чые-н. планы, намеры, разлікі’

**<Усе> карты раскрыты** *чые. Агульны для ўсходнесл. м.* Чые-н. планы, намеры, дзеянні выяўлены, перасталі быць тайнай каго-н.

*Пра гэта трэба было спытаць у самым канцы, калі б мы ўжо раскусілі, што за птушка пакупнік нашай солі. Але маскіравацца позна, нашы карты раскрыты…* (І.Навуменка. Снежань).

Вытворны ад дзеяслоўнага фразеалагізма *раскрываць (раскрыць) карты* каму (гл.), сэнс якога — ‘пачынаць дзейнічаць адкрыта, не хаваючы сваіх тайных намераў, планаў’.

Усе шышкі ляцяць (валяцца) *на каго. Агульны для ўсходнесл. м.* Абрушваюцца ўсякія непрыемнасці на кагосьці. *Максім пасмяяўся са страхаў Рагачоўскага, заспакоіў, сказаўшы, што на гэты раз усе шышкі паляцяць на яго, галоўнага* (І.Шамякін. Атланты і карыятыды).

Зыходнай формай фразеалагізма з’яўляецца прыказка *На беднага Макара ўсе шышкі валяцца. Як* «абломак» прыказкі, фразеалагізм мае незамкнёную структуру і ў маўленні заўсёды кіруе назоўнікам са значэннем асобы ў він. скл. з прыназоўнікам *на.*

**Усёй душой.** *Калька з лац. м.* (tota mente). Ужыв. са значэннямі: 1) шчыра, сардэчна (любіць, кахаць, верыць і пад.), 2) поўнасцю, цалкам (быць на баку каго-н., падтрымлівадь каго-, што-н. і пад.), 3) з вялікім жаданнем, вельмі ахвотна (хацець, імкнуцца, рвацца і пад.). *Гарбачэня адчуў, што ён пакахаў Кацю не на жарты, усёй душой* (І.Гурскі. На берагах Прыпяці). *Усёй душой падтрымліваю прапанову, выказаную ў дакладзе…* (В.Вітка. Гэта шчасце — пісаць для дзяцей). *Дачушка мая! А я зусім не супраць вяселля. Наадварот, я ўсёй душой хачу гэтага* (І.Козел. Папараць-кветка).

Можна лічыць, што тут абодва кампаненты выконваюць сэнсаўтваральную функцыю. Кампанент *душа* суадносіцца са значэннем ‘нематэрыяльная аснова жыцця чалавека, носьбіт псіхічных працэсаў’.

**<Усімі> праўдамі і няпраўдамі.** *Калька з лац. м.* (per fas et nefas). Любымі сродкамі, нічым не грэбуючы. *Упершыню давялося жыць праўдамі і няпраўдамі, як кажуць, хітруючы і выкручваючыся* (М. Лужанін. Дзівадла).

Выраз антытэзнай пабудовы.

**Усім мірам.** *Запазыч. з руск. м.* Супольна, усе разам. *Суботнікам выйшлі вяскоўцы, мужчыны і жанчыны, усім мірам, хто на коніку; хто насілкамі навазілі, нацягалі пяску, высыпалі*

*каля разбуранага мастка... аб'езд* (В. Казько. Сад, альбо Заблытаны след рамана).

Першапачатковае значэнне выразу — 'усёй грамадой'. *Мір* — агульнае для ўсходнесл. м., цяпер ужо ўстарэлае слова са значэннем 'сельская грамада'; яно захавалася ў прыказцы З *міру па нітцы — голаму сарочка;* параўн. таксама: *Што будзе міру, то і бабінаму сыну.*

**Усмоктваць (усмактаць) з малаком маці** *што. Калька з лац. м.* (cum lacte nutricis suxisse). Цвёрда засвойваць з самых ранніх гадоў. *Уладарыць над ім* [словам] *можа толькі той, хто з малаком маці ўсмактаў таямніцу яго ўнутранай энергіі, да каго гэта слова прыйшло ў хвіліны першага азарэння як яго першая моўная плынь* (М. Лобан. Пяць раніц тыдня).

Выраз належыць старажытнарымскаму аратару і пісьменніку Цыцэрону (106 — 43 да н. э.).

**Уссесці на карак** *каму, чый, каго. Гл.* садзіцца (сесці, уссесці) на карак *каму; чый, каго.*

**Уставаць на дыбкі.** *Гл.* станавіцца (стаць; уставаць, устаць) на дыбкі.

**Уставаць (падымацца, паднімацца) з каленяў.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Пераставаць быць паднявольным, прыніжаным, пакорлівым. Мы, *беларусы, выжывем фізічна толькі тады, калі паднімемся з каленяў адродзім мову, культуру, свае спаконвечныя мудрыя традыцыі...* (С. Законнікаў. Наш паратунак — Адраджэнне).

Відаць, узнік на аснове фразеалагізмаў *стаяць на каленях* (перад кім), *поўзаць на каленях* (перад кім) як параўнальна нядаўняе ўтварэнне, антанімічнае папярэднім па сваёй унутранай форме.

**Уставіць пяро** *каму. Гл.* пяро ўставіць (уваткнуць) *каму.*

**Устаўляць палкі ў кола** *каму, чаго. Гл.* ставіць (устаўляць, соваць, сунуць) палкі ў кола *каму, чаго.*

**Устаць з левай нагі.** *Калька з англ.* (get out of bed with left leg) *ці франц.* (se lever du pied gauche) *м.* Быць у дрэнным настроі, **у** раздражнёным стане. — *У гэтым пытанні я кансерватар. Чулі такое слова? — Ніякі вы не кансерватар. Хутчэй за ўсё, з левай нагі ўсталі* (А. Пальчэўскі. Перастаўленае крэсла).

Выток фразеалагізма — павер'е, якое з антычных часоў існавала ў многіх народаў. Лічылася, што правы бок — добры, а левы — дрэнны, што ўстаць раніцай з левай нагі — значыць пачаць новы дзень пад уладай злога духу.

**Устаць не з той нагі.** *Агульны для сходнесл. м. і руск.* встать не с той ноги, *укр.* встати не на ту ногу). Быць у дрэнным настроі, у раздражнёным стане. *Ты проста, Мацвееў; не з той нагі ўстаў.*

*Ваяваць тут можна. Я з грамадзянскай ведаю. Давалі прыкурыць немцам, белапалякам….* (І.Навуменка. Сасна пры дарозе).

Склаўся на аснове сінанімічнага фразеалагізма *ўстаць з левай нагі* (гл.) з заменай у ім аднаго з кампанентаў спалучэннем *не з той* (г. зн. «не з правай, не з той, з якой трэба»).

**Уступаць (уступіць) у строй.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Станавіцца дзеючым. *[Шугаеў:] Завод толькі яшчэ ўступіў у строй, дзе ж тут даб’ешся, каб усё было выдатна* (К. Крапіва. Зацікаўленая асоба).

Узнік у выніку пераасэнсавання тэрміналагічнага словазлучэння, якое ўжываецца ў маўленні ваенных, дзе слова *строй* абазначае ‘воіны, пастроеныя радамі’ і ‘састаў дзеючай арміі’.

**Уступленне ў сілу** *чаго. Агульны для ўсходнесл. м.* Набыццё законных падстаў. З *уступленнем у сілу новага заканадаўства аб барацьбе з непрацоўнымі даходамі абласная аўтаінспекцыя намеціла канкрэтную праграму па яго рэалізацыі* (Звязда. 10.10.1986).

Вытворны ад суадноснага дзеяслоўнага фразеалагізма *ўступаць (уступіць) у сілу*; які абазначае ‘станавіцца законным, набываць законныя правы’.

**Усякага жыта па лапаце.** *Агульны для бел. і рускк. м,* Усяго патроху; самае рознае. *Тут табе і хахлы, і латышка, і ўсякага жыта па лапаце* (У. Караткевіч. Чазенія). *І кожная з тых гор і горак — скарбніца невычэрпная: самародныя жалеза і медзь, золата, вугаль, баксіты, фасфарыты. Увогуле, як кажуць, усякага жыта па лапаце* (В. Казько. Бунт незапатрабаванага праху).

Першапачаткова тут *жыта* — абагульненая назва жыта, ячменю, пшаніцы і іншых злакавых, а *лапата* — драўляная прылада з шырокім ніжнім канцом для перамяшчэння, перамешвання зерня на таку.

**Усякая ўсячына.** *Запазыч. з руск. м.* (всякая всячина). Ужыв. са значэннямі: ‘самыя разнастайныя рэчы, прадметы’ і ‘усё без разбору (аб прадмеце размовы, гутаркі, думак і пад.)’. *Мяса пакрышанае, прыпраўленае кропом, часнаком ды ўсякай усячынай, падагрэлася ў печы* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *І ўзімку ў школе, і ўлетку дома ён заўсёды выдумвае ўсякую ўсячыну; і ўсё ў яго набывае афарбоўку загадкавасці* (Т. Хадкевіч. Спеюць яблыкі).

Паходзіць ад назвы часопіса, які выдаваўся імператрыцай Кацярынай II. Кампанент *усячына* па-за фразеалагізмам не ўжываецца, а *ўсякая* сэнсава суадносіцца з адпаведным словам свабодкага ўжывання.

**Усяму галава.** *Агульны для ўсходнесл. м.* (*руск.* всему голова, *укр,* усьому голова). Самае галоўнае, найбольш важнае сярод

іншага. *Хіба не бачаць, колькі нас, Быкоўскіх, зараз развялося, што на нас, Быкоўскіх, усё тут трымаецца, што мы, Быхоўскія, усяму тут галава* (М. Ермаловіч. Быкоўскі на пасадзе).

Паходзіць з прыказкі *Хлеб усяму галава.*

**Утаптаць у гразь** *каго, што. Гл.* таптаць (утоптваць; утаптаць) у гразь *каго, што.*

**Утоптванне (таптанне) у гразь** *каго, чаго. Уласна бел.*

Ачарненне, прыніжэнне, знеслаўленне, несправядлівае абвінавачванне каго-, чаго-н. *Ці захаваюць наступнікі духоўны скарб продкаў? Ці зберагуць пад ашалелым напорам размывання, знішчэння, утоптвання ў гразь усяго, на чым спакон веку трымаўся народ?* (Г. Пашкоў. Палескія вандроўнікі).

Назоўнікавы фразеалагізм, вытворны ад суадноснага з ім дзеяслоўнага *таптаць (утоптваць) у гразь* каго, што (гл.).

**У тры пагібелі.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Мае значэнне 'вельмі нізка', якое рэалізуецца пры дзеясловах *сагнуцца, схіліцца* і інш. *Жук паклаў цымбалы на стол і сагнуўся над імі ў тры пагібелі* (І.Пташкікаў. Мсціжы). Або: *у тры пагібелі гнуўся* (К. Крапіва); *скурчыўшыся ў тры пагібелі* (В. Быкаў); *схілены ў тры пагібелі* (З. Бядуля).

Сучасная форма выразу — частка фразеалагізма *гнуць у тры пагібелі* са значэннем 'тыраніць'. Узнікненне фразеалагізма знаходзіцца ў сувязі са страшным відам катавання на Русі ў часы сярэднявечча. Пры допыце «прывязвалі да ног галаву, — піша С. Максімаў, — у вяроўку прасоўвалі палку і круцілі яе, аж пакуль галава не прыгіналася да самых ног». *У тры пагібелі* — гэта 'у тры згібы'.

**Утыкаць <свой> нос** *куды, у што. Гл.* соваць (сунуць, утыкаць) < свой> нос *куды, у што.*

**У фаворы** *ў каго. Паўкалька з франц. м.* (en faveur). Пад апекай, заступніцтвам (быць, знаходзіцца, аказацца і пад.). *Андрэй ладзіў з Цімохам Гаўрылавічам, нават быў у яго ў фаворы* (В. Блакіт. Усмешка Фартуны).

У франц. мову слова *фавор* прыйшло з лац. м. *(favor),* дзе яно абазначае 'прыхільнасць'.

У форме *быць. Паўкалька з франц. м.* (etre en forme). У такім стане, калі найбольш поўна праяўляюцца сілы, здольнасці, уменне каго-н. *Дырэктарскі шафёр ведаў сабе цану і быў заўсёды, як кажуць, у форме* (І.Кананові. Святло ў акне).

Першапачаткова выраз ужываўся ў галіне спорту.

**У футарале (у футляры).** *Запазыч. з руск. м.* (в футляре). Фразеалагізмам вобразна характарызуюць таго, хто замкнуўся ў сваіх вузкіх інтарэсах, адмежаваўся ад жыцця, баіцца новага. *Ну, вось гляньце: не хацеў, каб лічылі кабінетным пацуком — спецам,*

*адміністратарам у футарале; захацеў, каб ведалі ўсе рабочыя, што і як робіцца на ўчастку, каб рабілася ўсё са згоды РКК, прафсаюза, і — вось вам вынік...* (Х. Шынклер. Сонца пад шпалы). Звычайна спалучаецца са словам *чалавек* або яго кантэкстуальнымі сінонімамі. *Дык я ж пра тых — «у футарале», што ў промнях сонца яснага баяцца ценю ўласнага* (К. Крапіва. Чорт).

Крылаты выраз з апавядання А. П. Чэхава «Чалавек у футляры». Белікаў, герой апавядання, увесь час імкнецца «акружыць сябе абалонкай, стварыць сабе, так сказаць, футляр, які адасобіў бы яго, засцярог бы ад знешняга ўплыву». Ён баіцца ўсяго новага і жыве пад вечным страхам, «як бы чаго не выйшла». І звонку ён таксама нібы ў футляры: заўсёды «выходзіў у галёшах і з парасонам і абавязкова ў цёплым паліто на ваце», з паднятым каўняром.

**Ухапіцца абедзвюма рукамі** *за што. Гл.* хапацца (ухапіцца) абедзвюма рукамі *за што.*

**Ухапіцца за саломінку.** *Гл.* за саломінку ўхапіцца.

**У чатырох сценах** *сядзець, жыць* і пад. *Агульны для ўсходнесл. і польск.* (w czterech ścianach) *м.* Ужыв. са значэннямі ‘не маючы ні з кім зносін, у адзіноцтве’ і ‘не выходзячы з дому, з памяшкання’. *Юрац успомніў пра Ціманава: маўляў тут згуртавалася нешта накшталт халасцяцкай кампаніі, а сусед, халасцяк, будзе сумаваць у чатырох сценах. Можа, і яго запрасіць?* (М. Гроднеў. Крок да тайны). *Хто ж у гэткія маладыя гады выседзіць летам у чатырох сценах?* (В. Супрунчук. Сяргей Сяргеевіч).

Склаўся, відаць, пад уплывам франц. выразу *entre quatre mures* (літаральна «паміж чатырох сцен») як яго недакладная калька. Фразеалагізм успрымаецца як матываваны.

**У чорным святле.** *Калька з франц. м.* (tout en noir). Змрочна, непрыглядна, горш, чым на самай справе (бачыць, паказваць, выглядаць і пад.). *Што ж, разумная крытыка на карысць ідзе, і баяцца яе няма чаго. Аднак не думаю, каб у вас тут усё блага было, выглядала ў чорным святле* (Т. Хадкевіч. Даль палявая).

Узнік, відаць, як антанімічнае ўтварэнне на аснове фразеалагізма *ў ружовым святле* (гл.). Чорны колер заўсёды асацыіраваўся з адмоўным, змрочным, сумным.

**У чорным целе** *трымаць. Відаць, запазыч. з руск. м.* Ужыв. са значэннямі ‘надгаладзь, без дастатковага харчавання’ і ‘вельмі строга, сурова, абмяжоўваючы свабоду дзеянняў’. *[Змітро: ] Што ж вас у чорным целе трымаюць, не кормяць? Выкінулі сюды, як непрыкаяных> і забыліся, што есці хочаце* (Г. Марчук. Прызнанне ў

забойстве). *Іх, гэтых гусляроў трэба ў чорным целе трымаць. А мы ім патураем. Волю далі* (А. Асіпенка. Святыя грэшнікі).

Першапачаткова выраз ужываўся ў дачыненні да коней і абазначаў ‘у худым целе, сярэдне (трымаць)’. В.І.Чарнышоў прыводзіць урывак з «Рэгулы аб конях» (1725), дзе даецца інструкцыя «глядзець, каб халастыя кабылы былі ў чорным целе». Яшчэ адно значэнне развілося ў фразеалагізме пад уплывам выразаў *у цуглях, у абцугах* трымаць.

**У чорта на кулічках.** *Запазыч. з руск. м.* Вельмі далёка, у аддаленых мясцінах (быць, жыць, знаходзіцца і пад.). *Ну што ж, пойдзем па хатах. Я ў чорта на кулічках жыву. Праводзіць мяне не трэба* (А. Асіпенка. Крык чайкі).

Мяркуюць, што сучасная форма гэтага фразеалагізма з’яўляецца пераробкай даўнейшага выразу *ў чорта на куліжках,* дзе *куліжкі* абазначаюць ‘выпаленыя, расчышчаныя пад раллю лясныя палянкі’. Тут аралі і сеялі на працягу некалькіх гадоў, а пасля палянкі зноў зарасталі лесам; існавала павер’е, што тут водзяцца чэрці.

# Ф

**Фама няверны.** *Агульны для ўсходнесл. (руск.* Фома неверный, *укр.* Хома невірний) *і польск.* (niewiemy Tomasz) *м.* Чалавек, якога цяжка прымусіць паверыць чаму-н. *Заслонаў, весела смеючыся, дастаў з кішэні гімнасцёркі сваё колішняе пасведчанне… — Чытай, Фама ты няверны…* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Пра недаверка часам кажуць: не паверыць, пакуль не памацае. Так было і з апосталам Фамой, як пра гэта расказваецца ў евангельскай прытчы (Іаан, 20, 24–29). Пачуўшы, што распяты на яго вачах Хрыстос уваскрэс, Фама сказаў, што не паверыць гэтаму, пакуль не ўбачыць і не памацае на яго руках ран ад цвікоў і не ўкладзе сваёй «рукі ў рэбры яго». І тады, як гаворыцца ў прытчы, з'явіўся перад ім Ісус і сказаў: «Падай палец твой сюды і падзівіся на рукі мае, падай руку тваю і ўкладзі ў рэбры мае, — і не будзь няверны, а верны». На аснове гэтай легенды склаўся фразеалагізм. Яго прыметнікавы кампанент — семантычны архаізм, слова, адно са значэнняў якога ўстарэла. Раней прыметнік *няверны* ўжываўся і са значэннем 'які не верыць'. Часам выраз ужыв. у літаратуры і ў такім афармленні: *няверны Тамаш* (М. Танк), *няверны Хама* (Я. Колас), *Фама няверуючы* (А. Жалязоўскі), *Хама няверуючы* (А. Жук), *недаверлівы Фама* (М. Танк), *Хаманявернік* (Ф. Янкоўскі).

**Фігавы лісток.** *Агульны для ўсходнесл., польск., чэшск. м.* Крывадушная маскіроўка ганебных учынкаў, прыкрыццё чагосьці непрыстойнага. *Хто ў гэтай драме — герой, хто статыст, распішуць стратэг і статыстык, схаваўшы лоб за браніраваны ліст, сумленне — за фігавы лісцік* (В.Вітка. Спакуса).

Узнік на аснове біблейскага падання пра першых людзей на зямлі (Быццё, 3, 7). Адам і Ева пасля выгнання іх з раю (гл. *у касцюме Адама)* упершыню пазналі сорам і, каб схаваць сваю галізну, зрабілі сабе паясы з лісця фігавага дрэва. Выраз атрымаў асаблівае пашырэнне ў сувязі з тым, што жывапісцы і скульптары XVI–XVIII стст., калі трэба было адлюстраваць голага чалавека, выкарыстоўвалі фігавы лісток як умоўнасць: царква не дазваляла паказваць галізну ў мастацтве.

**Фіга на талерцы.** *Уласна бел.* Непрыемнасць для кагосьці, прыхаваная ветлівасцю, далікатнасцю. *Гэта будзе для Анішчука і яго кампаніі нешта накшталт хвігі на талерцы* (І.Гурскі. Хлеб).

У XIX ст. фразеалагізм ужываўся ў больш поўнай форме: *той жа кукіш (фіга), ды на талерцы.* Ён падаецца ў зборніку І.Насовіча з такім тлумачэннем сэнсу: «кажуць, калі хто грубасць, дакор і непрыемнасці прыхоўвае формамі далікатнасці». Вызваленне ад лішніх кампанентаў, сціск выразу адбыліся непасрэдна ў жывой народнай мове, адкуль фразеалагізм трапіў у мастацкія тэксты (упершыню выкарыстаны ў 1927 г. у вершы К. Крапівы «Фіга на талерцы»).

**Фіглі-міглі.** *Запазыч. з польск. м.* (figle-migle). Жарты, хітрыкі, спрытныя прыёмы для дасягнення чаго-н. *Шчэпкін мусіў вярнуцца, зрабіць рукамі фіглі-міглі, і толькі тады яму заапладзіравалі* (А. Карпюк. След на зямлі).

Назоўнік *figel,* адно са значэнняў якога ў польск. м. — ‘жарт’ *(figle* — ‘жарты’), — сэнсаўтваральны кампанент фразеалагізма. Другі ж кампанент — прыдуманы, нематываваны, узніклы ў працэсе рыфмоўкі, падагнаны пад гукавую сіметрыю выразу, а можа, і звязаны з коранем дзеяслова *migać* — ‘мігаць, падміргваць’.

**Фігу з макам.** *Гл.* дулю (фігу) з макам.

**Фігу з маслам.** *Гл.* дулю (фігу, кукіш) з маслам.

**Фількава грамата.** *Пайкалька з руск. м.* Пустая паперка, несапраўдны ці няправільна напісаны дакумент. *З’явілася на тых валях розная шума несусветная, усялякія фуражыры-драпежнікі, якія бралі ў сялян і пошар, і коні пад шарлатанскія распіскі, фількавы граматы…* (У. Дубоўка. Пялёсткі).

Узнікненне фразеалагізма растлумачваюць па-рознаму. Адны лічаць аўтарам выразу Івана Грознага, які нібыта пагардліва назваў маскоўскага мітрапаліта Філіпа Фількай, а яго пісьмы да цара, накіраваныя супраць апрычніны і палітыкі тэрору, — «филькиной грамотой». Другое меркаванне (М. М. Шанскі) больш пераканальнае: выраз узнік па мадэлі састаўных тэрмінаў тыпу *духоўная грамата.* Прыметнікавы кампанент фразеалагізма ўтварыўся ад назоўніка *філька* — уласна рускага слова са значэннем ‘недалёкі чалавек, дурань’ (параўн. таксама рускае *простофиля).* Першапачатковы сэнс выразу быў вузейшы, чым цяпер: ‘бязглузда складзены дакумент’.

# Х

**Хаваць галаву ў пясок.** *Калька з ням. м.* (den Kopf in den Sand stecken). Палохаючыся, старацца ўхіліцца ад чаго-н. *Давайце не будзем хаваць галаву ў пясок — нашым юнакам і дзяўчынкам ведаў* [пра маральна-палавое выхаванне] *катастрафічна нехапае* (Настаўн. газ. 20.05.2000).

Узнік у выніку метафарызацыі свабоднага словазлучэння, якое ўжываецца ў дачыненні да страуса. Параўн.: «Тыя палітыкі, якія агітуюць не ўдзельнічаць у выбарах пры любых саступках існуючага рэжыму, нагадваюць страуса, які перад небяспекай хавае галаву ў пясок» (Нар. воля).

**Хаваць (схаваць) канцы <у ваду>.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* прятать концы <в воду>, *укр.* ховати кінці <в воду>). Спрытна знішчаць ці ўтойваць тое, што было доказам віны. *Каб схаваць канцы ў ваду, прынялі Саламонава рашэнне: перадаць завод на баланс калгаса «Прагрэс»* (І.Дуброўскі. Незамкнуты круг).

Відаць, узнік на аснове фразеалагізма *<і> канцы ў ваду* (гл.).

**Хаджэнне на галаве (галовах).** *Агульны для ўсходнесл. м.* Бурнае свавольства, гарэзлівасць (звычайна з боку дзяцей). *Па-мойму, «хаджэнне на галовах» на ўроках павінен, пры неабходнасці скідвання назапашанай энергіі, «арганізаваць» сам настаўнік* (Н. Цыпіс. Настаўнік — галоўны чалавек у дзяржаве).

Вытворны ад суадноснага дзеяслоўнага фразеалагізма *хадзіць на галаве (галовах),* які абазначае 'вельмі сваволіць, дурэць; рабіць, што захочацца'.

**Хадзіць гогалем.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Мець бравы, незалежны выгляд, трымацца зухавата. *[Ермашоў:] Майце на ўвазе: калі ўбачу ў каго з вас у вачах сум — ласкі маёй не чакай!.. Тут мы адзін на адзін яшчэ можам паўздыхаць, а пры байцах — хадзі гогалем!* (К. Губарэвіч. Брэсцкая крэпасць).

Утвораны на аснове свабоднага словазлучэння, у якім дзеяслоў спалучаецца з назоўнікам у форме творнага параўнальнага склону.

*Гогалем* — 'як гогаль', дзе *гогаль* — 'вадаплаўная птушка з сямейства качыных'. Яна ходзіць павольна і перавальваючыся, нібы важная, самазадаволеная асоба.

**Хадзіць (захадзіць) ходырам (хадуном).** *Агульны для ўсходнесл. м.* Ужыв. са значэннямі 'моцна хістацца, калыхацца' і'бурна праяўляцца, прыходзіць у рух (пра справы, падзеі і пад.)'. *Захадзілі жорны хадуном, аж трасуцца сцены ветраковы*

(Я. Непачаловіч. Вятрак). *Ходзіць ходырам свет цэлы, смела ў бітву йдзе нясмелы, у бой за лепшы час* (Я. Купала. Час!).

Узнік па мадэлі таўталагічных выразаў тыпу *есці поедам, прападзі пропадам.* Сэнсаўтваральным тут выступае дзеяслоў *хадзіць,* выкарыстаны ў сваіх перыферыйных значэннях. Далучанае да дзеяслова аднакаранёвае прыслоўе *ходырам* ці *хадуном,* неўжывальнае па-за гэтым фразеалагізмам, дапаўняе яго значэнне семай узмацняльнасці, робіць выраз экспрэсіўным сродкам.

**Хадзіць на задніх лапках** *перад кім. Гл.* на задніх лапках хадзіць *перад кім.*

**Хадзячая газета.** *Калька з англ.* (walkind newspáper) *ці паўкалька з франц.* (gazette vivante, літаральна «газета жывая», *або* gazette du quortier, дзе 1-е значэнне — ‘бульварны лісток’, а 2-е — ‘мясцовы пляткар’) *м.* Чалавек, які распаўсюджвае розныя навіны і чуткі. *«Ці тут падманулі, ці там?» — вырашалі адны заблытаную дылему; а другія, якіх звычайна называюць «хадзячай газетай», з палёгкай уздыхнулі: ніяк не маглі яны змірыцца з тым, што іншыя разнеслі навіну ў масах — такія ўвогуле ніколі, нікому і нічому не вераць, але вельмі крыўдзяцца, калі не вераць ім* (А. Кудласевіч. «Жэзл Жалезны»).

У аснове фразеалагізма — нерэальная вобразнасць, якой і матывуецца яго сэнс.

**Хадзячая энцыклапедыя.** *Паўкалька з франц.* (encyclopédie ambulante) *ці калька з ням.* (ein wandelndes Leksikon) *м.* Чалавек, які валодае самымі разнастайнымі ведамі. *Сяргея нездарма звалі «хадзячай энцыклапедыяй». Ён слова ў слова прадоўжыў верш* (В. Жуковіч. Як адна вясна).

У аснове фразеалагізма — нерэальная вобразнасць, якой і матывуецца яго сэнс.

**Хадзячы анекдот.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Чалавек, дзеянні ці ўчынкі якога здаюцца дзівацкімі. *Цяпер, калі падумаць, то не зразумела, з якой прычыны Федзя абазваў тады Любу імем вясковай жанчыны, якая была ў сяле хадзячым анекдотам* (І.Грамовіч. На крутой гары).

Утвораны шляхам мадэліравання — на ўзор фразеалагізмаў *хадзячая газета* (гл.) і *хадзячая энцыклапедыя* (гл.), якія з’яўляюцца малькамі ці паўкалькамі з заходнееўрапейскіх моў.

**Халодная вайна.** *Калька з англ. м.* (cold war). Непрыязныя, варожыя адносіны паміж кім-н. — *Там у нас цяпер халодная вайна. — Як гэта халодная вайна? Паміж кім і кім? — Паміж мамай і бацем. Ён на яе злуецца, крычаць пачынае, а яна быццам не заўважае яго* (Я. Радкевіч. Сутокі дзён).

Склаўся на аснове адпаведнага састаўнога тэрміна, які ўпершыню быў ужыты ў 1946 г. у выступленні прэм'ер-міністра Вялікабрытаніі У. Чэрчыля ў Фултане і служыў для абазначэння варожай палітыкі капіталістычных дзяржаў у адносінах да Савецкага Саюза ва ўмовах афіцыйнага міру.

**Хапацца за саломінку.** *Гл.* за саломінку ўхапіцца.

**Хапацца (ухапіцца) абедзвюма рукамі** *за што. Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* хвататься обеими руками, *укр.* хвататися обома руками). З вялікай ахвотай скарыстоўваць што-н. *Ніводзін з памянёных маіх паходаў не звязаны з турызмам. Усё гэта рабілася пры выпадках і па неабходнасці, хаця за такія выпадкі я заўсёды хапаўся абедзвюма рукамі* (У. Корбан. Цеплаход ідзе на Поўнач).

Утвораны на аснове свабоднага словазлучэння ў выніку яго пераасэнсавання, пераносу дзеяння з канкрэтных прадметаў, за якія можна ў прамым сэнсе хапацца абедзвюма рукамі, на абстрактныя.

**Хапацца (хапіцца) за галаву.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Разгубіўшыся, не ведаць, што рабіць, прыходзіць у адчай. [Пятру Тадаровічу] *пашанцавала, і ён адгарадзіўся ад усяго свету! Але ўжо ў наступную хвіліну ён хапіўся за галаву: сапраўды ён выразна чуў артылерыйскую кананаду* (К. Чорны. Семнаццаць год).

Фразеалагізм жэставага паходжання. Тут унутраны стан чалавека апісваецца праз яго знешні выгляд.

*Мая* (*твая* і інш.) **хата з краю.** *Агульны для ўсходнеслав. м.* Каго-н. зусім не датычыцца; хто-н. не мае ніякіх адносін да каго-н. *Доўга не думаючы, я адказаў, што... няхай пра гэта думае той, каму належыць. Хто ў гэтым вінаваты. — Словам — мая хата з краю. Самы бяздушны бюракратызм. Няхай гіне дабро, а вы пільнуецеся літары закону* (Я. Скрыган. Дакументальная рэвізія).

Паходзіць з прыказкі *Мая хата з краю, нічога не знаю.* Ужываючыся без другой часткі, фразеалагізм набыў большае абагульненне, уласцівасць лексічнай замены першага кампанекта і, такім чынам, большы дыяпазон спалучальнасці, тады як поўная форма не можа мець такой магчымасці, бо замена кампанента займеннікамі, якія ўказваюць на прыналежнасць не першай асобе адз. л. *(твая, яго, наша* і інш.), прывяла б да разбурэння рыфмы, што звязвае абедзве часткі і з'яўляецца неад'емнай асаблівасцю гэтай прыказкі. Параўн. ужыванне фразеалагізма ў сучаснай мове: *мая хата з краю* (Я. Колас); *твая хата з краю* (К. Крапіва); *наша хата з краю* (І.Шамякін); *іхняя хата з краю* (М. Лынькоў); *ваша хата з краю* (А. Куляшоў); *хата з краю* (М. Лужанін); *яго хата з краю* (А. Бачыла); *яе хата з краю* (І.Навуменка).

**Хварэць (захварэць) на пана.** *Уласна бел.* Ужыв. са значэннямі ‘доўга спаць, вылежвацца’ і ‘весці сябе высакамерна, фанабэрыста, выяўляючы нечаканыя звычаі, імкненне да раскошы і пад.’. *Дзед-жабрак прачнуўся рана, будзіць хлопца. — Уставай! Хварэць нечага на пана, хоць падзяку людзям дай!* (Я. Колас. Сымон-музыка). *Бач, захварэў на пана... Няма таго, каб аддаць дабрыдзень, з людзьмі па-людску паздароўкацца...* (І.Аношкін. Букет бэзу).

Выраз з паэмы Я. Коласа «Новая зямля» (1923). Ужыты ў такім кантэксце: «У будныя дні ўставалі рана: няма калі хварэць на пана». Утвораны па сінтаксічнай мадэлі *хварэць на сухоты* і, відаць, пад уплывам устойлівага словазлучэння *панская хвароба,* якое ўжываецца іранічна пры ацэнцы таго, хто «з-за ляноты прытвараецца хворым і не ідзе на работу» (І.І.Насовіч).

**Хвост падтуліць (падціснуць).** *Фразеалагізм з такой вобразнасцю і значэннем ёсць таксама ў руск.* (поджать хвост), *укр.* (піджати хвіст), *балг.* (свия си опашка), *серб. — харв.* (подвити реп) *м.* Яго сэнс — ‘спалохаўшыся, стаць асцярожным’. *Ідзі, ідзі, погань буржуйская... Бач, хвост падціснуў, калі на лапы наступілі...* (М. Лынькоў. Міколка-паравоз).

Выраз узнік у выніку пераносу на чалавека дзеянняў і ўласцівасцей ваўка ці сабакі: воўк звычайна ходзіць, падтуліўшы хвост; сабака, калі на яго накрычыць гаспадар, бяжыць з падтуленым хвастом у будку. Параўн. выкарыстанне фразеалагізма з агаленнем яго вобразнасці: «А Воўка сядзеў, як той цюцька, падтуліўшы хвост, і маўчаў, нічога не казаў матцы» (Л. Арабей).

**Хлеб адбіць** у *каго. Агульны для ўсходнесл. м.(руск.* хлеб отбить, *укр.* хліб відбити). Пазбавіць кагосьці заробку, узяўшыся за тую самую працу, справу. *Хэ-хэ... Ты хочаш хлеб адбіць у мяне... Ды ці толькі ў мяне, тут і па будаўнічай лініі ці мала чаго намудравана...* (М. Зарэцкі. Вязьмо).

Узнік у выніку зліцця паасобных значэнняў у агульнае аналітычнае значэнне, якое суадносіцца са словамі *адбіць* і *хлеб* у свабодным ужыванні: *адбіць* —’сілком адабраць што-н.’, *хлеб* — ‘сродкі існавання’.

**Хлеб надзённы.** *Пайкалька з царк. — слав. м.* Выраз паходзіць з малітвы, прыведзенай у Евангеллі (Матфей, 6, 11): «Хлеб наш насущный даждь нам днесь» (хлеб, патрэбны для існавання, дай нам на гэты дзень).

У сучаснай бел. м. фразеалагізм ужываецца і са сваім першасным значэннем — ‘неабходныя сродкі для жыцця’, і з новым, якое развілося на яго аснове, — ‘самае важнае, самае неабходнае’. *Сымон добра ведаў цану жыцця. І з першага курса*

*самому даводзілася яму зарабляць нахлеб надзённы* (Р. Барадулін. Чысціня); *Непакой за цябе, зямля мая, — мой хлеб надзённы* (М. Танк. Мой хлеб надзённы).

**Хлеб-соль.** *Усходнесл.* Ужыв. са значэннямі: 1) пачастунак, 2) харч, ежа, 3) турботы, апека, 4) *каму,* прыемнага, добрага апетыту (пажаданне таму, каго засталі за ядой). *Выбачайце за нечаканы візіт. Дзякуем за хлеб-соль, жадаем здаройя* (Э. Валасевіч. Бывайце здаровы). *Падзяляю з сяброўкай тайну, з падарожнікам хлеб-соль* (Я. Янішчыц. Я дзяліць не перастану...). *За ўсё, што сёння маю, што даў мне мой народ: за кут у родным краю, за хлеб-соль без клапот, — я адплаціў народу, чым моц мая магла: зваў з путаў на свабоду, зваў з цемры да святла* (Я. Купала. За ўсё). *— Хлеб-соль вам! — гукнуў Сілівей Зязюля, і не паспелі яго запрасіць за стол, як ён сам прысеў на край лаўкі* (В. Каваль. Шчасце Сілівея Зязюлі).

Узнікненне фразеалагізма (у яго 1-м значэнні) звязана з даўнім звычаем, вядомым з часоў Кіеўскай Русі: сустракаючы жаданага госця, яму падносілі як знак павагі бохан хлеба і соль. Гэты звычай гасціннасці і цяпер жыве: «Паважна старыя вітаюць наркома, падносяць хлеб-соль, караваі і мёд» (Я. Купала). Астатнія тры значэнні развіліся ў фразеалагізме на аснове першага.

**Ход канём.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Спрытны, абходны манеўр. *Юрыдычна ва ўсім вінаваты Гарошка. А Курбатаў — яго зяць. І ён зможа справу загладзіць. У гэтым напрамку я ўжо тое-сёе прадпрыняў Гэта, так сказаць, — ход канём* (А. Макаёнак. Выбачайце, калі ласка).

Выраз узнік параўнальна нядаўна і ўвайшоў у літаратурны ўжытак з мовы шахматыстаў. Конь ходзіць не па прамой лініі ці дыяганалі, як іншыя фігуры, а літарай «Г», таму яго хады звычайна не чаканыя для праціўніка.

**Хоць гаць гаці** *каго, чаго, кім, чым. Агульны для бел. і ўкр.* (хоч гать гати) *м.* Вельмі многа каго-, чаго-н. *[Бацька: ] Вакол нас ворагаў хоць гаць гаці. Яны толькі таго і чакаюць, каб на нас зноў хамут усцягнуць* (Я. Бяганская. Далёка на Поўначы).

Склаўся на аснове свабоднага словазлучэння *гаць гаціць,* дзе *гаціць* абазначае ‘рабіць гаць, пракладаць дарогу цераз балота ці гразкае месца’, а *гаць* — ‘насціл з бярвення, галля, ламачча; грэбля’.

На такі насціл нярэдка ішло вялікае мноства featureнага матэрыялу.

**Хоць гвалт крычы.** *Агульны для бел. і ўкр.* (хоч гвалт кричи) *м.* Ужыв. як выказванне адчаю са значэннем ‘склалася цяжкае, бязвыхаднае становішча’. *Дынастыя майстроў так званай доўгай пугі даўно ў вёсцы перавялася, і цяпер, як надыходзіць лета, хоць*

*гвалт крычы — ніхто не хоча ісці ў пастухі* (М. Ракітны. Пятроўскі касманаўт).

Утвораны па мадэлі шматлікіх фразеалагізмаў са структурай дададнага ўступальнага сказа (*хоць* + дзеяслоў загаднага ладу з залежным ад яго назоўнікам). Першапачаткова мнагазначнае слова *гвалт* у гэтым выразе ўспрымалася як выклічнік з тым жа значэннем — клічам аб паратунку «ратуйце», з якім гэты выклічнік ужываецца, напрыклад, у такім кантэксце: «— Гвалт! — крычыць. — Ратуйце, людзі!» (К. Крапіва).

**Хоць зубы на паліцу кладзі (лажы)** *калі, пры якой умове. Уласна бел.* Зусім няма чаго есці. *Настала, бадай, самая цяжкая пара ў жыцці кляноўцаў—хоць зубы кладзі на паліцу* (А. Асіпенка. Жыта).

У аснове фразеалагізма — гіпербалічны вобраз, матываваны практычнай, гумарыстычна афарбаванай развагай: калі няма чаго есці, дык і няма занятку зубам, а таму хоць кладзі іх на паліцу.

**Хоцькі-няхоцькі.** *Уласна бел.* Насуперак жаданню, незалежна ад жадання, старання каго-н. *Хоцькі-няхоцькі прыйшлося выбрацца з роднага гнязда* (З. Бядуля. Дванаццацігоднікі).

Утвораны на аснове тоеснага выразу *хочаш не хочаш* (гл.), складаецца з кампанентаў, неўжывальных па-за фразеалагізмам.

**Хоць кол на галаве чашы** *каму. Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* хоть кол на голове теши, *укр.* хоч кіл на голові теши). Немагчыма пераканаць каго-н., растлумачыць каму-н. што-н. (пра ўпартага, няўступчывага чалавека). *Палажка адразу прымоўкла — ведала Антонаў характар: калі ўжо задумае што, дык назад не заверне, хоць кол на галаве чашы* (М. Даніленка. Сініца ў руцэ).

У аснове фразеалагізма — нерэальны вобраз, заснаваны на гіпербале, на ўяўленні аб вельмі моцнай галаве, якую нічым не праб'еш. Параўн. прыметнік *цвердалобы* 'вельмі ўпарты'.

**Хоць патоп.** *Калька з франц. м.* (après nous le déluge, літаральна «пасля нас хоць патоп»). Ужыв. пасля слоў *а там, пасля* і інш. і абазначае 'не мае значэння для каго-н., не хвалюе, не кранае каго-н.'. *Яму* [Антушкову] *было важна закрыць па ўсіх паказчыках год, а там хоць патоп* (В. Супрунчук. Жывеш толькі раз).

Лічаць, што выраз *пасля нас хоць патоп* належыць франц. каралю Людовіку XV (1710–1774). У часы яго праўлення амаль уся ўлада была ў руках фаварытак. Калі яму аднойчы паведамілі пра цяжкае эканамічнае становішча ў краіне і пагрозлівае нарастанне пратэсту народных мас, то разбэшчаны дэспат нібыта сказаў: «Манархія пратрымаецца, пакуль мы жывыя, а пасля нас хоць патоп». Паводле іншых крыніц, фраза прыпісваецца фаварытцы

гэтага караля маркізе Пампадур. Яна сказала яе ў 1757 г., каб суцешыць караля пасля паражэння яго войск.

**Хоць разарвіся** *каму. Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* хоть разорвись, *укр.* хоч разірвися). Ужыв. са значэннямі ‘каму-н. неабходна адразу рабіць некалькі спраў’ і ‘нягледзячы ні на якія старанні, намаганні; што ні рабі (не выходзіць, не атрымліваецца што-н.)’. *У каго дзесяць якіх дзесяцін ці, скажам, чатырнаццаць, як у мяне, таму няўпраўка, таму хоць разарвіся* (П. Галавач. Праз гады). *А кабыла Андрэева — важная кабыла! Не скора такую цяпер набудзеш. Чалавеку цяпер проста хоць ты разарвіся з жалю* (К. Крапіва. Мядзведзічы).

Узнік, відаць, на вобразнай аснове фразеалагізма *разрывацца на часткі* (гл.) і сэнсава суадносіцца з ім у сваім першым значэнні.

**Хоць рэпку спявай.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Выказванне роспачы, адчаю, бяссілля, немагчымасці зрабіць штосьці, каб выйсці з цяжкага становішча. *Горка, горка давядзецца, ты старога запытай. Ой, часамі так прыпрэцца, што хоць рэпачку спявай!* (Я. Колас. Сымон-музыка).

У Старажытнай Русі рэпкай называлі спецыяльныя, мудрагелістыя абцугі, верхняя палавінка якіх знешне падобная на рэпку. Гэта быў інструмент для катавання. Ім так сціскалі ногці, што ахвяра пачынала прызнавацца, а то і нагаворваць абы-чаго на сябе і на другіх. Рэпка змушала чалавека плакаць. Відаць, тыя, хто паспытаў яе, склалі ў гонар рэпкі песню-галашэнне, не зусім, як зазначае У. Даль, прыстойную.

**Хоць святых вынось.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Няма сіл цярпець што-н.; нясцерпна, нязносна для іншых. *Адно кепска — пад раніцу паветра стала гэткае, што хоць, як кажуць, святых вынось…* (М. Машара. Ішоў двадцаты год).

Узнікненне фразеалагізма звязана з умовамі старога быту, звычаем шанавання ікон. Абразы, якія можна было бачыць у кожным доме над застоллем, называліся «святымі». У выпадку пажару першымі выносіліся з агню абразы. У прысутнасці «святых» нельга было дапускаць нічога грэшнага. Стараверы, напрыклад, калі такое здаралася ў іх хаце, завешвалі абразы або пераносілі іх куды-небудзь. Такім чынам, *хоць святых вынось* — гэта першапачаткова ‘хоць абразы вынось’ (бо пачалося нешта абразлівае для «святых» — шум, хлусня і г. д.).

**Хоць у плуг запрагай** *каго. Уласна бел.* Хто-н. вельмі моцны, здаровы. — *Доктар! Я здаровы, як бык…* — *Што яго глядзець?! Гэтага буйвала хоць у плуг запрагай…* (Я. Палубятка. Дуралесіца).

У аснове выразу — гіпербалічнае супастаўленне з канём (паводле сілы, стану здароўя).

**Хоць у пятніцу.** *Уласна бел.* Абазначае ‘у любы момант, у самы блізкі час’, ужыв. пры словах *замуж, жаніць. Хлапец мае семнаццаць гадоў (жаніць хоць у пятніцу можна), ды з падшывальцамі гешэфты вядзе. Куды гэта падобна!* (Л. Калюга. Ні госць ні гаспадар).

Першапачатковы сэнс выразу — ‘хоць у той дзень, калі не дазвалялася спраўляць вяселле’. Вясельным днём была нядзеля. Пятніца з часоў язычніцтва лічылася нерабочым днём. Гэта традыцыя захоўвалася на Беларусі доўгі час. Яшчэ ў канцы XIX ст., як сведчыць С. Максімаў, у пятніцу нельга было шыць, купаць дзяцей, мыць бялізну; «калі ў Велікарусі засталіся ў народнай памяці і ў пашане толькі тры пятніцы… у Беларусі.. небяспечныя і страшныя ўсе пяцьдзесят дзве». «Хто ў пятніцу спявае, то ў нядзелю адплача» — народная прымета і перасцярога, занатаваная М. Федароўскім.

**Хоць у сабакі вачэй пазыч** *каму. Уласна бел.* Вельмі сорамна, непрыемна. — *Ой, Валодзя, — кажу, а самому; зноў жа, хоць у сабакі вачэй пазыч, — дык жа мне ўжо во, Шмулька — абагнаў* [бульбу] *і пабаранаваў. Ты ўжо, калі ласка, не крыўдуй, што так выйшла…* (М.Гіль. Як я абганяў бульбу).

Узнік як якаснае адлюстраванне пэўнага стану чалавека праз супастаўленне з сабакам, вобраз якога ў народным ўяўленні звязваецца часцей з негатыўнымі адзнакамі, чым са станоўчымі. Гэта бачым і ў шэрагу прыказак ды фразеалагізмаў: «Сабака і на Бога брэша», «Сабаку і сабачая смерць», «Воўк сабакі не баіцца, але звягі не любіць», «пусціцца ў сабачую скуру», «(прапасці) за сабаку», «па сабаку з рота скача» і г.д.

*Як, што, чаго* **хоча (захоча) левая нага** *каго, чыя. Запазыч. з руск. м.* Ужыв. са значэннямі ‘(як, што, чаго) захочацца каму-н.’, калі гавораць пра недарэчныя, безразважныя ўчынкі, дзеянні таго, хто лічыцца толькі з уласным жаданнем. *Для некаторых свабода раўназначная ўсёдазволенасці — маўляў рабі што твая левая нага захоча* (Звязда. 3.04.1988).

Сфарміраваўся, відаць, на аснове выразу *чаго мая нага хоча* з п’есы А. М. Астроўскага «Грэх ды бяда на каго не жыве» (1863). У ёй купец Курыцын расказвае, як ён сярод знаёмых рашаў спрэчку, чыя жонка найбольш ветлівая: «Я ўсіх да сябе ў дом вяду, сяду на лаўку, вось гэтак нагу выстаўлю і адразу кажу жонцы: „Чаго мая нага хоча?“ А яна разумее, бо абучана гэтаму, ну і, значыць, тут жа ў ногі мне».

**Хочаш не хочаш.** *Агульны для ўсходнесл, м.* Насуперак жаданню, незалежна ад жадання, старання каго-н. *Каб магла, яна* [Надзя] б *іні адзіную хвіліну не асталася тут. Але, хочаш не*

*хочаш, трэба ж адбыць гэты цяжкі абавязак…* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Відаць, утвораны па аналогіі з ужо існуючым, сэнсава тоесным выразам *воляй-няволяй,* які з'яўляецца калькай з лац. м. (volens nolens).

**Хто ёсць хто.** *Калька з англ. м.* (who is who). Што ўяўляюць сабой тыя ці іншыя людзі, чаго варты хто-н. *Дастаткова «дапытаць з прыдзіркамі» ўсіх, хто на той час працаваў у Цэнтральным аддзеле, — і стане зразумелым, хто ёсць хто* (В. Праўдзін. Танцавальны марафон).

Паходзіць ад назвы штогадовага бібліяграфічнага даведніка, які выдаецца ў Вялікабрытаніі, ЗША і некаторых іншых краінах.

**Хто ў лес хто па дровы.** *Паўкалька з руск. м.* (кто в лес кто по дрова). Нязладжана, нядружна, уразброд (спяваць, гаварыць і пад.). *Адным словам, у сэнсе палітычна-партыйным цягнулі нашы лектары «хто ў лес хто па дровы»…* (М. Гарэцкі. Віленскія камунары).

Лічаць, што выраз паходзіць з байкі І.А. Крылова «Музыканты» (1808), дзе пра няўмелых спевакоў гаворыцца: «Запели молодцы: кто в лес, кто по дрова…». У іншых мовах, апрача бел. і руск., не сустракаецца, яго перакладаюць адпаведнікамі: укр. *хто у луг, а хто у плуг; польск. jeden do Sasa, drugi do lasa* і г.д. У бел. літаратурнай м. ёсць сінанімічны выраз *хто ў плот хто ў гарод.*

# Ц

**Цалкам і поўнасцю.** *Калька з ням. м.* (voll und ganz). У поўнай меры. *[Матусевіч: ] А ў прынцыпея з вамізгодзен, як кажуць, цалкам і поўнасцю* (М. Матукоўскі. Наследны прынц).

Абодва кампаненты, калі іх разглядаць на ўзроўні слоў, — сінанімічныя ў адным са сваіх значэнняў і выступаюць як сэнсаўтваральныя.

**Царства нябеснае.** *Запазыч. з царк. — слав. м.* Рай, замагільнае жыццё ў раі. *І Ясік, чацвёртакласнік, у бацькаву дуду: «Ты што, мама, у царства нябеснае верыш?»* (Т. Гарэлікава. Перыферыя).

Паходзіць з Біблії, дзе ўжываецца неаднаразова; напрыклад: «Блаженны нищие духомъ, ибо ихъ есть царство небесное» (Матфей, 5, 3). У далейшым на аснове назоўнікавага фразеалагізма *царства нябеснае* склаўся выклічнікавы *царства нябеснае* каму, які ўжываецца пры ўпамінанні нябожчыка як пажаданне яму замагільнага жыцця ў раі. «— Адмучыўся!.. — Царства яму нябеснае, — перахрысцілася жанчына, захутаная ў коўдру» (С. Грахоўскі). У абодвух выпадках парадак кампанентаў адваротны, як і ў царк. — слав. тэксце.

**Цераз пень калоду.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Абазначае ‘абы-як, нядбала рабіць што-н.’ і ‘нязладжана, нягладка, з перашкодамі (ісці)’. *Звычаёвае права вялося ледзь не з літоўскіх часоў.. і за стагоддзі так уелася ў плоць і крой жыхароў, што мяняць яго было проста небяспечна: пачнуць працаваць цераз пень калоду…* (У. Караткевіч. Каласы пад сярпом тваім). *Бываюць жа такія дні: як нешта не зладзіцца зранку, так потым і ідзе цераз пень калоду* (Полымя. 1982. № 7).

Этымалагічна гэта «абломак» фразеалагізма *валіць цераз пень калоду* (гл.).

**Ціпун на язык** *каму. Агульны для ўсходнесл. м.* Ужыв. як рэзкае асуджэнне чыйго-н. недарэчнага выказвання і як нядобрае пажаданне таму, хто гаворыць не тое, што трэба. *Гэтая накаркала. Помніце, я сказала: «Аднімуць у вас правы». А ён: «Ціпун вам на язык»* (І.Шамякін. Сэрца на далоні).

Сучасная форма фразеалагізма, магчыма, з’яўляецца вынікам скарачэння кленіча; напрыклад, у «Вечарніцах» В. Дуніна-Марцінкевіча: «Каб на язык напаў ім ціпун!» (параўн. у сучаснай польск. м.: *bodajbyś pypcia na języku dostal* — літаральна «каб ціпун

на язык дастаў»). *Ціпун* — птушыная хвароба, нараст на кончыку языка і пашкоджанне гартані, поласці носа.

**Ціхай сапай.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Цішком, потайкам і паступова рабіць што-н. *Нямала недабітых яшчэ бандытаў ходзіць. І ціхай сапай, скрыта краіне нашай шкодзяць* (А. Александровіч. Пра ворага).

Выраз узнік у асяроддзі ваенных, дзе тэрмін *сапа,* запазычаны, як і роднаснае *сапёр,* з франц. м., абазначае 'падкоп або роў у кірунку да непрыяцельскай пазіцыі'. Такія падземныя хады, звычайна для падрыву крапасных сцен, а таксама траншэі рабіліся непрыкметна, цішком. Ва ўзнікненні метафарычнага зместу фразеалагізма семантыкаўтваральную ролю адыгрывае і эпітэт *ціхай,* што «прырос» да пераасэнсаванай формы *сапай.*

**Ціхая завадзь.** *Уласна бел.* Спакойнае, бяспечнае месца, без клопатаў і трывог. *Хочаце жыць у ціхай завадзі? Дзянісаў вам перашкаджае? Не, дарагі калега. Такія людзі, як Дзянісаў,вельмі нам патрэбны* (М. Гамолка. Шосты акіян).

Утвораны ў выніку пераасэнсавання адпаведнага свабоднага словазлучэння, у якім *завадзь* — 'невялікі заліў рэчкі або возера з запаволеным цячэннем'.

**Цішэй вады <і> ніжэй травы.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* тише воды ниже травы, *укр.* тихше води нижче трави). Ужыв. са значэннямі 'вельмі пакорлівы, сарамлівы, ціхі; такі, што трымаецца непрыкметна, нясмела' і 'вельмі пакорліва, нясмела, непрыкметна (трымацца, весці сябе)'. *Добра, добра, дзядзька, не хвалюйцеся, Мы будзем цішэй вады ніжэй травы, маўчаць ды слухаць* (Б. Сачанка. Вялікі Лес). *Няма ўжо таго ініцыятыўнага і аптымістычнага Астапчыка, якім мы яго ведалі. Трымае сябе цішэй вады і ніжэй травы, а паліцэйскія ўсё роўна ходзяць за ім следам і не спускаюць з вока* (М. Машара. Лукішкі).

Выраз усведамляецца як матываваны. У яго вобразнасці знаходзіць адбітак фальклорная традыцыя, якая «трывала звязала *ваду* з эпітэтам *ціхі,* а *траву* — з эпітэтам *нізкі»* (В. М. Макіенка).

**Цуд(-а) у рэшаце.** *Паўкалька з руск. м.* (чудеса в решете). Штосьці незвычайнае, неверагоднае. *Сам таварыш Вепручкоў Зябліку пакланіўся? Можа рашыў, што большую пасаду яму адвалілі? Цуда ў рэшаце, дый годзе!* (І.Аношкін. Не па Юрку шапка).

Паходзіць з прыказкі *Чудеса в решете: дыр много, а вылезть некуда.*

**Цукар мядовіч.** *Паўкалька з руск. м.* (сахар медович). Празмерна ласкавы, прытворна-ветлівы чалавек. *Ідучы са сходу, калгаснікі мармыталі: — Не старшыня, а цукар мядовіч... —*

*Словы салодкія, а справы ніякай… — Звоніць, пакуль ахвоту згоніць* (П.Місько. Наватар).

Узнік для абазначэння занадта саладжавага чалавека на ўзор імёнаў і імёнаў па бацьку (тыпу «Пятро Іванавіч»). Фіксуецца ў «Зборніку беларускіх прыказак» (1874) І.І.Насовіча, праўда, з недакладнай дэфініцыяй: «кажуць пра чалавека капрызнага, сярдзітага, злой натуры».

**Цыганскае сонца.** *Агульны для бел. і ўкр.* (циганське сонце) *м.* Месяц, начное свяціла. *Ты цыганскаму сонцу павер і спакою істотай даверся, адгадаеш тады па траве, што пад ёй і што ў небе наверсе* (Ю. Голуб. Незнаёмыя шолахі траў…).

Выраз адлюстроўвае даўнейшы быт цыганоў, якія начавалі ў шатрах або пад адкрытым небам, параязджалі на новае месца, асабліва ў гарачую летнюю пару, пры святле месяца і для якіх «ноч — матка: усё гладка» (намёк на крадзеж коней).

**Цьма цьмушчая** *каго, чаго. Усходнесл.* Незлічоная колькасць, вялікае мноства. *Грыбоў улетку тут цьма цьмушча, народ сюды йдзе — гушчай-гушча* (Я. Колас. Новая зямля).

Выраз з паражытачнымі моўнымі з'явамі мінулых эпох. Першы *яго* кампанент — архаічны лічэбнік, які даўней абазначаў 'дзесяць тысяч'. Калі трэба было перадаць паняцце «сто тысяч», гаварылі *цьма цем.* Гэта свабоднае словазлучэнне пасля стала ўжывацца ў пераносным сэнсе для абазначэння незлічона вялікай колькасці людзей ці прадметаў. На аснове *цьма цем* узнік вытворны ад яго выраз *цьма цьмушчая..* Першы кампанент фразеалагізма ў сучаснай мове ўсведамляецца як назоўнік, другі — як прыметнік. Таму магчымае іх ужыванне і ва ўскосных склонах, асабліва вінавальным: «Емяльян Пугачоў падняў цьму цьмушчую мужыкоў на сялянскую вайну!» (А. Макаёнак).

**Цэнтр цяжару.** *Паўкалька з франц. м* (centre de gravité). Самае асноўнае, галоўнае, сутнасць чаго-н. *Ва ўсякім выпадку ясна адно: прэзідэнт пераарыентоўвае на хаду свой курс, цэнтр цяжару ў амерыканскай блізкаўсходняй палітыцы перамяшчаецца* (А. Вярцінскі. Нью-Йоркская сірэна).

Склаўся ў выніку пераасэнсавання адпаведнага тэрміналагічнага словазлучэння, якое ў сваім прамым значэнні ўжываецца ў маўленні фізікаў і інжынераў-будаўнікоў.

**Цягаць з агню каштаны** *для каго. Калька з франц. м.* (tirer les marrons du feu). Выконваць з рызыкай для сябе цяжкую працу на карысць кагосьці. *Яны спадзяюцца, што мужык для іх пачне цягаць з агню каштаны* (А. Куляшоў. Хамуціус).

Крылаты выраз з байкі вядомага франц. паэта XVII ст. Лафантэна «Малпа і кот», у якой расказваецца, як хітрая малпа

Бертран, убачыўшы смачныя печаныя каштаны, прымусіла прастадушнага ката Ратона даставаць іх з агню для яе.

**Цягнуць ваду на сваё кола.** *Уласна бел.* Рабіць усё на сваю карысць, служыць выключна асабістым інтарэсам, не клапоцячыся аб іншых. *Яму, Валеру, увесь час здавалася, што не мізэр, як лічыў Пятро, а шмат людзей імкнецца прыстасавацца ў жыцці як найлепей і цягнуць ваду адно на сваё кола* (У. Рубанаў Каштаны).

Паходзіць з прыказкі *Усякі чорт на сваё кола ваду цягне* ці *Кожны млын на сваё кола ваду цягне.* «У беларусаў,—піша І.І.Насовіч, — ёсць павер’е, што ўсякі млын і нават кожнае млынавое кола мае свайго асобнага апекуна-чорта».

**Цягнуць валынку.** *Запазыч. зруск. м.* Займацца чым-н. нудным, аднастайным ці занадта марудзіць з ажыццяўленнем якой-н. справы. — *Я пастараюся паклікаць яшчэ аднаго ці двух сведак. Паклікаць? — А навошта яны? Я ведаю, што ўсё роўна зробіце так, як вам захочацца. А мне няма часу з вамі валынку цягнуць* (А. Цяжкі. Інцыдэнт).

Склаўся, відаць, пад уплывам сэнсава тоеснага фразеалагізма *цягнуць каніцель* (гл.), назоўнікавы кампанент якога заменены словам *валынка.* Гэта замена можа быць абумоўлена тым, што валынка як духавы музычны інструмент, зроблены з трубак, устаўленых у скураны мяшок, іграе нудныя, цягучыя, аднастайныя мелодыі.

**Цягнуць (выцягнуць) гізунты** *з каго. Уласна бел.* Мучыць, знясільваць цяжкай працай ці празмернымі патрабаваннямі. *Ого, занадта добра ты пра гэтага шыбеніка думаеш! Не адстане ён, гізунты выцягне. І з цябе, і з мяне. Пабачыш вось* (Б. Сачанка. Забытыя селішчы).

Узнік шляхам аб’яднання двух сэнсава блізкіх фразеалагізмаў у адзін: *цягнуць жылы* з каго (гл.) + *даставаць гізунты* з каго. Кантамінаваны выраз захаваў значэнне фразеалагізма *цягнуць жылы* з каго. Слова *гізунты* з’яўляецца запазычаннем з мовы ідыш (яўрэйскай мовы, у аснове якой ляжаць нямецкія дыялекты); *гізунты* — ‘здароўе’; параўн. у ням. м.: *gesund*— ‘здаровы’.

**Цягнуць (выцягнуць) жылы** *з каго. Агульны для ўсходнесл. м.* Мучыць, знясільваць цяжкай працай ці празмернымі патрабаваннямі. *Раскажы маім хлопцам, як я тут гаравала. Як гэтыя вылюдкі цягнулі з мяне жылы. Сэрца маё чуе, што ты вернешся* (І.Мележ. Мінскі напрамак).

У аснове фразеалагізма, хутчэй за ўсё, нерэальны, гіпербалізаваны вобраз.

**Цягнуць каніцель.** *Запазыч. з руск. м.* Займацца чым-н. нудным, аднастайным ці занадта марудзіць з ажыццяўленнем якой-н. справы. *Кастусь Аляшкевіч гаварыў неахвотна, на*

*пытанні адказваў скупа. — Ударыў прызнаюся. Толькі не цягніце каніцель, судзіце хутпчэй, — паўтараў ён упарта* (А. Капусцін. Дзённік суддзі Верасаўца).

Склаўся ў выніку пераасэнсавання адпаведнага свабоднага словазлучэння, якое абазначае марудную, нудную работу — выраб, выцягванне тоненькай металічнай, звычайна залатой або сярэбранай ніці (каніцелі) для вышывання.

**Цягнуць ката за хвост.** *Агульны для бел. і руск. м.* Ужыв. са значэннямі: 1) нудна і аднастайна гаварыць, марудзіць з адказам, 2) занадта доўга рабіць што-н. *Кажыце хутчэй. Што вы цягнеце ката за хвост* (І.Гурскі. Патрыёты). *З памольным зборам справа ясная. Не прыйдзеш, не скажаш: — Таварышы калгаснічкі, таварышы аднаасобнічкі, ды мяліце ж вы свой хлябец скарэй, чаго цягнуць ката за хвост?* (М. Лобан. Гарадок Устронь).

У абодвух выпадках сэнс сказаў нікольki не змяніўся б, калі б у іх было прапушчана спалучэнне *ката за хвост.* Справа ў тым, што дзеяслоў *цягнуць* мнагазначны: ён мае больш як дваццаць значэнняў, у тым ліку ‘марудзіць’ і ‘нацягваючы, прыбліжаць штосьці да сябе’. Пры ўзнікненні фразеалагізма *цягнуць ката за хвост* адбылася адначасовая каламбурная рэалізацыя двух гэтых значэнняў, накладанне на значэнне ‘марудзіць’ другога значэння з далейшым далучэннем камічнага дадатку. Узнікшы як чыясьці цікавая моўная знаходка, выраз стаў узнаўляльным агульнавядомым зваротам. Такі мастацкі прыём сутыкнення двух значэнняў у адным слове можна назіраць у шмат якіх беларускіх народных параўнаннях; напрыклад, у выразе *прыстаць, як смала да падэшвы* першае слова выступае з двума значэннямі адначасова: ‘прыліпнуць’ і ‘неадчэпна прывязацца да кагосьці’.

**Цягнуць лямку.** *Паўкалька з руск. м.* (тянуть лямку). Займацца нялёгкай, аднастайнай справай. *Пяць год я цягнуў лямку студэнта, жывучы на не надта высокім акладзе старшага лабаранта ў навукова-даследчым інстытуце* (У. Дамашэвіч. Хараство душы).

Выраз прыйшоў з мовы бурлакоў, якія і ў прамым сэнсе цягнулі лямку — шырокі скураны рэмень, надзеты цераз плячо. Бурлакі запрагаліся ў свае лямкі з пастронкамі, прымацаванымі да доўгай тоўстай вяроўкі, і, напружваючыся, цягнулі супраць цячэння баржу ці іншае судна. Цяжкая бурлацкая доля адбілася ў прыказцы *Цягні лямку, пакуль не выкапаюць ямку.*

**Цягнуць рызіну.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Мае значэнні ‘марудзіць з адказам’ і ‘марудна рабіць што-н., марна траціць час’. — *Тут нам падказваюць... Толькі прабачце, калі ласка... — Ды ладна... Не цягні рызіну... Па якой справе?* (І.Аношкін. Плямачка). — *Каб вы далі ватоўку*: — *На. На і ватоўку, — рашуча*

*шкуматнуў яе з плеч Брытвін. — Толькі не цягні рызіну* (В. Быкаў. Круглянскі мост).

Утварыўся шляхам «разгортвання слова ў фразеалагізм» (В. М. Макіенка): узнік на аснове слова *цягнуць* у выніку накладання на прамое значэнне 'падаўжаць выцягваннем' яшчэ аднаго значэння гэтага полісемічнага дзеяслова — 'марудзіць, марудна рабіць' і каламбурнага дапаўнення яго дадаткам *рызіну.*

**Цягнуць ярмо (ярэмца)** *<каго, якое>. Агульны для бел. і ўкр.* (тягнути ярмо) *м.* Доўгі час займацца нялёгкай і аднастайнай справай. *Ён* [Купала] *не хацеў цягнуць ярмо бацькі і ў 1903 годзе пайшоў «у людзі» шукаць службы* (В. В. Барысенка, В.У.Івашын. Беларуская літаратура). *У гаспадара было пяць дачок і тры сыны, яны і цягнулі ярэмца хлебаробаў* (М. Машара. «Крэсы» змагаюцца).

Паходзіць са свабоднага словазлучэння, звязанага з ранейшай цяжкай працай валоў, на якіх надзявалі ярмо — драўляны хамут для іх запрэжкі.

**Цяжкая артылерыя.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* тяжелая артиллерия, *укр.* важка артилерія). Тое, што прытрымліваецца на крайні выпадак як самы дзейсны сродак для дасягнення чаго-н. *Цяпер ён* [Ігар] *хуценька напісаў запіску: «Дзед, трэба хутчэй класці Мамрука на лапаткі. Выступай, а я потым з цяжкай артылерыяй»* (Л. Гаўрылкін. Мы яшчэ будзем сябрамі).

Утварыўся ў выніку пераасэнсавання тэрміналагічнага словазлучэння, якое ўжываецца ў маўленні ваенных для абазначэння магутных гармат вялікіх калібраў і габарытаў.

**Цяжкая рука** *ў каго. Агульны для ўсходнесл. м.* Хто-н. прыносіць няўдачу, няшчасце ў якой-н. справе, пачынанні і пад. — *Я такі казаў вам, што ў Язэпа цяжкая рука, — весела крыкнуў Гілёрык, рады, што выйшла так, як ён казаў* (Я. Колас. Калодка пчол).

Склаўся на аснове былога павер'я, паводле якога ў адных людзей лёгкая рука (яна прыносіць удачу), а ў другіх — цяжкая (прыносіць няўдачу).

**Цямна вада ва облацэх.** *Запазыч. з царк. — слав. м.* Незразумелае, туманнае. *[Грэнка: ] І вы, едучы сюды, я думаю, не хваліліся, куды і чаго едзеце? [Гарнак: ] Цямна вада ва облацэх* (Я. Колас. Забастоўшчыкі).

Выраз з біблейскага тэксту (Псалтыр, 17, 11): «И положи тму закров свой, окрест его селение его, темна вода во облацех воздушных». *Во облацех* — старая форма меснага скл. мн. л. ад слова *облако* —'у воблаках'.

**Цяп ды ляп (цяпляп).** *Запазыч. з руск. м.* Абы-як, нядбала, спехам (рабіць што-н.). *Цяп ды ляп, ды на «а можа» — рабіць не гожа...*

*Ні к чорту не варта такая работа!* (Х. Шынклер. Сонца пад шпалы).

Паходзіць з прыказкі *Тяп-ляп да й корабль,* якой характарызуюць работу, выкананую хутка і абыякава, і якая абазначае ‘абы-як, спехам — і гатова’.

# Ч

**Чакаць з мора пагоды.** *Відаць, паўкалька з руск. м.* (ждать у моря погоды). Заставацца ў пасіўным, вымушаным, няпэўна доўгім чаканні каго-, чаго-н. *А мой жа яшчэ пад Новы год абяцаўся прыехаць. Чакай з мора пагоды!..* (М. Ракітны. На свята).

Узнікненне фразеалагізма звязваюць з перыядам паруснага флоту, калі даводзілася чакаць добрых для плавання ўмоў.

**Чалом біць.** *Агульны для ўсходнесл. і польск.* (bić czołem) *м.* Ужыв. са значэннямі: 1) *каму>* пачціва кланяцца, вітаючы каго-н., 2) *каму,* пачціва прасіць каго-н., 3) *чаму,* з глыбокай пачцівасцю ставіцца да чаго-н., вітаючы што-н. *Біце ж чалом тром сакалом, маладзіцы! Гэта ж кветкі з свойскай веткі, славянскай зямліцы!* (В. Дунін-Марцінкевіч. Верш Навума Прыгаворкі). — *Прыйшоў чалом біць,* — *звярнуўся* [Сурма] *да Кляпца.* — *Дайце нашым меліяратарам сена накасіць* (І.Дуброўскі. На новыя кругі). *Над Бесяддзю, у лясной акрузе, сялянскай хаце б’ю чалом* (П. Прыходзька. Размова).

Выраз мае ў сваім складзе ўстарэлае слова *чало* са значэннем ‘лоб’. Узнік у сувязі са звычаем кланяцца пры падачы просьбы або скаргі так нізка, каб чалом (ілбом) даставаць да зямлі, злёгку б’ючы ім аб падлогу ці зямлю. Гэтым самым выказвалі пашану, віталі. Фразеалагізм даволі часта сустракаецца ў помніках старажытнай беларускай пісьменнасці, напрыклад у лістах аршанскага старасты Філона С. Кміты-Чарнабыльскага (XVI ст.), пераважна са значэннем ‘вітаючы, выказваць пашану’: «…покорно и ниско бью чолом пану моему милостивому». У творах В. Дуніна-Марцінкевіча фразеалагізм выкарыстоўваецца і са значэннем ‘прасіць’: «Пара, баш, дзяцей жаніць; яно ўсякі адклад не вельмі ідзе ў лад: пойдам пані чалом біць».

**Чамярыца яго ведае.** *Уласна бел.* Невядома. *І чамярыца яго ведае, як гэта неяк хітра на свеце ўстроена!* (Я. Купала. Тутэйшыя).

Утвораны па гатовай мадэлі — на ўзор тых шматлікіх сінанімічных фразеалагізмаў, якія ўжо былі ў мове (*чорт яго ведае, ліха яго ведае, трасца яго ведае* і г.д.). *Чамярыца* (або *чэмер)* — травяністая ядавітая лугавая расліна.

**Часам з квасам, а парою з вадою.** *Агульны для бел. і руск.* (часом с квасом, порой с водой) *м.* Ужыв. пры дзеяслове *жыць,* радзей— *быць* і абазначае ‘па-рознаму — сытна і надгаладзь’. *Мелі такі-сякі асабісты агарод, з якога жылі часам з квасам, а парою з*

*вадою* (В. Якавенка. Акно на плошчу). *На франтах было ўсяляк, як гаворыцца, часам з квасам, а парой з вадой* (М. Лынькоў. Аб часе, аб сабе).

Фразеалагізм, у якім кампаненты структуры *часам… а парой…* з'яўляюцца сэнсаўтваральнымі, склаўся ў жывой народнай мове і характарызуецца згусткам сродкаў мастацкай выразнасці. У ім ёсць кампаненты-сінонімы *(часам — парою),* дзве ўнутраныя рыфмы, свая рытмічнасць у кожнай частцы і антанімічнае супрацьпастаўленне *(квасам — вадою).* Іншы раз пішуць, што гэты выраз «уласна рускі». Аднак наўрад ці так гэта. Ён занатаваны І.Насовічам, М. Федароўскім, запісаны Я. Чачотам у 1846 г., прыводзіцца ў польскіх слоўніках — з паметай «устарэлы» і ў форме *czasem z kwasem, a czasem z wodą.* Дарэчы, у такой жа форме выраз знаходзім у апавяданні В. Каваля «Шчасце Сілівея Зязюлі» (1936): «З таго часу я пайшоў па людзях і ўсё жыццё так і хадзіў — часам з квасам, а часам з вадою». Першы кампанент фразеалагізма (*часам*) — нарматыўнае міжстылёвае слова ў сучасных літаратурных бел., укр. і польск. м.

**Часанне языка.** *Уласна бел.* Пустаслоўе, балбатня. *Лазовіку карцела папікнуць: ну-ну, ты па часанню языка не ўступіш любой кабеце, — але стрымаўся* (В. Блакіт. Шануй імя сваё).

Утвораны ад суадноснага дзеяслоўнага фразеалагізма *часаць язык*, першае значэнне якога — 'гаварыць упустую, пустасловіць'.

**Чорна ў роце** *ў каго. Гл.* <аж> у роце чорна *ў каго.*

**Чорная кошка (прабегла) перабегла** *паміж кім. Агульны для ўсходнесл. (руск.* черная кошка пробежала, *укр.* чорна кішка пробігла) *ібалг.* (минала е черна котка) *м,* Хто-н. пасварыўся з кім-н. *Некалькі дзён таму назад паміж Шэметам і Марозам зноў перабегла чорная кошка* (М. Лобан. Гарадок Устронь).

Выток фразеалагізма — даўняе павер'е: чалавека чакае непрыемнасць, калі яму перабяжыць дарогу чорная кошка.

**Чорны воран.** *Запазыч. з руск. м.* Аўтамашына для перавозкі арыштаваных. *Аўтух спярша думаў, што трапіў у страхавіты «чорны воран», пра якога начуўся ў турме і нават раней — на вёсцы* (В. Быкаў. Жоўты пясочак).

Слова *воран* у вуснай народнай творчасці і ў мастацкіх тэкстах досыць часта ўжываецца са сталым эпітэтам *чорны*: «Чорны воран, белы лебедзь — хто адолее з дваіх?» (С. Гаўрусёў); «Не для чорных воранаў песня салаўя!» (Л. Геніюш). Звычайна словазлучэнне *чорны воран* выклікае негатыўныя экспрэсіўна-ацэначныя асацыяцыі, дадатковае адценне прадвесніка бяды, няшчасця. Відаць, гэта і стала асновай для фразеалагізацыі словазлучэння.

**Чорны дзень.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Цяжкі, змрочны час для каго-н. *Запасы Сымона Чарнюка на «чорны дзень», на «канец свету» запоўнілі хатку дзе-нідзе да самай столі* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі).

Прыметнікавы кампанент тут выступае як сэнсаўтваральны, ён суадносіцца з такімі перыферыйнымі значэннямі слова *чорны*, як ‘цяжкі, беспрасветны’ ці ‘звязаны з горам, няшчасцем’. Ды і кампанент *дзень* захоўвае часавае значэнне, праўда, няпэўнага характару, у сэнсе ‘перыяд, час’. Параўн. у польск. м.: *czarna godzina.* Аслабленая знітаванасць паміж кампанентамі дапускае ўстаўку азначэнняў паміж імі: «У Куранях ягадамі карміліся, ягады збіралі, сушылі на продаж, на грошы, на *чорны* зімовы ці веснавы *дзень»* (І.Мележ).

**Чорным па белым.** *Калька з франц.* (noir sur blanc) *або ням.* (schwarz auf weiß) *м.* Вельмі дакладна, выразна, зусім пэўна, недвухсэнсава (напісана, сказана, надрукавана і пад.). *Там жа чорным па белым напісана, якія трэба даведкі, каб памяняць ваш дакумент* (Б. Сачанка. Форма).

Выраз усведамляецца як матываваны, пабудаваны на антанімічным супастаўленні двух слоў.

**Чортава акно.** *Гл.* чортава вока.

**Чортава вока.** *Уласна бел.* Багністая бяздонная прорва. *Дзе толькі льга было прайсці паміж крынічышчаў, там вілася сцежка. Адна ішла паўз самы край «чортавага вока»* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне).

Раней у народным уяўленні балота было любімым прыстанкам чарцей. Гэта адбілася ў шматлікіх казках і ў такіх, напрыклад, прыказках: *Без чорта балота не бывае; Абы балота, чэрці будуць; Чэрці без балота, а балота без чарцей не будзе.* Самыя гіблыя мясціны ў балоце называюць царствам чарцей. Тут сустракаецца нямала правалаў, запоўненых смаліста-чорнай вадой. Праз гэтыя «вокны» чэрці нібыта цікуюць за ахвярамі. Таму бяздонная прорва і называецца чортавым вокам ці чортавым акном.

**Чортава гібель** *каго, чаго. Агульны для бел. і руск. м.* Вельмі многа, у вялікай колькасці (пра людзей ці неадушаўлёныя прадметы). *А даўней шмат пастоў людзі зналі і вялікіх шэсць тыдняў пасцілі ды дробных пастоў усякіх розных яшчэ была чортава гібель: пятроўка, іспасаўка, піліпаўка ды штотыдня серада з пятніцаю* (Л. Калюга. Нядоля Заблоцкіх).

Сэнсаўтваральным тут выступае кампанент *гібель,* які і ў свабодным ужыванні можа абазначаць ‘вялікая колькасць чаго-н.’. Кампанент *чортава* выконвае экспрэсіўную функцыю.

**Чортава процьма.** *Уласна бел.* Вельмі многа, вялікае мноства. *За ўвесь час... было., нагаворана ўсяго-ўсякага чортава процьма* (Ц. Гартны. Сокі цаліны).

Назоўнікавы кампанент фразеалагізма — прыставачнае ўтварэнне ад старажытнага лічэбніка *цьма,* што абазначаў ‘дзесяць тысяч’ (гл. *цьма цьмушчая).* Прыметнік *чортава ў* складзе словазлучэння толькі знешне, па наяўнасці суфікса — *ав-,* паказвае на прыналежнасць, фактычна ж не мае гэтага значэння, а выступае з адмоўным ацэначна-экспрэсіўным адценнем і ўзмацняе сэнс назоўнікавага кампанента.

**Чорта лысага.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Ужыв. са значэннем ‘зусім не, гэтаму не бываць’ як выказванне катэгарычнай нязгоды, адмаўлення, пярэчання і ‘ні пры якіх абставінах не (возьмеш, выседзіш і пад.)’. *Не, калі ён* [Сяргей] *ужо выберацца з гэтай завірухі, Тоську нікому не аддасць. Чорта лысага!* (М. Кацюшэнка. Адзін рэйс). *Чорта лысага ты тут да вечара пратрымаешся. Паб’юць, як мышэй* (В. Быкаў. Жураўліны крык).

Утварыўся на аснове выразу *чорт лысы* (гл.), магчыма, пад уплывам фразеалагізма *чорта з два,* засвоіўшы абодва яго значэнні.

**Чортаў тузін.** *Пайкалька з руск. м.* (чертова дюжина). *Тузін* — гэта ‘дванаццаць’, а *чортаў тузін* — ‘трынаццаць’. *[Андрэй: ] Раз сэрца занята табой, туды не пранікнуць другой. [Жэня: ] Ды ну! У вашых сэрцах і чортаў тузін нашага брата змясціцца можа* (І.Козел. Над хвалямі Серабранкі).

Лічба «трынаццаць», паводле забабонных уяўленняў многіх народаў,— нешчаслівая. Магчыма, гэта ідзе з Евангелля, дзе гаворыцца, як Ісус на вячэры са сваімі дванаццаццю вучнямі сказаў, што адзін з іх здрадзіць яму, выдасць яго. Падобнае знаходзім і ў заходнееўрапейскіх міфах пра трынаццаць фей, адна з якіх ліхая. А ўсё ліхое, як павучае рэлігія, не ад Бога, а ад чорта. Таму «трынаццаць» — *чортаў тузін.*

**Чорт дзяцей калыша** *каму. Уласна бел.* Каму-н. вельмі шанцуе. *Корзун лічыў,што ён не з тых, каму чорт дзяцей калыша* (У. Шыцік. Па жураўля ў небе).

Паходзіць з прыказкі *Багатаму чорт дзяцей калыша <а беднаму з калыскі выкідае>.*

**Чорт лысы.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Невядома хто. — *Ну, ці ж ёсць у цябе розум! Навошта ж было сеч? Каму з гэтага карысць? — Чорту лысаму! — сказаў Андрэй. — Толькі ж чорту...* (Я. Колас. Малады дубок).

Сэнсаўтваральную ролю ў гэтым выразе выконвае назоўнікавы кампанент, а прыметнік *лысы* выступае з

узмацняльнай, экспрэсіўнай функцыяй. Такое спалучэнне двух слоў мае сувязь з уяўленнямі пра чорта, якога, пачынаючы са старажытных часоў, малявалі звычайна як істоту, падобную на чалавека, з выцягнутай галавой, лысую, голую, з куртатым хвастом і гусінымі пяткамі.

**Чуваць (чутно) як муха пралятае (праляціць).** *Недакладная калька з франц. м.* (on entendrait voler une mouche, літаральна «можна чуць, як ляціць муха»). Надзвычайна ціха дзе-н. *Дысцыпліну Варановіч трымаць умее. На яго ўроку чуваць як муха праляціць* (І.Навуменка. А немцы ў Парыжы...).

Заснаваны на ўяўнай, патэнцыяльна магчымай сітуацыі.

**Чужымі рукамі.** *Гл.* чужымі рукамі жар заграбаць.

**Чужымі рукамі жар заграбаць.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Карыстацца з карыслівай мэтай вынікамі працы іншых. *У сельсавеце былі непарадкі: старшыня — не свой чалавек — любіць чужымі рукамі жар заграбаць* (В. Каваль. Ліпы).

Паходзіць з прыказкі *Чужымі рукамі добра жар заграбаць* (у такой форме яе падае М. Федароўскі; параўн. таксама ў І.Насовіча: *Чужымі рукамі толькі жар заграбаць добра).* Прыказка вызвалілася ад слова *добра,* якое тут мае літаральнае значэнне і не ўдзельнічае ў стварэнні яе алегарычнага, пераноснага сэнсу.

У нашай мове, а таксама ў руск., укр. і польск. (*cudzymi rękami)* м. ёсць яшчэ фразеалагізм *чужымі рукамі* са значэннем ‘несамастойна, намаганнямі іншых’: «Ён бы з вялікім задавальненнем асвятліў бы гэтым святлом сваю нару. Але каб усё гэта было зроблена чужымі рукамі, так, як калісьці рабіў на Скуратовіча» (К. Чорны). Крыніца фразеалагізма — тая самая прыказка *Чужымі рукамі добра жар заграбаць*. Выраз — яе «абломак».

**Чуць золак.** Гл. чуць свет.

**Чуць свет.** *Агульны для ўсходнесл. м. (укр.* чуть світ). Вельмі рана, на світанні. *Каця вельмі перажывала. Цэлы месяц не вылазіла з фермы; пойдзе чуць свет і вяртаецца позна вечарам* (А. Кудравец. У нас вяселле).

Паходзіць са словазлучэння *чуць свет настаў,* апошні кампанент якога адпаў. З аналагічным значэннем ужыв. фразеалагізм *чым свет*, які ўзнік з *раней, чым свет настаў*: «А як вы ўбачылі б такога, — злавіць, звязаць — і к нам чым свет» (Я. Купала). Відаць, на аснове *чуць свет* склаўся ўласна бел. выраз *чуць золак.* Ён сустракаецца ў паэме «Тарас на Парнасе» («Чуць золак — стрэльбу ён за плечы»), у «Пінскай шляхце» В. Дуніна-Марцінкевіча, у творах М. Чарота, М. Грамыкі, П. Глебкі, некаторых іншых аўтараў.

**Чым свет.** *Гл.* чуць свет.

**Чым чорт не жартуе!** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* чем черт не шутит!,*укр.* з чим чорт не жартуе!). Ужыв. са значэннем ‘усё можа здарыцца, усякае бывае’ як выказванне дапушчальнасці ці магчымасці чаго-н. непрадбачанага, нечаканага. *[Надзя: ] А наконт студэнта ты так і паверыў? [Валодзя: ] У жыцці ўсяк здараецца. Чым чорт не жартуе, думаю сабе* (К. Крапіва. Зацікаўленая асоба).

Паходзіць, відаць, з прыказкі *Чым чорт не жартуе, калі бог спіць.*

**Чын чынам.** *Агульны для ўсходнесл. м,* Так, як трэба, як належыць. *Быстроў за Сонцава адказаў: — Усё будзе чын чынам, таварыш гвардыі старшы лейтэнант* (І.Мележ. Мінскі напрамак).

Узнікненне выразу ставяць у сувязь з вясельным абрадам. Слова *чын* раней абазначала ‘устаноўлены парадак выканання чаго-небудзь’. Гэтым словам называлі таксама свата, сваццю, дружкоў і інш. («вясельныя чыны»). Быў «чын поезда да нявесты», «чын з дома нявесты». Беларускае вяселле Е. Раманаў называў «своеасаблівай операй», дзе ўсё ішло з пэўнай паслядоўнасцю, паважна, «чынна», чын чынам.

**Чырвонай ніткай** *праходзіць. Калька з ням. м.* (sich wie ein roter Faden hindurch). Вельмі выразна, ярка (праходзіць). У *праекце Прыкладнага Статута сельгасарцелі чырвонай ніткай праходзіць думка аб тым, што кожная гаспадарка абавязана з максімальнай эфектыўнасцю выкарыстоўваць зямлю* (Звязда. 16.11.1969).

Гэты выраз у сучасным, пераносным яго значэнні ўпершыню выкарыстаў Гётэ ў рамане «Роднасныя натуры», адначасова паказаўшы, ад якога канкрэтнага значэння ён ішоў: «Нам давялося чуць, што ў англійскім марскім ведамстве існуе такое правіла: усе снасці каралеўскага флоту, ад самага тоўстага каната да найтанчэйшай вяроўкі, сукаюцца так, каб праз іх, на ўсю даўжыню, праходзіла чырвоная нітка, якую нельга выцягнуць іначай, як распусціўшы ўсё астатняе; так што нават па самым маленькім абрыўку вяроўкі можна пазнаць, што яна належыць англійскай кароне. Якраз гэтак жа і праз увесь дзённік Атыліі цягнеццачырвоная нітка сімпатыі і прыхільнасці, якая ўсё спалучае ў адно і знамянальна для цэлага».

**Чырвоны памешчык.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* красный помещик, *укр.* червоний поміщик). Старшыня калгаса як гаспадар з неабмежаванай уладай. *«Чырвоныя памешчыкі» паўсюдна рабілі, што хацелі, ператвараючы падначаленых у паслухмяных балванчыкаў* (М. Дзелянкоўскі. Бойся, а то...).

У выразе абодва кампаненты — сэнсаўтваральныя. *Чырвоны* суадносіцца з вытворным значэннем ‘звязаны з савецкай дзяржавай, сацыялістычным ладам’, а *памешчык* — асацыіруецца

па падабенстве з памешчыкам мінулых эпох, землеўладальнікам з неабмежаванай уладай над прыналежнымі яму бяспраўнымі сялянамі.

**Чырвоны певень.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* красный петух, *укр.* червоний півень). Пажар. *Мы хацелі сёння ж, у такі ўрачысты час, аддаць твой двор чырвонаму пеўню* (С. Баранавых. Калі ўзыходзіла сонца).

Назоўнікавае ўтварэнне на аснове суадноснага дзеяслоўнага фразеалагізма *пускаць чырвонага пеўня* <каму, куды, дзе> 'зламысна падпальваць што-н., рабіць пажар' (гл.).

**Чыстай (самай чыстай) вады.** *Калька з ням. м.* (von reinsten Wasser). Сапраўдны, несумненны, дакладны. *Таму я і маўчу; хоць гэта была, як тыя людзі кажуць, самай чыстай вады праўда, без ніякай выдумкі і спецыяльнай апрацоўкі* (У. Ляўданскі. На прывале).

Узнік у выніку пераасэнсавання тэрміналагічнага словазлучэння, якім ювеліры называюць зусім бясколерныя і празрыстыя, як чыстая вада, брыльянты, алмазы і іншыя каштоўныя камяні.

**Чытаць (прачытаць) паміж радкоў** *<што>. Ужыв. амаль ва ўсіх еўрапейскіх м. Магчыма, калька з англ.* (read between the lines) *ці ням.* (zwischen den Zeilen lesen) *м.* Здагадвацца пра скрыты сэнс чаго-н. нявыказанага. *Корзун ніколі не меў асаблівага поспеху ў дзяўчат. Можа, таму што, як некалі зло ўпікнула Святлана, выбіраў надта прыгожых. Паміж радкоў, гэты папрок, падобна, трэба было чытаць так: не па сабе* (У. Шыцік. Па жураўля ў небе).

Вобраз усведамляецца як нерэальны.

# Ш

**Шайка-лейка.** *Гл.* <адна> шайка-лейка.

**Шалёная муха ўкусіла <за вуха>** *каго. Уласна бел.* Хто-н., нечакана раззлаваўшыся, занадта гарачыцца. *Была [Іра] такая ласкавая, вясёлая, заўсёды радая кожнаму яго званку, кожнай сустрэчы, нават слову. І раптам... Нібы яе падмянілі, муха шалёная ўкусіла...* (Б. Сачанка. Родны кут).

Склаўся, відаць, пад уплывам фразеалагізма *якая муха ўкусіла* каго (гл.) — калькі з франц. м. Даецца ў «Зборніку беларускіх прыказак» І.І.Насовіча.

**Шапка Манамаха.** *Запазыч. з руск. м.* Ужыв. са значэннямі ‘галаўны ўбор як сімвал царскай улады ў Расіі’ і ‘адзінае, поўнаўладнае кіраўніцтва дзяржавай’. *Хто б мог падумаць, акрамя хіба самога авантурыста Глінскага, што ён, хоць і не ў шапцы Манамаха, а ўсё ж пакіруе Масковіяй пры малалетнім цару* (А. Петрашкевіч. Ахвяра ўласнага авантурызму). *Афанасій Філіповіч сем год вучыў «царэвіча маскоўскага» — яшчэ аднаго самазванца на шапку Манамаха* (В. Чаропка. Афанасій Філіповіч).

Паходзіць з выразу «Ох, тяжела ты, шапка Мономаха», упершыню ўжытага ў трагедыі А. С. Пушкіна «Барыс Гадуноў» (1825) са значэннем ‘цяжка кіраваць дзяржавай’. Лічыцца, што гэту шапку насіў вялікі князь кіеўскі Уладзімір Манамах (1053–1125). Шапкай Манамаха як сімвалам улады вянчаліся на царства маскоўскія цары.

**Шарашкіна кантора.** *Запазыч. з руск. м.* Несалідная, неаўтарытэтная ўстанова, арганізацыя, прадпрыемства. *Раз пастаўлен на дзела, значыць, павінен адказваць. У нас табе не шарашкіна кантора* (І.Чыгрынаў. Залатая рука).

Паходзіць з турэмна-лагернага жаргону. Утвораны ў выніку разгортвання слова *шарашка* ў фразеалагізм. У перыяд сталінска-берыеўскага масавага тэрору зняволеныя называлі *шарашкай* спецыяльныя зоны, абнесеныя калючым дротам, дзе, пазбаўленыя свабоды і грамадзянскіх правоў, матэматыкі, фізікі, хімікі, інжынеры-радысты і інш. абавязаны былі займацца загаданай тэматыкай навуковых даследаванняў. Вучоныя жылі там у адносна някепскіх умовах, нядрэнна харчаваліся. У шарашцы працавалі ў свой час відныя фізікі-атамшчыкі, ракетчыкі і многія іншыя спецыялісты. Пабываў там і А. Салжаніцын, які пасля жыццё бяспраўных насельнікаў «шарашкі Марфіна» адлюстраваў у славутым рамане «У крузе першым».

**Шарая (шэрая) гадзіна.** *Запазыч. зпольск. м.* (szara godzina). Так называюць змрок, прыцемак, час на стыку дня і ночы, калі пачынае шарэць, цямнець. *Чубар чакаў шарай гадзіны, таму ляжаў на схоне спакойна, падкурчыўшы пад сябе ногі, якія ажно смылілі ў закарэлых анучах* (І.Чыгрынаў. Плач перапёлкі). У польскай мове паняцце «прыцемак» абазначаецца і словам *szarówka.*

У нашай літаратурнай мове першы кампанент фразеалагізма замяняецца часцей за ўсё беларускім адпаведнікам *шэрая:* «На шэрай гадзіне ўсе пайшлі з хаты, а я задрамаў» (К. Чорны).

**Шарварку(-і) адрабляць.** *Уласна бел.* Марудліва, абыякава, без старання рабіць якую-н. справу. *Пяе* [артыстка] — *усё адно як на ўзгароду вешае... Як тыя шарваркі адрабляе... Як цераз пень калоду тралюе...*(Н.Гілевіч. Быў час, быў век, была эпоха).

Узнік у выніку пераасэнсавання свабоднага словазлучэння, у якім устарэлы назоўнік *шарварка(-і)* абазначаў ‘грамадская працоўная павіннасць па будаўніцтве і рамонце дарог, мастоў, грэбляў у Вялікім княстве Літоўскім, Рэчы Паспалітай у XV–XVIII стст., а таксама ў Заходняй Беларусі ў 1921–1939 гг.’. Гэта павіннасць адраблялася прымусова і, зразумела, без асаблівай ахвоты і старання, што і стала асновай для фразеалагізацыі словазлучэння.

**Шаркі на баркі.** *Уласна бел.* Схапіць з сабой свае манаткі (ужываецца ў ролі дзеяслоўнага выказніка пры дзейніку са значэннем асобы). *А як выхадны, дык ён* [масавік-забаўнік] *шаркі на баркі і ў горад патлы завіваць* (А. Петрашкевіч. Трывога).

Апошні кампанент у гэтым фразеалагізме, — хутчэй за ўсё, запазычанне з польск. м. *(barki* ‘плечы’). А першы, як і ў некаторых іншых рыфмаваных выразах, прыдуманы, нематываваны, падагнаны пад гукавую сіметрыю фразеалагізма, узніклы ў працэсе рыфмоўкі. Лексіка-семантычныя і логіка-сінтаксічныя сувязі, як слушна зазначае В. М. Макіенка, «адыгрываюць другарадную ролю ў арганізацыі рыфмаваных пар» (напрыклад: *шурум-бурум, цюха-мацюха, цямця-лямця).*

**Шахер-махер.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Махлярская здзелка, лоўкая ашуканская аперацыя. *У вас тут хтось шахер-махер Маслаку робіць, пасабляе* (І.Мележ. Людзі на балоце).

Утвораны зрашчэннем двух запазычанняў з ням. м.: *Schacher* — ‘махлярства’ + *Macher* — ’дзялок’. У немцаў такога выразу няма.

**Шашкі ў мяшкі** *браць, складаць* і пад. *Уласна бел.* Свае пажыткі з сабой (браць, збіраць і пад. перад адыходам, ад’ездам, уцёкамі). *Такая была кватэра!.. Такая пасада — упершыню ў жыцці! І вось зноў збірай шашкі ў мяшкі і—па асінавыя шышкі* (П. Палітыка. Свой хлопец).

Першапачатковае значэнне апошняга кампанента зразумелае, хоць ён тут мае абагульнены сэнс (маецца на ўвазе зусім неабавязкова мех як пэўны прадмет хатняга ўжытку). Першы ж кампанент, як і ў некаторых іншых рыфмаваных фразеалагізмах, склаўся ў працэсе рыфмоўкі.

**Шостае пачуццё.** *Калька з франц.* (sixième sens) *або англ.* (sixth sense) *м.* Здольнасць інтуітыўна ўспрымаць, прадбачыць, угадваць што-н. *Шостым пачуццём ён намагаецца зразумець сэнс трагедыі: «Чаму? Чаму менавіта гэтае зялёнае дзяўчо стала ахвярай натоўпу?»* (А. Кудласевіч. «Жэзл Жалезны»).

Чалавек і вышэйшыя жывёлы ўспрымаюць з'явы навакольнага асяроддзя з дапамогай пэўных органаў пяці пачуццяў — зроку, *слыху,* нюху, смаку, дотыку. Выразам *шостае пачуццё* назвалі інтуіцыю — як бы дапаўненне да гэтых пяці пачуццяў.

**Што босаму разуцца.** *Гл.* як (што) босаму разуцца.

**Што костка ў горле** *каму. Гл.* як (што) костка ў горле *каму.*

**Што называецца.** *Калька з франц. м.* (ce gu'on appelle). Як прынята гаварыць. *Гэтае раніцы Дзераш быў, што называецца, не ў гуморы* (Х. Шынклер. Сонца пад шпалы).

Што сліна на язык прынясе (прынесла). *Уласна бел.* Зусім не думаючы і абы-што (гаварыць, плесці, балабоніць і пад.). *[Сучасны: ] Каб балабоніць што сліна на язык прынясе ды не дастаць за гэта па мазгах, трэба быць братам дырэктара. Родным!* (С. Яновіч. Гутарка Сучаснага з Хворым).

У аснове фразеалагізма — нерэальны вобраз. У крыху іншай форме гэты выраз сустракаецца ў старажытным помніку палемічнай літаратуры «Антиризисъ, или Апологія противъ Христофора Филалета» (1599): «И тамъже далей лжить, соромотить владыковъ, што ядовита слина до губы прынесла, запаметавши своее обетницы, же ни кому лаяти не мелъ».

**Што ўбіў то < і > уехаў.** *Уласна бел.* Бесклапотны, гультаяваты, такі, што толькі пад прымусам робіць што-н. (пра чалавека). *Сярод дзяцей таксама траплялісся неслухі, «што ўбіў то і ўехаў», падпадалі пад уплыў людзей не лепшых у вёсцы* (Б. Сачанка. Вечны кругазварот).

Хутчэй за ўсё, гэта выраз «конскага паходжання»: пра каня, якога ўвесь час трэба падганяць. Першапачаткова выкарыстоўваўся, як мяркуе М. А. Даніловіч, «у дачыненні да цяглавай жывёлы, пераважна каня, са значэннем 'не шпаркі ў хадзе, працы, нравісты'; у далейшым адбылася пераарыентацыя на чалавека».

**Што шыла ў мяшку.** *Гл.* як (што) шыла ў мяшку.

**Што (як, нібы) з гусі вада** *з каго, каму. Агульны для ўсходнесл. (руск.* как с гуся вода, *укр.* як з гуски вода), *польск.* (jak z gęsi woda) *і чэшск.* (co z husy voda) *м.* Абсалютна аднолькава, без розніцы, не мае значэння для каго-н., не хвалюе, не кранае каго-н. *З адзінокай Клаўдзі Рабертаўны — што з гусі вада, а Дабрамыслаў пераэжываў* (М. Лобан. Гарадок Устронь).

У шмат якіх працах рускіх даследчыкаў узнікненне гэтага фразеалагізма звязваюць з эліпсацыяй выслоўяў-захлінанняў *Лейся беда, как с гуся вода* або *Как с гуся вода, с тебя худоба* (*худоба* — 'хвароба') — Аднак, паводле В. М. Макіенкі, гэты выраз узнік не ў выніку скарачэння народных заклінанняў, а на аснове канкрэтных гусі ці гусака, з якіх лёгха скочваецца вада (з-за адмысловай тлушчавай змазкі апярэння). Дадатковым доказам на карысць гэтага меркавання з'яўляецца існаванне ўжо ў XVI ст. аналагічных выразаў у польск. *(Jak z gęsi woda*) і чэшск. *(co z husy voda)* м., дзе яны фіксуюцца асобна, а не ў прыказкавых ці заклінальных кантэкстах.

**Шукаць учарашняга дня.** *Калька з ням. м.* (den gestrigen Tag suchen). Траціць час на бяссэнсавыя пошукі. *А мы ходзім па лесе, як тыя дурні, шукаем учарашняга дня, калі тут усё гатовае* (І.Сяркоў. Мы — хлопцы жывучыя).

Узнікненне фразеалагізма звязваюць з гістарычным эпізодам.

Паводле М.І.Міхельсона, аднойчы курфюрст Іаган Фрыдрых вымавіў свой любімы выраз: «Дзень гэты я згубіў». Прыдворны весяльчак Клаус (памёр у 1515 г.) адказаў на гэта: «Заўтра мы ўсе добра пашукаем і абавязкова знойдзем дзень, які ты згубіў».

**Шуры-муры.** *Запазыч. з руск. м.* Любоўныя справы, прыгоды. *Надакучыла седзячы ў канцылярыі. Можна для разнастайнасці наганяй даць каму-небудзь, можна з машыністкай шуры-муры завесці...* (К. Крапіва. Вайна).

Склаўся ў выніку некаторага скажэння французсхага свабоднага словазлучэння *cher amour* (чытаецца як «шэр амур»), дзе *cher* — дарагі, мілы', а *amour* — 'любоў, каханне' і 'страсць, жарсць'. У руск. і ўкр. слоўніках выраз звычайна падаюць не як назоўнікавы, а як частку дзеяслоўнага — руск. *разводить шуры-муры,* укр. *розводити шури-мури,* са значэннем 'займацца любоўнымі прыгодамі, флiртам' ці 'фліртаваць з кім-н.'. Аднак, па-першае, дзеяслоў *разводзіць (развесці)* не павінен уваходзіць у склад фразеалагізма, бо рэалізуе слоўнікавае значэнке 'пачаць рабіць тое, аб чым гаворыцца ў назоўніку' Па-другое, *шуры-муры* спалучаецца не толькі з гэтым дзеясловам, а і з іншымі: *завёў шуры-муры* (І.Шамякін, В. Быкаў), *павёў шуры-муры з праваднiцай* (В. Блакіт), *шуры-муры закруціла з папом* (М. Чарот), *шуры-муры ў атрадзе круціў* (А. Кобец-Філімона-ва) і інш. Параўн., відаць,

індывідуальна-аўтарскае ўжыванне фразеалагізма, у якім апошні кампанент блізкі да прататыпнага: «Ды хутка бескантрольнае жыццё наша скончылася — *шуры ды амуры* і нейкая ўсё ж практыка на заводзе» (І.Шамякік).

**Шчодрай рукой.** *Калька з лац. м.* (larga manu). Не шкадуючы. *К. Чорны шчодрай рукой, не важачы, рассыпаў у творах сінтаксічныя пабудовы і лексіку Случчыны* (М. Лужанін. Магчымасці мовы).

Выраз усведамляецца як матываваны.

**Шыварат-навыварат.** *Запазыч. з руск. м.* Не так, як трэба, як павінна быць (ісці, пайсці, выходзіць і пад.). *Рыгор быў уладзіў у атрад,і, здавалася, больш нічога не патрэбна... Але вазьмі ды змяніся начальнік, і ўсё шыварат-навыварат... Перагляд рабочых, і я са старшага рабочага зноў на дарозе, але ўжо без каня* (Ц. Гартны. Сокі цаліны).

Першы кампанент фразеалагізма — уласна рускае слова, якое цяпер не ўсведамляецца як складанае, утворанае аб'яднаннем асноў двух слоў: *шивъ* (зніклае слова са значэннем 'шыя') + *воротъ* ('каўнер') = *шивоворотъ.* У далейшым з *шывавbooрат* атрымалася *шыварат* як вынік гаплалогіі (з дзух адколькавых суседніх складоў адзін знікае). Пры Іване Грозным з'явіўся на свет выраз *шыварат-навыварат,* праўда, яшчэ не метафарызаваны, з канкрэтным зместам. Слова *шыварат* тады абазначала 'каўнер, вышыты золатам, серабром і жэмчугам'. Такія «шывараты» насілі знатныя, паважныя асобы. Калі які баярын правінавачваўся, то цар, не зважаючы на яго прыгожы каўнер, загадваў надзець на баярына верхняе ўбранне навыварат ды яшчэ пасадзіць на каня тварам да хваста. Такое ганебнае пакаранне называлася «шыворот на выворот» (яшчэ на пачатку XX стагоддзя пісалася як тры словы).

**Шыта (сшыта) белымі ніткамі.** *Калька з франц. м.* (cousu de fil blans). Ужыв. у ролі выказніка і азначэння, а таму развіў два суадносныя значэнні: 1) няўмела схавана, скрыта што-н., 2) няўмела, няўдала схаваны, скрыты. *Відаць, следчы зразумеў, што ў гэтай справе ўсё шыта белымі ніткамі, і пастарайся хутчэй збыць Сяргея з рук* (М. Машара. Сонца за кратамі). *Часам Зоська пачынала яго ненавідзець за яўны,* шыты *белымі ніткамі, разлік* (В. Быкаў. Пайсці і не вярнуцца).

Паходзіць, відаць, з маўлення краўцоў, якія адзенне для першай прымеркі толькі збольшага прыхопліваюць звычайна белымі ніткамі. Параўн. прыклад у М. В. Гогаля, які агаляе ўнутраную форму фразеалагізма адпаведным параўнаннем: «Ні ў якім разе не варта было выдаваць твор, які хоць выкраены быў не кепска, але сшыты сяктак, белымі ніткамі, як адзенне, што прыносіць кравец толькі на прымерку».

# Э

**Эзопаўская (эзопава) мова.** *Паўкалька з ням.* (äsopische Sprache) *ці франц.* (langue d'Esope) *м.* Іншасказальнае, алегарычнае выказванне думак. *Антось сварыўся з Алаізаю, крычаў на яе, што яна загубіць газету, што трэба хаваць думкі за эзопавай мовай, што трэба ўстаўляць у газеты і лаяльныя матэрыялы* (Л. Арабей. На струнах буры).

Узнікненне выразу звязана з літаратурнай дзейнасцю старажытнагрэчаскага байкапісца Эзопа (VI ст. да н. э.). Будучы рабом, Эзоп не мог свабодна і адкрыта гаварыць пра многае, бо гэта было небяспечна, таму ён выказваў свае думкі ў алегарычнай, баечнай форме, у вобразах жывёл.

# Ю

**Юдаў пацалунак.** *Гл.* іудаў (юдаў) пацалунак.

# Я

**Яблык разладу.** *Калька з лац. м.* (malum discordiae). Прычына сваркі, спрэчак. З *яблыка разладу гервяцкі «астравок» ператварыўся, як пісаў у вершы адзін з мясцовых паэтаў, у «бастыён дружбы»* (А. Мальдзіс. Астравеччына, край дарагі…).

Выраз упершыню выкарыстаў рымскі гісторык Юсцін (II ст.). Яно склалася на аснове грэч. міфа пра багіню разладу Эрыду. Пакрыўджаная за тое, што яе не запрасілі на вяселле фесалійскага цара Пелея і багіні Фетыды, Эрыда падкінула гасцям залаты яблык з надпісам: «Найпрыгажэйшай». Паміж багінямі Герай, Афінай і Афрадытай пачалася спрэчка: кожная лічыла сябе найпрыгажэйшай. Траянскі царэвіч Парыс, якому даверылі вырашыць сварку, аддаў яблык Афрадыце. Удзячная, яна дапамагла Парысу ўкрасці Алену — жонку спартанскага цара Менелая. А гэта стала прычынай дзесяцігадовай Траянскай вайны.

**Яблыку няма (не было) дзе ўпасці.** *Паўкалька з руск. м.* (яблоку негде упасть). Ужыв. са значэннямі 'у вялікай колькасці (пра мноства людзей у якім-н. месцы)' і 'вельмі цесна, няма свабоднага месца'. *У зале людзей — яблыку няма дзе ўпасці. Усе паднядзеліліся, пры гальштуках* (Полымя. 1978. № 1). У *аўтобусе, які ідзе ў Асавец з Мінска, яблыку няма дзе ўпасці* (І.Навуменка. Развітанне ў Кавальцах).

У руск. м. фразеалагізм прыйшоў, напэўна, з ням. м. як недакладная калька *(es konnte kein Apfel zur Erde fallen,* літаральна «нельга яблыку на зямлю ўпасці»).

**Язык адняўся** *ў каго. Агульны для ўсходнесл. м.* Хто-н. раптам змоўк, страціў здольнасць гаварыць (ад страху, здзіўлення і пад.). *Тут у Міколы і язык адняўся. Ён баяўся зірнуць у акно, бо быў упэўнены, што ў акне ўжо тырчыць страшная галава* (Я. Колас. Трывога).

У аснове фразеалагізма — нерэальны вобраз, які мог узнікнуць пад уплывам свабодных словазлучэнняў тыпу *рука аднялася, нага аднялася,* дзе *аднялася* абазначае 'перастала дзейнічаць у выніку паралічу'.

**Язык без касці (касцей***)* *у каго. Агульны для ўсходнесл. м.* Хто-н. вельмі балбатлівы, гаворыць лішняе. *У Юлі язык без касцей, вось яна і плявузгае абы-што, псуе нервы і сабе, і яму, Цімоху…* (І.Капыловіч. Абходчык).

Відаць, паходзіць з прыказкі *Язык без касці: што хочаш пляшчы,* з якой, у выніку скарачэння другой часткі, узнік фразеалагізм. Параўн. іншыя варыянты прыказкі: *Язык без косці, што хоча, то хлосціць; Язык — мяса без касцей, куды хочаш павернеш.*

**Язык гладка ходзіць** *у каго, чый. Уласна бел.* Хто-н. умее свабодна, лёгка і прыгожа гаварыць. — *А я што? Лыкам шыты?* — *Язык у цябе гладка ходзіць, — усміхнуўся Якуб Колас* (С. Белы. На бацькоўскай зямлі).

Узнік, відаць, на вобразнай аснове сэнсава тоеснага фразеалагізма *язык добра падвешаны ў* каго (гл.) — калькі з франц. м. Упершыню ўжыты ў вершы Я. Купалы «Мужык» (1905) у такім кантэксце: «Чытаць, пісаць я не ўмею, не ходзіць гладка мой язык, бо толькі вечна ару, сею, — бо я мужык, дурны мужык».

**Язык добра падвешаны** *ў каго. Калька з франц. м.* (à la langue bien pendue). Хто-н. умее свабодна, лёгка і прыгожа гаварыць. *Генка Навіцкі.. не стаў бы асабліва хваляваца. Язык добра падвешаны. І тэму б для размовы знайшоў, і пра нафту беларускую, і анекдоты расказаў бы салёненькія* (Я. Каршукоў. Сустрэча).

У аснове фразеалагізма — нерэальны вобраз, які, магчыма, мае сувязь з языком (металічным стрыжнем) у звоне.

**Язык дрэнна (кепска) падвешаны** *ў каго. Агульны для ўсходнесл. м.* Хто-н. не ўмее свабодна, лёгка і прыгожа гаварыць. *А што гэта за дацэнт, у якога язык кепска падвешаны?..* (Я. Радкевіч. Сутокі дзён).

Антанімічнае ўтварэнне на аснове фразеалагізма язык *добра падвешаны* ў каго (гл.) — калькі з франц. м.

**Язык заплятаецца (заплятаўся)** *у каго, чый. Агульны для ўсходнесл. м.* Хто-н. не можа выразна, членараздзельна гаварыць, сказаць што-н. *За сталом, як рой перад вылетам, гула бяседа. У таго-сяго ўжо заплятаўся язык* (В. Адамчык. Чужая бацькаўшчына).

У аснове фразеалагізма — нерэальны вобраз, які ўзнік, відаць, пад уплывам свабоднага словазлучэння *ногі заплятаюцца,* дзе *заплятаюцца* абазначае ‘няўпэўнена, з цяжкасцю рухаюцца, чапляючыся адна за адну’.

**Язык зломіш.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* язык сломаешь, *укр.* язика зламаеш). Цяжка вымавіць што-н. (словы, фразу і пад.). *У зямлю была ўторкнута лучына, і на ёй напісана: «традысканцыя». «Ого, якая назва! Язык зломіш!» — усміхнуўся сам сабе Сяргей* (Л. Левановіч. Чатыры цюльпаны).

У аснове фразеалагізма — нерэальны вобраз, звязаны з языком як органам маўлення.

**Язык каля (ля) вушэй матляецца** *ў каго. Уласна бел.* Хто-н. празмерна балбатлівы, гаворыць многа лішняга. *[Яўхім: ] Жаба ты малая, бачыў ты, ці ён там нагу адстаўляў ці язык высалапляў! Язык у цябе каля вушэй матляецца* (К. Чорны. Лета).

У аснове фразеалагізма — нерэальны вобраз, выкліканы, магчыма, вобразнасцю сэнсава тоеснага фразеалагізма *язык доўгі ў* каго.

**Язык на шарнірах** у *каго. Уласна бел.* Хто-н. умее свабодна, гладка, добра гаварыць. — *Маўклівы я. Прамоў гаварыць не ўмею. — Па-твойму; толькі той добры кіраўнік, у каго язык на шарнірах?* (І.Шамякін. Не той гонар).

Параўнальна нядаўняе ўтварэнне. Яно склалася пад уплывам сінанімічнага фразеалагізма *язык добра падвешаны* (у каго) (калька з франц. м. *a la langue bien pendue*), відаць, у маўленні механізатараў, дзе шарнірам называюць рухомае злучэнне дэталей або канструкцый, якое дазваляе змацаваным часткам паварочвацца пад вуглом.

**Язык не паварочваецца** ў *каго. Агульны для ўсходнесл. м.* Хто-н. баіцца, не адважваецца, саромеецца ці не мае ахвоты (сказаць, запытаць і пад.). *Схлусіць, што Люся тут ні пры чым, —*

*у мяне не паварочваецца язык, а сказаць праўду я не хачу* (В. Быкаў. Трэцяя ракета).

Узнік на вобразнай аснове блізкага ў сэнсавых адносінах фразеалагізма язык *прыліп да горла* (у каго, каму) — паўкалькі з царк. — слав. м.(гл.).

*Як, ці, няўжо* **язык паварочваецца** *ў каго. Агульны для ўсходнесл. м.* (Як, ці, няўжо) хапае рашучасці, смеласці, сумлення (сказаць, гаварыць, пытацца і пад.). — *Хіба з Барташэвічам нагуляла? — Як у цябе язык паварочваецца гэта казаць!* (М. Лобан. На парозе будучыні).

Склаўся на аснове фразеалагізма *язык не паварочваецца* (у каго), стаўшы ўжывацца пры абавязковых словах-суправаджальніках *як, ці, няўжо.*

**Язык па-за вушамі ходзіць** *у каго. Уласна бел.* Хто-н. празмерна балбатлівы, гаворыць многа лішняга. — *Дык я ж толькі так, для прыкладу сказаў...—Дужа ўжо ў цябе язык па-за вушамі ходзіць* (І.Новікаў. Дарогі скрыжаваліся ў Мінску).

У аснове фразеалагізма — нерэальны вобраз, які, відаць, развівае ўнутраную форму сэнсава тоеснага фразеалагізма *язык доўгі* ў каго.

**Язык прыліп да горла (гартані)** у *каго, каму. Паўкалька з царк. — слав. м.* Хто-н. замоўк, анямеў (ад нечаканасці, страху і пад.). *У чалавека прыліп язык да горла* (В. Каваль. Маладосць).

Паходзіць з тэксту Біблii (Псалтыр, 21, 16): «язык мой прилпе гортани моему». У сучаснай мове часцей выкарыстоўваецца ў скарочаным выглядзе — *язык прыліп*: «Зноў затросся Дамянік, з плеч на зямлю спала світка, і прыліп яму язык» (Я. Колас).

**Язык свярбіць** у *каго, кому. Агульны для ўсходнесл. і польск. (język świerzbi) м.* Хто-н. не можа стрымацца, каб не загаварыць, не сказаць што-н. У *чалавека свярбеў язык, і той даваў яму волю* (І.Пташнікаў Лонва).

У аснове фразеалагізма — нерзальны вобраз, звязаны з языком як органам маўлення. На фармаванне выразу, відаць, паўплывалі фразеалагізмы *рукі свярбяць* у каго, *кулакі свярбяць* у каго, якія суадносяцца з адпаведнымі свабоднымі словазлучэннямі.

**Язык у роце не месціцца** *ў каго. Уласна бел.* Хто-н. не можа стрымацца, каб не загаварыць, не расказаць пра што-н. *Сядзе дзе-небудзь, вочы ў зямлю ўперыць, будзе глядзець сабе пад ногі цэлы дзень і маўчаць. А то разгаворлівы дужа стаў: язык у роце не месціцца* (Я.Сіпакоў. Усе мы з хат).

У аснове фразеалагізма — нерэальны вобраз, звязаны з языком як органам маўлення.

**Язык як (што) брытва.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Ужыв. са значэннямі ‘здольнасць востра і дасціпна гаварыць’ і ‘хто-н. Дасціпны, з’едлівы ў размове’. *І так сабой не асабліва відная — драбната. Паглядзець няма на што. І твар — худы, косткі на шчаках выпінаюць... Толькі і красы, што язык як брытва!..* (І.Мележ. Людзі на балоце). *Сустракацца з усёй брыгадай яму* [Валянціну] *не хацелася, асабліва з Ганнай Калеснікавай — у гэтай язык што брытва* (Б. Стральцоў. Між крутых берагоў).

Склаўся, магчыма, пад уплывам біблейскага тэксту: «Пагібель выдумляе язык твой; як вытанчаная брытва, ён у цябе, каварны» (Псалтыр, 51,4).

**Як адзін.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Ужыв. са значэннямі ‘без выключэння, поўнасцю; абсалютна (усе)’, ‘дружна, аднадушна (рабіць што-н.)’ і ‘зусім аднолькавыя і добрыя ў якіх-н. адносінах’. *Кажуць, што добра нам, калі ў брыгадзе ўсе як адзін спрактыкаваныя* (У. Карпаў. За годам год). *Можна ўправіцца і з уланамі, калі станем як адзін* (П. Галавач. Яны не пройдуць!). *Бывала, Гняцецкі калі прыедзе на чацвёрцы да касцёла, дык усё мястэчка як на дзіва глядзіць: як адзін, сівыя ў яблыкі, аж мяняюцца* (К. Крапіва. Мядзведзічы).

Узнік, відаць, у выніку скарачэння фразеалагізма *як адзін чалавек,* які і цяпер ужываецца ў мове, але толькі пасля слова *ўсе* і са сваім адзіным значэннем ‘без выключэння, поўнасцю; абсалютна (усе)’: «Партызан убачылі праз цьмяныя акенцы вучні, і ўсе як адзін чалавек сыпанулі на двор» (А. Карпюк). Два іншыя значэнні, уласцівыя фразеалагізму, развіліся ў ім самастойна.

**Як асіна** *калаціцца, дрыжаць. Агульны для бел., укр.* (як осика) *і чэшск.* (jak osika) *м.* Вельмі моцна (калаціцца — часцей ад страху). *Не крычы ты на яго, Сёмка: ён і так увесь калоціцца як асіна* (Я. Колас. Сірата Юрка).

Этымалагічная аснова фразеалагізма тая самая, што і ў выразе *як асінавы ліст* (гл.).

**Як асінавы ліст** *калаціцца, дрыжаць, трымцець. Агульны для ўсходнесл. (руск.* как осиновый лист, *укр.* як осиковий лист) *і польск.* (jak liść osiki) *м.* Вельмі моцна (калаціцца — часцей ад страху). *Яўхім утаропіў вочы ў жонку, якая задрыжала ад страху як асінавы ліст* (З. Бядуля. Дэлегатка).

Выраз успрымаецца як матываваны. Чаранок асінавага ліста вельмі доўгі, таму нават пры нязначным руху паветра асінавыя лісты пачынаюць дрыжаць. Узнікненне фразеалагізма звязваюць і з павер’ем пра асіну як праклятае дрэва: евангельскі здраднік Юда пасля раскаяння нібыта сам павесіўся на асінавым суку, з таго часу асінавыя лісты асуджаны на вечнае трымценне.

**Якая муха ўкусіла** *каго. Калька з франц. м.* (quelle mouche vous pique). Ужыв. як выказванне здзіўлення з прычыны незразумелых паводзін каго-н. і абазначае 'што здарылася з кім-н., як усё гэта растлумачыць'. *Якая муха ўкусіла жанчыну, што так разлямантавалася на ўвесь дом?* (І.Новікаў. Да світання блізка).

Успрымаецца як жывое метафарычнае ўтварэнне.

**Як бабёр** *плакаць. Агульны для бел. і польск.* (jak bobr) *м.* Жаласліва і доўга. *Пагляджу, бывала, у люстэрка — галава круглая, белая, быццам качан капусты. Плачу як бабёр* (Л. Дайнека. Футбол на замініраваным полі).

Паходзіць з параўнальнага звароту, які набыў цэласнае значэнне. Калі бабёр удзень выходзіць з вады на працу, то ўвесь час нібы плача, бо вочы яго слязяцца ад святла. Упершыню выраз ужыў Ф. Багушэвіч у байцы «Воўк і авечка»: *Плачуць сын і матка, як бабры, абое.*

**Як бог на душу пакладзе (паложыць).** *Паўкалька з руск. м.* (как бог на душу положит). Як здарыцца, як прыйдзецца, бессістэмна. *Пану Лацкевічу як бог на душу пакладзе. Захоча — зробіць, не захоча — ніхто яго не прымусіць* (М. Машара. Сонца за кратамі).

Узнікненне выразу, як мяркуе М.І.Міхельсон, звязана з царскім судом у Маскве, у Прыказе вялікага Палаца, дзе ўсё рашаў сам цар, які, будучы памазанікам Божым, судзіў, «як яму Бог на душу паложыць».

**Як (быццам, нібы) аршын праглынуў.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* как аршин проглотил, *укр.* наче аршин проковтнув). Ненатуральна прама стаіць ці сядзіць. *А хлопцы, хлопцы! Кожны быццам аршын праглынуў: такія важныя, такія строгія* (І.Сяркоў. Мы — хлопцы жывучыя).

У аснове фразеалагізма — нерэальны вобраз, які мог узнікнуць у маўленні краўцоў ці гандляроў, дзе аршынам называлі лінейку, меру даўжыні, роўную 71,12 см.

**Як (быццам, нібы) аршын праглынуўшы** *сядзець, хадзіць. Уласна бел.* У ненатуральна прамой паставе. *Ён* [Кушэль] *заўсёды хадзіў як аршын праглынуўшы* (І.Новікаў. Дарогі скрыжаваліся ў Мінску). *Сястра Аўдакія сядзіць нібы аршын праглынуўшы, шэпча нешта* (М. Лынькоў. На чырвоных лядах).

Паходзіць з параўнальнага звароту, заснаванага на нерэальным вобразе, які мог узнікнуць у маўленні краўцоў ці гандляроў, дзе аршынам называлі лінейку, меру даўжыні, роўную 71,12 см. Можна таксама лічыць, што гэты прыслоўна-акалічнасны выраз, які рэалізуе сваё значэнне толькі пры дзеясловах-суправаджальніках *сядзець, хадзіць,* мог узнікнуць пад уплывам

агульнага для ўсходнесл. м. дзеяслоўнага фразеалагізма *як аршын праглынуў* ‘ненатуральна прама стаіць ці сядзіць’ (гл.).

*Круціцца* **як вавёрка ў коле.** *Калька з руск. м.* (как белка в колесе). У пастаянных занятках, клопатах. *Цэлы дзень круцілася яна* [Аня] *як вавёрка ў коле: змятала пыл, мыла падлогу, карміла ляжачых хворых, мяняла ім бялізну, памагала мыцца ў ванне* (А. Васілевіч. Навальніца).

Выраз з байкі І.А. Крылова «Вавёрка» (1833). У ёй апісваецца, як вавёрка, знаходзячыся ў клетцы, увесь час круціць прымацаванае там рухомае кола, чапляючыся лапкамі за тонкія планкі, і нібы бесперапынна бяжыць. У баечнай маралі гаворыцца пра дзялка, які іншы раз хоць і круціцца, «як вавёрка ў коле», але нікольхі не падаецца наперад.

*Глядзець, берагчы, шанаваць* і пад. **як вока ў ілбе.** *Агульны для бел. і ўкр. м.* Вельмі старанна, клапатліва. *Пакляўся Рабы, што будзе глядзець жонку і шанаваць як вока ў ілбе і нікуды з Глінак не выедзе, не вернецца да сваіх Карпат* (К. Каліна. Крылаты конь).

Склаўся, магчыма, пад уплывам сэнсава тоеснага фразеалагізма *як зрэнку вока* (гл.) — паўкалькі з царк. — слав. м.

**Як вол** *рабіць, працаваць, цягнуць і* пад. *Калька з франц. м.* (travailler comme un boeuf). З крайнім напружаннем сіл. *[Антаніна Цімафееўна: ] Усе павінны ведаць, што ты працуеш як вол, начэй не спіш — за раён хварэеш…* (А. Макаёнак. Выбачайце, калі ласка).

Вобразнасць фразеалагізма празрыстая. Нярэдка ён ужываецца ў форме *як чорны вол:* «Сагнуўшы плечы ў крук, араў зямлю Паўлюк, як чорны вол варочаў» (Я. Купала).

**Як га.** *Уласна бел.* Вельмі хутка. *Як у казцы, усё зрабілася адразу. Як «га», гатоў быў рай на зямлі* (З. Бядуля. Дванаццацігоднікі).

Унутраная форма фразеалагізма ўсведамляецца так: «хутка, як крыкнуць, як сказаць *га»* (Ф. Янкоўскі). Магчыма, выраз паходзіць з параўнальнага звароту *як «га» сказаць (крыкнуць).*

**Як гарох пры дарозе.** *Агульны для бел., укр.* (мов горох при дорозі) *іпольск.* (jak groch przy drodze) *м.* Ужыв. са значэннямі: 1) ненадзейна, трывожна, неспакойна, 2) адзінока і без дагляду (расці, заставацца, жыць і пад.). *Людзі жылі як гарох пры дарозе, людзі жылі ў штодзённай трывозе* (У. Дубоўка. Крычаўская спакуса). *Сам Радзівон жыве як гарох пры дарозе, без дагляду, без усякае сталасці* (К. Чорны. Сястра).

Этымалогія фразеалагізма становіцца зразумелай, калі прыгадаць яго больш поўную, нескарочаную форму — прыказку, якая ўжываецца і цяпер: *Жыву, як гарох пры дарозе: хто ідзе, той скубе.*

**Як дзве кроплі вады.** *Відаць, калька з франц. м.* (comme deux gouttes d'eau); *фразеалагізм з аналагічнай вобразнасцю і структурай ёсць амаль ва ўсіх славянскіх, італ., іспан. і некаторых іншых мовах.* Вельмі моцна, абсалютна (падобны на каго-н.). *Мацей падобны на бацьку як дзве кроплі вады* (У. Караткевіч. Каласы пад сярпом тваім).

Фразеалагізм усведамляецца як матываваны, з жывой унутранай формай.

**Як дзядзька ў Вільні.** *Уласна бел.* Разгублена, збянтэжана, непрывычна, ніякавата. *Пакуль агледзеўся і ўбачыў за тоўстым двайным шклом у другім памяшканні — радыёстудыі — перад мікрафонам Веру і Элю за раялем, датуль круціў разгублена галавой, датуль не мог уцяміць, што да чаго. І жанчына за пультам, і дзяўчына ля акна смяшліва цікавалі за мной: што за дзівак урываецца да іх у час работы ды яшчэ паводзіць сябе як дзядзька ў Вільні* (Я. Радкевіч. Вясновае неба).

Выраз склаўся на аснове эпізодаў з паэмы Я. Коласа «Новая зямля» (раздзел «Дзядзька ў Вільні»).

*Цягаць, насіць* **як дурань дзверы.** *Уласна бел.* Бяссэнсава, недарэчна. *Як толькі выхадны, цягні сам на вуліцу пяціпудовы дыван і ляпай па ім палкаю, а потым зноў цягні яго як дурань дзверы аж на пяты паверх* (В.Гігевіч. Дом, да якога вяртаемся).

Склаўся, *як* лічыць Ф. М. Янкоўскі, на аснове народнага анекдота. Адпраўляючыся араць, старэйшыя браты сказалі Івану-прастаку, каб той прынёс ім полудзень ды каб хаця не забыўся замкнуць дзверы. Іван, адыходзячы ў поле, нідзе не мог знайсці замка, таму зняў дзверы з завесак, узваліў на плечы і пайшоў да братоў, мяркуючы, што калі дзверы будуць у яго на плячах, то ніхто не зможа зайсці ў хату.

*Насіцца* **як <дурань> з пісанай торбай.** *Запазыч. з укр. м.* Незаслужана ўдзяляючы шмат увагі каму-, чаму-н. *Цімох... напужаў і здзівіў маці з дачкою, што ён носіцца з гэтым гармонікам як дурань з пісанаю торбай* (В. Казько. Неруш).

Узнік з параўнальнага звароту, які набыў цэласнае значэнне. *Пісаны* тут абазначае 'размаляваны якімі-н. узорамі'.

**Як жару ўхапіўшы.** *Уласна бел.* Вельмі хутка, спяшаючыся (бегчы, уцякаць і пад.). *Халера тых шляхцюкоў на маю галаву прынесла! Бягуць нібы жару ўхапіўшы! Калі б злавілі, у турму пацягнулі б!..* (В. Вольскі. Несцерка).

Узнікненне выразу абумоўлена некаторымі асаблівасцямі даўнейшага сялянскага быту: «яшчэ параўнаўча нядаўна, некалькі дзесяткаў год назад, людзі берaглі запалкі, эканомілі на запалках і сусед да суседа бегаў узяць агню — узяць жару, каб распаліць у

печы, на комінку; трэба было хутка бегчы, каб вугольчыкі не згарэлі» (Ф. Янкоўскі).

**Як Заблоцкі на мыле** *зарабіць, выручыць, выгадаць* і пад. *Агульны для бел. і польск.* (jak Zabłocki na mydle). Зусім нічога, нікольні ці амаль нічога, амаль нікольні не (зарабіць і інш.). *Хто нам цяпер заплаціць?.. На прыгажосці выгадаем!.. Выгадалі!Як Заблоцкі на мыле!..* (М. Кусянкоў. Альтанка).

Узнікненне фразеалагізма звязваецца з легендай: купец Заблоцкі, каб не плаціць пошліны, вырашыў правезці кантрабандай мыла, выменене за граніцай на жыта, і схаваў яго на дне судна, дзе яно размокла. Пра гэта ёсць у аповесці Л. Калюгі «Нядоля Заблоцкіх», дзе аўтар гумарыстычна прывязвае легенду да сваіх персанажаў: «Край свету чулі пра Заблоцкага. Ведаюць, што з мылам быў заняўся гэты чалавек. Ведаюць, што не заработак, а ўтрата ў яго на гэтым тавары выйшла... А таго не ведаюць, што наш гэта чалавек — з Баркаўцоў, і ўсе тыя прыгоды не немаведама дзе, а паблізу гэтай вёскі рабіліся».

**Як заведзены.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* как заведенный, *укр.* як заведений). Безупынна, з механічнай дакладнасцю (рабіць што-н. *Рабенькі Янка Цівунок, якога за кірпаты нос празвалі Лычыкам, стаіць каля стала, спіною да акна, і як заведзены расказвае вызубраны ўрок па гісторыі Польшчы* (Я. Брыль. Сірочы хлеб).

Паходзіць, як мяркуюць, з выразу поўнай формы *як заведзены гадзіннік.* Скарочаны варыянт фразеалагізма стаў змяняцца па родах і ліках.

**Як завязаць.** *Уласна бел.* Ужыв. са значэннямі 'поўнасцю, як толькі можна' і 'вельмі многа чаго-н.'. *Людзей набілася як завязаць: нядзеля, перадапошні рэйс у Мінск — хто ў госці, хто з гасцей* (У. Дамашэвіч. Дарожная гісторыя). *Адмовіцца* [ад камандзіроўкі] *не магу, а тут сваёй працы як завязаць* (С. Шушкевіч. Уладзімір Хадыка).

Першапачаткова дастасоўваўся, відаць, да мяшка. Параўн.: «Мяшок быў поўны — як завязаць» (І.Навуменка).

*Патрэбны, трэба* **як зайцу стоп-сігнал.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Зусім не, нікольні не (патрэбны каму-н.). *Праўду сказаць, патрэбны быў гэты адпачынак Сурыну як зайцу стоп-сігнал* (Я. Радкевіч. Зіма на выратавальнай).

Параўнальна нядаўняе ўтварэнне, у аснове якога нерэальны вобраз, пабудаваны на спалучэнні прадметна-лагічна неспалучальных слоў.

**Як за каменнай сцяной.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Пад надзейнай аховай каго-н., спакойна (жыць, быць і пад.). *Валянціна пастаянна спадзявалася, што за мной яна — як за каменнай*

*сцяной, што я — вечны рухавік яе таленту* (В.Іпатава. У дзень прэм’еры).

Паходзіць з параўнальнага звароту, які з’яўляецца водгукам даўнейшага звычаю будаваць вакол гарадоў і манастыроў каменныя сцены з мэтай абароны ад непрыяцеля.

*Загарэцца* **як запалак(-лка).** *Уласна бел.* Імгненна, раптоўна (пра нечаканы парыў гарачнасці). *Рэакцыя была імгненная... Гэтак рэагаваў Андрэй Ягоравіч часта — загараўся як запалак* (Б. Сачанка. Няскончаныя спрэчкі).

Паходзіць з параўнальнага звароту, які набыў цэласнае значэнне. Ужываецца з абавязковым дзеясловам-суправаджальнікам *загарэцца*, у якім адначасова суіснуюць два значэнні: зыходнае ‘заняцца агнём, пачаць гарэць’ і пераноснае ‘напоўніцца пачуццём гарачнасці’.

**Як з гусака вада** *з каго. Уласна бел.* Абсалютна аднолькава, без розніцы, не мае значэння для каго-н., не хвалюе, не кранае каго-н. *Адлучыць* [ад гарэлкі] *хіба якая страшная хвароба. Ужо званочкі былі, пару разоў вярталі яго з таго свету. Але са Шмулькі — як з гусака вада* (М.Гіль. Як я абганяў бульбу).

Склаўся на аснове сінанімічнага выразу *што (як, нібы) з гусі вада* (гл.) з заменай кампанента *гусі*, які часта ў маўленні ўжываюць з парушэннем нормы *(з гусі, з гуся),* кампанентам-назоўнікам мужчынскага роду (*гусака*).

**Як з крыжа зняты.** *Агульны для бел., укр.* (як з хреста знятий) *і польск.* (jak z krzyża zdjęty) *м.* Знямоглы, вельмі слабы. *Папраўляйся ты, такі худы, як з крыжа зняты. Няўжо і твае таварышы такія?* (У. Дамашэвіч. Студэнты апошняга курса).

Паходзіць з параўнальнага звароту, які з’яўляецца водгукам старажытнага віду пакарання, калі прыгаворанага да смерці раскрыжоўвалі (прыбівалі рукі і ногі да крыжа).

*Сячы (смаліць, пячы)* **як з кулямёта.** *Уласна бел.* Вельмі шпарка і не змаўкаючы (гаварыць што-н.). *На ўсе пытанні адказвае ён. Сячэ як з кулямёта. Можа, і праўду кажа, але і брэша* (В. Карамазаў. Бежанцы).

Выраз каламбурнага паходжання, заснаваны на ўкутраным кантрасце паміж непасрэдна самім фразеалагізмам і яго абавязковымі словамі-суправаджальнікамі, кожнае з якіх мае больш як па дзесяць значэнняў (з адценнямі), а *смаліць* і *паліць* утвараюць аманімічныя групы. Пры рэалізацыі фразеалагізма на адно (перыферыйнае) значэнне, напрыклад, дзеяслова *сячы* ‘гаварыць, выказвацца’ наслойваецца, пад уплывам генетычна параўнальнага звароту, другое значэнне ‘весці бесперапынна моцны абстрэл’. Параўн. таксама: *смаліць5* — ‘рабіць што-н. хутка, спрытна, умела’ і *смаліць4*— ‘страляць’.

**Як з месяца зваліўся (-лася, — ліся).** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* как с луны свалился, *укр.* як з місяця впав). Не разумее таго, што відавочна ўсім. *Ну і дурань, наіўны дурань… Ты як з месяца зваліўся* (А. Асіпенка. Вогненны азімут).

Развіўся (у форме параўнальнага звароту) на аснове семантычна тоеснага фразеалагізма *з неба (месяца) зваліўся* — калькі з франц. м. (гл.).

**Як з рога дастатку.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* как из рога изобилия, *укр,* як з рогу достатку). У вялікай колькасці, невычарпальна і бесперастанку (сыпаць, сыпацца, выдаваць і пад.). *Са свае званіцы, «свайго пункту гледжання», як з рога дастатку сыплецца пахвала…* (Б. Сачанка. Думкі ўроссып).

Гэты прыслоўна-акалічнасны выраз склаўся пад уплывам суадноснага з ім назоўнікавага фразеалагізма, які ёсць у многіх мовах, напрыклад: лад. *cornu copiae* (рог дастатку), франц. *corne d'abondance* (рог дастатку), англ. *the horn of abundance* (рог дастатку). Выток фразеалагізма — грэч. міфалогія. Паводле аднаго з міфаў, каза Амалфея, якая выкарміла сваім малаком Зеўса, аднойчы, зачапіўшыся за дрэва, абламала сабе рог. Зеўс надаў гэтаму рогу цудадзейную сілу ў дастатку напаўняцца ўсім, чаго пажадаюць яго ўладары — німфы.

*Берагчы, аберагаць* і пад. **як зрэнку вока.** *Паўкалька з царк. — слав. м.* (как зеницу ока). Вельмі старанна, клапатліва. *Лёнька бярог свайго новага «козліка» як зрэнку вока і ганарыўся ім* (В. Дайліда. Мне — пару слоў).

Неаднаразова сустракаецца ў біблейскіх тэкстах; напрыклад, у «Псалтыры» (16, 8): «Храни меня как зеницу ока».

**Як іерыхонская (ерыхонская) труба.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Ужыв. са значэннямі ‘вельмі гучны, моцны, прарэзлівы (голас)’ і ‘вельмі гучна, моцна (грымець, крычаць і пад.)’. *Ну, брат Лукаш, іголас жа ў цябе: як труба ерыхонская!* (Я. Колас. На ростанях). [Паветрадуў] *каля самай зямлі. Грыміць як іерыхонская труба. Глушыць людзей. Ад такога грукату любы ачмурэць можа* (В. Макарэвіч. На галоўным напрамку).

Склаўся на аснове фразеалагізма *іерыхонская труба* (гл.) — калькі з франц. м. — і развіў у сабе іншыя, чым у гэтым выразе, значэнні.

**Якім ветрам занесла** *каго куды. Відаць, калька з франц. м.* (quel bon vent vous amène). Як, пры якіх абставінах аказаўся хто-н. дзе-н. *[Шалёхін: ] А, бацька Талаш? Ды якім жа ветрам занесла вас сюды?* (Я. Колас. Дрыгва).

Фразеалагізм успрымаецца як матываваны.

**Як кошка з сабакам (як сабака з кошкай)** *жыць (пражыць). Фразеалагізм з аналагічнай вобразнасцю і структурай ёсць амаль*

*ва ўсіх славянскіх мовах(руск.* как кошка с собакой, *укр.* як кішка з собакаю, *чэшск.* jako kočka a pes, *польск.* jak pies z kotem і *інш.).* Параўн. у другіх еўрапейскіх мовах аналагічны выраз з крыху іншай структурай (літаральна «як сабака і кошка»): *ням.* wie Hund und Katze, *франц.* comme chier et chat, *італ.* come cani e gatti, *іспан.* como perros y gatos. У пастаяннай варожасці, сварцы, нядружна. — *Ці ведаеш ты старых Тодараў? — Ну?.. Усё сваё жыццё як кошка з сабакам пражылі* (Я. Янішчыц. Трое сутак надзеі).

Фразеалагізм успрымаецца як матываваны.

*Дагадзіць* **як ксёндз Магдусі.** *Відаць, запазыч. з польск. м.* (dogodzić jak ksiądz Magdusi). Вельмі добра (дагадзіць каму-н.). *Калі наш здаравенны чырвоны певень пераможна саскочыў з курыцы, сусед, што быў якраз на нашым двары, пануры дзядзька Ёсіп, сказаў майму багцьку пры мне, шасцігадовому смаркачу, яшчэ ўсё нявопытна гарадскім: «Во дагадзіў, як ксёндз Магдусі!..»* (Я. Брыль. Пра слова).

Паводле Я. Брыля, узнікненне выразу звязваюць з такім аповедам: «Ксёндз-пробашч памірае, а ахмістрыня Магдуся абвязала яму, як паратунак, горла хусткай з цёртым макам. І пытаюцца тыя, што сабраліся каля ложка, каму ж айцец адпісвае сваё дабро. А ён толькі з прыплачам: „Мак дусі!.. Мак дусі-і!“ І выйшла пры сведках, што ён, пры светлым розуме, усё пакідае Магдзе».

*Ляпнуць* **як лапцем па балоце.** *Уласна бел.* Вельмі недарэчна, нетактоўна (сказаць што-н.*). — Ну до, дзеўкі, до! — узялася наводзіць мір Варка. — Вечна быля-што ляпнеш як лапцем па балоце, тады сядзім совамі* (А. Кажадуб. Канец свету).

Выраз этымалагічна каламбурнага характару, заснаваны на абыгрыванні двух значэнняў дзеяслова-суправаджальніка *ляпнуць.* Тут на першае значэнне дзеяслова, рэалізаванае пачаткам лексіка-фразе-алагічнага кантэксту (‘сказаць штосьці неўпапад, неабдумана’) імгненна наслойваецца, праз параўнальны зварот, другое значэнне гэтага ж дзеяслова (‘біць, ударацць па чым-н. з шумам’).

*Ляпнуць* **як лапцем па цымбалах.** *Уласна бел.* Вельмі недарэчна, нетактоўна (сказаць што-н.). *Брахун ты!.. Менціш вот цэлы вечар попусту языком. Ляпаеш як лапцем па цымбалах!* (Г. Далідовіч. Гаспадар-камень).

Як і ў папярэднім (сінанімічным) фразеалагізме, яго вобразнасць грунтуецца на эфектыўным, двухсэнсавым выкарыстанні дзеяслова-суправаджальніка *ляпнуць.*

**Як ліпку.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* как липку, *укр.* як липку). Поўнасцю, начыста. *Гэты сабака Ліпскі падаў на мяне ў*

*суд, што я яго адлупцаваў, дык вот і асэсара прыслалі. Ну, абдзярэ як ліпку!* (В. Дунін-Марцінкевіч. Пінская шляхта). Ужываецца з абавязковым прыфразеалагічным словам *абдзіраць*, у якім адначасова суіснуюць два значэнні: 'рабаваць, адбіраць усё' і 'здзіраць верхні слой'.

Узнік з параўнальнага звароту, які набыў цэласнае значэнне. Ліпавае лыка выкарыстоўвалася ў гаспадарцы: з яго плялі лапці, рабілі посуд. Лыка з ліпы вельмі чыста і гладка абдзіралася.

**Як лунь** *сівы, белы. Агульны для ўсходнесл. м.* Зусім (сівы). *Гасцей сустракае начальнік штаба злучэння Багун, маленькі, мітуслівы, увесь як лунь сівы* (І.Навуменка. Асеннія мелодыі).

Узнік з параўнальнага звароту. *Лунь* — драпежная птушка з шаравата-белым апярэннем. У палявога дарослага луня пер'е зверху светла-шэрае, а знізу белае.

**Як мага.** *Уласна бел.* Ужыв. са значэннямі 'вельмі хутка, імкліва (бегчы, спяшацца, уцякаць і пад.)', 'у найвышэйшай ступені (рабіць што-н.)' і 'наколькі магчыма, па магчымасці (хутчэй, больш, менш, далей і пад.)'. *Маленькі нядошлы конік, прыцiснуўшы вушы і цягнучы за сабою ўчарнелы сноп, ад udараў гарапніка як мага ўцякаў у сасоннік* (М. Лобан. На парозе будучыні). *Стараліся ўвесь мінулы месяц як мага* (К. Чорны. Броня Казакевіч). *Трэба было навучыцца як мага болей пратрымацца пад вадой* (Я. Маўр. Слёзы Тубі).

Кампанент *мага,* неўжывальны па-за межамі гэтага фразеалагізма, з'яўляецца ўтварэннем ад дзеяслова *магчы.* Гэта — перажыткавая форма кароткага дзеепрыметніка незалежнага стану цяперашняга часу ў назоўным скл. мужч. р. адз. л.

**Як Мамай прайшоў** *дзе. Пайкалька з руск. м.* (как Мамай прошел), Дзе-н. поўны беспарадак, неразбярыха. *А па хаце як Мамай прайшоў Усё раскідана, усё не на сваім месцы, брудныя лужыны вады на падлозе, гразныя вёдры, венікі, палавікі* (В. Казько. Сад, альбо Заблытаны след рамана).

Утвораны з параўнальнага звароту, звязанага з гістарычнай падзеяй — апусташальным нашэсцем на Русь у XIV ст. татар пад кіраўніцтвам хана Мамая.

**Як манны нябеснай.** *Агульны для ўсходнесл., польск. і чэшск. м.* Ужыв. пры дзеяслове *чакаць* і абазначае 'з нецярпеннем'. *Ураджай — справа такая: яго трэба зрабіць. Ён не прыходзіць да тых, хто яго чакае склаўшы рукі, як манны нябеснае* (М. Лобан. Гарадок Устронь).

Склаўся на базе біблейскага аповеду (Ісход, 16,14–16,31): «Сыны Ізраілевы елі манну 40 гадоў, пакуль не прыйшлі ў зямлю запаветную»; манну, калі іудзеі ішлі пустыняй, кожную раніцу нібыта пасылаў з неба Бог.

**Як Марка па пекле.** *Агульны для бел. і ўкр. м.* Бесперастанку (рухацца, блукаць, часам без толку). *А што ж вы, разумныя?.. Таўпехаецеся як Марка па пекле... і больш нічога* (Я. Купала. Раскіданае гняздо).

Выраз склаўся на аснове легенды пра Марку Пякельнага (занатавана ў 2-м томе «Матэрыялаў...» П. В. Шэйна; 1893). У ёй расказваецца, як сялянскі хлопец Марка многа дзён едзе па пекле на кані і ўвесь час са шкадаваннем і болем назірае, якія розныя пакуты церпяць грэшнікі, але нічым не можа ім дапамагчы.

**Як Марку па пекле** *ганяць. Агульны для бел. і ўкр. м.* З аднаго месца ў другое, у розных напрамках. *Праца ў газеце ганяла як Марку па пекле з калгаса ў калгас, з раёна ў раён... Для творчасці сапраўднай, якой Антон лічыў мастацкую літаратуру, — аставаліся выхадныя дні ды ночы* (Б. Сачанка. Дарога ў Хатынь).

Склаўся (як і выраз *як Марка па пекле* хадзіць, блукаць, сноўдацца і пад.) на аснове той самай легенды пра Марку Пякельнага, які на працягу многіх дзён мусіў ездзіць па пекле ў розных напрамках з аднаго месца ў другое.

**Як мыла з'еў (з'еўшы).** *Агульны для бел. і ўкр.* (як мила з'їв) *м.* З незадаволеным, кіслым выглядам, у дрэнным настроі. *Гаспадыня бразнула дзвярамі, а Журавінка з двара пайшоў як мыла з'еўшы* (М. Лобан. Гарадок Устронь).

Спроба І.І.Насовіча вытлумачыць паходжанне фразеалагізма сувяззю паміж словамі *мыла* і *абмыліцца, памыліцца* наўрад ці пераканальная. У параўнальным звароце, які стаў фразеалагізмам, мелася на ўвазе, відаць, не мыла, а мыльная трава (параўн. у рамане І.Чыгрынава «Плач перапёлкі»: «— Тады як хочаце, — разгублена пацiснуў плячамі Раман Сёмачкін і, нібыта наеўшыся якой мыльнай травы, падаўся да Рахіма)». Мыла — народная назва некаторых раслін; напрыклад, *мыльнік* (Saponaria) называюць мылам, сабачым мылам, *увярэднік* (Pedicularis) — мылам, зязюльчыным мылам. Калі карова з'есць такога мыла, то, як засведчана ў даведніках па ветэрынарыі, становіцца вялая, прыгнечаная: яно дзейнічае на розныя органы, на цэнтральную нервовую сістэму. Выток фразеалагізма — падабенства з'яў.

**Як на <гарачым> вуголлі.** *Відаць, калька з франц. м.* (sur des charbons andents). У стане крайняга хвалявання, непакою, трывогі і пад. (сядзець, стаяць і інш.). *Увесь апошні дзень Сцяпан правёў як на гарачым вуголлі і, можа, дарэмна не ўстрымаўся, даў волю нервам* (В. Карамазаў. Бярозавыя венікі).

Фразеалагізм усведамляецца як матываваная адзінка, што ўзнікла на аснове гіпербалічнага параўнання.

**Як на дзяды.** *Уласна бел.* Ужыв. са значэннямі: 1) выдатна, уволю (наесціся, пад'есці), 2) *чаго,* вельмі многа (пра яду). *[Скіба: ] Ну як, таварыш Бадыль, накармілі вас? [Дзед Бадыль: ] Дзякую. Наеўся як на дзяды* (К. Крапіва. Партызаны). *Хоць любіў Сцёпка, каб яды было як на дзяды, але хацеў, каб работы было, як у нядзелю* (Ядвігін Ш. Зарабіў).

Дзяды — старадаўняе памінанне нябожчыкаў, а таксама дзень, калі адбываўся гэты абрад. На дзяды гатавалася сем — дзесяць страў (куцця, бліны, клёцкі, яечня, мяса і інш.). Пасля малення гаспадар выходзіў з хаты і заклікаў на вячэру «дзядоў»-нябожчыкаў. Сям'я ела з перапынкамі, кладучы час ад часу лыжкі на стол, каб імі сімвалічна маглі пакарыстацца «дзяды». На іх долю яшчэ адлівалі і адкладвалі ад кожнай стравы ў асобны посуд. Пасля вячэры не прыбіралі са стала: пакідалі нібыта для нябожчыкаў. *Як на дзяды* — водгалас памінальнага абраду.

**Як на дражджах** *расці Агульны амаль для ўсіх слав. м.* Вельмі хутка і добра. — *Павел Іванавіч, проса на Топалі не праполана. А проса добрае. — Усё расце як на дражджах, а людзей не хапае* (І.Шамякін. Крыніцы).

Выраз успрымаецца як матываваны — праз супастаўленне з уздзеяннем дражджэй пры пячэнні хлебных вырабаў, прыгатаванні піва і г.д.

**Як на духу.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Шчыра, не ўтойваючы. *Урэшце, калі гаварыць як на духу, то мала хто з разумных людзей верыў у тое, што пісалі апошні раз пра яе...* (І.Чыгрынаў. Плач перапёлкі).

Узнік як параўнальны зварот на аснове спалучэнняў *быць на духу, пайсці на дух,* дзе *дух* абазначае 'споведзь, раскаянне ў грахах'.

**Як на іголках.** *Калька з ням. м.* (wie auf Nadeln; *параўн. у франц.:* être sur des epines — быць на калючках). Ужыв. пры дзеясловах *быць, сядзець,* абазначае 'вельмі неспакойна, з хваляваннем'. *Яшчэ гадзіну якую сядзела Лена як на іголках, Усё хацела паглядзець, а што там такое у скрутку* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Фразеалагізм усведамляецца як матываваная адзінка, што ўзнікла на аснове гіпербалічнага параўнання.

**Як на каме́нную сцяну (гару).** *Агульны для ўсходнесл. м.* Поўнасцю, цалкам (спадзявацца, апірацца і пад. на каго-н.). *Покі што ў мяне ёсць тры асобы, сяляне, і адзін з іх чалавек вельмі сур'ёзны. На яго можна палажыцца як на каменную сцяну* (Я. Колас. На ростанях).

Узнікненне фразеалагізма звязана з даўнейшым звычаем будаваць вакол гарадоў і манастыроў камекныя сцены з мэтай, абароны ад непрыяцеля.

*Зажываць, загойвацца* **як на сабаку.** *Агульны для бел. і ўкр.* (як на собаці) *м.* Даволі хутка і без якіх-н. ускладненняў. — *Нідзе болю не чую. — Дзіва што, на маладым зажывае як на сабаку, — не ўтрываў і сказаўся Якшук* (В. Адамчык. І скажа той, хто народзіцца).

Узнік з параўнальнага звароту, які набыў цэласнае значэнне. Рана на сабаку сапраўды загойваецца вельмі хутка, бо ён залізвае яе, а таксама ўмее знайсці ў лесе, на сенажаці патрэбныя лекавыя расліны.

**Як неба ад зямлі** *адрозніваецца. Відаць, паўкалька з царк. — слав. м.* Вельмі моцна, рэзка (адрозніваецца хто-н. ад каго-н., што-н. ад чаго-н.). *Далей ідзе арыстакратычнае мястэчка. Ад свайго сярмяжнага суседа мястэчка адрозніваецца як неба ад зямлі* (А. Васілевіч. Новы свет).

Выток фразеалагізма — Біблія. У ёй (Ісаія, 58,9) Бог звяртаецца да свайго народа: «... якоже отстоит небо от земли, тако отстоит путь мой от путий ваших».

**Як не свой (свая, сваё, свае).** *Агульны для бел. і ўкр. м,* Моцна ўсхваляваны, у стане разгубленасці, роспачы, адчаю (быць, хадзіць, ісці, стаяць і пад.). *Цераз тыдзень надыдуць тыя дзянёчкі, калі трэба пакінуць вёску. А тады — іншае жыццё пачнецца. Як не свой хадзіў гэтыя дні Цімка* (В. Каваль. Жніво).

Склаўся на аснове сэнсава тоеснага фразеалагізма *сам не свой* (гл.), замацаваўшыся ў форме кампаратыўнага звароту.

*Сядзець* **як (нібы, бы) на карове сядло.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* как на корове седло, *укр.* як на корові сідло). Нязграбна, дрэнна, не аблягаючы цела (пра адзенне). *Дарагія гарнітуры хлопцаў сядзелі на іх як на карове сядло, цiснулі пад пахаю, мулялі ў грудзях* (У. Караткевіч. Чазенія).

Відаць, склаўся пад уплывам лац. выразу *clitellae bovi impositae sunt* (літаральна «сядло карове надзета»).

**Як (нібы, быццам) камень з плеч (плячэй) зваліўся (скаціўся)** *у каго. Агульны для бел. і ўкр.* (як камінь з пліч спав) *м.* Хто-н. адчуў поўную душэўную палёгку, пазбавіўшыся клопатаў, напружання. У *разважлівага Бруя як бы камень з плеч скаціўся* (Я. Колас. Дрыгва). *Сказаў так — і пайшоў. А ў мяне быццам камень з плячэй зваліўся* (Настаўн. газ. 16.01.1980).

Утварыўся кантамінаваннем, аб'яднаннем частак двух фразеалагізмаў-сінонімаў у адзін: *як гара з плеч звалілася + камень з сэрца спаў (скаціўся).*

**Як нітка за іголкай.** *Уласна бел.* Неразлучна (ісці, цягнуцца і пад.). *—А што мне думаць! Далей ты за мяне будзеш думаць. А я... Куды ты — туды і я. Як нітка за іголкай* (І.Шамякін. Не той гонар).

Утварыўся на вобразнай аснове прыказкі *Куды іголка, туды і нітка,* якой характарызуюць непарыўныя сувязі паміж кім-н.

**Як ні ў чым не бывала.** *Пайкалька з руск. м.* (как ни в чем не бывало). Быццам нічога не здарылася. *На другі дзень як ні ў чым не бывала, вясёлая, у якой-небудзь кофтачцы ці хусцінцы, яна ішла ўжо ў гурце жанчын на сенажаць ці на поле* (М. Ракітны. Авяр'ян).

Выраз узнік з былога даданага сказа, у якім апошні кампанент свабодна рэалізаваў свае родавыя формы, уступаючы ў сувязь дапасавання з дзейнікам. Напрыклад, яшчэ на пачатку XIX ст. выраз быў матываваны, а яго дзеяслоўны кампанент, як паказвае В.У.Вінаградаў, меў не толькі форму н. р. прошлага часу: «Князь Фольгін, як быццам ні ў чым не бываў, таксама жартаваў».

**Якога ражна.** *Агульны для бел. і руск.* (какого рожна) *м.* Ужыв. са значэннямі: 1) чаму, для чаго, з якой мэтай (робіць хто-н. што-н.), 2) чаго (трэба, не хапае каму-н.). *Якога ражна ты да мяне прыходзіў?* (МЛобан. Шэметы). *Спытайся ў яго па-нямецку, чаго яны супраць нас вайной ідуць, якога ражна ім трэба* (А. Карпюк. Па кветку шчасця).

Мог узнікнуць шляхам мадэліравання — на ўзор фразеалагізмаў *якога ліха, якога хрэна, якога чорта.* Словам *ражон* даўней называлі востры кол, які выкарыстоўвалі на паляванні. З ім хадзілі на мядзведзя. Звычайна некалькі такіх ражноў пахіла ўкопвалі ў зямлю і гналі на іх звера.

**Як ойча наш** *ведаць, запомніць* і пад. *Агульны для ўсходнесл. м.* (*руск.* как отче наш, *укр.* як отче наш). Вельмі добра, цвёрда. — *Лаянку яго мы на памяць ведаем. — Як ойча наш...* (І.Дуброўскі. Зямныя вузлы).

Паходзіць з параўнальнага звароту, у якім *ойча наш* — пачатак адной з асноўных малітваў.

*Адзін (адна, адно)* **як палец.** *Агульны для бел., укр.* (як палець) *і польск.* (sam jak palec) *м.* Ужыв. са значэннямі 'зусім (адзін), без сям'і' і 'у поўнай адзіноце'. *Сірата я круглая: ані бацькі, ані маткі, ані жонкі — адзін як палец на свеце* (Цётка. Зваротлівы). *Кувель жыў у кузні, жыў адзін як палец* (В. Праскураў. Рута-мята).

Склаўся на аснове фразеалагізма *як перст* з заменай устарэлага слова-кампанента *перст* (гл. *як перст).*

**Як папа Карла** *рабіць, працаваць. Пайкалька з руск. м.* (как папа Карла). Напружана, высільваючыся. *У кожнага свой лёс. Я ў свой час рабіў як папа Карла... Цяпер бачу, што многія мае*

*равеснікі паспіваліся, а я хоць чагосьці, але дасягнуў у гэтым жыцці* (М. Рандзюк. Хоць чагосьці дасягнуў…).

Склаўся пад уплывам аповесці-казкі А. Талстога «Залаты ключык, або Прыгоды Бураціна» (1935) і тэлевізійнага фільма па гэтай аповесці.

*Адзін (адна, адно)* **як перст.** *Агульны для ўсходнесл. м.* (*руск.* как перст, *укр.* як перст). Ужыв. са значэннямі ‘зусім (адзін), без сям’і’ і ‘у поўнай адзіноце’. *Як перст ён* [Мікіта] *адзін, небарака…* (Я. Колас. Суд у лесе). *Зараз зіма, холадна, яна адна ў пустой няпаленай кватэры. Адна як перст* (А. Наварыч. Месячнай ноччу).

Узнік з параўнальнага звароту, дзе *перст*—устарэлая назва вялікага пальца рукі, які стаіць асабняком ад іншых чатырох пальцаў адкрытай далоні, што і стала асновай параўнання.

**Як піліп з канапель.** *Запазыч. з польск. м.* (jak filip z konopi). Зусім нечакана, знянацку, раптоўна (выскачыць, з’явіцца). *[Язва: ] Прашу слова для нечарговай заявы. [Галасы: ] Як гэта бястактна! — Хто ён такі? — Выскачыў як піліп з канапель* (К. Крапіва. Мілы чалавек).

Часам узнікненне фразеалагізма звязваюць, услед за П. Шпілеўскім, з легендай: аднойчы на сейміку магната Радзівіла нечакана і недарзчна выказаўся шляхціц Піліп з Канапель (так называўся засценак на Чэрвеньшчыне) і быў востра абсмеяны. Больш пераканальным варта лічыць наступнае меркаванне. У польск. м. слова *filip* і сёння — другая, народная назва зайца. Выраз склаўся ў асяроддзі паляўнічых, якія не раз бачылі ў часе палявання, як, забегшы ў каноплі ў перыяд іх цвіцення, заяц-піліп не вытрымліваў іх цяжкага, дурманнага, ап’яняльнага паху і стрымгалоў выскокваў адтуль. Забыццё першапачатковай вобразнасці прывяло да пераасэнсавання слова *піліп*, якое нярэдка ўспрымаецца як уласнае імя і беспадстаўна пішацца з вялікай літары. І ў ТСБМ (т. 2, с. 616) чытаем: *як Піліп з канапель.* Узнікшы як параўнальны зварот, выраз ужываецца з абавязковым прыфразеалагічным словам *выскачыць*, у якім адначасова суіснуюць два значэнні: ‘выбегчы’ і ‘недарэчна ўмяшацца ў што-н.’.

**Як піць даць.** *Пайкалька з руск. м.* (как пить дать). Абавязкова, бясспрэчна. *Звядуць яго з пуці. Гэта ўжо як піць даць* (К. Крапіва. З народам).

У некаторых працах гэты выраз кваліфікуецца як агульны для ўсходнесл. м. Аднак больш лагічна лічыць яго рускім паводле паходжання. Застылы ў інфінітыўнай форме кампанент *даць* раней спрагаўся, дапасоўваючыся да суб’екта дзеяння *(они как пить дадут, он как пить даст* і г.д.). Як адзначаецца ў літаратуры, сучаснае значэнне і форма звароту *как пить дать* склаліся ўжо к сярэдзіне XIX ст. Можна пагадзіцца з меркаваннем М.С. і

М. Г. Ашукіных, што першаснае значэнне звароту было «как дать пить яд, действие которого несомненно». У пацвярджэнне аўтары даюць прыклады з мастацкіх тэкстаў, апублікаваных у 1830-х гадах.

*Спаць* **як пшаніцу (пяньку) прадаўшы.** *Уласна бел.* Вельмі моцна. — *А Колік яшчэ спіць, — гаварыў Лапінка, — як пшаніцу прадаушы, ні аб чым галава не баліць...* (Я. Брыль. Праведнікі і зладзеі).

Абагульнена-вобразнае значэнне фразеалагізма не вынікае непасрэдна з параўнання *як пшаніцу прадаўшы,* калі не мець на ўвазе і падтэкст — намёк на барыш пасля продажу пшаніцы. У «Зборніку беларускіх прыказак» І.І.Насовіча выраз пададзены ў форме як *пяньку прадаўшы* з такім тлумачэннем: «Кажуць пра таго, хто моцна спіць, як бы, прадаўшы пяньку, выпіў на барышах». У сучаснай літаратурнай мове гэты фразеалагізм рэалізуецца з лексічнай варыянтнасцю назоўнікавага кампанента: *як пшаніцу (пяньку, проса, муку, лыка) прадаўшы.* Відаць, напачатку ў якой-н. мясцовасці склаўся адзін з гэтых варыянтаў. Перанёсшыся ў іншую мясцовасць, дзе пашыраным прадметам гандлю была не пшаніца ці пянька, а мука, лыка, проса, фразеалагізм адпаведным чынам пераафармляўся. Так паступова развіваўся варыянтны рад.

*Патрэбна* **як пятае кола ў возе.** *Агульны для бел., укр.* (як п’яте колесо до воза (у возі) *іпольск.* (jak piate koło u wozu) *м,* Зусім не, нікольке не (патрэбны хто-н. ці што-н. каму-н.). *Іх бацюшка будзе вянчаць, а не ты, малеча! Патрэбны ты там як пятае кола ў возе!* (Л. Ялоўчык. Вясельныя сустрэчы).

У аснове фразеалагізма — нерэальны вобраз, пабудаваны на сумяшчэнні несумяшчальных паняццяў *(воз* і *пятае кола* ў ім). Гэты акалічнасна-прыслоўны фразеалагізм, кампаратыўны па форме, склаўся пад уплывам назоўнікавага выразу, аналагічнага па кампанентным складзе, але без кампанента-злучніка «як». Такі фразеалагізм са значэннем ‘лішні, непатрэбны чалавек’ бытуе ў шмат якіх мовах: *ням.* das fünfte Rad am Wagen (літаральна «пятае кола ў возе»), *франц..* une cinquième roue d’un carrosse (літаральна «пятае кола ў карзце»), *руск.* пятое колесо в телеге, *чэшск. páte kolo u vozu* і інш.

**Як рукой зняло** *што. Відаць, калька з франц. м.* (pter le mal comme avec la main, літаральна «зняць зло як рукой»). Што-н. зусім знікла, прапала, прайшло (пра хваробу, сон, пачуцці, перажыванні). *Той узнёслы настрой, з якім Міця ляцеў да даўняга сябра, як рукой зняло* (І.Навуменка. Сасна пры дарозе).

Хутчэй за ўсё, з'яўленне выразу мае сувязь з лячэннем хворага шаптунамі, знахарамі, якія праводзілі па балючым месцы рукой.

*Патрэбны, трэба* **як рыбе парасон.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Зусім не, нікольки не (патрэбны каму-н.). *Думаеш, патрэбен ты ёй? Думаеш, пойдзе яна за цябе? Як рыбе парасон ты ёй патрэбен!* (У. Мехаў. Важны сваяк).

Параўнальна нядаўняе ўтварэнне, у аснове якога нерэальны вобраз, пабудаваны на спалучэнні прадметна-лагічна неспалучальных слоў.

**Як сабак нярэзаных** *каго. Паўкалька з руск. м.* (как собак нерезаных). Вельмі многа. *Я чуў, што калісьці і ў нашай вёсцы быў пан. Я ведаў, што за мяжой іх і зараз як сабак нярэзаных* (І.Сяркоў. Мы з Санькам у тыле ворага).

У руск. м., як засведчана У.І.Далем, быў назоўнік *нерезь* са значэннем 'некастрыраваны кныр, самец свойскай свінні' (параўн. беларускае, блізкае гучаннем *кнораз).* Лёгка зразумець каламбурны характар фразеалагізма *як сабак нярэзаных*, калі мець на ўвазе, што ў ім прыметнік *нярэзаны,* утвораны ад названага назоўніка, спалучаецца са словам *сабака* (сабак ніхто не пакладае, не лягчае). Першапачатковае значэнне выразу — 'як сабак на сабачым вяселлі'.

*Патрэбны, трэба* **як сабаку пятая нага.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Зусім не, нікольki не (патрэбны каму-н.). *Сідар адклаў лыжку і засмучана паглядзеў у акно. — Трэба мне гэтая служба як сабаку пятая нага* (І.Навуменка. Сідар і Гараська).

У аснове фразеалагізма — нерэальны вобраз, пабудаваны на спалучэнні слоў, якія прадметна-лагічна не спалучаюцца.

*Глядзець, берагчы* і пад. **як <сваё> вока.** *Агульны для бел. і ўкр. м.* Вельмі старанна, клапатліва. *Хто яго ведае, ці пабачымся больш. Беражы Сяргейку як сваё вока* (Р. Сабаленка. Іду ў жыццё).

Узнік, відаць, пад уплывам сэнсава тоескага фразеалагізма *як зрэнку вока* (гл.) — паўкалькі з царк. — слав. м.

**Як свет светам.** *Агульны для бел., укр.* (як світ світом) *і польск.* (jak świat światem) *м.* Ужыв. са значэннямі 'заўсёды, спрадвечна, усё жыццё' і 'ніколі'. *Ні я, ні ён, ніхто не можа ведаць, што заўтра можа быць. Гэта як свет светам, гэта заўсёды так, і ніхто гэтага не перайначыў* (К. Чорны. Зямля). *Такое не здаралася, відаць, як свет светам: да мужыцкага сына прыслалі свацыю з панскага двара…* (Я. Брыль. Апошняя сустрэча).

Склаўся ў выніку скарачэння выразу больш поўнай формы — з дзеяслоўным кампанентам: *як свет светам стаў (стаіць).* Параўн. у Цёткі: «Як свет светам япгчэ стаў, такой песні не слухаў…»

*Ідзе, падыходзіць* як свінні сядло. *Уласна бел.* Зусім не (падыходзіць каму-н. што-н.). *Гаворыць абы-што, а яшчэ ў капелюшы! Ідзе ён табе як свінні сядло!* (М. Ваданосаў. Стары пятак).

Відаць, склаўся на аснове фразеалагізма *(сядзець) як (нібы, бы) на карове сядло* (гл.).

**Як селядцоў у бочцы** ў *чым. Агульны для бел., руск.* (как сельдей в бочке) *і ўкр.* (як оселедців у бочці) *м.* У вялікай колькасці. Пра мноства людзей у якім-н. месцы (у памяшканні, вагоне і пад.). *Пасажыраў было ў вагоне як селядцоў у бочцы* (І.Новікаў. Ачышчэнне).

Выраз усведамляецца як матываваная адзінка, што ўзнікла на аснове гіпербалічнага параўнання.

**Як серада на пятніцу** *крывіцца, касіцца. Уласна бел.* З вялікім незадавальненнем, болем і пад. — *Чаго скрывіўся як серада на пятніуу? — сумеўся Міця. — Нядобрыцца ці што?* (В. Адамчык. Чужая бацькаўшчына)..

Сучасніку ўжо невядома, чаму ў выразе *як серада на пятніцу* іменна гэтыя дні абралі для параўнання, тады як яшчэ на пачатку XX ст. выраз не быў загадкавы, бо звязваўся з поснымі днямі, устаноўленымі царквой. Есці мясное і малочнае забаранялася не толькі ў пасты, але і ў сераду і пятніцу амаль кожнага тыдня. Выходзіла, што і ў сераду чалавек не пад'еў як след, а тут на носе такая ж «сухая» пятніца. Адсюль і параўнанне: *скрывіўся, як серада на пятніцу.* Пры вытлумачэнні паходжання гэтага выразу трэба, відаць, улічваць і тое, што ў пятніцу пасцілі больш строга, чым у сераду (параўн. у п'есе Я. Купалы «Прымакі»: *мокрая серада, сухая пятніца);* таму серада мела падставы крыўдаваць, крывіцца на пятніцу. З гэтымі поснымі днямі звязана ўзнікненне і такіх зваротаў: *зморшчыўся, як сухая пятніца; не бяда, што без рыбы серада.*

*Лупіць, лупцаваць* і пад. **як сідараву казу.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Вельмі жорстка, бязлітасна. *І зноў Хрысціну ахапіла злосць на дачку. Здаецца, каб магла, адлупцавала б як сідараву казу* (А. Асіпенка. Рэха даўніх падзей).

Узнік, паводле В. М. Макіенкі, на аснове старажытнага ўстойлівага параўнання *біць, як казу,* вядомага ў некаторых іншых мовах (напрыклад, у латышскай мове: *pert ka kaiminu azi,* літаральна «біць як суседскую казу»). Супастаўленне з казой грунтавалася на тым, што гэту жывёліну часта білі за патраву. Прыметнікавы кампанент у фразеалагізме мае сувязь з імем Сідара, якое ў шматлікіх прыказках ужываецца з адмоўнай характарыстыкай сварлівага і задзірлівага суседа.

**Як скрозь зямлю праваліўся (-лася, — ліся).** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* как сквозь землю провалился, *укр.* як крізь землю провалився). Нечакана прапаў, знік так, што не знойдзеш. *Я падаваў Сцяпану то жардзіну, то цвік. А сам на вуліцу пазіраў: ці не пакажуцца Зміцёрка з Максімкам. Як скрозь зямлю праваліліся!* (І.Аношкін. Компас паказвае на захад).

Утвораны, відаць, на аснове фразеалагізма (*гатоў* і інш.) *праваліцца скрозь зямлю* (гл.) — калькі з грэч. м.

**Як скурат на агні.** *Уласна бел.* Ужыв. са знач. 'празмерна, залішне (выкручвацца)' і 'бесперастанку (круціцца)'. *Пацеры ці згаварыла, што так выкручваешся як скурат на агні?* (Я. Купала. Прымакі). *Не мог мне Павел нічога памагчы. Летам, праўда; трохі тупаў, дзяцей глядзеў. А я круцілася як скурат на агні — і ў калгас, і на базар, і людзей наймаць, і расплачвацца з імі...* (П.Міська. Васіліна).

У абодвух значэннях вобразнасць фразеалагізма, што ўзнік як параўнальны зварот, грунтуецца на эфектыўным, двухсэнсавым выкарыстанні дзеясловаў-суправаджальнікаў: *выкручвацца* — 'рухацца, звіваючыся, скручваючыся' і 'паварочваючыся, прыхарошвацца'; *круціцца* — 'рухацца, звіваючыся, скручваючыся' і 'быць у пастаянным клопаце'.

**Як след.** *Агульны для бел. і ўкр.* (як слід) *м.* Належным чынам; так, як і трэба (рабіць, зрабіць што-н.). — *Гэты гаворыць як след, — сказаў Каленік у яго другі нумар. Каленік кіўнуў галавой* (П. Галавач. Яны не пройдуць).

Слова *след,* як засведчана ў «Слоўніку беларускай мовы» І.І.Насовіча, ужывалася і са значэннем 'трэба, патрэбна'. З такім жа значэннем слова *слід* выкарыстоўваецца ў сучаснай укр. літаратурнай мове. Зрэдку сустракаецца і ў сучасных беларускіх тэкстах, часцей у спалучэнні з адмоўем *не:* «Пытаюць каму след і каму не след» (Х. Шынклер).

**Як слова сказаць.** *Уласна бел.* Вельмі хутка (рабіць, зрабіць што-н.). *Як слова сказаць падбягае да майго каня нейкі чорны, хударлявы, малады яшчэ хлопец, чыста ў крамнае адзеты* (Ядвігін Ш. Чортава ласка).

Паходзіць з параўнальнага звароту, заснаванага на літоце (знарочыстым прымяншэнні).

*Прыстаць* **як сляпы да плота.** *Уласна бел.* Неадчэпна, дакучліва. — *І то праўда, — хуценька згадзіўся Камароўскі. — Прыстаў са сваім частаваннем як сляпы да плота* (А. Капусцін. Скажу праўду).

Паходзіць з параўнальнага звароту, які набыў цэласнае значэнне. Выраз ужываецца з абавязковым дзеясловам-суправаджальнікам, у якім адначасова суіснуюць два значэнні:

зыходнае ‘шчыльна прымацавацца’ і вытворна-прамое 'назойліва прасіць аб чым-н.’.

**Як старой бабе сесці** *чаго. Уласна бел.* Вельмі мала (звычайна пра зямлю). *Дый курыцу ўжо за адным махам навязвай. А дзе ж я гэта ўсё панавязваю, калі зямлі ў мяне як старой бабе сесці?* (К. Крапіва. Мядзведзічы).

Паходзіць з параўнальнага звароту, заснаванага на літоце (знарочыстым прымяншэнні).

**Як тапелец за саломінку.** *Уласна бел. Як* за апошні выратавальны сродак (хапацца, хапіцца, ухапіцца і пад.). *Косцік схапіўся за сваю міжвольную смеласць як тапелец за саломінку. Кожная хвіліна вырашала яго лёс* (С. Баранавых. Калі ўзыходзіла сонца).

Паходзіць з прыказкі *Тапелец за саломінку хапаецца.*

**Як у аптэцы.** *Агульны для ўсходнесл. м.* Ужыв. са значэннямі ‘вельмі дакладна’ і ‘вельмі дакладны’. *Не, тут як у аптэцы, на сорак сем капеек і ні паўгроша болей* (М. Лынькоў. Кларнет). — *Я разлічыў: без чвэрці шэсць устаноўка будзе спынена. — Разлік дакладны? — Як у аптэцы* (Л. Нейфах. Мяжа магчымага).

Узнік з параўнальнага звароту, звязанага з вельмі дакладным узважваннем у аптэцы састаўных частак лякарства.

**Як у ваду глядзеў.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* как в воду глядел, *укр.* як у воду дивився). Угадаў, нібы прадбачыў, нібы загадзя ведаў *Яечкаў колькі зберагла. Нібы ведала... Раптам, думаю, госць які з ’явіцца. І на табе, як у ваду глядзела, — з’явіўся* (І.Мележ. Завеі, снежань).

Этымалагічна выраз звязаны з былой верай у чараўніцтва, калі варажбітка, паглядаючы ў пасудзіну з вадой, «угадвала», што было ў чыімсьці жыцці раней, і прарочыла будучы лёс. Вада была нібыта не звычайная, а «жывая». Відаць, фразеалагізм раней меў больш поўную форму *як у жывую ваду глядзеў* а затым вызваліўся ад сэнсаўтваральнага кампанента. У сучаснай мове поўная форма фразеалагізма — рэдкі выпадак: «І во такі спаўняецца маё прароцтва — як у жывую ваду глядзела!..» (А. Карпюк).

**Як у ваду кануў.** *Усходнесл.* Нечакана прапаў, бясследна знік. *Шкода толькі, сынок яго, Казік, сабака кручаны, як у ваду кануў. А па ім асіна даўно плача. Ён самы вараціла* (С. Грахоўскі. Рудабельская рэспубліка).

Паходзіць з параўнальнага звароту пры дзеясловах *прапаў, знік,* які захоўвае свае параўнальныя адносіны і выступае як аднародна-ўдакладняльная адзінка: «Андрэй знік, як у ваду кануў» (Л. Арабей). Ужываючыся без дзеясловаў *знік, прапаў,* выраз набыў цэласнае значэнне. Агульнаславянскае слова *кануў* абазначае тое

ж, што і пазнейшае, утворанае на яго аснове *капнуў,* г. зн. ‘упаў капляй’. Адсюль першапачатковае значэнне параўнальнага звароту — ‘як у ваду ўпаў капляй, бясследна зліўшыся з астатняй вадой’.

**Як укопаны.** *Пайкалька з руск. м.* (как вкопанный). Ужываецца з прыфразеалагічным словам *стаяць* і абазначае ‘нерухома’. *Дзяцей, дзяцей на аселіцу адвядзі... Што стала як укопаная...* (І.Пташнікаў. Тартак).

Этымалагічнай асновай фразеалагізма было пакаранне ў Расіі XVII ст. — закопванне жывых у зямлю. Злачынца, абвінавачанага ў забойстве, ставілі ў яму і закопвалі да самай галавы. У такім стане ён і паміраў на другі ці трэці дзень. Узнікшы са свабоднага словазлучэння *як укопаны ў зямлю,* фразеалагізм скараціўся. Яго першапачатковая вобразнасць даўно ўжо пацьмянела, а таму спараджае іншыя асацыяцыі (напрыклад, у паэме «Адплата» Я. Коласа:*...стаіць, нібы ўкопаны слуп).*

*У даўгу* **як у шаўку.** *Пайкалька з руск. м.* (в долгу как в шелку). Звыш усякай меры. *Далікатны намёк на мой доўг закрануў мяне за жывое. Нядобра, калі чалавек у даўгу як у шаўку* (А. Якімовіч. З франтавых запісаў).

У гэтым рыфмаваным комплексе (спалучэнне + фразеалагізм) наўрад ці варта шукаць якія-небудзь лексіка-семантычныя і лагічна-сінтаксічныя сувязі, апрача падгонкі пад гукавую сіметрыю гэтых дзвюх з’яў, у пэўнай ступені як бы супрацьпастаўленых: «непрыемнае» *(у даўгу)* і «прыемнае» *(як у шаўку).* Такіх рыфмаваных комплексаў, непадзельных і марфалагічна нязменных, шмат: турбот *повен рот,* муж *аб’еўся груш,* з’явіўся *не запыліўся, не купіш* за кукіш і інш. Фразеалагізм *як у шаўку* выкарыстоўваецца і ў форме *як у шаўках*, калі гэтага вымагае папярэдняе спалучэнне *ў даўгах*: «Вечна Васіль рублі лічыць, у даўгах як у шаўках» (І.Капыловіч).

*Круціцца* **як уюн на гарачай патэльні (скаварадзе).** *Уласна бел.* Бесперастанку і не знаходзячы выйсця з цяжкіх абставін. *А ты ж не ведаеш, што няшчасце ўбіла мяне і на кароўнік. Як уюн на гарачай скаварадзе буду круціцца...*(П.Місько. Градабой).

Узнікшы як параўнальны зварот, выраз ужываецца з абавязковым дзеясловам-суправаджальнікам *круціцца,* у якім адначасова суіснуюць два значэнні: зыходнае і адзіна лагічнае ў дачыненні да ўюна ‘рухацца, звіваючыся, скручваючыся’ і яшчэ якое-небудзь са значэнняў гэтага мнагазначнага слова (‘быць у пастаянным клопаце’, ‘выкручваючыся, хітрыць’ і інш.).

**Як фенікс з попелу.** *Пайкалька з ням, м.* (wie Phönix aus der Asche). Ужыв. як сімвал неўміручасці, вечнага абнаўлення, адраджэння. *Як фенікс з попелаў* [вольны дух] *узносіцца з канаў, на дно якіх яго спіхаюць цемраў зверы* (Я. Купала. Чаму?).

Склаўся на аснове міфа, які ўзнік у старажытнай Аравіі і быў вядомы таксама егіпцянам і грэкам. Паводле міфа, свяшчэнная птушка фенікс, арол з вогненна-залацістым апярэннем, праз кожныя пяцьсот гадоў прылятае ў егіпецкі храм бога сонца, дзе яе спальваюць і яна зноў адраджаецца з попелу.

**Як чорт ад ладану.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* как черт от ладана, *укр,* як чорт від ладану). Усімі сродкамі, як толькі можна (пазбаўляцца, адмахвацца, уцякаць і пад. ад каго-, чаго-н.). [Гурман] *на просты харч глядзець не можа нават — іблізка не паднось! Як чорт ад адану ён верне нос…* (Э. Валасевіч. Гурман).

Этымалагічная аснова фразеалагізма тая самая, што і ў выразе *як чорт ладану* (гл.).

**Як чорт ладану.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* как черт ладана, *укр.* як чорт ладану). Вельмі моцна (баяцца каго-, чаго-н.). *Чыноўнік той, у каго з 'яўляюцца… зноў паўтараю… нават не думкі, думак ён баіцца як чорт ладану, а перажыванні, эмоцыі мешчаніна* (І.Шамякін. Атланты і карыятыды).

Паходзіць з параўнальнага звароту, у аснове якога рэлігійныя ўяўленні: чорт спакушае ка благія ўчынкі і баіцца толькі крыжа і ладану — духмянай смалы для абкурвання ў царкве пры набажэнстве.

**Як чорт панёс** *каго, што. Уласна бел.* Хто-н. ці што-н. вельмі хутка памчаўся (памчалася). *Каровы рванулі праз сенажаць да рэчкі: мучыць смага, бо паспелі нахапацца хутаранцавай канюшыны, а цяляты — тых як чорт панёс* (Ф. Янкоўскі. Сны мае).

Паходзіць з прыказкі *Баба з калёс, а калёсы як чорт панёс.* «Абломак» прыказкі ўпершыню як фразеалагізм ужыты ў байцы К. Крапівы «Дзед і Баба» (1925), сюжэт якой пабудаваны на аснове гэтай прыказкі з выкарыстакнем яе вобразнасці і асобных элементаў: *Потым — гоп яна з калёс, села ля дарогі, а каня як чорт панёс, — дзе ўзяліся й ногі!*

**Як швед пад Палтавай.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* как швед под Полтавой, *укр.* як швед під Полтавою). Зусім, канчаткова (прапасці, праваліцца і пад.). *Ну, Мікола, лічы, прапаў ты цяпер як швед пад Палтавай…* (А. Махнач. За вушка ды на сонейка).

Паходзіць ад гістарычнай падзеі — бітвы паміж расійскімі і шведскімі войскамі, якая была 27 чэрвеня 1709 г. пад Палтавай і закончылася перамогай над шведамі. Фразеалагізм выкарыстаны ў камедыі В. Дуніна-Марцінкевіча «Пінская шляхта», фіксуецца ў «Зборніку беларускіх прыказак» І.І.Насовіча (са значэннем 'кажуць пра таго, хто прайграўся ці прапіў сваю маёмасць').

**Як (што) босаму разуцца**. *Уласна бел.* Вельмі лёгка, проста, не складае ніякіх цяжкасцей (зрабіць што-н.). *Ды якая там,*

*здавалася, небяспека, жылка тоненькая, смеху варта, у вадзе і не бачна яе, парваць яе* [карпу] *такую што босаму разуцца* (В. Казько. Цвіце на Палессі груша).

У аснове фразеалагізма — нерэальны вобраз, сумяшчэнне несумяшчальных паняццяў.

**Як (што) костка ў горле** *каму. Уласна бел.* Вялікая перашкода для каго-н., тое, што дапякае каму-н. *Стаяў тады ў Крайску паліцэйскі гарнізон. Быў ён нам і вілейскім партызанам што костка ў горле* (М. Вышынскі. Па вясну).

Склаўся, відаць, на аснове дзеяслоўнага фразеалагізма *стаць косткай у горле* (каму, каго), які абазначае ‘вельмі перашкаджаць, выклікаючы ў каго-н. неспакой, хваляванне, раздражненне і пад.’.

**Як (што) сабаку муха** *для каго, каму. Агульны для бел. і ўкр.* (як собаці муха) *м.* Нічога не значыць для каго-н., зусім не дастаткова каму-н. (пра ежу, пітво). *Тая ўчарашняя шклянка самаробкі для Нагніля як сабаку муха* (І.Канановіч. Старыя званы).

Паходзіць з параўнальнага звароту, у аснове якога вынік назіранняў за паводзінамі сабакі: ён у летні час, лежачы каля будкі, як бы між іншым, імгненна хапае пралятаючую побач муху, хоць для яго гэта занадта мізэрны наедак. Параўн.: «Рэкс, які на ланцугу… толькі сярдзіта, нягучна пагаўквае на камароў, на ляту хапаючы ды чаўкаючы іх. Гаворыцца: „як сабаку муха“. А тут яшчэ меншая назола» (Я. Брыль).

**Як (што) шыла ў мяшку.** *Агульны для бел. і руск.* (шило в мешке) *м.* Што-н. відавочнае, яўнае, якое нельга ўтаіць, схаваць. *Любая, нават мізэрная радасць што шыла ў мяшку. Ну паспрабуй яе схаваць!* (П. Палітыка. Свой хлопец).

Паходзіць з прыказкі *Шыла ў мяшку не схаваем,* сэнс якой ‘немагчыма ўтаіць тое, што само сябе выдае’.

**Як шчыгрынавая скура.** *Агульны для ўсходнесл. м. (руск.* как шагреневая кожа, *укр.* як шагренева шкірка). Прыкметна, адчувальна (скарачацца, звужацца, меншаць і пад.). *Чаму настаўніцкі заробак увесь час сціскаецца як шчыгрынавая скура?* (А. Куліцкі. Фількава грамата).

Паходзіць, хутчэй за ўсё, ад назвы рамана «Шчыгрынавая скура» (1831) Бальзака. Параўн.: «Скукожылася, скурчылася, усохлася савецхая імперыя, як славутая шчыгрынавая скура Анарэ дэ Бальзака» (У. Крукоўскі).

## ВЫКАРЫСТАНАЯ ЛІТАРАТУРА


Аксамітаў А. С. Беларуская фразеалогія. Мн., 1978.

Альперин А. Почему мы так говорим. Барнаул, 1956.

Ашукин Н. С., Ашукина М. Г. Крылатые слова. М., 1966.

Бабкин А. М. Лексикографическая разработка русской фразеологии. М.; Л., 1964.

Бабкин А. М. Русская фразеология, ее развитие и источники. Л., 1970.

Бирих А. К., Мокиенко В. М., Степанова Л. Н. Словарь русской фразеологии: Историко-этимологический справочник. СПб., 1998.

Богданович А. Е. Пережитки древнего миросозерцания у белорусов. Гродно, 1895.

Ботвинник М. Г., Коган М. А., Рабинович М. Б., Селецкий Б. П. Мифологический словарь. Л., 1961.

Булатов М. Крылатые слова. М, 1958.

Вартаньян Э. Из жизни слов. М, 1973.

Гвоздарев Ю. А. Рассказы о русской фразеологии. М, 1988.

Жуков В. П., Жуков А. В. Школьный фразеологический словарь русского языка. М, 1989.

Жуков В. П. Русская фразеология. М., 1986.

Иллюстров Н. Н. Жизнь русского народа в его пословицах и поговорках. М., 1915.

Коваль А. П., Коптилов В. В. Крилаті вислови в українській літературній мові. Київ, 1975.

Коваль А. П. Слово про слово. Київ, 1986.

Колиберская Н. О. О фразеологических кальках с английского в русском языке // Русск. яз. в школе. 1980. № 6.

Колкер Б. Г. Французские фразеологические кальки в русском языке // Русск. яз. в школе. 1968. № 3.

Ляцкий Е. А. Материалы для изучения творчества и быта белорусов. М., 1898.

Максимов С. Крылатые слова. М., 1955.

Медведев Ф. П. Українська фразеологія. Чому ми так говоримо. Харків, 1978.

Михельсон М. Н. Русская мысль и речь. Свое и чужое. Опыт русской фразеологии. Т. 1, 2. СПб., 1903–1904.

Мокиенко В. М. В глубь поговорки. М., 1975.

Мокиенко В. М. Славянская фразеология. М, 1980.

Мокиенко В. М. Образы русской речи. Л., 1986.

Носович И. И. Словарь белорусского наречия. СПб., 1870.

Носович И. И. Сборник белорусских пословиц // Сборник Отделения русск. яз. и словесности Императ. АН. Т. 12. № 2. СПб., 1874.

Овруцкий Н. О. Крылатые латинские изречения в литературе. Киев, 1964.

Романов Е. Белорусский сборник. Губерния Могилевская. Т. 1. Вып. 1 и 2. Киев, 1885.

Сидоренко М. И. Парадигматическне отношения фразеологических единиц в современном русском языке. Л., 1982.

Скрипник Л. Г. Фразеологія українськoї мови. Київ, 1973.

Солодуб Ю. П. Путешествие в мир фразеологии. М, 1981.

Солодуб Ю. П. Русская фразеология как обьект сопоставительного структурно-типологического исследования. М., 1985.

Солодухо Э. М. Вопросы сопоставительного изучения заимствованной фразеологии. Изд-во Казанск. ун-та, 1977.

Солодухо Э. М. Проблемы интернационализации фразеологии. — Изд-во Казанск. ун-та, 1982.

Толстой Н. И. К реконструкции праславянской фразеологии // Славянское языкознание. VII Международный съезд славистов. М., 1973.

Ужченко В. Д. Народження і життя фразеологізму. Київ, 1988.

Уразов И. Почему мы так говорим // Библиотека «Огонек». 1956. № 25.

Уразов И. Почему мы так говорим // Библиотека «Огонек». 1962. № 47.

Шанский Н. М., Зимин В. Н., Филиппов А. В. Опыт этимологического словаря русской фразеологии. М, 1987.

Шанский Н. М. Фразеология современного русского языка. М., 1969.

Шанский Н. М. В мире слов. М., 1971.

Янкоўскі Ф. Беларуская фразеалогія. Фразеалагізмы, іх значэнне, ужыванне. Мн., 1968.

Янкоўскі Ф. Беларуская мова. Мн., 1976.

Federowski M. Lud białoruski na Rusi Litewskiej. T. 4. Warszawa, 1935.

Выкарыстоўваліся і іншыя крыніцы. Сярод іх найперш разнастайныя слоўнікі славянскіх, германскіх і раманскіх моў а таксама Біблія.

**Лепешаў І.Я.**

Л 48 Этымалагічны слоўнік фразеалагізмаў / І.Я. Лепешаў. — Мн.: БелЭн, 2004. — 448 с.

ISBN 985-11-0287-3.

У слоўніку раскрываецца гісторыя і паходжанне каля 1750 фразеалагізмаў сучаснай беларускай літаратурнай мовы, паказваецца сувязь іх сучаснага і першапачатковага, этымалагічнага значэння, жыццё фразеалагізмаў у часе і прасторы. Тут аб'яднаны раней апублікаваныя пад такой жа назвай выдавецтвам «Народная асвета» (1981,1993) дзве часткі слоўніка, а таксама новыя гістарычна-этымалагічныя даведкі да больш як 400 фразеалагізмаў.

*УДК 808.26 (091) (038)*
*ББК 81.2*
*(4Беи)*

Лепешаў Іван Якаўлевіч
ЭТЫМАЛАГІЧНЫ СЛОЎНІК ФРАЗЕАЛАГІЗМАЎ
Рэдакцыйная падрыхтоўка выдання: *Е. П. Фешчанка* Мастацкі рэдактар: *У. М. Жук* Тэхнічны рэдактар: *М.І.Грыневіч*
Карэктары: *Л. А. Варабей, Г. Т. Глушчанка, В. А. Кульбіцкая, В. М. Лапцева, В. М. Чудакова*
Камп'ютэрная падрыхтоўка выдання: *С. В. Вераценнікава, С. А. Макаёнак*
Падпісана да друку 22.1.2004. Фармат 84Х1081/32. Гарнітура Таймс. Папера газетная. Друк высокі. Ум. друк. арк. 23,52. Ум. фарб. — адб. 23,94. Ул. — выд. арк. 28,42. Тыраж 2000 экз. Заказ 207.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва „Беларуская Энцыклапедыя“ імя Петруся Броўкі» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Ліцэнзія ЛВ № 10 ад 30.12.2002. Рэспубліка Беларусь. 220072, Мінск, Акадэмічная, 15а.

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў Адкрытым акцыянерным таварыстве «Паліграфкамбінат імя Я. Коласа». Рэспубліка Беларусь. 220600, Мінск, Чырвоная, 23.